# Цырымонія пахаваньня **Кастуся Каліноўскага** і паўстанцаў 1863–1864 гадоў у Вільні, 22 лістапада 2019 году



Беларускія ўдзельнікі перад Катэдральным саборам

Вайскоўцы пераносяць труны К. Каліноўскага і З. Серакоўскага ў Катэдральны сабор





Пачынаецца грамадзкае разьвітаньне з паўстанцамі

Разьвітальная працэсія каля трунаў паўстанцаў у Катэдры





Беларусы ў чарзе да Каліноўскага

Касінеры каля ўваходу ў Катэдру. Рэканструкцыя





Станіслаў Шушкевіч на разьвітаньні з паўстанцамі

Літоўскі прэзыдэнт Гітанас Наўседа на прыступках Катэдры вітае свайго польскага калегу Анджэя Дуду





Кіраўнікі Рады БНР Мікола Пачкаеў, Івонка Сурвіла і Сяргей Навумчык

Дэлегацыя РБ на чале зь віцэ-прэм’ерам Ігарам Петрышэнкам






Беларусы глядзяць і слухаюць сьвятую імшу на вялікім экране

Палітык Аляксей Янукевіч з плякатам





Фармуецца беларуская калёна

Выступ мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча беларусы сустракаюць воклічам «Жыве Беларусь!»





Перад вынасам трунаў з Катэдры

Труна з парэшткамі Кастуся Каліноўскага





Ганаровая варта выносіць труны паўстанцаў з Катэдры

Ляфэт з трунамі кіраўнікоў паўстаньня





За трунамі ідуць афіцыйныя дэлегацыі

Так выглядае вянок ад афіцыйнай дэлегацыі РБ





Ідуць духоўныя асобы

Шэсьце запаўняе сабою Вастрабрамскую вуліцу





Галава калёны

Парэшткі 18 паўстанцаў вязуць на катафалках





На падыходзе да Росаў труны нясуць на плячах

На пярэднім пляне труна Якуба Чэхана, жаўнера, які перайшоў на бок паўстанцаў





Афіцыйныя асобы назіраюць працэсію з адмысловага павільёна

Тысячы людзей на пагорках вакол могілак






Цырымонія набліжаецца да кульмінацыі, а канца калёне беларусаў з нацыянальнымі сьцягамі не відаць

Капліца, у якой будуць пахаваныя паўстанцы





Адмысловыя нішы, у якіх будуць захоўвацца труны герояў

Набажэнства ў капліцы, якое беларусы назіралі на вялікім экране, скончылася. Засталася ганаровая варта зь літоўскіх і польскіх скаўтаў





Пасьля афіцыйных урачыстасьцяў доступ у капліцу адкрыты для ўсіх прысутных

Беларускія паломнікі на могілках Росы





Беларусы разьвітваюцца з каліноўцамі

Начное беларускае шэсьце па вуліцах Вільні

**Каліноўскі на Свабодзе.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2020. – 830 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Укладальнік і рэдактар *Сяргей Дубавец*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Тэма Кастуся Каліноўскага на Радыё Свабода за 20 гадоў з рэдкіх кропель ператварылася ў магутную раку. Гэтаму спрыялі малыя і вялікія падзеі вакол імя героя і ягоных паплечнікаў, рэакцыя ўладаў, пошукі месца Каліноўскага і ягонага паўстаньня ў беларускай гісторыі. Навіны, блогі, інтэрвію, дыскусіі, архіўныя знаходкі, канцэптуальныя эсэ — усё гэта склалася ў храналёгію, дзе аўтарскія матэрыялы перамяжоўваюцца з інфармацыйнымі, падрыхтаванымі службай навінаў Радыё Свабода.

У кнізе скарыстаныя фатаздымкі Ўладзя Грыдзіна і Андрэя Шаўлюгі.


FOL

ISBN 978-0-929849-75-1

# Зьмест

## Што пачынаецца, калі канчаецца ўсё

Здымуць зь пятлі, скінуць у яму, заліюць вапнай, засыплюць жвірам, здратуюць, забудуць, успомняць, паставяць крыж, зьнясуць, зноў забудуць і ня схочуць успамінаць, але не дадуць рады, калі ён паўстане. І тады ачуняюць, жахнуцца, заплачуць, памоляцца, ушануюць, усьцешацца, каб ужо не забыцца ніколі.
А сам ён — ён стане сваёй краінай.
Намі.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## Паўстаньне працягваецца

29 кастрычніка 2001 году на Радыё Свабода выйшла ў эфір перадача, а на сайце зьявіўся тэкст зь лякацінічнай назвай „Магіла К. Каліноўскага“. Такім чынам упершыню з даваеннага часу была ўзьнятая тэма апошняга прыстанку кіраўніка паўстаньня 1863–1864 гадоў і яго паплечнікаў на віленскай Замкавай гары.

„Годны фінал 150-гадовай трагедыі. Як у Вільні разьвіталіся з Каліноўскім і яго паплечнікамі“ — так называўся выніковы рэпартаж Радыё Свабода, які выйшаў у сьвет 22 лістапада 2019-га — у дзень, калі пры масавым наплыве беларускіх паломнікаў літоўскі ўрад правёў на дзяржаўным узроўні ўрачыстае пахаваньне паўстанцаў. Цягам 8 гадзінаў мы трансьлявалі цырымонію ў жывым відэаэфіры.

Паміж гэтымі публікацыямі — амаль 20 гадоў падзеяў, жарсьцяў, спрэчак, заяваў, адкрыцьцяў, зьвязаных зь імем Кастуся Каліноўскага. Сотні навінаў, дзясяткі інтэрвію, блогаў — цэлы вір жывога жыцьця вакол даўно памерлага героя, што не дае беларусам як нацыі спакойна разьвітацца са сваёй мовай, незалежнасьцю, мітамі, і проста зьнікнуць, растаць у іншых народах і спажывецкай рэчаіснасьці. З аднаго боку „русский мир“ атакуе постаць Каліноўскага, узносячы на сьцягі партрэт ягонага ка́та графа Мураўёва. Зь іншага — сотні неабыякавых грамадзян, навукоўцаў, мастакоў, пісьменьнікаў нагадваюць публіцы пра галоўныя запаветы

героя і ўшаноўваюць памяць яго і ягоных паплечнікаў-паўстанцаў. З трэцяга боку ўлада Рэспублікі Беларусь, якая мітусіцца паміж Каліноўскім і Мураўёвым, патрабуючы „не палітызаваць“ тэму. А як можна не палітызаваць галоўнага палітычнага героя беларусаў? Свае погляды на паўстаньне выказваюць у Польшчы, свае дыскусіі ў Літве…

Кожны год па ўсёй Беларусі вялікімі і малымі ўчынкамі актывісты ўшаноўваюць памяць паўстанцаў, нібы працягваюць іхны чын. І кожны год улада адказвае на гэта арыштамі і штрафамі. Успыхваюць малыя і вялікія сутычкі і бітвы паміж навукоўцамі, палітыкамі, ідэолягамі, нібы паўстаньне працягваецца, бо мэты яго да канца не дасягнутыя.

Урэшце сама прырода не вытрымлівае ўсяго гэтага напору. Нібы сам Каліноўскі вырашае ўмяшацца ў трактоўкі свайго паўстаньня і свайго вобразу. Замкавая гара ў Вільні абрынаецца, парэшткі героя і ягоных таварышаў выходзяць з магілы на сьвет белы, каб зноў і зноў нашчадкі паўтарылі галоўную тэзу ягонай палітычнай праграмы: „Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ ня будзе“.

У кнізе „Каліноўскі на Свабодзе“ мы сабралі ў храналягічным парадку найбольш значныя публікацыі за гэтыя без малога 20 гадоў.

*Сяргей Дубавец*

## Магіла К. Каліноўскага

29 кастрычніка 2001
Сяргей Дубавец

Некалі магіла Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў была ўвянчаная мэмарыялам, сюды прыходзілі тысячы людзей з кветкамі і самымі шчырымі патрыятычнымі пачуцьцямі. Пасьля мэмарыял зьнесьлі, і паломніцтва напалоханых рэпрэсіямі людзей спынілася.

Ужо ніхто не прыходзіў на гэтае спустошанае месца ў самым цэнтры старажытнага гораду...

Пасьля таго, як кіраўнік антырасейскага паўстаньня 26-гадовы Кастусь Каліноўскі быў схоплены на кансьпіратыўнай кватэры ў Вільні, яго пасадзілі ў Дамініканскі кляштар, дзе тады была зробленая турма. 10 сакавіка яго прывялі на Лукішкі — знаматы віленскі пляц. Тут Каліноўскага як „дзяржаўнага злачынца“ павесілі. Пасьля гэтага цела яго апынулася ў братняй магіле на тэрыторыі вайсковага гарнізону на вядомай усім Замкавай гары (званай таксама гарой Гедзіміна). Там ужо даўно няма ані знаку, аднак месца вядомае дакладна. У паўстанцкай магілы — свая драматычная гісторыя. Помнік на ёй то зьяўляўся, то зьнікаў, у залежнасьці ад улады і ідэалёгіі. А ўлады і ідэалёгіі ў Вільні зьмяняліся шмат разоў.

У беларускай літаратуры зьвестак пра магілу Каліноўскага амаль няма. А тыя, што ёсьць, неканкрэтныя і нібы не зусім абавязковыя.

Магчыма, самае першае сьведчаньне — яшчэ даваеннае. 16 чэрвеня 1939 году Максім Танк робіць у сваім дзёньніку наступны запіс:

„Наведаў сваіх літоўскіх сяброў на Антокалі. Вяртаўся ад іх увечары. Не было куды сьпяшацца. Я ўзышоў на Замкавую гару... Каля магілы паўстанцаў 1863 году — група турыстаў. Пад крыжам — цярновы, зроблены з дрэва, вянок“.

Нічога больш дакладнага няма і ў спэцыялістаў-гісторыкаў. Генадзь Кісялёў у кнізе „Радаводнае дрэва“ з падзагалоўкам „Каліноўскі — эпоха — наступнікі“ піша:

„Гісторыкі лічаць, што астанкі Каліноўскага, як і іншых змагароў, павешаных і расстраляных у Вільні ў 1863 годзе, пахаваны на вяршыні гары Гедзіміна“.

Пры гэтым Кісялёў спасылаецца на словы, узятыя з колішняга эсэ пра Вільню Ўладзімера Караткевіча:

„10 сакавіка 1964 году, калі споўнілася сто гадоў, як пакаралі сьмерцю Кастуся Каліноўскага, я яшчэ ў прыцемках прайшоў увесь яго шлях: ад Дамініканскіх муроў да Лукішак, дзе ля сьцен кляштара сьв. Якуба стаяла шыбеніца.

А пасьля таксама пехатою пайшоў на месца, дзе хавалі павешаных (на тэрыторыі тагачаснай цытадэлі), падняўся на гару Гедзіміна. Я ня ведаў, дзе там ляжаць яго косьці, але сеў пасядзець і бачыў, як над горадам абуджаецца ранак“.

Вось, бадай, і ўсё, што напісана ў нашай літаратуры пра магілу нацыянальнага героя нумар адзін. Гэта значыць, амаль нічога. І не таму, што магілы няма, або што яна недаступная, або што невядомае яе дакладнае месца. Усё ёсьць і ўсё вядомае. Але незапатрабаванае.

Працытаваўшы Караткевіча, мушу зрабіць адно істотнае ўдакладненьне. Шыбеніца, на якой павесілі кіраўніка паўстаньня, стаяла не каля сьцен кляштара сьв. Якуба, а роўна на супрацьлеглым баку пляцу, паміж будынкамі былога КГБ, дзе цяпер музэй генацыду, і кансэрваторыі. Тут пачынаецца вуліца Ахвярная і стаіць цяпер літоўскі помнічак ахвярам савецкіх рэпрэсіяў. Акурат на месцы помніка і была тая шыбеніца. Акурат тут і былі прамоўленыя апошнія словы Каліноўскага: „У нас няма дваран. Усе роўныя“. У міжваенным часе тут быў памятны знак з таблічай па-польску — у гонар паўстанцаў 1863 году. Пасьля на плошчы зьявіўся помнік Леніну. Але Ленін ня мог паказваць рукою на месца колішніх мураўёўскіх экзэкуцыяў, і табліцу перанесьлі Леніну за сьпіну, на супрацьлеглы бок пляцу, пад кляштар сьвятога Якуба, дзе яе і пабачыў Караткевіч.

Аднак рушым да галоўнае мэты нашага падарожжа — туды, дзе славуты Вітажэнец быў пахаваны пасьля павешаньня. Высьветліць усё, што толькі магчыма, пра тое месца ўзяўся мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі.

**Харэўскі**: Гэтую магілу ў Вільні калісьці добра ведалі ўсе. Так было перад вайною. Манумэнт над пахаваньнем паўстанцаў 1863 году зьбіраў да сябе турыстаў і пілігрымаў. Але сёньня, колькі б мы ні кружлялі па Замкавай гары, ня знойдзем тут ані знаку. Між тым, пахаваньне ёсьць. І старыя віленчукі дакладна паказваюць на ягонае месца.

Першай справаю я патэлефанаваў у сам Верхні Замак, у музэй, што месьціцца ў знакамітай Гедзімінавай вежы. Там чамусьці спужаліся, а пасьля пачалі запэўніваць, што ніякай магілы паўстанцаў

на гары быць не магло. І ніхто з супрацоўнікаў музэю нічога нават ня чуў. Але параілі зьвярнуцца да загадчыка гістарычнага аддзелу Нацыянальнага музэю Літоўскай Рэспублікі Тадаса Шэмы. Ягоны кабінэт акурат пад гарою.

Спадар Шэма быў надзвычай зьдзіўлены й разгублены. І ён нічога ня ведае.

Заставалася кволая надзея, што пра мэмарыял распавядзе найстарэйшы мастацтвазнаўца Літвы Рамуальдас Будрыс, які ачольвае Нацыянальны мастацкі музэй. Я ўжо ведаў, што крыж над паўстанцкай магілаю вырабіў адзін з самых значных віленскіх скульптараў пачатку XX ст. Антон Вівульскі. Аднак і спадар Будрыс катэгарычна асьпрэчыў, што на гары была нейкая магіла. Словам, выходзіла так, што пра агульнавядомы да вайны гарадзкі помнік сёньня ня ведаюць нават спэцыялісты. Чаму?

Па параду я зьвярнуўся да найбольш аўтарытэтнага ў Літве дасьледчыка паўстаньня Каліноўскага, гісторыка й журналіста Ўладзіслава Бікуліча. Спадар Бікуліч — аўтар манаграфіі „Рэвалюцыйныя арганізацыі ў Беларусі й Літве ў 1863 годзе“, а ў 1963-м паводле ягонага сцэнару ў Менску на „Беларусьфільме“ быў зьняты дакумэнтальны фільм „Кастусь Каліноўскі“. З размовы са спадаром Бікулічам стала ведама вось што...

За часоў паўстаньня 1863 году расейскія акупацыйныя ўлады на чале з графам Мураўёвым баяліся паўтарыць сваю памылку 1839 году, калі яны пасьля экзэкуцыі аддалі цела расстралянага імі паўстанца Сымона Канарскага віленчукам. Магіла Канарскага адразу стала месцам паломніцтва і ўся патанала ў жывых кветках і сьвечках. А зь ягоных кайданоў

патрыёты парабілі сабе „чорную біжутэрыю“ — пярсьцёнкі й бранзалеты.

Целы пакараных сьмерцю паўстанцаў 1863 году, у тым ліку Каліноўскага, Серакоўскага ды іншых, вырашана было хаваць патаемна. Пасьля страты на шыбеніцы іх звозілі на Замкавую гару, дзе тады стаяў расейскі гарнізон. Тут іх і закопвалі пад старадаўнімі мурамі, у братняй магіле. Увесь час магілу вартавалі маскалі, і ніводзін цывільны віленчук цягам паўстагодзьдзя ня меў права туды зайсьці. Больш за тое, расейцы зрабілі на магіле паўстанцаў пляцоўку для гульні ў крыкет, пра што сьведчаць тагачасныя фатаздымкі.

Калі ж у 1915 годзе расейцы пакінулі Вільню, дык тутэйшая грамадзкасьць пачала пошук славутае магілы. І праўда, археолягам, сярод якіх, верагодна, быў і Іван Луцкевіч, пашчасьціла знайсьці дакладнае месца пахаваньня. Балазе, жывы быў яшчэ дворнік, што працаваў калісь у расейскім форце на гары. Падчас раскопак былі знойдзеныя чалавечыя парэшткі, фрагмэнты паўстанцкіх чамарак, спражкі, абутак.

Самы выбітны тагачасны віленскі дойлід і скульптар Антон Вівульскі вырабіў велізарны адмысловы крыж, у народным кшталце, зь вялікіх брусоў дрэва. 17 жніўня 1917 году яго ўсталявалі на месцы пахаваньня. Але замест расейскіх акупантаў у Вільні цяпер панавалі нямецкія. На загад камэнданта Вільні ў той самы дзень немцы зламалі крыж і закапалі яго тамсама.

Калі ў 1921 годзе Вільня была ўжо пад палякамі, мэмарыял быў адноўлены. Гэтым разам ён складаўся з крыжоў і прыгожай мармуровай табліцы, на якой былі высечаныя імёны паўстанцаў, якія

знайшлі тут свой вечны спачын. Ведама дакладна, што менавіта тут былі пахаваныя, сярод іншых, Кастусь Каліноўскі, Зыгмунт Сёракоўскі, Баляслаў Калышка, ксёндз Станіслаў Ішора. Усяго каля пятнаццаці чалавек. Але й гэтаму мэмарыялу выпаў нядоўгі век. Пасьля таго, як Сталін перадаў Вільню Літве, у 1940 годзе крыжы былі спаленыя, а табліца зьнікла бязь сьледу.

Тым часам віленчукам гэтая гісторыя яшчэ вярэдзіць сэрцы. Да прыкладу, вось што распавёў мне віленскі журналіст і літаратар Войцех Пятровіч:

— У пэўны час над тымі магіламі быў пастаўлены крыж. Крыж быў запраектаваны Антонам Вівульскім. Гэта быў драўляны крыж. Я бачыў яго недзе на здымку і на нейкай карціне намаляваным. Гэта быў цікавы разьбяны крыж, складзены зь некалькіх частак, трохі падобны на жмудзка-літоўскія крыжы. Справа ў тым, што сям'я Вівульскіх паходзіць са Жмудзі. Таму й ён меў пэўна сэнтымэнт да жмудзкіх крыжоў і зрабіў той крыж у такім самым кшталце. Ён стаяў акурат там, дзе цяпер ляжыць камень, прысьвечаны Грунвальдзкай бітве. Пра гэты крыж шырака пісалі перад вайною.

Спадар Пятровіч, у сваю чаргу, параіў мне зьвярнуцца да публіцыста Генрыка Сасноўскага, які працуе ў тутэйшай Фундацыі польскай культуры імя Монтвіла. Кажа спадар Сасноўскі:

— Крыж той зьнішчылі у 1940-м годзе... Калі польскія археолягі вывучалі тыя магілы, дык знайшлі макасіны Каліноўскага й іншыя розныя парэшткі... І Каліноўскі, і Серакоўскі былі пахаваныя менавіта там. Хоць ад часоў Другой сусьветнай вайны там досьледы больш не праводзіліся, але была кніжачка, дзе распавядалася пра тыя знаходкі.

Іх пазналі па ботах, гузіках ды іншых рэчах. Крыж Вівульскага быў з дрэва. У мяне ёсьць яшчэ аўтэнтычны здымак Грыгаровіча з выяваю Замкавай гары з тым крыжам. І здымак той табліцы памятнай маю... Літоўцы ставяцца да гэтай гары як індусы да сьвятой каровы. Маўляў, гэта гара Гедзіміна, і нічога там не павінна болей быць... А перад вайною крыж звалілі, падпалілі... Там цяпер нічога няма. А некалі ж людзі зрабілі там пляцык, у 1923 годзе нават быў маленькі фантанчык, была прыгожая мармуровая табліца з імёнамі пахаваных там герояў.

Ідэя аднавіць мэмарыял над магілаю паўстанцаў раз-пораз узьнікала па вайне. Адзін з маіх суразмоўцаў, спадар Бікуліч, распавядае пра такія спробы. Быў нават эскіз помніка. Хто ж быў аўтарам? Кажа Ўладзіслаў Бікуліч:

— Акадэмік Канстанцінас Богданас. Гэта была ягоная дыплёмная праца, калі ў юнацтве ён канчаў мастацкі інстытут. Я быў ініцыятарам гэтае справы, той-сёй з маладых архівістаў мяне падтрымаў. Але ўлады гэтай справы не падтрымалі. Цяпер гэтая скульптурная кампазыцыя стаіць у Мастацкім музэі. Я сустракаўся з Богданасам. Ён таксама быў зацікаўлены. Скульптура была зробленая ў вельмі традыцыйным, рамантычным кшталце, у духу Антакольскага. Але не падтрымалі...

Уладзіслаў Бікуліч распавёў таксама, што супраць мэмарыялу паўстанцам Каліноўскага на Замкавай гары рэзка выступіў Антанас Жугжда, намесьнік прэзыдэнта літоўскай Акадэміі навук, дырэктар Інстытуту гісторыі. Чаму? — спытаўся я. Кажа спадар Бікуліч:

— На тым месцы стаіць камень, прысьвечаны бітве пад Грунвальдам. Ён гэтак казаў. Іншых ар-

гумэнтаў у яго не было. Мала таго, што вежа стаіць, мала таго, што камень ляжыць, прысьвечаны Грунвальду. Яшчэ адзін помнік ня „ўпішацца“ ў гару. Яшчэ адна вэртыкаль для гары будзе залішняю. Сышліся на тым, што Тры крыжы ёсьць агульным помнікам усім паўстанцам. Справа ў тым, што хавалі паўстанцаў і на Трохкрыжовай гары, там таксама была расейская фартэцыя.

Можна згадзіцца з думкай літоўскіх кіраўнікоў і гісторыкаў, што яшчэ адна вэртыкаль на Замкавай гары была б залішняю. Але навошта вэртыкаль? Проста хапіла б каменя над магілаю, да якога можна было б паставіць сьвечку й прынесьці кветкі. Бо і канкрэтнае месца вядомае, і магіла сапраўдная. А Грунвальдзкі камень, далібог, ня мае аніякага дачыненьня да віленскага Верхняга замку й мог быць пакладзены на любой сьцяжыне пад гарою. Але адно пытаньне я гэтак і ня высьветліў — дзе ж перахоўваюцца цяпер макасіны Каліноўскага? У Вільні, ці можа ў Варшаве? Ці ў Менску?

**Дубавец**: Застаецца сказаць пра тое, чаму над магілай паўстанцаў няма ані знаку. Паўстаньне 1863 году займае вялікае месца і ў літоўскай, і ў польскай гісторыі — гэтаксама як і ў беларускай. Аднак кожны тут дбае пра сваё. У братняй магіле, дзе ляжыць Каліноўскі, нібыта няма этнічных літоўцаў. Для палякаў гэтыя людзі таксама не зусім свае. Цэльнасьць іхнае пальшчызны разбураюць ідэалы ўніяцтва, беларушчыны і сэпаратызму ў дачыненьні да Польскага каралеўства, якія адстойваў Кастусь Каліноўскі. Таму гэта найперш беларуская магіла.

У літоўскіх гісторыкаў памяць выбарачная, што зусім зразумела, калі ведаеш абраны імі мэтад. Літоўцы не спрачаюцца пра тое, быць Літве

ці ня быць. Яны не займаюцца нацыянальным адраджэньнем. Для іх Літва ёсьць, і яна вечная, а таму трэба рабіць яе ўсё больш адназначнай. Так нараджаецца міт краіны. Усё лішняе прыбіраецца. Адна толькі прысутнасьць у Вільні шыльды беларускага першадрукара Скарыны вымагае ад літоўскіх гісторыкаў зашмат тлумачэньняў — што ён тут рабіў. Не хапала яшчэ магілы беларускага нацыянальнага героя — ды дзе? — у сэрцы Вільні, на Гедзімінавай гары. Адкуль гэта ўсё ў літоўскай сталіцы? — задзівіцца турыст. Доўгія тлумачэньні падаюцца непатрэбным марнаваньнем часу.

Беларускія гісторыкі маюць цалкам адваротны мэтад. Як і самі беларусы, што спрачаюцца пра будучыню Беларусі, занепадаюць як нацыя і ўвесь час адраджаюцца. Нашы гісторыкі абсалютызуюць факты. Няхай гэта сто разоў на шкоду нацыянальнай цэльнасьці, яны будуць спрачацца пра так званую гістарычную праўду. У выніку акцэнты аказваюцца зблытанымі, а магілы — забытымі.

Аднак, цяпер гутарка пра іншае.

Кім мусіць быць запатрабаваная магіла Каліноўскага? Пытаньне рытарычнае. Мне думаецца, што не-рытарычна яно сотні разоў гучыць па ўсёй Беларусі на ўроках гісторыі, калі пасьля захапляльнага і страшнаватага расповеду настаўніка пра сьмерць галоўнага беларускага паўстанца або на ўроках літаратуры — пасьля чытаньня шматлікіх твораў пра Каліноўскага, вучань пытаецца ў настаўніка — а дзе пахаваны адважны змагар? У сёньняшняй перадачы мы адказалі на гэтае пытаньне. Вільня, Замкавая гара. На сёлетнія Дзяды там упершыню ў найноўшай гісторыі зьявяцца беларускія сьвечкі.

## Міт пра ляха

12 лютага 2002
Вячаслаў Ракіцкі

У перадачы „Беларуская Атлянтыда“ ўдзельнічае гісторык культуры Вацлаў Арэшка.

**Ракіцкі**: Палякі і беларусы. Стасункі гэтых народаў у мінулым тысячагодзьдзі вагаліся ад варожасьці да братэрства, ад амаль агульнай самаідэнтыфікацыі да ўзаемнай пагарды.

Але ад блізкасьці, ад супольнай гісторыі, часам супольнай культуры ні нам, ні палякам нікуды не схавацца. Нам наканавана жыць з Польшчаю пры адным баку (як і з Расеяй пры іншым) і нават калі ўпарта рабіць выгляд, што гэта ня так — рэчаіснасьць усё роўна верне нас да сябе.

Дык як жа ставіліся ў старасьвецкай Беларусі да Польшчы й палякаў, ці „ляхаў“, як іх часам называлі, укладаючы ў гэтае слова ня вельмі прыязны сэнс?

**Арэшка**: Вызначаючы нашае стаўленьне да палякаў, трэба пачаць з нашага ўласнага самавызначэньня. Адчуць розьніцу між сабою і іншым магчыма толькі тады, калі ведаеш, хто ты ёсьць сам. Нават сёньня адказ на гэтае пытаньне для шмат каго з жыхароў Беларусі не зусім адназначны.

**Ракіцкі**: Асноўная сфэра нашай зацікаўленасьці — гэта „залатая эпоха“: XVII–XVIII стагодзьдзі, беларуская шляхта... А, як вядома, большасьць народу

шляхецкага ідэнтыфікавала сябе тады як літвінаў. На чым палягала гэтая ідэнтыфікацыя?

**Арэшка**: Літвін — гэта й жыхар старадаўняй геаграфічнай Літвы, якая ўключала, збольшага, беларускія землі і, асабліва калі гаворка ідзе пра шляхту, — грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага.

У супольнай польска-літоўскай дзяржаве — Рэчы Паспалітай, якая існавала з 1569 году, вялікалітоўскі патрыятызм быў моцным фактарам і захоўваўся нават у XX стагодзьдзі. Нездарма Адам Міцкевіч пачаў свайго „Пана Тадэвуша“ словамі: „Літва! Мая Айчына! Ты — нібы здароўе...“

Як вядома, літвінскі патрыятызм нярэдка пераходзіў у сэпаратызм, і найбольш вядомым такім сэпаратыстам быў у нашай гісторыі князь Януш Радзівіл, які ў часы вайны з Масквою і швэдзкага патопу спрабаваў з дапамогаю швэдаў ізноў адлучыць ВКЛ ад Кароны. Марыў пра адраджэньне вялікалітоўскай дзяржавы і Кастусь Каліноўскі...

**Ракіцкі**: Але ж тыя самыя літвіны вельмі часта называлі сябе й палякамі...

**Арэшка**: Сапраўды. Польшча для іх была найперш сымбалем агульнай дзяржаўнасьці, часам рэлігійнай, каталіцкай прыналежнасьці, агульнаўжыванай мовы. Вось як лекарка Саламея Пільштынова, народжаная ў Беларусі й падданая нясьвіскага князя Міхала Казімера Радзівіла Рыбанькі, згадвае адну сустрэчу ў Маскові:

„Была ў гэтай карчме адна старая жанчына, якая была зь Вільні, зь Літвы, і падчас нейкае разрухі маскоўскае трапіла ў маскоўскую няволю, і нейкім чынам стала служыць у гэтай карчме. Яна зразумела, што я полька, бо чула, як я са сваімі людзьмі па-польску размаўляла...“

**Ракіцкі**: Гэтак жа Саламея Пільштынова прадстаўляецца маскоўскай царыцы:

„І стала я перад яе мосьцю царыцаю Ганнай Іяанаўнай. Яна ласкава дала мне пацалаваць руку й запыталася, адкуль я. Кажу: «Полька»... “

Такім чынам, па-за межамі радзімы літвін звычайна ператвараўся ў паляка?

**Арэшка**: Так, але ва ўнутраных справах адрознасьць інтарэсаў і нават варожасьць была вельмі выразнаю. Немец Вільгельм Шлемюлер, прыехаўшы ў 1752 годзе ў Горадню, запісаў у сваім „Дзёньніку падарожжа“: „Амаль заўсёды і пры кожным выпадку даецца заўважыць спаборніцтва паміж палякамі й літвінамі“.

Мелася на ўвазе і палітычнае суперніцтва, і стасункі на звычайным, пабытовым узроўні. А найбольш выразную фармулёўку гэткіх адносінаў уклаў у вусны князя Караля Радзівіла Пане Каханку Генрык Жавускі:

„— Пане каханку, бачыце гэты мой шкаплер? Дык я яго ў спадчыну маю, па продках сваіх. Яго яшчэ мой пратапласта, Ліздэйка, насіў… Сіротка зь ім да Бэтлеему хадзіў. Ён такі вялікі, бо зашытая ў ім вунія Літвы з Каронаю. Я люблю Карону, пане каханку, але няма, як наша Літва. Я і ў Кароне маю кавалак зямлі, але д’ябал бы там сядзеў. Там прасьцей кушнера знайсьці, чым даяжджачага. Мы тут мядзьведзі б’ем, а там з разьездам на перапёлкі палююць. У каронных суслік, гэта буйная зьвярына.

Дык, пане, як пачаў мяне перасьледаваць князь біскуп віленскі, ужо з роспачы хацеў я да Кароны зьехаць. І мне там інтратнае абацтва давалі, за тое, што вершы прыгожа пішу. Ужо быў асеў на Русі, але калі пачаў маліцца Пану Езусу ў Барэмлі, Ён да мяне

азваўся: «Радзівіле, вяртайся ў Літву, бо тут нічога не даб'есься, тут шляхоцтва сьмярдзючае. Ostende patrem patris — "пакажы бацьку бацькавага" — то вялікая філязофія ў шляхты кароннай, ня гэтак, як у нас у Літве, дзе ад продкаў кожны на сваім грунце сядзіць (бо ведаеш — мая прабабка была Ліцьвінкаю). Вяртайся, Радзівіле, на Літву і кланяйся ад мяне навагародзкай шляхце»".

**Ракіцкі**: Бачым, што каронная шляхта, палякі, успрымаюцца літвінамі як слабыя, баязьлівыя, нерадавітыя. Што ж апроч гэтага выклікала няпрыязь да „ляхаў"?

**Арэшка**: Для шляхты і магнатэрыі ВКЛ доўга актуальнымі былі шматлікія палітычныя крыўды ад Кароны: гэта і захоп украінскіх тэрыторыяў, і тое, што польскія эліты грэбавалі інтарэсамі Княства. Недалюблівалі палякаў за пыху, за срэбралюбства, за падкрэсліваньне сваёй, часам сумнеўнай, „заходнецывілізацыйнасьці".

Культурная рознасьць, рознасьць нацыянальных характараў асабліва адчувалася ў XVI–XVII стагодзьдзях. Сатырычны твор пачатку XVII стагодзьдзя „Прамова Мялешкі" выразна паказвае гэта:

„Але Жыгімонт першы, — салодкая памяць яго, той немцаў, як сабак, не любіў і ляхаў зь іх хітрасьцю вельмі не любіў, а Літву і Русь нашу любіцельна мілаваў.

І то міласьцівыя панове, не малая шкода, што слугі хаваемо ляхі. Давай жа ему сукню хваленды-шавую, кармі ж яго сластно, а зь іх службы не пытай. І только ўбраўшыся на высокіх падковах да дзевак дыбле і ходзіць зь вялікага куфля трубіць. Ты, пане, за стол, а слуга лях на покутніку штуку мяса. Ты за фляшу, а ён за другую, а колі слаба дзержыш, то ён

і з рук вырвець. Толькі пілнуець: скоро ты з дому, то ён маўчком прыласкаецца да жонкі... І такога чартапалоха зь немцамі выгнаці, што до нас влезьлі праціўка нашаму. Ад іх міласьцей паноў ляхаў, гінуць старые нашые паклоны смаленскіе!“

**Ракіцкі**: Цікава, што нягледзячы на амаль паўсюднае панаваньне пальшчызны, падставай для непаразуменьня паміж палякамі й літвінамі маглі стаць нават моўныя праблемы. Жавускі ў гутарцы „Люблінскі сойм“ прыводзіць такую тыповую сцэнку:

„... Ах, бачу я пана Барталамея, які сядзіць на камені, як я яго пакінуў, а пры ім усе тыя паны, якіх застаў я ў карчме. Сталі яны колам пры ім, а ён на іх паглядае нядбайна, як разявака. Я ўжо адчуваю, што быць непрыемнасьцям. Наблізіўся да яго, а ён да мяне, з наіўнаю мінаю:

— Пане Севярыне, дабрадзею, штосьці тыя панове да мяне мовяць караняжаўскаю моваю, а я іх не ва ўсім разумею...

... Дык я ім кажу:

— Панове дабрадзее, паслухайце мяне, за ўсіх вас старэйшага. Тут, у Любліне, зрабілася вунія Кароны зь Літвою. Заварушацца астанкі продкаў нашых у трунах, калі літвіны з палякамі ў тым месцы завядуцца...“

Калі б можна было скласьці нейкі зьбіральны адмоўны партрэт паляка ў вачох беларускага шляхціча, ды і, наколькі можна, увогуле беларуса, як бы ён выглядаў, ці каго б нагадваў?

**Арэшка**: Усур’ёз такі абраз хіба не атрымаецца, а жартам... напэўна, пана Быкоўскага — з Купалавай „Паўлінкі“. Дарэчы, часам забываемся мы, што Купала даў гэтыя сцэны менавіта з „шляхоцкага жыцьця“.

**Ракіцкі**: Сапраўды, ёсьць у пане Быкоўскім і пыха, і тхарлівасьць, і недарэчная пальшчызна... Але ж ва ўзаемных стасунках пераважала ўсё ж, здаецца, не няпрыязь... Разам і беларуская, і польская шляхта змагаліся з туркамі й маскалямі, разам ставілі гарады, велічныя касьцёлы й палацы, разам вучыліся ва ўнівэрсытэтах, разам, нарэшце, ішлі ў кайданах на сібірскую катаргу.

Можна прыгадаць хрэстаматыйную гісторыю пра братоў Іваноўскіх, адзін зь якіх, Юры, стаў палякам, другі, Тадэвуш — літоўцам, а трэці, Вацлаў — беларусам. Магчыма, калі б чацьверты, Станіслаў, не памёр у маленстве, ён бы стаў украінцам. Гэта — прыпавесьць пра народы былой Рэчы Паспалітай, вартая, на маю думку, каб над ёю задумацца. Асабліва сёньня, калі магчымасьці на тое, каб пазбыцца шмат якіх старых комплексаў і крыўдаў, дае нам гісторыя...

Каму выгадна, каб браты сварыліся? Найперш зайздроснаму суседу...

## На магіле паўстанцаў у вёсцы Плябань няма нават шыльды

18 красавіка 2002

Шыльду з каляровага мэталу забраў мясцовы музэй. „Каб ня скралі зламысьнікі“. Маўляў, могілкі, на якіх даўно не хаваюць, ператварыліся ў запусьцелае і бязьлюднае месца.

Што і пабачылі на свае вочы каля сарака маладачанскіх актывістаў, якія калёнай зь бел-чырвона-белымі сьцягамі прайшлі ад чыгуначнага прыпынку

Ласі да надмагільнага помніка Юльяну Бакшанскаму ды іншым паплечнікам Каліноўскага.

На шляху шэсьця двойчы трапляліся міліцэйскія машыны, але міліцыянты рабілі выгляд, што маніфэстацыі не заўважаюць.

Каля братняй магілы пасьля малітвы адбыўся мітынг. Гаворыць Эдуард Баланчук, лідэр маладачанскай філіі Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ:

— Сэрца крывёй абліваецца, бо месца гэтае закінутае. Сюды ня кожны грамадзянін нашай краіны можа патрапіць ды знайсьці магілу ваяроў Кастуся Каліноўскага. Няма шыльды на гэтай брацкай магіле. Яе прыносяць адмыслова, я ня ведаю для якіх экскурсій.

Падобныя пачуцьці выказалі ў сваіх выступах кіраўнік маладачанскай філіі дэмакратычнага аб'яднаньня „Вэтэран“ Тадэвуш Шусьціцкі ды іншыя прамоўцы.

## На Чэрвеньшчыне паставілі крыж у гонар паўстанцаў Каліноўскага

23 верасьня 2002

Помнік стварыў сябра суполкі „Пагоня“ мастак Генадзь Матусевіч. Урачыстае адкрыцьцё зладзілі 22 верасьня сябры чэрвеньскага асьветніцкага таварыства „Ігумен“ і мясцовае філіі Беларускага народнага фронту. Школьнікі вёскі Ляды пасадзілі ў гонар паўстанцаў дрэўцы.

## На ўгодкі паўстаньня Каліноўскага грошай не знайшлося

21 студзеня 2003

Улады сёлета ня робяць нічога, каб адзначыць 140-я ўгодкі збройнага чыну.

У Міністэрстве культуры паведамілі, што гэтая дата ня трапіла ў плян сьвяточных мерапрыемстваў на 2003 год. Чыноўнікі нават ня могуць патлумачыць, чаму так адбылося.

Міністэрства адукацыі стала фактычна адзінай дзяржаўнай установай, якая хоць неяк адзначае гэтую дату. Тут параілі кіраўніцтву сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў правесьці з гэтай нагоды тэматычныя канфэрэнцыі.

Дзесяць гадоў таму 130-я ўгодкі паўстаньня шырока адзначаліся ў Беларусі на дзяржаўным узроўні. Ладзіліся сьвяточныя імпрэзы, міжнародныя навуковыя канфэрэнцыі, выпускалася сувэнірная прадукцыя. Цяпер сытуацыя адваротная.

Нават у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук шчыра прызналіся, што забыліся пра гэтую дату. За апошні час у гэтай акадэмічнай установе не праводзілася ніякіх дасьледаваньняў па гісторыі паўстаньня. Чаму так адбылося, тлумачыць загадчыца аддзелу гісторыі Беларусі XIX стагодзьдзя Валянціна Яноўская:

— Першая й галоўная прычына, гэта няма магчымасьці паездак у архівы Вільні й Санкт-Пецярбургу. Каб паглядзець на гэтую падзею новымі вачыма, падсумаваць усё, што зроблена, трэба яшчэ раз прагледзець архіўныя матэрыялы. А мы ня можам атрымаць камандзіроўку. Для нас гэта асноўная праблема, а ня нейкія палітычныя абставіны. Мы не адчуваем нейкага палітычнага ціску. Наадварот, гэтая праблема нас вельмі цікавіць.

Не адзначаюць 140-ю гадавіну паўстаньня й апазыцыйныя сілы. Партыі рыхтуюцца да выбараў, і ім не да гэтага. Толькі актывісты БНФ ладзяць з гэтай нагоды некалькі сьціплых імпрэзаў. Лідэр БНФ Вінцук Вячорка кажа, што прычына ў тым, што ягоныя калегі проста не дапільнавалі каляндар:

— Што да ўладаў, то тут усё зразумела. Каліноўскі акрэсьліў небясьпеку захаваньня ў Беларусі расейскай акупацыі. Менавіта таму цяперашнія ўлады баяцца гэтага імя, ды ня хочуць каб лішні раз яго ўзгадвалі.

## Дзень нараджэньня Кастуся Каліноўскага адзначылі ў Горадні

2 лютага 2003

Да памятнай шыльды паўстанцам 1863 году ўсклалі кветкі сябры Каардынацыйнага камітэту „Гарадзенская ініцыятыва“, у які ўваходзяць лідэры партыйных і грамадзкіх арганізацыяў места. Шыльда знаходзіцца на будынку чыгуначнага вакзалу, дзе 14 сакавіка 1863 году адбыўся бой паміж гарадзенцамі і расейскім вайсковым аддзелам.

## У Горадні адкрылася выстава пра паўстаньне Каліноўскага

2 траўня 2003

Выставу адкрылі ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Горадні. Яе прадставіла супрацоўніца архіву Марыя Сачак.

Паліцэйскія рапарты пра знойдзеныя нумары „Мужыцкай праўды” — на вуліцы ў Дзятлаве альбо ў жыхара вёскі Грандзічы. Сама газэта, яе трэці, чацьверты і пяты нумары. Гэта маленькія аркушыкі кніжнага фармату, задрукаваныя з двух бакоў. Ёсьць і сёмы нумар, які выходзіў фарматам А4 — тэкст толькі з аднаго боку. Газэту прыклейвалі на слупы, на сьцены, як улётку.

У архіўных зборах — цэлая справа за 1863 год на 145 старонках.

Яна датычыць знойдзеных у Горадзенскай губэрні праклямацыяў, адозваў, рэвалюцыйных вершаў і „Мужыцкай праўды“. Апроч газэты захаваліся іншыя друкаваныя матэрыялы на беларускай мове лацінскім шрыфтам.

На выставе ёсьць рапарт аб сакрэтным наглядзе за хутарам бацькоў Кастуся Якушоўкай.

Толькі ў 1865 годзе царскую камісію зацікавіла асоба ягонага брата Віктара, які не дажыў да паўстаньня. У рапарце паведамляецца, што ён „з волі божай памёр”.

Захаваліся матэрыялы допыту бацькі Кастуся — Сымона Каліноўскага.

Паводле Марыі Сачак, апошнім часам у архіве больш актыўна займаюцца вывучэньнем радаводу Каліноўскіх.

## У Мілавідах адзначылі 140 гадоў бітвы паўстанцаў Каліноўскага з царскімі карнікамі

23 траўня 2003

Імпрэзу ў Мілавідзкай сярэдняй школе зладзілі грамадзкія актывісты. Старэйшыя жыхары прыгадалі, што ў трыццатыя гады мінулага стагодзьдзя тагачасныя польскія ўлады ўшаноўвалі кожную гадавіну бітвы сапраўднымі фэстамі:

— Ой, прыгожа было, хораша рабілі, — кажа пажылая спадарыня. — І варылі, і людзей кармілі. Салдатаў многа было: і пяхота, і ўланы на конях. Ксяндзы былі. Мне было можа гадоў пяць, але добра памятаю.

Цяперашнія ўлады асаблівай актыўнасьці ва ўшанаваньні памяці паўстанцаў не выяўляюць. Правесьці шэраг мерапрыемстваў, прысьвечаных 140-м угодкам Мілавідзкай бітвы, баранавіцкіх чыноўнікаў абавязала адмысловая дырэктыва зь Берасьцейскага аблвыканкаму. Аднак у мерапрыемстве, што адбывалася на месцы бітвы, ад уладаў удзельнічаў толькі старшыня Мілавідзкага сельвыканкаму.

Старшыня Баранавіцкай арганізацыі Сацыял-дэмакратычнай партыі „Народная грамада“ Віктар Карлінскі прычыну такой абыякавасьці бачыць у наступным:

— Выканаўчая ўлада ня мае ніякага патрыятызму. Гэта проста для іх „абавязалаўка“, а не памкненьне душы.

У гарадзкой цэнтральнай бібліятэцы адбылася імпрэза „За нашу і вашу свабоду“. Сярод іншага, бы-

ло на ёй і ўзнагароджаньне пераможцаў віктарыны, прысьвечанай паўстаньню Кастуся Каліноўскага. Сродкі для ўзнагародаў былі адшуканыя сіламі грамадзкіх арганізацыяў, найперш Таварыства беларускай мовы і Фонду братоў Луцкевічаў.

## У Лідзе адкрытая мэмарыяльная шыльда, прысьвечаная расстраляным у 1863 годзе ксяндзам

14 ліпеня 2003

На шыльдзе, якую асьвяцілі ў капліцы на старых каталіцкіх могілках, імёны Станіслава Ішоры, Раймунда Зямацкага і Адама Фалькоўскага. Зрабіў шыльду мясцовы самадзейны скульптар Рычард Груша. Побач з імёнамі — выявы паўстанцкага гербу: арол, Пагоня і анёл зь мячом.

Пакаралі сьвятароў за тое, што яны зачыталі вернікам маніфэст паўстанцкага ўраду. Станіслава Ішору напачатку пакаралі пяцьцю гадамі катаргі. Але Мураўёў-вешальнік замяніў пакараньне на расстрэл. Ксяндза расстралялі ў Вільні на пачатку чэрвеня 1863 году. А неўзабаве там сама расстралялі Раймунда Зямацкага — пробашча касьцёла ў Ваверцы. Пробашча касьцёла у вёсцы Ішчална Адама Фалькоўскага расстралялі ў Лідзе, таксама ў чэрвені.

Грошы на мэмарыяльную шыльду сабралі жыхары мястэчка Граева, што недалёка ад Беластоку. Дарэчы, Граева да вайны было райцэнтрам Беластоцкай вобласьці БССР. А Жалудок і Ішчална, дзе служылі два з расстраляных ксяндзоў, сёньня знаходзяцца у Шчучынскім раёне.

## Імёны Свабоды: Напалеон Орда

11 верасьня 2003
Уладзімер Арлоў

Яго назвалі ў гонар імпэратара французаў, зь якім на землях былога Вялікага Княства Літоўскага тады зьвязваліся надзеі на аднаўленьне незалежнасьці. Аднак Напалеон Банапарт, што разам з сваёй Вялікай арміяй перайшоў Нёман празь пяць гадоў пасьля нараджэньня Напалеона Орды, меў іншыя мэты, якія хутка перакрэсьлілі ілюзіі патрыётаў.

Ілюзіі, але ня прагу свабоды.

У 1827-м Орду, студэнта фізычна-матэматычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту, выключаюць за прыналежнасьць да таемнага таварыства „Заране“. Калі праз чатыры гады ўспыхвае вызвольнае паўстаньне, ён робіцца стралком 4-га палка коннай гвардыі Літоўскага асобнага корпусу і, вызначыўшыся ў баях, атрымлівае чын капітана паўстанцкай арміі й найвышэйшую ўзнагароду — ордэн Virtuti Militari.

На эміграцыі, у Парыжы, ён сябруе з Адамам Міцкевічам, дасканаліць свой несумнеўны музычны талент у Шапэна й здабывае мастацкую адукацыю ў студыі майстра архітэктурнага пэйзажу П’ера Жэрара. У сярэдзіне 1840-х Орда займае пасаду дырэктара парыскай Італьянскай опэры. Ён стварае віртуозныя вальсы, мазуркі й палянэзы. (Станіслаў Манюшка назаве яго сваім настаўнікам.)

На пяцідзясятым годзе жыцьця Напалеон Орда пасьля амністыі вяртаецца на радзіму і распачынае свае вандроўкі, што прынясуць яму славу і памяць нашчадкаў. У лісьце да Ігната Дамейкі ён пісаў: „Я

павінен занатаваць рэшткі нашай былой цывілізацыі“.

Ягоныя больш за дзьвесьце малюнкаў гістарычных помнікаў, гарадоў і мястэчак Літвы-Беларусі створаць яе непаўторны і неўміручы вобраз. Мірскі й Крэўскі замкі, Сафійскі сабор і Спаса-Эўфрасіньнеўская царква, сядзібы Касьцюшкаў і Міцкевічаў...

Надзвычай цікавая старонка біяграфіі Орды — яго паездкі ў 1863-м па ахопленым паўстаньнем краі. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захоўваецца справа аб пазбаўленьні Орды шляхецкіх правоў „за участие в мятеже“. З дакумэнтаў вынікае, што мастак „занимается черчением планов городов“. Гэтыя „планы“ жандары выносілі з дому Ордаў скрынямі.

Краявіды Орды маюць адну дзівосную ўласьцівасьць: часам мне хочацца ўвайсьці ў іх і застацца ў створанай мастаком рэальнасьці. Калі-небудзь гэта станецца.

Напалеон Орда. 11.2.1807, в. Варацэвічы, цяпер Іванаўскі раён — 26.4.1883, Варшава, Польшча. Пахаваны у родавым склепе ў Янаве, цяпер Іванава. Магіла не захавалася.

## У Старых Дарогах зьявілася першая конная статуя Каліноўскага

10 кастрычніка 2003

Гэты амаль трохмэтровы драўляны вершнік з шабляй стаіць на падворку сядзібы грамадзкага актывіста і калекцыянэра Анатоля Белага ў яго прыватным музэі. Эскіз помніка зрабіў мастак Мікола

Байрачны, а выразаў народны майстар Беларусі Ўладзімер Небышынец.

На думку спадара Белага, кожная дзяржава, калі становіцца незалежнай, імкнецца адлюстраваць гэта ў мастацтве праз конную скульптуру свайго героя, правадыра:

— Гэта адбылося ў Расеі, калі Пётар I стаў імпэратарам. Гэта было ў германскіх дзяржавах: 300 незалежных маленькіх дзяржаваў паставілі 300 помнікаў іхным герцагам, усё гэта былі вершнікі. Грузіны, армяне, башкіры ўшанавалі сваіх герояў коннымі скульптурамі. У Беларусі была ў свой час конная скульптура Панятоўскага, апошняга караля Рэчы Паспалітай, але ў 1921 годзе, згодна з Рыскай дамовай, гэтая каштоўнасьць была перададзеная Польшчы. Канечне, каб мне дала дзяржава магчымасьць паставіць вялікі помнік Каліноўскаму ў Менску, я б гэта зрабіў з задавальненьнем. Ёсьць такі скульптар Сяргей Бандарэнка, мы зь ім даўно вядзем перамовы, гатовыя на грамадзкіх асновах гэта рабіць. Але такога дазволу я ня маю.

## У Сьвіслачы адзначылі ўгодкі паўстаньня Каліноўскага

27 кастрычніка 2003

Грамадзкія актывісты праводзілі імпрэзу сёмы раз. Упершыню ў мясцовым касьцёле адбылася імша памяці братоў Каліноўскіх і ўсіх тых, хто загінуў за незалежнасьць Беларусі.

Удзельнікі наведалі магілу Віктара Каліноўскага, затым зь бел-чырвона-белымі сьцягамі рушылі да

помніка Кастусю Каліноўскаму, каб ускласьці кветкі. Перад тым мясцовыя патрыёты наноў пафарбавалі бюст героя. У Якушоўцы, дзе ля падмуркаў сядзібы Каліноўскіх ёсьць крыж і камень з мэмарыяльнай шыльдай, з прамовамі выступілі Ўладзімер Хільмановіч з Горадні і Хведар Нюнька зь Вільні.

Спадар Нюнька ў прыватнасьці сказаў:

— Існуючы ў Беларусі рэжым ушаноўвае памяць, робіць мэмарыяльныя шыльды, ставіць помнікі здраднікам і калябарантам Беларусі, а сапраўдных сыноў не ўшаноўвае і нават іх зьнішчае. Будучыня належыць вам. Жыве Беларусь!

## У Беларусі больш няма ордэна Кастуся Каліноўскага

16 чэрвеня 2004

16 чэрвеня пачаў дзейнічаць новы закон аб дзяржаўных узнагародах. У сьпісе ўзнагарод скасаваны ордэн Кастуся Каліноўскага, які быў зацьверджаны Вярхоўным Саветам XII скліканьня.

Дагэтуль, пачынаючы з 13 красавіка 1995 году, дзейнічаў закон, згодна зь якім у Беларусі існавалі пяць ордэнаў: Айчыны, Вайсковай славы, Кастуся Каліноўскага, Францыска Скарыны і Ордэн маці.

Ордэнам Кастуся Каліноўскага маглі ўзнагародзіць за самаадданы ўчынак, мужнасьць і сьмеласьць у часе ўратаваньня людзей, спыненьня злачынных замахаў на іх жыцьцё, а таксама за сьмеласьць, выяўленую ў часе аховы грамадзкага парадку, у часе стыхійных бедзтваў і за самаадданыя дзеяньні ў часе выкананьня вайсковага абавязку. Аднак гэтым ордэнам так і не ўзнагародзілі ніводнага чалавека.

Дэпутаты Вярхоўнага Савету 12 скліканьня, калі абмяркоўвалі ўзнагароды незалежнай Беларусі, зыходзілі з таго, што назва ордэна — найважнейшы паказчык заслугі перад дзяржавай і перад нацыяй. Адносна спакойна зацьвердзілі ордэны імя Францыска Скарыны і Кастуся Каліноўскага. Была прапанова зацьвердзіць ордэн Тадэвуша Касьцюшкі, але група дэпутатаў ад камуністаў катэгарычна не пагадзілася на гэта.

Былы дэпутат ВС 12 скліканьня Валянцін Голубеў лічыць паказальным тое, што Ордэн Кастуся Каліноўскага адмянілі:

— Кастусь Каліноўскі праходзіў нават пры Савецкім Саюзе як змагар супраць самадзяржаўя і як змагар за адраджэньне Беларусі, кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня. Мне цяпер папросту балюча даведацца пра тое, што… Ну, хай гэта лукашэнкаўскі парлямэнт, хай гэта ручны, як бы яго ні называлі, але людзі, якія называюцца ўсё ж такі прадстаўнікамі беларускага народу, адмовіліся ад узнагароды, якая носіць імя — ну, можа аднаго з самых славутых сыноў беларускага народу.

Затое ў новым законе зьявіліся чатыры ордэны, якія існавалі ў савецкі час: За службу Радзіме, За асабістую мужнасьць, Ордэн дружбы народаў і Ордэн пашаны.

## Ці зьявіцца ў Менску помнік Кастусю Каліноўскаму?

12 жніўня 2004

Камітэт архітэктуры і горадабудаўніцтва Менгарвыканкаму выступіў з прапановай усталяваць у Першамайскім раёне сталіцы помнік герою нацыянальна-вызвольнага руху Беларусі Кастусю Каліноўскаму.

Падставай для гэтага стаўся зварот у гарадзкую адміністрацыю групы грамадзянаў, які падпісалі сотні менчукоў. Цяпер кіраўніцтва Першамайскага раёну мусіць хадайнічаць, каб урад краіны прыняў канчатковае рашэньне.

Спачатку кіраўніцтва Першамайскага раёну зьвярнулася ў гарадзкую адміністрацыю па дапамогу ў справе добраўпарадкаваньня сквэру, што на перакрыжаваньні вуліцаў Першамайскай і Захарава. Сустрэчная прапанова сталічных уладаў пра ўсталяваньне тут помніка Кастусю Каліноўскаму сталася для раённых чыноўнікаў неспадзяванай, і ніякіх далейшых дзеяньняў у справе рэалізацыі гэтай прапановы яны пакуль ня робяць. Вось што сказаў намесьнік старшыні райвыканкаму Мікалай Мятліцкі:

— Калі гаварыць пра Каліноўскага, то я яшчэ неяк ня вызначыўся. Як правіла, гэткія рэчы робяць да нейкіх памятных датаў. Магчыма, у наступным годзе будзе нейкая такая дата і будзе рашэньне ўраду, што трэба ўшанаваць гэтую дату.

Усталяваньня помніка Кастусю Каліноўскаму ад гарадзкіх уладаў доўгі час дамагаецца моладзевы рух „Правы альянс“.

Актывісты гэтага руху самастойна аднавілі мэмарыяльную шыльду памяці Кастуся Каліноўскага, якая была скрадзеная з будынку кінатэатру „Вільнюс“ у 1998 годзе. Усталяваць памятны знак на ранейшае месца яны спрабавалі на сьвята Незалежнасьці 25 сакавіка, аднак шыльду адабралі амонаўцы. Тады сябры альянсу сабралі больш за 500 подпісаў менчукоў пад зваротам да гарадзкіх уладаў і ўраду краіны з патрабаваньнем аднавіць шыльду і ўсталяваць помнік нацыянальнаму герою ў сталіцы Беларусі, — паведаміў у інтэрвію „Свабодзе“ адзін зь лідэраў руху Юрась Карэтнікаў:

— Нам зь Менгарвыканкаму пасьля далі адказ, што на скрыжаваньні Першамайскай і Захарава плянуецца ўсталяваньне помніка Кастусю Калі-

ноўскаму. Што Менгарвыканкам даручыў адміністрацыі Першамайскага раёну аднавіць шыльду на кінатэатры „Вільнюс“.

Ці сапраўды ў Першамайскім раёне працуюць над аднаўленьнем скрадзенай шыльды Кастусю Каліноўскаму? Кажа намесьнік кіраўніка камунальнай гаспадаркі па ідэалёгіі, што ў мясцовай адміністрацыі, Мікалай Крохмаль:

— Не, мы ня можам самастойна гэтага рабіць — ні Каліноўскаму, ні іншым, хто ў нас ёсьць. Прапалі ў нас дзьве дошкі — Карбышаву і Фогелю, мы нават ня ўдзельнічалі, горад сам павесіў. Пасьля мне з ЖЭСу дакладвалі, што дошкі вісяць.

*P.S. 7 ліпеня 2008 году сквэр на скрыжаваньні вуліц Захарава і Першамайскай атрымаў імя нацыянальнага героя краін Лацінскай Амэрыкі Сымона Балівара і ў ім быў усталяваны камень з памятнай дошкай на гішпанскай і беларускай мовах. 5 кастрычніка 2017 году ў сквэры быў адкрыты помнік Сымону Балівару з надпісам па-расейску.*

## У Сьвіслачы судзяць за бел-чырвона-белыя сьцягі

1 лістапада 2004

Сёньня ў горадзе Сьвіслач пачаўся суд над трыма ўдзельнікамі сьвята, прысьвечанага братам Каліноўскім.

Учора сьвіслацкая міліцыя затрымала гарадзенцаў Сяргея Мальчыка, Вадзіма Саранчукова і Віктара Сазонава. Міліцыянты склалі пратакол аб выкарыстаньні незарэгістраванай сымболікі —

бел-чырвона-белых сьцягоў. Сёньня міліцыянты склалі яшчэ адзін пратакол — аб несанкцыянаваным шэсьці.

Сёлетняя рэакцыя міліцыянтаў парушыла шматгадовую „мірную“ традыцыю ўшанаваньня памяці братоў Каліноўскіх. Вось якое меркаваньне на гэты конт выказаў Вадзім Саранчукоў:

— Цалкам верагодна, што пасьля вынікаў сумнавядомага рэфэрэндуму міліцыя вырашыла пайсьці на эскаляцыю канфлікту. На ўсе пытаньні яны адказвалі толькі апусьціўшы долу вочы. За ноч з учорашняга дня на сёньняшні атрыманы загад. Бо міліцыянты бегалі з кабінэту ў кабінэт, пастаянна кансультаваліся. І зразумела, што па двух пратаколах, хутчэй за ўсё, будзе максымальнае пакараньне.

Сьвіслацкі судзьдзя Аляксандар Шылін палічыў затрыманых вінаватымі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным шэсьці з выкарыстаньнем бел-чырвона-белых сьцягоў ў Сьвіслачы 31 кастрычніка, калі адбылося ўшанаваньне памяці братоў Каліноўскіх.

Кожнага з пакараных аштрафавалі на 70 базавых велічыняў, гэта — 1 мільён 680 тысяч рублёў.

## Апошняе слова Каліноўскага

8 сакавіка 2005
Сяргей Дубавец

У такі самы дзень раньняе вясны 10 сакавіка 1864 году ў Вільні на Лукіскім пляцы быў публічна павешаны кіраўнік антырасейскага паўстаньня ў Беларусі і Літве 26-гадовы Кастусь Каліноўскі. Нехта Аляксандар Масалоў, чыноўнік канцылярыі тагачаснага кіраўніка Паўночна-Заходняга краю генэрал-губэрнатара Мураўёва, які прысутнічаў пры экзэкуцыі, занатаваў:

„Была ясная халодная раніца; Каліноўскі ішоў на пакараньне сьмела; прыйшоўшы на плошчу, ён стаў проста тварам да шыбеніцы і толькі час ад часу кідаў позіркі ў далёкі натоўп. Калі яму чыталі канфірмацыю, ён пачаў быў рабіць заўвагі; так, напрыклад, калі назвалі ягонае імя — дваранін Вікенці Каліноўскі, ён усклікнуў: „У нас няма дваран, усе роўныя!“ Паліцмайстар паківаў яму галавой і папрасіў змоўкнуць. Ня стану апісваць падрабязнасьці гэтага сумнага відовішча, падобных да якога ня дай Бог калі-небудзь яшчэ пабачыць“.

Апошнія словы Кастуся Каліноўскага, ягонае крэда, сталі адным з улюбёных мітаў беларускай сьвядомасьці і шматкроць паўтараліся ва ўспамінах сьведкаў, на розныя лады перапяваліся паэтамі як сымбаль няскоранасьці асуджанага на сьмерць змагара. Напэўна, у такія хвіліны больш важна

ня тое, што менавіта прамаўляецца, а як і ў якім кантэксьце. Гэта найбольш узрушвае. Раптоўнае пярэчаньне пасярод манатоннага рытуалу, нібы апошні выклік усёй гэтай карнай машыне акупацыйнага рэжыму. У такой сытуацыі задумвацца над зьместам прамоўленага быццам і не выпадае. Тым больш, што фраза „У нас няма дваран, усе роўныя“, на першы погляд, дэкляруе якраз не супрацiў, не высакародзтва, не арыстакратызм духу, а цалкам адваротнае — нівэліроўку ўсіх і ўсяго ў нейкай абстрактнай роўнасьці. Маўляў, тут нішто не ўзвышаецца, не вытыркаецца, не стаіць. Тут суцэльны штыль і спакой, суцэльная роўнядзь. А ў выніку зьяўляецца зьедлівы камэнтар яшчэ аднаго сьведкі падзеяў, палкага прыхільніка мураўёўшчыны, які, кажучы пра сувязь паняткаў „дваранін“ і „інтэлігент“ у расейскай традыцыі, іранізуе:

„Настолькі неінтэлігентны быў Каліноўскі, што нават пасьпяшаўся вырачыся свайго дваранства. Так яно, вядома, прасьцей. Бо так — ніякай адказнасьці перад гісторыяй і будучыняй свайго народу. Што значыць — двараніна павесілі? Гэта быццам бы сам народ павесілі. А бязроднага хама вешаюць непрыкметна, як ката́“.

Аглабельныя характарыстыкі яўных непрыяцеляў не задавальняюць гэтаксама, як і патасныя тлумачэньні апошніх словаў героя са спасылкамі на народніцтва ды сацыялістычныя матывы. Урэшце мы ведаем, што і сам Каліноўскі быў шляхтай, і паўстаньне ягонае называюць шляхецкім. Натуральна, што ён усяляк імкнуўся прыцягнуць да паўстаньня сялян і таму бэсьціў шляхту, што ў ягоным выпадку было сымбіёзам цьвярозага разьліку і юначага рэвалюцыянізму. Тым ня менш, усё, чаго ён

дасягнуў, гэта былі дасягненьні беларускай шляхты і выхадцаў зь яе.

Аднак ня будзем сёньня паглыбляцца ў даволі складаную ідэалёгію таго паўстаньня. Скажам толькі, што спадчына Каліноўскага дагэтуль застаецца нерасчытанаю, непраясьненаю і таму адэкватна не ацэненаю. Што, між іншым, дазваляе ягонаму вобразу працягваць сваё змаганьне за ўсё яшчэ недасягнутыя мэты і ўдала пазьбягаць перасьледу зьменлівых дзяржаўных ідэалёгіяў, якія хоць і прызнаюць у Каліноўскім нацыянальнага героя, але неяк нібы неахвоча, крывячыся. Гэтак за савецкім часам ягоным імем называлі вуліцы, але ягоныя тэксты жорстка цэнзуравалі нават у навуковых выданьнях. Гэтак і сёньня ўлада яго быццам бы цярпіць, але на ўсякі выпадак скасавала ордэн Каліноўскага, уведзены ў 90-я гады ў якасьці дзяржаўнай узнагароды.

Дзіва што. Узятыя намі дзеля дасьледаваньня апошнія словы змагара каго заўгодна могуць зьбіць з панталыку. Асабліва што да так любаснае савецкаму сэрцу роўнасьці. Але якраз у гэтай самай роўнасьці і хаваецца разгадка апошніх словаў Каліноўскага. Чаму яны, на першы погляд, антывысакародныя і паражэнчыя, прагучалі як узор высакародства і маральнае перамогі змагара над ягонымі ка́тамі?

Існуе шмат тлумачэньняў роўнасьці, якія ўсе, нават узаемавыключныя, гучаць, нібыта пераканаўча, бо гаворка ідзе пра ідэал, а не пра рэальнасьць. У ідэале роўнасьць асацыюецца са справядлівасьцю, а ў рэальнасьці заўсёды набывае выгляд аднолькавасьці, добра знаёмага кожнаму, хто служыў у войску, „единообразия“. Найбольш яскравыя прыклады

ажыцьцяўленьня прынцыпу роўнасьці ў нашай гісторыі — гэта шляхецкая дэмакратыя ў сярэднявечнай Беларусі і рэпрэсіўная савецкая „роўнасьць ў жабрацтве“. Сапраўды, па-рознаму зразуметы прынцып роўнасьці на працягу гісторыі быў адначасова і рухавіком цывілізацыі, і яе малохам. Але што меў на ўвазе пад роўнасьцю Каліноўскі?

Паводле пашыранага ўяўленьня, роўнасьць — гэта роўнасьць правоў. Прынамсі так тлумачыць сёньня гэты панятак праваабарончая літаратура:

„Роўнасьць — гэта раўнапраўнасьць. Гэта значыць, што ніводзін чалавек ня ёсьць важнейшым за другога, хто б ні былі ягоныя бацькі, і незалежна ад ягонага сацыяльнага становішча. Безумоўна, людзі адрозьніваюцца адзін ад аднаго сваімі зацікаўленьнямі, здольнасьцямі і ладам жыцьця. Вось жа, роўнасьць заключаецца ў наяўнасьці аднолькавых правоў і магчымасьцяў. Людзі павінны мець роўныя магчымасьці, каб мець посьпех у галіне адукацыі ці на працы, у залежнасьці ад прыкладзеных імі намаганьняў. Ідэя роўнасьці ўвасобіцца толькі тады, калі людзі будуць мець аднолькавыя правы на жыльлё, сацыяльнае забесьпячэньне, грамадзянскія правы і грамадзянства“.

Інакш кажучы, гаворка ідзе не пра нас саміх, нашы здольнасьці, выгляд, рысы характару, а пра нашы аб’ектныя характарыстыкі, пра тое, як права ставіцца да нас, а ня мы да яго. Бо што да суб’ектных рысаў, дык усе людзі ад нараджэньня НЯ роўныя. Дастатковы доказ гэтага — дактыляскапія.

Кожны з нас можа прывесьці масу прыкладаў выроўніваньня няшчаснага людзкога племені на адзін капыл паводле розных утапічных тэорыяў. Тэарэтыкі часьцяком бачылі магчымасьць усталяваньня

ўсеагульнай справядлівасьці праз падгонку ўсіх пад аднолькавы выгляд. Але яшчэ ніколі і нікога такім чынам не ўдавалася зрабіць шчасьлівым, і ўтапічныя тэорыі непазьбежна цярпелі крах.

У вядомай усім трыядзе „Свабода. Роўнасьць. Братэрства“ слова „роўнасьць“ таксама, на першы погляд, займае парадаксальнае месца. Чым больш мы роўныя, гэта значыць, выраўненыя адно з адным, тым менш мы свабодныя. Ёсьць і такая думка пра несумяшчальнасьць роўнасьці са свабодай і братэрствам:

„Але, нават калі прыняць дасягальнасьць роўнасьці, яна ўсё адно ня можа нармальна ўжыцца са свабодай і братэрствам. Роўнасьць паглынае свабоду, бо мае на ўвазе абмежаваньні асобы агульным узроўнем. Калі ўсе павінны быць роўныя, дык мая свабода ўзвысіцца над усімі — нерэальная. І тут неістотна, якая роўнасьць маецца на ўвазе: маёмасная ці палітычная. Патрабаваньне раўняцца на ўсіх забівае свабоду. Роўнасьць паглынае братэрства, бо зьнішчае інтымную сувязь братэрства. Калі ўсе людзі браты, калі ўсе людзі роўныя, што для асобнага чалавека ягоны брат? Усяго толькі чарговы сярэдні чалавек, чарговая статыстычная адзінка“.

Паспрабую не пагадзіцца з гэтым меркаваньнем і перачытаць вядомую трыяду па-іншаму. Сапраўды, свабода і братэрства — суб’ектныя характарыстыкі чалавека. Можаш спытаць сябе, наколькі ты свабодны, наколькі ты братэрскі, але спытацца, наколькі ты роўны, нібыта не выпадае. На першы погляд. А калі — на другі? Скажам, наколькі ты роўна стаіш або гаворыш, наколькі роўны ў цябе характар і тэмпэрамэнт?.. Як бачым, і для роўнасьці знайшлася свая суб’ектная характарыстыка.

роўны ня толькі ў параўнаньні зь іншымі людзьмі, але і сам па сабе.

Колькі стагодзьдзяў наша беднае чалавецтва дэкляравала прынцып роўнасьці, столькі ж і кпіла, насьміхалася, жартавала са спробаў зрабіць усіх роўнымі альбо аднолькавымі. Варта зачэрпнуць толькі малую жменю клясычных афарызмаў, якіх на гэтую тэму створана мноства:

„Роўнасьць існуе толькі ў труне. Роўнасьць магчымая толькі ў матэматыцы. Бог стварыў людзей дужымі і слабымі, а палкоўнік Кольт зрабіў іх роўнымі. Усе людзі роўныя, але некаторыя раўнейшыя за іншых. Усе людзі роўныя, пасьля адпаведнай апрацоўкі. Няхай лепш будуць нешчасьлівыя, чым ня будзе шчасьлівых увогуле, а менавіта так і здарыцца пры ўсеагульнай роўнасьці. Роўнасьці цяжка дасягнуць таму, што мы імкнемся стаць роўнымі толькі з тымі, хто вышэйшы за нас. Роўнасьць магчымасьцяў азначае роўныя магчымасьці для ўсіх стаць няроўнымі. Роўнасьць, якой мы патрабуем — усяго толькі найбольш цярпімая ступень няроўнасьці. Роўнасьць — утопія нягоднікаў“...

Папраўдзе, ня надта прывабна роўнасьць выглядае ў афарызмах. Бо, вызнаючы роўнасьць, ніяк ня хочацца апынуцца сярод нягоднікаў ці ўтапістаў, або стаць матэматычнай велічынёй, або трапіць у труну.

Насамрэч роўнасьць — усяго толькі форма, у якую ўкладаецца часам процілеглы зьмест. Каб разабрацца, можна спрасьціць трактоўкі да абсалюту, прыраўнаваўшы нашы суб’ектны і аб’ектны станы да вэртыкалі і гарызанталі.

Гарызантальная роўнасьць — гэта і ёсьць роўнасьць правоў або справядлівасьць. Зьява ўсё яшчэ

ідэальная, але на ўсеагульным цывілізацыйным шляху ўсё больш рэальная. Прынамсі, сёньня мы ўжо бачым, дзе ёсьць няроўнасьць або несправядлівасьць, якую трэба пераадольваць. Мы бачым, напрыклад, што ў нас у краіне недзяржаўны вытворца альбо прадпрымальнік або журналіст знаходзіцца ў няроўных умовах з сваімі калегамі зь дзяржаўнага сэктару, што зусім не матывуецца іхнымі здольнасьцямі альбо высілкамі, прыкладзенымі да справы. Мы бачым, што беларускі пэнсіянэр жыве ў няроўных умовах у параўнаньні зь нямецкім, і расцэньваем гэта як несправядлівасьць. Мы бачым, што адныя народы маюць права на ўласную дзяржаву, а другія даказваюць такое самае права вялікай крывёю і часта беспасьпяхова.

Такім чынам гарызантальная альбо аб’ектная роўнасьць не скіраваная на тое, каб ламаць чалавечыя лёсы і ператвараць дрэвы розных пародаў у аднолькавыя тэлеграфныя слупы. Між іншым, такое разуменьне справядлівасьці — зусім нядаўні набытак людзтва, якому спатрэбілася прайсьці праз стагодзьдзі пераламаных лёсаў, каб урэшце перастаць зьвязваць справядлівасьць з гвалтам супраць чалавечае адрознасьці. Што праўда, такое разуменьне для многіх народаў і краін усё яшчэ застаецца заўтрашнім днём. Скажам, у нас у Беларусі, здаецца, пра такое зусім не задумляюцца тыя, хто дзякуе народу за падтрымку, а мысьліць катэгорыямі рэсаветызацыі і працягам уласных паўнамоцтваў.

Калі ўжо зачапіў рэальную беларускую палітыку, зраблю невялічкае адступленьне. Перад тым, як ад роўнасьці гарызантальнай перайсьці да вэртыкальнай і да сэнсу апошніх словаў Каліноўскага.

Уявіце сабе, што ў нейкай краіне з тых, якія мы называем разьвітымі ці перадавымі, нехта прыходзіць да ўлады пад лёзунгам навядзеньня парадку. Дзіўнавата гучыць. І зусім дарэчы гучыць у нас. У нас нават калі парадак нібыта ёсьць, усё адно дзейны кіраўнік патрабуе парадку, а ягоныя спаборнікі ідуць на выбары з гэтым лёзунгам — навесьці парадак. Людзі разумеюць гэты лёзунг так: навесьці парадак, значыць, усталяваць справядлівасьць. Дык вось, тыя, хто прайшоў у сваім разьвіцьці крыху далей за нас, ужо не патрабуюць парадку, бо разумеюць, што да рэальнае справядлівасьці парадак ня мае ніякага дачыненьня. Парадак — гэта прымітыўная форма аўралу, разгону і вайсковага „единообразия“. І больш нічога. Парадак якраз і імкнецца выраўнаваць усіх на адзін капыл. Але ў выніку мы атрымліваем тое, што мелі заўсёды — гвалт і, як кажа цяперашні кіраўнік, „жэстачайшыя“ патрабаваньні да кожнага. Мы жывем як на вайне, хоць ніякай вайны ў нас няма. А ўся справа ў тым, што прымітыўную палітыку навядзеньня парадку павінна зьмяніць складаная палітыка гарманізацыі інтарэсаў усіх і кожнага чалавека. Менавіта гармонія, а не парадак, дае шанец для ўсталяваньня рэальнай справядлівасьці.

Адчуваеце розьніцу: спарадкаваць інтарэсы і гарманізаваць інтарэсы? У першым выпадку гаворка ідзе пра ломку ў імя аднастайнасьці, якой лягчэй кіраваць. Як усё адно штыкетнік зьбіваць. У другім выпадку — гаворка пра ўлік гэтай самай разнастайнасьці. Гэта як складаць з розных расьлін букет...

У эўрапейскіх рэлігійна-філязофскіх практыках, што былі пашыраныя ў часы Каліноўскага, панятак роўнасьці ў трыядзе „Свабода. Роўнасьць. Братэр-

ства“ сымбалізаваў будаўнічы ўзровень. Гаворка ішла не пра што іншае, а пра саслоўную роўнасьць, увасобленую ў вэртыкалі, але не ў гарызанталі.

Не магу не асацыяваць гэты сымбаль з наступным фактам. У апошні момант Мураўёў замяніў Каліноўскаму расстрэл на павешаньне. Чаму — гэтага ня ведае ніхто. Але напэўна ж у графа былі нейкія свае прычыны ператварыць паўстанца, які дэкляруе саслоўную роўнасьць, самога ў сымбаль гэтай саслоўнай роўнасьці. Пакінем гэтае дапушчэньне гісторыкам, а самі абыдземся пакуль больш простым тлумачэньнем. Граф хацеў дашчэнту зганьбіць героя. Бо вось як характарызуе два згаданыя віды пакараньня „Расейская турэмная энцыкляпэдыя“:

„Расстрэл. Упершыню афіцыйна гэты спосаб сьмяротнага пакараньня ўведзены Пятром Першым, і ўжываўся ён выключна да вайсковых злачынцаў. Расстрэл учыняўся ва ўрачыстых абставінах з чытаньнем прысуду перад усім палком, які адмыслова для гэтага шыхтаваўся“.

„Павешаньне. Гэты спосаб сьмяротнае кары існаваў з пракаветных часоў і сярод усіх народаў. Заўсёды лічыўся адным з самых ганебных і прыніжальных. Вешалі за здраду (магчыма, гэта зьвязана зь імем здрадніка Юды, які, як вядома, абраў для сябе менавіта такі спосаб сьмерці, задушыўшыся ў пятлі)“.

Інакш кажучы, суд прызначыў Каліноўскаму высакароднае пакараньне — як вайскоўцу і двараніну, а Мураўёў вырашыў зганьбіць сваю ахвяру і прынізіць яе ў вачох тагачаснае публікі. Варта згадаць, што пахавалі Каліноўскага на тэрыторыі закрытай расейскай цытадэлі, а над ягонай магілай

учынілі пляцоўку для гульні ў крыкет, каб крый Бог пазьбегнуць паломніцтва людзей да апошняга прыстанку героя, сумны досьвед чаго Мураўёў ужо меў. Таму ён падменай спосабаў пакараньня спрабаваў разжалаваць Каліноўскага ня толькі з дваран, але і з герояў, што, як паказала гісторыя, немагчыма.

Вось толькі як тут разумець апошнія словы Каліноўскага, які, быццам, разжалаваў сябе сам?

Зьвернемся зноў да трыяды „Свабода. Роўнасьць. Братэрства“, якую мы ўжо амаль разгадалі, і перачытаем эсэ Вацлава Гаўла „Спроба жыць у праўдзе“, які вольна ці міжвольна разгадаў гэтую трыяду да нас. Паміж іншым аўтар распавядае пра падзеі ў Чэхаславаччыне, калі ўтварылася Хартыя 77 — знакаміты дысыдэнцкі асяродак:

„Аднак духоўны клімат для гэтага выступу быў падрыхтаваны не беспасярэдне палітычнай падзеяй, а працэсам над маладымі музыкамі з гурту The Plastic People. Працэсам, у якім супрацьстаялі ня дзьве палітычныя сілы ці канцэпцыі, а два бачаньні жыцьця: з аднаго боку — стэрыльнае пурытанства істэблішмэнту, з другога — невядомыя маладыя людзі, якія не хацелі нічога іншага, як жыць у праўдзе: граць добрую музыку, якая ім падабалася, сьпяваць пра тое, як яны сапраўды жывуць. Яны хацелі свабоды, годнасьці і братэрства“.

Роўнасьць, зразуметая як годнасьць, робіцца нарэшце суб’ектнай і знаходзіць сваё месца як покліч нашага сэрца побач з поклічамі свабоды і братэрства.

Роўнасьць сьпіны, роўнасьць хады, роўнасьць душы. Вэртыкальная роўнасьць — гэта і ёсьць годнасьць, высакародзтва, арыстакратызм духу. Вось што чуем мы ў апошніх словах Каліноўскага і вось

што гучыць у іх як пратэст. У нас няма дваран. У нас усе роўныя. Гэта значыць, калі хочаце, у нас усе — дваране.

## Школьнікі ўзводзяць помнік паўстанцу Будзіловічу

28 чэрвеня 2005

Атрад інсургентаў пад кіраўніцтвам Ігната Будзіловіча дзейнічаў на тэрыторыі цяперашняга Лёзьненскага раёну і быў разьбіты расейскім войскам недалёка ад вёскі Пагосьцішча. Сам Будзіловіч трапіў у Аршанскую вязьніцу і быў расстраляны.

Дзесяцікласьнікі лёзьненскай сярэдняй школы №1 на чале з кіраўніцай краязнаўчага гуртка Аленай Грачышнікавай вырашылі ўзьвесьці на месцы бітвы помнік — складзеную з камянёў піраміду з крыжам наверсе.

Крыж дзеля гэтае мэты ахвяраваў тутэйшы прадпрымальнік, а камяні дзеці зьбіраюць самі. Напачатку ім падавалася, што зрабіць піраміду будзе проста, аднак тут аўтары ідэі памыліліся: назапашаныя камяні аднойчы таемным чынам зьніклі.Нехта іх папросту скраў.

Шукаць іх дзесьці ў чужым падмурку дзеці ня сталі і вырашылі заняцца гэтай справаю наноў. Калі піраміда з камянёў будзе нарэшце збудаваная, на ёй зьявіцца і мармуровая мэмарыяльная шыльдачка са словамі кіраўніка паўстаньня 1863 году Кастуся Каліноўскага, паплечнікам і аднадумцам якога быў Ігнат Будзіловіч: „Бывай здаровы, мужыцкі народзе, жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе!“

## Імёны Свабоды: Рамуальд Траўгут

1 жніўня 2005
Уладзімер Арлоў

Гледзячы на партрэты кіраўнікоў паўстаньня 1863 году, я міжволі лаўлю сябе на думцы, што дагератып Рамуальда Траўгута трапіў у гэтую галерэю выпадкова.

Траўгут зь ягонай акуратнай шчотачкай вусоў і элеганцкім пэнснэ больш за ўсё нагадвае мне маладога прафэсара.

Між тым у яго, выпускніка Сьвіслацкай гімназіі (той самай, дзе пазьней вучыўся Каліноўскі), былі іншыя ўнівэрсытэты.

Траўгут ужо ў дзевятнаццаць гадоў паступіў на вайсковую службу. Браў удзел у Крымскай кампаніі, а ў трыццаць шэсьць у чыне падпалкоўніка выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў палескім маёнтку Востраў.

Да паўстаньня ў Польшчы й Літве-Беларусі заставаліся лічаныя месяцы. Былы баявы афіцэр Траўгут выдатна разумеў, што перамагчы велізарную вайсковую машыну царскай імпэрыі немагчыма, але, калі прыйшла пара, бяз роздуму зрабіў свой выбар сэрцам.

Ачолены Траўгутам у красавіку 1863-га кобрынскі аддзел інсургентаў правёў некалькі пасьпяховых нападаў на расейскіх карнікаў, а таксама ўзяў удзел у баявым рэйдзе на Піншчыну й паўночную Валынь.

Пасьля жорсткіх баёў у антопальскіх лясах у Пецярбург была пасланая ўзрадаваная рэляцыя, што адзін з самых небясьпечных паўстанцкіх камандзіраў забіты.

Але Траўгут застаўся жывы. Яго ўратавала ў сваім маёнтку маладая сувязная паўстанцаў Эліза Ажэшка, будучая вядомая пісьменьніца.

У яе карэце пад выглядам сваяка Траўгут здолеў дабрацца да Варшавы. Неўзабаве ён узначаліў патрыятычны Нацыянальны ўрад і стаў на чале ўсяго паўстаньня...

Ён адмовіўся выехаць за мяжу і мужна ішоў насустрач непазьбежнасьці.

Увесну 1864-га Траўгута схапілі, а ў жніўні ён, пагардліва зірнуўшы на ка́та, узышоў у Варшаўскай цытадэлі на эшафот.

У горадзе Сьвіслачы, на захадзе Беларусі, апрача помніка Леніну, ёсьць і помнік Рамуальду Траўгуту. Побач, у тым самым сквэры — бюст Кастуся Каліноўскага.

Відаць, такая вялікая канцэнтрацыя паўстанцкіх правадыроў камусьці падалася надзвычай небясьпечнай, і пры канцы XX стагодзьдзя па суседзтве з Траўгутам і Каліноўскім уладкаваўся адноўлены бюст Ёсіфа Сталіна.

Рамуальд Траўгут. 16.1.1826, в. Шастакова, цяпер Камянецкі раён — 5.8.1864, Варшава, Польшча. Месца пахаваньня невядомае.

## На Кастрычніцкім пляцы згадвалі Кастуся Каліноўскага

22 сакавіка 2006

У гэтыя хвіліны на Кастрычніцкім пляцы Менску чацьверты дзень запар праходзіць шматтысячны мітынг пратэсту супраць абвешчаных вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў. Сярод іншага ўдзельнікі акцыі ўзгадвалі гадавіну з часу гібелі Кастуся Каліноўскага.

**Голас у мэгафон**: На гандлёвай плошчы Лукішкі ў Вільні быў павешаны царскім катам Яська гаспадар з-пад Вільні. Гэтым псэўданімам Кастусь Каліноўскі падпісваў кожны нумар газэты „Мужыцкая праўда“.

**Карэспандэнтка**: Чаму вы тут?

**Спадар**: Гэтаму рэжыму пара ўжо адпачываць.

**Спадар**: Паколькі сёньня дзень жалобы па Кастусю Каліноўскім і ўчора была прапанова плошчу назваць імем Каліноўскага, была зробленая гэтая расьцяжка. На ёй напісана „Плошча Кастуся Каліноўскага“. З аднаго боку — выява Каліноўскага, а з другога — герб Пагоня. Каб яе сюды даставіць — яна ж восем мэтраў, амаль як плашчаніца — давялося абматаць яе вакол нашага аўтара-мэтра вось гэтымі мэтрамі. Цяжка давялося дабірацца, бо людзей жа хапалі…

## Плошча і творцы

28 чэрвеня 2006

На прапанову пісьменьніка Ўладзімера Арлова многія людзі сталі называць плошчу перад Палацам Рэспублікі пляцам Кастуся Каліноўскага. Мастак Алесь Марачкін, які маляваў расьцяжкі з новаю назвай, на нейкі момант адчуў сябе ў скуры падпольшчыка:

— Плошча гэтая, можна сказаць, намоленая дзеяй. Перш за ўсё моладзі. Яна мае знакавае значэньне. Калі я пачуў, што яе ахрысьцілі як плошчу імя Кастуся Каліноўскага, мне прыйшлося мастакоў сагітаваць. І мы ў адным месцы вялікую расьцяжку намалявалі, дзе была выява Кастуся і Пагоні. Але як жа яе туды занесьці? Я нават у свае гады вырашыў, што, хлопцы, давайце так: абкручвайце мяне гэтай расьцяжкай! І я абкручаны, а Цыркуноў з па́лкамі панесьліся ў цэнтар. І мяне раскручвалі, як тую ляльку.

## Юры Хашчавацкі зьняў фільм „Плошча Каліноўскага“

13 верасьня 2006

Кіно апавядае пра падзеі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў на Кастрычніцкай плошчы ў Менску.

Рэжысэр лічыць, што маладым будзе цікава паглядзець на сябе вачыма чалавека са старэйшага пакаленьня.

## Сьвіслач: адзначылі Дзень паўстанцаў 1863 году

29 кастрычніка 2006

Нягледзячы на няспынны дождж каля 200 чалавек з розных куткоў Беларусі ўсклалі кветкі да помніка Кастусю Каліноўскаму, ягонаму брату Віктару, да помніка Рамуальду Траўгуту, а таксама да крыжа, які ў 1997 годзе быў усталяваны ў былой сядзібе Каліноўскіх у Якушоўцы. Сёньня ў гэтых месцах на Горадзеншчыне прамаўлялі Аляксандар Мілінкевіч, Вінцук Вячорка, Вячаслаў Сіўчык і іншыя.

Да могілак з аўтобусаў ішлі безь сьцягоў, міліцыянты заранёў папярэдзілі арганізатараў, каб не рабілі шэсьця. Але потым каля магілы Віктара Каліноўскага разгарнулі бела-чырвона-белыя сьцягі, стужкі, паклалі кветкі.

Сябра БНФ з Горадні Сяргей Мальчык распавядаў, як 12 гадоў таму першы раз была ўшанаваная памяць братоў Каліноўскіх. Тады на месцы сядзібы была знойдзеная пячатка паўстанцаў, але цяпер ейны лёс невядомы.

## На Берасьцейшчыне ўшанавалі памяць паўстанцаў Каліноўскага

10 лютага 2007

Актывісты дэмакратычных арганізацыяў 10 лютага наведалі мястэчка Дамачава за 40 кілямэтраў ад Берасьця.

Тут на тэрыторыі касьцёла ўсталяваны помнік паўстанцам 1863 году, якія паблізу гэтых мясьцінаў, каля вёскі Чэрск, уступілі ў бой з расейскімі карнікамі. Помнік у выглядзе крыжа зьявіўся ў 1920-я гады, калі большая частка Берасьцейшчыны належала Польшчы. У савецкія часы мясцовыя жыхары здолелі выратаваць крыж ад зьнішчэньня.

У касьцёле сьвятога Антонія грэка-каталіцкі сьвятар айцец Андрэй адслужыў малебен за беларускі народ, а ўдзельнікі вандроўкі мелі магчымасьць атрымаць зьвесткі пра гісторыю паўстаньня.

## Дзень сьвятога Канстанціна

13 лютага 2007

У сядзібе БНФ адбылася прэсавая канфэрэнцыя з нагоды забароны канцэрту да Дня сьвятога Валянціна.

Адміністрацыя Дому літаратара, дзе плянаваўся канцэрт, адмовілася даць у арэнду памяшканьне — як паведамілі, з тэхнічных прычынаў.

— Але насамрэч чыноўнікаў мог напалохаць зьмест імпрэзы пад назвай „Дзень сьвятога Канстанціна“. Маладзёны плянавалі паказаць асобу Кастуся Каліноўскага, дзень народзінаў якога прыпадае на люты, як сучаснага маладафронтаўца, — паведаміў адзін з арганізатараў Франак Вячорка.

## Сяргей Скрабец стварае моладзевы рух

23 лютага 2007

Новая структура будзе называцца Моладзевым рухам імя Кастуся Каліноўскага. Заплянаваная і першая акцыя гэтага руху — мітынг у падтрымку Аляксандра Казуліна і іншых палітвязьняў.

Ініцыятарам стварэньня новага руху выступіў Сяргей Скрабец, а ўзначальвае яго Сяргей Галаганюк. Мэту руху спадар Галаганюк тлумачыць гэтак:

— Мы б хацелі празь перамовы злучыць у нашым руху ўсе моладзевыя аб’яднаньні. Бо лебедзя, рака і шчупака ўжо надакучыла бачыць. А будучыня за моладзьдзю.

## У Вашынгтоне на адзін дзень зьявіцца Плошча Каліноўскага

19 сакавіка 2007

25 сакавіка каля будынку амбасады Беларусі ў Вашынгтоне адбудзецца дэманстрацыя ў падтрымку беларускіх палітзьняволеных. Дэманстранты

арганізуюць сымбалічную Плошчу Кастуся Каліноўскага — знак салідарнасьці зь беларусамі, якія выйдуць у гэты дзень на вуліцы Менску, каб падтрымаць дэмакратычныя працэсы ў краіне.

Генэральнай рэпэтыцыяй акцыі можна лічыць дэманстрацыю, якая прайшла ля сьценаў амбасады 16 сакавіка. Паводле кіраўніка грамадзянскай ініцыятывы „Погляд" Генры Джонсана, нягледзячы на дрэнныя ўмовы надвор'я — дождж і мокры сьнег — некалькі дэманстрантаў прыйшлі да будынку дыпляматычнай місіі і правялі традыцыйную акцыю „Дзень салідарнасьці зь Беларусьсю". Дарэчы, такія мерапрыемствы праводзяцца ў Вашынгтоне 16-га дня кожнага месяца, паведамляе БелаПАН.

## Сэнсацыйнае прызнаньне Сакрата Яновіча

11 траўня 2007

Вядомы беларускі пісьменьнік зь Беласточчыны Сакрат Яновіч прызнаўся, што ў часы ПНР супрацоўнічаў з камуністычнымі спэцслужбамі.

У інтэрвію для сёньняшніх польскіх газэт спадар Яновіч прызнаўся, што ў 1958–1970 гадах быў „тайным і сьвядомым" супрацоўнікам службы бясьпекі пад псэўданімам „Кастусь".

Ягонай задачай было назіраць за супрацоўнікамі тыднёвіка беларусаў Польшчы „Ніва" і актывістамі Беларускага грамадзка-культурнага таварыства.

Пісьменьнік адзначыў, што сваім супрацоўніцтвам „хацеў дапамагчы ўладам абараніць беларускі асьветніцкі рух, каб яго ня зьнішчылі варожыя сілы" — а ў існаваньні такой небясьпекі

яго пераконвалі супрацоўнікі спэцслужбаў — і менавіта таму абраў сабе псэўданім „Кастусь“ — ад Кастуся Каліноўскага.

„Я наіўна верыў, што змагаюся за беларускую справу. Але калі зразумеў, у чым сапраўды справа, быў ужо 1970 год“, — сказаў Сакрат Яновіч.

Спадар Яновіч адзначыў, што практычна ніколі ня браў за гэта грошы і „нікога не пакрыўдзіў“, а пасьля таго, як спыніў супрацоўніцтва са службай бясьпекі, яго „звольнілі з працы і змарнавалі яму жыцьцё“.

## Імёны Свабоды: Генрык Дмахоўскі

12 ліпеня 2007
Уладзімер Арлоў

Аднойчы на сустрэчы з чытачамі з залі прыйшло нечаканае пытаньне: „У якога гістарычнага героя Вы хацелі б пераўвасобіцца, каб пражыць ягонае жыцьцё?“

Я паспрабаваў адказаць жартам, але аўтар настойваў, і зь сьвядомасьці выплыла імя — Генрык Дмахоўскі.

Упершыню я ўведаў пра яго, як гэта ні дзіўна, у 1990-я гады ў Кангрэсе ЗША, куды, дарэчы, мог безь вялікіх праблемаў патрапіць кожны турыст. Спадарожнік, амэрыканскі беларус Васіль Мельяновіч, зьвярнуў маю ўвагу на тое, што бюсты Касьцюшкі, як і прэзыдэнтаў Джорджа Вашынгтона і Томаса Джэфэрсана, а таксама аднаго зь лідэраў вайны за незалежнасьць Злучаных Штатаў стварыў для Кангрэсу беларус Дмахоўскі.

У юнацтве Генрык вывучаў у Віленскім унівэрсытэце юрыспрудэнцыю і адначасова браў урокі маляваньня і скульптуры. Жывучы пасьля паўстаньня 1831 году ў Парыжы, ён не зьбіраўся супакойвацца: зьвязаўся з карбанарыямі, падтрымаў ідэю свайго колішняга паўстанцкага камандзіра Юзафа Заліўскага вярнуцца ў Беларусь і зноў распаліць агонь змаганьня.

На шляху да мэты Генрык мусіў зрабіць сямігадовы прыпынак у турме-фартэцы Куфштайн у Тыролі. У камэры ляпіў з хлеба розныя фігуркі. Потым ён адшліхтуе свой талент у мастацкай вучэльні ў Парыжы. (Пасьля Плошчы-2006 мой сын Багдан, пэўна, узяўшы прыклад з бацькавага героя, зьлепіць у менскай турме з хлебнага мякішу зграбныя шахматы.)

Праз колькі гадоў такая асоба, што мае прозьвішча Дмахоўскі, у Эўропе зьнікае. Затое ў ЗША зьяўляецца вядомы скульптар Генры Сандэрс, які стварае бюсты амэрыканскіх прэзыдэнтаў, скульптурную групу „Гарыбальдзі з ваярамі“... Чалавек з такімі сымпатыямі ня мог не вярнуцца на радзіму, адкуль даходзілі зьвесткі пра падрыхтоўку новага паўстаньня.

У 1861-м ён зноў ступіў на віленскі брук, у наступным годзе адчыніў насупраць катэдральнага сабору скульптурнае атэлье, а ў 1863-м быў прызначаны паўстанцкім камісарам Дзісенскага павету.

У траўні на ягоны аддзел раптоўна напалі карнікі. „Дмахоўскі васьмю кулямі прашыты — упаў на рукі моладзі“, — пісаў у сваім лісьце адзін з паўстанцаў.

Генрык Дмахоўскі. 26.10.1810, в. Забалоцьце, цяпер Мёрскі раён — 26.5.1863, в. Парэчча, цяпер

Маладачанскі раён. Пахаваны ў лесе на поўнач ад в. Бірулі Докшыцкага раёну.

## Сьвіслач: Дзень памяці паўстанцаў 1863 году адзначылі пад наглядам міліцыі

27 кастрычніка 2007

Сёлета ўпершыню імпрэза прайшла безь бел-чырвона-белых сьцягоў, і ўпершыню на ўрачыстасьць ня здолела даехаць моладзь зь Менску.

Калі горадзенская моладзь ужо зьбіралася адʼязджаць у Сьвіслач, у аўтобус увайшоў міліцыянт і папярэдзіў, што ў Сьвіслачы рыхтуецца несанкцыянаванае мерапрыемства. Ён таксама папярэдзіў, каб ні ў якім выпадку не выкарыстоўвалася нацыянальная сымболіка.

Перад уездам у Сьвіслач аўтобус ізноў быў спынены, і ўжо мясцовы міліцыянт паўтарыў папярэджаньне. Зь ім разам у аўтобус увайшоў міліцэйскі апэратар, які здымаў пасажыраў на відэа. На дарозе стаялі машыны ДАІ і амапаўцы.

У мерапрыемстве ў Сьвіслачы ўзялі ўдзел каля 100 чалавек, якія здолелі даехаць з Горадні, Ваўкавыску, Мастоў.

Каля крыжа ўсклалі кветкі, выступілі прамоўцы. Вінцук Вячорка сказаў, што напярэдадні перачытваў „Мужыцкую праўду“ й вось да якіх высноваў прыйшоў:

— Людцы мае, можна браць жыўцом тое, што пісаў Кастусь у пазамінулым стагодзьдзі. Добра, што нам ёсьць на каго абапірацца, што ёсьць тыя вечныя каштоўнасьці, сфармуляваныя нашымі вя-

лікімі продкамі, і нам ня трэба нічога выдумляць з пустэчы. Гэтыя каштоўнасьці з нашай зямлі, з нашага неба, з нашага духу.

Аўтобус, які вёз зь Менску 30 дэмакратычных актывістаў, двойчы спынялі міліцыянты ў Дзяржынску й Баранавічах. Маўляў, паводле іхных зьвестак, у аўтобусе знаходзяцца выбуховыя ці наркатычныя рэчывы. Пазьней затрыманых адпусьцілі, аўтобус вярнуўся ў Менск.

## Артур Клінаў: „Партызан — мэнтальнае цела беларуса“

1 лютага 2008
Вольга Караткевіч

Госьць „Начной Свабоды“ — мастак Артур Клінаў.

**Караткевіч**: Артур, вы выдаяце часопіс „pARTisan“. Калі б сытуацыя ў Беларусі зьмянілася — аднавілася дэмакратыя, нацыянальнае адраджэньне — вы б зьмянілі назоў часопіса?

**Клінаў**: Ні ў якім выпадку. Партызан — гэта шматгадовая традыцыя гэтай зямлі, яна ніяк не залежыць ад сёньняшняй палітычнай сытуацыі. Бо „партызан“ — гэта мэнтальнае цела кожнага беларуса, бо ў кожным беларусе ён сядзіць — на 5, на 10, на 100 адсоткаў. Гэта проста традыцыя гэтай зямлі.

**Караткевіч**: Хто для вас важныя і вызначальныя палітыкі ў гісторыі Беларусі?

**Клінаў**: У мінулай гісторыі для мяне важным палітыкам безумоўна зьяўляецца Кастусь Каліноўскі. Для мяне гэта — квінтэсэнцыя беларускага партызана, клясычнае яго ўвасабленьне.

Для мяне гэта — квінтэсэнцыя беларускага партызана, клясычнае яго ўвасабленьне. У сёньняшняй палітыцы ня ўсё так проста... У сёньняшняй сытуацыі мне хацелася б назваць вельмі важным палітычным праектам праект „Культура“. Бо пакуль беларусы не ўсьвядомяць сябе як нацыя, ніводзін палітычны праект ня будзе рэальны.

## Сьцяг у гонар Каліноўскага і арыштаваных актывістаў

2 лютага 2008

Бел-чырвона-белы сьцяг ізноў залунаў над Віцебскам. Ён зьявіўся апоўначы 2 лютага на даху дома № 38 на вуліцы Суворава.

Празь некалькі дамоў на той самай вуліцы месьціцца райаддзел міліцыі Кастрычніцкага раёну. Сюды 29 студзеня міліцыянты даставілі апазыцыянэраў Барыса Хамайду і Аляксандра Салаўяна, затрыманых за вывешваньне такога самага нацыянальнага сьцяга. Абодва апазыцыянэры цяпер знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрыманьня — адбываюць арышты, прысуджаныя Кастрычніцкім раённым судом.

Да бел-чырвона-белага сьцяга, які лунаў над вуліцай Суворава, пакуль яго не зьнялі з дапамогай супрацоўнікаў МНС і пажарнай машыны, была прымацаваная цыдулка наступнага зьместу: „У гонар слаўнага сына Беларусі, які нарадзіўся 2 лютага 1838 году. Вітаю змагароў Барыса Хамайду і Аляксандра Салаўяна, якія цяпер адбываюць арышт. Жыве Беларусь! Мірон“.

Затрымаць таго, хто вывесіў сьцяг і напісаў цыдулку, міліцыянтам не ўдалося.

**я**

А чаму пра другія гарады не пішаце? Там таксама было шмат цікавага.

**Вячак (Берасьце)**

Вельмі добра, што яшчэ шануюць Кастуся Каліноўскага. Але адзінымі сьцягамі нічога не даб’ешся.

## Каліноўскі і Дунін-Марцінкевіч — у жывапісе і графіцы

2 лютага 2008

2 лютага а 17-й гадзіне на сядзібе БНФ адкрылася мастацкая выстава, прысьвечаная 170-м угодкам Кастуся Каліноўскага і 200-годзьдзю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Распавядае мастак Аляксей Марачкін:

— Прадстаўленыя творы Міколы Купавы — цыкль яго лінарытаў, прысьвечаных паўстаньню 1863 году, творы, прысьвечаныя Дуніну-Марцінкевічу. Цікавыя творы Алеся Цыркунова.

Выстаўленыя працы самога Аляксея Марачкіна. Асабліва ўражвае вялікі парадны партрэт Дуніна-Марцінкевіча, напісаны алеем у 1983 годзе. На выставе дэманструюцца таксама плякаты Ўладзімера Крукоўскага, палотны Міхася Карпука, Тодара Ладуцькі.

Мастак Алесь Цыркуноў выставіў два свае творы: „Люстэрка“ (прысьвячэньне Эдварду Яну Ромэру, грамадзкаму дзеячу, літаратару, перакладчыку і мастаку) і „Пакліканыя і ўтрапёныя прадвечнаю воляй“ — прысьвячэньне Кастусю Каліноўскаму. Мастак прызнаецца, што хацеў невялікім па памерах творам ахапіць увесь арэал таго ваяўнічага пэрыяду:

— Па пэрымэтры — выявы паўстанцаў, паўсотні прыкладна партрэтаў. Кампазыцыя па форме сваёй мае крыж зь бел-чырвона-белай асновай. У цэнтры крыжа — выява кіраўніка паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Чатыры выявы, якія па баках — тых

дзеячоў, якія жылі пазьней і адлюстравалі кожны ў сваёй галіне вобраз правадыра паўстаньня. У жывапісе — малады Пётра Сергіевіч, у паэзіі — Максім Танк, у прозе, драматургіі — Уладзімер Караткевіч, у навуковых дасьледаваньнях — Генадзь Кісялёў.

Сёньня ў сядзібе БНФ ладзіцца вечарына, прысьвечаная 170-м угодкам Кастуся Каліноўскага, з удзелам хору „Унія“ і барда Эдуарда Акуліна.

## Зьміцер Дашкевіч атрымаў ордэн

5 сакавіка 2008

Гэта ордэн Свабоды імя Кастуся Каліноўскага, зроблены з бронзы скульптарам Алесем Шатэрнікам. На ордэне — выява Кастуся Каліноўскага, на звароце надпіс: „Жыві ў свабодзе!“.

Зьміцер Дашкевіч, адзін зь лідэраў незарэгістраванай арганізацыі „Малады фронт“, першы ўзнагароджаны гэтым ордэнам.

Ініцыятары і заснавальнікі ўзнагароды — моладзевыя арганізацыі, актывісты альянсу Маніфэсту „Час перамагаць“, у ліку якіх „Беларускі Моладзевы Рух Амэрыкі“, „Бунт“, „Ініцыятыва“, „Паветра“, „Погляд“, „Трэці Шлях“.

Як паведаміў Радыё Свабода лідэр „Беларускага моладзевага руху Амэрыкі“ Алесь Вінакураў пасьля ўрачыстай цырымоніі ў Таліне, Зьміцер Дашкевіч уганараваны за мужнасьць і пасьлядоўнасьць у змаганьні за свабоду.

На ўрачыстай сымбалічнай цырымоніі ўзнагароджаньня, якая прайшла ў Музэі акупацыі ў Таліне 4 сакавіка, сабраліся моладзевыя актыві-

сты — удзельнікі Кангрэсу маладой беларускай дыяспары з Эўразьвязу і ЗША, моладзевыя актывісты зь Беларусі, а таксама прадстаўнікі Эстоніі і старшыня Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк.

Са Зьмітром Дашкевічам, які ня змог прыехаць у Талін, удзельнікі цырымоніі былі злучаныя тэлефоннай сувязьзю.

## Горадня: Мальчыка выклікалі ў міліцыю

31 сакавіка 2008

Старшыня Горадзенскай абласной арганізацыі партыі БНФ Сяргей Мальчык сёньня даваў тлумачэньні ў міліцыі. На гутарку ў Ленінскі РАУС яго выклікаў позвай маёр Ленец. Міліцыянта цікавіла, штó спадар Мальчык рабіў у гарадзкім парку 25 сакавіка, калі міліцыя ўзяла гэтае месца пад кантроль, чакаючы несанкцыянаванай акцыі апазыцыі. Дэмакратычныя актывісты тады сабраліся ў парку, а потым пакінулі яго і ўсклалі кветкі да мэмарыяльных шыльдаў паўстанцам Т. Касьцюшкі і К. Каліноўскага.

## Хто паўстаў супраць Расеі?

15 траўня 2008
Вячаслаў Ракіцкі

У перадачы „Беларуская Атлянтыда“ ўдзельнічае гісторык мастацтва Сяргей Харэўскі.

*Гулка грыміць лес. Стрэлы і крыкі ў сто разоў гусьцейшыя і бліжэйшыя, ломяцца галіны, чуваць марш цяжкай масы. Праз хвіліну ўбачым маскоўцаў, а перад намі — прасека, ціхая, аблітая сонцам. Замігалі шэрыя шынялі, бліснула зброя і белыя акруглыя воблачкі на фоне лесу. Маскалі займаюць супрацьлеглы край прасекі. Хаваюцца за дрэвы, але наперад нягледзячы на загады афіцэраў ня рухаюцца. Відаць, іх непакоіць ціш з нашага боку. Нарэшце з трэскам і стрэламі рухаюцца шасьцёркамі. Была гэта хвіліна збавеньня, сэрцы біліся гвалтоўна, яшчэ 40 крокаў, і вытнуць ў штыхі, але раздаўся знаёмы нам моцны голас: „Агонь, хлопцы, усёй лініяй!“ І ад канца да канца праляцеў выбух больш сотні стрэлаў, а потым ціша і дым. Ня граюць трубы, маўчыць „ура!“.*

*— Добра, добра, спраўна, набіць зброю, востра, хлопцы! — гукае расчырванелы Нарбут, абабягаючы ўсю лінію.*

*Зноўку граюць трубы і чуваць маскоўская каманда, зноўку грымяць стрэлы і „Ура, вперёд, ребята!“ Ломяцца кусты. Прымушаныя, гнаныя сілай паслушэнства, кідаюцца маскалі галавою ўніз з штыхамі наперад. Ужо, ужо сядзяць у нас на карку. Яшчэ хвіліна, і ўсе кінемся наўцёкі. Але на выгук „Агонь, прыцэльна!“ запальваюцца 150 стрэльбаў на нашай лініі. Воблака дыму закрывае ўсё, уціхае трэск, чуваць толькі енкі параненых і канаючых з абодвух бакоў.*

З успамінаў Міхала Андрыёлі. 1863 год.

**Ракіцкі**: 145 гадоў таму травеньскімі днямі адбыўся шэраг крывавых бітваў беларускіх, польскіх і літоўскіх паўстанцаў супраць Расеі. Выдатны мастак Міхал Андрыёлі быў таксама актыўным

удзельнікам паўстаньня 1863 году пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Пазьней Андрыёлі прысьвеціць тым падзеям нізку твораў. Пакуль жа ён памяняў пяро і пэндзаль на паўстанцкі штых і шаблю. А ці толькі ён? Ці шмат людзей мастацтва ўзялі ўдзел у паўстаньні?

**Харэўскі**: У баку ад нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863 году не застаўся, бадай, ніводзін з нашых творцаў. Многія былі арыштаваныя яшчэ напярэдадні паўстаньня за нелегальную дзейнасьць, напрыклад, у Менску Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і фатограф Антон Прушынскі. Сярод непасрэдных удзельнікаў былі выдатны жывапісец Альфрэд Ізыдар Ромэр, скульптар Генрык Дмахоўскі, якога ў сьвеце ведаюць пад псэўданімам Генры Сандэрс (ён загінуў 26 траўня 1863 году каля вёскі Парэчча пад Барысавам), славуты фатограф, сьпявак і мастак Язэп Ахіл (Джузэпэ Акіле) Банольдзі, той самы Міхал Андрыёлі, які ваяваў зь ім у адным атрадзе з Францішкам Багушэвічам, ды шмат іншых.

**Ракіцкі**: Я разумею, Сяргей, што косы бралі ў рукі і ішлі змагацца супраць расейскага прыгнёту сяляне. Але чаго не хапала гэтым людзям, так званай інтэлігенцыі?

**Харэўскі**: Наконт колькасьці сялянаў, якія бралі ўдзел у паўстаньні Каліноўскага, лічбы розьняцца. А выступалі найперш інтэлігенты, тыя, хто ня мог дзейнічаць інакш. Самы яскравы прыклад — Генры Сандэрс. Чалавек у росквіце славы, заснавальнік амэрыканскай школы скульптуры, чые творы стаяць у Кангрэсе ЗША, ён усё кідае ў Філядэльфіі і ў сталым веку пераяжджае ў Беларусь, каб загінуць у адным зь першых баёў. Як матылькі, яны зьляталі-

ся на гэты агонь. Яны не маглі інакш, у іх не было іншага выбару, бо яны былі так выхаваныя.

**Ракіцкі**: А пазьней людзі мастацтва ўслаўлялі тое паўстаньне і яго герояў у сваіх творах. Дарэчы, Сяргей, я ведаю, што ты і сам напісаў карціну, прысьвечаную паўстаньню 1863 году. Гэта было ў далёкія ўжо твае студэнцкія гады. Які сюжэт ты абраў?

**Харэўскі**: Так, гэта была мая дыплёмная праца ў Менскай мастацкай вучэльні імя Глебава. А звалася яна „Сеча пад Мілавідамі". Гэта было ажно ў 1985–1986 гадох. На мяне, навучэнца мастакоўскай вучэльні, зрабіла вялікае ўражаньне выстава, прысьвечаная юбілею паўстаньня, што адбылася ў Палацы мастацтва ў 1983 годзе.

**Ракіцкі**: Чаму менавіта Мілавіды?

**Харэўскі**: Спачатку мяне ўразіў сам факт пераможнай ці, дакладней сказаць, вялікай бітвы, дзе расейскім карнікам паўстанцы нанесьлі моцныя страты. А калі я ўзяў у рукі пульхныя тамы збору дакумэнтаў „Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии", што быў выдадзены ў Маскве ў 1963 годзе, дык у індэксе імёнаў знайшоў родныя прозьвішчы маіх сваякоў па ўсіх чатырох лініях: Харэўскія, Баркоўскія, Хмялеўскія, Адамовічы. Такім чынам для мяне гэта стала асабістай справай — прысьвяціць твор сваім продкам-героям.

**Ракіцкі**: У савецкі час наколькі гэта было небясьпечна? Па-другое, ці часта мастакі, асабліва юныя, у тую пару разважалі над подзьвігамі каліноўцаў?

**Харэўскі**: Гэта быў савецкі час, але ўжо і час перабудовы. Таму і рэакцыя была неадназначная. Дырэктар вучэльні і парторг вычувалі нейкую крамолу, бо ўсё было навідавоку: беларускія паўстанцы б'юцца з расейскімі жаўнерамі. Але сфармуляваць,

што ня так, ім было цяжка. Але за мяне рашуча заступіўся славуты мастак і пэдагог Альгерд Малішэўскі. Пазьней, калі ўжо адбывалася сама абарона дыплёму, маю працу пахваліў выкладчык Тэатральна-мастацкага інстытуту, вядомы жывапісец Віктар Грамыка. Ужо добра пазьней я дазнаўся, што і ў Грамыкавым радаводзе былі інсургенты. Так, і бацька, і дзядзька вядомага пісьменьніка Міхайлы Грамыкі, таксама прычыніліся да таго паўстаньня.

**Ракіцкі**: Шмат хто зь сёньняшніх беларусаў мае продкаў сярод удзельнікаў паўстаньня пад кіраўніцтвам Каліноўскага... І вось што цікава: у савецкую пару навучэнцы мастацкіх вучэльняў маглі маляваць батальныя творы пра змаганьне беларусаў супраць расейцаў ды яшчэ з выявай „Пагоні“ на палатне…

**Харэўскі**: Так! Сёньня гэта ўявіць сабе немагчыма. Зрэшты, можна растлумачыць тагачаснае стаўленьне камуністычных ідэолягаў да паўстаньня 1863 году. З аднаго боку — катэгарычная цэнзура на поўныя тэксты „Мужыцкай праўды“. Зь іншага боку — існавала гэтак званая інтэрнацыянальная ляяльнасьць да сюжэту паўстаньня беларусаў, палякаў і літоўцаў супраць расейскага царызму.

**Ракіцкі**: А адкуль тады, у сярэдзіне 1980-х гадоў, студэнты, школьнікі дазнаваліся праўды пра тое паўстаньне?

**Харэўскі**: Насамрэч крыніцаў хапала — і маскоўскіх акадэмічных выданьняў, таксама багата было і беларускіх публікацыяў. Шмат пісалі пра 1863 год беларускія гісторыкі Уладзімер Перцаў, Анатоль Сьмірноў, Іван Лушчыцкі, Генадзь Кісялёў, Сусана Самбук. Каліноўскі стаў героем паэмаў

нават у Танка зь Віткам, пра паўстаньне выходзілі кнігі Караткевіча, Мальдзіса, Хомчанкі. І, папраўдзе, хадзіла розная „нелегальная“ літаратура па руках — заходнебеларускія пэрыёдыкі, фатакопіі „Мужыцкай праўды“. Спыніць, перахапіць усё гэта было немагчыма.

**Ракіцкі**: Чаму ж існавала такая пазыцыя ў савецкія часы? Чаму не выціралася памяць пра 1863 год?

**Харэўскі**: Справа ў тым, што на паўстаньне Каліноўскага можа існаваць толькі два погляды — нацыянальна-дэмакратычны (агульны для беларусаў, літоўцаў і палякаў — погляд эўрапейскі) і расейска-шавіністычны (паўстанцы — гэта мяцежнікі, ворагі Расеі і „ісьціннага праваслаўя“, сёньняшняй моваю — тэрарысты). Так што выбар і тады, і сёньня толькі паміж дзьвюма гэтымі пазыцыямі. Таму камуністы-інтэрнацыяналісты — што ў „народнай“ Польшчы, што ў СССР — ніяк не заміналі разьвіцьцю цэлага накірунку ў нашай нацыянальнай гістарыяграфіі. Нагадаю, і подзьвіг Ігната Грынявіцкага, які забіў цара Аляксандра II, помсьцячы за расправу над нацыянальна-вызвольным рухам, бачыўся ў савецкай гістарыяграфіі цалкам пазытыўна. Але дыялектычна гэта спрыяла росту беларускага нацыяналізму.

**Ракіцкі**: І за савецкія часы, і сёньня многія хацелі і хочуць бачыць у вобразах паўстанцаў палякаў. Наколькі справядлівае такое ўяўленьне пра паўстаньне — як польскае і каталіцкае?

**Харэўскі**: Гэта зусім несправядліва і няслушна. У паўстаньні апроч беларусаў і тых самых палякаў удзельнічалі і літоўцы, і ўкраінцы на Валыні, і татары, а таксама і немцы і, нават італьянцы — тыя самыя Банольдзі і Андрыёлі… На бок паўстанцаў

нярэдка пераходзілі й некаторыя расейскія афіцэры і службоўцы.

**Ракіцкі**: Ёсьць сьведчаньні, што ў паўстаньні бралі ўдзел людзі розных веравызнаньняў. Гэтак начальнік штабу карных войскаў у Горадзенскай губэрні пісаў: „Каля вёскі Мілавіды (на мяжы Горадзенскай і Менскай губэрняў) у траўні сяляне цэлымі станамі бралі праваслаўную прысягу на вернасьць мяцяжу“. Сяргей, наколькі тыповай была такая зьява, калі на бок паўстанцаў, пераважна прадстаўнікоў шляхты і каталікоў пераходзілі праваслаўныя сяляне?

**Харэўскі**: Можа, не тыповай, але зусім ня рэдкай. Сапраўды, 17 траўня 1863 году Ігнат Лукашэвіч, калі заняў са сваім атрадам вёску Дабрамысел, сабраным у царкве сябрам воласьці абвясьціў увядзеньне сялянаў ва ўласнасьць і ўраўнаньне ў саслоўных правох. Аб'яву гэтую зрабіў ён разам з тутэйшым сьвятаром праваслаўнай царквы Хрыневічам. Затым сяляне пакляліся быць адданымі паўстаньню. Пад рашэньнем падпісаліся начальнік слонімскага паўстанцкага аддзелу Лукашэвіч, старшыня воласьці Ян Лазарчук і сяляне Зьмітрук Шачэла й Тамаш Канявехта. Між іншым, ёсьць неаднаразовыя сьведчаньні пра ўдзел у нашым паўстаньні і праваслаўных сьвятароў. Гэтак, напрыклад, быў высланы ў Сібір мазырскі протаярэй Іяан Маціевіч, выпускнік Кіеўскай духоўнай сэмінарыі, за „сочувствие и помощь“ паўстанцам. Прымалі ў паўстаньні ўдзел і рэфарматы, і тутэйшыя мусульмане, і юдэі. Таму казаць пра выключна каталіцкі характар паўстаньня не выпадае.

**Ракіцкі**: Адкуль было столькі непрымірымасьці, столькі крыўды ў тутэйшых людзей, што яны з

ахвотаю прымалі ідэі паўстаньня па ўсім краі — ад Горадні да Мазыра?

**Харэўскі**: Вось тут акурат і выявілася непрыманьне той рэлігійнай палітыкі, што праводзіў расейскі ўрад. Паводле аўтарытэтнага дасьледаваньня Ўладзіміра Дзьякава „Карательная политика царизма по отношению к католическому духовенству (1832–1855)“, дзе прыведзеныя зьвесткі пра рэпрэсіі й сьмяротныя прысуды каталіцкім сьвятарам ужо пасьля задушэньня паўстаньня 1831–1832 гадоў, каля дзьвюх з паловаю сотняў ксяндзоў зь Беларусі й Валыні былі пакараныя расейскімі ўладамі ў 1840–50-я гады. Пра гвалтоўнае ўвядзеньне праваслаўнага абраду ў Беларусі казалі нават у Пецярбургу. Пра зьдзекі зь беларускіх грэка-каталікоў абурана пісаў Леў Талстой. А Аляксандар Герцэн надрукаваў у сваім лёнданскім „Колоколе“ артыкул „Секущее православие“. Ня сьціх у народзе боль ад супрацьстаяньня 1812 году, ад вайны 1832 году. Таму разам з эканамічнымі і культурнымі прычынамі глеба для выбуху была відавочна падрыхтаваная.

**Ракіцкі**: І паўстаньне выбухнула. Паводле гістарычных дакумэнтальных зьвестак, у баях прымала ўдзел больш за 30 тысяч паўстанцаў. Адбылося 120 бітваў з расейцамі. На палях бітваў засталося забітымі ад 11 да 30 тысяч паўстанцаў. 38 тысяч прыхільнікаў паўстаньня 1863 году апынуліся на катарзе ў Сібіры. Больш за 10 тысяч чалавек падаліся на чужыну ў Эўропу й Амэрыку. І ў сапраўднай вайне з расейскім царызмам беларусаў, палякаў і літоўцаў асаблівае месца займае сеча пад Мілавідамі 22 траўня 1863 году, дзе паўстанцы атрымалі сапраўдную перамогу.

## Імёны Свабоды: Арцём Вярыга-Дарэўскі

20 траўня 2008
Уладзімер Арлоў

Завёўшы альбом, дзе будзеце зьбіраць запісы людзей вядомых і проста сваіх знаёмых, вы зробіце абсалютна правільна.

Калі-небудзь ваш альбом станецца гістарычнай крыніцаю, а магчыма, і каштоўным літаратурным помнікам.

Найлепш пацьвердзіць мае словы мог бы пісьменьнік і паўстанец Арцём Вярыга-Дарэўскі.

У 1850-я гады ягонае імя ведалі ў шырокіх адукаваных колах значна далей за роднае Прыдзьвіньне, дзе пісьменьнік меў паблізу Віцебску фальварак Стайкі.

Арцём быў карэспандэнтам віленскіх, варшаўскіх і пецярбурскіх газэтаў і часопісаў.

Ягоныя паэмы, гутаркі й драматургічныя творы, ня здолеўшы прарвацца праз цэнзурныя рагаткі, шырока разыходзіліся па краі ў рукапісах.

Зьместам жыцьця Вярыгі-Дарэўскага стала праца дзеля Беларусі.

„Зь Беларушчынай не разбратаўся. Гэта мой ідэал“, — пісаў ён у адным зь лістоў, кратаючы сваю мэфістофэлеўскую бародку.

Шырокае водгульле атрымала яго паездка ў 1858-м у Вільню, дзе падчас сустрэчаў з калегамі й аднадумцамі Ўладзіславам Сыракомлем, Адамам Кіркорам, Вінцэсем Каратынскім і зьявіліся першыя запісы ў знакамітым Арцёмавым „Альбоме“.

Фрагмэнты свайго перакладу „Пана Тадэвуша“ пакінуў там у дні наведаньня Вярыгам Менску

адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Як толькі на пачатку 1860-х у Віцебску пачаліся патрыятычныя маніфэстацыі, уладальнік Стайкаў таксама зьняў са сьцяны канфэдэратку.

Пільнае жандарскае назіраньне не спыніла Арцёма і ў 1863-м, калі ён стаў адным з натхняльнікаў і кіраўнікоў вызвольнага змаганьня на роднай Віцебшчыне.

Пасьля арышту, цягам двухгадовага сьледзтва ён трымаўся ня толькі мужна, але і ўмела, захаваўшы шмат якія зьвесткі пра паўстаньне ў таямніцы. Вайсковы суд адмераў яму восем гадоў катаргі.

У Сібіры (дзе разам зь ім была дачка Габрыеля), і на катаржных работах на саляварным заводзе ва Ўсольлі, і на пасяленьні ў Іркуцку, і ў свае апошнія гады на залатых сібірскіх капальнях — ён не адклаў убок пяро, заслужыўшы ў палітвысланцаў імя Вайдэлёт Беларусі.

Нейкі час Вярыга-Дарэўскі лічыўся адным зь верагодных аўтараў паэмы „Тарас на Парнасе“. Гэтая вэрсія ня вытрымала праверкі часам, але і без таго ён пакінуў багатую спадчыну: вершы, драмы, падарожныя нататкі, першы пераклад Міцкевічавага „Конрада Валенрода“, паэму „Ахульго“, прысьвечаную змаганьню горцаў на чале з Шамілем...

Большая частка ягоных рукапісаў ня знойдзеная і, хочацца верыць, яшчэ чакае дасьледнікаў у архіўных сховішчах.

А вось „Альбом“ шчасьліва дайшоў да нашых дзён.

Арцём Вярыга-Дарэўскі. 16.11.1816, мяст. Кублічы, цяпер Вушацкі раён — 1884, Іркуцк, Расея. Месца пахаваньня невядомае.

## Мілавідзкая перамога

23 траўня 2008
Вячаслаў Ракіцкі

У передачы „Беларуская Атлянтыда“ ўдзельнічае гісторык мастацтва Сяргей Харэўскі.

**Ракіцкі**: Роўна праз 145 гадоў пасьля Мілавідзкай бітвы мы называем яе выключна важнай ня толькі для хады антырасейскага паўстаньня ў Беларусі, Польшчы і Літве пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, а і для хады беларускай гісторыі. А яна ж, паводле сёньняшняга разуменьня, пасьля шматлікіх войнаў XX і ўжо XXI стагодзьдзяў выглядае зусім не крывавай і ня надта маштабнай. Дык у чым яе вялікасьць?

**Харэўскі**: Гэта была тая рэдкая бітва, дзе паўстанцы атрымалі насамрэч перамогу. Тутака былі згуртаваныя блізу тысячы паўстанцаў пад агульным кіраўніцтвам палкоўніка Ляндэра (Аляксандра Лянкевіча). Акрамя аб’яднанага слонімскага аддзелу на чале з Францішкам Юндзілам (каля 300 чалавек), у лягеры месьціліся й навагрöдзкі аддзел Міладоўскага, ваўкавыскі — Стравінскага, пружанскі — Влодэка. То бок, гэтая бітва мела міжрэгіянальны характар. Таму перамога пад Мілавідамі і атрымала шырачэзны розгалас па ўсім краі. І ўскалыхнула новую хвалю супраціву, да якога далучаліся і праваслаўныя сяляне. Паўстанцы, калі скончылі бітву сваёй перамогай — і тактычнай, і маральнай, — дапісалі ў гісторыю барацьбы за волю слаўную старонку.

**Ракіцкі**: Як на той час, гэта была вельмі маштабная бітва? Колькі людзей у ёй бралі ўдзел?

**Харэўскі**: Толькі з нашага боку ўдзельнічалі каля 800 паўстанцаў, а з другога — 5 ротаў салдатаў, якія мелі 4 гарматы. 22 траўня 1863 году каля сяла Мілавіды Слонімскага павету і грымнула бітва. Разам горадзенскія, ваўкавыскія, слонімскія і навааградзкія паўстанцы разьбілі расейскія аддзелы. Карнікі не змаглі ўзяць лягер паўстанцаў і зь вялікімі стратамі адышлі. Бітва, у якой агулам загінулі 52 расейскія жаўнеры і 18 паўстанцаў, цягнулася ўвесь дзень. Аднак і паўстанцы ноччу пакінулі лягер. Калі на дапамогу расейскім войскам прыйшлі тры батальёны зь Нясьвіжу, ім заставалася толькі пахаваць палеглых у дзьве магілы.

**Ракіцкі**: І колькасна, і якасна расейскія войскі мелі перавагу над паўстанцамі. Дык як так магло стацца, што пад Мілавідамі перамаглі паўстанцы?

**Харэўскі**: У іх былі маральная перавага і сапраўдны баявы ўздым. Сабраліся паўстанцы з розных паветаў, розных сацыяльных станаў і розных веравызнаньняў. 20 траўня паўстанцкі лягер адведваў сам Кастусь Каліноўскі, які, напэўна, змог сваёй харызмаю натхніць паўстанцаў.

**Ракіцкі**: Наколькі актыўна ўвогуле адбывалася паўстаньне пад кіраўніцтвам Каліноўскага? Ці характэрнымі былі для яго масавыя сечы кшталту Мілавідзкай?

**Харэўскі**: Усяго на сучаснай тэрыторыі Беларусі зь лютага па жнівень 1863 году зафіксавана 46 баёў і баявых сутычак паўстанцаў з расейскімі войскамі. У той самы дзень 22 траўня беларускія паўстанцы атрымалі буйную перамогу ў бітве каля Лісінай гары, каля вёскі Кадыш, пад Горадняй. За дзень да таго — пад Тараканаўкай на Лагойшчыне. Адбыўся жорсткі бой 9 траўня пад Юравічамі, што на

Чэрвеньшчыне, таксама прыкметнымі былі баі пад Азярцамі на Случчыне, 21 красавіка пад Пятровічамі (у Смалявіцкім раёне), пад Лядамі Старадароскага раёну, пад Падбярэзьзем на Барысаўшчыне, пад Іжай на Вялейшчыне 24 траўня 1863 году. Апошні партызанскі батальён ксяндза Станіслава Бжоскі, які дзейнічаў на Падляшшы, быў разьбіты толькі вясною 1865 году. Так што ёсьць куды занесьці кветкі гэтымі днямі.

**Ракіцкі**: Наколькі сюжэт паўстанцкай бітвы характэрны для нашага мастацтва?

**Харэўскі**: Паўстаньне 1863 году вельмі рана, фактычна адразу, знайшло сваё адлюстраваньне ў выяўленчым мастацтве. Гравюры з выяваю сечы пад Мілавідамі зьявіліся ў тагачасным эўрапейскім друку.

Падзеі паўстаньня сталі галоўнай тэмай твораў Міхала Андрыёлі, які зрабіў на эміграцыі вялікую графічную сэрыю. Шмат твораў, прысьвечаных паўстаньню 1863 году ў Беларусі, зрабіў выдатны польскі мастак родам з Украіны Артур Гротгер. З 1920-х гадоў тэма паўстаньня 1863 году стала адной з самых значных у беларускім мастацтве. Да яе зьвярталіся скульптары Грубэ і Азгур, жывапісцы Волкаў, Гугель і Кудрэвіч, графікі Герус і Гембіцкі. Нізку палотнаў, прысьвечаных паўстанцам і іх правадырам, Каліноўскаму і Ўрублеўскаму, напісаў у Вільні Пётра Сергіевіч. Пасьля вайны ўжо была створаная цэлая галерэя карцінаў Шчамялёвым, Дударонкам, Стальмашонкам, Марачкіным, Янушкевічам. Былі графічныя сэрыі Драчова, Купавы, Куліка. Ды ўсіх не зьлічыць! Тэма паўстаньня 1863 году шырока прадстаўленая таксама ў польскім і ў літоўскім мастацтве.

**Ракіцкі**: І ва ўсіх гэтых творах, калі ня патасна, дык падкрэсьлена аптымістычна, адлюстраваны гераізм паўстанцаў. Але ж… Вядома, што паўстаньне атрымала паразу, а за паразаю пацягнуліся рэпрэсіі. Каталі, ссылалі і каралі сьмерцю найлепшых сыноў Бацькаўшчыны. Паводле царскага указу 1863 году, маёнткі, рухомая маёмасьць і капіталы асобаў, якія мелі дачыненьне да „бунту“, падлягалі канфіскацыі. Пасьля задушэньня паўстаньня царскі ўрад пачаў яшчэ больш жорстка выкарчоўваць усе праявы нацыянальнай сьвядомасьці, нацыянальнай годнасьці. Узмацнялася русыфікацыя. Дык адкуль патас, чаму аптымізм пануе ў творах, прысьвечаных паўстаньню?

**Харэўскі**: Але хто сказаў, што да паўстаньня не было палітычных рэпрэсіяў і гвалтоўнага абмаскальваньня? Паўстаньне і было натуральнай рэакцыяй на тое, што выраблялі ў нашым краі расейскія чыноўнікі. Жорсткімі рэпрэсіямі былі зьнішчаныя тыя парасткі нацыянальна-культурнага адраджэньня, што паўставала ў 1840–50-я гады, былі выкараненыя ўсе праявы нацыянальнай дзейнасьці і беларусаў, і літоўцаў. Вынікі паўстаньня былі нашмат большыя і глыбокія, чым гэта зазвычай прамаўляюць хуткамоўна. Сяляне Беларусі атрымалі ад расейскага ўраду істотныя саступкі ў часе рэалізацыі зямельнай рэформы, што палегчыла іх становішча. Ім былі часткова вернутыя землі, абрэзаныя перад паўстаньнем. Беларусь стала суб’ектам новай гісторыі, дзякуючы выданьню па-беларуску паўстанцкай публіцыстыкі, праклямацыяў і „Мужыцкай праўды“. Упершыню менавіта да палітычнай і нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў зьвярнуліся палітыкі. І ня толь-

кі Кастусь Каліноўскі. Напрыклад, Аляксандар Аскерка, адзін зь лідэраў правага, „белага“ крыла паўстаньня, яшчэ ў 1862 годзе ў Варшаве выдаў беларускі буквар-катэхізіс „Элемэнтаж для добрых дзетак каталікоў“. Палітычны сэнс такога выданьня быў відавочны. У сваю чаргу і расейскія чыноўнікі спрабавалі праз свае праклямацыі і брашуркі зьвяртацца да нашага народу па-беларуску. Вось у гэтай супярэчнасьці і паўстала Беларусь.

**Ракіцкі**: Вы хочаце сказаць, што паўстаньне, жорстка задушанае расейскім войскам, прысьпешвала народзіны беларускай самасьвядомасьці. Але ж, як кажуць, і сёньня гэтая думка вельмі часта гучыць на афіцыйным узроўні, што мовай ня будзеш сыты…

**Харэўскі**: Тут і мова, і культура, і эканоміка цесна ўзаемазьвязаныя. Паўстаньне прысьпешыла мадэрнізацыю Беларусі ва ўсіх адносінах. Расея пачала ліхаманкава пракладаць праз наш край чыгункі. Ужо ў 1902 годзе вайсковы міністар Расеі Дзьмітры Мілюцін пісаў наўпрост: „Каб не была пабудаваная Пецярбурска-Варшаўская чыгунка, паўстаньне не было б падаўленае і паўстанцы здолелі б разыграць ролю ваюючай краіны…“. Але чыгунка адкрыла беларусам і шырокі сьвет. Менавіта пры чыгунцы і сфармавалася наша першая нацыянальная інтэлігенцыя. Янка Лучына, Максім Багдановіч, Альберт Паўловіч, Карусь Каганец, Уладзіслаў Галубок працавалі на ёй. Чыгунка злучыла розныя канцы нашага краю. Разам зь сялянскай рэформай яна дала магутны штуршок фармаваньню нашай нацыі. А памяць пра герояў паўстаньня 1863 году, многія зь якіх былі бацькамі дзеячаў нашага абуджэньня ў пачатку XX стагодзьдзя, давала веру

і цьвяліла пачуцьцё годнасьці. Дазволю сабе лягічна прыпусьціць, што тое паўстаньне і яго вынікі, улучна з замахам Ігната Грынявіцкага на Аляксандра II, сталі пачаткам канца Расейскай імпэрыі, якой ня стала на мапе сьвету празь пяць дзясяткаў гадоў пасьля задушэньня паўстаньня Кастуся Каліноўскага. І ніхто ня кінуўся яе ратаваць — ні літоўцы, ні палякі, ні беларусы.

**Ракіцкі**: Пасьля бітвы пад Мілавідамі загіблых пахавалі ў дзьвюх магілах — у адной паўстанцаў, у другой расейцаў. Ці зьберагліся гэтыя магілы?

**Харэўскі**: Так, адразу падпалкоўнік Булгарын загадаў пахаваць паўстанцаў і „русских богатырей“ у розных магілах і нават па розныя бакі дарогі. Месца пахаваньня расейцаў адразу ж было ўшанаванае чыгунным крыжам і агароджаю. Крыж захаваўся і да сёньняшніх дзён, нягледзячы ні на што. Нават за польскім часам, што б там ні казалі пра польскі шавінізм. А над магілай беларускіх паўстанцаў толькі ў 1933 годзе была пастаўленая і высьвечаная прыгожая капліца ў стылі нэаклясыцызму. І да сёньня яна застаецца месцам паломніцтва патрыётаў.

## Лукашэнка, Машэраў, Каліноўскі...

8 ліпеня 2008

У беларусаў растуць сымпатыі да Кастуся Каліноўскага.

Гэта вынікае з апытаньня, якое правёў сёлета ў чэрвені зарэгістраваны ў Літве Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледа-

ваньняў (НІСЭПД). Рэйтынг папулярнасьці славутага беларуса параўнальна зь першым апытаньнем (1996) вырас утрая — да 13,6 супраць 4,2 працэнта. У сьпісе самых папулярных сярод беларусаў палітыкаў ён займае цяпер пятае месца.

Удзельнікам дасьледаваньня задавалі пытаньне: „Хто з палітычных дзеячоў у найбольшай ступені вам сымпатычны і адпавядае ідэалу палітыка?“ У выніку апытаньня былі вызначаныя тры першыя асобы. Гэта Уладзімер Пуцін (31,2), Аляксандар Лукашэнка (25,2) і Пётар Машэраў (23,5).

Экспэрты НІСЭПД зьвяртаюць увагу на надзвычай нізкія рэйтынгі Вацлава Гавэла і Леха Валэнсы. У зьвязку з гэтым яны адзначаюць: „Усходнеэўрапейскі шлях у Эўропу, які ўвасоблены ў Вацлаве Гавэле і Леху Валэнсе, шлях найбольш рэальны і для Беларусі, мяркуючы па ўсім, ня вельмі прывабны для беларусаў“.

## У Сьвіслачы ўшаноўваюць паўстанцаў

2 лістапада 2008

На Дзяды грамадзкія актывісты Горадзеншчыны ўшаноўваюць памяць братоў Кастуся і Віктара Каліноўскіх у Сьвіслачы.

У 11 гадзінаў удзельнікі мерапрыемства накіруюцца да помнікаў Кастусю і Віктару Каліноўскім, каб ускласьці кветкі. Пасьля ўдзельнікі сьвята наведаюць вёску Якушоўку, дзе некалі была сядзіба роду Каліноўскіх. Там заплянаваны канцэрт беларускіх бардаў. Зранку ў сьвіслацкім касьцёле адбылася імша па паўстанцах 1863 году.

## Жыцьцё і сьмерць мітаў: Чаму паўстанцы не партызаны

5 сьнежня 2008
Вячаслаў Ракіцкі

У перадачы ўдзельнічае філёзаф Валянцін Акудовіч.

**Акудовіч**: У першую чаргу беларускія партызаны былі проста ахвярамі чужынскіх нашэсьцяў. Абрабаваныя ўшчэнт падчас вайсковых кампаніяў і сваімі, і чужымі, беларусы такім рабаўніцкім чынам спрабавалі хоць у малой ступені кампэнсаваць тыя страты, што нанесьлі ім узброеныя прыхадні. А вось ацэнка іх паводзінаў і ўчынкаў залежала ад таго, на чыю карысьць у канкрэтнай сытуацыі гэтыя ўчынкі рабіліся. Таму заўсёды для некага яны былі бандытамі, а для некага — героямі. Так было і ў 1920-я гады пад польскай акупацыяй Заходняй Беларусі, так было і пад нямецкай акупацыяй у 1940-я гады. Дарэчы, як толькі немцаў прагналі зь Беларусі, дык тыя партызаны, што засталіся ў супраціве да бальшавікоў, апошнімі таксама пачалі называцца бандытамі. Але насамрэч у сваёй сутнасьці беларуская партызанка ніколі не была ні бандыцтвам, ні змагарнай барацьбой. Яна заўсёды была спосабам выжыць у пару ліхалецьця, а паколькі адно ліхалецьце неўзабаве мянялася на другое, дык беларуская партызанка з спосабу выжыць ператварылася ў спосаб жыць, які ўкарэнены ў нас вякамі і, магчыма, на вякі.

**Ракіцкі**: Калі так разумець беларускую партызанку, дык тады да яе можна аднесьці і антырасей-

скія паўстаньні XIX стагодзьдзя? Тактыка дзеяньняў была падобная.

**Акудовіч**: Сапраўды, многія залічваюць на рахунак беларускага партызанства антырасейскія паўстаньні 1831-га і асабліва 1863 гадоў. І хаця фармальных падставаў для такога меркаваньня як быццам даволі, я ня схільны зь ім пагаджацца. Бачыце, падабенства з партызанкай тут адно ў некаторых формах барацьбы, а па сутнасьці гэта дзьве радыкальна адрозныя зьявы. Антырасейскія паўстаньні мелі цалкам ідэалягічнае паходжаньне. Тады змагаліся не за само жыцьцё, а толькі за іншы, вольны ад расейскага панаваньня, спосаб жыцьця. І якраз таму паўстанцаў Каліноўскага мы называем не партызанамі, а касінерамі.

## Мірон павіншаваў К. Каліноўскага

9 лютага 2009

Паводле апазыцыянэра Барыса Хамайды, які даведаўся пра акцыю Мірона з вартых даверу крыніц, нацыянальны сьцяг залунаў 7 лютага каля сёмай вечара на электрычных дратах над вуліцай Першамайскай у Віцебску.

Спадар Хамайда паведаміў таксама, што да сьцяга была прымацаваная цыдулка са словамі „Да народзінаў нацыянальных герояў Беларусі Тадэвуша Касьцюшкі і Кастуся Каліноўскага. Абаронім нашу Радзіму! Нам ёсьць, з каго браць прыклад. Жыве Беларусь! Жыве вечна! Мірон“.

## Галіньскі: „Рэспубліка бэтоннай пліткі і сярэднявечных шклопакетаў”

20 сакавіка 2009

Грамадзкі рэдактар тыдня — польскі журналіст Цэзары Галінскі. Сёньня ён дзеліцца сваімі ўражаньнямі пра беларускі пратэст супраць зносу ў Вільні крыжа ў гонар Кастуся Каліноўскага:

— Ужо пэўны час уважліва адсочваю інфармацыю наконт спробаў захаваньня крыжа ў па-

мяць Кастуся Каліноўскага ў Вільні. Знак у гонар кіраўніка нацыянальнага паўстаньня ня ўпісваецца ў архітэктурныя пляны гарадзкой мэрыі, датычныя Лукіскага пляцу, дзе 22 сакавіка 1864 году быў павешаны „Яська, гаспадар з-пад Вільні“.

Нічога ня скажаш, рашэньне ўладаў літоўскай сталіцы скандальнае. Але ўсё ж пэўную лёгіку можна ў ім адсачыць.

Прадстаўнікі адной з трох нацыяў, якія ў гістарычным і культурным кантэксьце прэтэндуюць на Вільню, цяпер там законныя гаспадары. І трэба сказаць — добрыя гаспадары.

Літоўцы нават бяз крыжа на Лукішках неяк выжывуць. Помнікаў гісторыі там хапае, і яны пад надзейнай аховай. Kostas Kalinauskas там таксама не адзіны герой. Таму раптоўная актыўнасьць з нагоды абароны лукіскага крыжа з боку беларусаў выглядае амаль крывадушнай.

Што, у самой Беларусі няма чаго абараняць?

Вядома, пакуль можна ўсё валіць на калгасны рэжым Лукашэнкі.

Але жыць у гэтай краіне калісьці прыйдзецца і пасьля яго. Няўжо да таго часу гэта будзе краіна муляжоў і „сярэднявечных“ шклопакетаў? „Пагоню“ і бел-чырвона-белы сьцяг можна вярнуць хоць заўтра, але пабудаваць на бэтоннай плітцы нацыянальную сьвядомасьць народа і гонар за Радзіму будзе значна цяжэй.

**znajoncy**

Kryž na Lukišskim placy pastauleny u honar zmaharou za letuviskuju niezaležnasc. Pastauleny kryž adnosna niedauna, hadou 15 tamu. U honar paustancau 1863 h. K.Kalinouskaha i Z.Sierakouskaha pastaulena kamiennaja plita. Sama ž šybienica znachodzilasia na supraclehlym baku, la budynku byloha kdb.

**Vilenchyk**

Знак у гонар кіраўніка нацыянальнага паўстаньня ня ўпісваецца ў архітэктурныя пляны гарадской мэрыі, датычныя Лукіскага пляцу — zamocna skazana. U adzin z siami prajektau upisvajecca. Dy i rashennie jashche ne pryniataje. Ale, shto slushna — heta suchasnaja tendencyja u Vilni na kamercyjanalizacyju dy tanny glamur razburaje dushu Vilni, i heta cudouna, shto belaruskaja moladz zmahajecca, jak mozha, za hetyju dushu, i magchyma peramozha tam, dze cerpic parazu litouskaja intelegencyja.

**da znajoncy**

heta usim viadoma, hto u Vilni padyhodziu hacia raz da kryzha, i tym, music, hto i ne padyhodziu )))) ale usim viadoma, shto kryzh pryniata nazyvac kryzham Kalinouskaha, tak i staryja vilenchuki kazali, i nijakaj supiarechnasci tut niama.

**zmaharka**

Nu, tyja khto arhanizavali szum vakol kryza Kalinouskaha u Vilni, ni u Harodni, ni u Mensku ne zhyli, i heta zusim maladyja liudzi, i jany u svaikh miastechkakh u Belarusi, jashche kali vuchylisia u szkole, jak hramadziane byli nastolki aktyunymi, szto ulady belaruskija pastaralisia im zakryc szliakh na radzimu. Jany jak aktyunyja narmalnyja liudzi robiac toje, szto mohuc, tam dze jany josc ciaper.

**Aleks**

Літоўцы нават без крыжа на Лукішках неяк выжывуць. Litoucy — tak, vyżyvuć — heta ż nia ichniaja historyja. A voś ci vyżyviem MY?

**Слухай бацьку**

Няўжо да таго часу гэта будзе краіна муляжоў і „сярэднявечных“ шклопакетаў? Гэта яснавельможны пан пра Варшаву? У яблычак — адныя муляжы... Гістарычны Дыснэйлэнд... Калі працягнуць лагічны ланцужок, заўважаны ў артыкуле (бруканка-нацыянальная свядомасць), то ў сучаснай Польшчы мы назіраем дыснэйлэндаўскую вялікапольскую пыху, як бы чарговы раз гэтая пасіянарная краіна не апынулася ля разбітага карыта. Артыкул — бязглузды наезд на абаронцаў крыжа (увогуле, перш чым крытыкаваць, пажадана акрэслі-

ць кола ‘падазраваных’, бо калі гэта віленскія беларусы, то закідон ім наконт таго, што яны не клаліся пад бульдозеры ў Горадні ці Магілеве — глупства вышэйшай маркі, добра што Антарктыду не прыплялі).

**Alies’**

Zhodny. Belarusy strachvayuc’ kozhny dzien’ u 100 razow bol’sh chym adzin kryzh. Sprava ne u kalhasnym rezhyme. Rezhym — liahichnae nastupstva kalhasnasci usioj nacyi, neadukavanaj i abyjakavaj.

**Ганна (Минск)**

Цалкам падтрымливаю Алекса. Видаць, Галчынскаму у свой час мала дали па рэбрах ци пан ужо забыуся пра той выпадак.

**Беларускі украінець (Менск)**

Аўтар крытыкуе не абаронцаў крыжа, а абыякавую масу, якая нічога не робіць для захавання сваёй спадчыны і тым самым прайграе літоўцам (летувісам) у маральным праве на гэтую спадчыну. Аўтар паспрабаваў абудзіць вашую свядомасць, канструктыўна справакаваць нацыянальныя пачуцці на дзеянні, а нарваўся, як звычайна, на надзьмутае абурэнне ім жа. Як заўсёды. Дык што, лепш сядзець моўчкі і рабіць выгляд, што праблемы няма?

## Акцыя памяці Кастуся Каліноўскага ў Менску

22 сакавіка 2009

Актывісты незарэгістраванай арганізацыі „Правы альянс“ у гадавіну сьмяротнага пакараньня Кастуся Каліноўскага на аднайменнай вуліцы ў Менску наклеілі яго партрэты з надпісам: „Слава герою!“. А 15-й гадзіне актывісты запалілі сьвечкі на пачатку вуліцы і правялі там мітынг.

# Беларусы змагаюцца за памяць Каліноўскага ў Вільні

24 сакавіка 2009

Беларуска-літоўска-польскі „Паўстанцкі ланцуг“ у дзень сьмерці Кастуся Каліноўскага ў Вільні сабраў на Лукіскім пляцы некалькі дзясяткаў чалавек.

Выступоўцы адзначалі, што памяць Каліноўскага ў Вільні належным чынам дасюль не ўшанаваная. Ніякага памятнага знаку на Замкавай гары, дзе ён пахаваны, сёньня няма. На месцы, дзе 22 сакавіка 1864 году стаяла шыбеніца каля будынку суду пры Лукіскім пляцы, цяпер знаходзіцца сымбалічны помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў. А мэмарыяльная пліта каля касьцёла сьв. Якуба разам з крыжам можа не захавацца ў выніку рэканструкцыі Лукіскага пляцу.

На адкрытым паседжаньні у Віленскай мэрыі напрыканцы лютага з удзелам прадстаўнікоў грамадзкасьці абмяркоўваліся вынікі другога этапу конкурсу праектаў перабудовы плошчы. Толькі адзін зь сямі праектаў пакідае месца для мэмарыяльнага знака паўстанцам. Пасьля пратэстаў грамадзкасьці на цяперашні момант разгляд праектаў рэканструкцыі плошчы прыпынены.

На пачатку сакавіка Згуртаваньне беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“ даслала зварот да прэзыдэнта Літвы Валдаса Адамкуса з просьбай дапамагчы захаваць мэмарыяльны знак у гонар паўстанцаў 1863-64 гг. на Лукіскай плошчы.

Віленскія актывісты заявілі на акцыі 22 сакавіка, што будуць сачыць за лёсам памятнага знака і змагацца за памяць Кастуся Каліноўскага ў Вільні.

## Ушанавалі памяць змагароў за незалежнасьць

08 чэрвеня 2009

7 чэрвеня пад Мілавідамі каля помніка паўстанцам 1863 году адбылася традыцыйная імпрэза баранавіцкай грамадзкасьці. На ўшанаваньне памяці тых, хто загінуў у бітве з расейскімі войскамі, прыехалі баранаўцы са сваімі дзецьмі, мясцовая моладзь, беларускія палітыкі, літаратары — усяго каля 50 чалавек. На імпрэзе прагучалі ўрачыстыя прамовы, выступы з экскурсамі ў гісторыю, патрыятычныя песьні і саксафон з „Палянэзам Агінскага“.

## Падарожжа ў Мілавіды

12 чэрвеня 2009
Віталь Сямашка

У Баранавічах мы перастрэліся з гісторыкам Віктарам Сырыцам, старшынём тутэйшай рады ТБМ. Я ехаў у Мілавіды, а ён адтуль вяртаўся. Мінулай нядзеляй 15-ты год запар арганізоўваў там фэст, прысьвечаны ўшанаваньню памяці касінераў Каліноўскага. Суразмоўца яшчэ поўніцца ўражаньнямі ад фэсту:

— У самых Мілавідах заўсёды з навакольных вёсак прыходзяць моладзь, бабулі, дзядулі і распавядаюць, як яшчэ за польскім часам сьвяткавалі падзею. Віктарыну праводзілі па Мілавідзкай бітве ў гарадзкой газэце. Сёньняшнія ўлады стрымана

ставяцца, але калі мы назьбіраем подпісы, каб падрамантаваць помнікі, дык яны выконваюць... У Мілавідах увасобілася ўся наша гісторыя. Бо з аднаго боку стаіць помнік царскім карнікам, з другога боку — змагарам за свабоду. І толькі ў найноўшыя часы беларусы зрабілі на беларускай мове шыльду ў гонар паўстанцаў Каліноўскага...

Памянёныя помнікі я знайшоў за чатыры дзясяткі кілямэтраў ад Баранавічаў уздоўж шашы Івацэвічы — Слуцак, амаль на ўскраіне раёну. Побач засьценак Каўпакі, адкуль ад сваякоў вяртаўся жыхар Мілавідаў 50-гадовы спадар Палуянчык. Ён жыве, дарэчы, побач з вуліцай Паўстанцаў. Распавёў пра прыкры выпадак напярэдадні фэсту — зь беларускага каменя-валуна нехта сарваў бронзавую шыльду з надпісам:

— Пакралі тую шыльдачку „за вольнасьць нашу і вашу“, дык на кардонцы начапілі на загад старшыні сельсавету — „Квітней, Беларусь!“ (Сьмех.)

— А народ памятае, што тут мясьціны Каліноўскага?

— Ведаюць, ведаюць! Годнасьць ёсьць, як аднавілі помнік. Аўталаўкі прыходзяць, як сьвята, бо людзі зьбіраюцца, прыяжджаюць. Памятаюць…

Дырэктарка сярэдняй школы спадарыня Марыя Прымшыц літаральна даклыпала ў школу праз 10 хвілін пасьля майго зьяўленьня — нядаўна зламала нагу. Кажа, дзякуй Богу, хата настаўнікаў за некалькі мэтраў. Траўма, аднак, не перашкодзіла ёй выступіць на нядзельным мітынгу-ўшанаваньні — школа ўсё-ткі носіць імя Кастуся Каліноўскага! Правяла мяне і па школьных музэях.

Яшчэ ў Баранавічах я нагадаў Віктару Сырыцу дэвіз, зь якім калісьці пад Мілавідамі змагаліся

касінеры Каліноўскага — „за наданьне зямлі сялянам ды скасаваньне прыгону“. Той пасьмяяўся — „тады хоць зараз аднаўляй лягер інсургентаў“:

— Зямлёй мілавідаўскія сяляне тады не валодалі, і сёньня ёй валодае калгас. А сяляне — толькі парабкі, якія ніякіх правоў ня маюць. Цяпер гэта проста рабы сыстэмы. Тое, чаго патрабавалі каліноўцы, гучыць актуальна. Няма і волі. Воля тады будзе, калі ўласнасьць. Тады будзе і нацыянальны гонар. Вось тады помнікі будуць ня памятнымі камянямі, а выхоўваць патрыётаў. І людзі будуць ганарыцца і самі ўскладаць кветкі.

## Жыцьцё і сьмерць мітаў: Кастусь Каліноўскі

31 ліпеня 2009
Вячаслаў Ракіцкі

У перадачы „Беларуская Атлянтыда“ ўдзельнічае гісторык Алесь Краўцэвіч.

**Ракіцкі**: Кастусь Каліноўскі — той рэдкі нацыянальны герой, які быў міталягізаваны ў савецкую камуністычную пару. Гэты самы міт быў прыняты таксама незалежніцкім беларускім грамадзтвам. Чаму так сталася?

**Краўцэвіч**: Міт Кастуся Каліноўскага — адзін зь нешматлікіх мітаў савецкай эпохі, які арганічна ўкладаўся ў кантэкст беларускай нацыянальнай ідэалёгіі. Ён ня нішчыў яе, а, наадварот, падмацоўваў. Каліноўскі — змагар за вольнасьць беларусаў. І менавіта за нацыянальную і сацыяльную вольнасьць беларускага сялянства — тады, у XIX стагодзьдзі, фактычна адзінага сацыяльнага пласта,

які быў носьбітам нацыянальнай беларускай культуры.

**Ракіцкі**: Дык чаму ж камуністычныя ідэолягі так прыязна ставіліся да асобы Каліноўскага, што вывучалі паўстаньне, якое ён ачольваў, у школах, унівэрсытэтах, называлі ягоным імем вуліцы, дазвалялі мастакам пісаць ягоныя партрэты, а пісьменьнікам пісаць раманы? І гэта адбывалася ў так званай інтэрнацыяналістычнай дзяржаве, дзе насамрэч дамінавала расейская нацыя, супраць панаваньня якой у XIX стагодзьдзі на землях Беларусі і Літвы змагаўся Каліноўскі?

**Краўцэвіч**: Узьнікненьне міту Каліноўскага ў савецкія часы было абумоўлена ідэалягемай змаганьня з самадзяржаўем. Гэтая ідэалягема была складовай часткай ідэалягічнай праграмы расейскіх камуністаў. Парадокс у тым, што, адбудоўваючы Расейскую імпэрыю, бальшавікі адкідвалі яе галоўнага будаўніка — царызм. Абвяржэньне самадзяржаўя было іх інструмэнтам для здабыцьця ўлады. А потым, калі ўладу здабылі, царская Расея ў Савецкім Саюзе заставалася фонам, на якім дэманстраваліся савецкія дасягненьні ў эканоміцы, культуры і дзяржаўным жыцьці. Таму ў савецкай мадыфікацыі Расейскай імпэрыі дазвалялася міталягізацыя гістарычных асобаў, якія выступалі супраць тагачаснай улады, такіх, як Разін, Пугачоў, дзекабрысты, а ў нашым выпадку — Кастусь Каліноўскі. І беларусы напоўніцу скарысталіся з гэтага непісанага ідэалягічнага дазволу і раскруцілі вобраз Кастуся настолькі, наколькі было магчыма.

**Ракіцкі**: Раскручвалі Кастуся Каліноўскага сьвядома як нацыянальнага героя, змагара супраць расейскай акупацыі, ці ўсё ж у межах камуністыч-

най ідэалягемы — як змагара супраць царскага прыгнёту?

**Краўцэвіч**: Натуральна, ва ўмовах Савецкага Саюзу акцэнтацыя антырасейскай пазыцыі Каліноўскага была немагчымай. Гісторыкі, літаратары зьвярталі ўвагу найперш на сацыяльна-рэвалюцыйны аспэкт дзейнасьці Каліноўскага і замоўчвалі антырасейскі. Нават згадка пра нейкія нэгатыўныя ў адносінах да расейцаў дзеяньні ці выказваньні не дапускалася. Пра братні народ можна было пісаць толькі станоўча. Успомнім, напрыклад, творы Ўладзімера Караткевіча „Каласы пад сярпом тваім“, „Паром на бурнай рацэ“, „Зброя“ — там абавязкова прысутнічалі станоўчыя расейцы, якія спачувалі або дапамагалі паўстанцам.

**Ракіцкі**: Чаму менавіта Каліноўскі так лёгка паддаваўся міталягізацыі як найярчэйшы нацыянальны герой?

**Краўцэвіч**: Кастусь Каліноўскі ідэальна надаецца на функцыю аднаго з найважнейшых беларускіх нацыянальных мітаў з прычыны ягонай надзвычай грунтоўнай і рэальнай гістарычнай асновы.

Кастусь Каліноўскі — сапраўдны герой, прычым, герой выразна беларускі. Змагаўся за высакародную справу, застаўся ёй верным да канца, ня выказаў слабасьці нават у апошнія хвіліны жыцьця, стоячы пад шыбеніцай. Вядомыя ягоныя апошнія словы. Калі зачытвалі прысуд, у якім яго назвалі дваранінам, Каліноўскі крыкнуў да вялізнага тлуму людзей на плошчы: „У нас няма дваран, усе роўныя“. А ягоныя знакамітыя „Лісты з-пад шыбеніцы“, скіраваныя „Да беларускага народа“! І напісаныя яны былі ў турме, калі аўтар ужо ведаў прысуд і ня меў ніякіх ілюзіяў адносна свайго лёсу. Нават зьнешнасьць

Каліноўскага выдатна пасуе да геразацыі — ладна збудаваны малады мужчына, з прыгожым, мужным, рашучым і адначасна інтэлігентным тварам. Таму так любяць яго маляваць беларускія мастакі.

**Ракіцкі**: Беларусы міталягізавалі Каліноўскага як нацыянальнага героя. Але наогул нацыянальная прыналежнасьць Каліноўскага аспрэчваецца ў розных гістарыяграфіях, і ня толькі польскай ці літоўскай, але і ў беларускай. Дык якімі ж былі нацыянальныя погляды Каліноўскага?

**Краўцэвіч**: Сапраўды, канкрэтныя нацыянальныя погляды Каліноўскага не былі выразна аформленыя як беларускія. Прычына ў тым, што беларускай нацыянальнай ідэалёгіі на той час яшчэ не існавала. Яна толькі зараджалася.

Наша запозьненая нацыятворчасьць тады знаходзілася на першай з трох фазаў будаўніцтва нацыі — на фазе навуковага дасьледаваньня традыцыйнай нацыянальнай культуры, а дакладней, у стадыі пераходу ад фазы навуковага дасьледаваньня да фазы нацыянальнай агітацыі, калі група інтэлігенцыі пачынае працу для перакананьня сваёй этнічнай групы, што яна зьяўляецца народам. Каліноўскі, выкарыстоўваючы беларускую мову ў сваіх адозвах, стаў як бы першым нацыянальным агітатарам. Беларускі рух яшчэ толькі зараджаўся, знаходзіўся на стадыі ідэі ў галовах некалькіх інтэлігентаў, а Каліноўскі ўжо зьвяртаўся да беларусаў на іхняй роднай мове! Таму Каліноўскага з поўным правам можна назваць вестуном беларускага нацыяналізму.

**Ракіцкі**: Мы ўжо сказалі, што даволі актыўная міталягізацыя Кастуся Каліноўскага адбывалася ў савецкую пару. Аднак, хоць Каліноўскі і шанаваўся,

але афіцыйна ўсё ж не ўключаўся у пантэон галоўных герояў. Чаму?

**Краўцэвіч**: Думаю, што так адбывалася якраз таму, што гэты герой быў занадта беларускім і да таго ж змагаўся з расейскай дзяржавай. А Беларусь у Савецкім Саюзе павінна была быць наперадзе ў стварэньні расейскамоўнага савецкага народу. У нашых гарадах яго імем называліся вуліцы, але ня самыя цэнтральныя. Але ў высокіх творах таго самага Ўладзімера Караткевіча ён станавіўся цэнтральным героем.

**Ракіцкі**: Такім чынам, у савецкім міце пра Каліноўскага акцэнтаваўся сацыяльны, а не нацыянальны аспэкт дзейнасьці героя.

**Краўцэвіч**: Так. У пацьверджаньне прывяду цытату са школьнага падручніка, выдадзенага ў 1992 годзе — у пачатку незалежнай Беларусі, але напісанага яшчэ савецкімі аўтарамі. Вось як там характарызуецца асоба Каліноўскага: „Каліноўскі стаў палымяным рэвалюцыянэрам-дэмакратам, ворагам царызму, памешчыкаў, усёй прыгоньніцкай сыстэмы. [...] Пераапрануўшыся ў сялянскую вопратку і ўзяўшы торбу, гэты сьмелы і мужны чалавек адправіўся вандраваць па роднай зямлі. Ён сустракаўся зь сялянамі, унікаў у іх патрэбы і настроі. Прагна лавілі сяляне кожнае яго слова аб зямлі і волі“. Сапраўды, тут бачны выразны акцэнт на рэвалюцыйнай дзейнасьці.

**Ракіцкі**: Але акцэнт, як мне падаецца, усё ж не зусім адпавядаў гістарычнай праўдзе пра рэвалюцыйную дзейнасьць Каліноўскага. З гэтай цытаты хутчэй паўстае асьветнік, агітатар, а не радыкальны змагар. Наколькі насамрэч радыкальнай была рэвалюцыйная дзейнасьць Каліноўскага? І як яна

стасавалася з рамкамі міту пра Каліноўскага, вызначанымі камуністычным рэжымам?

**Краўцэвіч**: Каліноўскі быў сьвядомы таго, што без актыўнага ўдзелу сялянства ў барацьбе супраць царызму, перамогу здабыць немагчыма. Адсюль ягоная праграма — даць зямлю і волю сялянам. Дарэчы, царскі ўрад таксама выдатна гэта разумеў, таму праводзіў актыўную і, трэба сказаць, пасьпяховую контрпрапаганду. Маўляў, паны бунтуюць, бо ня хочуць дапусьціць, каб цар даў сялянам зямлю. Для многіх шляхціцаў-удзельнікаў паўстаньня праграма Каліноўскага была занадта радыкальнай. Таму „белыя“ яго і не любілі ды стараліся адсунуць ад кіраўніцтва.

**Ракіцкі**: Як ставіцца сучасная афіцыйная ўлада, нібыта ўлада незалежнай Беларусі, за якую акурат і змагаўся Каліноўскі, да асобы гэтага героя і да міту пра яго?

**Краўцэвіч**: Ідэолягі сёньняшняга рэжыму пачалі актыўна змагацца зь мітам Каліноўскага. Спробы ідэалягічнага апарату Лукашэнкі зьнішчыць міт Каліноўскага — яшчэ адно пацьвярджэньне, што ягоная ўлада не беларуская. Маю ўражаньне, што культурніцкая палітыка незалежнай Беларусі надалей, як і ў савецкія часы, кіруецца з Масквы. А сутнасьць гэтай палітыкі — зачыстка беларускай культурнай прасторы, выдаленьне зь яе ўсяго беларускага. Найперш маргіналізацыя беларускай мовы, яе носьбітаў і творцаў; вынішчэньне нацыянальных помнікаў архітэктуры, разбурэньне нацыянальнай ідэалёгіі. У гэтым шэрагу і спробы дэміталягізацыі Каліноўскага. Працытую найноўшы (2008 году) навучальны дапаможнік з гісторыі Беларусі для вучняў 10-й клясы школаў зь беларускай мовай

навучаньня. Падручнік, якога галоўным аўтарам і адначасна рэдактарам зьяўляецца Якаў Трашчанок. Дарэчы, падручнік для беларускай школы перакладзены з расейскай мовы?! Ён уведзены Міністэрствам адукацыі ціхенька, употайкі ад грамадзкасьці. Там ёсьць нават спэцыяльны параграф пад назвай: „Гістарыяграфічны міф пра Вікенція (Кастуся) Каліноўскага“. Тлустым шрыфтам вылучаная фраза: „Паводле этнічнай ідэнтыфікацыі, ён быў палякам і ніколі не называў сябе беларусам“. І далей робіцца выснова: „Ніякіх аб’ектыўных падставаў для ператварэння В. Каліноўскага ў «нацыянальнага героя беларускага народа» не існуе“. А ў наступным параграфе гэтага падручніка кат Каліноўскага — генэрал Мураўёў названы „таленавітым адміністратарам і арганізатарам“.

**Ракіцкі**: Але ў гэты самы час, калі пісаўся гэты падручнік дый яму падобныя кніжкі, нацыянальна і дэмакратычна арыентаваная беларуская моладзь брала на свой шчыт вобраз Каліноўскага. У сакавіку 2006 году, збудаваўшы намётавы лягер на Цэнтральнай плошчы Менску, такую выспачку свабоды на знак пратэсту супраць скрадзеных у іх галасоў на прэзыдэнцкіх выбарах, пераназвала плошчу ў плошчу імя Кастуся Каліноўскага. Гэта адзін з прыкладаў рэальнага жыцьця гэтага міту. Як яшчэ гэты міт жыве і выяўляецца сёньня? Якую пэрспэктыву міту пра Каліноўскага вы бачыце?

**Краўцэвіч**: Сёньня імя Каліноўскага становіцца сьцягам незалежніцкага беларускага грамадзтва. Калі мы станем гаспадарамі ў сваёй краіне, дык Каліноўскі, несумненна, увойдзе ў самы ганаровы шэраг нацыянальных герояў. Будзе праведзеная міталягізацыя ягонай асобы на дзяржаўным уз-

роўні. Да гэтага актыўна спрычыняцца гісторыкі, бо час Каліноўскага добра забясьпечаны пісьмовымі крыніцамі — для гісторыкаў неабсяжнае поле пошукаў і знаходак. Па ўсёй краіне будуць стаяць помнікі нашаму герою.

Я веру, што вядомая па ўсім сьвеце праз змаганьне моладзі ў намётавым гарадку вясной 2006 году менская плошча будзе мець назву „плошча Каліноўскага“ ня толькі ў грамадзкай сьвядомасьці, але і цалкам афіцыйна.

## Каліноўскі — тэрарыст, а Мураўёў-вешальнік — таленавіты адміністратар?

25 верасьня 2009

Сёньня Беларускае гістарычнае таварыства пры падтрымцы Інстытуту Польскага ў Менску зладзіла навуковую канфэрэнцыю „Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакумэнтах і культурнай традыцыі“.

Гісторыкі тлумачаць неабходнасьць правядзеньня такой канфэрэнцыі тым, што асоба Каліноўскага выклікае неадназначную рэакцыю ў дзяржаўных ідэолягаў, адбываюцца спробы дэгераізацыі Кастуся Каліноўскага і ўхваленьня расейскага графа Мураўёва-вешальніка.

Доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук распавёў, што ўжо амаль 100 гадоў беларускія дасьледчыкі пішуць пра Каліноўскага: першая публікацыя зьявілася яшчэ ў 1916 годзе і належыць Вацлаву Ластоўскаму. Але ўвесь савецкі час гістарычная навука не існавала як навука, гэта быў дадатак да камуністычнай ідэалёгіі і глыбока капаць

проста не рэкамэндавалася. Потым была невялічкая адліга. Алесь Смалянчук працягвае:

— Частка вучняў вучыцца па тых беларускіх падручніках, дзе Каліноўскі застаецца кіраўніком вызвольнага паўстаньня ў Беларусі і Літве, чалавекам, які складае гонар беларускай гісторыі. Зьяўляюцца цяпер новыя падручнікі пад рэдакцыяй Трашчанка — падручнік для 10-й клясы на беларускай мове, дзе Каліноўскі выступае як тэрарыст, як польскі інтрыган і вораг „братняга саюзу беларускага і расейскага народаў". І гэты погляд пачынае ўсё больш дамінаваць і ў падручніках для вышэйшай школы. То бок на дзяржаўным узроўні робяцца спробы дэгераізацыі Каліноўскага і фактычна падмены яго іншым героем. Можна прыгадаць і станоўчыя характарыстыкі Мураўёва-вешальніка.

Дарэчы, Якаў Трашчанок — былы выкладчык Аляксандра Лукашэнкі ў Магілёўскім унівэрсытэце. Пад яго рэдакцыяй выйшла гісторыя Беларусі ў двух тамах, выходзяць і школьныя падручнікі. Да прыкладу, параграф 26 падручніка гісторыі для 10-й клясы называецца „Польскае паўстаньне 1863 года на беларускіх землях", а разьдзел чацьвёрты — „Гістарыяграфічны міф пра Вікенція (Кастуся) Каліноўскага". А Міхаіл Мураўёў у гэтым падручніку названы „таленавітым адміністратарам".

Ня толькі ў падручніках, але і ў навуковых працах сустракаюцца спробы перагледзець ролю Мураўёва ў гісторыі Беларусі, кажа гарадзенскі гісторык, кандыдат навук Аляксандар Радзюк:

— Выйшла некалькі работ беларускіх дасьледчыкаў, якія прысьвечаныя менавіта кансэрватызму Мураўёва, дзе ён паказаны ахоўнікам палітыкі царызму. То бок нашы беларускія гісторыкі стано-

вяцца на пазыцыю расейскіх уладаў і спрабуюць прэзэнтаваць Мураўёва як ахоўніка праваслаўя, ахоўніка самаўладзьдзя, які рабіў гэта ў рэчышчы царскай палітыкі, рабіў правільна, рабіў добра.

Сам Аляксандар Радзюк выступіў з дакладам „Рэпрэсіўная дзейнасьць павятовых вайсковых начальнікаў у 1863–1864 гадах“. Навукоўцы прадэманстравалі шмат копій архіўных матэрыялаў.

Агулам на канфэрэнцыі было прадстаўлена амаль два дзясяткі дакладаў, якія падрыхтавалі беларускія і польскія гісторыкі.

**Зьміцер**

Каліноўскі — тэрарыст, а Мураўёў-вешальнік — таленавіты адміністратар? Гэта адпавядае накірунку ідэалогіі акупацыйных улад. І пакуль апазыцыйныя СМІ не пачнуць называць сёньняшні рэжым на Беларусі акупацыйным, тэндэнцыі да перагляду гісторыі будуць набываць яшчэ больш цынічны характар. Будзьце мужнымі!

**читатель**

Какой учитель, такой у него и ученик. Скорина у этого ученика жил и творил в Питере, а сам он (ученик), сын погибшего на войне солдата, родившийся в 1954 году, восхищается Гитлером и его методами. Все как говорится ОК! Молчим дальше.

## Ці застанецца Каліноўскі на п’едэстале нацыянальнага героя?

30 верасьня 2009
Міхась Скобла

Для сёньняшняй афіцыйнай гістарыяграфіі Каліноўскі — аніяк не нацыянальны герой, пра што можна прачытаць у найноўшых падручніках

гісторыі Беларусі. З гэтай нагоды Беларускае гістарычнае таварыства зладзіла міжнародную навуковую канфэрэнцыю „Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакумэнтах і культурнай традыцыі“, якая прайшла ў Менску 25 верасьня. Пасьля яе заканчэньня мы сустрэліся са старшынём таварыства доктарам гістарычных навук Алесем Краўцэвічам.

**Краўцэвіч**: Справа ў тым, што асоба Кастуся Каліноўскага ў незалежнай Беларусі нечакана пачала падпадаць пад дэгераізацыю. Таму мы, прафэсіяналы, навукоўцы, гісторыкі, дактары, кандыдаты і магістры, людзі, якія займаюцца спэцыяльна і той эпохай, і Каліноўскім, вырашылі сабрацца і сказаць сваё слова пра Кастуся Каліноўскага, пра паўстаньне 1863 году. Намаганьнямі чыста грамадзкіх інстытуцый нам удалося арганізаваць сур’ёзную навуковую канфэрэнцыю.

**Скобла**: А каму ў Беларусі патрэбная дэгераізацыя Кастуся Каліноўскага? Хто сьпіхвае яго з пастамэнта нацыянальнага героя?

**Краўцэвіч**: Вось я трымаю ў руках падручнік гісторыі Беларусі для 10-й клясы са старажытных часоў да кастрычніка 1917 году. Яго аўтары — Трашчанок, Вараб’ёў, Валжанкоў. Гэтыя людзі напісалі падручнік для школаў зь беларускай мовай навучаньня, не валодаючы беларускай мовай. Бо на падручніку пазначана: перакладчыкі з расейскай мовы — Варановіч, Саламаха, Славута. Ганарар за гэты падручнік атрымалі ажно шэсьць чалавек. Ён выпушчаны ў сьвет выдавецтвам „Адукацыя і выхаваньне“ накладам 2140 асобнікаў, на ім стаіць грыф: „Дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь“. Падручнік не прадаецца ў кнігарнях, ён адразу разасланы па школах. У ім ёсьць такі

падпараграф: „Гістарыяграфічны міф пра Вікенція (Кастуся) Каліноўскага“, дзе робіцца выснова, што „ніякіх аб’ектыўных падстаў для ператварэння В. Каліноўскага ў «нацыянальнага героя беларускага народа» не існуе“. Літаральна на той самай старонцы паведамляецца, што „славуты генерал Міхаіл Мураўёў“ быў ня толькі вешальнікам, але і „таленавітым адміністратарам і арганізатарам“. Такім чынам, вучні павінны засвоіць наступнае: наш герой — не Каліноўскі, наш герой — Мураўёў. Але ў Мураўёва рукі па локці ў крыві паўстанцаў!

**Скобла**: Міт пра „Мураўёва ня толькі вешальніка“ прапагандуецца не адным Трашчанком. Аднаго разу мне давялося прысутнічаць на міжнароднай канфэрэнцыі ў Празе, на якой выступаў знакаміты чэскі навуковец Міраслаў Грох. Дык ён таксама гаварыў пра амбівалентнасьць асобы Мураўёва — маўляў, ён і караў, і нёс Паўночна-Заходняму краю асьвету. Я не ўстрымаўся і запярэчыў прафэсару, што шыбеніца ня можа быць амбівалентнай…

**Краўцэвіч**: Што зробіш, нават такія шаноўныя дасьледчыкі, як Міраслаў Грох, ня ведаюць беларускай гістарыяграфіі. Ня ведаюць пераважна з той прычыны, што яна недаступная эўрапейскім дасьледчыкам. Якраз на канфэрэнцыі на гэта зьвярталася ўвага. Затое ў Эўропе шырокавядомая расейская гістарыяграфія, яна і прапагандуецца, у тым ліку на розных мовах. Нават наша маленькая суседка Літва мае два англамоўныя гістарычныя часопісы, дзе прапагандуюцца веды літоўскіх гісторыкаў пра іх краіну. А наш Інстытут гісторыі — структурнае падразьдзяленьне Нацыянальнай Акадэміі навук — ня мае аніводнага пэрыядычнага выданьня! Таму мы спрабуем гэтую сытуацыю неяк зьмяніць.

**Скобла**: У канфэрэнцыі бралі ўдзел і польскія навукоўцы. А як ставіцца да асобы Каліноўскага польская гістарыяграфія?

**Краўцэвіч**: Польская гістарыяграфія вельмі станоўча ставіцца да асобы Каліноўскага. Мы з палякамі ня дзелім Каліноўскага. Ён лічыў сябе грамадзянінам былой Рэчы Паспалітай, ён меў кантакты з палякамі, у тым ліку стасункі падпарадкаваньня з цэнтрам паўстаньня ў Польшчы. Паўстаньне 1863 году — гэта наша агульная справа, гэта змаганьне „за нашу і вашу вольнасьць“. Лёзунг са сьцягоў Касьцюшкі выдатна пасуе і да дзейнасьці Кастуся Каліноўскага.

**Скобла**: Нездарма гаворыцца, што паэзія — мова душы. Свой перадсьмяротны верш „Марыська, чарнаброва галубка мая…“ Каліноўскі напісаў на беларускай мове. Значыць — душа ягоная прамаўляла па-беларуску. На якой падставе вашыя апанэнты залічваюць Каліноўскага ў палянафілы?

**Краўцэвіч**: Яны выкарыстоўваюць яго падвойнае імя — Вікенцій Канстанцін Каліноўскі, цьвердзячы, што ніякі ён не Кастусь, а — Вікенцій. Хоць на канфэрэнцыі паводле дакумэнтаў было даказана, што ў сям'і ўжывалася імя Кастусь. Нашыя апанэнты выкарыстоўваюць тую акалічнасьць, што паўстанцы мелі сувязь з польскім цэнтрам. Трэба сказаць, што спроба назваць Каліноўскага палякам, палянафілам, які хацеў аддаць беларусаў панскай Польшчы, — вельмі прымітыўная, бо аб'ектыўных падставаў бэсьціць гэтага героя няма. Каліноўскі — герой клясычны. Гэта чалавек, які аддаў жыцьцё за ідэю, які не завагаўся нават пад шыбеніцай!

**Скобла**: У публікацыях некаторых навукоўцаў (прыкладам, Уладзімера Казьберука) можна

прачытаць, што Каліноўскі падчас паўстаньня затэрарызаваў ледзь ня ўсю Горадзеншчыну. Што праўда, факты ягонай „тэрарыстычнай дзейнасьці“, як правіла, не прыводзяцца.

**Краўцэвіч**: На канфэрэнцыі пра гэта таксама была гаворка ў спэцыяльным навуковым дакладзе. Каліноўскага называлі рашучым. Ён заклікаў да пакараньня сьмерцю здраднікаў паўстаньня са шляхты, але ў рэальнасьці пакараньняў гэтых не было. Прысуды проста не выконваліся. Каліноўскі па сваёй натуры быў мяккім чалавекам, аніякім не тэрарыстам. Вось вам факт для параўнаньня. На загад Мураўёва ў адной Горадзенскай губэрні было зраўняна зь зямлёй, спалена, вынішчана больш за 500 шляхецкіх сядзібаў, а людзі, усе да аднаго — ад немаўляці да старога, які ня мог хадзіць, высланыя ў Сібір. Расейскія вайсковыя павятовыя начальнікі мелі поўную ўладу падчас паўстаньня і маглі караць сьмерцю нават бяз выраку вайскова-палявога суду. І некаторыя гэта рабілі, каб выслужыцца. Вось гэта тэрор.

**Скобла**: У канфэрэнцыі прынялі ўдзел больш за трыццаць гісторыкаў. Чые даклады ты можаш адзначыць як найцікавейшыя?

**Краўцэвіч**: Пачалася канфэрэнцыя з выдатнага дакладу прафэсара Алеся Смаленчука „Асоба Каліноўскага як дасьледчая праблема“. Выснова дакладу трохі нечаканая: „Няма дасьледаваньня пра нарачоную Кастуся Каліноўскага. А зразумець мужчыну можна, даведаўшыся пра жанчыну, якую ён кахаў“.

Бліскучы даклад Аляксандра Радзюка, майго колішняга студэнта ў Горадзенскім унівэрсітэце, меў назву „Рэпрэсіўная дзейнасьць павятовых вайсковых начальнікаў“. Вольга Гарбачова пабудавала

свой выступ на апісаньні фатаздымкаў удзельнікаў паўстаньня, якіх захавалася каля 600 штук. Для мяне стаў адкрыцьцём малады дасьледчык магістар Андрэй Шулаеў з дакладам на тэму „Вэксылялягічныя аб'екты паўстаньня Каліноўскага“ (сьцягі, выявы, харугвы). Кожны даклад быў па-свойму цікавы. Увогуле, канфэрэнцыя ўдалася. Мы апублікуем яе матэрыялы асобным выданьнем, і гэта будзе словам прафэсіяналаў у абарону Каліноўскага.

**Тодар**

Відаць, у людзей, якія па свядомасці належаць да розных нацый, непазбежна будуць розныя нацыянальныя героі. У адніх Каліноўскі, у іншых Мураў'ёў. Дык навошта спрачацца з Трашчанком. Краўцэвічу трэба паглядзець праўдзе ў вочы і шчыра прызнаць, што Трашчанок да яго нацыі не належыць — і тады ўсё, нібы цудам, стане на свае месцы.

**Любоў (Мінск)**

Дзякуй, шаноўны прафесар Алесь Краўцэвіч, за Ваш актыўны патрыятызм. Тодару: калі Трашчанок не хоча ці не можа належаць да нашай нацыі, хай не робіць нам шкоды, не знішчае гістарычную праўду і нашую нацыянальную памяць (а гэтым — не забівае нас як нацыю), толькі і ўсяго. За забойства рана ці позна даводзіцца адказваць.

## Паломніцтва ў памежную зону да Каліноўскіх

25 кастрычніка 2009

У нядзелю ў Сьвіслачы і Якушоўцы Горадзенскай вобласьці актывісты палітычных партый, грамадзкіх і моладзевых арганізацый, проста грамадзяне 14-ты раз ушаноўвалі памяць паўстанцаў 1863 году.

У Сьвіслачы сабраліся гарадзенцы, менчукі, актывісты са Слоніму, Ваўкавыску, Мастоў і іншых гарадоў Беларусі.

Са Сьвіслачы калёна машын накіравалася ў Якушоўку, на месца, дзе знаходзілася сядзіба Каліноўскіх.

Перад уездам у вёску Раманаўцы ўсе машыны спыніліся, высьветлілася, што тут зрабілі памежную зону і ўехаць можна толькі па адпаведных дакумэнтах.

Людзі выйшлі з машынаў і аўтобусаў і праз балота, па мастку праз рэчку, недзе з кілямэтар зь песьнямі пад гітару ішлі да сядзібы Каліноўскіх.

У Якушоўцы ўсклалі кветкі да крыжа, узгадвалі паўстаньне 1863 году, прасьпявалі паўстанцкія песьні, шмат фатаграфаваліся, сказалі пра Віктара Трашчановіча, Дзіму Кісяля, Юрася Мацко, якія ўсталявалі тут крыж і заклалі гэтую традыцыю: штогод ушаноўваць у Сьвіслачы і Якушоўцы памяць паўстанцаў.

На працягу дня ўвесь час паломнікаў, як яны самі сябе сёньня назвалі, суправаджалі міліцыянты і людзі ў цывільным, яны фільмавалі падзеі на відэакамэру.

І увесь час за калёнай езьдзіў мікрааўтобус з АМАПам. Праўда, урачыстасьці адбыліся без інцыдэнтаў.

**Галіна Арцёменка (Нямечынна)**

Вельмі прыемна чуць такія навіны. Будзе яшчэ цікавей, калі сюды будуць прыязжаць нашчадкі паўстанцаў. А іх шмат жыве за мяжой. Чаму дзяржыморды з Міністэрства турызму гэтым не займаюцца? Вельмі добрыя маршруты для турызму і вялікі гонар для беларусаў. Яшчэ добра было б мець музей Каліноўскіх.

## Імёны Свабоды: Ахіл Банольдзі

1 лістапада 2009
Уладзімер Арлоў

Ня ведаю, як вам, а мне бясконцыя пералікі тых, каго Беларусь з розных прычынаў аддала іншым народам і культурам, ужо даўно нагналі аскому. Здаровае нацыянальнае пачуцьцё хоча ўведаць іншае: каго сьвет даў нам? Каго Літва-Беларусь уцягнула ў магічнае кола сваёй гісторыі й культуры? Гэтыя, дарэчы, не такія ўжо й малалікія прыклады натхняюць мяне нязьмерна больш.

Гуляючы па Пляса дэ Каталюнья ў Барсэлёне, я думаў пра тое, што там амаль 200 гадоў назад прыйшоў на сьвет Ахіл (Джузэпэ Акіле) Банольдзі — сьпявак і танцор, талентам якога некалі захапляўся ўвесь край, паплечнік Каліноўскага, паўстанец 1863 году...

Італійская тэатральная сям'я Банольдзі шмат вандравала з опэрнымі трупамі па Эўропе. Выхаванец Лязанскага ўнівэрсытэту, Акіле ў 1840-я гады апынуўся ў Вільні.

Сяброўства з кампазытарам Станіславам Манюшкам, зь лінгвістам і фальклярыстам Янам Карловічам, сама атмасфэра нашай старажытнай сталіцы зрабілі італійца ліцьвінскім патрыётам.

У 1862-м Банольдзі разам з Канстанцінам Каліноўскім, Людвікам Зьвяждоўскім ды іншымі лідэрамі вызвольнага руху ўвайшоў у цэнтар падрыхтоўкі паўстаньня — Літоўскі камітэт.

На перамовах з Варшавай ён адстойваў самастойнасьць земляў былога Вялікага Княства Літоўскага і права яго народаў на незалежнасьць. У заснаванай

ім фотамайстэрні выраблялiся патрэбныя патрыётам дакумэнты і рыхтаваліся нелегальныя выданьні. Менавіта там створаны вядомы партрэт Кастуся Каліноўскага на поўны рост.

У лютым 1863-га яго арыштавалі й кінулі ў сутарэньні Троцкага замку. Ад шыбеніцы ўратавалі наладжаныя сябрамі дзёрзкія ўцёкі. Часовы паўстанцкі ўрад прызначыў яго сваім прадстаўніком за мяжой, даручыўшы закупы зброі...

Пасьля паразы паўстаньня ён трымаў у Парыжы моднае фотаатэлье, што дазваляла ня думаць пра хлеб надзённы.

Меў посьпех у жанчын.

Але погляды Банольдзі зноў і зноў прымушалі шукаць сустрэчаў з такімі самымі эмігрантамі-выгнанцамі.

Падчас Парыскай камуны ў людзей гэткага кшталту быў адзіны шлях — на барыкады, што ўвасаблялі ў іхніх вачах змаганьне з усякай — і сацыяльнай, і нацыянальнай — несправядлівасьцю.

Банольдзі камандуе швадронам у арміі, якой кіраваў яшчэ адзін наш суайчыньнік — генэрал Валер Урублеўскі.

У перапынках паміж баямі парыскія вуліцы й пляцы чулі цудоўны Акілаў голас.

Ён сьпяваў для сваіх жаўнераў на дзесяці мовах, але з асаблівым пачуцьцём — беларускія песьні на вершы Яна Чачота.

Ягоная песьня абарвалася на пяцідзясятым годзе жыцьця.

Паміраючы ад ранаў, ён мроіў Вільню.

Джузэпэ Акіле Эльміра Банольдзі. 1821, Барсэлёна, Каталёнія — 1871, Парыж, Францыя. Месца пахаваньня невядомае.

## Памяць пра паўстанцаў Каліноўскага ў Сьвіслачы

13 лістапад 2009
Вячаслаў Ракіцкі

На гэтых могілках ля магілы Віктара Каліноўскага ад 1997 году дэмакратычная беларуская грамадзкасьць штогод ушаноўвае памяць паўстанцаў 1863 году.

Ініцыятыва нарадзілася ў горадзенскім дэмакратычным асяродку, кажа актор, бард Віктар Шалкевіч:

— У раньнія дэмакратычныя гады Зьміцер Кісель і нехта зь ім з Горадні знайшлі ў Сьвіслачы на праваслаўных могілках магілу Віктара Каліноўскага. Потым Юры Мацко выкаваў крыж. Тым часам прафэсар Міхась Ткачоў капаў сядзібу Каліноўскіх у Якушоўцы. Усё гэта неяк сышлося да адной купы. І ў асяродзьдзі дэмакратаў вырашылі, што гэта варта ўшаноўваць, і мы пачалі кожны год туды езьдзіць.

У днях памяці за амаль паўтара дзесяцігодзьдзя ўзялі ўдзел практычна ўсе знакавыя фігуры дэмакратычнай Беларусі. Філёзаф Валянцін Акудовіч, які родам са Сьвіслачы, штогод бывае на гэтых могілках, абавязкова наведвае і магілу Віктара Каліноўскага. Браў ён удзел і ў адным зь першых Дзён памяці паўстанцаў:

— Сюды прыехалі два паўнюткія аўтобусы з Горадні й Менску, і мы ладнай калёнай з разгорнутымі сьцягамі пайшлі да цэркаўкі на гары, побач зь якой і знаходзіцца магіла Віктара Каліноўскага. Толькі мы

падышлі да помніка, як з царквы шугануў натоўп разьятраных бабулек, якія, нагледзеўшыся дзяржаўнага тэлебачаньня, палічылі, што мы прыехалі ў Сьвіслач рабіць рэвалюцыю. Чамусьці найбольшую нянавісьць у іх выклікаў Уладзімер Арлоў. Яны акружылі яго, махалі кулачкамі, а некаторыя сваімі торбачкамі нават спрабавалі хвастануць па славутым пісьменьніку. Гэта было сьмешна, але потым мне зрабілася сумна. Гэтак жа сама пасьля паўстаньня мужыкі лавілі па лясох касінераў Каліноўскага і здавалі іх царскім уладам. І тады падумалася зусім скрушнае: паспаліты беларус ніколі не змагаўся з уладай, ён заўсёды змагаўся толькі з уласнымі героямі.

Першыя сьвяткаваньні выклікалі насьцярожанасьць і нават гнеў мясцовых уладаў. Яны прасілі не разгортваць нацыянальныя сьцягі, неісьці калёнамі, фільмавалі ўдзельнікаў акцыяў. Але паступова напружанасьць зьнікла. І хоць улады ў Днях памяці ня ўдзельнічаюць, ставяцца да іх больш ляяльна. На магіле Віктара Каліноўскага заўсёды кветкі й бел-чырвона-белыя стужкі. Іх ніхто не чапае. Усё ж свой чалавек пахаваны.

## Змагарныя песьні над Мілавідзкім полем

30 сьнежня 2009
Вячаслаў Ракіцкі

Тут, на месцы бітвы паміж расейскімі карнікамі й паўстанцамі Кастуся Каліноўскага 22 траўня 1863 году, з 1993 году мясцовыя патрыёты ўшаноўваюць памяць беларускіх ваяроў.

Сёньня на Мілавідзкім полі стаяць тры помнікі. Праваслаўны мураваны крыж памяці маскоўскіх жаўнераў да 50-годзьдзя бітвы паставілі расейцы ў 1913 годзе, калі гэтыя землі належалі Расейскай імпэрыі. Да 70-годзьдзя бітвы ў 1933 годзе, калі заходнія землі Беларусі былі ў складзе Польшчы, польскі ўрад насупраць таго крыжа збудаваў каталіцкую капліцу. І, нарэшце, у 1993 годзе, да 130-годзьдзя падзеі, ужо ў незалежнай Беларусі сябры баранавіцкага аддзяленьня Таварыства беларускай мовы паставілі камень у гонар беларускіх паўстанцаў-касінераў з шыльдай, напісанай па-беларуску: „За нашу і вашу свабоду“.

Найбольшую працу для гэтага зрабіў тагачасны старшыня Баранавіцкай рады ТБМ краязнавец Міхась Бернат. Адкрыцьцё мэмарыяльнага знаку 22 траўня 1993 году адбылося ўрачыста, з удзелам вучняў мясцовай школы, грамадзкасьці й кіраўніцтва сельсавету.

З тых часоў штогод у гэты дзень на Мілавідзкім полі адбываюцца ўрачыстыя цырымоніі. Ля помніка зьбіраецца мясцовая грамадзкасьць, прыяжджаюць госьці зь Менску — палітыкі, пісьменьнікі, мастакі, гісторыкі. Але пасьля 1994 году — без удзелу ўладаў і мясцовай школы, дзе ёсьць, дарэчы, музэй Каліноўскага. Патрыёты ўскладаюць кветкі, сьпяваюць беларускія змагарныя песьні. Улады не чапаюць, хоць і назіраюць. Тым болей што абавязковы атрыбут сьвята — бел-чырвона-белы сьцяг, кажа цяперашні старшыня Баранавіцкай рады ТБМ Віктар Сырыца:

— Там побач шаша, вельмі шмат езьдзіць машын. Машыны спыняюцца, сыгналяць — падтрымліваюць нас. Два гады таму праехала машына,

а затым спынілася. Зь яе выйшаў прадстаўнічы чалавек у белай кашулі, у гальштуку. Стаяў здалёк, глядзеў. Калі мы скончылі мерапрыемства, я падышоў да яго, назваўся і запытаў, а хто ён. Ён адказаў, што дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад Івацэвіцкага раёну Аляксандар Сьвірыд. Так што і ён, хай сабе і ўскосна, але паўдзельнічаў у нашым сьвяце. Напэўна ж, быў зьдзіўлены, што ў вёсцы лунаюць бел-чырвона-белыя сьцягі й людзі нешта гавораць.

## У Менску ўшанавалі паўстанцаў 1863-га

22 студзеня 2010

Сёньня раніцай актывісты Маладых хрысьціянскіх дэмакратаў і Моладзі БНФ адзначылі ўгодкі пачатку паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага 1863 году.

У некалькіх раёнах Менску (на вуліцах Сьвярдлова, Магілёўскай, Нямізе, праспэкце Дзяржынскага) на засьнежаных схілах актывісты зрабілі надпісы чырвонай фарбай: „1863 — АДВАГА“, „1863 — ГОНАР“, „1863 — ВОЛЯ“, „1863 — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ“.

Як паведамляе прэсавая служба БХД, мэта акцыі — прыцягнуць увагу мінакоў да каштоўнасьцяў, за якія змагаліся нашы славутыя продкі, і сьцьвердзіць пераемнасьць змаганьня за свабоду і незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны.

**Ільля Копыл (Менск)**

Дзякуючы Тадэвушу Касцюшку, дзякуючы паустанцам 1831 г., дзякуючы Кастусю Каліноускаму была створана БНР. Дзякуючы БНР и яе заснавальнікам, была створана БССР. Дзякуючы усяму мной пералічанаму, мы сёння маем незалежную Беларусь. Наша мужная, слаўная моладзь зараз змагаецца за тое, каб умацаваць незалежнасць, каб сарваць намеры расейскіх імперыялістау нас праглынуць.

**Дзяруга**

Гениальная находка — рисовать на снегу. И ни один „памяркоуны“ не скажет, что, мол, оппы стену изгадили.

**Віталька (Ворша)**

Ідэя — супер! Крэатыўце далей, хлопцы!

**Тацьцяна Шамбалава (Магілёў-Toruń)**

Ага!.. Цяпер скажуць, СьНеГ зАбРуДжВаЕм!.. :-)

**chadek (miensk)**

Малайцы, не збаяліся маразоў і праявілі нестандартны падыход. Каб не яны, ніхто б і ня ўспомніў гэтую дату.

## „Пагоня“ адкрыла выставу „За нашу і вашу свабоду“

2 лютага 2010

У сядзібе Таварыства беларускай мовы адкрылася выстава, прысьвечаная 172-годзьдзю нараджэньня нацыянальнага героя Беларусі і Літвы Кастуся Каліноўскага, а таксама 145-м угодкам вызвольнага паўстаньня 1863–1864 гадоў. Імпрэзу арганізавала суполка мастакоў „Пагоня“.

Выставу ў гонар угодкаў нараджэньня Кастуся Каліноўскага мастакі суполкі „Пагоня“ праводзяць пачынаючы з 2000 году ў розных памяшканьнях. І толькі ў канцы 1980-х буйная імпрэза ў гонар кіраўніка паўстаньня прайшла ў менскім Палацы мастацтва, паведаміў падчас свайго выступу кіраўнік „Пагоні“, мастак Аляксей Марачкін:

— У савецкі час, які называюць імпэрыяй зла, да тэмы Кастуся Каліноўскага было зьвяртацца прасьцей. Зараз адбылася поўная рэабілітацыя цара Мікалая, а ў гэтай сувязі Кастусь Каліноўскі стаўся ледзь не тэрарыстам. Гэтак зьнішчаюць ягоны арэол змагара за Беларусь і незалежнасьць.

## У Сьвіслачы не забыліся на Каліноўскага

2 лютага 2010

Сёньня ў дзень народзінаў Кастуся Каліноўскага да ягонага помніка мясцовыя актывісты ўсклалі кветкі.

Як сказаў нашаму радыё Юры Глебік, у Сьвіслачы не забываюцца на імя нацыянальнага героя Беларусі і ўшаноўваюць яго штогод. Праўда, ён дадаў, што сёлета на дзень народзінаў мясцовыя актывісты болей ніякіх мерапрыемстваў не плянавалі.

## У Вільні ўшанавалі памяць Кастуся Каліноўскага

22 сакавіка 2010

Тут адбыліся ўрачыстая акадэмія ў памяшканьні ЭГУ і шэсьце ў цэнтры гораду зь бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Грамада са сьцягамі прайшла ад таго месца, дзе стаяла шыбеніца, да Замкавай гары, дзе Каліноўскі быў пахаваны.

У шэсьці ўзялі ўдзел каля 60–70 чалавек, віленчукі, актывісты зь Беларусі, студэнты ЭГУ і каля 20 беларускіх студэнтаў-каліноўцаў, якія адмыслова дзеля гэтага прыехалі з Польшчы.

Кажа старшыня „Беларускай нацыянальнай памяці“ Анатоль Міхнавец:

— Шмат гістарычных падзеяў, але ёсьць два дні — дзень нараджэньня Кастуся Каліноўскага і

дзень сьмерці, якія мы павінны ўзгадваць. Таму мы ўзгадалі дзень яго нараджэньня маршам на лыжах у Мастаўляны, дзе ён нарадзіўся, а на дзень сьмерці мы прыехалі ў Вільню, дзе ён загінуў, і спадзяемся, што гэта стане традыцыйным кожны год.

## Расьцяжка пра Каліноўскага над уваходам у Парк чалюскінцаў

22 сакавіка 2010

Актывісты грамадзянскай ініцыятывы „Вольная моладзь" а палове на шостую вечара вывесілі расьцяжку над уваходам у Парк чалюскінцаў „Каліноўскі назаўсёды". Адзін зь лідэраў „Вольнай моладзі" Мікіта Красноў паведаміў, што ўначы актывісты нанесьлі некалькі аналягічных надпісаў на платах у беларускай сталіцы.

## Аўтуховіча ўзнагародзілі прэміяй Каліноўскага

16 красавіка 2010

Прадстаўнікі „Маладога фронту" і Руху салідарнасьці „Разам" уганаравалі прэміяй Кастуся Каліноўскага палітвязьня Мікалая Аўтуховіча. Узнагароджаньне адбылося ў залі сядзібы Партыі БНФ. Узнагароду — гліняны мэдаль з выявай Кастуся Каліноўскага — прыняў адвакат Мікалая Аўтуховіча Павал Сапелка.

## Асіпенку і Казлова ўзнагародзілі мэдалямі Каліноўскага

25 чэрвеня 2010

У менскай сядзібе Партыі БНФ на супольным паседжаньні клюбу „Спадчына“ і Руху салідарнасьці „Разам“ абвясьцілі пра ўганараваньне мэдалём Кастуся Каліноўскага вязьняў Уладзімера Асіпенкі і Міхаіла Казлова, якія праходзілі ў адной справе з ваўкавыскім прадпрымальнікам Мікалаем Аўтуховічам.

Ганаровыя мэдалі і дыплёмы ўручыў старшыня клюбу „Спадчына“ Анатоль Белы. Узнагароду для Міхаіла Казлова прыняла адвакат Тамара Сідарэнка, а для Ўладзімера Асіпенкі — ягоная дачка Людміла.

## Ці можна давяраць сучасным школьным падручнікам нацыянальнай гісторыі?

2 верасьня 2010
Уладзімер Арлоў

*Больш за тысячу сустрэчаў у Беларусі і за мяжой правёў Уладзімер Арлоў за апошнія дзесяць гадоў. Цыдулкі ад чытачоў запоўнілі некалькі шуфлядаў. Зараз пытаньні да пісьменьніка і яго адказы — у эфіры і на сайце Свабоды ў перадачы „Пакуль ляціць страла“.*

Ці можна давяраць сучасным школьным падручнікам нацыянальнай гісторыі?

Давайце паспрабуем адказаць на пытаньне разам і дзеля гэтага возьмем у рукі навучальны дапаможнік „Гісторыя Беларусі. Канец XVIII ст. — 1999 г.“ пад рэдакцыяй прафэсара Яўгена Новіка. Па ім сёлета будуць вучыцца нашы адзінаццацікласьнікі.

Калісьці Сэрвантэс сказаў, што хлусьлівых гісторыкаў трэба караць, як фальшываманэтчыкаў.

Новік з памагатымі прапануе сваіх герояў, ня нейкіх там бунтаўшчыкоў, а людзей адданых „государю и Отечеству“. З старонак „Гісторыі Беларусі“ на нас па-бацькоўску строга глядзяць царскія міністры і генэрал-губэрнатары Кісялёў, Назімаў, Мураўёў… Так-так, той самы Мураўёў-вешальнік, што тапіў у крыві паўстаньне Кастуся Каліноўскага. У падручніку ён, натуральна, ніякі ня вешальнік, а „энэргічны дзяржаўны дзеяч, які зь веданьнем справы рабіў тое, да чаго быў закліканы“. Як вядома, мураўёўская энэргія выявілася ў 128 павешаных і расстраляных, 853 асуджаных на катаргу, 12 тысячах адпраўленых у высылку і арыштанцкія роты. Не выключаю, што сярод іх былі і продкі самога прафэсара Новіка і ягоных суаўтараў.

Жыве, жыве справа яго сіяцельства, які загадваў залівацъ магілы нашых паўстанцаў экскрэмэнтамі і казаў, што ў Беларусі рускі чалавек павінен пачувацца лепей, чым дома.

**рыта (менск)**

Ану хутчэй — раздрукоўваем гэты тэкст хаця б у некалькіх экзэмплярах і даем чытаць сучасным школьнікам!!!

**Навак (Віцебск)**

Пра падручнікі ўсё дакладна. Але ж, вельмі шмат чаго, пагадзіцеся, залежыць ад настаўніка. Галоўнае, выкладаць гісторыю Беларусі павінны патрыёты сваёй Бацькаўшчыны!

**Вячак (Берасьце)**

Настаўнік распавядае пра антыбальшавіцкія паўстаньні, Міхала Вітушку, БНФ, З.С.Пазьняка. Дык яго з працы звольняць. Таму 95% настаўнікаў і настаўніц будуць надалей моўчкі весьці заняткі.

## Кастусь ці Вікенці?

27 кастрычнік 2010
Уладзімер Арлоў

Пісьменьнік адказвае чытачам.

*Апошнім часам зьявілася шмат публікацыяў, дзе сьцьвярджаецца, што нашага нацыянальнага героя Каліноўскага ў сапраўднасьці звалі не Канстанцінам і, пагатоў, не Кастусём, а — Вікенціем. Дзе тут праўда?*

*Андрэй Белы*

Будучы кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня ў Літве-Беларусі зьявіўся на сьвет 2 лютага 1838 году ў вёсцы Мастаўляны Горадзенскага павету, якая цяпер у Польшчы. Праз чатыры дні хрысьцільная кніга Ялаўскага касьцёла папоўнілася запісам пра Вікенція Каліноўскага, а 4 красавіка нованароджанага зарэгістравалі ўжо пад двума імёнамі — Вікенці Канстанцін.

Шляхецкія сем’і мелі даўнюю традыцыю часта даваць дзецям некалькі імёнаў.

Да прыкладу, старэйшы брат Каліноўскага быў ахрышчаны як Віктар Отан. Іншага нашага знакамітага суайчыньніка і паўстанцкага правадыра

Касьцюшку афіцыйна звалі Андрэй Тадэвуш Банавэнтура. Мала хто ведае, што клясык новай беларускай літаратуры (дарэчы, у маладосьці — таксама інсургент) Францішак Багушэвіч меў яшчэ адно імя — Бэнэдыкт. Дэпутат расейскай Дзяржаўнай думы ад Менскай губэрні, а затым кіраўнік створанага ў 1917 годзе Беларускага нацыянальнага камітэту Раман Скірмунт у афіцыйных паперах менаваўся Раманам Мар'янам. Аднак і Касьцюшка, і Багушэвіч, і Скірмунт для заўсёднага карыстаньня абралі, па сутнасьці, адно імя — пэўна ж тое, якое найбольш упадабалі. Пад гэтымі імёнамі мы іх сёньня і ведаем.

Аналягічны выбар зрабіў для сябе і Каліноўскі. Гэтаму ёсьць мноства сьведчаньняў. Пераканацца ў тым, як называў сябе сам наш герой, вы можаце, узяўшы ў рукі том дакумэнтаў і матэрыялаў „Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.“ (М., 1965) і разгарнуўшы яго на старонках 82, 84–88, 159, 160, 167, 271–272 і г. д.

У Гістарычным архіве Літвы захоўваецца сьпіс навучэнцаў Сьвіслацкай гімназіі, дзе фігуруе „Каліноўскі Канстанцін“. Шмат разоў згадвае яго пад гэтым імем і ўдзельнік, а пазьней гісторык паўстаньня Оскар Авэйдэ, добра знаёмы з камандзірам беларускіх інсургентаў ад студэнцкіх гадоў. Ва ўспамінах Авэйдэ некалькі разоў піша: „Мой таварыш па ўнівэрсытэце Канстанцін Каліноўскі...“

Што да імя Кастусь, то бацькі, сваякі і бліжэйшыя сябры, мяркую, маглі называць Каліноўскага менавіта так. Ну, хіба што зь нейкімі мадыфікацыямі. Ці, можа, нехта думае, што „Марыська чарнаброва“, нарачоная паўстанцкага важака Марыя Ямант клікала яго Вікенціем Канстанцінам?

Вядома, пад казённымі паперамі чалавек абавязаны быў падпісвацца тым імем, якое зафіксаванае ў мэтрыках. Таму ў шэрагу дакумэнтаў сапраўды сустракаецца імя Вікенці. „Дваранінам Вікенціем Каліноўскім“ назвалі правадыра паўстанцаў царскія ка́ты падчас абвяшчэньня яму сьмяротнага прысуду на віленскім Лукіскім пляцы. Дык што, будзем браць зь іх прыклад і мяняць імя, якое даўно замацаванае і ў энцыкляпэдыях, і ў народнай памяці?

Я магу зразумець, калі гэтым спрабуюць займацца беларусафобы, але што змушае падпяваць ім двух-трох аўтараў, якіх у згаданай фобіі не западозрыш?

Далібог, часам здаецца, што маем справу зь нейкім нацыянальным садамазахізмам. Тут міжволі згадваецца іншы яго прыклад. Адзін калега-літаратар з паталягічнай зацятасьцю паўтарае ў сваіх інтэрвію, што беларускія пісьменьнікі, маўляў, з жонкамі і каханкамі размаўляюць у ложку парасейску. Як быццам сам хаваўся ў шафе, альбо стаяў пры ложку зь ліхтаром.

Але вернемся да Кастуся Каліноўскага.

Карыстаючыся момантам, хачу нагадаць пра ня толькі прыкрую, але, я б сказаў, зьняважальную для нацыянальнай годнасьці памылку. Ужо некалькі дзесяцігодзьдзяў мэмарыяльная пліта, усталяваная на тым месцы ў Вільні, дзе камандзір інсургентаў зрабіў апошні зямны крок, паведамляе, што Каліноўскі нарадзіўся ў 1836 годзе, робячы яго старэйшым на цэлыя два гады. Такія „дробязі“ беларускую амбасаду, відавочна, не хвалююць. Трэба нарэшце сказаць сваё слова Таварыству беларускай культуры ў Літве.

Набліжэньне 150-годзьдзя нашага вызвольнага паўстаньня вострa вымагае і мэмарыялізацыі месца пахаваньня Каліноўскага на віленскай Замкавай гары.

Ну а на помніку нацыянальнаму герою Беларусі, які некалі абавязкова зьявіцца ў Менску, будзе напісана: „Кастусь Каліноўскі“.

**Зоська (зь Ліды)**

Мой бацька, беларус, жывучы не па сваёй волі не на Бацькаўшчыне, маючы расейскія паперы, усюды пісаўся КОНСТАНТИНом, але ж калі ён прыязджаў у родную вёску, усе аднавяскоўцы звалі яго Кастусём. Нават калі я туды прыязджаю, дык кажуць, што КАСТУСЁВА дачка прыехала.

## Да крыжа „Gloria Victis“

29 кастрычніка 2010

Сёньня актывісты апазыцыйнага Саюзу палякаў ушанавалі месца пахаваньня сарака паўстанцаў 1863 году каля вёскі Мінявічы Мастоўскага раёну, якая стаіць ля Нёмна.

Гэтае пахаваньне ўзгадвала ў сваёй творчасьці пісьменьніца Эліза Ажэшка. Яе апошні зборнік апавяданьняў пад назвай „Gloria victis“ („Слава пераможаным“) быў прысьвечаны паўстанцам. Лацінскія словы выразаныя на крыжы, які стаіць на месцы, дзе яны пахаваныя.

Зьнічы былі запаленыя таксама на магіле Яна і Цэцыліі ў суседняй вёсцы Багатырэвічы. Іх Эліза Ажэшка вывела ў сваім рамане „Над Нёмнам“.

Пра гэта паведаміў адзін з кіраўнікоў Саюзу палякаў Анджэй Пачобут.

## Кастусёў узяў удзел ва ўшанаваньні паўстанцаў 1863 году

30 кастрычніка 2010

У Сьвіслачы і Якушоўцы Горадзенскай вобласьці актывісты з розных рэгіёнаў Беларусі традыцыйна ў гэты дзень ўшанавалі памяць паўстанцаў 1863 году. Сёньня тут, як ніколі раней, гучалі заклікі палітыкаў.

Увесь час удзельнікаў акцыі фільмавалі людзі ў цывільным, але не перашкаджалі ім.

На мерапрыемстве прысутнічаў толькі адзін прэтэндэнт у кандыдаты на прэзыдэнта — Рыгор Кастусёў. Прамаўляючы, ён адзначыў, што хацеў бы, каб для ўсіх беларусаў браты Каліноўскія сталі яркім прыкладам таго, як змагацца за сваю Радзіму.

## Мурын Янка — беларускі інсургент

17 сьнежня 2010
Уладзімер Арлоў

Пісьменьнік адказвае чытачам.

*Не сакрэт, што вызвольнае паўстаньне 1863—1864 гадоў у Беларусі расейская гістарыяграфія ды яе мясцовае пазадзьдзе называюць „польскім“. Мы ведаем, што гэта — імпэрская хлусьня. А ці ёсьць зьвесткі аб прадстаўніках іншых народаў, якія разам зь беларусамі-ліцьвінамі (яны тут складалі пераважную большасьць інсургентаў) ды*

*іхнімі пабрацімамі-палякамі бралі ўдзел у барацьбе, рызыкавалі жыцьцём і гінулі за нашу свабоду?*

*Цімох, студэнт-гісторык*

У свабоды няма нацыянальнасьці, але ёсьць радзіма — вольная чалавечая душа.

Змаганьне за вызваленьне ад іншаземнага прыгнёту ва ўсе часы прыводзіла пад свае сьцягі вальналюбных людзей незалежна ад паходжаньня. Не было выняткам і паўстаньне 1863 году.

На жаль, грунтоўнага дасьледаваньня на гэтую надзвычай цікавую тэму пакуль што, наколькі мне вядома, няма. Але зьвестак пра тое, што сярод каліноўцаў з царскімі карнікамі ваявалі ня толькі тутэйшыя жыхары, вельмі шмат.

На самым пачатку паўстаньня аддзел з 150 шабляў і стрэльбаў на чале зь Людвікам Зьвяждоўскім, што меў кансьпірацыйную мянушку Тапор, раптоўным начным ударам захапіў горад Горы-Горкі на ўсходзе Беларусі. Раніцой да змагароў далучыліся некалькі дзясяткаў студэнтаў Горацкага земляробчага інстытуту. Сярод іх быў дваццацігадовы вольны слухач гэтай навучальнай установы Апалон Сокалаў — этнічны расеец, бацькі якога паходзілі з унутраных губэрняў імпэрыі. Апалон заставаўся з Тапаром да самага моманту вымушанага роспуску аддзелу і пастановы па адным прабівацца на захад.

Агентам Віленскага паўстанцкага камітэту быў Дзьмітры Базанаў, які займаў пасаду пісара ў Троцкім павеце. У матэрыялах сьледчай камісіі значыцца: „Удивляться нужно дерзости и энергии Базанова; он один из самых деятельных членов комитета и отправлял мятежникам большие транспорты с оружием“. Захаваўся дагератыпны партрэт Дзьмі-

трыя, зь якога глядзіць малады чалавек, нечым падобны ў маім уяўленьні да герояў Дастаеўскага.

Зазначу, што паўстанцаў кшталту Апалона Сокалава й ягоных суайчыньнікаў каралі значна больш жорстка параўнаўча з спрадвечнымі жыхарамі „Северо-Западного края“. „Измена государю и отечеству“ з боку расейцаў лічылася найбольш цяжкай. Апалона пазбавілі дваранства з усімі маёмаснымі правамі й асудзілі на 12 гадоў катаржнай працы ў сібірскіх капальнях, дзе, як выглядае, і згасла ягонае нядоўгае жыцьцё.

Уважлівыя чытачы раману Ўладзімера Караткевіча „Каласы пад сярпом тваім“ мусяць памятаць не зусім звычайнага героя — чарнаскурага юнака Янку, што выхоўваўся пры адным з шляхецкіх двароў. Лёгіка падзеяў павінна была прывесьці пасталелага Янку разам зь сябрамі дзяцінства ў шэрагі паўстанцаў. Названага літаратурнага героя можна ўспрымаць проста як плён пісьменьніцкай фантазіі. Аднак я ўпэўнены, што Караткевіч быў знаёмы зь „беларускімі“ нататкамі расейскага літаратара Мікалая Ляскова, што падарожнічаў па Літве-Беларусі якраз у той неспакойны час і пакінуў запіс пра захопленага ў палон параненага інсургента-мурына.

У Літоўскі камітэт — нелегальны цэнтар падрыхтоўкі збройнага выступу — уваходзіў італіец, сьпявак і танцмайстар Ахіл Банольдзі. Італія была радзімаю продкаў іншага знакамітага паўстанца — мастака Міхала Андрыёлі. Ён (дарэчы, разам з Францішкам Багушэвічам) ваяваў у аддзеле аднаго з кіраўнікоў паўстаньня Людвіка Нарбута і пакінуў своеасаблівы мастацкі летапіс змаганьня.

Кажуць, што Айчыну не выбіраюць. Але кожны можа выбраць свабоду.

## У Вільні адбылося шэсьце ў памяць Кастуся Каліноўскага

19 сакавіка 2011

Акцыя ў памяць Кастуся Каліноўскага ў Вільні да ўгодкаў сьмерці героя праводзіцца чацьверты раз.

На шэсьце сабралася каля 20 удзельнікаў з розных краін і розных нацыянальнасьцяў, пераважна беларуская моладзь.

## „Межы Радзімы пазначым крывёю!“

29 верасьня 2011
Уладзімер Арлоў

Пісьменьнік адказвае чытачам.

*Лічаныя месяцы засталіся да 150-годзьдзя нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863 году. Памятаю, трыццаць гадоў таму наш інстытуцкі выкладчык гісторыі даводзіў, што паўстанцы дзейнічалі толькі на захадзе Беларусі. На ўсходзе і ў цэнтры краю нібыта панаваў спакой, а калі інсургенты і зьяўляліся, сяляне хутка здавалі іх расейскім войскам. З гэтага рабілася выснова, што паўстаньне было польскае. Такія выкладчыкі й такія погляды сустракаюцца (і на афіцыйным узроўні заахвочваюцца) і цяпер. Што адказаў бы ім спадар Арлоў?*

*Генадзь з полацкага Задзьвіньня*

Свой адказ я пачаў бы з геаграфіі збройнага змагання.

Праз тыдзень пасьля выступу інсургентаў у Варшаве нелегальны Літоўскі правінцыйны камітэт, які рыхтаваў паўстаньне на нашых землях, быў пераўтвораны ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі. 1 лютага 1863 году ён выдаў у Вільні маніфэст з заклікам далучыцца да барацьбы.

Для ўсяго абшару колішняга Вялікага Княства Літоўскага была прызначаная паўстанцкая адміністрацыя.

„Межы Радзімы пазначым крывёю!“ — такі быў адзін зь лёзунгаў змагароў.

Ужо ў першыя дні інсургенты захапілі на захадзе горад Пружаны, а таксама мястэчка Сьвіслач. На ўсходзе аддзел вайсковага начальніка Магілеўскага ваяводзтва Людвіка Зьвяждоўскага, да якога далучыліся студэнты і выкладчыкі Горы-Горацкага земляробчага інстытуту, у адну з красавіцкіх начэй заняў Горкі.

З баямі прайшло праз Горадзенскую губэрню да Пінску фармаваньне Рамана Рагінскага. Паўстанцаў-менчукоў ачоліў Антон Трусаў. На Лідчыне пасьпяхова ваяваў з расейскімі карнікамі аддзел Людвіка Нарбута. Паблізу Краславы людзі графа Лявона Плятэра захапілі вялікі царскі транспарт з зброяй...

На поўнач ад Полацку паручнік Баляслаў Кульчыцкі камандаваў аддзелам, дзе змагаліся полацкая ды себеская шляхта і тутэйшыя студэнты Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Камісарам суседняга Дзісенскага павету быў вядомы скульптар Генрык Дмахоўскі, які, жывучы ў ЗША, стварыў для Кангрэсу бюсты Тадэвуша Касьцюшкі і Томаса

Джэфэрсана. Зусім недалёка ад нашага з вамі роднага Задзьвіньня (праўда, мы, гарадзкія, у дзяцінстве з задзьвінскімі заўсёды біліся), каля Янова і Бікульнічаў месьціліся базы паўстанцкага аддзелу Отана Грабніцкага.

Як бачым, змаганьнем з расейскімі калянізатарамі была ахопленая ўся тэрыторыя Літвы-Беларусі. Як сьведчаць дакумэнты, у Пецярбургу панічна баяліся, што паўстаньне перакінецца на беларускую Смаленшчыну, адарваную ад Вялікага Княства яшчэ ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя.

На тэрыторыі былога Княства ад лютага да жніўня 1863 году адбылося блізу 100 бітваў і баявых сутычак каліноўцаў з царскай арміяй. Найбольшай была бітва пад Мілавідамі (цяпер Баранавіцкі раён), дзе расейцам супрацьстаялі горадзенскі, наваградзкі, пружанскі, ваўкавыскі ды слонімскі паўстанцкія аддзелы.

Злучаныя сілы інсургентаў на чале з Аляксандрам Лянкевічам адбілі ўсе атакі выдатна ўзброеных і вымуштраваных карнікаў. Сёньня пра тую перамогу нагадваюць у Мілавідах капліца і мэмарыяльны камень.

Найдаўжэй барацьба трывала на Горадзеншчыне, дзе ваяводзкім камісарам (пасьля таго, як варшаўскаму „беламу“ цэнтру ўдалося расфармаваць рэвалюцыйны ўрад у Вільні) стаў сам Каліноўскі, а сярод інсургентаў было шмат сялянаў. Баі на захадзе Беларусі працягваліся да пачатку 1864 году.

Паўстаньне засталося адным зь нешматлікіх у гісторыі XIX стагодзьдзя прыкладаў, калі найлепшыя сыны паняволенага народу, баронячы чалавечую і нацыянальную годнасьць, паўсталі супроць велізарнай імпэрыі. Коштам іхніх жыць-

цяў Літва-Беларусь выказала пратэст расейскаму фэадалізму і дэспатызму, засьведчыўшы прыхільнасьць да эўрапейскіх каштоўнасьцяў, канстытуцыйнасьці й парлямэнтарызму.

У польскай і расейскай гістарыяграфіі паўстаньне 1863–1864 гадоў ацэньваецца як польскае, але гэта не адпавядае сапраўднасьці. І напярэдадні, і ў ходзе збройнага змаганьня на беларускіх землях існавала моцная плынь ліцьвінскага (беларускага) нацыянальна-вызвольнага руху, узначаленая Каліноўскім.

З расейскімі карнікамі ваявалі тысячы нашых суайчыньнікаў. Сярод іх было ўжо шмат тых, хто гатовы быў ахвяраваць жыцьцё не за Рэч Паспалітую, а за сваю будучую незалежную дзяржаву.

Як вядома, паўстанцы мелі беларускую газэту, у іх шэрагах былі пісьменьнікі Францішак Багушэвіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Фэлікс Тапчэўскі.

Нараджалася беларуская нацыя.

## У Сьвіслачы ўзгадалі паўстанцаў, палітвязьняў і згінулых палітыкаў

29 кастрычніка 2011

Ушаноўваючы памяць паўстанцаў у Сьвіслачы, актывісты з многіх гарадоў Беларусі называлі цяперашніх палітвязьняў і згінулых палітыкаў прадаўжальнікамі справы Кастуся Каліноўскага. Увесь час на мерапрыемствах прысутнічалі „людзі ў цывільным“, усе дзеі здымаліся на камэру міліцэйскага

апэратара. На Дзень памяці ў Сьвіслачы сабраліся каля сотні чалавек.

Лідэр АГП Анатоль Лябедзька адзначыў у сваім выступе, што справа паўстанцаў 1863 году дагэтуль захоўвае сваю актуальнасьць:

— У першую чаргу я адзначаю тых, хто аддаў тое, што даецца чалавеку Богам — гэта жыцьцё. Гэта Юры Захаранка і Віктар Ганчар, а таксама нашы калегі, якія сёньня знаходзяцца ў вязьніцы: Андрэй Саньнікаў, Зьміцер Дашкевіч, Зьміцер Бандарэнка, Мікола Статкевіч і іншыя, вызваленьня якіх мы павінны дабівацца.

## Імёны Свабоды: Людвік Нарбут

1 лістапада 2011
Уладзімер Арлоў

Людвік Нарбут з тых, чыё жыцьцё я, спрабуючы адказаць на розныя няпростыя пытаньні, прымяраю да сябе.

Ягоным бацькам быў славуты гісторык Тэадор Нарбут. Напэўна, якраз гісторыя, якую Цыцэрон назваў настаўніцаю жыцьця, і выхавала ў Людвіка патрыятызм і самаахвярнасьць.

Ужо ў васямнаццаць гадоў ён, вучань апошняе клясы Віленскай гімназіі, быў арыштаваны за спробу стварыць таемную антырасейскую арганізацыю з мэтаю падрыхтоўкі вызвольнага паўстаньня. Справа зацікавіла самога Мікалая І.

Рэзалюцыя цара, нездарма празванага Палкіным, была надзвычай жорсткаю: пакараць розгамі й аддаць у салдаты.

Юнака чакала нясьцерпна цяжкая васьмігадовая служба салдата-штрафніка. У лістах з Каўказу, дзе ваяваў яго полк, Людвік прасіў прыслаць валошку ці каласок з родных палёў.

Даслужыўшыся да званьня прапаршчыка, ён неадкладна скарыстаўся правам афіцэра на адстаўку і вярнуўся ў Беларусь.

Лёс падараваў яму шчасьце з маладой жонкаю Амэліяй. Але сямейная ідылія была нядоўгай: у краі рыхтавалася паўстаньне...

Блізка знаёмы з Каліноўскім, Людвік узначаліў інсургентаў у Лідзкім павеце. Аддзел Нарбута, аснову якога складалі сяляне, быў, бадай, самым баяздольным ува ўсім краі.

Пасьля некалькіх перамогаў над расейскімі карнікамі паўстанцкія ўлады надалі Людвіку званьне палкоўніка, а генэрал-губэрнатар краю Назімаў прызначыў за ягоную галаву буйную грашовую ўзнагароду і кінуў супраць трох сотняў змагароў, узброеных толькі косамі й паляўнічымі стрэльбамі, дзьве тысячы салдат і казакоў.

На пачатку траўня 1863-га ў Дубіцкім лесе над ракой Котраю Людвік Нарбут, якога адзін з сучасьнікаў назваў „выразьнікам духу і гераізму эпохі“, уступіў у свой апошні бой. Каб канчаткова адолець нарбутоўцаў, расейскім карнікам спатрэбілася восем атак.

Праз год пасьля паўстаньня знакаміты беларускі мастак, італіец з паходжаньня, Міхал Андрыёлі, які ваяваў пад камандаваньнем Людвіка, створыць вядомы графічны твор, прысьвечаны сьмерці героя. Існуе думка, што сярод паўстанцаў на карціне паказаны і малады Францішак Багушэвіч, які змагаўся ў тым самым аддзеле.

Людвік Нарбут. 7.9.1832, в. Шаўры, цяпер Воранаўскі раён — 4.5.1863, ваколіцы в. Дубічы, цяпер Дубічай, Літва. Быў пахаваны ў братняй магіле ў Дубічах. Магіла не захавалася.

## У Беларусь вяртаюцца генэрал-губэрнатары

3 лістапада 2011

Аляксандар Лукашэнка прысвоіў званьне генэрал-маёра губэрнатарам абласьцей і мэру Менску, паведаміла БЕЛТА.

У прыватнасьці, згадаўшы старшыню Менгарвыканкаму Мікалая Ладуцьку, Лукашэнка сказаў: „Ён ад сёньняшняга дня — генэрал-маёр. Ён галавой адказвае за тэрытарыяльную абарону“.

Дагэтуль генэрал-губэрнатары кіравалі ў Беларусі ад моманту захопу краіны Расейскай імпэрыяй і да бальшавіцкае рэвалюцыі. Асобаў на пасаду генэрал-губэрнатара прысылалі з тэрыторыі Расеі як абаронцаў інтарэсаў Расейскае імпэрыі. Найбольш запамінальным зь іх быў Міхаіл Мураўёў, які кіраваў задушэньнем нацыянальна-вызвольнага паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. У Беларусі ў Мураўёва былі мянушкі Вешальнік і Людажэр.

## Аўрымас Таўрантас: Памяць пра Каліноўскага нам вельмі дарагая

15 лютага 2012
Аляксандар Лукашук

Напярэдадні Дня незалежнасьці Літвы Радыё Свабода наведаў амбасадар Літвы ў Чэхіі Аўрымас Таўрантас.

**Лукашук**: Вы былі адным з заснавальнікаў „Саюдзісу“, у якасьці дэпутата Вярхоўнага Савету вы падпісвалі Акт аб незалежнасьці Літвы, вы былі сьпікерам парлямэнту. Як з гэтых пазыцый, як адзін з кіраўнікоў Літвы, вы глядзіце на дату 150 гадоў пакараньня сьмерцю Кастуся Каліноўскага, нацыянальнага героя для многіх народаў, у тым ліку беларускага? Шмат каго непакоіць, што на месцы ягонага пахаваньня няма больш помніка, ягоная памяць адзначана не належным чынам? Ці магчымыя тут супольныя дзеяньні беларускага і літоўскага грамадзтва?

**Таўрантас**: Наколькі я ведаю, мы маем іншыя дадзеныя. Але найперш я хачу сказаць, што памяць пра Каліноўскага нам вельмі дарагая. І яго памяць у Вільні прысутнічае шмат дзе. Ёсьць вуліца, названая ў ягоны гонар. Ёсьць мэмарыяльная шыльда на месцы экзэкуцыі, ёсьць шыльда, дзе ён быў у зьняволеньні. І ў будучым годзе, калі будзе 150-ая

гадавіна паўстаньня, вядома ж, знакаў памяці будзе ў Вільні болей.

Наконт месца, якое вы прыгадалі, наколькі я ведаю, на гары Гедзіміна стаяў крыж да Другой сусьветнай вайны. Пасьля гэтага там нічога не было. У гісторыкаў ёсьць сумненьні, там ён пахаваны ці не. Бо пахаваньня не было, царская ўлада не дазваляла пахаваць яго належна. Так што няма дакладных дадзеных, што там магіла яго і іншых удзельнікаў паўстаньня. Іншыя кажуць, што раней было пахаваньне там, а потым перанесьлі ў іншае месца. Так што тут спрэчка паміж гісторыкамі.

Але, як я казаў, памяць Каліноўскага ў Вільні адзначаная. І, думаю, у наступным годзе мы ўбачым яшчэ болей знакаў павагі да Каліноўскага ў Літве.

## Горадня: на помнік Каліноўскаму спадзяваньняў няма

11 траўня 2012

Горадзенскія актывісты „Маладога фронту“ атрымалі адказ з гарвыканкаму на сваю прапанову ўсталяваць помнік Кастусю Каліноўскаму ў абласным цэнтры да 150-х угодкаў паўстаньня 1863 году.

Чыноўнікі пішуць, што „мерапрыемствы, прысьвечаныя 150-гадоваму юбілею паўстаньня 1863 году, знаходзяцца ў стадыі распрацоўкі“.

Паводле актывіста „Маладога фронту“ Алеся Кіркевіча, у адказе з гарвыканкаму няма ніводнага канкрэтнага слова наконт усталяваньня помніка Кастусю Каліноўскаму ў Горадні.

Яшчэ ў 1988 годзе, калі ў Горадні адзначаліся 150-я ўгодкі нараджэньня Кастуся Каліноўскага, ЦК Кампартыі Беларусі пры падтрымцы Гарадзенскага гарвыканкаму пастанавіў ушанаваць памяць Кастуся Каліноўскага помнікам герою і некалькімі памятнымі шыльдамі. У выніку зьявілася толькі адна шыльда — на будынку Гарадзенскага чыгуначнага вакзалу. А помнік, на які нават правялі конкурс і абралі для яго месца (каля Дому прафсаюзаў), так і не зьявіўся.

## Грамадзкасьць абвясьціла Год Каліноўскага

22 чэрвеня 2012

У сувязі з 150-мі ўгодкамі вызваленчага паўстаньня 1863 году створаны аргкамітэт па ўшанаваньні герояў паўстаньня, а 2013 год абвешчаны Годам Кастуся Каліноўскага.

Першае паседжаньне грамадзкага камітэту прайшло ўчора. Сустаршынямі абралі доктара Янку Запрудніка, лідэра руху „За свабоду“ Аляксандра Мілінкевіча і кіраўніка кампаніі „Гавары праўду“ Ўладзімера Някляева. Усяго ў аргкамітэт увайшлі каля 30 выбітных асобаў беларускага грамадзтва: гісторыкаў, мастакоў, журналістаў, грамадзкіх і іншых дзеячоў.

У плянах аргкамітэту — шырока адзначыць 150-я ўгодкі паўстаньня супольна зь літоўцамі і палякамі. Аргкамітэт зьвярнуўся ва ўрад і Нацыянальны сход Беларусі, ва ўрады і парлямэнты Літвы і Польшчы з прапановай разам ушанаваць юбілей паўстаньня.

Уладзімер Някляеў заявіў, што глябальная мэта Году Каліноўскага — скарыстаць усе магчымасьці, каб спыніць палітыку дэбеларусізацыі і павярнуць у рэчышча нацыянальнага адраджэньня.

## Прэм'ера ў Беластоку: нямое кіно „Кастусь Каліноўскі" пераагучылі

19 кастрычніка 2012

Кінаканцэрты адбудуцца 19 і 20 кастрычніка ў залях Падляскай опэры і філярмоніі. Музыка Сяргей Пукст прадставіць саўндтрэк да нямога кіно 1927 году „Кастусь Каліноўскі".

## Затрыманьні ў Сьвіслачы на ўшанаваньні памяці братоў Каліноўскіх

27 кастрычніка 2012

Трох хлопцаў і адну дзяўчыну затрымалі падчас грамадзкай акцыі ўшанаваньня памяці паўстанцаў 1863 году. Пра гэта Радыё Свабода паведаміў грамадзкі актывіст Міхаіл Пашкевіч:

— Спачатку затрымалі двух хлопцаў за бел-чырвона-белыя сьцягі. А ўжо па вяртаньні з фальварку Якушоўка затрымалі Алеся Крата і Станіславу Гусакову за тое, што яны нібыта парушылі правілы правядзеньня грамадзкай акцыі. Зараз мы ўсе едзем у РУУС, каб даведацца, што зь імі адбываецца.

Паводле Міхаіла Пашкевіча, у акцыі прынялі ўдзел каля 30 чалавек. Сярод прамоўцаў быў былы палітвязень Сяргей Каваленка.

У сваім выступе Станіслава Гусакова сказала: „Я вельмі ўсьцешана, што сюды трапіла, паколькі лёс маёй сям'і цесна зьвязаны з Каліноўскім. Мой прапрапрадзед быў сасланы пасьля паўстаньня, а я пасьля выбараў 2006 году і 12 сутак арышту ў Жодзіне навучалася па праграме Каліноўскага".

Траіх затрыманых у Сьвіслачы — Алеся Крата, Станіславу Гусакову і Вітольда Ашурка — пакінулі ў РУУСе да суду, які адбудзецца ў панядзелак. Аднаго з затрыманых адпусьцілі, прозьвішча яго невядомае.

## Сьвіслач: Гусакову і Крата асудзілі на 3 сутак арышту

30 кастрычніка 2012

Станіславу Гусакову зь Віцебску і Алеся Крата зь Менску прызналі вінаватымі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі і выкарыстаньні незарэгістраванай сымболікі. Суд пастанавіў канфіскаваць у іх бел-чырвона-белыя сьцягі. Саміх Станіславу і Алеся з суду забралі ў пастарунак даседжваць — ім засталося менш за суткі.

Станіслава Гусакова распавяла, у якіх умовах яны з суботы сядзелі ў Сьвіслацкім СІЗА:

— Наагул, было страшэнна холадна, у будынку няма каналізацыі, два разы на дзень нас выводзілі ў прыбіральню на вуліцы і праводзілі да ўмывальніка. Але быў вельмі людзкі пэрсанал, яны

імкнуліся ўсякім чынам нівэліраваць сытуацыю: далі коўдры і прыносілі гарачую ваду.

Алесь Крот зьвярнуў увагу: пры разглядзе ўсіх спраў суд відавочна шукаў у іхніх дзеяньнях тое, што яны ўдзельнічалі не ў жалобных мерапрыемствах дзеля ўшанаваньня нацыянальных герояў, а праводзілі недазволены мітынг.

Моладзевага актывіста Віталя Лопасава таксама прызналі вінаватым і аштрафавалі на 3 мільёны рублёў. Ён сказаў:

— Проста было сьмешна глядзець на гэтага судзьдзю: усё разумее, усьміхаецца... Ён рабіў ня тое, чаго патрабуе ягоная справа, а тое, што яму сказалі праз тэлефон рабіць. Вось і ўсё.

Разгляд справы Вітольда Ашурка зь Бярозаўкі перанесьлі на 1 лістапада.

## Сьвіслач: 3 сутак арышту за Каліноўскага

1 лістапада 2012

Вітольда Ашурка Сьвіслацкі суд прызнаў вінаватым ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі і выкарыстаньні незарэгістраванай сымболікі падчас акцыі ўшанаваньня памяці паўстанцаў Каліноўскага. З залі суду яго сёньня забралі ў пастарунак адбываць рэшту пакараньня — яму засталося менш за суткі.

**Станіслава Гусакова (Віцебск)**

Чакаем Вітольда на волі! Вельмі прыемна было з ім пазнаёміцца, хаця і ў не найлепшых умовах — перад судом у РАУСе. Велізарны дзякуй усім, хто за нас перажываў, а асабліва спадару Юрасю Глебіку і ягонай жонцы за цёплы прыём, за начлег, за падтрымку і ўсялякую дапамогу! Жыве Беларусь!

## На Вялейшчыне ўсталявалі крыж у памяць паўстанцаў 1863 году

8 лістапада 2012

Актывісты вялейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў усталявалі драўляны крыж на брацкай магіле паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, што каля вёскі Ўладыкі Вялейскага раёну.

Крыж быў асьвечаны пробашчам Альковіцкага касьцёла ксяндзом Анатолем. Таксама было зладжана набажэнства ў гонар загінулых паўстанцаў. Кіраўнік суполкі Дзяніс Канецкі паведаміў, што стары крыж, які паставілі на пачатку 1990-х гадоў скаўты з Маладэчна і вучні Сьцешацкай школы, ужо спарахнеў, таму актывісты вырашылі ўсталяваць новы крыж-помнік.

## За ўшанаваньне памяці паўстанцаў — штрафы

27 лістапада 2012

Сьвіслацкія дэмакратычныя актывісты Анатоль Валюк, Юры Глебік і Віктар Дзясяцік пакараныя штрафамі ў адзін мільён рублёў. Іх зьвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мітынгу і шэсьці.

Такім чынам Сьвіслацкі суд кваліфікаваў акцыю ўшанаваньня памяці паўстанцаў 1863 году, якая адбылася 27 кастрычніка.

Анатоль Валюк кажа, што пратакол на яго складаў ягоны былы вучань са Сьвіслацкай школы, і калі ён прасіў зачытаць, што там напісана, той гэтага не

зрабіў. А ў судзе высьветлілася, што Валюк удзельнічаў у мітынгу каля магілы Віктара Каліноўскага, а потым у шэсьці да помніка Кастусю Каліноўскаму.

## Імёны Свабоды: Флярыян Даноўскі

1 сьнежня 2012
Уладзімер Арлоў

Вас калі-небудзь арыштоўвалі за вашыя погляды? У сёньняшняй Беларусі шмат хто на гэтае пытаньне адкажа станоўча і зразумее пачуцьці тых студэнтаў, гімназістаў, маладых службоўцаў — сяброў таемнага Братняга саюзу літоўскай моладзі, якіх у 1849-м паліцыя забірала ў Вільні, Менску, Горадні, Слоніме...

Ці ня самым юным з двухсот прыцягнутых да сьледзтва патрыётаў быў віленскі навучэнец Флярыян Даноўскі. Праз васямнаццаць бясконцых турэмных месяцаў гэты яшчэ амаль хлопчык з адухоўленым, летуценным абліччам і такой самай душою выслухаў вырак вайсковага трыбуналу: пятнаццаць гадоў катаргі.

Перш чым закаваць 16-гадовага Флярыяна ў кайданы й адправіць на этап, яго прагналі праз шыхт салдатаў з шпіцрутэнамі.

Напачатку ён, прыкуты да тачкі, працаваў у вусьцішных Нерчынскіх капальнях. Але ў кагосьці з начальства здрыганулася сэрца: юнака раскавалі й перавялі на пасяленьне ў Табольск.

Пры канцы 1850-х гадоў сябры Братняга саюзу літоўскай моладзі па амністыі вярталіся ў родныя мясьціны. Аднак, думаючы, што дух нядаўніх ка-

таржанаў зламаны, каляніяльныя расейскія ўлады пралічыліся.

У красавіку векапомнага 1863-га Даноўскага зноў схапілі за прыналежнасьць да паўстанцкай арганізацыі. Усе спробы царскіх катаў вырваць прызнаньне былі марныя. Тады Флярыяна падвялі да шыбеніцы. „Табе толькі 29 гадоў, усё жыцьцё наперадзе, — сказаў расейскі капітан. — Усяго некалькі імёнаў і адрасоў...“ — „Ня ведаю“, — адказаў Даноўскі. На шыю накінулі пятлю й душылі да страты прытомнасьці...

У траўні 1864-га — новы арышт. Пасьля двух гадоў астрогу — высылка ў Сібір.

Вярнуўшыся празь дзесяць гадоў на радзіму, ён знайшоў прытулак у Прынарачанскім краі ў маёнтку Каралінова мастака Альфрэда Ромэра, які ўвекавечыў Даноўскага ў адным з сваіх партрэтаў.

Магілаю гэтага чалавека-легенды апякуецца сёньняшні калега Ромэра Алесь Цыркуноў, што пасяліўся ў тых мясьцінах.

Флярыян Даноўскі. 1834, Панявеж, Літва — 6.3.1902, маёнтак Каралінова, цяпер Пастаўскі раён. Пахаваны на Канябіцкіх могілках паблізу в. Камаі, Пастаўскі раён.

## Прысуды ў Сьвіслачы выносяць завочна

22 сьнежня 2012

Гарадзенку Ірыну Данілоўскую Сьвіслацкі раённы суд асудзіў безь яе прысутнасьці на 8 базавых велічынь. Завочна асуджаны і актывіст Алесь Кіркевіч.

## Дыктоўка ў дзень народзінаў Кастуся Каліноўскага

8 студзеня 2013

Філёзаф Уладзімер Падгол зьвярнуўся з адкрытым лістом да беларусаў, кіраўнікоў партый і грамадзкіх аб'яднаньняў, сяброў творчых саюзаў і рухаў з ініцыятывай напісаць агульнанацыянальную дыктоўку 2 лютага.

„Вядомыя асобы нашага часу, літаратары і мастакі, навукоўцы і студэнты, грамадзкія і палітычныя дзеячы могуць выступіць зь відэазваротам да беларусаў з заклікам напісаць сумесна агульнанацыянальную дыктоўку па «Лістах з-пад шыбеніцы» Каліноўскага і пасьля звароту начытаць знакаміты тэкст. Відэазварот можна рыхтаваць і выстаўляць на сайты ўжо цяпер“, — напісаў ён.

Падгол адзначае, што „дзесяцігодзьдзямі агульнанацыянальныя дыктоўкі пішуць палякі і літоўцы, пішуць грамадзяне іншых эўрапейскіх краін“.

„Яны ўжо адстаялі сваю незалежнасьць і пішуць дыктоўку салідарнасьці са сваёй мовай, выяўляючы найлепшага знаўцу. Для нас пакуль больш важна праявіць салідарнасьць са сваімі нацыянальнымі героямі, якія перад сьмерцю, перад сустрэчай з Богам пісалі не прашэньні цару аб памілаваньні, а пісалі сваім паплечнікам і нам, сваім нашчадкам, як абараняць сваю Радзіму. У Літве 2013 год заканадаўцамі абвешчаны годам Каліноўскага. Давайце паспрабуем і мы выкарыстоўваць магчымасьць

наблізіцца да эўрапейскіх народаў на іх сучасных узорах нацыянальнай салідарнасьці“, — падкрэсьліваецца ў звароце.

## У Столінскім раёне рыхтуюць гадавіну паўстаньня Каліноўскага

13 студзеня 2013

Столінскія ўлады дагэтуль не далі адказу адносна наданьня статусу гісторыка-культурнай каштоўнасьці помніку вызваленчага паўстаньня 1863 году. Зрабіць гэта абяцалі яшчэ ў канцы сьнежня мінулага году.

Хоць і няма адказу, але стала вядома, што будзе прынятае рашэньне прывесьці тэрыторыю ў належны стан.

Мэмарыяльны знак і крыж знаходзяцца ў вёсцы Калоднае, што ў Столінскім раёне, паведамляе Радыё Рацыя.

Староста вёскі Міхаіл Карсека, які зьвярнуўся зь лістом да кіраўніцтва раёну, у інтэрвію Радыё Рацыя запрашае гасьцей у Калоднае на 150-годзьдзе:

— Паўстанцы ішлі менавіта сюды, бо ведалі, што іх тут падтрымаюць, што іх тут накормяць. Яны шэсьць дзён хадзілі галодныя, нават за грошы ім не прадавалі ежу.

Бой атраду паўстанцаў пад кіраўніцтвам генэрала Рамуальда Траўгута ў Калодным адбыўся 11 ліпеня 1863 году. Сем паўстанцаў загінула. У 1974 годзе быў пастаўлены знак, а ў пачатку 2000-х гадоў праўнук удзельніка паўстаньня паставіў вялізны крыж.

## У Гайнаўцы адкрылі помнік Студзеньскаму паўстаньню

14 студзеня 2013

Помнік, які знаходзіцца каля касьцёла Ўзьнясеньня сьвятога Крыжа ў павятовым цэнтры, узьнік з ініцыятывы дэпутата польскага Сэйму Кшыштафа Юргеля, сэнатара Яна Дабжанскага ды дэпутатаў сойміку Падляскага ваяводзтва ад партыі „Права і справядлівасьць“.

На цырымоніі асьвячэньня помніка, якая адбылася 13 сьнежня, прысутнічалі мясцовыя ўлады, школьнікі і прадстаўнікі каталіцкага і праваслаўнага духавенства.

Кшыштаф Юргель, прамаўляючы на цырымоніі, сказаў, што ў Студзеньскім паўстаньні — якое, нягледзячы на пачатковыя перамогі, закончылася паразай паўстанцаў — мелі месца больш за 1200 бітваў і сутычак. У змаганьні супраць царскіх войскаў загінулі больш за 10 тысяч паўстанцаў, каля тысячы царскія ўлады павесілі, 38 тысяч выслалі на катаргу, а звыш 10 тысяч былых паўстанцаў эміgravалі.

**Язэп**

А дзе тут што беларускае?

**Міхал (Тутэйшы)**

І якім бокам гэты помнік хоць нешта нагадвае беларускае, ну ці літвінскае ў тым сумесным паўстаньні? Выбачайце — ніяк не разгледзеў. Пэўна я запамятаваў, выбачайце. Сеньня ж папулярны пункт погляду, што паўстаньне было польскім, а астатнія проста дапамагалі найсвятлейшым панам аднаўляць іх Вялікую Польшчу.

## Кветак ад беларусаў на магілах паўстанцаў 1863 году няма

21 студзеня 2013

Польская Gazeta Wyborcza паведамляе пра ўшанаваньне памяці паўстанцаў 1863 году ў Берасьцейскай вобласьці.

У імпрэзе, якую арганізаваў генэральны консулят Польшчы ў Берасьці, узялі ўдзел журналісты, людзі культуры і прадстаўнікі польскай меншасьці ў Беларусі.

Свой чын яны прысьвяцілі 150-м угодкам паўстаньня, якое ў Польшчы называюць студзеньскім, а ў Беларусі — паўстаньнем Каліноўскага.

Удзельнікі адведалі горад Косава, дзе знаходзіцца братняя магіла паўстанцаў, колішні фальварак Востраў, дзе ў 1862–1863 гады жыў адзін з кіраўнікоў паўстаньня Рамуальд Траўгут, а таксама вёскі Сабалі зь яшчэ адной братняй магілай і Мілавіды, дзе адбылася буйная бітва паўстанцаў з расейскім войскам.

Удзельнікі ўсклалі кветкі і запалілі сьвечкі.

„Пры гэтых помніках паўстанцаў 1863–1864 гадоў мы ня бачым кветак ад беларускага народу, — сказаў у сваім выступе ўдзельнік урачыстасьцяў мастак Анатоль Жалудко. — А паўстаньне, пры тым, было за нашу і вашу свабоду“.

**Zmicier**

Ня трэба ўжо паліваць брудам усіх беларусаў. Вось фатаграфіі верасня 2012 года помніку 40 паўстанцам каля вёскі Ласасін Пружанскага раёну. Ніякіх палякаў не было там у 2012 годзе, а кветкі ляжаць — так што не абагульняйце!

**Віктар (Берасце)**

Беларусы пакладуць туды кветкі 1 лютага — тады, калі пачалося паўстанне на нашых землях. Польскую ролю ў тых падзеях я б не называў вельмі станоўчай — на 4 месяцы яны адставілі ад кіраўніцтва Кастуся Каліноўскага. За гэты час царскія ўлады цалкам задушылі паўстанне ў Віцебскай, Магілёўскай і Менскай губернях. Толькі на Гарадзеншчыне, дзе Каліноўскі застаўся камісарам, карнікі яшчэ амаль год не маглі даць рады касінерам. Да апошняга тады змагаліся акурат беларусы, польскія „белыя“ капітулявалі значна раней. Так што не думаю, што „патранат“ польскіх уладаў патрэбен для таго, каб беларусы ўшанавалі памяць сваіх герояў. Для гэтага мы маем свае даты і сваіх герояў.

## Дзеля якога сьцяга можна рызыкаваць?

21 студзеня 2013

Сяргей Навумчык

У нядзелю ўвечары ў самым шматлюдным месцы Віцебску, ля „сіняга дому“, на вачах у мінакоў невядомы хлопец забраўся на слуп і прымацаваў бел-чырвона-белы сьцяг у „гняздо“, якое ў дні сьвятаў прызначанае для цяперашняга дзяржаўнага сьцяга. Гэта заняло 45 сэкундаў. Хлопец, бясспрэчна, рызыкаваў: мы памятаем, чым скончылася для Сяргея Каваленкі вывешваньне нацыянальнага сьцягу на навагодняй ялінцы.

Сьцяг быў вывешаны ў гонар 150-годзьдзя паўстаньня Кастуся Каліноўскага.

А вось падумалася: пасьля таго, як бел-чырвона-белы сьцяг і „Пагоня“ зноў будуць дзяржаўнымі — ці знойдуцца ахвотныя вось гэтак рызыкаваць (нават не свабодай — здароўем, бо небясьпечна ўпасьці з трохмэтровай вышыні) — каб вывесіць

чырвона-зялёны сьцяг — ну, напрыклад, у гонар нейкай гадавіны якой-небудзь шматлікай „изящной“ перамогі колішняга (на той момант) кіраўніка дзяржавы?

Ня памятаю, каб у 1991–1994 гадох нехта рызыкаваў лезьці на высакавольтную вежу са сьцягамі СССР і БССР — ахвотных зьвярнуць сабе шыю дзеля сьцьвярджэньня ідэалаў „непарушнага саюзу братніх народаў“ не было. Пра міліцэйскі пастарунак гаворка не ішла — хто хацеў, той выходзіў на нешматлікія мітынгі з чырвонымі сьцягамі ды партрэтамі Сталіна. У Беларусі, як вядома, ня быў асуджаны камуністычны рэжым, не адбылася люстрацыя — і чырвоныя сьцягі зь нямоглых рук пэнсіянэраў-сталіністаў перахапілі, адставіўшы часова свае гешэфты, былыя камсамольцы. А прыйшоўшы да ўлады — перафарбавалі краіну ў чырвона-зялёны колер.

Увогуле, дзеля Сьцяга рызыкаваць варта — бо, вядома, усё пачынаецца са Слова (з мовы), але замацоўваецца — Сьцягам.

## „Каго любіш? Люблю Беларусь“. Новы конкурс ад Радыё Свабода

21 студзеня 2013

Творчы конкурс „Каго любіш? Люблю Беларусь!“ прымеркаваны да 175-годзьдзя з дня нараджэньня Кастуся Каліноўскага і 150-годзьдзя ад пачатку паўстаньня 1863–1864 гадоў.

Якія працы мы чакаем? Арыгінальныя яскравыя нестандартныя крэатыўныя дызайны, фатаздымкі,

малюнкі, каляжы, дэматыватары, коміксы на патрыятычную ці гістарычную тэматыку, зьвязаныя з заяўленай тэмай.

## Кастусь Каліноўскі — партызан, пісьменьнік, дзяяч культурнай рэвалюцыі

22 студзеня 2013

Кім быў Кастусь Каліноўскі, што ягоным імем назвалі вуліцу? Адказваюць магілёўскія мінакі з вуліцы Каліноўскага.

**Спадарыня**: Дужа шмат зрабіў для беларускага народу. Пад ягоным кіраўніцтвам было дужа шмат паўстаньняў супраць кепскага жыцьця. За тое, каб у людзей было лепшае, іншае жыцьцё. Быў, можна сказаць, рэфарматарам.

**Спадар**: Гэта дзяяч культурнай рэвалюцыі Рэспублікі Беларусь XIX стагодзьдзя.

**Юначка і юнак**: Было паўстаньне Кастуся Каліноўскага. У гонар гэтага чалавека і назвалі гэтую вуліцу. Ён, калі не памыляемся, супраць царскай улады паўстаў, і яго потым пакаралі сьмерцю.

**Спадар сталага веку**: Каліноўскі — дык гэта пісьменьнік быў. Ці што? Пісаў паэмы, прозу. У гэтай творчасьці працаваў. Так, ці не?

**Спадарыня сталага веку**: Гэта быў беларускі рэвалюцыянэр. Змагаўся за вызваленьне Беларусі, каб прыгон адмяніць зь літоўцамі.

**Спадар**: Каліноўскі — гэта беларускі... не, не партызан, а які ўзьняў паўстаньне супраць польскіх паноў. Мне падаецца, што яго пакаралі сьмерцю. Там была нейкая здрада.

**Спадар**: Узьняў паўстаньне сялян за царскім рэжымам супраць усіх гэтых польскіх і літоўскіх паноў. Потым быў арыштаваны. Ссылка была.

**Спадарыня сталага веку**: Кастусь Каліноўскі — гэта наш беларускі дзяяч, гэтак мовіць, рэвалюцыйнага ўхілу.

**Спадар сталага веку**: Я ня ведаю. Я тут толькі 25 гадоў жыву. У Менску ёсьць вуліца Каліноўскага — разумееце. Тут нешта зьвязанае, як кажуць, зь Беларусьсю.

**Спадарыня**: Ведаю, што ёсьць такі Кастусь Каліноўскі. Ён наш герой, беларускі.

## Польшча сьвяткуе, афіцыйная Беларусь ігнаруе

22 студзеня 2013

150 гадоў таму пачалося паўстаньне Каліноўскага. Народы Беларусі, Літвы, Польшчы ўзьняліся супраць расейскай акупацыі.

У Польшчы ганаровы патранат над урачыстасьцямі, зьвязанымі зь юбілеем гэтай гістарычнай падзеі, узяў на сябе прэзыдэнт Браніслаў Камароўскі. У розных імпрэзах, якія будуць адбывацца цягам году, акрамя прэзыдэнта, прымуць удзел прадстаўнікі найвышэйшых дзяржаўных органаў улады.

Сёньня на месцы пахаваньня паўстанцаў на вайсковых могілках Павонзкі ў Варшаве адбудзецца пераклічка прозьвішчаў загіблых, ускладаньне кветак і запальваньне лямпад.

Як паведамляе амбасада Польшчы ў Менску, сьвяточныя захады заплянаваныя і на тэрыторы

Беларусі. З гэтай нагоды амбасадар Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Лешак Шэрэпка 22 студзеня накіроўваецца ў Сьвіслач, дзе ўскладзе вянкі да помнікаў Рамуальду Траўгуту і Кастусю Каліноўскаму, лідэрам паўстаньня.

Прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве былі запрошаныя прадстаўнікі пасольстваў Літвы, Латвіі і Ўкраіны.

У гэтыя дні прадстаўнікі польскіх консульскіх аддзелаў наведаюць магілы і памятныя месцы гераічнага чыну паўстанцаў па ўсёй Беларусі.

„Аб сьвяточных мерапрыемствах амбасада Польшчы ў Менску паінфармавала беларускія ўлады і запрасіла іх прыняць удзел у сьвяткаваньні 150-годзьдзя Паўстаньня 1863–1864 гадоў, таму што агульная гісторыя павінна аб'ядноўваць, а не дзяліць суседнія народы“, — гаворыцца ў паведамленьні польскай амбасады.

Тым часам ні пра якія афіцыйныя беларускія захады з нагоды юбілею паўстаньня Каліноўскага невядома.

На нядаўняй прэсавай канфэрэнцыі на пытаньне журналісткі ПАП, ці будуць нейкія агульныя з Польшчай мерапрыемствы сьвяткаваньня гадавіны паўстаньня, Лукашэнка адказаў: „Я пра гэта ня чуў. Калі такія прапановы будуць і яны не разыходзяцца з той палітыкай, якую мы праводзім у нашай дзяржаве, чаму не“.

На навуковай канфэрэнцыі з удзелам набліжаных да ўлады гісторыкаў пад назвай „Польскае шляхецкае паўстаньне 1863 году. Погляд на падзеі праз 150 гадоў“, якая прайшла днямі ў Менску, Кастуся Каліноўскага і паўстанцаў называлі тэрарыстамі і заклікалі паставіць у Менску помнік

цару Аляксандру II, душыцелю паўстаньня, хвалілі губэрнатара Мураўёва-вешальніка.

Прапагандыст Лукашэнкі Гігін заклікае пазбавіцца ад „каліноўшчыны“, разьвеяць міт аб Каліноўскім як нацыянальным героі, быццам бы створаным савецкай гістарыяграфіяй, якая бачыла ў лідэры паўстанцаў змагара з царызмам.

Гісторык Ігар Кузняцоў перакананы, што падобным чынам улады Беларусі ставяцца ня толькі да постаці Кастуся Каліноўскага і паўстаньня 1863 году, але і да гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, тэмы сталінскіх рэпрэсій:

— Усё, што зьвязана зь беларускай гісторыяй, выклікае алергію ў цяперашняй улады, і адносна гэтага ўладай абраны сродак замоўчваньня. Гэтая дата нідзе не адзначаецца, гэтае паўстаньне нідзе не аналізуецца, у падручніках пра яго пішуць як пра стыхійнае і выпадковае паўстаньне.

**Бенедзікт**

Літва і Польшча ўрэшце вызваліліся ад акупантаў. Беларусь пакуль пад акупацыяй...

**sava (mensk)**

Святкуюць гэты юбілей краіны, якім патрэбная незалежнасць. А ў нас пры ўладзе „сябры крамля“. Ім гэтае свята, як і крамлю, не патрэбна.

## Хто, дзе і як адзначыць юбілей паўстаньня

22 студзеня 2013

Да 150-х угодкаў паўстаньня Каліноўскага ў Беларусі выходзяць кнігі, календары, ладзяцца

канфэрэнцыі, выставы, вандроўкі. Зьявілася інтэрактыўная мапа.

Ва ўладаў пляну ўшанаваньня няма.

*22 студзеня, Сьвіслач.* Амбасадар Польшчы Лешак Шэрэпка ўскладзе вянкі да помнікаў Рамуальду Траўгуту і Кастусю Каліноўскаму — лідэрам паўстаньня.

*22 студзеня, Горадня.* Вечарына да юбілею паўстаньня ў будынку на вуліцы Будзённага, 48а.

*22 студзеня, Ліда.* Таварыства польскай культуры ладзіць акцыю памяці на магіле ксяндза Адама Фалькоўскага.

*24 студзеня, Горадня.* Мастацкая выстава, прысьвечаная паўстаньню 1863 году, у галерэі „Крыга“.

*1 лютага, Ліда.* Акцыя памяці паўстанцаў на магіле ксяндза Адама Фалькоўскага з удзелам мясцовых актывістаў дэмакратычнага руху.

*1 лютага, Менск.* Урачыстае пасяджэньне Нацыянальнага аргкамітэту сьвяткаваньня 150-годзьдзя паўстаньня Каліноўскага.

*Травень, Ліда.* „Лідзкія чытаньні“, прысьвечаныя паўстаньню Каліноўскага, адбудуцца ў мясцовай бібліятэцы.

*24 чэрвеня, Ліда.* Набажэнства на магіле героя паўстаньня ксяндза Адама Фалькоўскага, які быў расстраляны ў гэты дзень.

*28 ліпеня, Лідзкі раён, на полі паміж вёскамі Малое Ольжава — Мохавічы.* Вандроўка актывістаў Партыі БНФ да магіл паўстанцаў.

Летам адбудуцца таксама паездкі ў Горкі да помніка паўстанцам, што ў парку сельскагаспадарчай акадэміі, пешы паход і велапрабег па мясьцінах Гарадзеншчыны, зьвязаных з паўстаньнем.

*26 кастрычніка, Сьвіслач.* Паездка на магілу брата Кастуся Каліноўскага Віктара і да падмуркаў дому Каліноўскіх.

Рух „За Свабоду“ цягам году плянуе прэзэнтаваць шэраг выданьняў, прымеркаваных да гадавіны паўстаньня.

Кампанія „Гавары праўду“ рыхтуе вялікі даведнік пра паўстанцаў, якія змагаліся на тэрыторыі Беларусі і Літвы, і зборнік вершаў, прысьвечаных Каліноўскаму.

Плянуецца перавыдаць працы дасьледчыка паўстаньня Генадзя Кісялёва, а таксама выпусьціць матэрыялы навуковай канфэрэнцыі, якая будзе праходзіць пад эгідай Акадэміі навук Літвы з удзелам беларускіх навукоўцаў.

ТБМ да юбілею паўстаньня выпусьціла насьценныя і настольныя календары агульным накладам больш за 3 тысячы.

АГП разам з БХД арганізоўвае канфэрэнцыю на тэму паўстаньня з выездам на радзіму Каліноўскага, вандроўкі па месцах баёў.

Мінкульт Беларусі заяўляе, што агульных рэспубліканскіх мерапрыемстваў там не плянуюць. Прэсавы сакратар Міністэрства Юлія Віскуб:

— Сьпісу-пляну як такога няма. Ведаю, што цягам году ў рэгіёнах будуць праходзіць кніжныя выставы. Магчыма дзе і мастацкія выставы. Але ў нас дакладнага пляну няма. На раённым узроўні мерапрыемствы будуць па ўсёй краіне. Кшталту чытаньняў. Рэспубліканскую праграму не прымалі, таму такога і няма. Не пад усе ж угодкі прымаецца праграма — угодкаў шмат цягам году, і таму не пад усё прымаецца праграма. Але што некаторыя мерапрыемствы будуць, то так, яны будуць.

## Смалянчук: Гігін і кампанія стаяць на пазыцыях „расейскай ускраіны“

22 студзеня 2013

Афіцыйныя прапагандысты наладзілі канфэрэнцыю „Польскае шляхецкае паўстаньне 1863 году. Погляд на падзеі праз 150 гадоў“.

У прыватнасьці, дацэнт Інстытуту тэалёгіі БДУ Аляксандар Бендзін апраўдваў мэтады віленскага губэрнатара Мураўёва, на распараджэньне якога былі забітыя і сасланыя ў Сібір сотні ўдзельнікаў паўстаньня.

Дацэнт катэдры паліталёгіі БДУ Усевалад Шымаў удакладніў, што Каліноўскі насамрэч ня дбаў ні пра якое Вялікае Княства Літоўскае, а намагаўся аднавіць выключна Рэч Паспалітую. У такой самай танальнасьці прамаўлялі і іншыя ўдзельнікі.

Адзін з удзельнікаў той канфэрэнцыі, рэдактар дзяржаўнага часопісу „Беларуская думка“ Вадзім Гігін, у прыватнасьці, заявіў Свабодзе:

— Быў вялікі тэрор, пра які мы ня ведаем. Мы гаворым пра 128 павешаных Мураўёвым паўстанцаў, але ня ведаем, што ад іх рук загінулі сотні, калі ня тысячы, ахвяр, якія часам былі бязьвінныя. Прычым гэта былі зусім дзікія тэрарыстычныя расправы.

Сваё стаўленьне да поглядаў сучаснай афіцыйнай гістарыяграфіі выказвае доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук, які шмат гадоў вывучае акалічнасьці і абставіны паўстаньня 1863 году:

— Я ацэньваю сучасную афіцыйную беларускую гістарыяграфію як спробу зьвесьці разам пэўныя савецкія ідэалягемы і ідэалягемы заходнерусізму,

які ўзьнік у другой палове XIX стагодзьдзя і ў Беларусі да гэтага часу яшчэ жывы. Таму выступы Гігіна, Шымава, Бендзіна ды іншых — гэта проста чарговая праява згаданага заходнерусізму ў беларускім грамадзкім жыцьці, у беларускай ідэалёгіі, спроба гэты заходнерусізм увесьці яшчэ і ў гістарычную навуку, хоць навукі там, па вялікім рахунку, няшмат. Іншымі словамі, калі ацэньваць паўстаньне 1863 году як „польскае паўстаньне“, як гэта да гэтага часу робіцца ў Расеі, калі ацэньваць Беларусь як заходні край Расеі, то, вядома ж, Кастусь Каліноўскі выступае як вораг. Гэтыя людзі папросту знаходзяцца не на беларускіх пазыцыях, а на пазыцыях „расейскай ускраіны“ Заходняй Русі. І кіруюцца яны ня вынікамі нейкіх уласных навуковых дасьледаваньняў, а выключна ідэалягічнымі пасыламі заходнерусізму.

**Язэп**

Гэтыя людзі зьяўляюцца прапагандыстамі варожай акупацыйнай улады. Іхная задача актыўна спрыяць зьнішчэньню Беларусі і беларускага народу. І не важна якую зброю яны выкарыстоўваюць, расейска-імпэрскі заходнерусізм, ці расейска-імпэрскі савецкі камунізм.

## Імёны Свабоды: Міхал Цюндзявіцкі

22 студзеня 2013
Уладзімер Арлоў

У чэрвені 1863-га Менск абляцела вусьцішная вестка пра расстрэл царскімі карнікамі маладога афіцэра Міхала Цюндзявіцкага, сына маршалка Барысаўскага павету пана Мэльхіёра.

Такой была цана беларускага слова і беларускай думкі, напіша пазьней адзін зь біёграфаў патрыёта.

Галоўнай віною дваццацісямігадовага „асабліва небясьпечнага злачынцы“ сталася пашырэньне першай нелегальнай беларускай газэты „Мужыцкая праўда“, выдаванай Кастусём Каліноўскім.

Сьледзтва высьветліла, што ў карчме барысаўскай вёскі Камень Цюндзявіцкі прачытаў адозву паўстанцкага правадыра тамтэйшым сялянам.

Гэта быў першы сьмяротны вырак, выкананы ў тым змагарным годзе ў нашай цяперашняй сталіцы. Усе тры месяцы, пакуль разглядалася справа, менчукі спадзяваліся на вызваленьне арыштанта — дарэчы, выхаванца Пецярбурскага кадэцкага корпусу. Аднак начальнік „Северо-Западного края“ Мураўёў рабіў стаўку на максымальную жорсткасьць. Расстрэл, які адбыўся ў раёне вуліцы Серпухаўскай (цяпер Валадарскага), на месцы сёньняшняга сталічнага паштамту, меў паказальны характар і павінен быў запалохаць гарадзкое жыхарства.

Але каты жорстка памыліліся. Каля сьвежай магілы адразу ж пачаліся штовечаровыя маніфэстацыі. Менчукі атулялі месца пахаваньня з трох бакоў, і толькі з чацьвертага нэрвова пераступалі з нагі на нагу расейскія вартавыя. Надыходзіў момант, калі людзі ўкленчвалі. Малітвы зьмяняліся песьнямі, а затым чыё-небудзь дзіця зьбірала букеты прынесеных кветак і аздабляла імі магілу.

Відэакамэраў у жандарскіх агентаў тады не было, таму прысутных яны проста перапісвалі. Удзел у мірных пратэстах служыў падставаю для арышту, ды маніфэстацыі не спыняліся, і ўлады мусілі перапахаваць цела расстралянага інсургента.

Празь некалькі дзесяцігодзьдзяў, у 1906-м, іншы прадстаўнік роду Цюндзявіцкіх — Віктар — выдаў па-беларуску кніжку „Аб чым сёньня гамоняць у нас на Беларусі“, увесь наклад якой быў сканфіскаваны паліцыяй.

Яшчэ праз сто гадоў выдатны знаўца тых падзеяў прафэсар Адам Мальдзіс прапанаваў усталяваць на месцы пакараньня сьмерцю Міхала Цюндзявіцкага мэмарыяльны знак. Якой была рэакцыя цяперашніх уладаў, здагадацца няцяжка.

Будзеце на менскім паштамце — згадайце сьветлай думкаю таго, хто ў 1863-м адным зь першых прыняў сьмерць за вызваленьне нашай зямлі ад расейскіх калянізатараў.

Міхал Цюндзявіцкі. 1836, маёнтак Вільянова, цяпер Барысаўскі раён — 2.6.1863, Менск. Месца пахаваньня невядомае.

## У Сьвіслачы ўшанавалі памяць паўстанцаў

22 студзеня 2013

Пасол Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Лешак Шэрэпка, генэральны консул Рэспублікі Польшча ў Горадні Анджэй Хадкевіч, прадстаўнікі літоўскай і латвійскай амбасадаў у Менску, лідэр „Руху за свабоду“ Аляксандар Мілінкевіч зь сябрамі, а таксама сьвіслацкія актывісты і прадстаўнікі непрызнаванага ўладамі Саюзу палякаў усклалі вянкі да помнікаў Рамуальду Траўгуту і Кастусю Каліноўскаму — лідэрам паўстаньня.

Нягледзячы на сьцюдзёнае надвор’е настрой у прысутных быў узьнёслы. Лешак Шэрэпка потым

з жалем заўважыць, што запрашаў да ўдзелу ў імпрэзе і прадстаўнікоў мясцовых уладаў, але ніхто зь іх так і не прыйшоў.

## Ліда: Не дазволілі760 памаліцца за расстралянага ксяндза

23 студзеня 2013

Міліцыянты не дазволілі ўшанаваць памяць ксяндза Адама Фалькоўскага.

Надмагільны камень знаходзіцца ў гарадзкім парку. Каля яго сабраліся сябры Таварыства польскай культуры Лідчыны.

Як паведаміў кіраўнік таварыства Аляксандар Колышка, толькі яны пасьпелі запаліць зьніч, падышлі тры міліцыянты ў форме, адзін у цывільным зь відэакамэрай. Сказалі, што гэта нелегальная акцыя, перапісалі прозьвішчы.

**Крывіч**

Навіна кажа, што пра малебен хтосьці стукануў.

## Галоўны герой беларускага сэрца

24 студзеня 2013
Сяргей Дубавец

Кастусь Каліноўскі — першы заступнік за беларускае слова, веру і незалежнасьць нашага Краю — стаў нацыянальным героем не ад таго, што так пастанавілі Рада БНР або ЦК КПБ. Ягоны вобраз

Вялікага Справядлівага паклаўся на беларускую душу, куды б скіраванаю яна ні была. Яго прынялі і камуністы, і нацыяналісты, і проста беларускія людзі.

У цяперашніх свабодаўскіх вулічных апытаньнях выпадковых мінакоў па ўсёй Беларусі ўражвае дакладнасьць таго, як яго ведаюць людзі. Паэт і пісьменьнік? Сапраўды, яго творы ёсьць у літаратурных анталёгіях. Партызан, рэвалюцыянэр, апазыцыянэр? Хто ж спрачаецца. Асьветнік, герой... Амаль нішто ня „міма“.

У мінулую вайну савецкі партызанскі атрад, які насіў імя Кастуся Каліноўскага мог спаліць вясковую школку толькі за тое, што настаўнік выкладае дзеткам зьмест „Лістоў з-пад шыбеніцы“: „Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе“...

Мноства вядомых вершаў, раманы і нават пачатак беларускага кінэматографу — пра яго.

Супраць яго, прызнанага беларусамі ўсіх адценьняў, веравызнаньняў і палітычных поглядаў, можа быць толькі небеларус, толькі нехта з-за межаў нацыі, чужынец. Як той масквіч, што фундаваў у Менску эрпэцэшную царкву на вуліцы Каліноўскага і назву вуліцы патрабаваў зьмяніць. Улады знайшлі кампраміс (не замахнуліся на імя Справядлівага) — перайменавалі толькі частку вуліцы з гэтай самай царквою.

Каліноўскага нельга не любіць, калі ты беларус. Гэтае імя мацнейшае за кожны іншы знак нашае нацыянальнае тоеснасьці. У Беларусі ўсе ад вясковай бабулькі да экзальтаванага сталічнага школьніка, ад бамжа да пасьпяховага бізнэсоўца, ад рэжым-

нага чыноўніка да дысыдэнта скажуць табе, што Каліноўскі — наш.

Што хаваецца за гэтым фэномэнам? Думаю, глыбока схаваная ў душы ўзаемнасьць.

Выпускнік Пецярбурскага ўнівэрсытэту вяртаецца на радзіму і становіцца лідэрам „польскага“ паўстаньня ў сваім краі. Выдае першую беларускамоўную газэту. Шукае паразуменьня з простым народам. Ані каліва няшчырасьці або „прагматызму“. І — што б ні гігікалі цяперашнія афіцыёзьнікі — ідзе на эшафот.

Як Хрыстос.

Чысты, беззаганны сымбаль справядлівасьці. Тут паралель робіцца абсалютнай. Пілат паслаў Хрыста на самую ганебную сьмерць — расьпяцьце на крыжы. Так каралі толькі бандытаў. Расейскі губэрнатар Мураўёў паўтарыў тое самае з Каліноўскім. Замест расстрэлу, які „належаў“ военачальніку ўсяе Беларусі і Літвы, генэрал-вешальнік у апошні момант загадаў Каліноўскага павесіць. Як бандыта.

І як Хрыстос аб’яднаў і аб’ядноўвае розных людзей у супольнасьць Людзі, так Каліноўскі аб’ядноўвае супольнасьць Беларусы. „Дэгераізаваць“ яго для нашага народу — тое самае, што для чалавецтва „дэгераізаваць“ Хрыста. А гэта значыла б зьнішчыць у нашых дачыненьнях паняткі справядлівасьці, шчырасьці і сумленьня, што ўвасобленыя найперш у постацях Хрыста і Каліноўскага, і гадаваць нашчадкаў, не абцяжараных гэтымі якасьцямі.

У адрозьненьне ад сымболікі і мовы, якія на вуліцах і ў эфірах яшчэ можна чымсьці замясьціць, на месцы спляжанага нацыянальнага героя ў беларускім сэрцы застаецца пустата.

## Горадня. Выстава ў гонар 150-годзьдзя паўстаньня Каліноўскага

24 студзеня 2013

Выстава адкрылася сёньня ў арт-галерэі „Крыга“.

У ёй удзельнічаюць дзесяць мастакоў, большасьць падрыхтавала свае творы літаральна за месяц. На сьценах партрэты Людвіка Нарбута, Рамуальда Траўгута, Кастуся Каліноўскага, ксяндза Адама Фалькоўскага, іншых удзельнікаў паўстаньня.

— На поўнач ад Горадні адбыўся бой на Сьвятым балоце паміж Азёрамі і Парэччам, — сказаў краязнаўца Вітольд Іваноўскі. — Там рос дуб, пад якім загінулі паўстанцы з горадзенскага атраду Лянкевіча. Гэтаму дубу некалькі соцень гадоў. Цяпер ён упаў. Зь яго краязнаўцы робяць сувэніры, адпілоўваючы ад галінаў кругі. Побач са старым цяпер пасаджаны малады дубок, ля якога стаіць крыж.

## У Іркуцку не дазволілі круглы стол пра паўстаньне Каліноўскага

25 студзеня 2013

Правесьці круглы стол „Паўстаньне 1863 году: факты і камэнтары“ ў памяшканьні Грамадзкай палаты вобласьці не дазволілі. Пра гэта Свабодзе паведаміў старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алег Рудакоў:

— Наша таварыства было заснаванае 16 з паловай гадоў таму. Мы надалі яму імя Яна Чэрскага. Ён,

як вядома, быў удзельнікам паўстаньня 1863 году. Да юбілею паўстаньня мы вырашылі правесьці круглы стол, запрасіць найперш журналістаў асноўных іркуцкіх СМІ, прадстаўнікоў украінскага, польскага і літоўскага культурных цэнтраў, безумоўна і прадстаўнікоў з расейскага боку, прадстаўнікоў абласной і гарадзкой адміністрацыі. Плянавалася, што правядзем круглы стол ва ўтульнай залі Грамадзкай палаты Іркуцкай вобласьці, там ёсьць усё належнае для мультымэдыйнай прэзэнтацыі. Але, на жаль, нам адмовілі ў апошні момант. Тлумачэньні былі нейкія дзіўныя і трошкі незразумелыя. Я спадзяюся, што гэта ня нейкая дзяржаўная палітыка, а недасьведчанасьць асобных чыноўнікаў, якія вырашылі трошкі перастрахавацца, бо гэтая тэма — вельмі вострая.

## Сьпяваць пра каліноўцаў таксама забаронена?

27 студзеня 2013

Канцэрт горадзенскага гурту „Dzieciuki“ ў Менску забаронены. Паводле музыкаў, рашэньне адмяніць канцэрт прынятае пад ціскам з боку чыноўнікаў.

„Dzieciuki“ вядомыя сваімі песьнямі пра беларускіх герояў-паўстанцаў розных часоў — каліноўцаў, балахоўцаў, „лясных братоў“. Гурт меўся выступіць у клюбе „Rocker Bar“ разам зь пецярбурскімі фольк-панкамі „Garlic Kings“. Паводле Радыё Рацыя, побач з будынкам, дзе меўся адбыцца канцэрт, стаяў аўтазак і дзяжурылі супрацоўнікі АМАПу.

## Каліноўскі ў паэзіі

31 студзеня 2013
Міхась Скобла

„Тварам ды шыбеніцы“ — пад такой назвай днямі выйшла ў сьвет паэтычная анталёгія, прысьвечаная Кастусю Каліноўскаму.

Сярод яе аўтараў — Натальля Арсеньнева, Ларыса Геніюш, Уладзімер Караткевіч, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Сяржук Сокалаў-Воюш — агулам 55 паэтаў.

Уклаў анталёгію і напісаў да яе прадмову літаратуразнаўца Язэп Янушкевіч.

**Янушкевіч**: Ідэя анталёгіі ўзьнікла яшчэ ў 80-я гады мінулага стагодзьдзя. Памятаю, даводзілася мне дапамагаць мастаку Пятру Драчову складаць энцыкляпэдыю „Кастусь Каліноўскі“ — дзіцячую (выйшла ў часопісе „Бярозка“). З таго часу ў мяне застаўся стос машынапісных старонак з творамі Ўладзімера Караткевіча, Дануты Бічэль, Сержука Сокалава-Воюша, Алеся Чобата. Натуральна, цяпер тую самую складальніцкую працу зрабіць было лягчэй. Балазе, існуе нават адмысловы сайт „Сьвіслацкія аркушы“ з разнастайнымі тэкстамі, прысьвечанымі Каліноўскаму (заснавальнік — Зьміцер Кузьменка). Варта згадаць і зборнік „Жыві ў свабодзе: кніга пра Каліноўскага“, складзены Сяргеем Панізьнікам (1996 год; праўда, там вобраз Каліноўскага пададзены пераважна ў прозе). Наогул, калі табе пераваліла за пяцьдзясят, самы час дарабляць недаробленае. Анталёгія „Тварам да шыбеніцы“ — адна з маіх даўніх задумак. Таму не магу ня цешыцца, што яна рэалізавалася.

**Скобла**: Што ў анталёгіі будзе для чытача неспадзеўным?

**Янушкевіч**: Найперш, відаць, шматмоўнасьць выданьня. Тое, што пад адной вокладкай Каліноўскі загучыць па-польску, па-ўкраінску, па-ангельску. Пакуль што толькі ягоныя „Лісты з-пад шыбеніцы". Перакладзены Каліноўскі дазволіць іншаземцам зразумець памкненьні сучаснай Беларусі, якая ідзе па шляху, накрэсьленым маладым прарокам-апосталам. І пабачыць, наколькі актуальны ён нават цяпер, у XXI стагодзьдзі. Неспадзяванымі будуць і некаторыя творы. Скажам, верш Ларысы Геніюш, падказаны мне дасьледнікамі ейнай творчасьці, быў зьняты мною з дыску „Пасланьне сябрам" (запісы Валянціны Трыгубовіч). А таксама вершы, адмыслова напісаныя для анталёгіі народным паэтам Рыгорам Барадуліным і Алесем Чобатам.

**Скобла**: Якім паўстае Кастусь Каліноўскі ў гэтых творах?

**Янушкевіч**: Як і належыць — непахісным, трывалым барацьбітом за людзкое і народнае права. Айчынныя паэты маюць надзіва сьветлы погляд на аднаго з пачынальнікаў нашага нацыянальнага адраджэньня. У Натальлі Арсеньневай Каліноўскі паўстае змагаром, што „аддаў жыцьцё, каб жыць магла Радзіма"; у Дануты Бічэль — апосталам, за якім „вясны дыханьне" і наш абуджаны народ; у Ніла Гілевіча — „чэсьці й гонару ўзорам"; ва Ўладзімера Караткевіча — сынам „той зямлі, што несла крыж пакуты"; у Віктара Стрыжака правадыр паўстаньня — Гарыбальдзі нашага краю… Згодна са слушным выказваньнем Генадзя Кісялёва, які склаў падрабязны летапіс жыцьця Каліноўскага, ён — „адзін з самых любімых нацыянальных геро-

яў беларускага народу“. На жаль, у нас неяк зарана пачалі забываць зробленае гэтым дасьледнікам — найлепшым знаўцам Каліноўскага.

**Скобла**: Ад якога часу Каліноўскі стаў героем літаратуры? Вось жа, існуе меркаваньне, што культ ягоны ствараўся пад дыктоўку савецкай улады, якой быў патрэбен змагар з царызмам.

**Янушкевіч**: Гераізацыя правадыра паўстання распачалася адначасова з самім паўстаньнем. Калі сьпяваліся песьні касінераў, напісаныя тагачаснымі паэтамі. Імя аднаго зь іх — Фэлікс Ражанскі, які так і ня ўведзены ў аналы гісторыі нашай літаратуры. Яшчэ студэнтам на старонках часопісу „Тыгоднік ілюстраваны“ мною была адшуканая „Паўстанцкая песьня“, запісаная на Пружаншчыне альбо Ваўкавышчыне:

*Гэй жа, хлопцы, досыць спаць!*
*Пара косы прыбіраць!*
*Косы, косы і сякеры —*
*бараніці сваю веру.*
*Пара!*

*Вы за печкаю на полу,*
*мы — у лесе зямлю голу*
*прытулілі б, як пярынку,*
*каб заснуці хоць гадзінку.*
*Пара!*

Нагадаю таксама, што яшчэ ў 1867–1871 гадах Агатон Гілер выдаў у Парыжы чатыры тамы сваёй „Гісторыі паўстаньня“ і ў дадатку да першага тома надрукаваў „Лісты з-пад шыбеніцы“ з наступным камэнтаром-характарыстыкай Каліноўскага:

„Паўстаньне ў Літве было падрыхтаванае ў нямногіх пунктах, сярод якіх Беласток займаў першараднае месца. Тут абсталявалі патаемную беларускую друкарню, у якой друкаваліся такія газэты для народа, як «Апавяданьні Янкі — гаспадара з-пад Вільні» (па-беларуску), і шмат беларускіх адозваў, якія моладзь разносіла па правінцыі, чытала па хатах і корчмах. Дух свабоды рос у беларускіх сялянах, і патрэбны быў толькі час, каб вырас да гатоўнасьці самастойна выступіць. Гэтая патаемная друкарня была першай беларускай друкарняй, а тайныя газэты — першымі пэрыядычнымі выданьнямі беларускай літаратуры. Рэдактарам гэтых газэтаў быў Канстанцін Каліноўскі — адзін з самых высакародных мужоў Літвы, чалавек, поўны самаахвярнасьці, высакароднасьці, розуму і энэргіі“.

Што да дыктовак… Хіба Міхась Машара сваю паэму „Сьмерць Кастуся Каліноўскага“ ў 1934 годзе ў Заходняй Беларусі пісаў пад дыктоўку савецкай улады?

*Паўстаньне згашана, зламана,*
*надзея згублена ізноў.*
*Па Краі ўсім крывавяць раны*
*пад дзікі рогат казакоў.*
*І трупаў, трупаў — Божа слаўны!*
*Хто не расстрэлены — вісіць,*
*хто не павешаны — сасланы*
*або за кратамі сядзіць.*

**Скобла**: Напярэдадні ўгодкаў Каліноўскага і паўстаньня ў СМІ зьяўляюцца розныя матэрыялы, якія маюць на мэце пазбавіць Каліноўскага арэолу нацыянальнага героя. Скажам, прэзыдэнцкі пра-

пагандыст, галоўны рэдактар часопісу „Беларуская думка“ Вадзім Гігін называе яго тэрарыстам, заклікае „пакончыць з каліноўшчынай“. Чым Каліноўскі так замінае ўладзе?

**Янушкевіч**: Адразу скажу, што не зьбіраюся ўступаць у палеміку з самазванцамі на навуковай ніве. Аўтарытэт належыць зарабіць навуковымі, а не публіцыстычнымі матэрыяламі, як гэта назіралася ў нас за савецкім часам, калі навуковымі тэмамі лічыліся „вобраз Леніна ў беларускай драматургіі“, „роля партыі ў выкананьні 9-й пяцігодкі“… Такія гігікаючыя псэўдавучоныя заўжды патрэбныя ўладам у табуне вернападданых. А чым ім замінае Каліноўскі? Ён замінае ім сваёй сапраўднасьцю і справядлівасьцю, тым, што ўся ягоная дзейнасьць насамрэч скіраваная на дасягненьне самастойнасьці і незалежнасьці Беларусі. Праўдзівай незалежнасьці, а не дэкляраванай на паперы.

**Скобла**: Пяцьдзясят пяць гадоў таму ў Сьвіслачы на Горадзеншчыне быў усталяваны ці не адзіны ў Беларусі помнік Каліноўскаму, што лягічна: будучы кіраўнік паўстаньня вучыўся ў Сьвіслацкай гімназіі. Але прайшоў час, і за нейкіх сто мэтраў ад Каліноўскага паўстаў помнік… Сталіну. Так яны і сёньня там стаяць — Каліноўскі і Сталін. Што вам за гэтым бачыцца?

**Янушкевіч**: Тое, што на беларускай зямлі ставяць помнікі катам нашага народу. Яшчэ не хапае, каб пачалі ставіць помнікі расейскім царам ды іхным памагатым. Такім, як крывавы Мураўёў-вешальнік, якога названы вамі псэўданавуковец гатовы лічыць дабрадзеем нашай зямлі, які эканамічна дапамог спарадкаваць разбураную гаспадарку забранага Краю. Беларусь толькі тады стане па-сапраўднаму

незалежнай, калі на нашай зямлі паўстануць помнікі нацыянальным геніям — ад Скарыны да Караткевіча, калі будуць пазначаныя бронзавымі барэльефамі мясьціны, адкуль паходзяць продкі Дастаеўскага, Цыялкоўскага, Шастаковіча, калі ў кожным мястэчку будуць вуліцы Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Людвіка Нарбута і Рамуальда Траўгута.

**Скобла**: Той самы прыгаданы ўжо рэдактар часопісу „Беларуская думка“ Гігін наконт „Мужыцкай праўды“ выказаўся адназначна (цытую ў арыгінале): „Этот боевой листок не делает чести ни нашей литературе, ни публицистике“. А як бы вы ацанілі ўплыў публіцыстыкі Каліноўскага на беларускі нацыянальны рух?

**Янушкевіч**: Перачытайце Каліноўскага: „Як дзень з ноччу ня ходзяць разам, так не ідзе разам навука праўдзівая зь няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе, ня будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі як скацінай варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу“. Зрэшты, я разумею: статак гігікаючых „на выпасе ідэяў сацыялізму“ (Ул. Някляеў), гэтых пасьлядоўнікаў абэцэдарскіх-залескіх пры нязьменным у нас раскладзе ў гуманітарнай навуцы ніколі не перавядзецца. Што да ўплываў... Публіцыстыку Кастуся Каліноўскага як ідэоляга нацыянальнага адраджэньня і сёньня цытуюць нямала. Прыгадаем хоць бы дэвіз, пад якім выходзіла газэта „Рэспубліка“: „Не народ для ўраду, а ўрад для народу“. Гэта ўласьцівасьць клясычнай спадчыны — служыць народу, пайсьці ў народ. У творах сёньняшніх публіцыстаў пульсуюць незабыўныя інтанацыі аўтара „Мужыцкай праўды“ і „Лістоў

з-пад шыбеніцы“. Яны вельмі цікава прачытваюцца ў кантэксьце анталёгіі „Тварам да шыбеніцы“.

**Скобла**: Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў 1838 годзе. Тэарэтычна ён мог дажыць да новай хвалі нацыянальнага адраджэньня. Ці магчыма ўявіць яго, скажам, на 1-м Усебеларускім зьезьдзе ў 1917 годзе ў Менску, які быў разагнаны бальшавікамі?

**Янушкевіч**: Калі б сотні паплечнікаў Каліноўскага не былі забітыя і павешаныя, а тысячы ягоных касінераў не пайшлі на катаргу ў Сібір, — паверце, наш народ прычакаў бы вызваленьня з-пад расейскага царызму раней. Магчыма, у 1917 годзе, як гэта адбылося зь фінамі. Каліноўскі мне бачыцца ў ганаровым прэзыдыюме Ўсебеларускага зьезду поруч з постацьцю першага айчыннага акадэміка Яўхіма Карскага, які без паўстанцкіх атрадаў і вайсковых дывізій сам-адзін узнавіў на мапах межы праўдзівай Беларусі. Думаю, што Кастусь і ягоныя каліноўцы ніякім чынам не дазволілі б п’яным расейскім матросам разагнаць зьезд, які фактычна ня меў ніякай абароны.

**Скобла**: Яшчэ летась было абвешчана аб стварэньні грамадзкага аргкамітэту для адзначэньня ўгодкаў паўстаньня Каліноўскага. У яго праграме значыцца і выданьне кніг, і мастацкія пленэры, і нават рэканструкцыя баявых дзеяньняў паўстанцаў. Ці дапамог аргкамітэт у вашай канкрэтнай справе — выданьні анталёгіі „Тварам да шыбеніцы“?

**Янушкевіч**: Не. Хоць ягонае зьяўленьне ўсяляла вялікую веру, паколькі тры абраныя сустаршыні аргкамітэту — Янка Запруднік, Аляксандар Мілінкевіч і Ўладзімер Някляеў — вядомыя ў грамадзтве асобы. Усяго ж, як паведамлялася, „у аргкамітэт

увайшлі каля 30 выбітных асобаў: гісторыкі, мастакі, журналісты, грамадзкія дзеячы“. Зазначу толькі, што ад Янкі Запрудніка я ласкава атрымаў тэксты Кастуся Каліноўскага ў перакладзе на ангельскую мову, зробленыя ім разам з Томасам Бэрдам. Зрэшты, юбілейны год толькі распачаўся… Тыдзень таму я браў удзел у навуковай канфэрэнцыі ў Беластоку, дзе сабраліся студэнты з усёй Польшчы. Нягледзячы на заяўленую тэму, пра Каліноўскага там гутаркі не было. І я зразумеў: калі мы на радзіме не падымем голас пра яго — дык хто? Пытаньне рытарычнае. Нам самім стане сорамна перад нашчадкамі, што вось быў выдатны юбілей і нагода адсьвяткаваць памятныя дні змаганьня і згадаць пра змагароў, а што мы зрабілі?!

## Ворагам Каліноўскага

1 лютага 2013
Сяргей Астраўцоў

150 гадоў паўстаньню Каліноўскага. Занадта вялікі тэрмін, гучыць абстрактна сёньня для большасьці. Але не для ўсіх. Прарасейскія асобнікі ў Менску абліваюць Каліноўскага і паўстанцаў памыямі. Але ня толькі: мундзіры царскіх карнікаў прымяраючы, сьледчыя паперы чытаючы як любімую паэму. Начальства робіць цнатлівыя вочы: я такіх гадавін і падзей ня ведаю, мяне гэта не датычыць.

Канечне, як прыемна сёньня біць у літаўры вайскова-палявым судам, карным войскам, губэрнатару, які праславіўся шыбеніцамі! Ніхто не

забароніць! Яны „мяцежнікаў“ каралі, баранілі „законную ўладу“! Героі! Так, іх прыслаў цар, каб з гармат расстралялі купкі касінераў, мясцовых сялян, узброеных косамі, і шляхцюкоў з рэвальвэрамі. Паўстанцы маглі ім супрацьпаставіць толькі драўляныя гарматы! Гэта я пачуў ад гісторыка Алеся Радзюка. Дык хто героі: хто з драўлянай ці хто з батарэямі чыгунных?

У Менску гімны карнікам, а ў Горадні гісторыкі круглы стол правялі, гаварылі пераважна пра асобу Каліноўскага як пра каштоўны для беларусаў „міт“. А раварысты мясцовыя распрацоўваюць маршрут па Горадні: па месцах, зьвязаных з паўстанцамі. Праўда, на галоўным будзе чакаць голая сьцяна: памятны знак-„каплічка“ зь лічбай „1863“ зьнікла летась. Нібы часова. Вакзальны гмах грунтоўна рамантуюць. Адзін з краязнаўцаў настойліва высьвятляў: абяцаюць вярнуць на месца. Але, ясна, не да гадавіны.

Начальства мясцовае пасьля гэтага знаку на вакзале сьцяла зубы: больш ніякіх згадак пра паўстанцаў у горадзе ня будзе. „Палітычны клімат“ зьмяніўся ў краіне.

На вакзале ўшанавалі тады памяць пра бой вясною 1863-га: каля ста гараджанаў на цягніку паспрабавалі выехаць у Парэчча, далучыцца да паўстанцаў. І хоць на чале быў сам начальнік чыгуначнай станцыі Кульчыцкі, нічога не атрымалася. Сьледзтва доўжылася два месяцы, у турме трымалі 148 чалавек.

Знак-„каплічку“ зрабілі каваль Юрась Мацко і скульптар Уладзімер Панцялееў. Улады вырашылі. Тады яшчэ не было Лукашэнкі. А калі яе зрабілі, ён ужо быў. На адкрыцьці афіцыйных прамоў не

гучала: гарадзкі галава, праўда, прысутнічаў, не пабаяўся, але трымаўся някідка сярод публікі.

Бой на вакзале, які толькі-толькі пабудавалі разам з чыгункай, адна з горадзенскіх легендаў, якая была рэчаіснасьцю. Дарэчы: шырокую вуліцу ад вакзалу пры царах назвалі Мураўёўскай. Хоць тут справядлівасьць гістарычная існуе: сёньня яна мае імя пісьменьніцы Элізы Ажэшкі, якая мусіла жыць на Мураўёўскай і якая дапамагала ў свой час паўстанцам.

Другая легенда, ужо сапраўдная: „Мужыцкая праўда“. Гісторык Алесь Радзюк кажа: захавалася справа аб пошуках месца выданьня газэты. Абвінавачвалі рэдактара „Гродненских ведомостей“, што нібыта ён на загад Каліноўскага друкаваў у Горадні „Мужыцкую праўду“. Даказаць не атрымалася. У выніку і праз паўтара стагодзьдзя невядома, дзе яе друкавалі, бо ў Каліноўскага з канспірацыяй было добра.

Калі я аб гэтым пачуў, узгадалася, як была думка некалі адрадзіць у Горадні „Мужыцкую праўду“. Вось бы сапраўды атрымаўся працяг горадзенскай менавіта газэты. Але была зарэгістраваная тады „Пагоня“, што таксама, зрэшты, нядрэнна. „Мужыцкая праўда“ распаўсюджвалася пераважна ў ваколіцах Горадні. І ўплыў яе адчуўся. На сёньня агульнапрызнаны факт: найбольш сялян было ў паўстанцкіх атрадах Горадзеншчыны. Іх было ўвогуле значна больш, чым лічылася раней, кажуць сёньня гісторыкі. Сацыяльны склад вывучалі па сьпісах пакараных паўстанцаў, шляхта пераважала. Але сялян не каралі звычайна, як шляхту, іх высылалі ў адміністрацыйным парадку. Любога, хто спачуваў паўстанцам, маглі выслаць. Сьледчая

камісія, напрыклад, паведамляе: доказаў віны няма, губэрнатар піша рэзалюцыю — лічу гэтага чалавека шкодным для краю, і яго высылаюць.

Уласна кажучы, паўстаньне ўзьняло не сялянства, а шляхта. І на першым месцы была спроба вызваліцца ад Расеі. Арыентацыя была на свабадалюбныя настроі ў Эўропе. У Горадні глядзелі на Варшаву, дзе ў 1861-м пачаліся маніфэстацыі, быў расстрэл дэманстрантаў. У Горадні ўсяго толькі асьвісталі губэрнатара, ён мусіў рэціравацца. Але тады пачалі стварацца падпольныя гурткі. Каліноўскі ня раз прыяжджаў.

Мінуў год, і распачалося паўстаньне. Зноў жа: у Варшаве. Заўчасна, без узгадненьня зь Літоўскім камітэтам. У Вільні і Горадні дзесяць дзён вагаліся: што рабіць? Нарэшце падтрымалі, далучыліся, хаця не былі яшчэ гатовыя. Хаця ці можна да такога падрыхтавацца ўвогуле, адчуць сябе цалкам узброеным, на кані? Цікава: а што было б, каб устрымаліся? Не былі б высланыя тысячы сялян і шляхты, былі б захаваныя сілы. Хаця не было б і змаганьня, паўстанцкай легенды. А сьледчыя камісіі ўсё роўна былі б, хіба што пакаралі б меней.

Але менавіта ў часе паўстаньня былі закладзеныя падмуркі будучай партызанкі. Валеры Ўрублеўскі на Гарадзеншчыне распачаў новую тактыку: паўстанцы сталі дзейнічаць малымі групамі па пятнаццаць-дваццаць чалавек. Самае неверагоднае — былі спробы падрыву чыгункі, якую толькі пабудавалі. Як ня ўспомніць „беларусы-беларусы, партызанскія сыны".

Драўляныя гарматы, косы — ня зброя, але іншай амаль не было. Пісьменьнік Уладзімер Караткевіч некалі вырашыў ліквідаваць гістарычную неспра-

вядлівасьць, даць у рукі паўстанцам „Зброю“, яго аповесьць з такой назвай выйшла ў 1983-м. Гэта здавалася неверагодным: столькі ў ёй было выкрываўчых антырасейскіх думак, такое ва ўсякім разе пакінула яна тады ўражаньне. Але гэта літаратура.

Мураўёў паставіў чыноўнікаў, паліцмайстраў, папоў, вучыцялёў ва фрунт: усіх незадаволеных выслаць, закасаць рукавы, убіць у галовы, што „на гэтых землях жывуць рускія людзі“! Сёньня ў Менску з гэтай нагоды некаторыя б'юць у літаўры. Начальства робіць рыхтык казіную мысу. І Мураўёва, і Караткевіча яно пачула на свой капыл: беларус, як вядома сёньня, гэта „рускі са знакам якасьці“. І чаго біць у літаўры, скажыце? Напароліся — за што бароліся...

## Мінкульт адхрысьціўся ад Каліноўскага

23 жніўня 2013

Міністэрства культуры Беларусі адказала на зварот грамадзян аб усталяваньні помніка Кастусю Каліноўскаму.

У адказе пералічана ўсё, чым ушаноўвалася памяць Каліноўскага з 1928 году. Маўляў, у Беларусі дзеля гэтага і так шмат зроблена. Ліст падпісаны намесьнікам міністра Ўладзімерам Карачэўскім. Прычым на беларускамоўны зварот чыноўнік адказаў па-расейску.

Ліст зь Мінкульту быў адрасаваны кіраўніку ініцыятыўнай групы Алегу Корбану. Усяго за помнік Каліноўскаму было сабрана 4 тысячы подпісаў грамадзян.

## Аршанскія актывісты ўшанавалі памяць паўстанцаў 1863 году

29 жніўня 2013

Яны добраўпарадкавалі помнік, усталяваны ў мясьцінах, дзе аршанскі атрад касінераў, якім камандаваў Ігнат Будзіловіч, быў разьбіты, а камандзір трапіў у палон.

Помнік-крыж на горцы з камянёў і шыльдай з словамі Кастуся Каліноўскага „Бывай здаровы, мужыцкі народзе, жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе!“ быў усталяваны ў вёсцы Пагосьцішча Лёзьненскага раёну 8 гадоў таму.

Ён быў узьведзены з ініцыятывы настаўніцы Алены Грачышнікавай і вучняў школы № 1 райцэнтру Лёзна. Але без належнага догляду помнік вымагаў рамонту, і аршанскія мастакі Алесь Кажамяка і Яўген Анішчанка паднавілі надпіс на шыльдзе, заладзілі шчыліны ў мэмарыяльным крыжы. За іх дзеяньнямі назіралі вяскоўцы.

Кіраўнік моладзевага аб'яднаньня „Зьвяз“ Ігар Казьмярчак расказаў прысутным пра гісторыю паўстаньня 1863–1864 гадоў у Лёзьненскім і Аршанскім раёнах. Вершы, прысьвечаныя змагарам за незалежную Беларусь, прачытала аршанская паэтка Яўгенія Казлова. Свае песьні выканалі барды Андрэй Мельнікаў і Георгі Станкевіч.

Актывісты мяркуюць, што трэба адзначыць і тое месца, дзе абарвалася жыцьцё Ігната Будзіловіча ды іншых касінераў зь ягонага атраду. Аршанская турма ў 1863 годзе мясьцілася ў будынку езуіцкага калегіюму. Цяпер тут памяшканьні займаюць мастацкая галерэя, гарадзкі аддзел культуры ды

іншыя ўстановы. Месца, дзе Будзіловіч прыняў сьмерць пад сьценамі былой турмы, дакладна не вядомае. Ён быў пахаваны ў агульнай магіле, разам зь іншымі расстралянымі вязьнямі. Ідэнтыфкацыі чалавечых парэштак, якія былі дастаныя зь зямлі падчас рэстаўрацыі будынку калегіюму, ніхто не праводзіў. Аднак актывісты пэўныя, што памяць пра Ігната Будзіловіча мусіць быць захаваная і ў Воршы таксама.

## Імёны Свабоды: Міхал Андрыёлі

2 верасьня 2013
Уладзімер Арлоў

Мне ўяўляецца, як агаломшыў Міхала ягоны прыезд у 1860-м на радзіму бацькі, каб працягваць мастацкую адукацыю ў славутай Акадэміі Сьвятога Лукі ў Рыме.

Паўднёвае сонца, насычаныя колеры, помнікі былых стагодзьдзяў... Але думка пра тое, што гэтая зямля можа стаць новай Айчынай, як ён прыгадваў потым у размовах зь сябрамі, толькі мільганула і растала лёгкай аблачынкаю.

Домам была Беларусь, а родным горадам — любая Вільня, у лябірынце чыіх вулачак можна, здаецца, сустрэць самога сябе.

Вільня ўсё больш уладна клікала назад. Пагатоў сябры ўжо вызначалі там дату пачатку паўстаньня.

Андрыёлі падзяляў погляды таго крыла патрыётаў, якое называлі „чырвонымі“ — Кастуся Каліноўскага, Валера Ўрублеўскага, яшчэ аднаго італійца па крыві й ліцьвіна па духу Ахіла Ба-

нальдзі, якія марылі пра дэмакратычныя зьмены, у выніку якіх народы былой Рэчы Паспалітай, вырваўшыся з Расейскай імпэрыі, здолеюць самі вырашаць свой лёс.

Ён ваюе ў аддзеле аднаго з кіраўнікоў паўстаньня Людвіка Нарбута.

Падзеі і ўражаньні тых змагарных месяцаў абумовілі й патас, і рамантычную танальнасьць творчасьці Андрыёлі.

Здолеўшы пасьля паўстаньня ўцячы з царскае турмы, мастак жыве ў Лёндане й Парыжы. Тым часам датуецца яго графічная праца „Сьмерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў“.

Невялікі аддзел інсургентаў вядзе жорсткі бой з шматкроць большымі сіламі расейскіх карнікаў. Поплеч з шляхцічамі б'юцца сяляне ў кажушках. Цяжка параненага камандзіра паўстанцы на руках нясуць у лес. Героя пакідаюць апошнія сілы, але іх яшчэ стае на тое, каб рука не выпусьціла пісталета.

Твор з разраду тых, куды ў маленстве хочацца трапіць, каб дапамагчы „нашым“.

Душа мастака бунтуе супраць спакойнага жыцьця ў эўрапейскіх сталіцах.

Ён кідае выклік лёсу, вяртаецца на радзіму і — трапляе ў рукі жандараў. Пяцігадовая высылка ў Вятку здаецца цэлай вечнасьцю. Суцеху дае толькі маляваньне ды заняткі з таленавітымі мясцовымі маладзёнамі. Іх завуць Віктарам і Апалінарыем. Прозьвішча сёньня вядомае — Васьняцовы...

У „залатым запасе“ вялікай творчай спадчыны Міхала Андрыёлі — дрэварыты да паэмаў Адама Міцкевіча „Конрад Валенрод“ і „Пан Тадэвуш“, а таксама буйны гістарычны цыкль („Сьмерць князя Кейстута“, „Бітва ліцьвінаў з крыжакамі“, „Гусьляр“,

„Хрышчэньне ліцьвінаў“), які абуджаў нацыянальную сьвядомасьць жыхароў краю.

Лёс адмераў яму крыху болей за паўстагодзьдзя. Героямі ягоных твораў найчасьцей былі асобы, надзеленыя шляхетным, рыцарскім духам. Па-рыцарску пражыў жыцьцё й сам Андрыёлі. Італіец, якога Беларусь зрабіла сваім мастаком.

Міхал Эльвіра Андрыёлі. 14.11.1836, Вільня — 23.8.1893, Наленчуў, Польшча. Пахаваны ў Наленчуве.

## Ад Каліноўскага — пустое месца

6 верасьня 2013
Сяргей Астраўцоў

Для кагосьці прыкрая падзея, што цяпер у Сьвіслачы адзін бюст Каліноўскага замест двух. Зьнік другі бюст, няма.

Але для іншых гэта нявартая ўвагі справа. Прагледзелі? Недабачылі?

Мне асабіста ніякавата. Хіба два Каліноўскія ня лепш за аднаго? Хіба два на цэлую Беларусь — гэта перабор?

Але ж не! У званы ня білі. Успрынялі будзённа, „у бягучым парадку“. Зрабілі выгляд, што не заўважылі.

Знаёмы жыхар Сьвіслачы абыякава кажа па тэлефоне: ён жа гіпсавы быў, пад уплывам надвор’я, ападкаў, перастаў існаваць, разваліўся.

І калі гэта было? Калі? Ды гады два напэўна ўжо. Але больш дакладна ніхто ня памятае. А калі пастаўлены быў? Таксама напруга: не ўзгадаць. Ну

проста растварыўся Кастусь Каліноўскі ў прыродзе дый годзе!

Успамінаецца, што сярод мясцовых нечакана многія неўзьлюбілі другога Каліноўскага, з рэўнасьцю паставіліся. Зь іх шэрагу і мой знаёмец. Адразу яму не спадабаўся, памятаю, новапастаўлены бюст. Азгураўскі нягеглы ў іх у душы, прыкіпеў. Ён, нібы, у ЮНЭСКА на ўліку, і яго перасоўваць нават забаронена! — як паданьне паўтарае мне сёньня мой сьвіслацкі знаёмы.

Двума-трыма Ленінымі нікога ня зьдзівіш, а вось каб два Яські з-пад Вільні адразу — гэта для беларуса шок! Гэта ўжо пяршак падвойнай моцы, што з ног валіць пасьля кантовай шклянкі. Успамінаць нават ня хочацца!

Бюст работы Заіра Азгура паставілі ў Сьвіслачы ў 1958-м. У сучасных публікацыях яго амаладзілі чамусьці на дзесяць гадоў. Хаця голым вокам відно, што выкананы ў выразнай стылістыцы 1930–40-х сталінскіх гадоў (вядома, што мадэль раней існавала). Але звонку ён настолькі ж выдавец „Мужыцкай праўды“, наколькі мог бы сысьці за партызанскага піянэра-героя або за Паўліка Марозава, зблытаць дальбог няцяжка.

Мне азгураўскі бюсьцік не падабаецца, шчыра, але цаню, што ёсьць, жыцьцё прымушае быць рэалістам. Іншыя, як выходзіць, з палёгкай уздыхнулі, што няма таго другога, што адзін Каліноўскі зьнік. Ні ў кога не адбілася ў галаве, не палічылі за здарэньне. Ну пабыў — і няма зноў. Што за падзея? Амаль што: Бог даў, Бог забраў. Халера зь ім... Усе там будзем.

Спрабую ўдакладніць: дык як і адкуль узяўся другі бюст Каліноўскага ў райцэнтры? У мясцовым

музэйчыку адказваюць: „Яго забралі з былога калгасу Каліноўскага, але ён быў сапраўды гіпсавы і на вуліцы ставіць нельга было. Улады яго паставілі, улады дэмантавалі“.

А калі, калі гэта адбылося, ці можна ўдакладніць? Паўза і адказ: „Гэта было гадоў пяць таму, хутчэй за ўсё…“ А паміж музэем і алеяй помнікаў і бюстаў хіба ня будзе сто мэтраў поўных, між іншым. „У аддзеле культуры вам таксама ня скажуць, там усе маладыя людзі цяпер, старажылаў няма, хто яго ставіў некалі“. Тады апошняе пытаньне: ці можна нагадаць — хто там за кім па чарзе стаіць на „алеі герояў“ у Сьвіслачы, бо я даўно ня быў? Калі ласка, адказваюць: „Спачатку братняя магіла, затым у нас ідзе Ленін, затым Сталін, потым Траўгут, потым пустое месца, і далей, здаецца, у 2011 годзе быў пастаўлены памятны знак нашым афганцам“.

„Пустое месца“. Трапна! Як яно ўзьдзейнічае на сьвіслацкіх жыхароў? Ці ніяк? Нібы месца вакантнае, значыць — пакінутая надзея. Але ня толькі бюста няма, з асфальту сам пастамэнт „вырублены“. Пад корань Кастуся!

Не захавалі ў Сьвіслачы бюст Каліноўскага, няма й самога калгасу больш.

Я патэлефанаваў у сельвыканкам у Нязбодзічах. На беларускай мове адказалі: калгас Каліноўскага спачатку стаў „Грынкі“, паводле назвы калгаснай сядзібы, а потым яго далучылі да суседняга, да „Нязбодзічаў“ якраз, што цяпер таксама не калгас, а — філія ваўкавыскага мясакамбінату. Вось так: каліноўцы цяпер належаць мясакамбінату. Партызанскага атраду імя Каліноўскага, вядома, ня стала яшчэ раней. Ёсьць пакуль яшчэ толькі вёска Каліноўская, да 1969-га Ліхасельцы.

## У Менску плянуюць стварыць „Нацыянальны пантэон“ з помнікам Каліноўскаму

10 верасьня 2013

Улады заявілі, што асобнага помніка Кастусю Каліноўскаму ў Менску ня будзе. Яму адводзяць месца ў „Нацыянальным пантэоне“, які ўзьнікне ў аддаленай пэрспэктыве.

Першая намесьніца начальніка галоўнай управы Менскага гарвыканкаму па ідэалягічнай працы, культуры і справах моладзі Віталіна Рудзікава адказала ініцыятарам усталяваньня ў Менску помніка Кастусю Каліноўскаму.

У сваім адказе, накіраваным на імя Алега Корбана, чыноўніца заявіла, што яе ўправа лічыць „заўчасным“ усталяваньне помніка на тэрыторыі сквэру ў межах вуліцы Каліноўскага і праспэкту Незалежнасьці.

Да адказу Рудзікавай дадаецца ліст дырэктара Менскага НДІ сацыяльна-эканамічных праблем Уладзімера Апанасенкі, які тлумачыць, чаму ідэя помніка Каліноўскаму заўчасная.

Справа ў тым, што паводле распрацаванай у 2012 годзе „Навуковай канцэпцыі стварэньня і ўстаноўкі мэмарыяльных збудаваньняў у горадзе Менску“, у сталіцы Беларусі плянуецца стварыць агульны помнік героям і асобам беларускай гісторыі. Ён мае ўмоўную назву „1000-годзьдзе беларускай дзяржаўнасьці (асобы ў гісторыі Беларусі)“. Помнік гэты яшчэ называюць „Нацыянальным пантэонам“, за прыкладам аналягічных аб’ектаў у іншых дзяржавах.

**Ільля Копыл (Менск)**

Калі плануецца стварыць пантэон, то гэта не павінна азначаць, што гістарычным асобам, якія туды пападуць, нельга ставіць помнікі. Напрыклад, асабіста я хацеу бы бачыць помнік Кастусю Каліноўскаму на сучаснай плошчы Кастрычніцкай, якая у 2006 годзе народам пераіменована у плошчу Кастуся Каліноўскага.

## Польскія дыпляматы ўсклалі кветкі да шыльды Кастусю Каліноўскаму

20 верасьня 2013

У Менску распачалася беларуска-польская канфэрэнцыя, прысьвечаная 150-годзьдзю паўстаньня Кастуся Каліноўскага, арганізаваная амбасадай Рэспублікі Польшча ў Беларусі.

Уступнымі словамі канфэрэнцыю адкрылі надзвычайны і паўнамоцны амбасадар Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Лешак Шэрэпка, а таксама кіраўнік канцылярыі прэзыдэнта Польшчы Яцэк Міхалоўскі.

Шэрэпка і Міхалоўскі наведалі Курапаты, дзе ўсклалі вянкі і кветкі да крыжа грамадзянам Польшчы, якія загінулі ў Беларусі, а таксама да каменя ўсім тым, хто загінуў падчас рэпрэсій.

Таксама яны ўсклалі кветкі да шыльды ў памяць Кастуся Каліноўскага ў Менску, на вуліцы Каліноўскага.

— Кожны народ павінен ведаць сваю гісторыю, — сказаў амбасадар Шэрэпка. — Інакш узьнікаюць складанасьці, у тым ліку і паміж народамі. Бо калі народы ня ведаюць праўдзівай гісторыі, то на гэтым можна спэкуляваць. А калі ёсьць веданьне

гісторыі, то тады спэкуляваць на гістарычных падзеях вельмі цяжка.

## Улады праігнаравалі канфэрэнцыю ў гонар паўстаньня Каліноўскага

20 верасьня 2013

Беларуска-польская навуковая канфэрэнцыя да юбілею паўстаньня Кастуся Каліноўскага ў Менску праходзіць пры ўдзеле навукоўцаў абедзьвюх краін, а таксама дыпляматычнага корпусу Польшчы ў Беларусі.

Гэтым разам, акрамя амбасадара Лешка Шэрэпкі, уступнае слова на адкрыцьці прамовіў і кіраўнік канцылярыі прэзыдэнта Польшчы Яцэк Міхалоўскі:

— Я хацеў бы перадаць прывітаньне ад прэзыдэнта Рэспублікі Польшча і ягоную радасьць як гісторыка з нагоды падзеі, якая тут адбываецца. Паўстаньне 1863–1864 гадоў займае вялікае месца ў ягоным сэрцы, асабліва такія постаці, як Траўгут і Каліноўскі. Яны асабліва важныя, бо сымбалізуюць сувязь гістарычных лёсаў беларусаў і палякаў. І паказваюць, наколькі мы ўвогуле адны да адных блізкія.

Як паведамілі арганізатары, канфэрэнцыю плянавалі правесьці разам з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі, але не атрымалі такой згоды. Гэткім чынам, навуковы форум распачаўся ў будынку амбасады Польшчы пры адсутнасьці прадстаўнікоў афіцыйных уладаў Беларусі ці іх прывітальных пасланьняў.

## На Мёршчыне ўшанавалі памяць паўстанца і літаратара

17 кастрычніка 2013

У Мёрскім раёне зьявіліся мэмарыяльныя шыльды ў гонар славутых землякоў — удзельніка паўстаньня 1863 году, скульптара Генрыка Дмахоўскага і пісьменьніка Яна Гушчы.

На шыльдзе ў гонар Дмахоўскага давялося пазначыць, што ён „славуты зямляк і скульптар“. Згадваць пра тое, што ён быў удзельнікам вызвольнага паўстаньня, мясцовыя ўлады не дазволілі.

З ініцыятывай ушанаваць памяць Дмахоўскага і Гушчы ў Мёрскі райвыканкам зьвярнуліся вучні школы № 3, мармур для шыльдаў за ўласныя грошы набыла Валянціна Атрошка, дырэктарка гэтай школы. Шыльды бясплатна вырабілі і ўсталявалі прадпрымальнік Аляксандар Чарняўскі і ягоны бацька, дырэктар мастацкай школы Баляслаў Чарняўскі.

Калі ў 1863 годзе распачалося паўстаньне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, ураджэнец Мёршчыны Генрык Дмахоўскі быў прызначаны камісарам Дзісенскага павету. Ён сабраў атрад паўстанцаў і сам яго ўзначаліў. У адным зь першых баёў ён загінуў. Здарылася гэта ў траўні 1863 году каля маёнтку Парэчча на тэрыторыі цяперашняга Докшыцкага раёну. На могілках каля вёскі Бірулі, Дмахоўскага і пахавалі.

— Знайсьці магілу няцяжка, калі ведаеш, дзе шукаць. Яна знаходзіцца ў бярозавым гаі каля старажытнага могільніка, узбоч сьцежкі ў бок возера. І адзначана хіба толькі старым каменным крыжам, усталяваным на пачатку мінулага ці ў

канцы пазамінулага стагодзьдзя. Вядома, што за польскім часам памяць Дмахоўскага ўшаноўвалі вучні і настаўнікі школы, што ў суседняй вёсцы Несьцераўшчына. На пачатку 2000-х гадоў на месцы гэтай магілы праводзіліся гістарычныя раскопкі. Знайшлі тры шкілеты, адзін зь іх належаў чалавеку вышэйшага, у параўнаньні зь іншымі, росту — верагодна, якраз Генрыку Дмахоўскаму. Бо, паводле ўспамінаў, гэта быў высокі чалавек. Былі знойдзеныя і жалезныя кулі — прычына сьмерці гэтых людзей, якія ўсе трое, найверагодней, і былі ўдзельнікамі паўстанцкага атраду. На нейкі час знойдзеныя чалавечыя парэшткі перазахавалі на бліжэйшых могілках, але потым вярнулі на ранейшае месца — пад стары крыж, — расказаў краязнаўца і журналіст Кастусь Шыталь.

Мэмарыяльная шыльда ў памяць Генрыка Дмахоўскага, паўстанца і скульптара, цяпер вісіць на будынку клюбу ў вёсцы Забалацьце. Гэты будынак быў узьведзены на падмурку сядзібы Дмахоўскіх.

## Касьцёл, у якім, магчыма, друкавалася „Мужыцкая праўда“

23 кастрычніка 2013

Жыхары Вялікай Бераставіцы лічаць, што менавіта ў іхнім касьцёле друкаваліся першыя нумары „Мужыцкае праўды“.

Гэты факт пакуль не пацьвердзілі гісторыкі, але тое, што ў паўстаньні 1863 году бралі актыўны ўдзел продкі многіх сёньняшніх берастаўчан — дакладна.

Мар’яну Баеру больш за 80 гадоў. Ён памятае, што распавядалі пра касьцёл у сям’і:

— Там у гэтым касьцёле друкавалася газэта „Мужыцкая праўда“. Гэта казалі мае бацькі, а ім бабуля казала, што ў сутарэньнях касьцёла стаяла друкарская машына. І нават сюды прыяжджаў Кастусь Каліноўскі, сустракаўся з ксяндзом, які таксама браў удзел у паўстаньні. Пасьля паўстаньня касьцёл зачынілі, а потым перадалі праваслаўнай царкве. Там усталявалі іканастас, і царква прабыла да 1918 году.

Мясцовы краязнаўца, аўтар кнігі „Памяць“ Бераставіцкага раёну Мікалай Пацэнка таксама схільны лічыць, што першыя нумары „Мужыцкай праўды“ друкаваліся менавіта ў гэтым касьцёле.

Па-першае, спадар Мікалай спасылаецца на меркаваньне гісторыка Генадзя Кісялёва, які ў сваіх працах дапускае такую магчымасьць, а па-другое, здабытыя ім архіўныя дакумэнты сьведчаць пра тое, як пільна расейскія жандары сачылі за Кастусём Каліноўскім менавіта ў Бераставіцы і шукалі тут газэту.

Краязнавец зьвяртае ўвагу на тое, як шмат людзей на Бераставіччыне бралі ўдзел у паўстаньні:

— У архіўных дакумэнтах, дзе ёсьць рашэньні губэрнатара саслаць у Сібір, я налічыў 150 чалавек зь Бераставіччыны. Сярод паўстанцаў былі заможныя людзі, але сялян была большасьць. Мала што на судзе яны там апраўдваліся, нібыта іх прымусілі, але яны былі ў паўстанцкіх атрадах.

**воўча**

Усё дзяцінства там прабавілі. Касьцёл гарэў у 1990-я, калі пачалі „рэстаўраваць“, гарэлі лясы-рыштаваньні, праўдападобна грошы на рэстаўрацыю скрадзены-падзелены і

падпалена каб канцы ў ваду. Вакол касьцёла калісь (але я тады шчэ не радзіўся, на старых фотках бачыў) быў прыгожы высокі мур з брамаю, дзе цяперака паркоўка. А пра „Мужыцкую Праўду“ прыемна даведацца, бо там у сутарэньнях сярод друзу цаглянага й сапраўды друкарскія машынкі знаходзілі. Чаго там толькі не было.

**Алесь**

Я размаўляў з краязнаўцам бераставіцкім — А.Втарушыным. Ён сцвярджае, што гэта міф, каб вабіць турыстаў. Зараз пішу артыкул як у 1863 годзе ў гэтым касцёле ксяндзом быў Ігнат Казлоўскі — паплечнік і прыяцель Каліноўскага, удзельнік гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Ксёндз на следствах па вышуку Каліноўскага блытаў жандараў і прыкрываў Каліноўскага, заклікаў сялян навакольных вёсак не здаваць тых, хто пайшоў у паўстанне. Таму ўсё можа быць... хаця я не веру ў гэтую версію.

## На радзіме братоў Каліноўскіх малаліка і без сымболікі

27 кастрычніка 2013

Ушанаваньне паўстанцаў сёлета ў Сьвіслачы, нягледзячы на юбілейныя 150-я ўгодкі паўстаньня, сабрала як ніколі мала людзей. І як ніколі раней, шмат міліцыянтаў у цывільным і нават некалькі відэаапэратараў, таксама ў цывільным, фільмавалі на камэры.

Удзельнікаў прыехала ня болей за 50 чалавек. Пераважна гэта былі гарадзенцы, актывісты з Ваўкавыску, мясцовыя актывісты і адзіны мянчук — кіраўнік партыі БНФ Аляксей Янукевіч.

Зусім не выкарыстоўвалася нацыянальная сымболіка.

## Даеш вуліцу Каліноўскага замест Таможнай

9 лістапада 2013

Берасьцейскі гарвыканкам заклікаў дасылаць прапанавы, як назваць новую вуліцу, пабудаваную ў раёне Берасьцейскай крэпасьці.

„Малады фронт“ прапануе назваць вуліцу імем Кастуся Каліноўскага. Раней вуліцу зьбіраліся назваць „Таможнай“, але назву пасьля ўмяшаньня грамадзкасьці забракавалі: гучаньне назвы на дзьвюх мовах значна б адрозьнівалася.

„Малады фронт“ прыводзіць некалькі аргумэнтаў, чаму б вуліцы пасавала імя Каліноўскага. У 1863–1864 гадах паўстанцы дзейнічалі ў тым ліку ў ваколіцах гораду. Пасьля здушэньня паўстаньня ўзятых у палон удзельнікаў трымалі ў вязьніцы на тэрыторыі крэпасьці.

## Зброя літоўскіх касінераў у Горадні

14 лістапада 2013

У Горадні адкрылася выстава, прысьвечаная 150-годзьдзю паўстаньня 1863 году.

Гэта агульналітоўская выстава, прывезьлі яе з Шаўляў (горад Шаўляй). Афармленьне экспанатаў, каб правезьці цераз літоўска-беларускую мяжу, заняло два дні. Цяпер яны ў Старым замку, які заняты Гарадзенскім гісторыка-археалягічным музеем.

Дырэктар гарадзенскага музэю Юры Кітурка зазначыў, што паўстаньне было важнай падзеяй для беларускіх, польскіх і літоўскіх земляў:

— Мы прэзэнтуем вам выставу, якую нам прадставіў шавельскі музэй „Aušros muziejus“. Тут ня толькі рэчы зь Літвы, ёсьць таксама — з нашага музэю. На выставе вельмі цікавыя экспанаты, аўтэнтычныя, якія належалі як паўстанцам, так і тым, хто гэтае паўстаньне душыў.

Намесьнік дырэктара шавельскага музэю Віргінія Шукшчэне паведаміла, што 2013 год у Літве Соймам рэспублікі абвешчаны годам паўстаньня 1863 году. Шавельскі музэй падрыхтаваў выставу пра паўстаньне: „Твары. Імёны. Гісторыі“. Паставілі сабраць экспанаты з усіх музэяў краіны:

— На нашу ініцыятыву адгукнуліся дзевятнаццаць музэяў Літвы, а таксама музэй з Горадні і два з Польшчы — у Аўгустове і Сувалках. Чаму наш музэй узяўся за гэта? Яшчэ ў 1933 годзе шавельскі музэй першым у Літве арганізаваў выставу, прысьвечаную гэтаму паўстаньню. Да таго году ў Літве трактавалі паўстаньне як справу палякаў і лічылася, што літоўцаў не было ў паўстаньні.

Каб падрыхтаваць тую першую выставу, прысьвечаную паўстаньню, надрукавалі зварот да насельніцтва, кажа Віргінія Шукшчэне:

— Можа, у кагосьці ёсьць артэфакты з часоў паўстаньня, каб яны несьлі ў музэй, каб запісвалі ўспаміны. І вось праз восемдзесят год музэй зноў вярнуўся да гэтай задумы. Аснова нашай калекцыі — арыгінальныя фатаграфіі, у нас іх каля двухсот. І да сёньняшняга дня ў Літве ёсьць сем'і, у якіх жывыя легенды, як дзяды і прадзеды амаль з голымі рукамі ішлі на казакоў.

Віргінія Шукшчэне сказала, што яны прывезьлі нямала арыгінальных экспанатаў, якія сёньня лічацца нацыянальнымі каштоўнасьцямі:

— Скажам, гэта адзіны сьцяг атраду паўстанцаў, які захаваўся. Ён быў знойдзены школьнікамі ў касьцёле зусім выпадкова. Толькі потым перадалі музэю, дзе ён быў рэстаўраваны.

У Літве існуе асобны музэй паўстаньня 1863 году — у Кейданскім раёне. Дарэчы, у Шаўлях паставілі і першы помнік паўстанцам, распавяляла Віргінія Шукшчэне. Пачалі яго будаваць у 1931 годзе, а праз чатыры гады адкрылі. Ён стаіць на месцы, дзе царскія карнікі пакаралі сьмерцю адзінаццаць літоўскіх паўстанцаў.

## Каліноўскі як „далакоп“ беларускай мовы

3 сьнежня 2013
Сяргей Астраўцоў

Каліноўскі пашкодзіў беларускай мове. Чым пашкодзіў? Тым, што змусіў цара перадумаць. Аляксандар II вырашыў не адкрываць беларускія школкі, а надрукаваныя для іх падручнікі загадаў спаліць.

Аднак ня будзем сьпяшацца, раскладзем усё па паліцах.

У Беларусі праз 150 гадоў сяк-так успомнілі Каліноўскага і паўстаньне. Начальства вялікіх перашкодаў не рабіла, але захоўвала каменны дзяржаўніцкі твар. Нам яшчэ раз нагадалі: Руская праваслаўная царква ў Беларусі супраць Каліноўскага і за Мураўёва-вешальніка, зь ёю ў хаўрусе гэтак званыя ідэолягі на службе ў начальства. Ды некаторыя краязнаўцы несьвядома ліюць па-ранейшаму на іхні млын ваду: Каліноўскі — паляк, антыбеларус. Але

калі ня ён, то хто? Больш нікога мы тады ня маем, савецкі Ленін на кожнай плошчы — ня лічыцца.

Дзіўны прысмак пад заслону юбілейнага году пакінула дыскусія пра паўстаньне: пад партрэтам Станіслава Аўгуста Панятоўскага, у Каралеўскім замку ў Варшаве.

Польскія гісторыкі нібы затрымаліся ў часе, нібы няма ў прысутных айфонаў і айпэдаў… Напярэдадні паўстаньня палякам важна было сымбалічна „перападпісаць“ Люблінскую унію з Русьсю (тлумачыцца, што маюць на ўвазе Украіну) і Літвой (не тлумачыцца нічога). Сказана — зроблена, грамадзкім чынам, зразумела, пацьвердзілі: зноў будзем навекі разам, толькі незалежнасьць адваюем! Тое, што акт 300-гадовай даўніны мог страціць тэрмін прыдатнасьці, да галавы не прыйшло. Ясна, зь „мяцяжом“ нічога ня выйшла, і цар закруціў гайкі. Не без задавальненьня, трэба думаць.

Пікантнасьць сытуацыі ў тым, што літоўскіх гісторыкаў няма і за „ўсю Літву“ мусіць адказваць добра вядомы Алег Латышонак зь Беластоку. Ён і нагадаў, што цяпер на месцы той ранейшай Літвы Беларусь, дзе некалі адукаваная кляса лічыла сябе палякамі. Але вялікая частка цяперашніх беларусаў стала праваслаўнай, калі цар скасаваў Унію. І яе эліта ня бачыла сэнсу і нават баялася вяртаньня Рэчы Паспалітай. Навошта? Бо гэта патрэбна збольшага толькі самім палякам… Вызваленьне сялян з-пад прыгону, між іншым, дазволіла сфармавацца ў будучыні беларускаму народу. У гэтым часе былі надрукаваныя беларускія падручнікі для пачатковай школы, а таксама вызначаныя грошы на газэту на беларускай мове „Друг народу“, паведаміў Алег Латышонак.

Адначасова супраціўны бок пачаў агітацыю за паўстаньне таксама на беларускай мове, што агульнавядомы факт. Цікава, што першым гэта зрабіў паляк Браніслаў Шварцэ, які ў Беластоку выдаў часопіс „Гутарка старога дзеда“, затым „Гутарку двух суседаў“. Толькі пасьля стаў друкаваць сваю „Мужыцкую праўду“ Кастусь Каліноўскі, якога, як зазначыў Латышонак, сваім лічаць сёньня беларусы, палякі, а таксама літоўцы. Але яшчэ на пачатку XX стагодзьдзя „можна было быць адначасова літоўцам, беларусам і палякам“, кажа ён: „Клясычным прыкладам стаў Юзаф Пілсудзкі, які быў беларусам, і не таму, што беларусы яго лічаць такім, папросту ён дэкляраваў беларускую нацыянальнасьць, бо нарадзіўся ў беларускамоўнай ваколіцы“, але быў таксама літоўцам і быў палякам, „чаго тлумачыць ня мушу“, закончыў думку гісторык. Выказваньне прагучала для прысутных палякаў напэўна даволі эпатажна, але пярэчаньняў не было.

260 тысяч царскіх салдат супраць паўстанцкіх партызанаў рабілі выступ „патрыятычнай самадзейнасьцю“. Ці варта нагадваць, што ў Польшчы распачалі раней часу, не ўзгадніўшы з Каліноўскім, і яму з паплечнікамі давялося цягнуць з рашэньнем: далучыцца ці не? Паколькі было зразумела, што справа амаль безнадзейная… І вось тут мы можам задумацца: а калі, дапусьцім, Каліноўскі адмаўляецца? Паўстаньне не падрыхтаванае як мае быць, таму ня мае шанцаў, і пачынаць — азначае загубіць людзей! Пазьней цар, разважыўшы, вырашае заахвоціць беларусаў, што не падтрымалі „мяцеж“: хай у школках вучацца па-беларуску, хай выходзіць „Друг народу“. І тады беларусы пачынаюць пакрысе пераўтварацца сапраўды ў народ, і на

пачатку XX стагодзьдзя яны ў гэтай справе побач зь літоўцамі, а не далёка ў хвасьце! І тады, сябры мае, Рада БНР будзе адчуваць ня меншую сілу, чымсьці літоўская Тарыба, каб заснаваць сваю дзяржаву! І тады сёньня, нават пажыўшы, скажам, у БССР, мы пасьля 1991-га вяртаемся ў сваю сапраўды наскрозь беларускую няхай БНР!

З гісторыі, аднак, дрэнная настаўніца: ніколі ня вучыць. Ні нас, ні нават нашых сумежнікаў. Крах паўстаньня 1863 году ня вучыць таксама. Суседзі заўсёды былі ня супраць адхапіць кавалак зямлі адзін у аднаго. Але гэта датычыць краінаў, якія ўжо ёсьць, стаяць на нагах. Рэч Паспалітая не існавала 120 гадоў, нават калі ў думках яе адмаўляліся хаваць, яна была мёртвай. (Партрэт апошняга караля ня дасьць схлусіць.) Праз такі час з нуля вярнуць усё назад — пражэкцёрства, нават глупота, чым у такіх справах абарочваюцца эмоцыі, хай самыя патрыятычныя. Гэта прынамсі палітычная блізарукасьць. Усё ж існавала пры царах і герцагства Варшаўскае, і царства. Каб жа цьвярозым палякам засяродзіцца на адраджэньні менавіта Польшчы і на яе ўмацаваньні. Аднак Пілсудзкі пайшоў на Вільню, на Полацак, на Смаленск, на Кіеў. Быў, вядома, посьпех, але ў пэрспэктыве толькі часовы. Гісторыя не даруе нядбайна зробленай працы над памылкамі.

Вельмі шкада таксама, але ў 1995-м Каліноўскі ўжо быў ні пры чым у любым разе. Калі цар перадумаў зь беларускімі школкамі, нашы прадзеды ў значнай ступені былі малапісьменнымі і за іх усё вырашыў менавіта ён, цар-бацюхна. Але ў 1995-м беларусы пазаканчвалі інстытуты і нават акадэміі. Але як жа ўсьцешыліся, калі прыйшоў іншы Аляксандар і заахвоціў ужо існуючую бела-

рускую школу спляжыць! Так, гісторыя ня вучыць, працу над памылкамі двоечнікі лянуюцца рабіць, і гісторыя паўтараецца ў лепшым разе ў выглядзе трагікамэдыі.

Канечне, беларуская мова „Мужыцкай праўды“ ўрэшце выканала сваю станоўчую ролю, але са спазьненьнем на 55–60 гадоў, калі Каліноўскага беларусы прызналі сваім. На жаль, калі ён быў яшчэ жывы, у паўстаньне пайшлі (і трапілі пад рэпрэсіі, аб чым таксама казаў А. Латышонак) паэты, якія ўжо карысталіся беларускай мовай. І самі пазбыліся магчымасьці друкаваць свае творы, і чытачоў будучых страцілі, паколькі цар вырашыў: раз бунтуюць, няхай усё будзе толькі на расейскай мове!

Як знаць: калі б не паўстаньне, ці не ляжала б у шапіках сёньня „Мужыцкая праўда“ замест „Советской Белоруссии“?

## „Гэты невядомы помнік яшчэ раз нагадвае, што Жыве Беларусь!“

9 сьнежня 2013

Усталяваньне помніка паўстанцам 1863 году, здымкі якога зьявіліся ў інтэрнэце, а месца дагэтуль трымаецца ў таямніцы, узбудзіла абмеркаваньне гэтай тэмы сярод гарадзенскай інтэлігенцыі.

Паводле сайту „Беларускі партызан“, помнік усталявалі патаемна яшчэ ўвосень і нібыта недзе ў Заходняй Беларусі. Ягонае месцазнаходжаньне трымаецца ў сакрэце, каб ва ўладаў было меней магчымасьцяў яго зьнішчыць.

Горадзенскі гісторык Алесь Краўцэвіч перакананы, што рэальна атрымаць дазвол на ўсталяваньне помніка паўстанцам Каліноўскага ў Беларусі немагчыма, хоць афіцыйна тэмы паўстаньня 1863 году ніхто і не забараняў:

— Я не сумняваюся, што гэты помнік будзе збураны, бо яго паставілі без дазволу ўладаў. Гэта будзе чарговы скандал, але пікантнасьць сытуацыі ў тым, што Каліноўскі і ягоныя паўстанцы неадназначна ацэньваюцца нават ва ўладных структурах. І мне здаецца, што мітусьня ідэолягаў адносна Каліноўскага, спроба яго дыскрэдытаваць, ачарніць, наадварот, прыводзіць да таго, што ён яшчэ болей у нашай памяці застаецца змагаром за Беларусь.

Краязнаўца і пісьменьнік са Слоніму Алесь Чыгрын упэўнены, што такія справы, як усталяваньне падобнага помніка, пацягнуць за сабой новыя падзеі ў нашым грамадзтве, якія ўрэшце могуць прынесьці новыя зьмены:

— Помнік паўстанцам 1863 году, які я сёньня пабачыў на здымках у інтэрнэце, такі велічны, сур'ёзны помнік яшчэ раз сьведчыць пра тое, што жыве Беларусь. Наша гісторыя і нашы героі ніколі не памруць, будуць заўсёды жыць...

## Прыватны помнік паўстанцам Каліноўскага зьявіўся на Астравеччыне

12 сьнежня 2013

У месцы, дзе ўсталяваны помнік, сёньня пабываў актывіст з Астравеччыны Мікола Ўласевіч. Ён кажа, што помнік знаходзіцца побач зь вёскай

Слабодка — гэта прыкладна 7–8 кілямэтраў ад беларуска-літоўскае мяжы.

**Уласевіч**: Месца, дзе ён стаіць, уражвае: на ўзгорку і на адкрытай мясцовасьці, дзе шмат свабоды, ды яшчэ на ўзьлеску. Помнік зроблены з граніту, ён вельмі старанна апрацаваны. На ім два крыжы: праваслаўны і каталіцкі, а таксама лічбы 1863–2013. Помнік зроблены ў выглядзе мяча, а на самым версе — Пагоня. Тое, што я бачу, ужо немагчыма ніколі забыць, і мне цяжка перадаць словамі ўсе свае пачуцьці.

Жыхар Слабодкі спадар Антоні распавёў Свабодзе, што помнік усталяваў бізнэсовец, які набыў побач зь іх вёскай хату. Завуць яго Мікіта, і жыве ён у Літве, але паводле паходжаньня — беларус: з гэтых мясьцінаў паходзіць ягоная бабуля.

Паводле спадара Антонія, мясцовыя людзі таксама ўражаныя веліччу помніка. Праўда, працы вакол яго пакуль ня скончаныя: трэба зрабіць добры пад’езд.

Што датычыць мясцовых уладаў, дык ніякай нэгатыўнай рэакцыі зь іх боку, паводле спадара Антонія, пакуль не было:

— Ну, я так дакладна ня ведаю, але ўсе ў нас тут ведаюць пра гэты помнік. Ён жа не хаваўся, калі будаваў, — усё рабіў адкрыта. І тэхніку выпісваў, аплачваў, і пагорак вунь раўняў, і ўсё так прыгожа зрабіў. Засталося толькі пад’язныя дарогі зрабіць і асьвяціць помнік.

Вядома, што аўтар помніка — скульптар Ігар Засімовіч. У адным са сваіх інтэрвію ён сказаў, што помнік прысьвечаны паўстанцам Каліноўскага і ўсталяваны на знак удзячнасьці продкам, якія аддалі свае жыцьці за нашу свабоду.

## Алег Латышонак пра беларускую ідэю і Каліноўскага

14 студзеня 2014
Ян Максімюк

Алег Латышонак — гісторык, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы, прафэсар на гістарычна-сацыялягічным факультэце Ўнівэрсытэту ў Беластоку.

**Максімюк**: Ты дасьледаваў беларускую нацыянальную ідэю. А ці знайшоў ты пункт у часе і канкрэтнага чалавека, ад якіх гэтая ідэя ўзяла свой пачатак? Інакш кажучы, ці была асоба, пра якую можна сказаць, што яна першая заявіла, што беларусы — гэта нацыя, а ня толькі мужыкі, якія працуюць на пана?

**Латышонак**: Не было такой асобы. Вызначаліся моўныя прыкметы беларускага народу, акрэсьліваліся яго этнаграфічныя асаблівасьці, яго звычаі. Але ўсё гэта рабілі людзі, якія казалі пра беларускі народ — „яны“. Упершыню вызначэньне „мы беларусы“ трапілася мне ў літаратурным тэксьце, зьмешчаным у падручніку, які царскія ўлады надрукавалі для беларускіх школаў у 1863 годзе. Вось там, у гэтым падручніку — які называецца „Розсказы на бѣлорусскомъ нарѣчіи“ — адзін з пэрсанажаў, стараста Янка, кажа „мы беларусы“...

**Максімюк**: Значыць, у 1863 годзе зьявіўся першы пісаны тэкст, у якім выступае самавызначэньне „мы беларусы“?

**Латышонак**: Так. Прынамсі мне асабіста не вядомы ніякі ранейшы тэкст. А там якраз, у чытанцы „Розмова на цментары старосты Янка зъ братчикомъ Хвэдосемъ“, зьяўляецца першая асоба, якая кажа пра такую супольнасьць, як беларускі народ, з пазыцыі „мы“. Аўтар гэтага тэксту невядомы, і гэты сумны факт у першую чаргу сьведчыць пра стан беларускай гістарыяграфіі...

Ну але вось, у тым царскім падручніку „Розсказы на бѣлорусскомъ нарѣчіи“, у якім пяць тэкстаў на дыялектах, адзін з пэрсанажаў, стараста Янка, упершыню кажа выразна, што мы — не палякі і ня рускія, а беларусы...

**Максімюк**: Летась выпалі 150-я ўгодкі выбуху Студзеньскага паўстаньня. Перш чым запытаць цябе пра тое, як да гэтай падзеі ставяцца палякі і беларусы, мне цікава даведацца, якія адносіны да Студзеньскага паўстаньня ў літоўцаў? Ім гэтая падзея дзеля нечага патрэбная ў іхным нацыянальна-гістарычным дыскурсе?

**Латышонак**: Літоўцы ўрачыста адсьвяткавалі ўгодкі паўстаньня 1863 году. Для іх гэтая падзея мае нацыянальную значнасьць. Трэба прызнаць, што ў Літве гэтае паўстаньне мела даволі масавы характар і нацыянальную афарбоўку.

**Максімюк**: З таго, што я здолеў прачытаць у польскай прэсе з нагоды 150-х угодкаў Студзеньскага паўстаньня, вынікае, што палякі цяпер глядзяць на гэтую падзею як на нацыянальную катастрофу, якая фатальна падарвала польскія ўплывы ў Літве і Беларусі. Інакш кажучы, палякам лепш было б не

падымаць гэтага бунту супраць Масквы. Гэта так, ці мне толькі так падалося?

**Латышонак**: Гэта не зусім так. З аднаго боку правыя кансэрватарскія колы, чый голас гучыць сёньня ў Польшчы штораз мацней, зьвяртаюць увагу на рэаліі, якія наступілі пасьля паўстаньня. Гэтае паўстаньне, як і папярэднія польскія паўстаньні, заўсёды мела шмат крытыкаў, паколькі кожнае прайгранае паўстаньне аслабляла і Польшчу, і пальшчызну. Тут, на маю думку, мы маем дачыненьне з зачараваным колам. З аднаго боку, як я ўжо сказаў, палякам можна ставіцца да гэтага паўстаньня вельмі крытычна, але з другога боку тыя, хто пачаў тое паўстаньне, на мой погляд, дасканала разумелі, што пройдзе яшчэ 20 гадоў, і палякам ужо ня будзе чаго шукаць на ўсходніх землях, асабліва пасьля вызваленьня сялянства ад прыгону і яго эмансыпацыі ў рускім духу. Так што выбар тады быў невялікі. Калі паглядзець на паўстаньне з боку набыткаў і стратаў, дык яно напэўна аслабіла становішча палякаў на ўсходніх землях. Але большасьць палякаў ставіцца да гэтай падзеі зь вялікай пашанай... Таму і адзначэньне 150-х угодкаў паўстаньня мела ў Польшчы агульнанацыянальны характар...

**Максімюк**: А як па-твойму выглядала беларуская справа ў сьвятле паразы Студзеньскага паўстаньня? Якім чынам выбух паўстаньня, а потым яго здушэньне царом паўплывала на разьвіцьцё беларускай нацыянальнай ідэі?

**Латышонак**: Выключна адмоўна. Гэтае паўстаньне было робленае не ў беларускіх інтарэсах. Трэба ўсьведамляць сабе, што тады ніякай беларускай нацыі не існавала, таму і ніякага беларускага інтарэсу ў паўстаньні не магло быць па вызначэньні.

Але калі глядзець на паўстаньне праз прызму стратаў і набыткаў для беларускай ідэі, то трэба сказаць, што да паўстаньня ў Расеі пераважалі славянафільскія настроі, якія праяўляліся, сярод іншага, у дазволе на адукацыю на дыялектах — маларасійскім і беларускім. Гэтымі настроямі выдатна пакарысталіся ўкраінцы, якія пасьпелі надрукаваць тысячы падручнікаў і адкрыць сетку школаў, у якіх навучаньне ўкраінскай мовы было дазволенае на пачатковым узроўні. Тое самае было вырашана ў адносінах да Беларусі, і таму быў надрукаваны гэты падручнік, пра які я ўжо казаў...

**Максімюк**: Скажы больш падрабязна пра гэты падручнік, таму што я, шчыра кажучы, у ніякага беларускага гісторыка, акрамя Алега Латышонка, нічога канкрэтнага пра яго не даведаўся. Чаму пра яго не гавораць іншыя, а гаворыш ты?

**Латышонак**: У мяне такое дзіўнае ўражаньне, што іншыя лічаць гэты падручнік „непатрыятычным", а таму вырашылі, што лепш пра яго прамаўчаць.

Замест таго, каб усебакова вывучаць гэты падручнік, беларускія дасьледнікі нават не зрабілі ніякага сур'ёзнага аналізу тэкстаў у ім. Агульна пішуць, што ў гэтым падручніку выказваюцца нейкія „западнарускія" ідэі, хоць іх там у самых важных тэкстах наогул няма. Я проста не магу перастаць зьдзіўляцца, што за навуку разьвіваюць у Беларусі — кожны займаецца толькі ідэалёгіяй, а не дасьледуе таго, што было! Гэты падручнік ляжыць як камень упоперак дарогі ўсім тым, хто хоча сказаць, што паўстаньне 1863 году было карыснае для беларусаў. Як можна назваць карысным паўстаньне, якое давяло да падзеньня пачаткаў беларускага

школьніцтва і зьнішчэньня гэтага падручніка і якое яшчэ рыкашэтам ударыла па ўкраінцах, якім таксама такія школы і падручнікі забаранілі.

**Максімюк**: Які быў наклад гэтага падручніка?

**Латышонак**: Мы ня ведаем. Падручнік, а дакладней, зборнік чытанак для дзяцей „Розсказы на бѣлорусскомъ нарѣчіи“, быў дапушчаны цэнзурай пад самы канец 1862 году і выйшаў на пачатку 1863-га…

**Максімюк**: А паўстаньне пачалося ў студзені 1863-га. Былі нейкія шанцы, што гэты падручнік апынуўся ў школах?

**Латышонак**: Я думаю, што не. Гэта аднак няясная справа, бо яе, як я ўжо казаў, ніхто не дасьледуе. Але мне здаецца, што нават калі гэты падручнік быў уведзены ў асьветны працэс, то на вельмі кароткі час. Адразу з прыходам Мураўёва гэты падручнік забралі са школаў, і расейскі падыход да беларусаў і ўкраінцаў рэзка памяняўся. Любоў да славяншчыны і дыялектаў была замененая лютай русыфікацыяй. Такі быў асноўны вынік паўстаньня 1863 году для беларусаў.

**Максімюк**: У гэтым падручніку ёсьць два тэксты на гаворках характэрных для Віцебшчыны, калі не памыляюся, два тэксты на заходнепалескіх гаворках, і яшчэ адзін тэкст на нейкай зьмяшанай гаворцы, якую цяжка ідэнтыфікаваць сходу. Аўтар гэтага падручніка лічыў беларусамі насельнікаў і Віцебшчыны, і Піншчыны?

**Латышонак**: Абсалютна. Ён вызначыў межы Беларусі, і то амаль дакладна такія, у якіх знаходзіцца сёньняшняя Рэспубліка Беларусь. Гэта было зроблена гадоў за 30 да Багушэвіча... Я ўжо не магу чытаць тэкстаў, у якіх пішуць, што межы Беларусі вызначыў Багушэвіч. 30 гадоў перад ім гэтыя межы

былі вызначаныя ў школьным падручніку для царскай школы...

**Максімюк**: Давай закруглім тэму паўстаньня. Мы столькі пра яго нагаварылі, але ні разу не згадалі Кастуся Каліноўскага. Несалідна атрымалася. Мяркуючы па „Мужыцкай праўдзе“, Каліноўскі і іншыя кіраўнікі паўстаньня ў Літве і Беларусі моцна разьлічвалі на рэлігійны чыньнік у змаганьні з маскалямі. Яны апэлявалі да рэлігійнага пачуцьця беларускіх мужыкоў, супрацьстаўляючы праваслаўю ня так даўнюю іх прыналежнасьць да уніі. У праваслаўі, паводле „Мужыцкай праўды“ № 6, чалавек „як той сабака жыве бязь веры і як сабака здохне чартам да пекла“. Наколькі эфэктыўным было гэтае, кажучы сёньняшняй тэрміналёгіяй, распальваньне рэлігійнай варожасьці сярод беларусаў? Шмат праваслаўных мужыкоў паслухала такіх заклікаў і пайшло ваяваць за вяртаньне ўніяцкай веры?

**Латышонак**: Толькі на Горадзеншчыне гэты заклік займеў нейкі водгук. Там прыхільныя ўніяцтву настроі былі наймацнейшыя. Дый на Беласточчыне, у Кляшчэлях, людзі выказваліся за унію яшчэ і ў 1862 годзе. Але гэткая тактыка мабілізацыі сілаў для паўстаньня, на маю думку, была памылковай у маштабе ўсёй краіны. Ды ня ўсе кіраўнікі паўстаньня падзялялі такія погляды. Калі Людвік Зьвяждоўскі заняў Горы-Горкі, дык ясна сказаў студэнтам Земляробчага інстытуту, што кожны застанецца пры такой веры, якую сабе схоча. І гэта быў прагрэсіўны падыход, калі параўнаць яго з падыходам Каліноўскага.

**Максімюк**: Чаму міт Каліноўскага — змагара з маскалямі — афіцыйна падтрымлівалі ў савецкі час? Калі ён змагаўся за аддзяленьне Беларусі ад

Расеі, дык навошта такі герой быў патрэбны бальшавіцкай прапагандзе? Бальшавікі ж не хацелі, каб Беларусь аддзялілася ад Масквы, ці ня так?

**Латышонак**: Гэта было выяўленьне „нацыяналістычных“ поглядаў беларускіх бальшавікоў. У гісторыі Беларусі ім трэба было знайсьці нейкіх сваіх рэвалюцыянэраў, таму на гэтую ролю падышоў Каліноўскі. Тут дарэчы нагадаць, што Студзеньскае паўстаньне падтрымлівалі расейскія рэвалюцыянэры. І таму гэтую падтрымку можна было падаць як прыклад польска-расейскага рэвалюцыйнага братэрства. Не забывайма, што мы гаворым пра бальшавіцкую гістарыяграфію, якая займалася ня досьледам гістарычнай рэчаіснасьці, а стварэньнем ідэалягічных мітаў. Бальшавікі зрабілі Каліноўскага героем і больш літаратурнай, чым гістарычнай постацьцю. Чытаць „Мужыцкую праўду“ бальшавікі не дазвалялі, каб народ ня ведаў, за што Каліноўскі насамрэч змагаўся. Ён быў агульнавядомы ў савецкі час як аўтар толькі некалькіх вырваных з кантэксту цытатаў...

**Максімюк**: Сёньня ўжо кожны можа прачытаць і ўсю „Мужыцкую праўду“, і розныя тэксты, гістарычныя і ідэалягічныя, пра Студзеньскае паўстаньне. Наколькі табе падаецца імаверным, што Каліноўскі — рымскі каталік і люты вораг праваслаўя — можа быць у агляднай будучыні ўспрыняты як нацыянальны герой агулам беларускага грамадзтва, веравызнаньне пераважнай большасьці якога можна вызначыць калі не як праваслаўе, дык прынамсі як „праваслаўны атэізм“?

**Латышонак**: Вось менавіта, для „праваслаўных атэістаў“ Каліноўскі назаўсёды застанецца непрымальным. Я ўжо не кажу тут пра сапраўдных пра-

васлаўных вернікаў. Калі б справы веравызнаньня сталі для беларусаў зусім няважнымі, то агульная акцэптацыя Каліноўскага як нацыянальнага героя была б магчымай. Так як гэта было магчыма ў савецкі час. Але ў рэальнай сытуацыі сёньняшняй Беларусі гэта малаверагодна... Я лічу, што Кастусь Каліноўскі і ягоны сьветапоглядны апанэнт, „западнарус“ Міхаіл Каяловіч, які выступаў супраць каталіцызму і заклікаў да змаганьня з паўстанцамі — гэта дзьве крайнасьці, якія нам трэба падаваць як прыклад таго, чаго сёньня нельга рабіць у Беларусі дзеля гуртаваньня нацыі... Неяк так склалася, што і Каліноўскі, і Каяловіч нарадзіліся на Беласточчыне, амаль па-суседзку — адзін у Мастаўлянах, другі ў Кузьніцы...

## Партрэты паўстаньня

21 сакавіка 2014

Да 150-й гадавіны расправы над лідэрам паўстаньня 1863 году Кастусём Каліноўскім з друку выйшаў фотаальбом „Партрэты паўстаньня“.

У выданьні сабрана блізу двух сотняў здымкаў непасрэдных удзельнікаў антырасейскага супраціву, а таксама асобаў, якія мелі дачыненьне да тагачаснай кампаніі.

Складальнікі альбому — літаратуразнаўца, архівіст-археограф Язэп Янушкевіч, а таксама ягоная дачка Каміла, магістрантка Беларускай акадэміі мастацтваў.

Паводле суразмоўцы, разам з дачкой яны працавалі ў розных эўрапейскіх і беларускіх архівах,

дзе знайшліся, безь перабольшаньня, эксклюзіўныя кадры беларускай гісторыі:

— Аднаму, бясспрэчна, гэта было б цяжка зрабіць, таму мне на дапамогу прыйшла дачка Каміла. Працавалі мы ў архівах і бібліятэках Літвы, Польшчы, Беларусі. У прыватнасьці, навукоўцы мне падказалі пашукаць здымкі ў горадзенскім архіве.

„Партрэты паўстаньня“ выдадзеныя ўласным коштам у Ракаве, дзе і жыве Язэп Янушкевіч.

## Імёны Свабоды: Каміла Марцінкевіч

22 сакавіка 2014
Уладзімер Арлоў

Няхай даруюць мне знаёмыя вязьні турмы на менскай вуліцы Валадарскага, але, калі я сёньня праходжу паўзь яе муры, найперш згадваю ня іх, сяброў і знаёмых, а зьняволеную тут паўтара стагодзьдзя таму Камілу Марцінкевіч.

Увесну 1863 году ўвагу сьледчых судовага аддзяленьня Віленскай вайсковай акругі прыцягнуў групавы здымак, знойдзены прыператрусе кватэры-атэлье менскага фатографа Антона Прушынскага, падазраванага ў сувязях з паўстанцамі. Рэч у тым, што чатыры чалавекі на фота былі апранутыя ў чамаркі — адзеньне, якое насілі інсургенты.

Як высьветліла сьледзтва, адзіная жанчына на здымку — дачка „сочинителя“ Дуніна-Марцінкевіча, піяністка і сьпявачка Каміла. (Сам пісьменьнік пазьней быў за падтрымку паўстаньня зьняволены ў Пішчалаўскім замку.)

Выявіўшы бліскучыя музычныя здольнасьці ўжо ў раньнім дзяцінстве, яна з васьмі гадоў канцэртавала ў Менску, Вільні, Кіеве, Варшаве... У праграмах звычайна гучала музыка яе ўлюбёных Шапэна й Ліста і ўласныя творы. Не бяз посьпеху яна выходзіла на сцэну й як акторка — у тым ліку падчас паказу ў Менску славутай опэры „Сялянка“ („Ідылія“), музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка, а лібрэта — бацька Камілы. Але гэтая артыстычная натура мела й іншае жыцьцё.

У 1861-м яе салён стаў месцам сходаў менскай арганізацыі патрыятычнага Літоўскага камітэту, які рыхтаваў вызвольнае паўстаньне. Неўзабаве Каміла, якая таксама належала да нелегалаў, была арыштаваная за ўдзел у антырасейскіх маніфэстацыях і зьмешчаная ў вар'ятню. Пратэсты менчукоў, якія дзень пры дні прыносілі да сьценаў лякарні букеты кветак, змусілі ўлады вызваліць патрыётку. Аднак у лютым 1863-га яе зноў узялі пад варту. Падставай быў данос расейскага салдата, да якога Каміла зьвярнулася з просьбай прадаць зброю.

Яе трымалі ў зьняволеньні ў Пішчалаўскім замку, вядомым сёньня як Валадарка, а потым у былым кляштары бэрнардынаў. Там яна атрымлівала лісты з прызнаньнямі ў каханьні ад аднаго з кіраўнікоў менскай паўстанцкай арганізацыі Караля Станкевіча, што таксама трапіў за краты.

Далейшы лёс Камілы вырашыў учынак, які яскрава сьведчыць пра яе непахісны дух. У жніўні 1863 году з акна сваёй камэры яна кінула кветкі пад ногі паўстанцу Яну Жмачынскаму, якога вялі на сьмяротнае пакараньне. Адказам уладаў стала высылка дваццаціпяцігадовай Камілы Марцінкевіч пад паліцэйскі нагляд у горад Салікамск. Яна зма-

гла вярнуцца толькі праз дваццаць гадоў — каб убачыць зямлю юнацтва і знайсьці ў ёй вечны супакой.

Ці шкадавала яна пра той момант, калі яе рука кідала праз краты букет асуджанаму на сьмерць інсургенту?

Каміла Марцінкевіч (у замужжы Асіповіч). 4.12.1832, Менск — 1900, Вільня. Пахаваная на віленскіх Бэрнардынскіх могілках.

## У Вільні ўшанавалі памяць Кастуся Каліноўскага

22 сакавіка 2014

22 сакавіка на Лукіскім пляцы Вільні, у дзень, калі 150 гадоў таму быў пакараны сьмерцю нацыянальны герой Беларусі Кастусь Каліноўскі, сабралася каля трохсот чалавек з кветкамі, сьвечкамі, сьцягамі Беларусі, Літвы і Украіны.

Зь Менску прыехалі два аўтобусы пілігрымаў, адзін аўтобус — з Польшчы, прыйшло нямала літоўцаў і ўкраінцаў.

Раніцай у Базыльянскім і Дамініканскім саборах Вільні прайшла імша памяці Кастуся Каліноўскага, якая закончылася выкананьнем гімну „Магутны Божа“ і шэсьцем зь бел-чырвона-белымі сьцягамі па віленскіх вуліцах.

На Лукіскім пляцы маніфэстантаў чакалі літоўцы, у іх ліку знаныя палітыкі Вітаўтас Ландсбергіс і Эмануэліс Зінгерыс.

Мітынг адкрыў адзін з найстарэйшых беларусаў Вільні Хведар Нюнька, якому ўжо 85. Ён паведаміў, што ўрад Літвы прыслухаўся да просьбаў беларусаў

і пастанавіў падчас рэканструкцыі Лукіскага пляцу захаваць крыж і пліту Каліноўскага.

Вітаўтас Ландсбергіс сказаў, што ён добра разумее беларускую мову іншых выступоўцаў, і хоць сам гаварыць на ей ня можа, затое ўмеў ягоны бацька, які дэклямаваў „Дудку беларускую“:

— Каліноўскі — сьвяты чалавек, герой Літвы й Беларусі. Наколькі ён дарагі беларусам, настолькі дарагі й літоўцам... Цяпер найбольшая падтрымка патрэбная ўкраінскаму народу. Украіна павінна вытрымаць націск імпэрыі, супраць якой змагаўся Кастусь Каліноўскі. І перамога Ўкраіны будзе дабром для Беларусі, — сказаў Ландсбергіс.

Прадстаўнік кіеўскага Майдану, малады хлопец Астап Вакалюк зазначыў:

— Міхаіл Жызьнеўскі — герой ня толькі Ўкраіны й Беларусі, бо ён змагаўся і загінуў за волю ў 26 гадоў, як і Кастусь Каліноўскі.

Ушанаваньне памяці Каліноўскага завяршылася канцэртам-рэквіемам у актавай залі Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту.

## Горкі: Кветкі на магілу паўстанца

26 сакавіка 2014

У Горках ня ўсе, хто прыйшоў да акадэмічнага дэндрапарку, змаглі наведаць магілу забітага ў 1863 годзе Войцеха Дамарацкага.

Брама ў парк была замкнёная. Некалькі чалавек пералезьлі праз агароджу і ўсклалі кветкі на магілу ўдзельніка вайсковай апэрацыі, у выніку якой Горкі былі захопленыя паўстанцамі-каліноўцамі.

Традыцыйна на Дзень Волі на магілу Дамарацкага прыходзяць актывісты грамадзкіх суполак, журналісты ды проста неабыякавыя да гісторыі свайго краю жыхары райцэнтру.

„Звычайна мы зьвяртаемся да адміністрацыі сельгасакадэміі, каб нам дазволілі прайсьці ў парк на магілу, але апошнія гады нашы просьбы ігнаруюць. Таму гэтым разам мы нікога не прасілі, хоць спадзяваліся, што брама будзе адамкнёная, — зазначае горацкая журналістка Галіна Будная. — Нас усьцешыла, што, са слоў тых, хто пабываў на магіле, на ёй ляжалі ўжо кветкі. Значыць, традыцыя наведваць магілу Дамарацкага падтрымліваецца без наўмыснай арганізацыі.

24 красавіка 1863 году ў Горкі ўвайшоў атрад Людвіга Зьвяждоўскага, паплечніка Кастуся Каліноўскага. Было абвешчана, што ў мястэчку ўсталёўваецца народная ўлада. Паўстанцаў падтрымалі студэнты мясцовага Земляробчага інстытуту. У ваеннай сутычцы з расейскімі войскамі ў Горках і загінуў студэнт інстытуту Войцех Дамарацкі.

## Янушкевіч: Паплечнікі Каліноўскага бачылі ў Расеі ворага

28 сакавіка 2014
Міхась Скобла

Госьць „Вольнай студыі“ — адзін з укладальнікаў альбому „Партрэты паўстаньня“ літаратуразнавец Язэп Янушкевіч.

**Скобла**: Язэп, адкуль ты браў здымкі для фотаальбому?

**Янушкевіч**: Здымкі адшукваліся ў беларускіх архівах, а таксама ў Польшчы і Літве. Выкарыстаныя таксама фота з выданьняў успамінаў украінскіх удзельнікаў паўстаньня, а таксама паўстанцаў з Інфлянтаў і Прыбалтыкі. Гэтым самым мне хацелася паказаць больш шырокі абсяг паўстаньня, паколькі нашымі паплечнікамі ў супольным змаганьні з расейскім царызмам выступалі і іншыя паняволеныя народы.

**Скобла**: Найлепшым знаўцам Паўстаньня 1863 году ў нас лічыўся сьветлай памяці Генадзь Кісялёў. Мне здавалася, што ўсіх паўстанцаў ён ведаў у твар. Ці ёсьць у вашым альбоме асобы, пра якіх і Кісялёў ня ведаў?

**Янушкевіч**: Вось выява маладзенькага паўстанца Паўлюка Барэйшы, які загінуў пад Малагошчай у Польшчы 24 лютага 1863 году. Загінуў 19-гадовым. Прозьвішча Барэйша нам нічога ня кажа, а гэта быў праўнук славутага Тадэвуша Рэйтана! Так гінуў квет нашай нацыі. На здымку мы бачым, што юнак падперазаны слуцкім пасам. Пасы кармазынавага колеру насілі падчас вайны, а чорнага — на знак жалобы. А на суседнім здымку на руках у паўстанца Бацяна — ягоны сынок. Так і прыгадваецца тагачасная дражнілка, якою дзеці даймалі расейскіх казакоў: „Пачакайце, сена пакасілі — атава нарасьце“. А на гэтым здымку — Багуслаў Семірадзкі, менскі шляхціч, лекар, які ўзначальваў Менскую паўстанцкую арганізацыю пасьля таго, як быў арыштаваны Пятро Чакатоўскі. Дарэчы, менская арганізацыя не была выкрытая поўнасьцю, нягледзячы на намаганьні Мураўёва і дасьведчанага палкоўніка Лосева. Зь Семірадзкім здарылася трагедыя. Калі праз год нехта з паўстанцаў на допытах усё ж на-

зваў яго прозьвішча, ён быў выкліканы на новае дазнаньне ў Вільню. І па дарозе, баючыся катаваньняў, ня будучы ўпэўненым, што іх вытрымае, ён атруціўся... І зусім сэнсацыйным мне бачыцца здымак шляхцянкі Ванды Беліковіч. На адвароце можна прачытаць: „Помещица Ванда Беликович Витебской губернии. Карточка найдена в гробу ея мужа. Заплатила штраф 300 рублей“. Такія сюжэты расказваюць нам звычайныя фотаздымкі! Нават па іх відно, якая палітыка задушэньня праводзілася на нашых землях, калі за фота, пакладзенае роднаму чалавеку ў труну, трэба было заплаціць штраф, роўны гадавому заробку турэмнага наглядчыка!

**Скобла**: Дзякуючы вядомай балядзе Адама Міцкевіча „Сьмерць палкоўніка“ мы ведаем пра гераіню Паўстаньня 1830 году — Эмілію Плятэр. А вось жанчыны ў Паўстаньні 1863 году — тэма, як мне здаецца, нечапаная. У альбоме я бачу здымкі цэлых сем'яў — хто яны?

**Янушкевіч**: Беларускія жанчыны ў тыя часы былі куды больш патрыятычна настроеныя за мужчынскую палову. З фотаздымкаў, якія ёсьць, магу адзначыць сям'ю Далеўскіх. Мураўёўскі тэрор закрануў зь дзясятак прадстаўнікоў гэтай сям'і, найвядомейшым сярод якіх ёсьць Ціт Далеўскі — паплечнік Каліноўскага, пазьней расстраляны. Ягоныя браты — Францішак і Алесь — двойчы зьведалі выгнаньне ў Сібір... Двойчы ссылалася і сям'я Булгакаў. У альбоме ёсьць і рарытэтныя адбіткі жанчынаў Сьвентарэцкіх — Алімпіі і яе дачкі Юзэфы. Іх фотаадбіткі, набытыя нядаўна польскай Дзяржаўнай бібліятэкай у Варшаве, зьяўляюцца самымі раньнімі фота ў Польшчы, гэта значыць, паходзяць недзе з 1851 году. І яшчэ шэраг жаночых

abліччаў у жалобных строях можна знайсьці ў гэтым фотаальбоме.

**Скобла**: Да нядаўняга часу былі вядомыя два фотаздымкі Кастуся Каліноўскага. Найвядомейшы зь іх належыць Ахілу Банольдзі. Але нядаўна гісторык Вольга Гарбачова апублікавала трэці здымак. Але яго чамусьці няма ў тваім альбоме.

**Янушкевіч**: Здымак, пра які ты гаворыш, не атрыбуяваны. Я не хацеў падаваць яго як выяву безыменнага паўстанца, у мяне і так хапала атрыбуяваных адбіткаў касінераў-інсургентаў. Я пакінуў гэтую справу да другога выданьня. Згаданы здымак разам з двума іншымі дакладна вядомымі адбіткамі правадыра паўстаньня здадзены мною ў Цэнтар крыміналягічнай экспэртызы на вуліцы Валадарскага. Мне паабяцана, што цягам месяца будзе прафэсійны адказ на гэтае пытаньне — Каліноўскі на здымку ці не.

**Скобла**: Чытаючы „Мужыцкую праўду", бачыш, наколькі актуальнымі для нас зьяўляюцца словы Каліноўскага, напісаныя 150 гадоў таму: „Ад маскаля няма чаго дабра спадзявацца; маскаль хітры, урад маскоўскі нас дурманіць; бясьпечнасьці пад маскалём ніякай няма; жыцьцё пад маскалём — горкая доля; паспрыяеш маскалю — саграшыш перад Богам; з усіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку аб сваім брацтве з намі, але брацтва там нямнога знойдзеш". Як сёньня можна расцаніць гэтыя выказваньні?

**Янушкевіч**: Словы Каліноўскага заўсёды былі для нас актуальныя, асабліва цягам апошніх двух стагодзьдзяў. Праўда, расейскі імпэрскі шавінізм за савецкім часам быў закамуфляваны, апрануты ў авечую шкуру. Нас выхоўвалі на панятках ні-

быта „інтэрнацыяналізму“. Ацэнкі Каліноўскага былі вельмі пашыраныя ў ягоны час. Гэта відаць, скажам, па ўспамінах Якуба Гейштара, Апалінара Сьвентарэцкага, Вандаліна Чэрніка. Сучасьнікі і паплечнікі Каліноўскага адназначна бачылі ў імпэрскай Расеі ворага. Яны нават акрэсьлілі, што ў бліжэйшае стагодзьдзе яна ня зможа стаць нам паплечніцай ці сардэчнай апякункай. Бо вельмі шмат крыві ўжо тады пралілося. І ня бачна разуменьня і жаданьня з расейскага боку спыніць гэтую кроў.

**Скобла**: 128 удзельнікаў паўстаньня былі пакараныя сьмерцю. Больш за 12 000 саслана ў Сібір. А дастаткова было напісаць прашэньне бацюхну-цару... Што ўсё ж змушала паўстанцаў ісьці з высока ўзьнятай галавой да канца?

**Янушкевіч**: Так, паўстанцам часта прапаноўвалася — падпішы вернападданьніцкі адрас цару Аляксандру II, і ты будзеш ахінуты ягонай ласкай. Аднак паўстанцы разумелі, што духоўная здрада Радзіме ляжа грахом на наступныя пакаленьні. Уся былая веліч ВКЛ, усё змаганьне цягам стагодзьдзяў, уся вялікая культура, якая здолела паўстаць тут ад Дняпра і да Буга, усе кніжныя выданьні, азораныя сьвятлом Скарыны, сьведчылі пра тое, што ў канцы XVIII-га і ў XIX стагодзьдзі на нашыя землі прыйшла цемра. Паўстаньне 1863 году было апошнім моцным узброеным супрацівам. І мы павінны памятаць тых, хто змагаўся зь цемрай. Калі я працаваў у архівах, кожны здымак грукаў мне ў сэрца, у душу з адзінай просьбай: не пакідай мяне ў архіўнай немаце! Відаць, з гэтага пачуцьця выніклі і словы вялікага Адама Міцкевіча, якія я паставіў эпіграфам да фотаальбому: „Калі я забудуся пра іх на зямлі, ты, Божа, забудзься пра мяне на небе“.

## У Лёндане адбылася найбуйнейшая беларуская навуковая падзея апошніх дзесяцігодзьдзяў

29 сакавіка 2014

27–29 сакавіка ў Лёндане адбылася навуковая канфэрэнцыя „Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі“.

Канфэрэнцыю арганізавалі найстарэйшыя беларускія арганізацыі Вялікабрытаніі — Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі і Англа-беларускае таварыства. Партнэрамі канфэрэнцыі выступілі Ўнівэрсытэцкі коледж Лёндану, „Часопіс беларускіх дасьледаваньняў“, Амбасада Літоўскай рэспублікі, „Belarus Digest“, Цэнтар пераходных дасьледаваньняў і Прафэсійная асацыяцыя беларусаў Брытаніі.

Падзея пачалася з малітвы за беларускі народ, якую адслужыў айцец Аляксандар Надсан. У сваім вітальным слове ён адзначыў важную сымбалічную ролю Кастуся Каліноўскага і Дня Волі ў кантэксьце сучасных падзеяў у Эўропе. Айцец Аляксандар правёў экскурсію па беларускай Скарынаўскай бібліятэцы і музэі.

Удзельнікаў прывіталі сябры аргкамітэту канфэрэнцыі — Караліна Мацкевіч, Джым Дынглі і Яраслаў Крывой. Ад Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі выступіў Мікалай Пачкаеў.

28 сакавіка асноўная частка канфэрэнцыі сабрала блізу 50 удзельнікаў ва Ўнівэрсытэцкім коледжы Лёндану. Навукоўцы зь Беларусі, Польшчы, Літвы і Вялікай Брытаніі прадставілі больш за 15 дакладаў, зьвязаных з гістарычнымі, літаратурнымі і палітычнымі аспэктамі спадчыны Кастуся Каліноўскага.

Зь вітальным словам па-беларуску перад удзельнікамі выступіла амбасадарка Літоўскай Рэспублікі ў Лёндане Аста Скайсгірайце-Ляўшкене, а таксама былы амбасадар Вялікай Брытаніі ў Беларусі і цяперашні старшыня Англа-беларускага таварыства Браен Бэнэт.

Увечары адбылося адкрыцьцё выставы „Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка“ ў галоўным будынку Ўнівэрсытэцкага коледжу Лёндану, арганізаванай Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэтам.

29 сакавіка пасьля акадэмічнай часткі канфэрэнцыі ўдзельнікі далучыліся да сьвяткаваньня Дня Волі ў Беларускім доме, якое суправаджалася фотавыставай, прысьвечанай паўстаньню Кастуся Каліноўскага.

Канфэрэнцыя сталася найбуйнейшай акадэмічнай падзеяй, прысьвечанай Беларусі, у Вялікай Брытаніі за апошнія дзесяцігодзьдзі. Па выніках канфэрэнцыі плянуецца выданьне спэцыяльнага нумару „Часопісу беларускіх дасьледаваньняў“ на ангельскай і беларускай мовах.

## Схаваны мэмарыял паўстанцам на Сьвятым балоце

22 красавіка 2014
Міхал Карневіч

У вандроўку па мясьцінах паўстанцаў 1863 году мяне запрасіў мясцовы краязнаўца Ўладзімер Трахімчык. Ён затэлефанаваў і проста нагадаў, што 22 красавіка 1863 году на Сьвятым балоце паміж

Азёрамі і Берштамі на Горадзеншчыне адбыўся бой паўстанцаў з царскімі войскамі, дзе амаль усе касінеры загінулі.

Мы едзем шашою з Азёраў на Астрыну і збочваем улева ў лес, а яшчэ праз якія паўкілямэтра пачынаецца балота. Праўда, гэта ўжо балота, праз якое праходзіць гравейка, паабапал — арашальныя каналы савецкага часу. І сапраўды, ад Азёраў гэта не далей за 8 кілямэтраў, а дарогу амаль ніхто ня ведае. Сьвятое балота лічыцца цяпер ляндшафтным заказьнікам.

Трахімчык узгадвае, што яшчэ ў ягоным дзяцінстве тут нельга было прайсьці з-за багны, а цяпер па балоце езьдзяць паляўнічыя і рыбакі. Ён таксама ўзгадвае, што бальшавікі на мапах зьмянілі назву балота і яно пазначалася як Сьветлае. Але ў часы, калі Беларусь аднавіла незалежнасьць, вярнулася і гістарычная назва — Сьвятое балота.

Мы пакінулі машыну і прабіраемся праз густы хмызьняк. Але пад нагамі суха — можна спакойна ісьці ў красоўках. Трахімчык:

— А ў часы паўстаньня тут было прайсьці значна складаней, бо тут было сапраўднае балота. У міжваенны час у гэтыя мясьціны да дуба прыяжджала шмат людзей ушанаваць памяць паўстанцаў. І людзі ішлі па адмысловых драўляных кладках.

Урэшце Трахімчык паказвае павалены і даўно высахлы стары дуб, а побач агароджаны маладзенькі. Надпіс, зроблены па-беларуску і па-польску, сьведчыць, што на гэтым месцы 22 красавіка 1863 году адбыўся бой паміж паўстанцамі і царскімі войскамі. Трахімчык распавядае, што паўстанцы невыпадкова акапаліся тут, бо мясьціны былі непраходныя.

Паўстанцы занялі выгадныя пазыцыі на гары, аточаныя вакол непрыступнаю багнаю. Але на 136 касінераў пад кіраўніцтвам палкоўніка Лянкевіча было толькі 25 стрэльбаў, а супраць іх — дзьве роты ўзброенай пяхоты і 30 казакоў. Распавядае Ўладзімер Трахімчык:

— Стаяў туман, бой адбываўся раніцай, стралялі адзін у аднаго толькі па ўспышках ад стрэлаў праціўніка. Царскія войскі панесьлі вялікія страты і нават часткова адступілі. Але сілы былі няроўныя, і амаль усе паўстанцы загінулі.

Пасьля гэтага балота і атрымала назву — Сьвятое. Трахімчык з жалем дадае, што зьвестак пра паўстанцаў зусім мала. Ён кажа, што большасьць зь іх пахавалі на могілках у Азёрах, там нават ёсьць крыжы ў гонар паўстанцаў, толькі вось прозьвішчаў няма.

Гэты дуб і месца бітвы паўстанцаў Трахімчык адшукаў тры гады таму дзякуючы аповеду мясцовага старажыла Сяргея Хоха, які, на жаль, летась памёр. З дапамогай грамадзкіх актывістаў зь беларускіх і польскіх арганізацыяў на месцы зваленага старога дуба пасадзілі маладзенькі, а трохі воддаль, на месцы старога крыжа, усталявалі новы. Кажа Ўладзімер Трахімчык:

— Адзін з тых, хто ўсталёўваў гэты крыж, сказаў, што гэта самая значная акцыя ў ягоным жыцьці. Ягоны прадзед таксама быў удзельнікам гэтага паўстаньня, родам з Ішчолна — ён тут загінуў. Памятаю, як ён стаяў тут са сьлязьмі на вачах і паўтараў, што самае лепшае, што мог зрабіць для свайго дзеда — усталяваў гэты крыж.

Летась дзеля інтарэсаў торфабрыкетнага заводу ў Верцялішках Горадзенскага раёну ўлады рас-

працавалі пляны торфараспрацоўкі 250 гектараў ляндшафтнага заказьніку „Азёры“, у які ўваходзіць і Сьвятое балота. На адкрытых слуханьнях эколягі і грамадзкасьць рэзка выступілі супраць гэткіх дзеяньняў.

## У Сьвіслачы ўшанавалі памяць паўстанцаў Каліноўскага, а таксама мясцовага актывіста

26 кастрычніка 2014

Сёлета разам з паўстанцамі ўдзельнікі ўшаноўвалі памяць актывіста са Сьвіслачы Віктара Дзясяціка, якога пахавалі недалёка ад магілы Віктара Каліноўскага. Віктар раптоўна памёр на 56-м годзе ад інсульту. Ён кожны год разам зь іншымі сьвіслацкімі актывістамі рыхтаваў традыцыйны фэст памяці.

Горадзенскі праваабаронца Ўладзімер Хільмановіч, які штогод прыяжджае ў Сьвіслач, сказаў, што такім чынам ўрачыстасьці адбыліся ўпершыню:

— Такі сьветлы дзень, сонечна, але разам з тым гэта і самы смутны дзень за ўсю гісторыю, паколькі аднаго з арганізатараў гэтага фэсту мы сёньня правялі разам зь сябрамі, блізкімі, жыхарамі Сьвіслачы ў апошні шлях.

Увесь час ад могілак у Сьвіслачы да сканчэньня мерапрыемства ў Якушоўцы прысутнічалі людзі ў цывільным і міліцэйскі апэратар усё фільмаваў на камэру.

## Новы фільм пра паўстаньне Каліноўскага

4 лістапада 2014

У памяшканьні „Арт Сядзібы“ прайшла прэзэнтацыя дакумэнтальнага фільму „Шляхам паўстанцаў“. Радыё Свабода паразмаўляла з рэжысэрам фільму Паўлам Доўнарам.

— Павал, фільмы пра Кастуся Каліноўскага ўжо здымалі і раней. У чым адметнасьць вашага новага фільму?

— Унікальнасьць у тым, што гэта абсалютна беларусацэнтрычны фільм. Не савецкі, ня польскі, ня погляд сучаснага беларускага кіраўніцтва, якое беларускае толькі калі гэта выгадна. Прычым наш беларусацэнтрычны погляд на падзеі — гэта выключна факты, якімі апэруюць вядомыя гісторыкі і пісьменьнікі, як Уладзімер Арлоў, Адам Мальдзіс, Алесь Смалянчук, Алесь Краўцэвіч, якія дасьледавалі гэтую тэму. Яны зьняліся ў нашым фільме.

## Бачыў сьцяг? Штраф!

26 лістапада 2014
Сяргей Астраўцоў

Пабываць у нашым судзе пасьля працяглага перапынку азначае атрымаць сьвежыя незабыўныя ўражаньні. Судзяць за братоў Каліноўскіх.

Зь іхнай радзімы прыбылі два маладыя міліцыянты, маёр і капітан, у абодвух ад зубоў адскокваюць зьвесткі пра герояў антыцарскага паўстаньня. Грамадзкае сьвята, прысьвечанае паўстанцам, у

Сьвіслачы дваццаць гадоў праводзіцца. Міліцыянтам было, калі ўсё пачыналася, наколькі запомніў, дзесяць гадоў і восем. Калі яны мясцовыя, то ўсё адбывалася ў іх на вачах, яны гадаваліся і сталелі пад воклічы „Жыве Беларусь!“.

Нібы спрактыкаваныя экскурсаводы, міліцыянты па чарзе праводзяць у судзе завочную экскурсію. Прысутныя чуюць, як удзельнікі „сьвяточнага мерапрыемства, прымеркаванага да 151-й гадавіны паўстаньня Каліноўскага“ (як сказана ў пратаколе) каля магілы Віктара Каліноўскага на праваслаўных могілках „ушанавалі яго памяць“, гэта ўжо словы міліцэйскага афіцэра. Затым людзі кіруюцца да помніка брату — Кастусю, пасьля якога наведваюць помнік „Рамуальду Траўгуту — таксама кіраўніку паўстаньня“, пасьля чаго сядаюць у машыны, каб трапіць у Якушоўку — „сямейную сядзібу Каліноўскіх“. Усё граматна, амаль зь піетэтам. Мне няцяжка ўявіць, што капітан з маёрам, напрыклад, праводзяць экскурсію для сваіх гарадзенскіх або, няхай, нават менскіх калегаў: сваю гісторыю і сваіх герояў ведаць нікому не зашкодзіць!

Але я перамагаю летуценьні: міліцыянты тут выступаюць сьведкамі, якім усё да дробязі вядома пра тое, як браты Каліноўскія з Траўгутам пастаянна прыцягваюць да сябе „несанкцыянаваныя акцыі“. Чаму менавіта несанкцыянаваныя? Таму што „заявак у мясцовы выканкам ніхто не падаваў“ — вось даведка. І, аказваецца, ушаноўваць памяць герояў — заганна, „правапарушыцельна“. Чаму? Глядзі вышэй: даведка, што заяўкі не паступала. І ўсіх парушальнікаў „пратакольна“ дзеляць на дзьве катэгорыі. Адны каля помнікаў у Сьвіслачы і „каля помніка крыжу“ ў Якушоўцы „расказвалі

пра паўстаньне“, заканчваючы выступ воклічам „Жыве Беларусь!“, іншыя адказвалі „Жыве!“. У пратаколе ўсё да драбніцы, і сьведкі пераказваюць спрактыкавана. Адны трымалі бел-чырвона-белы сьцяг, іншыя — „фатаграфаваліся на яго фоне“, гэта міліцыянты паведамлялі суду некалькі разоў.

І вось гэтае „фатаграфаваўся на фоне сьцяга“ спакваля выходзіць на першы плян. Бо іншага парушэньня сфармуляваць нейк не выходзіць. Тыя, каго судзяць, зьвяртаюцца з пытаньнямі да міліцэйскіх сьведак. Калі ня браць здымак на фоне сьцяга, што парушылі рэальна, якімі сваімі дзеяньнямі? Патлумачце, калі ласка. Адзін са сьведак знаходзіць выйсьце: „Вы хадзілі ў групе“. А ў пратаколе знаходзіцца яшчэ мацнейшая абвінаваўчая фармулёўка — „у складзе арганізаванай групы ў памятных месцах г. Сьвіслач фатаграфаваліся на фоне сьцяга“.

Прычым у пратаколе з дакладнасьцю да сэкунды называецца — хто і дзе трымаў сьцяг, калі выгукаў „Жыве Беларусь!“, калі яму адказвалі і калі фатаграфаваліся „каля помніка крыжу“. Тут і відэа міліцэйскае ў доказнай базе: адзін з прамоўцаў, нагадваючы пра паўстанцаў, гаворыць, што дзякуючы ім таксама краіна стала нарэшце незалежнай, але неўзабаве забаранілі ўсё беларускае, сымбалі, „забаранілі жыць і думаць па-беларуску“. А наступны несуцяшальна паведамляе: „Яны змагаліся за незалежнасьць, а мы цяпер ня можам нармальна ўшанаваць іх памяць“.

Склалі пратакол і на майго калегу журналіста. Ён рабіў рэпартаж, быў пасланы рэдакцыяй. Рэпартаж, рэдакцыя? — зьдзіўляюцца міліцыянты. Так, пагаджаецца адзін, „сьцяг не трымаў і з прамовай не

выступаў“ але „ў тых самых месцах быў“, толькі што „проста прысутнічаў“. А другі дадае аргумэнтацыі: „Быў разам з усёй групай, слухаў выступы тых, хто выступаў, сьледаваў з усімі“.

А раз „усе былі з усімі“, раз было „фатаграфаваньне на фоне сьцяга“, то суд аштрафаваў усіх, на каго ў Сьвіслачы склалі пратакол. Толькі адным далі павялічаны штраф — 5 мільёнаў 250 тысяч рублёў, а другім на тры мільёны меншы. Прычым апошні, каго судзілі, на фоне сьцяга не фатаграфаваўся, а тым больш „сьцяг не трымаў і воклічаў не выкрыкваў“, што пацьвердзіў міліцыянт. Ну хоць бачыў сьцяг? — пацікавілася судзьдзя. Бачыў, сазнаўся апазыцыянэр. Ну што ж, тады штраф.

## У Ваўкавыску за ўшанаваньне паўстанцаў асудзілі інваліда

4 сьнежня 2014

Грамадзкі актывіст Віталь Гуляк аштрафаваны на 3 мільёны рублёў. Яго зьвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі, што адбылася 26 кастрычніка, падчас якой актывісты з розных гарадоў Беларусі ўшаноўвалі памяць паўстанцаў 1863 году.

Паводле Гуляка, працэс над ім адбываўся ў Ваўкавыскім судзе, супраць яго сьведчылі два міліцыянты са Сьвіслачы. Яны паказалі, што Гуляк не парушаў грамадзкага парадку, не трымаў у руках незарэгістраванай сымболікі і не выступаў, а папросту знаходзіўся сярод іншых удзельнікаў акцыі.

„Абсурд гэта ўсё, ужо колькі чалавек асудзілі, усім кажуць, што не парушалі правапарадку, а

даюць штрафы. Мне яшчэ судзьдзя ўлічыў, што я інвалід і знаходжуся на пэнсіі, то штраф даў толькі 20 мінімалак, хаця ў гэтым годзе па адным і тым самым артыкуле судзяць ужо другі раз“, — падзяліўся ўражаньнямі аштрафаваны.

Сёлета ў сакавіку Віталь Гуляк быў асуджаны за правядзеньне несанкцыянаванага пікету супраць уварваньня расейскіх войскаў ва Ўкраіну.

## Чарговы прысуд за ўшанаваньне памяці паўстанцаў

8 сьнежня 2014

Сябра Аб’яднанай грамадзянскай партыі Ўладзімер Пруднікаў з Горадні пакараны Сьвіслацкім раённым судом штрафам у памеры 10 базавых велічынь — паўтара мільёна рублёў.

Пруднікаў даводзіў суду, што складзены на яго пратакол за наведаньне памятных мясьцінаў, зьвязаных з паўстанцамі 1863 году, — гэта парушэньне яго грамадзянскіх правоў. Але суд гэтага да ўвагі не прыняў.

## Алесь Мех запрасіў судзьдзяў ушанаваць паўстанцаў у Сьвіслачы

11 сьнежня 2014

Суд Кобрынскага раёну пакараў штрафам у 10 базавых велічынь (1,5 мільёна рублёў) грамадзкага актывіста Алеся Меха за ўдзел ва ўшанаваньні

паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Сьвіслачы. Ушанаваньне памяці паўстанцаў кобрынскі судзьдзя Пётар Цімашэнка палічыў несанкцыянаванай масавай акцыяй.

## За ўшанаваньне паўстанцаў Каліноўскага штраф Дзьмітрыеву

15 сьнежня 2014

Сьвіслацкі раённы суд аштрафаваў сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Канстанціна Дзьмітрыева на 10 базавых велічыняў (паўтара мільёна рублёў) за ўдзел ва ўшанаваньні паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Сьвіслачы. Суд настаяў на прысутнасьці актывіста ў судзе, і ён быў вымушаны ехаць зь Менску ў Сьвіслач.

## Судовы канвэер у Сьвіслачы

16 сьнежня 2014

Сёньня ў Сьвіслачы аштрафавалі на 3 мільёны 750 тысяч рублёў кіраўніцу абласной арганізацыі АГП Аляксандру Васілевіч. Таксама сёньня абласны суд адхіліў скаргу на рашэньне Ленінскага суду Горадні ў дачыненьні да Ўладзімера Хільмановіча, які таксама быў асуджаны за імпрэзу ў Сьвіслачы.

Хільмановіч патлумачыў, што судзьдзя Алена Пятрова падчас разгляду ягонай справы парушыла заканадаўства аб мовах, пазбавіўшы яго права, каб усе ягоныя паказаньні ў судзе фіксаваліся на

беларускай мове. Хільмановіч прывёў у прыклад некалькі выпадкаў, калі сакратарка ўнесла ў пратакол фразы, якія адвольна пераклала зь беларускай на расейскую мову і якія, паводле Хільмановіча, не адпавядаюць таму, што ён казаў у судзе.

Усе гэтыя довады судзьдзя да ведама не прыняў і абвясьціў, што пакідае рашэньне Ленінскага суду ў дачыненьні да Хільмановіча бязь зьменаў.

На сёньняшні дзень за ўдзел у акцыі ўшанаваньня паўстанцаў 1863 году асуджана 11 чалавек.

## За Каліноўскага аштрафавалі Кастусёва

23 сьнежня 2014

Шклоўскі суд пакараў намесьніка старшыні Партыі БНФ Рыгора Кастусёва на 25 базавых велічыняў (3 мільёны 750 тысяч рублёў) за ўдзел ва ўшанаваньні паўстанцаў Кастуся Каліноўскага. Судзьдзя Сьвятлана Баранчыкава кваліфікавала гэта як несанкцыянаванае масавае мерапрыемства.

Кастусёў стаў дванаццатым удзельнікам акцыі ўшанаваньня каліноўцаў, якога пакаралі штрафам. Амаль усіх актывістаў каралі аднолькава — 25 базавымі велічынямі.

## Як разбуралі помнік паўстанцам Каліноўскага

2 студзеня 2015
Зьміцер Бартосік

90-гадовы старажыл Ільлі Аляксандар Шушкевіч любіць сьпяваць. І для сябе, і для гасьцей. Ведае і беларускія, і расейскія, і польскія песьні. Польскія рамансы пяе шчымліва, са сьлязой. Бо гэта мэлёдыі далёкага дзяцінства. Калі Ільля была зусім іншаю.

— Якое было мястэчка! Поўна яўрэяў, магазыны іхныя. Рамесьнікі — кавалі, шаўцы, краўцы.

Стары любіць разглядаць старыя здымкі Ільлі. Як непадобнае даваеннае мястэчка да сёньняшняга былога райцэнтру!

На месцы страшнага клюба стаяла старая ўніяцкая царква. Перад ёю, дзе сёньня пустка, у 1930 годзе паставілі высачэзную капліцу ў гонар паўстанцаў Каліноўскага, у якой на мармуровых плітах былі выбітыя імёны тых, хто загінуў у баі каля вёскі Ўладыкі.

— А гэтую капліцу збудаваў памешчык Багдановіч. У гонар палеглых за вольнасьць, як было напісана.

Івану Рудніцкаму праз чатыры гады стукне 100. Як гэта заўжды бывае зь беларускімі старажыламі, пасьля 70-ці яны зьнешне амаль не мяняюцца. Іван памятае, як тую капліцу бурылі.

— Прыгажосьць была трохпавярховая! Там унутры была мармуровая дошка, і на ёй залатымі літарамі былі напісаныя прозьвішчы ўсіх паўстанцаў, якія загінулі ва Ўладыках. Помнік стаяў пасьля вайны яшчэ. Дарэмна яго сталінскі рэжым зруйнаваў. Навошта? Хай бы быў. Каму ён замінаў? Красата. Упрыгожваў Ільлю. Хацелі падарваць спачатку. Але навокал дамы, нельга. Дзяўблі доўга. Бэтон быў моцны.

Фантастыка. Я гутару з унукам удзельніка паўстаньня. Справа ў тым, што дзед старога Івана, таксама Іван, быў касьцельным арганістам. І нават хаваў у касьцёле зброю паўстанцаў. Маглі яго і выслаць у Сібір.

Але слухаць ягонага ўнука і крыўдна, і балюча. Бо інфармацыйная вайна генэрала Мураўёва працягваецца дагэтуль.

— У 1861 годзе адменены прыгон. А ў 1863-м памешчыкі зрабілі паўстаньне супраць цара. Ім, напэўна, не спадабалася. Яны ж былі поўныя гаспадары. Яны і судзьдзі былі, што хацелі, тое і рабілі. І каля вёскі Ўладыкі быў паўстанцкі лягер. А якія ў іх стрэльбы? Дубальтоўкі. І паслалі аднаго мужыка па піва. А гэты мужык — у жандармэрыю. НКВД тады ж не было. Далі ўзвод салдат. Ён і павёў іх праз лес. А салдаты ж усе зь вінтоўкамі. Усіх іх там пабілі, паўстанцаў. Ніводнага салдата нават не паранілі. Некаторыя праз рэчку спрабавалі плыць, усё роўна пабілі. Памешчыкаў. Затым жандармэрыя знайшла ў касьцёле зброю. Напэўна, паўстанцы здавалі на захаваньне. І майго дзеда вырашылі ў Сібір саслаць. У яго вялікая сям’я была. І сказалі — альбо прымай праваслаўе, альбо ў Сібір. І ён прыняў праваслаўе. І так мы сталі праваслаўнымі.

Я стаю на месцы той грандыёзнай капліцы ў кампаніі з Уладзімерам Кажамякам, краязнаўцам, які ведае пра Ільлю як ніхто.

— Як разбуралі капліцу, мне расказвалі. У 50-я гады прызыўнікоў, якіх у ваенкамат прызывалі, дык ім давалі заданьне. Зь сякерамі, з кувалдамі, з зубіламі. Бо вельмі быў якасны бэтон, не паддаваўся ручной апрацоўцы. Але тыя прызыўнікі ўсё паразбуралі і зьнішчылі. Каб цяпер гэты помнік стаяў, гэта было б упрыгожаньне Ільлі. А ўнутры пліты з прозьвішчамі тых, хто пахаваны ва Ўладыках. Пліты тыя разьбілі. Нехта казаў мне, што сьмецьце часткова некуды вывозілі, часткова ў раку скідалі. Дзе гэтыя пліты?

Ня выключана, што частка плітаў з імёнамі паўстанцаў да гэтае пары ляжыць на дне мясцовай рэчкі. Тамсама, дзе і зрынуты бюст Сталіна. Галоўную плошчу ачысьцілі ад камуністычных помнікаў. Сталіна скінулі ў раку, а Ленін пераехаў да мясцовай школы.

Каб не прападаць дабру.

## Назвалі „Чэмпіёнаў грамадзянскай супольнасьці“

13 студзеня 2015

Асамблея няўрадавых арганізацыяў 13 студзеня назвала пераможцаў прэміі „Чэмпіёны грамадзянскай супольнасьці“ 2014 году.

У намінацыі „Рэгіянальная падзея году“ першае месца атрымаў Дзень памяці паўстанцаў 1863 году ў Сьвіслачы.

## Генадзь Кісялёў, паўстанец 1863 году

11 лютага 2015
Уладзімер Арлоў

Дзьве кнігі асьвятлялі мой шлях у нацыянальны космас — раман „Каласы пад сярпом тваім“ Уладзімера Караткевіча і томік гістарычных нарысаў „З думай пра Беларусь“ Генадзя Кісялёва.

Насупор унівэрсытэцкім падручнікам і лекцыям на нашым гістфаку БДУ гэтыя шчасьліва адкрытыя мною кнігі сьцьвярджалі крамолу: гісторыю робіць не народ, а — асобы. І калі ў Караткевіча гэта былі літаратурныя пэрсанажы, якія пакуль дарасталі да сваіх будучых дзеяў, то са старонак Кісялёва да нас прыходзілі рэальныя героі — з адрасамі, імёнамі, мянушкамі. Іх партрэты хацелася павесіць над сваім ложкам у інтэрнацкім пакоі.

Для мяне было вялікай нечаканкаю даведацца, што Генадзь Кісялёў нарадзіўся не ў Беларусі, а ў падмаскоўнай Каломне, і што ягоны бацька-расеец амаль усё жыцьцё служыў у органах дзяржбясьпекі. Дарэчы, гэтыя магутныя аргумэнты ня раз выкарыстоўвалі рэдактары кніг Кісялёва, каб абараніць аўтара ад абвінавачаньняў у нацыяналізьме. Тое, што Генадзь Васілевіч атрымаў дыплём Маскоўскага гісторыка-архіўнага інстытуту (у 1953 годзе, пазначаным у савецкім календары сьмерцю Сталіна), было аргумэнтам слабейшым, бо гісторыкі і літаратуразнаўцы з вайсковымі званьнямі ведалі гэтую навучальную ўстанову як „рассаднік вальнадумства“.

Каб ураўнаважыць згаданы факт, нехта запусьціў думку, што Кісялёва накіравалі з Масквы

менавіта ў Вільню, каб дапамагчы літоўскім таварышам пераадолець ідэалягічныя хістаньні. Мне думаецца, на выбар месца працы найперш паўплываў сам выпускнік: сказалі сваё слова і беларускія карані маці-віцяблянкі, і тое, што ўжо ў віцебскай сярэдняй школе, якую пасьля вайны скончыў Генадзь, ён захапіўся гісторыяй Беларусі. Але як бы там ні было, а паўтара дзесяцігодзьдзя, праведзеныя Кісялёвым на пасадзе супрацоўніка Дзяржаўнага гістарычнага архіву Літвы, сталася для беларускай гісторыі і літаратуразнаўства шчасьцем. Сама атмасфэра нашай старажытнай сталіцы і яе архіўныя скарбы, памножаныя на магутны талент і апантанасьць сваёй справаю, зрабілі Генадзя Кісялёва яшчэ да пераезду ў 1971-м у Менск выдатнай постацьцю айчыннай навукі і культуры.

Наступнай сустрэчаю з Кісялёвым — зноў вяртаюся ў гады юнацтва — былі выдадзеныя да 100-годзьдзя паўстаньня Каліноўскага „Сейбіты вечнага“, першая кніга майго ўжо ўлюбёнага аўтара. Яна чыталася, быццам гістарычны раман: „1863 году 7 сакавіка наглядчык за арыштантамі ў Пабэрнардынскім будынку жандарскі унтэр-афіцэр Скараходаў падаў у сьледчую камісію белую насавую хустачку, прынесеную з абедам арыштаванаму Каралю Станкевічу (адзін з галоўных дзеячоў нелегальнай менскай паўстанцкай арганізацыі). На хустачцы было напісана алоўкам выяўленьне нязьменнай любові да яго Каміліі Марцінкевіч, якая ўтрымліваецца ў астрозе, вядомая сваім дзёрзкім характарам і адкрыта выказвала свае рэвалюцыйныя ідэі. Пастанавілі: для падтрыманьня далейшай перапіскі, якая можа выкрыць некаторыя акалічнасьці, загадаць Скараходаву перадаць хустачку Станкевічу“.

На пачатку 1990-х Генадзь Кісялёў прынёс да нас у выдавецтва „Мастацкая літаратура“ дзьве важкія тэчкі, на якіх было напісана: „Кастусь Каліноўскі“ — яго публікацыі, лісты, дакумэнты паўстаньня, сьведчаньні сучасьнікаў. Я разьвязаў тасёмкі і прачытаў эпіграф:

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь.

— То ўзаемна!

Пароль паўстанцаў 1863 году.

Ды неўзабаве над краінаю падзьмулі іншыя вятры.

Рэдакцыю разагналі, і загадам палкоўніка, што быў кінуты кіраваць нашым міністэрствам (на тым сьвеце палкоўнікі Лосеў і Шалгуноў разам з Мураўёвым задаволена пацерлі рукі), я ў кампаніі аднадумцаў быў звольнены з выдавецтва „за выпуск исторической и другой сомнительной литературы“.

На вялікае шчасьце тыя дзьве тэчкі не загінулі і ў 1999-м папоўнілі „Беларускі кнігазбор“ зялёным томам „Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасьць“. Тут чарговы раз на ўсю поўніцу выявіўся геній Кісялёва — архівіста, гісторыка і публіцыста, які рашуча бараніў імя нацыянальнага героя ад спробаў паставіць яго подзьвіг пад сумнеў.

Ужо ў новым стагодзьдзі мне выпала інтэлектуальная раскоша супрацоўнічаць з Генадзем Кісялёвым у часе падрыхтоўкі першага выданьня „Імёнаў Свабоды“.

Можна сказаць, што дзясяткі старонак, азораных імёнамі паўстанцаў 1863-га, былі напісаныя з блаславеньня мэтра. Ён падказаў, дзе знайсьці выявы Камілы Марцінкевіч і Ахіла Банольдзі або са скрухаю, але абсалютна ўпэўнена параіў спыніць

пошукі партрэта юнага Адама Пуслоўскага, які ўдзельнічаў у паўстаньні адзін дзень і ўсё роўна на загад Мураўёва-вешальніка быў пакараны сьмерцю... Часам узьнікала падазрэньне, што спадар Генадзь сам пабываў сярод інсургентаў.

У мяне ўваччу і цяпер стаіць спадар Генадзь — у калідорчыку, вузкім ад кніжных шафаў, што не зьмяшчаюцца ў пакоях, схуднелы, з прабачлівай усьмешкаю, уласьцівай хвораму чалавеку, які ўжо прадчувае блізкасьць сыходу.

Падпісаць яму „Імёны“ я яшчэ пасьпеў...

А празь пяць гадоў мне выпаў гонар пісаць прадмову да ўжо ня першай пасьмяротнай кнігі спадара Генадзя „Смак Беларушчыны“, куды ўвайшлі шмат якія дасюль незнаёмыя чытачу тэксты. Ужо самі іх назвы прымушалі душу заходзіцца ў радасным прадчуваньні — і проста захапляльнага чытва, і глыбіні, і заўсёды неабходнай для маўклівай размовы з Генадзем Кісялёвым разумовай працы: „Пра вешчых песьняроў, фартуну Радзівілаў і сакрэты старых радаводаў“, „У Дабраўлянах, прыстанку музаў, у 1863 годзе“, „Беларускія вёрсты шатляндзкага двараніна Сэн-Клера“... Аматараў гісторыі чакалі сапраўдныя сэнсацыі.

Цяпер ён сам навекі далучыўся да сваіх сейбітаў вечнага. Да тых, хто стаяў ля вытокаў нацыянальнай ідэі, хто натхняўся ёю, хто вучыў беларусаў жыць у нацыянальных каардынатах — каб зьдзейсьніцца. Хто ведаў адказ на пытаньне, якое і ў XXI стагодзьдзі ня страціла вострай надзённасьці: „Каго любіш?“.

**Леанід (Гарадок)**

Паўстанец 1963 года. У кропку. Хоць і няма пра адкрыццё класікаў беларускай паэзіі 19 стагоддзя.

## Імёны Свабоды: Адам Пуслоўскі

12 красавіка 2015
Уладзімер Арлоў

Ягонага імя вы пакуль ня знойдзеце ў беларускіх энцыкляпэдыях. Расейская куля абарвала жыцьцё Адама Пуслоўскага на дваццаць першым годзе. У гісторыі паўстаньня 1863-га гэты сьмяротны прысуд быў найбольш жорсткім, бо Адам удзельнічаў у збройным змаганьні ўсяго адзін дзень.

Даходы сям'і давалі яму магчымасьць ня толькі атрымліваць адукацыю ў кракаўскім Ягелёнскім унівэрсытэце, але і бязьбедна жыць у старажытнай польскай сталіцы. Аднак пасьля пачатку паўстаньня Пуслоўскі неадкладна вярнуўся на родную Наваградчыну. На жаль, першыя дзеяньні інсургентаў у тых мясьцінах былі пазначаныя пячаткаю няўдачы.

У красавіку аддзел з ста пяцідзесяці паўстанцаў быў атакаваны значна большымі сіламі карнікаў у раёне Налібакаў. У выніку дзьвюхгадзіннага бою змагары мусілі адысьці. Жандарскі палкоўнік Рэйхарт зухавата рапартаваў пра шэсьцьдзесят забітых і трыццаць палонных, дадаючы наконт уласных стратаў, што параненыя ўсяго адзін казак і адзін конь. Паўстанцы не ўпершыню трымалі ў руках зброю і за дзьве гадзіны пацэлілі, безумоўна, ня толькі ў каня, аднак не выклікае сумневу, што яны пацярпелі цяжкую паразу.

Сярод палонных увагу карнікаў прыцягнуў малады шляхціц Пуслоўскі. Сьледзтва атрымала зьвесткі, што ён вёў аддзел, конна едучы наперадзе, а таксама ўласнаручна раздаваў зброю і сам прывёз у лес паўстанцкі сьцяг.

Суд вызначыў максымальнае пакараньне — расстрэл, аднак абодва бакі не лічылі яго канчатковым: удзел Адама ў паўстаньні вымяраўся гадзінамі — увечары ён пакінуў дом, а назаўтра адбыўся бой.

Але здарылася фатальная неспадзяванасьць. У той самы дзень, калі судовую пастанову накіравалі ў Вільню, туды прыбыў новы начальнік „Северо-Западного края“ Мураўёў. У сатрапа, які ўсё жыцьцё замольваў свае юначыя дзекабрысцкія грахі, быў галоўны прынцып: адразу запалохаць. Пуслоўскі стаўся адной зь першых ахвяраў.

Ксяндзу не дазволілі спавядаць паўстанца, загадалі толькі багаславіць. Адам прасіў не завязваць яму вачэй, але расейскі афіцэр ня выканаў апошняга жаданьня асуджанага на сьмерць і даў салдатам загад падысьці так блізка, што тыя амаль датыкаліся да Адамавых грудзей штыхамі...

Калі патрапіце ў ваколіцы Любчы, завітайце ў вёску Сенна й прынясіце кветкі да помніка Адаму Пуслоўскаму й яго маці Эвэліне.

Адам Пуслоўскі. 1842 (?), маёнтак Сенна, цяпер Наваградзкі раён — 8.7.1863, Наваградак. Пахаваны ў в. Сенна, Наваградзкі раён.

## Знайшлі кулі часоў Каліноўскага

07 чэрвеня 2015

Пад Мсьціславам у рацэ Віхра беларускія дайвэры адшукалі кулі часоў паўстаньня Каліноўскага.

Акцыю яны правялі ў межах Міжнароднага дня ачысткі вадаёмаў ды Міжнароднага дня аховы навакольнага асяродзьдзя. На Віхру зьехаліся пяць-

дзясят аматараў падводнага плаваньня. Ініцыяваў правядзеньне акцыі дайвэр-цэнтар зь Менску „Марскі Пэгас“.

Узьнятыя з дна ракі гэтак званыя кулі Міньe доктар гістарычных навук Ігар Марзалюк датаваў сярэдзінай XIX стагодзьдзя. Гісторык зазначыў, што такія знаходкі нярэдкія ў тым месцы ракі, дзе аквалянгіст іх адшукаў.

Спадар Марзалюк выказаў меркаваньне, што ў часы Каліноўскага невялікая група паўстанцаў з Горак, на той момант захопленых імі, магла рушыць на Мсьціслаў і тут адбылася іх сутычка з расейскім войскам:

— І гэтыя кулі — вынік таго сутыкненьня. Акрамя знаходак у вадзе такія самыя кулі дужа часта знаходзяць і на прылеглым да ракі полі. Перастрэлка была, відавочна, доўгай. Тут усё „засеяна“ імі.

Жменю куль дайвэр сабраў пад вадой за няпоўныя паўгадзіны.

— Кулі Міньe, названыя імем францускага вынаходніка зброі. Яго куля была надзвычай папулярнай для наразной зброі даволі працяглы час. Выкарыстоўвалі яе розныя войскі Эўропы,“ — сказаў журналістам Ігар Марзалюк.

## 20 незвычайных фактаў пра Кастуся Каліноўскага

14 чэрвеня 2015
Васіль Дранько-Майсюк

Ён першы сярод беларускіх дзеячоў, хто адкрыта заявіў — Беларусь павінна быць самастойнай.

Жыў паводле філязофіі: лепей скончыць свой век на шыбеніцы, чым здрадзіць сябрам і ўласным перакананьням. Як сапраўдны рамантык хацеў бачыць беларусаў такімі, якім быў сам: сьмелымі, самаахвярнымі, эмацыйна адкрытымі, прынцыповымі, артыстычнымі, свабоднымі. Герой нашых 20 незвычайных фактаў — Кастусь Каліноўскі.

**1. Лічыў што шляхта павінна быць зьнішчаная**

„...перадусім нам трэба зьнішчаць гэтую гнілую і гангрэнозную касту, якую называюць дваранствам"; „Паўстаньне мае быць чыста народным — шляхта, пакольні з намі ня пойдзе, няхай гіне — тады сялянская сякера не павінна спыніцца нават над калыскай шляхецкага дзіцяці".

**2. Быў абураны тым, што сяляне дапамагаюць расейскім войскам лавіць паўстанцаў**

„За вашую долю кроў праліваюць справядлівыя людзі, а вы — як тыя Каіны ды Юды Скарыёты — добрых братоў прадавалі ворагам вашым! (...) якім вы правам сьмелі памагаці маскалю ў нячыстаму дзеле?! (...) Вы скажаце, што гэта рабілі паняволі, — но мы людзі вольныя, нямаш у нас няволі! а хто з вас хоча няволі маскоўскай — таму мы дамо шыбеніцу на галіну!"

**3. Не цярпеў пярэчаньняў**

Адзін зь лідэраў партыі „белых" Якуб Гейштар адзначае: „Гарачы, нястрыманы і прасякнуты крайнімі прынцыпамі, ён не любіў пярэчаньняў (...) не любіў апазыцыі, а таму акружаў сябе людзьмі, якія сьлепа зь ім згаджаліся"; Ежы Кучэўскі-Порай успамінае: „Каліноўскі пярэчыў супраць усяго, ня даў нікому гаварыць, дык мы папрасілі яго, каб дазволіў нам спачатку паразумецца паміж сабой, а потым ужо зь ім разам"; вэтэран рэвалюцыйнага

руху Апалін Гафмэйстар дадае: „Ён [Каліноўскі — В. Д. М.] вельмі быў рады, што я ня лезу ні ў якія яго загады...“

**4. Сварыўся з мачахай**

Бацька Каліноўскага Сымон успамінаў: „Сын мой, (...) як прыехаў у 1861 г. зь Пецярбурскага ўнівэрсытэту дамоў, пачаў сьпярша дапамагаць мне па гаспадарцы, пасьля, пасварыўшыся са сваёй мачахай [маці Каліноўскага Вераніка памерла, калі хлопчыку было 5 гадоў — В. Д. М.], абʼявіў мне, што хоча шукаць сабе месца...“

**5. Марыў пра незалежнасьць Літвы (Беларусі)**

Адзін з паўстанцаў Валеры Пшыбароўскі пісаў: „...ён быў адным з галоўных прыхільнікаў і папулярызатараў сэпаратысцкіх літоўскіх памкненьняў і не адзін раз выказваўся на сваёй сакавітай народнай мове, што «дурным варшаўскім мазгаўням нельга давяраць лёсы Літвы»“; „Канстанцін Каліноўскі (...) настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасьці Літвы“; „...Літва (...) павінна выкарыстаць разлад паміж Расеяй і Польшчай і зрабіцца самастойнай“.

**6. Калі зь ім не згаджаліся — гатовы быў ужыць зброю**

„...Францішак [Далеўскі — В. Д. М.]... пераходзь да нас! Цудаў дабʼемся, калі ты нас зразумееш, калі будзеш з намі! Тваёй галавы, твайго сумленьня нам не хапае! (...) Маўчыш! Значыць, не? Знаю цябе, ня пойдзеш за намі, выходзіць — супраць нас! Калі так, дык ведай жа — я сам цябе тут у тваім уласным доме сярод тваіх блізкіх прыкончу кінжалам!“

**7. Быў праціўнікам праваслаўя**

„Ні адзін ужэ можэ забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай уніяцкай веры і ніколі ўжэ ня спомніць на тое, што перавярнулі яго на сызму, на

праваслаўе, што ён сягодня, як той сабака, жыве бязь веры і, як сабака, здохне чартам да пекла!!! (...) хто не пяройдзе на унію, той, як сабака, здохне, той на тамтам сьвеце пякельныя мэнкі цярпеці будзе!“

**8. Называў Мураўёва „згрыбелым еўнухам“ і „распусьнікам“**

„...згрыбелы еўнух ліхадзейства (...) гэты зьбеглы з галер распусьнік... кідаецца ў сваім бяссільлі“.

**9. Запалохваў і шантажаваў шляхту**

Дробны чыноўнік Эразм Заблоцкі ўспамінаў: „... калі я (...) адмаўляўся ад пасады камісара, то Каліноўскі сказаў мне, што ў такім выпадку ён аддасьць мяне ў рукі законнага ўраду (...): «Не, брат, цяпер ня час аднеквацца, калі замежныя краіны вядуць перамовы (...) у нашу карысьць, а вы, баязьліўцы (...) хочаце даць Расеі сродак упэўніць іх, што ў нас толькі дзіцячыя гульні, як яно і ёсьць, і няма сапраўднага патрыятызму. Я вас усіх бачу, а таму раблю так, каб прымусіць служыць Жонду Народоваму і такім чынам упэўніць замежны ўрад, што патрыятызм у нас існуе»“.

**10. Прысутнічаў амаль на кожным публічным павешаньні**

Якуб Гейштар пісаў: „Ён, якога пільна шукалі, на кожную экзэкуцыю прыходзіў да Дамініканскіх брам, бачыў тых, каго вялі на сьмерць, і пад пагрозай штодзённага арышту ні на хвіліны ня страціў энэргіі“.

**11. Наводзіў страх сваёй патрабавальнасьцю і строгасьцю**

Расейскі гісторык Васіль Ратч адзначаў: „...усюды па папярэднім загадзе быў для яго прыгатаваны экіпаж, расстаўленыя коні, мясцовыя ўлады арганізацыі павінны былі сустракаць яго на межах сваіх земляў і праводзіць у дарогу. За самы дробны

недагляд у аказаньні належнай пашаны ён, не саромеючыся суровых словаў, рабіў заўвагі, і праезд рэвалюцыйнага кіраўніка Горадзенскага ваяводзтва пакінуў пасьля сябе агульны страх“; паўстанец Юльян Ягмін дадае: „Зараз жа ў нас паднялася мітусьня, чыстка і папраўка амуніцыі (...) Акуратна ў прызначаную гадзіну пад’ехала брычка і ў ёй нейкі пан (...) у вялікіх ботах, з рэвальвэрам і кінжалам за поясам, ён быў росту вышэй сярэдняга, шыракаплечы, сутулы, буйныя рысы твару з маленькай бародкай мелі нешта нахабна-дзёрзкае...“

**12. Быў ворагам царызму, але не рускага народу**

„Народ маскоўскі скаланаецца ад нашай векавой крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам быць жадае і адказнасьць перад нашчадкамі за нашу няволю рашуча ўскладае на царызм“.

**13. Хварэў на эпілепсію**

У лісьце да рэктара Пецярбурскага ўнівэрсытэту Пятра Плятнёва Каліноўскі пісаў: „Гадоў некалькі таму мяне спасьцігла падучая хвароба. Я зьвяртаўся да шматлікіх дактароў, але без усялякай карысьці (...) Пазбаўлены ўсіх сродкаў (...) я маю гонар пакорна прасіць (...) аб прызначэньні мне (...) 30 руб. на маё лячэньне“. На дакумэнце была прыпіска ад інспэктара А. Фіцтум фон Экштэдт: „Студэнт Каліноўскі сапраўды хворы, (...) і за выдатныя паводзіны цалкам заслугоўвае ўвагі“. 30 рублёў выплацілі.

**14. Не рызыкаваў жыцьцямі шматдзетных паўстанцаў**

Калі было прынята рашэньне забіць віленскага маршалка і актыўнага супрацоўніка з маскоўскімі ўладамі Аляксандра Дамейку і зьявіўся чалавек гатовы ўчыніць прысуд, то Каліноўскі забараніў

яму гэта рабіць, бо ў гэтага добраахвотніка: „...жонка і некалькі чалавек дзяцей, а ў нас для выкананьня выракаў ёсьць жандары“.

**15. Меў гіпнатычнае ўзьдзеяньне на ўдзельнікаў паўстаньня**

Паводле яго паплечніка Юзафа Каліноўскага: „...Я бачыў у ім чалавека рашучага, знаходлівага, які ўсёй сваёй дзейнасьцю і ахвярнасьцю (...) як бы папракае іншых у баязьлівай асьцярожнасьці і слабасьці. Сама небясьпека яго становішча ператварала яго ў своеасаблівага волата і магла прыцягваць да яго іншых (...) Сваёю знаходлівасьцю і самаадданасьцю ён узбуджаў іншых; кажучы шчыра, я сам захапіўся гэтым бокам яго дзейнасьці...“

**16. Стваральнік першай беларускай газэты на роднай мове — „Мужыцкай праўды“**

Юзаф Каліноўскі адзначаў: „...друкаванае слова было заўсёды яго слабасьцю, ён надаваў яму нейкае асаблівае значэньне“.

**17. Хацеў служыць у віленскага генэрал-губэрнатара Уладзіміра Назімава**

„Скончыўшы курс навук у імпэратарскім С.-Пецярбурскім унівэрсытэце са ступеньню Кандыдата і жадаючы паступіць на службу, маю гонар пакорна прасіць Вашу высокасьць даць мне магчымасьць служыць пад мудрым кіраўніцтвам Вашай высокасьці“. Падчас паўстаньня пісаў пра Назімава так: „Генэрал Назімаў столькі ж зрабіў для супакаеньня краю, колькі генэрал Мураўёў для распачынаньня ў ім бунту“.

**18. Яго выдаў паўстанцкі камісар Магілёўскага ваяводзтва Вітольд Парфяновіч**

Паводле Аляксандра Масалова, чыноўніка з канцылярыі Мураўёва, гэты Парфяновіч быў: „...ма-

лады чалавек, выдатна абазнаны ва ўсіх таямніцах галоўных дзеячоў бунту. Палкоўнік Лосеў (...) абяцаў яго памілаваць, калі той дапаможа сьледзтву. Малады арганізатар паведаміў (...) і само месцазнаходжаньне Каліноўскага, зь якім ён быў у блізкіх стасунках. [Парфяновіч апісаў — В. Д. М.] прыкметы Каліноўскага [і паведаміў, што — В. Д. М.] ён пражывае з фальшывым пашпартам горадзенскага двараніна Ігната Вітажэнца ў Сьвятаянскіх мурах [у Вільні — В. Д. М.]“.

**19. Падчас допытаў Каліноўскі адмовіўся называць імёны сваіх таварышаў, усяляк стараўся адвесьці ўвагу сьледчых ад сваёй каханай Марыі Ямант і яе сям'і**

„...не бываў у доме Ямантаў, (...) акрамя маладога Іосіфа Яманта, нікога ня ведаю“; „Выпрацаваўшы працай і жыцьцём разуменьне, што (...) шпіёнства апаганьвае чалавека (...) я палічыў неабходным заявіць Сьледчай Камісіі, што ў яе допытах наконт асобаў, якія ёй называюцца, я (...) павінен быць стрыманы ў сваіх паказаньнях (...) Прычыны і наступствы мною добра абдуманы (...) Мой гонар, годнасьць і тое становішча, якое я займаў у грамадзтве, не дазваляюць мне зрабіць іначай“.

**20. Не баяўся сьмерці, а шыбеніцу параўноўваў з укрыжаваньнем**

За некалькі месяцаў да арышту пісаў: „Маскалі (...) пад living рознымі прозьвішчамі шукаюць мяне ў Вільні (...) то праз акно на дах, то іншымі спосабамі заўжды шчасьліва высьлізгваю зь іх рук. Бог нада мной апякуецца, а калі прыйдзецца павіснуць, то хай гэта будзе на пацеху ўсім літоўскім панам і прасьветлай Маскве“; „І шыбеніца сталася сёньня

тым, чым быў крыж, калі Хрыстос зрабіў яго знакам збаўленьня — яе асьвяцілі нашыя героі...“.

**АР**

Ён першы сярод нашых дзеячоў… Якія дзеячы маюцца на ўвазе? І што значыць „нашых“?

**Васіль Дэ Эм (Менск)**

Маюцца на ўвазе тыя культурніцкія дзеячы, якія жылі на нашай тэрыторыі, як напрыклад, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Уладзіслаў Сыракомля альбо Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Нават Францішак Багушэвіч, у адрозьненьне ад Каліноўскага, не выказваўся за поўную незалежнасьць Беларусі.

**Хурсік**

У адносінах да Каліноўскага зазначу, што былі і іншыя людзі, якія апекаваліся незалежнасцю Беларусі. Варта згадаць Астафея Валовіча, які бразнуў дзвярыма пасля хаўрусу з Польшчай, беларускіх паслоў, якія адстойвалі суверанітэт перад пагрозай уварвання Петруся І перад Аўгустам ІІ, тых жа паўстанцаў 1830-31 гадоў. Толькі наша гістарычная недасведчанасць не дазваляе нам прызнаць, што ідэя незалежнасці заўсёды прысутнічала і нікуды не знікала. Але я дзякую, што ты сапраўды падаў вобраз Каліноўскага такім, якім ён быў на самой справе. Гэта быў жорсткі, бязлітасны, пакрыўджаны жыццём чалавек. На вялікі жаль гэта быў не той чалавек, вобраз якога нам малявалі дзесяцігоддзямі. Згадзіся — ад Марыські чарнабровай да кінжала ў грудзі дыстанцыя павінна была быць куды большай, чым яна была ў Каліноўскага. Хаця, мажліва, чалавек, які змагаўся з іншадумствам шляхты, гэта якраз сёняшні варыянт — «Усіх на кол!» Альбо ў пастарунак... Не мне судзіць. Але хацелася б герояў, як і ва ўсіх народаў: мудрых, разважлівых, не кровасквапных...

**Каго любіш? Літву-Матку ! (Менск-Літоўскі)**

Адзіны наш нацыянальны змагар за свабоду Літвы. Пасьля нашага слаўнага фельдмаршала Князя Янаша Радзівіла шляхта стала падонкамі Польшчы і Расеі.

**Васіль Дэ Эм (Менск)**

Вялікі дзякуй, шаноўны спадар Віктар Хурсік, за Вашыя добрыя словы! Мэта акурат і была такая — паказаць Кастуся Каліноўскага не па-іконнаму жывым чалавекам.

**Уладзімер (Сьветлы)**

Нейкі нацыянал-бальшавік, жах!

**Lana (Менск)**

Адкуль цытаты? Дзе як мінімум спіс паужытай літаратуры, дзе можна на уласныя вочы пабачыць шырэйшы кантэкст, з якога былі цытаты узяты ? Пакуль няма гэтых базавых рэчау — артыкул не больш, як правакацыя. Такіх жоутых сэнсацый пры вялікім жаданні можна надзергаць на любога, нават на Яна Паула ІІ.

**Powala (Minsk)**

Вось так маскоўскія ліцадзеі пакрысе грызуць-падточваюць нашых нацыянальных герояў. А то пасля Лупакі нешта даўно ўжо ніхто не манетызаваў усё магчымае, што яшчэ засталося ў беларусаў.

## У Расеі выпусьцілі кнігу пра Мураўёва-вешальніка

29 чэрвеня 2015

Выдавецтва Інстытуту расейскай гісторыі Расейскай акадэміі навук выпусьціла кнігу, што ўсхваляе генэрал-губэрнатара Міхаіла Мураўёва, які задушыў паўстаньне 1863 году.

Кніга мае назву „Жыцьцё на службе імпэрыі“.

У анонсе кнігі зазначаецца пра Мураўёва-Віленскага як пра буйнога „дзяржаўнага і грамадзкага дзеяча XIX стагодзьдзя, адну з выразных і неадна-

значных фігур айчыннай гісторыі“, прафэсійнага адміністратара, расейскага патрыёта і змагара з сэпаратызмам:

„У апошнія гады свайго жыцьця М. Мураўёў быў генэрал-губэрнатарам Паўночна-Заходняга краю — суровым „утаймавальнікам“ польскага паўстаньня 1863 году, выразьнікам і праваднікам палітыкі ўраду на заходніх ускраінах Расейскай імпэрыі“.

## На Беласточчыне ўсталявалі помнік Кастусю Каліноўскаму

10 ліпеня 2015

У Мастаўлянах, што ў Гарадоцкай гміне на Беласточчыне, усталяваны помнік у гонар беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага.

Мастаўляны — вёска, у якой нарадзіўся Каліноўскі — на той час уваходзіла ў Горадзенскі павет.

Як зазначае дырэктар Гміннага цэнтру культуры ў Гарадку Юрка Астапчук, такім чынам аддаецца гонар Кастусю Каліноўскаму:

„Гэта падтрымка памяці, якая ёсьць у народзе. Вядома, будуць ім захапляцца людзі, і тыя, якія ня ведаюць, хто такі Кастусь Каліноўскі, напэўна, запытаюць, напэўна, прачытаюць пра яго жыцьцё і даведаюцца. І праз гэта Кастусь Каліноўскі будзе жыць“.

Аўтарам праекта помніка зьяўляецца Януш Талуць з Беластока.

*Уля Шубзда, Радыё Рацыя*

## У Беларусі здымаюць фільм пра Кастуся Каліноўскага. Прэм'ера — на Новы год

20 жніўня 2015
Іна Студзінская

Рэжысэр Валер Мазынскі завяршыў здымкі. Наперадзе — мантаж.

— Спадар Валер, хто аўтар сцэнару, і якая будзе яго канчатковая назва?

— Сцэнар пісаў гісторык Зьміцер Кузьменка, даволі малады чалавек, стваральнік адмысловага сайту „Сьвіслацкія аркушы“ з разнастайнымі тэкстамі, прысьвечанымі Кастусю Каліноўскаму. У яго ёсьць праблема — ня можа размаўляць, толькі піша. Зьміцер — чалавек непублічны, кніжнік. Але вельмі дасьведчаны і таленавіты — скончыў унівэрсытэт, выдаў кнігу паэзіі. Паколькі ён сур'ёзна займаецца Каліноўскім, я падбухторыў, як кажуць, яго на гэты сцэнар. Ну, а назва... Было шмат варыянтаў, але пакуль спыніліся на такой: „Каліноўскі: апошнія дні. Спроба рэканструкцыі“.

— А Вы самі чаму ўзяліся за гэтую працу? Здавалася б, пра Каліноўскага ўжо вядома ўсё... І як вы самі акрэсьліце жанр карціны?

— Каліноўскі зрабіўся ўжо іконай, бронзай — прынамсі, я так адчуваю. І не хацелася проста паўтарыць яшчэ раз тое, што даўно вядома, паказаць старыя дакумэнты (а новага асабліва нічога і не знаходзіцца).

Праўда, некаторыя фотаздымкі будуць упершыню паказаныя. Да прыкладу, знайшоўся здымак здрадніка, які выдаў месцазнаходжаньне Калі-

ноўскага — ягонага былога паплечніка Вітольда Парфяновіча. Цяжка акрэсьліць жанр фільму. Ён ня цалкам дакумэнтальны, хаця заснаваны на дакумэнтальным матэрыяле, з элемэнтамі рэканструкцыі.

— А хто выконвае галоўную ролю? І хто наагул здымаўся ў фільме?

— Актораў задзейнічана шмат — каля 20 чалавек, бо там і салдат трэба было іграць, і ахоўнікаў, абслугу. А ролю Кастуся Каліноўскага ў рэканструкцыях выконвае актор Раман Падаляка з Купалаўскага тэатру.

Мы не дамагаліся абсалютнага падабенства. Чаргуем размовы, развагі, як гэта было, нашы погляды і меркаваньні з рэканструкцыямі. Фільм толькі пра самыя апошнія дні Кастуся Каліноўскага, пачынаючы зь яго арышту, і ўвесь час ён знаходзіцца, так бы мовіць, побач з расейскай уладай. Сваіх там нікога няма. Ніхто з паплечнікаў ці сваякоў зь ім не сустракаецца.

— Дзе праходзілі здымкі? Дзе вы знайшлі сапраўдную вязьніцу — няўжо ў Вільні?

— Здымалі шмат дзе, і ў Менску, і ў Івянцы, і ў Гальшанах, і ў Барунах.

Дзея адбываецца ў Вільні, у кляштары дамініканаў, які падчас задушэньня паўстаньня 1863 году быў перароблены пад турму і дзе Кастусь Каліноўскі ўтрымліваўся перад выкананьнем сьмяротнага прысуду. Але сёньня Дамініканскі кляштар мае ўжо ня той выгляд. Так што ў Вільні не здымалі. Нам давялося шукаць па Беларусі падобныя месцы. І асноўныя здымкі адбываліся ў Барунах, гэта таксама сьвятое месца, знакаміты кляштар, які цяпер у страшэнным заняпадзе. Толькі крыху прыбралі там і здымалі.

## Беларус, ліцьвін, паляк? Вайна за Каліноўскага працягваецца

9 верасьня 2015

У Горадні адбылася дыскусія гісторыкаў пра асобу Кастуся Каліноўскага. Яе прымеркавалі да прэзэнтацыі новай кнігі — „Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі“. («Kastuś Kalinoŭski and the Nation-Building Process in Belarus»). Кнігу склалі тэксты выступаў на канфэрэнцыі, якая адбылася ў Лёндане ў 2014 годзе.

Горадзенскі гісторык Васіль Герасімчык узгадвае Ўладзімера Караткевіча, які адказаў для сябе на гэтае пытаньне: хто для мяне Каліноўскі? Для яго была галоўнай беларуская мова яго твораў. Перш за ўсё, „Лістоў з-пад шыбеніцы“. Ня можа чалавек, які ведае, што яму засталося мала жыць, пісаць на зусім ня блізкай яму мове.

— Генадзь Кісялёў яшчэ ў 1958 годзе, калі толькі пачынаў дасьледаваць асобу Каліноўскага, напісаў: паглядзіце кнігі — гэта не дыскусія, гэта вайна за Каліноўскага. Фактычна гэтая вайна працягваецца і да сёньняшняга часу. Спадзяюся, мы выйграем, — кажа Васіль Герасімчык.

Гісторык Алесь Смалянчук, які праводзіў дыскусію, нагадаў пра крытыку з боку беларусаў Беласточчыны: маўляў, ня можа быць каталік беларускім нацыянальным героем:

— На крытыку ня варта не зьвяртаць увагі — значыць, яшчэ шмат ня зроблена. У пэўным сэнсе Каліноўскаму стварылі помнік, гэта пачаў рабіць яшчэ Ластоўскі ў віленскай газэце „Гоман“ (1916). А што ён зь сябе ўяўляў як чалавек, як асоба? І кры-

тыка сёньня прымушае працягваць дасьледаваць яго асобу. І само сабой узьнікае пытаньне: а ці існуе загадка Каліноўскага?

Гісторык Алесь Радзюк лічыць, што трэба пазбаўляцца старых ідэалягічных „прыставак“ да Каліноўскага, што гэта рэвалюцыянэр-дэмакрат, які абапіраўся выключна на сялян:

— Але ж і на шляхту, і на ксяндзоў абапіраўся. Пытаньне таксама: наколькі можна давяраць крыніцам аб паўстаньні, калі яны амаль цалкам паходзяць з боку праціўніка, царскага боку? Сьведчаньні былі дадзеныя на допытах, пад ціскам. Ці можна на іх падставе рэканструяваць паўстаньне?

Паводле Алеся Радзюка, гісторыкам дапамагаюць новыя знаходкі. Разам зь Інай Соркінай Радзюку ўдалося знайсьці дзёньнік Людвікі Ямант, ня ўведзены ў беларускую гістарыяграфію. Людвіка — сястра Марыі Ямант, нарачонай Кастуся Каліноўскага. Зь дзёньніка вынікае, што ён герой, чалавек з жалезнай воляй. Першы раз Каліноўскі згадваецца, калі прыяжджае ў Вільню восеньню 1863 году: яго выклікаюць, каб ён узначаліў Літоўскі камітэт. Людвіка Ямант піша, што на яго ўжо тады палявалі, бо ён быў вядомым. Ён пасяліўся на канспірацыйнай кватэры ў Зарэччы ў пані Догель, ня маючы дакумэнтаў. Гэта была двухпакаёвая кватэра на трэцім паверсе. Там у яго была друкарская прылада. Аднойчы, калі ён спаў, прыйшла паліцыя. Паліцмайстар Саранчоў, выставіўшы ахову, у кватэру ўварваўся сам з крыкамі: „Я цябе — у Сібір, я цябе павешу!“ Каліноўскі пасьпеў з ложка праз акно вылезьці на дах, дзе ляжаў на холадзе, пакуль не прайшоўператрус. Саранчоў, аднак, нічога не сканфіскаваў. Людвіка Ямант піса-

ла, што ён дапамагаў рэвалюцыйнай арганізацыі. А Каліноўскі тады нават не захварэў.

Людвіка Ямант таксама паведамляе ў дзёньніку, як удалося наладзіць сувязь з Каліноўскім у камэры сьмяротніка, як былі перададзеныя на волю, у прыватнасьці, „Лісты з-пад шыбеніцы“. Ахоўнікам плацілі па дзесяць рублёў за адну старонку.

Васіль Герасімчык дадае: існуюць таксама ўспаміны самой Ядвігі Макрыцкай, якая падтрымлівала сувязь з Каліноўскім, калі ён быў у турме. Яна напісала, як ёй удавалася перадаваць Каліноўскаму лісты ад Марыі Ямант, якая таксама знаходзілася пад сьледзтвам.

— Каліноўскі мэтанакіравана ішоў да вобраза, пра які мы сёньня гаворым. Хацеў стварыць вобраз героя нягледзячы на свой чалавечы страх, таму што разумеў, чаго хоча, марыў застацца ў памяці, — мяркуе Васіль Герасімчык.

Гісторык Вячаслаў Швед перакананы, што Каліноўскага нельга абмяжоўваць у сучасных нацыянальных вызначэньнях:

Каліноўскі, можна сказаць, быў яшчэ ліцьвінам, прабеларусам. Яны з братам Віктарам сабралі бібліятэку выданьняў пра Вялікае Княства Літоўскае, яно іх цікавіла. А ВКЛ — гэта ўніяцтва, гэта дзяржаўная беларуская мова. Значыць ён ня быў палякам, не паддобрываўся да беларусаў. Ліцьвінства тады пастуова перарастала ў беларускасьць.

Каліноўскі ў „Мужыцкай праўдзе“ (1862) абараняе ўніяцкую царкву, рэзка выказваецца аб праваслаўі, нагадвае Алесь Смалянчук:

— Чаму? Таму што ўніяцкая царква была беларускай, яе зьліквідавалі толькі дваццаць гадоў

перад тым. І дарэчы будзе сказаць: у апошніх „Лістах з-пад шыбеніцы“ ён атаясамліваў сябе зь беларусам-мужыком.

У нас дыскусія аб Каліноўскім адбываецца не ў навуковым полі, а ў ідэалягічнай галіне, кажа Алесь Краўцэвіч, праўладнымі ідэолягамі нават ставіцца пад пытаньне, што ён беларус:

— Крытыка Каліноўскага робіцца ненавуковай. Іншая рэч — пазыцыя прафэсара Латышонка ў Польшчы, з чыйго боку можна пачуць крытычнае меркаваньне адносна Каліноўскага. Не выклікае сумневаў, што ён беларускі патрыёт, сумленны і заслужаны гісторык. Мне бачыцца ў гэтым комплекс нацыянальнай меншасьці. Для беларусаў у Польшчы прыналежнасьць да праваслаўнай царквы — саломінка, якая дапамагае ім адчуваць, што яны не такія, як этнічная большасьць. Хаця праваслаўная царква там больш выконвае палянізуючую ролю, чым ролю падтрыманьня беларускай аўтэнтычнасьці.

Гісторык Іна Соркіна нагадала аб допыце здрадніка Парфяновіча, архіўны дакумэнт яна бачыла асабіста. Парфяновіч раскрывае пароль паўстанцаў. Трэба было сказаць: „Люблю Беларусь“, адказ — „То ўзаемна“. Пароль паўстанцаў асабіста для мяне такі аргумэнт, які гаворыць сам за сябе, кажа гісторык.

Няхай гістарычнай праўды не існуе, але важна, каб было імкненьне да яе, а не жаданьне ствараць міты, падсумоўвае Алесь Смалянчук. Ёсьць вобраз Каліноўскага, міт, які адыгрывае велізарную ролю для фармаваньня беларускай нацыі. Гэты міт — вялікае дасягненьне беларускай культуры. За яго трэба змагацца. А загадку Каліноўскага трэба імкнуцца вырашыць, мяркуе гісторык:

— Я ня думаю, што калі мы паглыбімся ў гістарычную праўду, гэта можа зьнішчыць міт. Хаця б таму, што гісторыкі, навукоўцы ня могуць зьнішчыць міт. Можна напісаць дзесяць тамоў аб тым, якім быў Каліноўскі, а потым выходзіць Караткевіч, піша яшчэ адны „Каласы пад сярпом тваім“, і гэтыя дзесяць тамоў больш нічога ня вартыя. Але паглыбленьне ўсебаковае ў вобраз рэальнага Каліноўскага будзе набліжаць нас да разуменьня тагачаснай беларушчыны. А рэальны Каліноўскі — канечне ня сёньняшні беларускі нацыяналіст. Ён зусім іншымі катэгорыямі мысьліў. Каб яго зразумець, трэба ведаць увесь комплекс ідэй, якія хадзілі ў тагачасным грамадзтве. Чым было ліцьвінства? Чым беларушчына, якая нараджалася? Пытаньняў для вывучэньня хапае.

Дыскусія гісторыкаў пра Кастуся Каліноўскага адбылася ў горадзенскай артгалерэі „Крыга“.

**Simpson**

Каліноўскі не выразьнік волі ўсяго беларускага народа, значная, ці не большая частка якога была масквафільскай, прадстаўніком яе быў Каяловіч і яна рэзка выступала супраць паўстаньня. Таму не дзіўна, што Каліноўскі не можа замацавацца як нацыянальны герой.

**нармальны беларус**

Каму які клопат, якіх поглядаў была тады несьвядомая большасьць? Ён будзіў народ, быў прадстаўніком актыўнай меншасьці, якая, безумоўна, мела і мае рацыю. І, безумоўна, ён герой. А каліісьці лёгікай Сімпсана, дык сёньня Лукашэнка герой, бо падабаецца якраз большасьці несьвядомага, гвалтоўна русыфікаванага народу.

**Simpson**

Меншасьць, якую прадстаўляў Каліноўскі, ніякай беларускай сьвядомасьці не мела. Гэта былі патрыёты ВКЛ як часткі

Польшчы, літвіны. Іншая частка, якую ты назваў „несьвядомымі“, мела заходнерускую сьвядомасьць. Беларускасьць жа прісутнічала і там , і там. Але, што цікава, і там і там апанентаў лічылі здраднікамі, зусім як зараз.

**Нам клопат**

Каму які клопат, якіх поглядаў была тады несьвядомая большасьць? Нам интересно, правнукам тех белорусов или недобелорусов. Ен будзиу народ? И что ж не добудил? Это нам важно понимать в свете нашего непробуждения и сегодня.

**Аляксандр Краўцэвіч (Гародня)**

„Выразнік волі ўсяго народа“ — дэмагагічны выраз, бо такога не бывае. У амерыканскіх калоніях Вялікабрытаніі, калі прымалася Дэкларацыя незалежнасці, ледзь не ў суседнім горадзе была прынятая іншая дэкларацыя — лаяльнасці да брытанскай кароны. „Волі ўсяго народа“ не было, а сёння супердзяржава ёсць.

## „Караткевіч прачытаў і ўвесь страпянуўся„ — Пазьняк пра свой аўтограф на партрэце Каліноўскага

20 кастрычніка 2015

„Няхай тваё жыцьцё будзе вартым ягонай сьмерці“, — знакаміты партрэт Кастуся Каліноўскага з такім надпісам 21-гадовы Зянон Пазьняк падарыў Уладзімеру Караткевічу 26 лістапада 1965 году. Караткевічу ў той дзень споўнілася 35. Ужо напісаныя „Дзікае паляваньне Караля Стаха“ і „Каласы пад сярпом тваім“.

— Гэта быў яго дзень нараджэньня, — згадвае Зянон Пазьняк. — Мы зь ім пазнаёміліся ў 1964-м і неяк зблізіліся. Я вырашыў яму зрабіць падарунак. Зрабіў вялікі партрэт Каліноўскага. Той здымак з

Каліноўскім, які ходзіць у інтэрнэце, — гэта мой здымак. Я тады зрабіў дзясяткі экзэмпляраў і распаўсюдзіў паміж знаёмых. Бо тады гэта была праблема. Такога здымка не было, я яго знайшоў. І якраз гэты здымак, якога Караткевіч ніколі, я думаю, ня бачыў, яму вырашыў падараваць. Зрабіў вялікі партрэт і пэндзлікам напісаў. Яго гэта ўразіла. Я памятаю, што Валодзя прачытаў і ўвесь страпянуўся, сьцяўся і кажа: „Дзякуй, дарагі! Дзякуй!“. Аж зашаптаў. Яго праняло тое, што я там напісаў.

Надпіс на партрэце, безь якога цяжка ўявіць сабе кабінэт знакамітага пісьменьніка, знайшлі зусім нядаўна — пры падрыхтоўцы да друку дзёньніка Караткевіча.

— Для сям'і было адкрыцьцё, што на адвароце быў надпіс, — распавядае Ціхан Чарнякевіч. — Гэта мэмарыяльны кабінэт, дзе нічога не чапаецца ніколі. Яны там выпадкова перавярнулі гэты партрэт, а там — каліграфія Зянона Станіслававіча. Ён у дзёньніку таксама згадваецца як малады здольны хлапец.

## У Сьвіслачы адбыўся фэст, прысьвечаны памяці паўстанцаў 1863 году

31 кастрычніка 2015

На яго зьехаліся дзясяткі актывістаў з розных гарадоў. Фэст праходзіць 21 год запар.

Помнікі Каліноўскаму і Траўгуту ў Сьвіслачы сёньня таксама наведаў Зьбігнеў Прухняк, які выконвае абавязкі генэральнага консула Рэспублікі Польшча ў Горадні.

## 4,5 мільёна штрафу — за акцыю памяці паўстанцаў 1863 году

19 лістапада 2015

У Сьвіслачы адбыўся судовы працэс над удзельнікам акцыі ўшанаваньня памяці паўстанцаў 1863 году Юрыем Глебікам, якога абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве. Прысуд — штраф у 25 мінімальных велічыняў (4,5 мільёна рублёў).

У судзе былі заслуханыя двое сьведкаў, якія акцэнтавалі ўвагу суду на тым, што Глебік трымаў у руках бел-чырвона-белы сьцяг і прамаўляў каля помнікаў.

Ці парушаў Глебік грамадзкі парадак, яны сказаць не змаглі.

## Горадзенскіх актывістаў аштрафавалі за акцыю памяці паўстанцаў 1863 году

3 сьнежня 2015

У Сьвіслачы працягваюцца адміністрацыйныя працэсы над удзельнікамі акцыяў ушанаваньня памяці паўстанцаў 1863 году.

Горадзенскі актывіст Віктар Сазонаў сёньня быў аштрафаваны на 10 базавых велічынь (1 млн 800 тысяч рублёў) паводле артыкулу 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаванай акцыі). Такім самым штрафам пакараны іншы горадзенскі актывіст Эдвард Дзьмухоўскі.

## Чарговы прысуд у Сьвіслачы — 7 мільёнаў 200 тысяч рублёў

8 сьнежня 2015

Горадзенскі актывіст Уладзімер Хільмановіч аштрафаваны Сьвіслацкім раённым судом на 40 базавых велічынь за ўшанаваньне памяці паўстанцаў 1863 году.

Спасылаючыся на закон, Хільмановіч даводзіў суду, што юрыдычна дэфініцыя мітынгу зусім іншая, а ў Сьвіслачы мела месца мэмарыяльная акцыя ўшанаваньня памяці, якая не патрабуе ніякіх дазволаў на правядзеньне.

„У судзе было выразна засьведчана, што я падчас прамоў распавядаў пра помнікі, пра гісторыю, што не ўздымаў сьцяг на дрэўку, заклікаў ніякіх не рабіў. Па сутнасьці гэта было мэмарыяльнае мерапрыемства з ушанаваньнем нашых продкаў“.

## У Лідзе асудзілі ўдзельніка акцыі ўшанаваньня паўстанцаў 1863 году

18 сьнежня 2015

Актывіст Вітольд Ашурак зь Бярозаўкі Лідзкага раёну аштрафаваны на 10 базавых велічынь (1 мільён 800 тысяч рублёў) за ўдзел у Сьвіслачы ў акцыі ўшанаваньня памяці паўстанцаў 1863 году.

— Нас усіх імкнуцца запалохаць, але пасьля гэтага прысуду я зрабіў выснову, што і надалей буду ўдзельнічаць у патрыятычных акцыях, — пракамэнтаваў прысуд спадар Ашурак.

## У Ваўкавыску асудзілі за ўшанаваньне паўстанцаў Каліноўскага

30 сьнежня 2015

Віталь Гуляк аштрафаваны Ваўкавыскім раённым судом на 40 базавых велічынь — 7 мільёнаў 200 тысяч рублёў паводле абвінавачаньня ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі ўшанаваньня памяці паўстанцаў 1863 году, якая адбылася ў Сьвіслачы.

Віталь Гуляк — інвалід другой групы. Паводле Гуляка, СМС з запрашэньнем на суд ён атрымаў, калі ляжаў у гарадзенскім шпіталі, дзе яму рабілі апэрацыю на назе. Ён паведаміў суду праз тэлефон, што знаходзіцца ў гіпсе і ня можа прысутнічаць падчас разгляду ягонай справы.

## Двое перад Галгофай — дыктатар паўстаньня Каліноўскі і нарачоная Марыйка

8 студзеня 2016

Выйшла новая кніга пра нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. У рамане „Воляй абраны“ Анатоль Бароўскі піша пра каханьне Кастуся і Марыі Ямант.

— Калі я даведаўся, што ў Кастуся была нарачоная, Марыська чарнаброва, і яны апынуліся ў турме, разьдзеленыя некалькімі турэмнымі сьценкамі, мяне гэта вельмі ўзрушыла, — кажа Анатоль Бароўскі. — У іх не было нейкага такога палкага каханьня — у абдымках і пацалунках. Гэта было каханьне дваіх апантаных, велічных людзей, асобаў, якія перажывалі за сваю Бацькаўшчыну, за народ, за несправядлівасьць, якая існавала вакол, чынілася царскімі ўладамі. Яны жылі і каханьнем, і думкамі пра тое, якім чынам прыгнечанага мужыка падняць на паўстаньне. Гэта трагічная старонка нашай гісторыі, а магчыма, і сусьветнай гісторыі. Таму што з маленькага вогнішча разгараецца і вялікае полымя.

— Каб напісаць раман, вам даводзілася працаваць у архівах, зьбіраць нейкія маладасьледаваныя факты пра сваіх герояў, пра паўстаньне 1863–1864 гадоў?

— Я ня корпаўся ў архівах, бо ня ўмею гэта рабіць. Проста за ўсе гады я зьбіраў зьвесткі то з

часопісаў, то ў газэце нейкая іскрынка прамільгне. Гістарычны часопіс шмат даваў, дзе дасьледаваньні друкавалі вельмі вядомыя людзі. Не кажу, што нешта я скраў. Я іх „залацінку“ высьвеціў. Пра каханьне часам проста сказаныя два словы. А мне давялося быць Кастусём, быць Марыйкай і весьці дыялёг паміж імі. Я не імкнуўся літаратурна падняцца вышэй за факты, бо факты, кажуць, рэч дакладная, і я ад іх не адступаў — усё гістарычна праўдзіва. Але вось лісты і само каханьне — дзесьці я гэта ўзьняў да нябёсаў. Каханьне чыстае, сьветлае можа служыць — і павінна служыць — нашым маладым людзям, нашым хлопцам і дзяўчатам, прыкладам таго, як трэба кахаць, нягледзячы ні на якія абставіны, бо каханьне вышэйшае за ўсё.

Раман Анатоля Бароўскага „Воляй абраны“ рэдагаваў пісьменьнік Віктар Казько. Мастацкія вартасьці раману ён ацаніў гэтак:

— Аўтару ўдалося стварыць запамінальны вобраз супярэчлівага і адданага адраджэньню і волі роднага краю Дыктатара, вылучыўшы на першы плян каханьне дзьвюх выбітных асобаў — Вікенція Канстанціна Каліноўскага і яго нарачонай — Марыі Ямант. І я асабіста веру, што прыйдзе той час, калі раман Анатоля Бароўскага „Воляй абраны“ будзе ўключаны ў школьныя праграмы, каб вучні, і ня толькі яны, змаглі паглыбіцца ў атмасфэру таго часу і адчуць, як занепакоена білася сэрца кіраўніка паўстаньня, Рыцара Свабоды — Кастуся Каліноўскага.

Раман Анатоля Бароўскага „Воляй абраны“ — 68-мы твор у сэрыі „Бібліятэка Саюзу беларускіх пісьменьнікаў «Кнігарня пісьменьніка»“. Ён выйшаў у выдавецтве „Кнігазбор“.

## Чалавек, які прыдумаў сабе прозьвішча, захапіўшыся подзьвігам касінераў Каліноўскага

26 студзеня 2016
Алег Грузьдзіловіч

Вячаслава Касінерава судзяць за тое, што летась у Менску запэцкаў фарбай два білборды з выявай міліцыянтаў. Паўгода таму пры арышце амапаўцы ўжо зламалі яму за гэта сківіцу.

Папярэджаньне не падзейнічала, і ў судзе Вячаслаў працягвае гаварыць пра сваё нэгатыўнае стаўленьне да беларускай міліцыі, якое, аказваецца, пачалося з крыўды на роднага бацьку, былога міліцыянта.

Праз гэты канфлікт Вячаслаў адмовіўся ад бацькавага прозьвішча і ўзяў сабе новае, прыдуманае. Для бацькі, пэўна, гэта быў моцны ўдар, аднак учора, калі яго выклікалі ў суд у якасьці сьведкі, бацька Вячаслава адмовіўся сьведчыць супраць сына. Нагадваю пра гэта Вячаславу пасьля судовага паседжаньня, але ён няўмольны — з бацькам у яго разрыў, нічога не даруе.

Колькі ж год гэтаму максымалісту? 27, і ў яго ёсьць паўтарагадовая дачка.

— Вячаслаў, чаму і як ты прыдумаў такое прозьвішча?

— Касінераў — гэта мой умоўны герой. Вельмі паважаю беларускіх змагароў з тыраніяй, барацьбітоў за незалежнасьць, Кастуся Каліноўскага і ягоных паўстанцаў, якіх лічу найлепшым прыкладам таго, кім мусяць быць беларусы. Касінеры — гэта сяляне, якія з косамі пайшлі ваяваць супроць цар-

скіх стрэльбаў. Змагаліся за волю, за сваю зямлю. У жыцьці я нідзе такога прозьвішча не сустракаў і як гісторык нідзе такога не знайшоў, але для мяне гэта сымбалічнае прозьвішча, як асэнсаваны шлях жыцьця.

— Калі вы мянялі прозьвішча, ці былі цяжкасьці?

— Асаблівых не было. Толькі прапаноўвалі ўзяць прозьвішча блізкага сваяка, але мяне нічога не задаволіла, я ўжо выбраў. І цяпер Касінераў ня толькі я. Касінерава мая жонка і мая дачка Аліса, якой ўжо 1 год і 8 месяцаў.

— У вас ужо вялікае дзіця. А як вы яго зьбіраецеся ўтрымліваць? Скончыцца суд, вам пэўна дадуць нейкі ўмоўны тэрмін, інакш бы не пачыналі гэты працэс, у кожным выпадку ў вас будзе судзімасьць, а ў беларускіх умовах гэта воўчы білет. І як выжываць?

— Ведаеце, людзі выжывалі і ў горшых умовах, асабліва тыя героі, зь якіх я бяру прыклад. Не баяліся за свае словы і думкі ісьці на шыбеніцу. А што праца? Рукі-ногі ёсьць, знайду працу. А дачку імкнуся ня проста расьціць, але і выхоўваць, бо чалавек мусіць мець трывалую жыцьцёвую пазыцыю. Тут галоўнае быць прыкладам для дзяцей. Падрасьце — абавязкова будзем шукаць для яе беларускамоўную школу.

— Ці не давядзецца для гэтага зьехаць зь Беларусі? Дарэчы, за мяжу не зьбіраецеся? Хаця б папрацаваць?

— Хіба на нейкі час, як вы кажаце — папрацаваць. Але ўсё роўна... Якія б у нас ні былі лібэртарыянскія погляды, усё ж мы вельмі любім радзіму і нам трэба быць тут. Хто акрамя нас? Па такім

прынцыпе. Мы і апынуліся тут, у судзе, бо акрамя нас ім не было ўжо каго хапаць.

— Адкуль у вас любоў да Радзімы? Хто вас гэтак выхаваў?

— Ня ведаю. Пэўна, мушу падзякаваць маці, вы вось бачылі на судзе, якая яна, які ў яе баявы характар. А яшчэ пэўна альма-матэр — Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Скончыў я гістарычны факультэт — агульная гісторыя, спэцыялізаваўся на заходніх славянах. Ведаеце, я зразумеў, што ўсё, што мы ня любім, гэта мы хутчэй за ўсё проста ня ведаем. А калі пачынаеш паглыбляцца, вывучаць, хутчэй за ўсё ты гэта палюбіш. І вось як гісторык я, вядома, ня мог не палюбіць Беларусь.

— Ваша маці на судзе казала, што вы працавалі ў музэі, але мусілі сысьці. Дзе працавалі і чаму сышлі?

— Працаваў у Строчыцах, у Музэі народнай архітэктуры і побыту. Ведаеце, там вельмі таленавітыя людзі, проста героі, бо працуюць за зусім малыя грошы, але ўпарта робяць сваю справу. Мне ж давялося сысьці, бо нарадзілася дачка, а грошай не хапала. Уладкаваўся ў краму кладаўшчыком, там плацілі ўдвая больш, чым у музэі. Праўда, пасьля арышту адтуль звольнілі. Далі магчымасьць крыху яшчэ папрацаваць, а ўвосень звольнілі. Цяпер перабіваюся выпадковымі заробкамі, неяк трымаюся.

— Якія падзеі ў найноўшай гісторыі Беларусі вы лічыце вызначальнымі для фармаваньня вас як асобы? Ці Плошча ёсьць сярод гэтых падзеяў?

— Плошча ў тым ліку, так. Плошча 2010 году, бо ранейшую Плошчу, 2006 году, я не асабліва ўсьведамляў. Але на мяне большы ўплыў мела не сама Плошча, а масавыя затрыманьні актывістаў, у тым ліку актывістаў анархісцкагу руху, погляды якіх

мы ў пэўнай ступені падзяляем. Тое, што зь імі рабілася, мы ведалі, за імі сачылі і праводзілі акцыі салідарнасьці з усімі палітычнымі зьняволенымі, нягледзячы на іх палітычныя погляды. Гэта вельмі на нас адбілася. Скажу гэтак: тое, што зь імі рабілі там — нібыта рабілі з намі тут. Таму мы не маглі сядзець, склаўшы рукі, рабілі нешта і самі патрапілі ў падобную сытуацыю. Спадзяюся, некага гэта таксама натхніць на нешта.

— Але вы не прадстаўляеце нейкую пэўную арганізацыю, ці ўсё ж такая ёсьць?

— Мы як ініцыятыўная група, ініцыятыва. Але ў нас ужо ёсьць назва — „Пошуг“. Пошуг — гэта рэдкае беларускае слова, яно значыць выбух сьвятла, вялікая ўспышка. Мы прытрымліваемся блізкіх да анархізму поглядаў, але для нас асноўнае — барацьба супроць этнацыду, супроць зьнішчэньня беларускай культуры, наступу на яе расейшчыны. У пэўнай ступені нас каталізавалі падзеі ва Ўкраіне. Як людзі, якія асабліва любяць беларускую культуру, мы не маглі на гэта не адгукнуцца.

## Кастусь Каліноўскі: гістарычная постаць і міт, легенда

8 лютага 2016

У менскай галерэі „Ў“ Беларускі калегіюм зладзіў прэзэнтацыю кнігі „Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі“ („Kastuś Kalinoŭski and the Nation-Building Process in Belarus“).

Пытаньні ўзаемадзеяньня навуковага і папулярнага асэнсаваньня мінулага на прыкладзе ад-

ной з найярчэйшых асобаў беларускай гісторыі абмяркоўваліся на міжнароднай канфэрэнцыі ў Лёндане ў сакавіку 2014 году. Паводле матэрыялаў канфэрэнцыі і выйшла гэтая кніга.

У прэзэнтацыі ўзялі удзел Алесь Смалянчук, рэдактар кнігі, доктар гістарычных навук, Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук; Ірына Дубянецкая, доктар тэалёгіі, акадэмічны дырэктар Беларускага калегіюму; Алесь Краўцэвіч, доктар гістарычных навук, Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў (Варшава); Андрусь Унучак, кандыдат гістарычных навук, Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Андрэй Казакевіч, доктар палітычных навук, Інстытут „Палітычная сфэра".

Гісторык Андрусь Унучак вывучаў, як адзначаўся 120-гадовы юбілей Каліноўскага ў 1958 годзе:

— Каліноўскага шанавалі пры ўсіх уладах — пры немцах, пры БНР, пры бальшавіках. Падчас Другой сусьветнай вайны Пятрусь Броўка піша верш. Імем Каліноўскага хацелі цэлую дывізію назваць, называлі партызанскія атрады. Шанавалі Каліноўскага і пры немцах — у 1944 годзе ў Менску назвалі вуліцу, шануюць у эміграцыі, шануюць і пасьля вайны. У 1958 годзе ў Сьвіслачы ўсталёўваецца помнік Каліноўскаму.

Ірына Дубянецкая — аўтарка артыкулу „Рыфмуюцца Кастусь і Беларусь: стварэньне героя ў працэсе нацыятворчасьці":

— Што Кастусь Каліноўскі думае пра Беларусь, мы ня ведалі — усё толькі інтэрпрэтацыя. Каліноўскі ў Беларусі — літаратурны герой № 1. Пры гэтым вакол Каліноўскага ў літаратуры спрэчак няма — толькі аднадушная гераізацыя, услаўленьне яго як найярчэйшага пэрсанажа, сумленнага,

шчырага, пасьлядоўнага змагара — усе пазыцыі зьбіраюцца разам (і сацыяльныя, і нацыянальныя). Кастусь кліча за сабой, яму вераць. Яго сьмерць таксама ўплывае на краіну. Гераізацыя сьмерці Каліноўскага надзвычай вялікая ў літаратуры (чаго раней не было ў беларускай традыцыі).

Другая лінія: Кастусь — малады чалавек, які рана памёр. Каханьне было, яно няспраўджанае — да Марысі. Паводле напалу трагічнасьці — ён непараўнальны, — адзначыла Ірына Дубянецкая.

Падчас прэзэнтацыі разгарэлася і вострая дыскусія: як ставяцца да Каліноўскага польскія і літоўскія гісторыкі, ці лічаць палякі і літоўцы беларускага нацыянальнага героя сваім.

## Мёртванароджаны ордэн Каліноўскага

10 сакавіка 2016
Сяргей Астраўцоў

З ордэнам Каліноўскага адбылася зусім вартая жалю гісторыя. З прысмакам зьдзеку ці насьмешкі.

Ордэн нацыянальнага героя беларусаў быў скасаваны ў 2004 годзе. Аднак аб яго існаваньні так ніхто і не даведаўся. Гэта быў падпольны ордэн. Ці сакрэтны. Па сваёй сутнасьці. Хоць і цалкам дзяржаўны. Аднак ніякіх падпольшчыкаў у наяўнасьці быць не магло. І ордэн кануў у лету.

Аляксандар Лукашэнка зацьвердзіў яго 15 студзеня 1996 году. Палажэньне аб ордэне было прынятае Вярхоўным саветам раней: 13 красавіка 1995-га. 18 траўня 2004-га зьявіўся закон „Аб дзяржаўных узнагародах“, ордэна Каліноўскага там ужо не было.

Гэтым дакумэнтам прызнавалася, што такі самы закон, прыняты ў 1995-м, прызнаецца „страціўшым сілу“. Падпісана Лукашэнкам.

Ну як жа так? Бязглузьдзіца. Фарс! Адна з галоўных узнагарод ніколі не ўручалася. Не знайшлося вартага кандыдата. Ніводнага. Даваць ордэн мелі за самаахвярныя ўчынкі, мужнасьць, за храбрасьць. Што цалкам зразумела. Бо такім быў сам Каліноўскі. Адзначаць зьбіраліся за адпаведныя паводзіны пры затрыманьні злачынцаў, на пажары, у час надзвычайных абставінаў. За выкананьне з рызыкай для жыцьця воінскага, службовага абавязку. І гэтак далей. Дыяпазон быў досыць шырокі.

Дык што, у нас усё было ў ажуры? Не было падстаў і не было кандыдатаў для ордэна Каліноўскага? Паверыць цяжка. Але калі ўлічыць, што Кастусь быў кансьпіратарам, то можна дапусьціць, што ім адзначалі, напрыклад, „байцоў нябачнага фронту“? Хто выконваў асабліва небясьпечныя заданьні. Каманды „альфа і амэга“, скажам? Нашчадкі любімага народам Штырліца? Чые твары і прозьвішчы ў любой краіне трымаюцца пад сакрэтам? Тлумачэньне магло быць цалкам абгрунтаваным. Таму мы й не даведаліся аб сваіх сучасных героях-каліноўцах, паколькі ўказ аб узнагароджаньні сам меў „грыф“…

Але штосьці падказвае, што ніякіх такіх герояў у нас не было, а проста была праяўленая маладушнасьць. У любым разе падзея ўнікальная! Восем гадоў трымаць ордэн у загашніку і ні разу не прышпіліць! У чым жа прычына? Страх Каліноўскага? Рэўнасьць да яго?..

На жаль, начальства не ўсьведамляе сабе (а можа, наадварот, усё выдатна разумее?) таго, што беларусаў прыўзьнялі ва ўласных вачах. Ордэн Кастуся!

Патрымалі і апусьцілі назад… Канечне, я маю на ўвазе сьвядомую частку грамадзтва, ня тую, якой па барабану — Каліноўскі будзе на ордэне або які-небудзь Гіркін.

Крыўдна, абразьліва. Але калі глядзець над сытуацыяй, то можна нейкім чынам нават парадавацца. Ну сапраўды: уявіце, ён будзе саджаць за „Люблю Беларусь“, а яму Кастуся на грудзі. Нашага нацыянальнага героя! Жах. Ганьба. Так што, як добра, што мы пазбаўленыя такой недарэчнасьці.

Існавала яшчэ адна магчымасьць: абмен узнагародамі паміж кіраўнікамі дзяржаў. Але наш звычайна езьдзіць у Сочы і часам у эміраты. Ордэн Каліноўскага на грудзях шэйха? Эклектыка. А Пуціну як прышпіліш? Ён скажа: у мяне ордэн Суворава, сам Сталін зацьвердзіў. А ў цябе каго — Каліноўскага? Які супраць цара? Можа гэтага і баяўся якраз?

Ордэн Кастуся Каліноўскага быў скасаваны 16 чэрвеня 2004 году. Што за дзень, што за год? Адбыўся Сусьветны рускі нацыянальны сабор. Тэма сходу: Расея і праваслаўны сьвет. Уладзімір Уладзіміравіч працягнуў шляхам выбараў свае паўнамоцтвы прэзыдэнта на наступны тэрмін. Вугоршчына, Кіпр, Латвія, Літва, Мальта, Польшча, Славаччына, Славенія, Чэхія, Эстонія дачакаліся далучэньня да Эўразьвязу.

У Трэптаў-парк вярнулася пасьля дарагога рамонту (паўтара мільёна эўра) статуя савецкага салдата зь дзяўчынкай на руках, вызваліцеля ад карычневай чумы. Чорт, наколькі надзейней было б мець ордэн салдата-вызваліцеля! Гэта не Каліноўскі. І Пуцін ня быў бы супраць, салдат жа са сталіцы БССР прызываўся. Ордэн імя помніка ў Трэптаў-парку, якая крэатыўная думка! Позна піць шампанскае.

На пачатку чэрвеня Пуцін — шаноўны госьць на сьвяткаваньні 60-годзьдзя высадкі заходніх хаўрусьнікаў у Нармандыі. У сябрыне прэзыдэнта Шырака, каралевы Нідэрляндаў Бэатрыкс ды іншых моцных сьвету. Ну, а што 16-га было, калі ордэн Каліноўскага перастаў існаваць? 16 чэрвеня ВВП быў зоркай на сустрэчы Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва, у Ташкенце. Падпісаў з Карымавым дамову аб стратэгічным партнэрстве. Вельмі важкая дамова! З Пуціным трэба, не з Каліноўскім. Усё, пазбыцца Кастуся раз і назаўжды. І больш не ўспамінаць, не баяцца ўзнагародзіць.

Хаця мець на грудзях ордэн нацыянальнага героя — якая прыемнасьць! Ды яшчэ бывае „два ў адным“, дзьве прыемнасьці. Кубінскі ордэн Хасэ Марці да яго мелі вядомыя людзі: Альендэ, а затым і Чаўшэску, Брэжнеў, Гонэкер, Кім Ір Сэн, Цэдэнбал, Гандзі, Ярузэльскі, Мугабэ, Мандэла. Нарэшце друг Чавэс, а на наступны год і сам Лукашэнка (2000). Падумаць сёньня толькі: а Пуцін толькі ў 2014-м!

Ці ордэн вызваліцеля Балівара ўзяць. Яшчэ цікавей. У наступнай чарговасьці атрымалася: Лукашэнка (2007), Мядзьведзеў (2008), Пуцін (2010).

Выпадкі са скасаваньнем ордэнаў бываюць. Але яны вельмі рэдкія. І ніякім чынам не нагадваюць беларускі. Італьянскі ордэн Віторыё Вэнэта быў прызначаны для тых, хто ваяваў у Першую сусьветную ня менш за паўгода. У 2010-м яго афіцыйна скасавалі. Прычына: не засталося ў жывых ніводнага кавалера гэтай узнагароды. Сама вайна, за якую яго давалі, скончылася на той момант 92 гады таму, і новых кандыдатаў для ордэна яўна не магло быць.

Вельмі чульліва атрымалася ў італьянцаў, па-людзку. І вельмі брыдка ў беларусаў.

## Рэжысэр новага фільму пра Каліноўскага: Акторы адмаўляліся, пабачыўшы сцэнар

10 сакавіка 2016

12 сакавіка ў Менску пройдзе прэм’ерны паказ фільму Валера Мазынскага „Кастусь Каліноўскі. Апошнія дні“.

У інтэрвію Свабодзе рэжысэр расказаў, дзе здымаўся фільм і чаму некаторыя акторы пасьля прачытаньня сцэнару адмаўляліся ўдзельнічаць у праекце.

— Кіно здымалі паўгода. Можна было, вядома, і хутчэй, але ў нашых умовах так не атрымліваецца. Заўсёды ёсьць людзі, якія пагаджаюцца на ўдзел у такіх праектах. Разам з тым некаторыя разумеюць, што яны рызыкуюць. Ці думаюць, што рызыкуюць. У мяне была сытуацыя, што акторы пагаджаліся, але пасьля адмаўляліся — калі прачыталі сцэнар. З аднаго боку, акторы заўсёды хочуць паўдзельнічаць, і тут не пытаньне аплаты — шмат хто згодны здымацца безь яе. Зь іншага, яны разумеюць, што ўдзел у такім праекце — гэта рызыка. У галоўнай ролі актор Купалаўскага тэатру Раман Падаляка. Іншыя акторы — альбо зь іншых тэатраў, альбо тыя, хто ўжо не працуе як актор. Некаторыя працуюць у бізнэсе, але ўсё роўна застаюцца акторамі і вось пагадзіліся здымацца ў „Каліноўскім“. Гэта людзі, якіх я даўно ведаю, у мяне ёсьць пэўная база актораў.

— Вы кажаце, што некаторыя акторы адмовіліся здымацца ў фільме, калі прачыталі сцэнар. Што там такога крамольнага?

— Гэта не звычайны дакумэнтальны фільм. Ён атрымаўся дакумэнтальна-мастацкім. У ім ёсьць і

сучаснасьць, гучаць размовы пра актуальную рэчаіснасьць і актуальныя падзеі, закідваецца мосьцік у сёньняшні дзень. Нават не асацыяцыі, а простыя паралелі.

## Што б сказаў Каліноўскі, калі б даведаўся, што яго імя пішуць па-расейску?

23 сакавіка 2016

У Магілёве актывісты Таварыства беларускай мовы нагадалі жыхарам вуліцы імя Каліноўскага, хто ён такі.

ТБМаўцы раздалі мінакам і раскідалі па паштовых скрынях інфармацыйныя ўлёткі пра нацыянальна-вызвольнае паўстаньне 1863–1864 году.

— Мы ня першы год праводзім такія асьветніцкія акцыі. Пачалі іх, як даведаліся, што жыхары вуліц, названых імёнамі славутых беларусаў, ня ведаюць, хто яны такія, — кажа старшыня магілёўскай суполкі ТБМ Алег Дзячкоў. — Сёньня выбраліся на вуліцу імя Каліноўскага. 2 лютага ў яго быў дзень нараджэньня, а 22 сакавіка яго пакаралі сьмерцю. Вуліца, названая ў гонар кіраўніка паўстаньня, даволі вялікая. Давялося пабегаць, але ўсё ж нагадалі хто ён такі жыхарам і ўшанавалі такім чынам ягоную памяць.

Вуліца імя Кастуся Каліноўскага знаходзіцца ў мікрараёне Казіміраўка. Гэта выезд з абласнога цэнтру ў бок Менску. Назва вуліцы на шыльдах пададзеная выключна па-расейску. Інфармацыйнай дошкі пра нацыянальнага героя, у гонар якога названая вуліца, няма.

— Гэта вуліца старая, і шыльды вывешваліся, відаць, яшчэ за савецкім часам па-расейску. Аднак шыльды выглядаюць новымі. Ёсьць тут нядаўна створаная вуліца, названая ў гонар Скарыны. Шыльды на ёй таксама расейскамоўныя, — абураецца ТБМавец. — Трэба будзе зьвярнуць увагу чыноўнікаў гарвыканкаму на гэтую прыкрую акалічнасьць. Калі б Каліноўскі і Скарына ўбачылі, што іх імёны пададзеныя на расейскай мове, дык пэўна дужа зьдзівіліся б.

Акцыя ТБМаўцаў доўжылася больш за гадзіну. Інцыдэнтаў ні з жыхарамі, ні зь міліцыяй не было.

## Аляксандар Фядута: Мэмуары Мураўёва варта прачытаць і спаліць

12 красавіка 2016
Міхась Скобла

Выдавецтва „Лімарыюс“ выдала мэмуары графа Міхаіла Мураўёва, якога найбольш ведалі па мянушцы „Вешальнік“. Гэта ён падпісаў сьмяротныя прысуды Кастусю Каліноўскаму і яшчэ 127 паўстанцам. Чым беларускаму чытачу могуць быць цікавыя ўспаміны ката? Госьць перадачы — укладальнік кнігі Аляксандар Фядута.

**Скобла**: Аляксандар, вось жа кажуць, што мэмуарамі чалавек у старасьці выпраўляе грахі маладосьці. Грахі Мураўёва мы ведаем. А ва ўспамінах ён сябе якім паказвае?

**Фядута**: Калі чалавек піша мэмуары ў старасьці, гэта значыць, што ён стварае ўласны вобраз такім, якім ён хоча застацца ў памяці нашчадкаў. Міхаіл

Мікалаевіч Мураўёў, граф Віленскі, вельмі хацеў застацца ў памяці нашчадкаў чалавекам жорсткім, прынцыповым абаронцам Расейскай імпэрыі, унутраным, я б сказаў, апазыцыянэрам да пецярбурскай улады, які не баіцца спрачацца з самім імпэратарам. І яшчэ — чалавекам, які цалкам адпавядае ўласнай рэпутацыі, якую яму стваралі ягоныя ворагі, зь якімі ён змагаўся — найперш жыхары былой Рэчы Паспалітай і расейскія палітычныя эмігранты. Нагадаю, што ўспаміны Мураўёва выходзілі ў Польшчы, прычым двойчы. Упершыню іх надрукавалі ў перакладзе на польскую мову яшчэ ў 1898 годзе, без камэнтароў. Падрыхтаваў тое выданьне, наколькі я разумею, Тадэвуш Корзан, з паходжаньня мянчук, вядомы гісторык. Другі раз яны друкаваліся ў 1990 годзе — таксама без камэнтароў. Такім чынам, наша выданьне — фактычна, першае камэнтаванае, якое ўлічвае беларускія, польскія, расейскія і часткова літоўскія крыніцы.

**Скобла**: Вы сказалі пра жорсткасьць Мураўёва, пра тое, што ён і ў памяці нашчадкаў хацеў застацца жорсткім. 128 сьмяротных прысудаў, тысячы сасланых на катаргу... Як для запалохваньня — гэта яўна зашмат. Гэта ўжо нейкая хвараблівая жорсткасьць, паталягічная.

**Фядута**: Не было ў Мураўёва ніякай паталёгіі. Існавала заканадаўства Расейскай імпэрыі, і Мураўёў цалкам кіраваўся ім і тымі паўнамоцтвамі, якія ў яго былі як у генэрал-губэрнатара і фактычнага намесьніка Паўночна-Заходняга краю. Ішла карная апэрацыя, фактычна ён узначальваў карнікаў. І ён кіраваўся тымі выракамі, якія выносілі вайскова-палявыя суды. Калі чалавека лавілі са зброяй у руках, калі было даказана, што ён змагаўся

супраць імпэрскай арміі, калі ён удзельнічаў у партызанскіх атрадах, то, зразумела, быў сьмяротны прысуд. І тое, што Мураўёў не зьмякчаў гэтыя прысуды, — гэта вядома. Ён прыехаў сюды, ведаючы, чаго ад яго чакалі. Пецярбурская ўлада чакала, што Мураўёў будзе цалкам адпавядаць сваёй мянушцы „Вешальнік“, і ён сьвядома ёй адпавядаў. Ягоны папярэднік Уладзімір Назімаў сам адмыслова не зьмякчыў сьмяротныя прысуды двум ксяндзам, спадзеючыся, што Мураўёў скарыстаецца гэтай магчымасьцю, каб давесьці віленскай эліце, што зь ім можна мець справу. Але Мураўёў падпісаў сьмяротныя прысуды. Існуюць успаміны Якуба Гейштара, аднаго зь лідэраў паўстанцаў, дзе ён узгадвае, як тое сьмяротнае пакараньне ўзрушыла натоўп, што прыйшоў на плошчу і да канца спадзяваўся, што павешаньне ўсё ж будзе адменена. Гейштар нават узяў з сабой сына, і зусім малы хлопец бачыў, як вешалі ксяндзоў.

**Скобла**: Мураўёў служыў на высокіх пасадах, сыходзіў у адстаўку, зноў служыў... Запатрабаванасьць Мураўёва ў 1864 годзе — гэта запатрабаванасьць ка́та?

**Фядута**: Так. Чаму Аляксандар II адклікаў папярэдніка Мураўёва Назімава? У Назімава была рэпутацыя міратворцы, ён ніколі не дазваляў крыўдзіць эліту. І таму ў Пецярбургу лічылі Назімава адным з тых, хто вінаваты ў антыімпэрскіх настроях на гэтых тэрыторыях. Менавіта таму замест яго быў прысланы чалавек, якога ва ўладзе не любілі, які быў вядомы сваёй жорсткасьцю, якога, скажам так, ідэалягічна было не шкада. Бо Аляксандар II вельмі не любіў Мураўёва, і Мураўёў не любіў Аляксандра II. І менавіта таму адзін пасылае,

а другі думае: „Ты лічыш мяне катам, дык я буду катам, бо адказваць за ўсё будзеш і ты таксама“. Што і адбылося. Мураўёў памёр уласнай сьмерцю, а Аляксандра II забіў беларус Ігнат Грынявіцкі.

**Скобла**: Мяне зьдзівіла, што ў сваіх мэмуарах Мураўёў толькі аднойчы згадвае Кастуся Каліноўскага.

**Фядута**: Разумееце, той погляд, якім мы глядзім на тую або іншую гістарычную постаць, можа вельмі адрозьнівацца ад поглядаў сучасьнікаў. Хто такі Каліноўскі для нас? Гэта сапраўдны змагар, нацыянальны герой. Хто такі ён для Мураўёва? Усяго толькі адзін з паўстанцаў.

**Скобла**: І для Мураўёва ён усё ж — кіраўнік мяцяжу ў Краі.

**Фядута**: Для Мураўёва галоўны вораг — ня той, хто кіраваў мяцяжом у Краі. Для яго галоўныя ворагі, зь якімі ён змагаўся, сядзелі ў Пецярбургу. Большая частка яго ўспамінаў — гэта апісаньне таго, як ён пярэчыць ураду, як урад яму перашкаджае наводзіць тут парадак. Вось што для яго галоўнае. З другога боку, як тут не прыгадаць цудоўнае апавяданьне нобэлеўскага ляўрэата Анатоля Франса „Понцій Пілат“. Там Пілат расказвае гісторыю свайго жыцьця, і суразмоўца ў яго пытаецца: „Спадар пракуратар, а вы помніце, быў такі Ісус?“ „Ня помню“, — адказвае Пілат. І ён сапраўды ня помніў. Для яго Ісус — гэта ўсяго адзін дзень жыцьця. Вось так і для Мураўёва прысуд Каліноўскаму — гэта ўсяго адзін дзень жыцьця, а для нас — гераічная старонка нашай гісторыі.

**Скобла**: У сёньняшніх школьных падручніках па гісторыі Беларусі генэрал Мураўёў названы „таленавітым адміністратарам“. Калі б вам было

прапанавана падрэдагаваць тыя падручнікі, што б вы напісалі?

**Фядута**: Я напісаў бы так: Карную апэрацыю на тэрыторыі тагачаснага Паўночна-Заходняга краю ўзначальваў вядомы сваёй жорсткасьцю генэрал Міхаіл Мураўёў. За пасьпяховую карную апэрацыю ён атрымаў графскі тытул і прыдомак „Віленскі“. Усё. Можна гаварыць пра яго матывы, вызначаць, чым і як ён кіраваўся, але ўсё гэта — элемэнты карнай апэрацыі. А тое, што ён быў „таленавіты адміністратар“... У свой час ён паказаў сябе сапраўдным гуманістам, калі ў 1820-я гады падчас голаду на Смаленшчыне зьбіраў грошы, каб карміць сялянаў. І што, гэта павінна неяк зьмяніць наш погляд на тое, чым ён займаўся ў якасьці кіраўніка карнікаў? Адно другога ня тычыцца.

**Скобла**: На сумленьні Мураўёва — сотні загубленых жыцьцяў, і нават „Энцыкляпэдыя гісторыя Беларусі“ не забываецца на ягоную мянушку. Але чаму яго не любілі ў Расеі, пры двары? Пецярбурскі генэрал-губэрнатар публічна называў Мураўёва „людаедам“. Ня кажучы ўжо пра тыя характарыстыкі, якія Мураўёў атрымаў ад Аляксандра Герцэна.

**Фядута**: Тут трэба ўлічваць, што 1860-я гады — час адноснай адлігі ў расейскім грамадзтве, якая настала пасьля сьмерці Мікалая І. Пры Аляксандру ІІ уплывовымі зрабіліся сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку замежныя, эмігранцкія. Калі паспрабаваць знайсьці паралелі, то „Колокол“ і „Полярная звезда“ Герцэна — гэта нашы сучасныя „Хартыя“ і „Беларускі партызан“. І калі Мураўёў зразумеў, што прайграе бой за ўласную рэпутацыю ў Эўропе, ён пачаў працаваць на рэпутацыю ў Расеі. І ён перамог, бо толькі адзіночкі-інтэлектуалы выступалі зь яго

нэгатыўнымі ацэнкамі ў Расеі. А народ зьбіраў грошы на помнікі Мураўёву пасьля яго сьмерці. І на віленскі помнік, які быў пастаўлены ў 1898 годзе, былі сабраныя грошы, каб ён быў пастаўлены менавіта ў Вільні — як адказ на помнік Адаму Міцкевічу. Гэты факт выклікаў абурэньне ў студэнтаў Кіеўскага ўнівэрсытэту, але ў Пецярбургу і Маскве ніякіх маніфэстацыяў не было.

**Скобла**: Помнікі, пастаўленыя па волі і на грошы народу, не ахоўвае кругласуткава паліцыя. А помнік Мураўёву ў Вільні пільна ахоўваўся.

**Фядута**: Я пішу пра гэта ў прадмове, спасылаючыся на ўспаміны Паўліны Мядзёлкі. Яна згадвае, што пастамэнт помніка Мураўёву быў памазаны салам, і ўсе гарадзкія сабакі бегалі туды. Пасьля гэтага ўлада і была вымушана паставіць там гарадавога. А што да народных грошай... Тагачасны народ Расейскай імпэрыі — гэта таксама і Калуга з Тамбовам, дзе Мураўёва лічылі героем.

**Скобла**: Чытаючы мэмуары Мураўёва-вешальніка, немагчыма не ўспамінаць сучасную Расею. Калі Мураўёў некага хваліў, то казаў, што той чалавек „воистину русский“. А калі некага ганіў, то не абыходзіўся бяз выразаў: „космополит“, „приверженец европейских идей“. Такі дзяяч, як Мураўёў, мог бы сёньня спатрэбіцца ў Расеі?

**Фядута**: А вы паглядзіце на тых, хто сёньня кіруе Расеяй. Дый на кіраўнікоў Беларусі. Постаць Мураўёва — як матрыца, якую можна накласьці на палітыкаў той або іншай постсавецкай краіны, і мы ўбачым, як праяўляецца дзяяч, які асацыюецца з „моцнай рукой“. Ён будзе апрануты трошкі больш сучасна, будзе карыстацца трошкі іншай лексыкай, але ён абавязкова зьявіцца. У „смутныя часы“, калі

дзяржава ня ведае, як кіраваць, што рабіць і куды ісьці, зьяўляецца запатрабаванасьць у цьвёрдай і жорсткай руцэ. „Зараз мы навядзем парадак! Мы адменім усе лібэральныя рэформы, і вы ўбачыце, якой моцнай будзе наша краіна!“ — так гавораць, прыходзячы, новыя мураўёвы.

**Скобла**: Пра Паўстаньне 1863 году засталося нямала мэмуараў. Як на іхнім тле выглядаюць успаміны Мураўёва — з гледзішча факталёгіі?

**Фядута**: Калі я працаваў над камэнтарамі, самым цікавым для мяне было знайсьці тыя моманты, дзе ён сьвядома хлусіць. Напрыклад, гісторыя сьмяротнага пакараньня Зыгмунта Серакоўскага. Мураўёў кажа, як непрыстойна слабым выглядаў Серакоўскі. Але яго на плошчы не было! На плошчы быў той чалавек, якому Мураўёў дыктаваў свае ўспаміны — Масалоў. І ўспаміны Масалова былі надрукаваныя ў 1868 годзе, усяго праз два гады пасьля сьмерці Мураўёва. І Масалоў піша, як годна трымаўся Серакоўскі. Вось у мяне пазыцыя чалавека, які сьвядома ілжэ, выклікае агіду.

**Скобла**: Калі Мураўёва чытаць агідна, калі ён хлусіў, то ці мела сэнс выдаваць яго мэмуары, ды яшчэ ў такой паважнай сэрыі, як „Беларуская мэмуарная бібліятэка“?

**Фядута**: На маю думку, кожны чалавек, які займаецца гісторыяй Беларусі другой паловы XIX стагодзьдзя, мусіць раз у жыцьці прачытаць гэтую кнігу. А той, хто лічыць Мураўёва ворагам, зь якім трэба змагацца, павінен гэтую кнігу набыць, прачытаць і спаліць. Абавязкова прачытаць, паколькі бязь веданьня крыніцаў немагчыма зразумець, адкуль бярэцца ўсё гэта. Трэба чытаць, трэба разумець — я ў гэтым упэўнены.

**Зоська (Ліда)**

Не, паліць ня трэба, чытаць — так. Выдаваць з гістарычнымі камэнтарамі навукоўцаў, як выдаюць немцы дзёньнікі Гёбельса ды Майн кампф Гітлера.

## Крыж Юркойця

18 траўня 2016
Зьміцер Бартосік

У сваім дзёньніку за 1966 год, апублікаваным у часопісе „Дзеяслоў“, Уладзімер Караткевіч пісаў наступнае:

„Паўстанцкі крыж ля дарогі. Неадгабляваны, а так, нібы цэлым дрэвам. Нібы ўзяў рукамі папярочыну і выгнуў яе на ўласных магутных грудзях. Падаў, валілі некалькі разоў. Шкодзіў рознай навалачы, што некалькі разоў тут ішла. Зноў ставілі людзі. Так і ўяўляеш, што яшчэ праз сто год, калі ня зьнішчаць, папярочына будзе ледзь не над самай зямлёй. Трэ было б добра надтачыць бервяном, надтачыць добрымі шыпамі (бо ад жалезных скобаў дубу шкода) ды паставіць на ранейшую вышыню“.

Дзіўна, але нідзе ў беларускім сеціве я не знайшоў выяваў гэтага крыжа. Гэты крыж не прысутнічае на краязнаўчых і турыстычных сайтах як цікавы аб’ект. Між тым пра гэты крыж Караткевіч пачаў у свой час пісаць аповесьць і ўспомніў яго ў сваім вершы „Дом сябра“:

*І твой сьвяты і сьветлы чалавек,*
*Твой дым, і крыж магутны Аняліна,*
*Твой лубін залаты, твой лес на ўзгорках сініх*
*І стронгі ў крышталі маленькіх рэк!*

Гэта верш прысьвечаны Адаму Мальдзісу, якога я папрасіў выступіць маім праваднікам. На жаль, спадар Адам ня змог з-за сваёй загружанасьці працай скласьці мне кампанію. Я кіраваўся на мясцовасьці згодна зь ягонымі тлумачэньнямі:

— Ён стаіць на перакрыжаваньні старога тракту зь Вільні ў Астравец і дарогі на Расолы. Мой швагер Альбін пастаянна аднаўляў гэты крыж. І Караткевіча я павёў зь ягонай сымпатыяй. Ён жа не адзін прыяжджаў. Ён ня піша пра гэта. Але зь ім прыяжджала Бальчэўская, артыстка Віцебскага тэатру. Яны падарожнічалі па Прыпяці на караблі, а потым прыехалі ўдваіх да мяне. Начавалі ў гумне.

За вёскай Палушы дарога бярэ крута ўправа. І за парослай лесам высокай гарой шлях раздвойваецца. Правейшая сьцяжынка бяжыць на хутар Расолы, а вось лявейшая, згодна з тлумачэньнямі Мальдзіса, і была колішнім Каралеўскім шляхам. Зь Вільні ў Астравец. Уздоўж гэтага шляху растуць старыя бярозы. А калі за даляглядам хаваюцца драўляныя электрычныя слупы, што ідуць у бок Расолаў, дык цалкам можна ўявіць сябе падарожнікам XIX стагодзьдзя. Бо нічога, акрамя шуму цягнікоў за лесам, не напамінае пра наш час. Вакол толькі пагоркі, пералескі і палі. Ні хаты, ні чалавека.

Часам стары каралеўскі шлях ператвараецца ў змрочны калідор са старых дрэваў і хмызьняку. У жывую дэкарацыю да нейкага страшнага кіна. Нават сонечны дзень не здымае з краявіду налёту таямнічасьці. Затым дарога ідзе ўніз, да невялікай забалочанай рэчкі, каб пасьля грэблі зьнікнуць у лясным гушчары. Але крыж павінен стаяць перад рачулкай.

Крыж апеты вось у такой легендзе.

У невялікім маёнтку Аняліне жыла паненка, якую клікалі Марыся. Да яе зь Вільні прыяжджаў закаханы паўстанец. Неўзабаве паўстанца арыштавалі, і пачалося сьледзтва. Выклікалі на допыт і паненку. Празь нейкі час таго паўстанца павесілі, а Марыся ўзяла ў галаву, што гэта ўсё зь яе віны. Што нешта лішняе яна сказала на допытах. Замуж тая жанчына так і ня выйшла. Засталася ў дзеўках. Вучыла да самай сьмерці грамаце сялянскіх дзяцей. А ў памяць пра каханага паставіла высачэзны дубовы крыж.

Я блукаў па навакольлі і ніяк не хацеў зьмірыцца з думкай, што гэтага легендарнага крыжа няма. Што яго або зьнесьлі якія дурні, або перамаглі сілы прыроды. Але ў гэта верылася слаба. Бо да зьяўленьня тут Караткевіча крыж прастаяў сто гадоў. Што магло яму перашкодзіць прастаяць яшчэ гадоў пяцьдзясят? Няўжо збылося Караткевічава прароцтва і крыж ізноў перашкодзіў нейкай навалачы?

— І ён, як паслухаў гэтыя легенды, сказаў мне: „Ведаеш што, стары. Давай напішам два творы на гэтую тэму“. І я напісаў „Восень пасярод вясны“. Пра прыезд Каліноўскага ў гэты маёнтак. А Караткевіч пачаў пісаць „Крыж Аняліна“. Але не дапісаў, — завяршае расповед Адам Мальдзіс.

На зваротным шляху мне трапілася пара нестарых сялян. Кабета канчаткова пахавала мае спадзевы.

— Вось на гэтым старым шляху, перад балотам...

— Быў калісьці крыж. Драўляны, высокі крыж. Раней тут былі лясы.

Яшчэ жанчына паведаміла, што апошняя карэнная жыхарка Расолаў мне таксама нічога не раскажа. Бо нядаўна загінула страшнай сьмерцю.

— Пайшла ў лес і не вярнулася. Знайшлі яе зьвярамі разарваную. Ваўкі. Страшна было. Галава асобна, ногі асобна.

На Астравеччыне шмат жывапісных крыжоў каля скрыжаваньняў. І шмат якія крыжы неўзабаве будуць улюбёнымі ў фотарэпартэраў. Бо разам зь імі ў кадар трапляе гаргара будучай АЭС.

Але Астравеччына не засталася без паўстанцкага крыжа. Два гады таму тут зьявіўся яшчэ адзін крыж. Помнік у гонар 150-годзьдзя паўстаньня Каліноўскага. Не на скрыжаваньні дарог, а ў лесе. Нібы схаваўшыся ад вачэй. І разам з тым стаіць той крыж на высокім пагорку, які, нібы велізарны пастамэнт, падкрэсьлівае значнасьць той падзеі, у памяць пра якую той помнік пастаўлены.

Зроблены крыж з шэрага каменю, у выглядзе гіганцкага мяча, які загнаны вастрыём у зямлю. На крыжы выгравіраваны паўстанцкі пароль „Каго любіш?“ лацінкай і кірыліцай. Наверсе крыжа, гэта значыць на тронку мяча, выява „Пагоні“.

Паўстаў гэты крыж дзякуючы чалавеку, які цяпер у турме. Нібы той паўстанец зь легенды. Імя яго — Алесь Юркойць.

У 2013 годзе дзяржава нічога не зрабіла дзеля юбілею паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Ня быў пастаўлены ніводзін помнік. Ня быў экранізаваны раман Караткевіча. Вуліцам не надаваліся імёны герояў 1863 году. І гонар нацыі ў той год, па сутнасьці, уратавалі некалькі чалавек, чыімі намаганьнямі на прыгожым кургане за вёскай Слабодкай зьявіўся помнік паўстанцам. Гэта аўтар ідэі краязнаўца Алесь Юркойць, гэта фундатар Мікіта Забуга і скульптар Ігар Засімовіч. Са словаў мастака, ідэя меча-крыжа нарадзілася не адразу.

— Мінімум тры галавы пра гэта марылі. І добра, што і замоўца, і скульптар, і краязнаўца апынуліся ў адным месцы. Алесь у такіх ініцыятывах быў маторам.

Сёньня паўстанцкі крыж у Слабодцы ўжо жыве сваім жыцьцём. Вось што распавяла жанчына, якая жыве непадалёк ад помніка.

— Сюды розныя людзі прыяжджаюць. Літва, Менск. Два, тры разы на месяц нехта прыедзе.

Помнікі, якія ставяць людзі са сваёй ініцыятывы, больш даўгавечныя за самыя цьвёрдыя і жалезабэтонныя манумэнты, пастаўленыя дзяржавай. Колькі бэтонных леніных, нібы аблезлыя зомбі, стаяць па краіне і чакаюць выратавальнага зьнішчэньня? А Крыж Аняліна, нават зьніклы, працягвае хваляваць неабыякавыя душы. Як і паўстанцкі крыж у Слабодцы.

## Да ўгодкаў перамогі над расейскімі акупантамі ўзьнялі бел-чырвона-белыя сьцягі

23 траўня 2016

Актывісты з Баранавічаў, Берасьця, Кобрыні сабраліся ў Мілавідах каля помніка ў гонар найбуйнейшай бітвы паўстаньня 1863 году.

Прысутныя ўсклалі кветкі ды запалілі зьнічы каля капліцы і валуноў з шыльдамі ў гонар удзельнікаў паўстаньня 1863 году. Актывісты прыбраліся каля гэтых помнікаў, а таксама каля крыжа-помніка загінулым расейскім жаўнерам, які стаіць праз дарогу ад капліčкі ў гонар паўстанцаў.

Каля помніка ўзьнялі бел-чырвона-белыя сьцягі, што прыцягнула ўвагу праяжджаючых аўто, кіроўцы некаторых зь якіх спыняліся і распытваліся, што за сьвята адбываецца.

Акцыя адбылася без інцыдэнтаў, прадстаўнікі праваахоўных органаў у Мілавідах не прысутнічалі.

Пасьля прыбіраньня і прамоваў каля помніка паўстанцам актывісты зладзілі круглы стол на сядзібе ТБМ у Русіне.

## Ліда: Шэсьць кандыдатаў ад БНФ ушанавалі памяць паўстанцаў 1863 году

22 жніўня 2016

У касьцёле Сьвятой Сям'і на вуліцы Тухачэўскага ў Лідзе прайшла беларускамоўная імша. На ёй прысутнічалі шэсьць зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты ад Партыі БНФ.

Гэта Станіслаў Суднік (Лідзкая 55-я акруга), Валер Мінец (Горадзенская Занёманская акруга), Міхась Бурачэўскі (Івейская акруга), Уладзімер Круцікаў (Наваградзкая акруга), Вітольд Ашурак (Дзятлаўская акруга), Сяргей Трафімчык (Шчучынская акруга). Усе вылучаныя ад Партыі БНФ кандыдаты — сябры Таварыства беларускай мовы.

На імшы ўспаміналі ксяндза Адама Фалькоўскага, які зачытаў у храме паўстанцкі маніфэст, за што царскія карнікі пакаралі яго сьмерцю.

Пасьля кандыдаты праехалі па месцах, якія ў Лідзе зьвязаныя з паўстаньнем. Гэта стэля паўстанцкаму камандзіру Людвіку Нарбуту каля касьцёла ў мікрараёне Індустрыяльны, камень на месцы

расстрэлу ксяндза Фалькоўскага ў гарадзкім парку і магіла Валерыі Ціхановіч на старых каталіцкіх могілках.

Станіслаў Суднік сказаў Свабодзе, што памяць паўстанцаў 1863-га ўшаноўваюць кожны год.

Звычайна ўшанаваньне прымяркоўваюць да 27 ліпеня — дня абвяшчэньня сувэрэнітэту Беларусі. Але сёлета ўлады не далі на гэта дазволу, сказаў Суднік:

— Спасляліся на гарачыню, што вакол Крыжоў пажаранебясьпечная тэрыторыя, навокал расьце жыта.

Сёлета падзею вырашылі прымеркаваць да 25-х угодкаў наданьня статусу канстытуцыйнага закону Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, сказаў Станіслаў Суднік. Гэтая падзея адбылася 25 жніўня 1991 году.

## Калі народ зажыве шчасьліва

14 верасьня 2016
Сяргей Дубавец

У часе электаральных кампаніяў, калі абвастраюцца спрэчкі пра народ і што трэба Беларусі, мне прыходзяць на памяць словы Кастуся Каліноўскага: „Толькі тады, народзе, зажывеш шчасьліва, калі над табою маскаля ўжо ня будзе!“

Некаторыя крыўдуюць на слова „маскаль“. Насамрэч крыўдаваць трэба на слова „над“. „Над“ — гэта значыць, што народ „пад“.

У адрозьненьне ад радыкальных змагароў з усім на сьвеце, я не магу сказаць, што „маскалі“ (расей-

ская нацыя) — заганныя ў сваёй сутнасьці. На маю думку, такой ці інакшай нацыю робяць абставіны. Таму ў словах Каліноўскага няма абразы расейцаў. Але чаму мы павінны быць пад імі, а ня самі па сабе?

Між тым, гэтае „пад“ выяўляецца на кожным кроку нашага беларускага існаваньня.

Яно — у безумоўным вяршэнстве расейскай мовы — пасьля рэфэрэндуму 1995 году. Нічога ня маю супраць расейскай, як і іншай якой мовы. Але ўсё нутро пратэстуе супраць гэтага „пад“, якое ўелася ў наша жыцьцё так глыбока, што нават у польскім консуляце ў Менску беларусу кажуць: „Кто вам разрешил заполнять анкету на белорусском языке?“

Яно — у вяршэнстве расейскіх прапагандысцкіх тэлеканалаў над беларускімі, якія і самі, прыгнуўшы галаву, у кожных навінах паведамляюць пра надвор’е на Калыме. Для дзяцей гэта пусты гук, а для тых, хто трохі ведае не такую даўнюю гісторыю, гэта гучыць як „… И, наконец, о погоде в ГУЛАГе“.

Яно — у шматстайных маскоўскіх модах, у „моднай“ рэдукцыі беларускамоўных, у называньні дзяцей на маскоўскі манер — Стас, Яна, Влад замест сваіх беларускіх — Стась, Яня, Уладзя, у нічым не вытлумачальнай прысутнасьці звычайных, але расейскіх прадуктаў у краме — цукру, ёгуртаў, крупаў, мукі, піва…

„Масква ў галаве“, як пяе Кася Камоцкая, сустракаецца паўсюдна і заўсёды, нязьменна прыводзячы да нонсэнсаў і непісьменнасьці. Вось толькі што ў радыё прарэклямавалі: „Новое на Куфаре“. Ну ўзялі беларускі куфар за назву папулярнага парталу, дык скланяйце яго правільна, у тым ліку па-расейску. Вы ж ня кажаце „на ковёре“. І гэта прыклад, выхаплены з плыні тысяч падобных.

У беларусаў у дачыненьні да сябе, свайго жыцьця, народа, краіны быццам прапала астатняя крытычнасьць. Начальства кажа нешта — хай будзе так, тэлевізар сказаў — хай будзе так, людзі гавораць — хай будзе так. Але гэткая атрафія ніколі не бывае бясконцай і бяскрыўдна не сканчаецца.

Сёньняшняя палітыка Масквы вераломная, ідзе міма правіл, міма дамоўленасьцяў. Галоўнае — памеціць тэрыторыю, увязацца ў бойку, падмяшаць табе чаго-небудзь у што-небудзь, а там разьбярэмся.

„Маскаль над табой“ ня толькі звонку. Найбольш цяжкая форма, калі ён унутры. Гэта форма звыклага за шмат гадоў, а таму „нармальнага“ і адзіна прымальнага рабства, якое агрэсіўна адмаўляе каштоўнасьць чалавека, гэта значыць, здаровы розум. Жыць „пад“ па-свойму ўтульна, адмовіўшыся ад богам дадзенага шчасьця свабоды, якое ведаюць нават птушкі. Адмовіўшыся ад шчасьця роўнасьці ўсіх з усімі і ва ўсім. (Якая ж роўнасьць, калі ты „пад“?) Адмовіўшыся ад шчасьця братэрства, якое даецца праз адчуваньне сябе адзіным народам, адзінай нацыяй.

**Inhvar**

Чытаеш С. Дубаўца і адчуваеш як „усё запушчана“, час мінае, а праблемы тыя самыя, што і сто гадоў таму… Можа насамрэч хопіць ужо „харахорыцца“ і пачынаць ствараць (у Канадзе ці яшчэ дзе) беларускую рэзэрвацыю, каб захаваць рэшткі нашай культуры і жывой мовы. Чаго чакаем мы беларусы, што ўсё само наладзіцца? Бо Стасы и Влады (са свеколкой и тыквой) не дадуць нічога тут адрадзіць (ні мовы, ні нацыянальнай культуры), а змагацца з імі, значыць, марнаваць час, рабіць агрэсіўную, пустую работу.

**Не так**

Не путайте свои интересы на всеобщую белорусизацию с моими интересами и теми белорусами, что не говорят и не будут говорить по-белорусски.

**Зоська**

А за свае інтарэсы — слабо пазмагацца? Вам, відаць, у расейскам хамуце жыцьцё ўтульней. Але ж ад імя ўсіх казаць ня трэба. Нездарма ж кажуць — не шукай дурнейшых за сябе.

**23оське**

Вы сперва сами выйдите на баррикады, а я на вас посмотрю и потом решу что мне делать. Мне своя рубашка к телу ближе.

**The Bronx, NY**

Я табе кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою ніякага ідэалагічнага дыктату не будзе.

**Пад-над**

Ну колькі можна сп. Дубавец дудзець у тую самую дуду — пад-над маскалем? Літоўцы не пад маскалем, а з'ехала з краіны каля мільёна (засталося каля 2,5 млн.), тое самае і латышы — з'ехала больш за паўмільёна, і эстонцы (а іх зусім мала — 1,3 млн) — з'ехала каля 300 тыс. А вы ўсё дзяўбеце пра маскаля і мову... Што ж Вы ніяк ня выйдзеце з гэтага загончка, у які самі сябе загналі? У Беларусі большая частка насельніцтва занятая элементарным выжываннем. А вы ім усё пра маскаля!

**Ананім**

2Не так. Вы, паважаны, імкнецеся давесьці, што ў Беларусі існуе нейкая расейскамоўная супольнасьць беларусаў, якая ўяўляе зь сябе пэўную сілу. Няма гэткай супольнасьці. Увогуле, расейскамоўныя беларусы значна саступаюць беларускамоўным па ўсіх пазыцыям грамацкага жыцьця. Няма сваіх СМІ, няма пісьменьнікаў і паэтаў, няма палітычных арганізацый і г.д. А тое, што існуе, — альбо дзяржаўна-прасавецкае, альбо расейска-праімпэрскае. Расейскамоўныя беларусы — пясок. Пры зьмене моўнай палітыкі большая частка іх пяройдзе на беларускую мову без усялякіх пратэстаў. Астатнія вымушаны будуць яе разумець і карыстацца пры пэўных абставінах. Пры гэтым аніякага гвалту над „языком" ня будзе.

**Не так**

Я не называл их „супольнасць“, „общество“. Я написал, что русскоязычных белорусов большинство. И это подтверждают как перепись населения белорусов, так и повседневная реальность, достаточно просто послушать их, на каком языке они говорят на работе, на досуге, в быту. „Расейскамоўныя беларусы — пясок. Пры зьмене моўнай палітыкі большая частка іх пяройдзе на беларускую мову бяз усялякіх пратэстаў“. Это утопия. Причем опасная. Тем более Россия под боком. Не советую.

**2 Ананим**

Никогда этот народ не заживет счастливо. Потому что у каждого свое понимание счастья. И не надо даже заморачиваться на эту тему.

**Ананім**

По Конституции, единственным источником государственной власти является народ. Вот она и охраняет этот свой источник от любых сомнений в его мудрости и чистоте. Не говоря уж о критике и брани в его адрес, о том, чтобы кто-то вдруг посмел жечь его „глаголом“? Народ — священная корова. А жулики? А воры? А бездельники?.. Они — тоже народ, его родная часть, притом не самая безмозглая. Так что, чур, никаких сомнений. А если что, ему подстелют соломки из электоральных фальсификаций: якобы всё дело в них.

## У Сьвіслачы ўшанавалі паўстанцаў Каліноўскага

30 кастрычніка 2016

Традыцыйна актывісты з розных гарадоў Беларусі сабраліся побач з касьцёлам у Сьвіслачы.

Сьвіслацкі актывіст Юры Глебік — адзін з тых, хто даглядае ў Сьвіслачы памятныя магілы і помнікі паўстанцам. Ён кажа:

— На жаль, сёньня крыху сумна, бо такія месцы ў любой краіне найперш павінны ўшаноўвацца дзяржавай, тут павінны стаяць мэмарыялы, а не такія сьціплыя помнікі. І тысячы людзей павінны прыяжджаць у гэтыя мясьціны, каб даведвацца пра сваю гісторыю, шанаваць памяць сапраўдных герояў. Так, дарэчы, робіцца ў цывілізаваных краінах. Але ёсьць у мяне сёньня і кропля радасьці, бо нягледзячы на ўціск дзяржавы на актывістаў, перасьлед і суды штогод сюды прыяжджаюць людзі з усяе Беларусі на Дзяды і ўшаноўваюць памяць герояў.

На сьвіслацкіх могілках ужо другі год запар усе сабраныя ўшаноўваюць яшчэ адну магілу — Віктара Дзясяціка, мясцовага актывіста, які ўвесь час апекаваўся магіламі герояў паўстаньня.

## Першы прысуд за ўшанаваньне паўстанцаў Каліноўскага ў Сьвіслачы — 840 рублёў штрафу

18 лістапада 2016

Сьвіслацкага актывіста Юрыя Глебіка раённы суд аштрафаваў на 40 базавых велічынь. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі. Сьведкі-міліцыянты ў сваіх паказаньнях найперш падкрэсьлівалі, што Глебік трымаў бел-чырвона-белы сьцяг.

**Гаўрыла**

„Суд“ выконвае загад акупантаў. Фармуйце сьпісы расейскіх калабарантаў: суддзяў, міліцыянтаў, кагабістых...

## Імёны Свабоды: Альгерд Абуховіч

20 лістапада 2016
Уладзімер Арлоў

Калі я, акідваючы позіркам нашую літаратуру XIX стагодзьдзя, шукаў у ёй асобу найбольш калярытную й экстравагантную, выбар спыніўся на Альгердзе Абуховічу.

Ён быў нашчадкам старажытнага ліцьвінскага роду. Ягоныя продкі Міхал, Піліп і Тодар Абуховічы ня толькі займалі высокія дзяржаўныя й вайсковыя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім і праславіліся ў войнах супраць расейцаў, туркаў ды швэдаў, але і пакінулі цікавыя дыярыюшы й успаміны. Дзед пісьменьніка Юзаф Абуховіч ваяваў у Касьцюшкі. Абуховічы былі ў сваяцтве зь вядомым італійскім графскім родам Бандынэлі, які даў славутага скульптара Бача Бандынэлі й папу рымскага Аляксандра III.

У сваіх мэмуарах Альгерд адзначыць: „Пазываючыся ў подпісе на дзядоў сваіх, грудзі мае парушае пачуцьцё нечага вялікага, сільнага...“

Альгерд вучыўся ў Слуцку, Жэнэве й Парыжы. Ягоным бацькам належалі вялікія маёнткі з тысячай сялянскіх душаў, што дазваляла маладому Ольдзю з камфортам падарожнічаць і жыць у Эўропе. Але ў 1863-м ён вярнуўся на радзіму, каб стаць у шэрагі паўстанцаў, а затым апынуцца ў сібірскай высылцы.

Ён бліскуча валодаў італійскай, францускай, ангельскай і нямецкай мовамі, аднак для ўласных твораў, якія падпісваў псэўданімам Граф Бандынэлі, абраў беларускую. Пры жыцьці ён ня ўбачыў ніво-

днага свайго тэксту надрукаваным, але ўвайшоў у гісторыю нацыянальнага прыгожага пісьменства як адзін з заснавальнікаў жанраў байкі, мастацкай прозы й мэмуарыстыкі.

Калі Альгерд вырашыў перадаць усю сваю зямлю сялянам, суседзі-абшарнікі прыгразілі абвясьціць яго вар'ятам. Тады ён пакінуў родны дом, захапіўшы з сабою толькі ўлюбёныя кнігі, і ператварыўся ў беднага слуцкага кватаранта.

У цесным пакойчыку зь вялізнай кніжнай шафаю, адзіным сваім багацьцем, Граф Бандынэлі пісаў мэмуары — нязмушаны роздум вольнай душы пра эпоху, літаратуру й вечныя праблемы чалавечай экзыстэнцыі.

Першымі іх чытачамі сталі ягоныя маладыя сябры і вучні з створанага Абуховічам гуртка слуцкіх гімназістаў, у які ўваходзілі Язэп Дыла і Пятро Карповіч — будучыя дзеячы беларускага нацыянальнага руху.

Альгерд Абуховіч. 6.8.1840, в. Калацічы, цяпер Глускі раён — 22.8.1898, Слуцак. Пахаваны на слуцкіх гарадзкіх могілках.

## У менскім праваслаўным храме маліліся за Мураўёва-вешальніка — упершыню за сто гадоў

23 лістапада 2016

21 лістапада ў храме менскага прыходу ў гонар Пакрову Прасьвятой Багародзіцы прайшла служба за спачын графа Міхаіла Мураўёва, вядомага ў Беларусі таксама як Вешальнік і Людаед.

Маленьне адбылося з ініцыятывы навукова-асьветніцкага праекту „Заходняя Русь“ і Брацтва ў гонар Архістратыга Міхаіла.

Сярод прысутных на паніхідзе быў кіраўнік праекту „Заходняя Русь“ Ігар Зелянкоўскі, вядомы як ідэоляг „русского мира“.

Ён — аўтар шэрагу публікацый, сярод якіх „Рано или поздно в Минске восстановят памятник Александру II“, „Крым — это первый шаг...“, „Основная идея — единение славян“. У артыкуле „Граф Михаил Николаевич Муравьев. Записки его о мятеже в Северозападной России в 1863–1864 гг.“ Ігар Зелянкоўскі піша:

„З вобразу Каліноўскага — гэтага неўраўнаважанага маладога чалавека, які не адыграў у тых падзеях асабліва выдатнай ролі, бальшавікамі быў прыдуманы вобраз героя-рэвалюцыянэра, які ў спадчыну перавандраваў і ў афіцыйны пантэон сучаснай Рэспублікі Беларусь. У сваю чаргу, беларускія нацыяналісты, працягваючы канструяваньне „беларускага нацыянальнага героя“, вылепілі з польскага шляхціца Каліноўскага, аднаго з ідэолягаў тэрору супраць праваслаўных сьвятароў і сялян, нейкі беларускі аналяг Сьцяпана Бандэры, які стаў сёньня сымбалем барацьбы з «маскалямі» і агульнарускай самасьвядомасьцю беларусаў“.

Апошні раз паніхіды па Міхаілу Мураўёву ў беларускіх цэрквах прайшлі ў 1916 годзе, а з 1917-га былі перапыненыя.

Як сказаў прысутным на службе протаярэй Віктар Белякоў, „гэтая традыцыя першапачаткова знайшла гарачы водгук з боку беларусаў, якія называлі Міхаіла Мікалаевіча Мураўёва «бацькам», ён быў аб’ектам пакланеньня беларускіх сялян, якія

бачылі ў ім «заступніка», сапраўднага вызваліцеля ад эканамічнага прыгнёту польскіх паноў“.

Заслуга Мураўёва, на думку протаярэя, у тым, што „пры непасрэдным удзеле Мураўёва за кароткі тэрмін (ад 1863 да 1865 году) было пабудавана 98 цэркваў, адрамантавана — 126, перабудавана з касьцельных будынкаў — 16, пабудаваныя 63 капліцы. Пры кожнай пабудаванай царкве была адкрытая прыходзкая школа.

Пасьля адстаўкі графа Мураўёва паводле вызначанага ім пляну былі пабудаваныя яшчэ сотні сельскіх цэркваў, якія атрымалі ў народзе назву «мураўёўкі»“.

„Гэтым граф Мураўёў заклаў трывалыя асновы духоўнай стойкасьці беларусаў, а парафіяльныя школы спрыялі зьяўленьню заходнерускай інтэлігенцыі і чынавенства з простага народу“.

Пра ролю графа Мураўёва ў нацыянальна-вызваленчым паўстаньні 1863–1864 гадоў прыхаджанам нічога не сказалі.

Сталая прыхаджанка храму менскага прыходу ў гонар Пакрову Прасьвятой Багародзіцы, якая прысутнічала на літыі, адчула, што протаярэй Віктар Белякоў падчас службы ў гэты дзень „быў зьбянтэжаны“:

— Было відаць, што ён выйшаў і гаварыў як чалавек, якому далі паперу і сказалі яе прачытаць. Нібыта ён не пагаджаўся з тым, што кажа. Альбо не разумеў, што кажа. Зь іншага боку, ён чалавек, які ня вельмі добра разьбіраецца ў гісторыі Беларусі. Таму ён быў зьбянтэжаны. Сярод прыхаджанаў нейкай выразнай рэакцыі я не заўважыла. Але зразумела, што большасьць проста ня ведае, хто такі Міхаіл Мураўёў. Калі казаць пра маю рэакцыю, то мяне

зьбянтэжыла тое, што ў нашай царкве служаць малебен за гэтага палітыка. Зь якой нагоды? Па-першае, ён не сьвяты. Па-другое, яго дзейнасьць вельмі спрэчная для мяне, асабліва ўлічваючы, што гэты чалавек задушыў вызвольнае паўстаньне Кастуся Каліноўскага.

Як паведаміў Свабодзе старшыня Сінадальнага інфармацыйнага аддзелу БПЦ протаярэй Сяргей Лепін, служба за спачын Міхаіла Мураўёва — гэта прыватная ініцыятыва храма і аб’яднаньня „Заходняя Русь“:

— Гэта прыватная кропкавая ініцыятыва. Ніякай агульнацаркоўнай праграмы ўшанаваньня памяці Міхаіла Мураўёва няма. Разам з тым мы ўхіляемся ад аднабокіх ацэнак дзейнасьці графа Мураўёва ці любога іншага дзеяча. Таксама ня трэба забываць, што, незалежна ад таго, як тую або іншую гістарычную постаць ацэньваюць, Царква моліцца за ўсіх. Таму што мы заклікаем маліцца ня толькі за тых, каго мы лічым сябрам, але і за тых, каго лічым ворагам. Царква не адмаўляе ў малітве ні Мураўёву, ні яго праціўнікам.

Айцец Сяргей Лепін таксама адзначыў, што большасьць праваслаўных гісторыкаў называюць паўстаньне 1863–1864 гадоў польскім і лічаць, што дзеяньні Мураўёва не былі горшымі, чым тое, што рабілі паўстанцы Кастуся Каліноўскага:

— Гісторыю трэба разглядаць з розных ракурсаў. Мураўёў задушыў паўстаньне на чале з Кастусём Каліноўскім, але разам з тым ён будаваў цэрквы, адкрываў школы, быў мэцэнатам, фінансаваў шматлікія гуманітарныя праекты, а таксама супрацьстаяў палянізацыі ў першую чаргу ў галіне адукацыі і дакумэнтазвароту. Разам з тым сярод паўстанцаў

1863–1864 гадоў былі сапраўдныя злачынцы, якія чынілі катаваньні, зьдзекі і гвалт.

Гаворыць гісторык Анатоль Сідарэвіч:

— Калі мы паважаем сябе, шануем Беларусь і лічым сябе беларусамі, то павінны супрацьстаяць вяртаньню звычаю ладзіць паніхіды па Міхаілу Мураўёву. Так, была такая традыцыя, але яна існавала ў царскія часы. Няма чаго аднаўляць яе. Праваслаўная Царква ставіць у заслугу Мураўёву тое, што пры ім тут будавалі цэрквы. Няхай ня хлусяць. Цэрквы не будавалі, а перабудоўвалі касьцёлы і ўніяцкія храмы. Цэркваў у Беларусі было больш чым дастаткова для духоўных патрэбаў.

На думку гісторыка, асоба Мураўёва для беларусаў ня можа лічыцца спрэчнай — яна адназначна рэакцыйная:

— Вось кажуць, што пры Мураўёву вызвалілі ад прыгнёту польскіх паноў. Але ж гэта чыстая палітыка, трэба ж было народ на свой бок чымсьці завабліваць. А ўсё іншае — чыста рэакцыйная палітыка.

Ён і ў Расеі не на самым лепшым рахунку быў сярод палітычных дзеячоў. Ён быў карупцыянэрам, рукі ў яго былі брудныя. Адправіўшы на беларускія землі, яго выцягнулі з палітычнага нябыту і накіравалі рабіць крывавыя справы. Ня кожны б пагадзіўся на такое, — падкрэсьлівае гісторык Анатоль Сідарэвіч.

**Inhvar**

Пачатак трэцяй (і апошняй) хвалі акупацыіі?

**Андрэй**

На жаль, хутчэй за ўсё, у Менску ўсталююць помнік Мураўёву, чым Кастусю(((

**Ананім**

Можно ли сравнивать Кубе и Муравьева? Или цивильную оккупационную власть сравнивать с карательной некорректно?

**Свод уставов**

С Кубе при всех вопросах не всё однозначно, поелику он санкционировал вновь открыть храмы, передал Церкви здание польского костёла для обустройства в оном минского кафедрального Свято-Духовского собора, действующего там и доныне.

**так**

Вось там, у РПЦшных прыходах яны зброю і складзіруют, якая ідзе з Расіі у Беларусь ад ФСБ для арганізацыі Данбаса-2. Ва Украіне расейцы гэтак жа сама пастулаючую з расеі зброю хавалі — у РПЦшных каморках. Бо праваахоуныя ворганы доступу туды не маюць. Затым, залілілі Украіну крывёю. Вось гэтай жа крывёю збіраюцца заліць і Беларусь.

**Зоська**

Гэта ж дзе ў сьвеце ё яшчэ такая краіна, дзе шануюць сваіх катаў?!

**Андрэй Ляховіч**

Дзейнасьць РПЦ спрыяе існаваньню і пашырэньню сферы палітычнага ўплыву, улады Крамля. Зразумела, што для іх героем зьяўляецца Мураўеў, а беларускі нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі для іх — бандыт. У дэмакратычнай, незалежнай, еўрапейскай Беларусі, якая калісьці паўстане, не павінна быць гэтай расійскай «пятай калены». Павінна быць уніяцкая царква і Касьцел.

**Віталь**

Ага, из под «маскаля», да под «пана»....

**serge_le**

Ахінею не пішыце. Ніводнай беларускай школы не было зачынена (такіх проста не існавала), а зачыняліся польскія. І сам Каліноўскі ды яго паплечнікі называлі сваю справу «польскай» — таму шмат прыклададу.

**Ананім**

Ахінея ў вашых недасьведчаных словах. У той час, што, хіба Каліноўскі павінен быў казаць пра БНР? Каліноўскі казаў пра тое дзяржаўнае ўтварэньне, якое зьнішчылі разам тры імпэрыі — Рэч Паспалітую Абодвух Народаў, дзе ВКЛ быў паўнапраўнай часткай. Пад «польскім» тады разумелі тое самае, што разумелі пад словам «рускі», калі напрыклад, казалі пра СССР.

**Госьць**

Адзін быў літаральна за Польшчу, другі за Расію. Адзін — рэвалюцыянер і тэрарыст (па законах дзяржавы). Другі займаў афіцыйную пасаду. Што ён павінен быў рабіць — ушанаваць паўстанцаў ордэнам Дружбы народаў?

**алесь**

Это не Россия. Здесь другая земля и поэтому незачем давать „отпор польскому католицизму“. Костел принес на эту землю культуру, образование, искусства и мн. другое. В белорусских городках и мястэчках костел всегда мирно соседствовал с православными храмами и всегда, вплоть до сегодняшнего дня, с уважением относился к языку титульной нации, а не только обещал «заняться изучением белорусского языка», как некоторые...

**Раман**

Любому зразумела, што ў сёньняшніх умовах малебен у гонар Мураўёва ў Беларусі — гэта чыста палітычны акт. А гэта — ня справа любой канфэсіі, любога прыходу. Кропка!

## У Мастах асудзілі актывіста за ўдзел ва ўшанаваньні паўстанцаў Каліноўскага. Ён кажа, што яго там не было

25 лістапада 2016

Актывіст Васіль Клімовіч прыводзіў у судзе ўсе магчымыя аргумэнты, што наагул ня быў у

Сьвіслачы падчас ушанаваньня паўстанцаў Каліноўскага. Але зь ім не пагаджаліся сьведкі-міліцыянты, і судзьдзя не прыняў да ўвагі ягоных аргумэнтаў.

Васіль Клімовіч аштрафаваны на 9 базавых велічынь, што складае 189 рублёў.

Клімовіч кажа, што ішоў у суд з надзеяй, што ва ўсім разьбяруцца і справу закрыюць:

— Напачатку я сказаў суду, што ня езьдзіў у Сьвіслач. Распавёў, што ў цешчы быў дзень нарадзінаў, мяне ў той дзень у Мастах бачылі многія людзі. Але сьведкі стаялі на сваім, паказалі відэа. Яны паказалі чалавека падобнага да мяне. Я ім даводзіў, што гэта ня я, але і сьведкі і судзьдзя цьвердзілі, што гэта я. Потым здымкі паказалі, і я ізноў ім кажу: паглядзіце, ён нават маладзейшы за мяне, у яго іншая фрызура і вопраткі ў мяне такой ніколі не было. Ізноў безвынікова.

## На навуковай канфэрэнцыі ў Менску апраўдалі забойствы ксяндзоў Мураўёвым-вешальнікам: „Гэта ягоны подзьвіг“

28 лістапада 2016

Навукоўцы і сьвятары, сабраўшыся ў праваслаўнай царкве, апраўдвалі забойствы на загад Мураўёва-вешальніка, услаўлялі яго як рэфарматара, а Кастуся Каліноўскага называлі тэрарыстам, ягоную „Мужыцкую праўду“ — агітацыйным лістком, які пісаўся на „наўмысна псэўданароднай мове“.

27 лістапада ў храме менскага прыходу ў гонар Пакрову Прасьвятой Багародзіцы, дзе тыдзень таму

ўпершыню за апошнія 100 гадоў маліліся за графа Міхаіла Мураўёва, правялі 4-гадзінную міжнародную навуковую канфэрэнцыю, прысьвечаную яго памяці, пад назвай „Гатовы сабой ахвяраваць...“

У праграме канфэрэнцыі паведамляецца, што яе блаславіў Мітрапаліт Менскі і Заслаўскі Павал. Арганізатарамі выступілі навукова-асьветніцкі праект „Заходняя Русь“ і Брацтва ў гонар архістратыга Міхаіла.

З дакладамі на канфэрэнцыі выступілі прафэсары і дацэнты беларускіх і расейскіх ВНУ і прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы.

Настаяцель храма менскага прыходу ў гонар Пакрову Прасьвятой Багародзіцы архімандрыт Васіян паабяцаў, што ўсе ўдзельнікі канфэрэнцыі будуць выступаць, „зыходзячы выключна з пазыцый строгага навуковага падыходу, каб пазьбегнуць прадузятага стаўленьня і разабрацца ў падзеях той эпохі і аб’ектыўна разглядзець у іх ролю графа Мураўёва“:

— Мы адкрываем канфэрэнцыю, прысьвечаную памяці яскравай і выдатнай асобы, якая мела важнае значэньне для гісторыі беларускага народу — графа Міхаіла Мураўёва. Зь імем гэтага чалавека зьвязаная важная старонка нашай гісторыі, якая прыпадае на сярэдзіну XIX стагодзьдзя, калі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўспыхнула польскае паўстаньне. Вялізнае значэньне ў задушэньні гэтага паўстаньня і вяртаньні мірнага жыцьця належыць графу Мураўёву. Яго цьвёрдае кіраўніцтва дазволіла яму ў кароткія тэрміны спыніць жорсткія забойствы мірных грамадзян, крадзяжы і гвалт. Наш абавязак — перадаць нашчадкам дакладныя зьвесткі пра гісторыю, не замоўчваць і ня ўтойваць ніякіх

фактаў. Заслугі графа Мураўёва з розных прычын раней не былі ацэненыя ў поўнай меры, — сказаў архімандрыт Васіян.

Кандыдат гістарычных навук, прафэсар Інстытуту тэалёгіі БДУ Аляксандар Бендзін адзначыў, што ў Беларусі ўпершыню ўшаноўваецца памяць Мураўёва. У сваім дакладзе „Граф Мураўёў Віленскі — уціхамірнік і рэфарматар Паўночна-Заходняга краю Расейскай імпэрыі 1863–1865 гг.“ ён даў ацэнку газэце „Мужыцкая праўда“, якую выдаваў Кастусь Каліноўскі:

— Адна са сфэраў прапагандысцкай дзейнасьці ўвасобілася ў так званай „Мужыцкай праўдзе“. Гэта быў агітацыйны лісток, які пісаўся на наўмысна псэўданароднай мове адукаваным чалавекам, які знарок падладжваўся пад масавую сьвядомасьць неадукаванага сялянства. Гэтым чалавекам быў Каліноўскі, які цяпер прадстаўляецца як нацыянальны герой. Ва ўлётцы „Мужыцкая праўда“ ён пісаў, што пасьля паўстаньня мужыкам абяцаецца нейкая вольнасьць, якую ён маляваў як утапічны мужыцкі рай, дзе няма ні падаткаў, ні паноў. Гэта значыць, абяцаў мужыкам аналяг махноўшчыны, гэта значыць анархіі.

Аляксандар Бендзін адзначыў, што ва ўлётках Каліноўскага малюецца „злавесны вобраз маскаля“:

— Ад прапаганды Каліноўскага патрабавался перанакіраваць энэргію сацыяльнай нянавісьці, якую сяляне адчувалі да памешчыкаў, на маскаля. Таму ва ўлётках зьяўляецца дэманічны вобраз маскаля, у якім ўвасабляецца ўсё зло, сутнасьць бедаў селяніна — гэта і Расея, і манарх Аляксандар II, і велікаросы, і праваслаўе. Усё гэта выкарыстоўвала-

ся дзеля таго, каб завабіць беларускага селяніна ў самагубную пастку польскага паўстаньня.

Адказваючы на пытаньне з залі, чаму граф Мураўёў атрымаў у народзе мянушкі Вешальнік і Людаед, Аляксандр Бендзін сказаў, што гэта заслуга прапольскай прапаганды, якую пасьля падхапілі беларускія нацыяналісты. Асабліва ён абурыўся таму, што вешальнікам называюць Міхаіла Мураўёва ў беларускіх падручніках па гісторыі:

— У гэтым паўстаньні вельмі важную ролю адыгрывала прапаганда. Вобраз Мураўёва-вешальніка зьявіўся ў польскай прапагандзе. Пасьля яго ахвотна падхапілі расейскія лібэралы, пра гэта пісаў Герцэн у сваім выданьні „Колокол“. Быў патрэбен дэманічны вобраз Мураўёва, які б увасабляў азіяцкую жорсткасьць расейскай улады. Але насамрэч гэта толькі прапагандысцкі штамп, таму што Мураўёў дзейнічаў выключна ў межах законнасьці. Ён душыў узброенае паўстаньне супраць улады. Зразумела, што існавалі законы, паводле якіх адбываўся суд над мяцежнікамі, частка зь іх была пакараная сьмерцю. Загінулі не нявінныя людзі, а людзі, якія са зброяй у руках выступілі супраць расейскай улады. Трэба сказаць, што вобраз Мураўёва-вешальніка ахвотна падхапіла беларуская гістарыяграфія, якая крытычна ставілася да пэрыяду знаходжаньня беларускай тэрыторыі ў складзе Расейскай імпэрыі. Таму ў беларускіх падручніках да гэтага часу прысутнічае злавесны вобраз Мураўёва-вешальніка.

Разважаючы пра маральна-рэлігійны аспэкт дзейнасьці графа Мураўёва, удзельнікі канфэрэнцыі адзначылі, што сярод пакараных сьмерцю былі 8 каталіцкіх сьвятароў. Прычым першы расстрэл

ксяндза адбыўся публічна і ўжо праз тыдзень пасьля прыезду графа Мураўёва ў Вільню.

Протаярэй Аляксандар Раманчук, які выступіў з дакладам „Рэлігійна-культурныя перадумовы пасьпяховага задушэньня шляхецкага паўстаньня 1863–1864 гг.“, адзначыў, што Мураўёў не патрабаваў пазбаўляць асуджаных на сьмерць ксяндзоў сану, і расстраляныя яны былі не як грамадзяне, якія парушылі закон, а як каталіцкія сьвятары, якія чыталі маніфэст рэвалюцыйнага кіраўніцтва і заклікалі людзей да бунту:

— З аднаго боку, можна падумаць, што для такога „вуснага“ злачынства пакараньне сьмерцю занадта суровае. Але трэба дадаць, што Мураўёў задумаў пакараць сьмерцю прадстаўнікоў каталіцкага духавенства яшчэ да прыбыцьця ў Вільню. Ён добра разьлічыў гэты крок для ўціхамірваньня ахопленых бунтам губэрняў.

Далей протаярэй Раманчук задаў пытаньне, якую цану для Мураўёва асабіста меў расстрэл 8 ксяндзоў. І адказаў на яго наступным чынам:

— Фактычна ён паставіў пытаньне, ці мае ў вачах Бога расейскі праваслаўны сьвет такую каштоўнасьць, каб дзеля яго караць сьмерцю каталіцкіх сьвятароў. Быўшы праваслаўным вернікам, ён адказаў на гэтае пытаньне станоўча і выканаў прысуды. Такім чынам ён пагадзіўся ў поўнай ступені несьці адказ за свае дзеяньні перад Богам у пытаньні выратаваньня душы. Такім чынам, мы ня можам адмаўляць, што граф Мураўёў, расстраляўшы 8 каталіцкіх ксяндзоў, выступіў у ролі расейскага рэлігійнага і нацыянальнага лідэра і тым зьдзейсьніў асабісты духоўны подзьвіг самаахвярнасьці.

Горадзенскі навуковец, доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч лічыць, што мэтадычныя захады Беларускай праваслаўнай царквы ва ўшанаваньні Міхаіла Мураўёва — зьява сымптаматычная, якая сьведчыць пра мэнтальную акупацыю Беларусі:

— Кастусь Каліноўскі — нацыянальны герой Беларусі, а Міхаіл Мураўёў — вешальнік і наш вораг. А тое, што праходзяць малебны, правялі канфэрэнцыю і ўвогуле падымаецца на шчыт граф Мураўёў, значыць, што ў Расеі разумеюць: Беларусь адыходзіць ад „русского мира", і Расея гэтым моцна занепакоеная. Гэта па-першае. Па-другое, расейцы разумеюць, што постаць Кастуся Каліноўскага ўваходзіць у пантэон беларускіх нацыянальных герояў, у масавай сьвядомасьці гэта сынонім змаганьня за свабоду і незалежнасьць. Па-трэцяе, Расея абсалютна адкрыта праводзіць сцэнар акупацыі Беларусі, які пачынаецца так, як пачынаўся ва Ўкраіне. Таму і адкрываюцца расейскія дамы культуры, ваенізаваныя клюбы, невядома якія сьцягі зьяўляюцца. Акупацыя ў варунках гібрыднай вайны пачынаецца з акупацыі мэнтальнай. Таму і робіцца спроба ўвесьці ў масавую сьвядомасьць Мураўёва як станоўчага героя. І тут дарэчы, праваслаўная царква не першапраходзец — у падручніках гісторыі аўтарства Якава Трашчанка гэта даўно ўжо напісана. Акупацыя мэнтальная папярэднічае мілітарнай. Калі эканамічная сытуацыя ў Расеі пагоршыцца, спатрэбіцца чарговы зьнешнепалітычны посьпех. А для Расеі самы лёгкі посьпех — гэта Беларусь. І па-чацьвёртае, гэтыя арганізацыі адчуваюць беспакаранасьць і падтрымку цяперашняй беларускай улады.

**Міхал Тутэйшы**

Гэта проста капец як фашысты руССкія актывізаваліся і іх папы маскоўскія, а таксама і тутэйшыя памагатыя калабаранты. Актывізаваліся… вайну рыхтуюць.

**Ананім**

Актывизавалися, бо Масква и ФСБ дали адмашку им у межах падрыхтоуки Данбаса-2 падняли усю сваю завербаваную агентуру на вушы и яшчэ иншых папрысылали на дапамогу.

**Міхал Тутэйшы**

І дадам — гэта не можа быць НАВУКОВАЯ канферэнцыя. Гэта відавочна АНТЫнавуковая, і гэта зразумела нават не вучонаму-гісторыку. Не можа навуковая канферэнцыя падаўленьне паўстаньня супраць акупантаў лічыць „добрай справай“, нацыянальную беларускую мову — псеўдамовай, а справу забойства лічыць „асабістым духоўным подзьвігам самаахвярнасьці“. І хто так лічыць — поп, служка царквы Хрыстовай, якая заклікае да любові. А гэты елапень у расе бласлаўляе забойства, да таго ж такіх самых хрысьціян, бласлаўляе НЯНАВІСЬЦЬ адных да другіх, бласлаўляе права масканя забіваць. Так якая гэта навуковая канферэнцыя ????

**Ананім**

Бо трэба называць рэчы самімі іменамі: РПЦ ня ёсць ні хрысціанскай ні праваслаунай царквой, гэта бесоускі адзел расейскага НКВД-КГБ-ФСБ, створаны Сталіным, і выконвае сваю функцыю. Палова расейских папоу ходзіць з пагонамі КДБ пад падраснікамі, таму і апраудваюць забойствы, у ісцінных хрысціян і праваслауных ад гэтага воласы дыбам становяцца!!! РПЦ Маскоускага Патрыярхата дыскрэдытуе Праваслауе!!!

**Абураны**

Ці есць у гэтай улады элементарны інстынкт самазахавання?! Праводзіцца антынацыянальная акцыя пад куратарствам атрымаўшага пасаду з парушэннямі закона царкоўнага саноўніка, па сутнасці ўхваляецца фізічнае знішчэнне прадстаўнікоў іншай канфесіі, знакавыя постаці гісторыі

мяшаюцца гэтымі агентамі маскоўскага ўплыву з брудам... А ў высокіх кабінетах маўчаць. Усе так спадзяюцца захаваць свае крэслы пасля грандыёзнага шухеру? Не выйдзе, спадарства, вашы дразды і веснінкі раздадуць асаднікам з Падмаскоўя і мясцовым халуям, а вас спішуць за непатрэбай. Статак манкуртаў!

**Inhvar**

„Ці есць у гэтай улады элементарны інстынкт самазахавання?!“ якія шчэ інстынкты у нарка(нафта)залежных?

**Ілля Копыл**

Як можна быць прыхажанінам той царквы, якая апраудвае акупанта, забойцу, вешальніка? Асабіста для мяне Кастусь Каліноускі — нацыянальны герой, кіраунік беларускага паустання супраць маскоускіх акупантау.

**вось**

Падумаеш герой! У гэтым сэнсе Гімлер больш гераічны. Значна больш людзей забіў, у тым і каталіцкіх дый праваслаўных сьвятароў. Можа і яго гэтыя псеўдавучоныя ўшануюць?

**Бенедзікт**

РПЦ і ейная філія ў Беларусі „Беларускі экзархат“ ці па іншаму „Беларуская Праваслаўная Царква“ — безумоўна, павінны быць забаронены ў вольнай Беларусі, шэраг прыезжых сьвятароў і манахінь павінны быць дэпартаваныя з Беларусі, а іншыя сьвятары будуць люстраваныя адносна магчымасьці весьці сьвятарскую працу. РПЦ — гэта вораг вольнай Беларусі і вораг даўні, вораг апантаны. Гэта трэба памятаць заўсёды. Што тычыцца шэрагу беларусафобаў, якія бралі ўдзел у гэтай „навуковай канфэрэнцыіі“ то, на вялікі жаль, практычна ўсе яны вядуць выкладаньне у беларускіх ВНУ. Не сакрэт, што яны стаяць на беларусафобскіх пазіцыях і вельмі добра, што гэтая публіка зараз сьвеціцца і не хавае сваіх антыбеларускіх перакананьняў...

**АР**

Бенедзікт: шэраг прыезжых сьвятароў і манахінь павінны быць дэпартаваныя з Беларусі... Я не разумею, што пераш-

каджае зрабіць гэта сёння!? Гуляка выправаджваў ксяндзоў, што перашкаджае выправіць з краіны папоў?

**Праваслауны**

Тое, што нясуць там гэтыя расейскія цемрашалы — ГЭТА ПРОСТА ЖАХ!!! Прабачце, калі ласка, браты, ад імя праваслауных, праваслауныя такое ніколі б не ухвалілі. Гэта усё расейшчына і азіятчына, якая не мае да праваслау’я ніякога дачынення. Мэта у гэтай фсбшнай правакацыі адна — справакаваць варожасць сярод праваслауных і каталікоу Беларусі, РПЦ гэта сатанінская фсбшная секта, якую трэба гнаць адсюль.

**Віталь**

Я даўно тлумачу, што нам трэба аўтакефаль. Дык, аніводнага прыходу ў Мінску... А з гэнымі калабарантамі былымі камсюкамі (У 1989 г. Бензін бараніў кандыдацкую — „Деятельность Компартии Белоруссии по идейно-политическому воспитанию студенческой молодежи“. 2013 — зусім іншы каленкор — „Я согласен в том, что советская идеологическая топонимика должна быть решительно упразднена. Упорное сохранение имен Ленина, Свердлова, Дзержинского и прочих красных убийц в названиях улиц, площадей и населенных пунктов представляется мне кощунственным. Но что же предлагает г. Стужинская взамен советскому пантеону «героев»? Ответ прост до элементарности. Нужен свой «Национальный пантеон», призванный вернуть забытым белорусским «героям» заслуженную славу. Здесь и проявляется квазилиберальная сущность пламенных борцов за светлое националистическое будущее“)... Такіх выкладчыкаў трэба гнаць не толькі з ВНУ а ўвогуле з краіны.

**Ананім**

Бендин, Змеев и т. д. Христиане, восхваляющие убийства христиан. Бегите от них.

**Ананім**

Дальше всех в своём безумии пошёл протоиерей Романчук. Чему вы собираетесь учить прихожан? Остановитесь, а лучше снимите с себя сан. Святые в могилах перевернуться от ваших слов.

**Віктар Хурсік**

Трэба скіроўваць нашу энергію і намаганні не толькі на ўслаўленне Каліноўскага, а заяўляць пра тэрор і генацыд у адносінах да беларусаў у час паўстання. Сёння маем тое, што маем — нам высунулі контраргумент: у вас — Каліноўскі, у нас — Мураўёў. Між тым колькасць забітых у паўстанні так і не вызначана, самімі маскалямі прызнана лічба, як мінімум, у 40000 высланых сем'яў. І пры гэтай жахлівай трагедыі ні наша ўлада, ні „апазіцыя" ні ў юбілейны год паўстання, ні раней, ні пазней не ставілі пытанне аб прызнанні Расіяй факту масавых рэпрэсій супраць беларусаў у 1863-64 гг. Сёння нам могуць сказаць: прыбярыце Каліноўскага, мы прыбяром Мураўёва. Дык што, не было нацыянальнай катастрофы?

**Бенедзікт**

Ну як мы можам браць толькі перыяд 1863-64 гг. і называць гэты перыяд нацыянальнай катастрофай, калі гэты Генацыд беларусаў маскалямі цягнецца стагодьдзямі і які перыяд не вазьмі — суцэльная нацыянальная катастрофа.

**AP**

І самае цікавае, што ніводная грамадская арганізацыя ніяк на гэта не адрэагавала.

**Inhvar**

Праблема у тым, што у нас няма энэргіі (а шырокае грамадзтва дэнацыяналізаванае).

**Simpson**

Ваши сказки такие же научные, как и сказки „навуковай канферэнцыи». Вместо того, чтобы разобраться в событии, вы включаете идеологизированную пластинку о геноциде. Там же большинство белорусов против было, только в западной части поддержка была, Калиновский с ненавистью о православии говорил. Нигде не заявлял о независимости Беларуси, везде Польша и Литва как часть Польши. Да и восстание не вовремя — царские власти с симпатией относились к белорусам, журнал собирались издавать, но все было перечеркнуто вот этим выступлением. І не добились ничего, людей подставили, и с симпатизировавшей властью разругались.

**Ананім**

Неужели Белорусская Православная Церковь никак не отреагирует на эти совершенно безумные заявления её представителей, оправдывающих братоубийства? Эти люди, извините меня, по-моему умом помешались. Как вообще протоиерей Романчук может оставаться дальше в своём сане и тем более заведующим кафедрой церковной истории Минской духовной семинарии после того, что он провозгласил? Это ересь, граничащая с безумием.

**Ананім**

Можна па-markознаму адносіцца да ідэі усходнеславянскай еднасці, но калі святар называе забойства духоўных асобаў духоўным подзвігам — гэта ўжо далёка ад хрысціянства. А можа такое яно расейскае хрысціянства, якім яго прэзентуе Раманчук — без Хрыста і Евангелля?

**Паўліна**

Нават у СССР вобраз Каліноўскага ў падручніках быў станоўчым. А яны ж (улады і электарат) любяць СССР, станоўча ўспамінаюць. Трэба „прыхажанам“ гэта тлумачыць: што Бог і РПЦ розныя рэчы.

**Алена**

Справа нават не у Мураўёве-вешальніку, гэтай нікчэмнасці... прачытала і падумала… прайшло больш як за сто гадоў, а кожнае слова „Мужыцкай праўды“ сёння, як ніколі актуальна. Кожнае слова ў ёй сёння робіцца словамі веры і сумлення жыхара незалежнай Беларусі. Значыць у ёй праўда… і мова цалкам зразумелая і родная...

**Ананім**

Видимо всё идёт к очередным массовым расстрелам и убийствам, и вот таким вот нехитрым выбросом, Москва уже сейчас готовит оправдание массовому убийству, только уже не католиков, а всех белорусов, которые будут противиться аншлюсу, ну в ихнем понимании — разбойников и возмутителей против „триединой российской империи“ и его гундяевского „православия“. И да, всё это подымается скорее всего в рамках готовящегося уже фактического захвата Россией Беларуси. Украинская кровь видимо у

них пробудила особый вкус. Насколько уже я лоялен был к существованию этого гундяевского православия в виде структур РПЦ на территории Беларуси, то сейчас возмущению, которое они умудрились учинить, нету предела.

**Ананім**

Вы, товарищи, не православные, вы, товарищи, кровопийцы. Кастусь Калиновский якобы демонизировавший по-вашему мнению москаля, но вы сами себя демонизируете, его оценки можно сказать были даже более наивные и детские в сравнении с тем, что на самом деле.

## Пракуратура разгледзіць, калі „будзе зварот“

1 сьнежня 2016

Пракуратура Беларусі разгледзіць выпадак з ухваленьнем дзейнасьці ў Беларусі графа Міхаіла Мураўёва, на загад якога расстрэльвалі каталіцкіх сьвятароў, калі „будзе зварот“.

Пра гэта Свабодзе паведамілі ў прэсавай службе пракуратуры.

— Будзе зварот — будзем разглядаць. На гэтай канфэрэнцыі, як я разумею, абмяркоўвалі гістарычныя падзеі, выказвалі свае пункты гледжаньня, а яны могуць быць самымі рознымі. Дарэчы, наколькі я ў гэтай тэме, дык і паўстанцы вешалі бацюшак, усё было... Гісторыя. Карацей, калі будзе зварот, як вы кажаце, адносна распальваньня рэлігійнай ці міжнацыянальнай варожасьці, тады будзем яго разглядаць, — сказаў прэсавы сакратар рэспубліканскай пракуратуры Пётар Кісялёў.

З пытаньнем, ці можна разглядаць гэты выпадак як распальваньне міжнацыянальнай і міжрэлігій-

най варожасьці, ачарненьня гісторыі беларусаў і іх нацыянальна-вызвольнай барацьбы, Свабода зьвярнулася таксама ў Сьледчы камітэт Беларусі. Там паведамілі, што пракамэнтуюць, як толькі вывучаць і ўдакладняць акалічнасьці праведзенай канфэрэнцыі.

Былы судзьдзя Канстытуцыйнага суду Беларусі Міхаіл Пастухоў лічыць, што ў тэзах, якія прагучалі на канфэрэнцыі, ёсьць праявы міжнацыянальнай і міжканфэсійнай варожасьці:

— Супрацьпастаўляюцца расейскі і беларускі народ, а таксама праваслаўе і каталіцызм. Разам з тым трэба дадаць, што беларусы ня маюць сваёй аўтакефальнай царквы, якая б, безумоўна, не дапусьціла ў Беларусі правядзеньня імпрэзаў па ўшанаваньні памяці Міхаіла Мураўёва і зьневажэньні нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Гэта адбываецца толькі дзякуючы таму, што Расейская праваслаўная царква ў Беларусі мае сваю епархію, таму яна можа тут арганізоўваць ушанаваньне Мураўёва і праводзіць тэзы пра тое, што ён „рэлігійны і нацыянальны лідэр“. Беларусі трэба адраджаць нацыянальную аўтакефальную царкву, якая б мела свой погляд на гістарычныя падзеі. А тое, што гавораць на гэтых канфэрэнцыях запрошаныя з Расеі прафэсары, — гэта праява міжнацыянальнай і міжканфэсійнай варожасьці, якіх не павінна быць на тэрыторыі Беларусі.

Узяць камэнтар ва ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў Леаніда Гулякі не ўдалося.

Сакратарка спадара Гулякі перадала яму просьбу Свабоды пагаварыць пра міжнародную канфэрэнцыю, прысьвечаную графу Мураўёву, але ўпаўнава-

жаны адмовіўся, сказаўшы, што „ня мае да гэтага дачыненьня“.

## Падчас суду над Алесем Мехам паказалі фільмы „зь лекцыяй аб гісторыі паўстаньня 1863–1864 гадоў“

6 сьнежня 2016

Кобрынскі суд прысудзіў штраф у памеры 50 базавых велічыняў (1050 рублёў) грамадзкаму актывісту Алесю Меху за „ўдзел у несанкцыянаванай масавай акцыі“.

— Цікава, што людзі, якія прыйшлі папрысутнічаць у судзе, змаглі пабачыць фільмы зь лекцыяй пра гісторыю паўстаньня. Тыя, хто ня змог пабываць у Сьвіслачы, зь вялікай увагай праглядалі гэтыя фільмы ў судзе. У выніку рэкляма ўдалася, людзі сказалі, што абавязкова наступным разам паедуць у Сьвіслач на гэтае мерапрыемства, якое ладзіцца штогод, — сказаў Алесь Мех.

## У Сьвіслачы асуджаны чарговы актывіст за ўшанаваньне паўстанцаў Каліноўскага

12 сьнежня 2016

Слонімскі актывіст Віктар Марчык прызнаны вінаватым ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Яго пакаралі штрафам у дзесяць базавых велічыняў (210 рублёў).

Паводле Марчыка, супраць яго ў судзе сьведчылі трое міліцыянтаў. Яны казалі, што Марчык разам зь іншымі знаходзіўся на могілках побач з магілай Віктара Каліноўскага, а потым у арганізаванай калёне праз горад ішоў да помніка Кастусю Каліноўскаму пад бел-чырвона-белымі сьцягамі.

## У Горадні гісторыкі зладзілі „бітву“ за Каліноўскага

13 сьнежня 2016

Дыскусія маладых горадзенскіх гісторыкаў наконт асобы Кастуся Каліноўскага і паўстаньня 1863 году прывяла да высновы, што і паўстаньне, і асоба героя дагэтуль мала вывучаныя.

Дыскусія расьцягнулася на некалькі гадзінаў і закранула шмат аспэктаў як паўстаньня, так і дасьледаваньняў асобы Каліноўскага.

Тры маладыя горадзенскія гісторыкі (Аляксей Кайрыс, Дзяніс Жыгавец і Васіль Герасімчык), якія займаюцца тэмай паўстаньня 1863 году, а таксама дасьледуюць асобу Кастуся Каліноўскага ў Цэнтры гарадзкога жыцьця „Гродна #uCentry“ прадставілі свае погляды на падзеі таго часу. Іх размова хутчэй нагадвала ня бітву, як разрэклямавалі падзею арганізатары, а дыскусію і зводзілася да таго, каб паглыбіцьісьціну і ажывіць тэму ў грамадзтве.

Паводле Аляксея Кайрыса, тэма паўстаньня 1863 году актуальная на працягу больш як 150 гадоў.

На пачатку XX стагодзьдзя, паводле яго, тэма была ўзьнятая некаторымі гісторыкамі, напрыклад Вацлавам Ластоўскім, калі утваралася БНР, і

гэта быў добры прыклад, каб засьведчыць, што за Беларусь змагаліся і ў XIX стагодзьдзі. Разам з тым Кайрыс зазначыў, што паўстаньне можна лічыць шляхецкім:

— Толькі на Горадзеншчыне і Віленшчыне ўсяго каля 30% паўстанцаў былі сялянамі. Не ўяўляю, што яны нешта думалі пра патрыятызм, яны ішлі змагацца за абяцаную зямлю.

Іншы погляд на сацыяльны склад удзельнікаў паўстаньня прывёў Герасімчык. Паводле яго дасьледаваньняў, шляхецкім паўстаньне імкнуліся паказаць, але архіўныя дакумэнты сьведчаць, што на тэрыторыі Беларусі звыш 40% паўстанцаў былі сялянамі.

— Царскія ўлады вялі сьпісы людзей, якія тады былі кінутыя ў вязьніцы, напрыклад у Беластоку, Горадні, Пружанах, Слоніме. І вось лічбы сьведчаць, што ў Беластоку на травень 1863 году налічвалася звыш 500 вязьняў, і амаль палова зь іх — сяляне.

Дзяніс Жыгавец прапанаваў закрануць праблему папулярызацыі тэмы паўстаньня, паколькі гэта той момант, які дазваляе, далучыць да тэмы і прыцягнуць да дыскусіі шырокае кола людзей.

Ён выказаў думку, што ў сёньняшняй папулярызацыі паўстаньня ёсьць такі вынік, паводле якога склалася пэўная парадыгма: паўстаньне ёсьць Каліноўскі, а Каліноўскі ёсьць паўстаньне.

— Атрымліваецца, што, акрамя асобы Каліноўскага, якога мы як чалавека мала ведаем, большыня людзей астатніх удзельнікаў паўстаньня наагул ніяк не ўспрымае. Таму вельмі цікава, дзе заканчваецца рэальны чалавек, а дзе пачынаюцца міты.

Аляксей Кайрыс лічыць, што сёньняшняе ўяўленьне пра асобу Каліноўскага — гэта вынік трансфармацыі мітаў аб ім на працягу 100 гадоў. Прычым, паводле Кайрыса, адны міталягізавалі Каліноўскага як нацыянальнага героя, іншыя прадстаўлялі яго як польскага тэрарыста, які не хацеў аднаўленьня Беларусі, не змагаўся за праўду.

— Але на пачатку 1990-х гадоў Каліноўскі, па сутнасьці, падымаецца на гару пантэону беларускіх герояў. Амаль ва ўсіх школьных падручніках ён паказваецца як герой. З часоў зьяўленьня інтэрнэту патрыятычна настроеная моладзь зьмяшчае рознага кшталту малюнкі, дзе Каліноўскі прадстаўлены супэрмэнам і г. д. На мой погляд, гэта міт, які прайшоў некалькі трансфармацыяў і стварыў Каліноўскага для нас ня проста як асобу, нейкага рэвалюцыянэра, а стварыў змагара за незалежную Беларусь. І гэты міт вельмі актуальны для нас у цяперашняй геапалітычнай сытуацыі.

Васіль Герасімчык паўстаньнем і асобай Каліноўскага зацікавіўся падчас вучобы ў Маскве і напачатку лічыў яго таксама польскім героем, якога навязваюць беларусам. Але гэты погляд зьмяніўся, асабліва калі ён асабіста сутыкнуўся з архіўнымі матэрыяламі.

— Як правіла, многімі паўстаньне і цяпер называецца польскім, але замоўчваюцца факты, што была магчымасьць далучэньня да яго і расейцаў. Прыклады расейскага легіёну і арганізацыі „Зямля і воля“, асоба Герцэна — пра ўсё гэта імкнуцца нічога не казаць. Паўстаньне называюць антырасейскім, а ня супраць царызму. Розныя людзі пра Каліноўскага казалі вельмі рознае. Павінен сказаць, што асоба Каліноўскага выключная, але ён ня быў адзіным,

на каго варта зьвяртаць увагу. Асобаў такіх хапала, і яны, як і Каліноўскі, склалі галовы. Але асоба Каліноўскага выклікала жывую рэакцыю і была ўзьнесеная на пантэон нашай гісторыі.

Што датычыць Каліноўскага як чалавека, то, паводле Герасімчыка, гэта быў чалавек зь цяжкай сямейнай гісторыяй.

— На ягонай асобе вялікі адбітак пакінуў старэйшы брат Віктар. І Кастусь жыў у ягоным ценю. Віктар рана памёр, а Кастусь узяў на сябе адказнасьць за тое, што не давяршыў брат, і таму быў вымушаны на задні плян адсунуць сваё асабістае жыцьцё.

Паводле Васіля Герасімчыка, асоба Каліноўскага настолькі шматгранная, што ў ёй можна знайсьці ўсё, што толькі пажадаецца. Ён падкрэсьліў, што не стварае мітаў пра Каліноўскага:

— На маю думку, ён не выступаў супраць Расеі, ні ў якім выпадку ён супраць расейскага народу не выступаў, і гэта вельмі важна цяпер, калі ягоную асобу імкнуцца шальмаваць.

Герасімчык падкрэсьліў, што нягледзячы на ўжо шматлікія навуковыя публікацыі, прысьвечаныя паўстаньню 1863 году, яно па-ранейшаму застаецца невядомым. А што да асобы Каліноўскага, то ня варта нешта зь яе ствараць, а трэба пісаць пра яго так, як ёсьць.

— Асоба Каліноўскага тым і асаблівая, што яна можа быць цікавай усім у Беларусі, незалежна ад поглядаў і перакананьняў.

**Віктар Хурсік**

Добры, узважаны падыход. У гэту справу ніхто не хацеў унікаць менавіта з-за таго, што адкрываўся генацыд. Але гэты шлях даследчыкі мусяць прайсці. Дзякаваць хлопцам, яны на правільным шляху.

## У Горадні засудзілі трох удзельнікаў акцыі ўшанаваньня памяці паўстанцаў Каліноўскага

15 сьнежня 2016

Сяргей Верамеенка аштрафаваны на 315 рублёў, Віктар Сазонаў — на 735 рублёў, Уладзімер Хільмановіч — на 840 рублёў.

Усе абвінавачаныя ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

Разгляд адміністрацыйнай справы пачаўся з таго, што судзьдзя Ленінскага суду Горадні Дзьмітры Бубенчык адхіліў хадайніцтвы Хільмановіча, Сазонава і Верамеенкі аб тым, каб працэс вёўся на беларускай мове.

## Пакараны яшчэ адзін удзельнік акцыі ўшанаваньня памяці паўстанцаў Каліноўскага

16 сьнежня 2016

Актывіст Павал Севасьцян са Слоніму аштрафаваны на 210 рублёў (10 базавых велічынь). Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

Павал Севасьцян паведаміў Свабодзе, што суд над ім адбыўся ў Сьвіслачы, але ён на ім не прысутнічаў.

Паводле яго, не было сэнсу ехаць, паколькі рашэньне суду вядомае зараней.

## У Ваўкавыску пакаралі штрафам Віталя Гуляка за ўшанаваньне паўстанцаў

16 сьнежня 2016

Актывіста Віталя Гуляка зьвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і аштрафавалі на 525 рублёў (25 базавых велічынь). Суд адбыўся ў Ваўкавыску.

— Я наагул адмовіўся даваць паказаньні ў судзе, толькі сказаў, што наша акцыя не зьяўлялася ніякім масавым мерапрыемствам, а мы, як і звычайна гэта робяць турысты, падышлі да помнікаў нацыянальным героям і ўсклалі там кветкі, запалілі зьнічы, — сказаў спадар Гуляк.

## Мастоўскі актывіст ня можа даказаць, што на здымках ня ён, а іншы чалавек

22 сьнежня 2016

Горадзенскі абласны суд адхіліў скаргу мастоўскага актывіста Васіля Клімовіча, пакаранага раённым судом за ўшанаваньне паўстанцаў Каліноўскага ў Сьвіслачы.

Клімовіч хадайнічаў, каб у абласным судзе выслухалі сьведак, ягоную жонку і цесьця, якія маглі б пацьвердзіць, што 30 кастрычніка Васіль увесь дзень знаходзіўся ў Мастах. Ён таксама прасіў суд адмяніць рашэньне раённага суду і пакараць сьведкаў-міліцыянтаў, якія давалі лжывыя паказаньні супраць яго. Судзьдзя Андрэй Ліхач патлумачыў

Клімовічу, што ў абласным судзе пры разглядзе скаргі сьведкаў ужо не выклікаюць, і ў хадайніцтве адмовіў. Судзьдзя задаў адно ўдакладняльнае пытаньне — ці мае Клімовіч брата-блізьнюка? Той адказаў, што не.

## У Лідзе засудзілі трох актывістаў за ўшанаваньне памяці паўстанцаў Каліноўскага

23 сьнежня 2016

Валеры Мінец зь Ліды пакараны штрафам у 105 рублёў (5 базавых), Вітольд Ашурак зь Бярозаўкі Лідзкага раёну аштрафаваны на 630 рублёў (30 базавых), Вадзім Лявон з Навагрудку — папярэджаны. Іх зьвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве 30 кастрычніка ў Сьвіслачы. Ніхто з актывістаў сваёй віны не прызнаў.

Вадзім Лявон кажа, што яго толькі папярэдзілі, а не аштрафавалі, відаць, з прычыны таго, што ў яго шматдзетная сям’я і цяжарная жонка.

**?**

А з казачкоў „рускамірскіх“ лукашысты дзяруць штрафы за іх мерапрыемствы ці асцерагаюцца атрымаць па лапах?

**Юлия**

Почему никто не составляет протоколы, когда цветы возлагают к памятнику сталина группами по 50 человек с лозунгами ?????? там километры милиции. Организованное, но не зарегистрированное мероприятие. Где протоколы, где штрафы, где реакция государства?

## У Сьвіслачы за ўшанаваньне паўстанцаў Каліноўскага аштрафавалі ўжо 15 актывістаў

4 студзеня 2017

Зьмітра Захарэвіча зь Менску аштрафавалі на 50 базавых велічынь (1050 рублёў). Паводле Захарэвіча, позву ў Сьвіслацкі раённы суд яму ў Менск прывезьлі міліцыянты. Разгляд справы быў прызначаны на 30 сьнежня, але Захарэвіч у суд не паехаў.

— Ды які сэнс быў туды ехаць, калі рашэньне было вядомае заранёў? Да мяне асудзілі ўжо больш за дзесяць чалавек. Вінаватым я сябе не лічу, паколькі ніякіх законаў не парушаў, а падчас ушанаваньня памяці нацыянальных герояў чытаў свае вершы.

## 18 аштрафаваных за ўшанаваньне паўстанцаў Каліноўскага. І гэта яшчэ не канец

9 студзеня 2017

Чарговыя прозьвішчы актывістаў, асуджаных за ўдзел ва ўшанаваньні паўстанцаў Каліноўскага ў Сьвіслачы: старшыня руху „За свабоду“ Юры Губарэвіч пакараны штрафам на 525 рублёў (25 базавых велічынь), каардынатар руху ў Берасьцей-

скай вобласьці Юры Казакевіч аштрафаваны на 210 рублёў (10 базавых) і актывіст руху Вадзім Бабін аштрафаваны на 63 рублі (3 базавыя велічыні).

## Які Каліноўскі патрэбны беларусам у XXI стагодзьдзі?

11 студзеня 2017
Вячаслаў Ракіцкі

Адзін з найпрыгажэйшых мітаў беларускай гісторыі — пра паўстаньне 1863–1864 гадоў і яго кіраўніка Кастуся Каліноўскага. Якім уяўляюць беларусы свайго легендарнага героя сёньня? Калі сфармаваўся міталягічны вобраз правадыра паўстаньня? Што ў ім праўда, а што выдумка? Ці варта пераглядаць яго? І які Каліноўскі патрэбны сучасным беларусам? Размова з гісторыкам, дасьледчыкам новай генэрацыі Цімафеем Акудовічам. Ён лічыць, што Каліноўскага можна назваць прарокам і першым грамадзянінам будучай Беларусі.

**Ракіцкі**: Цімафей, якім у сьвядомасьці і шараговых людзей, і, напэўна ж, бальшыні гісторыкаў захоўваецца аж да сёньня вобраз Кастуся Каліноўскага? Ці ня спрошчана яго ўспрымаюць беларусы?

**Акудовіч**: Вобраз Каліноўскага спрошчаны ў нашай сьвядомасьці да максымуму. І сёньня якушоўскі шляхціц Канстанцін Каліноўскі аказаўся нікому не патрэбны. У адных быў беларускі герой Кастусь, у іншых — польскі злачынец і садыст Вінцэнт. „Угрузьлі“ ў гэтую гульню лялькамі нават аўтарытэтныя гісторыкі. У выніку, з аднаго боку,

быў Кастусь Каліноўскі, які ўзначаліў найбуйнейшае ў XIX стагодзьдзі паўстаньне беларускага народу супраць нацыянальнага прыгнёту, друкаваў газэту, перамагаў у бітвах, гаварыў па-беларуску, напісаў верш, гераічна загінуў. А з другога боку, быў „Винцент Калиновский“ — польскі шляхціц, які прыкінуўся беларусам, каб зьнішчыць паноў, адабраць у іх зямлю і перадаць сялянам, прытым ён дужа не любіў праваслаўных. І той, і той — шаблённыя вобразы, плоскія і нежывыя. Але яны вельмі зручныя для канструяваньня міталягемаў на падставе патрэбнай ідэалёгіі.

**Ракіцкі**: Але ж быў рэальны, жывы чалавек. Няўжо нічога такога не засталося, што дазваляла б скласьці ягоны партрэт — чалавека пэўных усьведамленьняў, матывацыяў? Няўжо нельга зразумець ягоную псыхалёгію? Чаму?

**Акудовіч**: Натуральна ж, быў і рэальны чалавек, але такі, асоба якога вельмі няпростая для вытлумачэньня. Ужо той корпус тэкстаў, які ён пакінуў пасьля сябе, мусіць ставіць у тупік. Усе ведаюць „Мужыцкую праўду“, і шмат хто нават чытаў нумары гэтай газэты. У ёй Каліноўскі — беларус (калі не па назьве, дык па сутнасьці), абаронца простага народу. Але месцамі — азлоблены фанатык, які заклікае забіваць і караць усіх „няправільных“. Ужо значна менш людзей ведае пра існаваньне польскамоўнай газэты „Chorągiew swobody“, у якой Каліноўскі паўстае тыповым польскім шляхціцам сярэдзіны XIX стагодзьдзя і дбае пра адраджэньне Вялікай Польшчы. І тут ён — рамантычны юнак, які марыць пра зьдзяйсьненьне немагчымага. Дарэчы, ніхто так і не паклапаціўся, каб перакласьці гэтыя досыць невялікія паводле аб’ёму тэксты на белару-

скую ці расейскую мовы. Нацыянальным гісторыкам, відаць, гэта непрыемна, а „рускацэнтрычным“ хапае і некалькіх цытатаў зь першага нумару, каб „усё стала зразумела“. І ўжо зусім невядомыя шырокаму чытачу тэксты — гэта нататкі, якія Каліноўскі напісаў у камэры пасьля абвяшчэньня прысуду, у чаканьні сваёй сьмерці. Напісаныя яны найчысьцейшай расейскай мовай (чыноўнікі ажно дзівіліся), паводле аб'ёму крыху меншыя за „Мужыцкую праўду“. У іх Каліноўскі — спакойны, разважлівы назіральнік, які аналізуе сытуацыю збоку, тлумачыць прычыны паразы паўстаньня і нават дае парады сваім ворагам.

**Ракіцкі**: І якія яны, прычыны і парады? Вы можаце іх агучыць?

**Акудовіч**: Апошняя запіска завяршаецца наступнымі словамі:

„Кроме успокоения, правительство может иметь дальнейшие виды насчет здешнего края — они мне неизвестны; но из постоянных выражений общественного мнения России, высказываемых даже следственною комиссиею, я мог прийти к тому заключению, что Россия хочет полного с собою слияния Литвы для доставления счастья здешнему народу. Я не противник счастья народного, не противник и России, если она добра нам желает, но противник тех бедствий, которые посягают край наш несчастный.

А потому, если судьба нас ставит в положение, что мы должны сродниться с Россиею, я, для устранения многих лишних жертв при порождении нового времени и строя общественного в Литве, считаю со своей стороны обязанностью заявить несколько слов в этом отношении...“

І далей галоўны антырасейскі рэвалюцыянэр спакойна тлумачыць, чаму тактыка „выпаленай зямлі“ і засяленьне яе расейскімі настаўнікамі і чыноўнікамі не прынясе плёну і як трэба рабіць правільна, каб на гэтых землях наступіў мір і спакой. Тэкст — нязручны ні на адной, ні на другой лініі ідэалягічнага фронту. Прычым да яго складана прычапіцца ў сэнсе пошуку схаваных матываў, бо Каліноўскі пісаў гэта, ужо ведаючы, што памрэ. Можа, таму гэты сапраўды цікавы і вельмі яркі тэкст фігуруе толькі ў працах прафэсійных гісторыкаў. А вобраз Каліноўскага застаецца вельмі шаблённым. Праз гэта і пачынаюцца хібы.

**Ракіцкі**: Шмат пытаньняў выклікае міт Каліноўскага. І найпершае — як разабрацца зь ягоным імем: Кастусь, Канстанцін ці Канстанцін Вінцэнт? Гэта важна сёньня ведаць, разумець?

**Акудовіч**: Гэта самая бяскрыўдная хіба міту — імя Кастусь. Відавочна, што Каліноўскага пасьля дваццаці гадоў так маглі называць толькі бацька ці брат. Тэарэтычна мы можам меркаваць, што яго так называлі ў дзяцінстве ўсе (дарэчы, неблагое было б дасьледаваньне — высьветліць, ці прысутнічала ў рэгіёне Беластоку — Ваўкавыску ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя традыцыя „ўзроставых імёнаў“ і ці карысталіся такімі ў шляхецкіх сем’ях).

Але гэта наўрад ці мае дачыненьне да ягоных дарослых учынкаў. Ён паміраў як Канстанцін, і пра яго памяталі (а гэта было, хто б там што ні казаў) як пра Канстанціна Вінцэнта, пакуль на пачатку XX стагодзьдзя, дзеля таго, каб наблізіць гэтага героя да народу, дадаць беларушчыны і такім чынам адарваць ад польскай традыцыі, беларускія дзеячы ня выкарысталі форму Кастусь. Атрымліваецца

нібыта наватвор. Але за наступныя сто гадоў гэты „наватвор“ набыў такі размах, што стаў адным з істотных „тэрмінаў“ нашай нацыянальнай культуры. Сотні вершаў, дзясяткі паэмаў і п’есаў, фільм, партызанскі атрад, ордэн, вуліца і шмат чаго яшчэ. Ад такіх рэчаў ужо няпроста адмовіцца падчас чарговай рэвізіі нацыянальных скарбаў, нават калі гэтая рэвізія абгрунтаваная. „Кастусь Каліноўскі“ стаў самадастатковым вобразам, напоўненым сэнсам і зьместам.

**Ракіцкі**: Яно так. Але... Двух гэтых Каліноўскіх можна паставіць у апазыцыю адзін да аднаго, бо ў іх сапраўды ёсьць некаторыя разыходжаньні. Менавіта на гэта і ціснуць усялякія „выкрывальнікі мітаў“. Але ці ёсьць у гэтым здаровы сэнс?

**Акудовіч**: Кастусь і Канстанцін — асобы розных эпохаў. Канстанцін жыў у XIX стагодзьдзі, а Кастусь — у XX-м. Канстанцін — рэальны чалавек, выхаваны ў традыцыях польскамоўнай шляхты, змагаўся за самыя элемэнтарныя свабоды тутэйшых сялянаў, сярод якіх яшчэ не было акрэсьлена права на самавызначэньне, бо не было яшчэ значна прасьцейшых свабодаў. Кастусь — вобраз змагара, гэты вобраз нарадзіўся ў XX стагодзьдзі і дапамагаў у змаганьні за новыя свабоды тутэйшага люду, у тым ліку і за нацыянальнае самавызначэньне. І абодва Каліноўскія мусяць жыць у XXI стагодзьдзі. Адзін бліжэйшы да навуковай сфэры, другі — да мастацкай.

**Ракіцкі**: А цяпер давайце пагаворым пра ролю Каліноўскага ў тым гістарычным паўстаньні. Ці тут таксама ўсё вельмі моцна спрасьцілі мітатворцы?

**Акудовіч**: Так. Патрыятычная грамадзкасьць бачыць у ім цэнтральную асобу паўстаньня, чалаве-

ка, у якім сканцэнтраваўся ўвесь сэнс і большасьць найважнейшых падзеяў 1863 году. З прычыны такой вось цэнтраванасьці „гістарычнага“ наратыву нават асоба Траўгута — апошняга дыктатара паўстаньня і нашага земляка — цяпер далёка ня ўсім вядомая, ужо ня кажучы пра Козел-Паклеўскіх, Юндзіла, Зьвяждоўскага, Лянкевіча, Трусавых і пра дзясяткі іншых годных камандзіраў, якія рызыкавалі сваім жыцьцём у 1863 годзе.

Зь іншага боку, „заходнерусы“ ўскладаюць на Каліноўскага адказнасьць за ўсе сьмяротныя пакараньні з боку паўстанцаў. І паколькі ў літаратуры гуляе лічба ў нібыта дзьве тысячы забітых сялянаў і сьвятароў, дык у выніку атрымліваецца, што Каліноўскі адказны за зьнішчэньне цэлага невялікага гарадка ў Беларусі. Вельмі зручнае абагульненьне, калі хочацца зрабіць з чалавека тэрарыста. У публіцыстычную і нават навукова-папулярную тэрміналёгію цьвёрда ўвайшло слова „каліноўцы“, „паўстанцы-каліноўцы“, якое часта выкарыстоўваецца як абазначэньне ўсіх інсургентаў. Але гэта ўжо нават пэўная непавага да ўсіх „палявых“ камандзіраў 1863 году.

**Ракіцкі**: „Палявых“, як вы кажаце, камандзіраў было некалькі? Не адзін Каліноўскі вёў паўстанцаў на бой?

**Акудовіч**: Вось і вы паўтараеце міт, які не адпавядае гістарычнай праўдзе. Каліноўскі ўвогуле не вадзіў паўстанцаў у бой, ён быў ваяводзкім камісарам. Ягонае імя наўрад ці ведалі шарагоўцы, а для некаторых камандзіраў атрадаў ён быў, хутчэй за ўсё, адным са шматлікіх цывільных „бюракратаў паўстаньня“, якіх трэба трымаць, каб паўстанцкі апарат дзейнічаў як сыстэма. Калі б высакародна-

му шляхціцу Францішку Юндзілу, прадстаўніку старадаўняга і знакамітага слонімскага роду, які ахвяраваў на паўстаньне свой дабрабыт, шматлікія землі, гонар і лёс сваёй сям'і, залежных ад яго людзей, і які сам вадзіў атрады ў бой, сказалі, што яго ў будучыні будуць называць імем недавучанага студэнта, „якабінца“ бяз гроша ў кішэні, які прывозіў яму ў лес кнігі бухгальтарскага ўліку (адзін з абавязкаў Каліноўскага на пасадзе камісара быў менавіта такі), то Юндзіл наўрад ці ўзрадаваўся б. Як і іншыя паўстанцкія камандзіры, чые імёны цяпер ведаюць толькі рэгіянальныя краязнаўцы і навукоўцы.

**Ракіцкі**: Вы хочаце сказаць, што не адзін Каліноўскі мае права называцца кіраўніком паўстаньня?

**Акудовіч**: Каліноўскі, відавочна, заслугоўвае права называцца кіраўніком паўстаньня ў Беларусі і Літве: ён стаяў ля вытокаў гэтай барацьбы, кіруючы рэвалюцыйнымі рухамі яшчэ ў 1862 годзе, ён і завяршыў гэтае паўстаньне, узышоўшы на шыбеніцу. Але замыканьне ў масавай сьвядомасьці ўсёй гісторыі 1863 году на адной асобе жорстка скажае праўду.

**Ракіцкі**: Што тычыцца сьветапогляду Каліноўскага, ягоных матывацыяў і задачаў, якія ён ставіў у часе паўстаньня, — ці можаце вы сказаць перакананa, адназначна, што ён меў на мэце: вызваленьне сялянаў ад прыгнёту — ці вызваленьне краю ад Расеі?

**Акудовіч**: Менавіта ў адказе на гэтае пытаньне застаецца вялікая блытаніна з гэтак званым „паўстаньнем Каліноўскага“. Па-за ўвагай застаецца адзін вельмі важны фактар. „Яська-гаспадар з-пад Вільні“ рыхтаваў рэвалюцыю, пачынаючы з 1862 году, але паўстаньне 1863 году ня стала ягонай

рэвалюцыяй. Зь Пецярбургу гэты чалавек вярнуўся цьвёрдым сацыялістам. Для яго не такім істотным было аддзяленьне ад Расеі, на першым месцы стаяла свабода сялянаў. Вярнуўшыся ў 1862 годзе ў Беларусь і назіраючы хвалі сялянскай незадаволенасьці, якія разьбіваліся аб казацкія сотні і панскую хціваcьць, Каліноўскі і ягоныя аднадумцы плянавалі згуртаваць сілы простага люду і зрабіць „паўстаньне хлопаў“, якое павінна было выбухнуць, але не ў 1863 годзе, а пазьней. Але ўсё адбылося па-іншаму: мяцеж узьнік у студзені 1863 году. У паўстанцкіх атрадах апынуліся не сяляне, а шляхта. Аднадумцаў Каліноўскага сярод іх была меншасьць. Большасьць складалі тыя, хто проста нясьцерпна марыў пра няісную Рэч Паспалітую і ня вельмі клапаціўся пра тое, каб зразумець, чаго канкрэтна ён хоча. Больш, чым „чырвоных“, у гэтых атрадах было аканомаў, арандатараў, „мировых посредников“, тых, хто і выклікаў гнеў сялянаў у першую чаргу.

**Ракіцкі**: Ці разумеў Каліноўскі, што справа разьвіваецца ня так, як ён хацеў? Як рэагаваў на гэта?

**Акудовіч**: Думаецца, менавіта таму з-пад пяра Каліноўскага выходзілі фразы пра пакараньне дрэнных паноў і пра тое, што сякера „не павінна затрымацца над калыскай...“. У роспачы ён хацеў прыцягнуць на свой бок масы простага люду абяцаньнем быць жорсткім з панамі, хоць і разумеў, што ўсё страчана. Дарэчы, ён і не памыліўся са сваёй стаўкай. Сяляне сапраўды выявілі вялікую злосьць і жорсткасьць да сваіх паноў, толькі зрабілі гэта на іншым баку. Але і здрадзіць справе ў такой сытуацыі Каліноўскі ўжо ня мог. Ён выявіў

дзіўную дысцыплінаванасьць як на цывільнага чалавека, маладога і вельмі гарачага. Каліноўскі рашуча ўзначаліў „не сваё“ паўстаньне, пагадзіўся на паніжэньне пасады, рабіў усё, што мог, на вызначаным яму месцы.

**Ракіцкі**: Ці ўжо ўсё сёньня вядома пра асобу Каліноўскага? Якія яшчэ важныя аспэкты, зьвязаныя з Каліноўскім, патрабуюць дасьледаваньня, навуковых разгадак? Ці справа толькі ў інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў?

**Акудовіч**: Якраз у навуковым асяродзьдзі Каліноўскі дасьледаваны досыць добра. З адным толькі „але“. Усе гэтыя дасьледаваньні былі праведзеныя ў XIX і XX стагодзьдзях. І вельмі не хапае новага пераасэнсаваньня асобы Каліноўскага ў стагодзьдзі XXI-м. Вельмі б хацелася, каб зьявілася дасьледаваньне на сумежжы навук і ў кантэксьце лякальнай гісторыі. Тое, што цяпер папулярна ў сусьветнай навуцы. Сапраўды, было б цікава даведацца, ці ўжывала на Сьвіслаччыне дробная шляхта ў XIX стагодзьдзі форму імя Кастусь? Нібыта нязначнае пытаньне, але можа стацца досыць цікавым дасьледаваньнем. Або паспрабаваць прасачыць, як паўплывала на рэлігійныя погляды Каліноўскага (ягоную зацятую антыправаслаўнасьць) асяродзьдзе, у якім ён выхоўваўся. Бо калі прыгледзецца, то адзін з буйных выступаў уніятаў супраць пераходу ў праваслаўе быў у Поразаве, што недалёка ад Сьвіслачы, і ён быў жорстка здушаны. Ці мела гэта ўплыў на Каліноўскага? Карацей, паглядзець на ўсе тыя важныя дробязі эпохі, якія ў выніку сфармавалі будучага паўстанца. Таксама, як мне падаецца, вельмі цікавым было б дасьледаваньне пра створаны ў XX стагодзьдзі

вобраз Кастуся Каліноўскага: як ён разьвіваўся і на што ўплываў сам, чаму да яго актыўна зьвярталіся?

**Ракіцкі**: Паспрабуйце сканструяваць ваш міт пра Каліноўскага. Як ён павінен гучаць? І як яго варта ўспрымаць сучасным беларусам, беларускай нацыі ў XXI стагодзьдзі? Таксама — які Каліноўскі патрэбны сучасным беларусам?

**Акудовіч**: Каліноўскі патрэбны праўдзівы, такі, які ён быў насамрэч, ва ўсіх супярэчнасьцях. Што тычыцца міту, тут усё проста. Каліноўскі — адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863–1864 гадоў на беларускіх землях, змагар за сялянскае шчасьце. Гэта калі суха. Калі глыбей, то, напэўна, Каліноўскага можна лічыць ці ня першым прарокам беларускага народу. Бо ўсё ягонае жыцьцё, таксама і сьмерць, сталіся маніфэстам, на якім будавалася беларуская нацыя цягам XX стагодзьдзя. Калі зусім мэтафарызаваць, дык думаю, што можна нават назваць Каліноўскага першым грамадзянінам будучай Беларусі. Бо менавіта ён першым змог адысьці ад шляхецкіх ідэалягічных установак XVIII стагодзьдзя і намацаць разуменьне пабудовы нацыі ў XX стагодзьдзі на аснове грамадзянскай роўнасьці. Але было яшчэ вельмі рана.

**Яўген**

Ахвяра Каліноўскага была марнаю.

**Ананім**

Заплачце, згодна вашай традыцыі.

**Яўген**

Плач непатэбны. Гэта факт.

**Патрыёт**

Можна і заплакаць. Чаму б і не? А вы радуйцеся. Згодна з вашай традыцыяй, перамогам на вякі Мураўёва-вешальніка.

**Яўген**

Мураўёў — гэта пачвара і кат. Тым больш відаць, што Каліноўскі на марна ахвяраваў сваё маладое жыццё. Цяпер вешальніка прызнаюць героем. Хто? — той самы народ, за які Каліноўскі змагаўся і ахвяраваў сваё жыццё.

**Максім**

Які Каліноўскі патрэбны беларусам? На гранітным пастаменце, адліты з бронзы. Сорам: у сталіцы незалежнай краіны няма дагэтуль помніка найвялікшаму нацыянальнаму герою!

**Зьміцер Кузменка**

1. Тэксты з польскамоўнай газеты „Chorągiew swobody“, якія належалі або маглі належаць Каліноўскаму, даўно перакладзеныя. Гэта зрабіў слынны калінаўсказнаўца Г. Кісялёў, ён жа зьмясьціў іх у дыхтоўны дакументальны зборнік „Кастусь Каліноўскі“ серыі „Беларускі кнігазбор“ амаль два дзясяткі гадоў таму.
2. Словы пра „сякеру над калыскай шляхецкага дзіцяці“ ніколі не выходзілі з-пад пяра Каліноўскага. Гэтая фраза толькі прыпісваецца яму сучасьнікам. І мы ня ведаем, ці была яна насамрэч сказана, а калі была — то ў якім кантэксьце.
3. Калі зыходзіць з тэарэтычнага меркаваньня, Кастусём (ці Костусем) Каліноўскага маглі зваць ня толькі бацька і брат, але і найбліжэйшыя сябры. І ня толькі ў дзяцінстве.

Шчыра кажучы, у дыскусіях вакол Каліноўскага хочацца большай дасьведчанасьці і меншай безапеляцыйнасьці. Цалкам згодны, што за постацьцю „Дыктатара Літвы“ мы практычна не бачым жывога чалавека. Пераасэнсаваньне і пазбаўленьне ад непраўдзівых стэрэатыпаў патрэбнае... Але міт — занадта гучна сказана. На маю думку, можна гаварыць пра рамантызацыю, а не міталагізацыю асобы Кастуся Каліноўскага. А гэта розныя рэчы, і, адпаведна, стаўленьне да іх мусіць быць адрозным.

**Бенедзікт**

Добра, што адбылася такая цікавая гутарка. Але не забывайма, што гэта толькі адзін з поглядаў на К.Каліноўскага, сярод мноства іншых.

**Тадось**

Каліноўскі пайшоў на сьмерць з пераканаࡍньнем: „Тады, народзе, зажывеш шчасьліва, калі над табою маскаля ўжо ня будзе!“ Магчыма, раней ён меў іншыя, і памылковыя, перакананьні, але, як сумленны чалавек, асэнсоўваючы жыцьцё і свае памылкі, ён карэктаваў свае перакананьні. Ён памёр тым Каліноўскім, з якім згодны большасьць беларусаў. І ніхто не дакажа, што яны памыляюцца ў разуменьні ягонай постаці.

## Горадзенскі абласны суд скаргаў не задаволіў

19 студзеня 2017

На ўсе аргумэнты горадзенскіх актывістаў у абласным судзе ў адказ гучала толькі адно пытаньне: „Вы прысутнічалі 30 кастрычніка ў Сьвіслачы, як гэта сказана ў пратаколе?“

— Палякі ўскладаюць кветкі на магілы сваіх герояў, і іх ніхто не перасьледуе; людзі нясуць кветкі да помнікаў Сталіну, Леніну, і іх таксама ніхто не перасьледуе. А калі мы ўшаноўваем сваіх беларускіх нацыянальных герояў — нас судзяць, — сказаў у судзе Ўладзімер Хільмановіч.

Актывісты заявілі Свабодзе, што рашэньне суду было для іх чаканым.

Хільмановіч падкрэсьліў, што дастаткова самога факту прысутнасьці ў той дзень у Сьвіслачы, каб іх лічылі вінаватымі.

Віктар Сазонаў зазначыў Свабодзе, што яшчэ раз пераканаўся ў тым, што на Горадзеншчыне ёсьць пэўная службовая асоба, якая вельмі ня любіць „беларускіх матываў“ і аддае такія загады судам.

## Імёны Свабоды: Францішак Багушэвіч

20 студзеня 2017
Уладзімер Арлоў

Ведаю: шмат каму больш падабаюцца выданьні без прадмоваў. Але ёсьць у айчыннай літаратуры кніга, якую нельга ўявіць без прадмовы. Вы ўжо здагадаліся, гаворка пра Багушэвічаву „Дудку беларускую". Бо гэта — прадмова-маніфэст. Яе аўтар з тых геніяў, што ня проста выказваюць душу свайго народу, але і здольныя некалькімі радкамі вызначыць і запраграмаваць яго гістарычны шлях. Пэўна ж, памятаеце: „Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад сканаьнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!"

У Віленскай гімназіі Францішак сябруе з Зыгмунтам Мінейкам, братамі Цітам і Канстанцінам Далеўскімі. У 1863 годзе яны стануць паўстанцкімі важакамі. Багушэвіч разам з братам Валяр'янам таксама будзе ў ліку тых, хто возьмецца за зброю, каб паказаць сьвету: Літва-Беларусь ня стала перад Расеяй на калені. Змагарам дапамагала ўся сям'я Багушэвічаў. Сястра Ганна патрапіла ў турму, арыштоўвалі бацькоў.

Ён ваяваў у аддзеле славутага Людвіка Нарбута. Бальшыня паплечнікаў змагалася яшчэ за Рэч Паспалітую, Багушэвіч жа, як і Каліноўскі, — ужо за Беларусь.

Пасьля раненьня ў сутычцы з царскімі карнікамі Францішку пашчасьціла ўратавацца ад астрожнай камэры й кайданоў, але за гэта давялося заплаціць

двума дзесяцігодзьдзямі расстаньня з Айчынай. Ён, выдатны кансьпіратар, скончыў ва ўкраінскім Нежыне юрыдычны ліцэй, раскрыў шмат злачынстваў на пасадзе сьледчага і нават атрымаў ордэн сьвятога Станіслава.

У 1884 годзе ў Віленскім акруговым судзе зьявіўся новы адвакат, што, адрозна ад калегаў, з кліентамі-беларусамі (гэта былі пераважна сяляне) гаварыў на іхняй мове. Жыхары Вільні ды навакольных вёсак зь любоўю ахрысьцілі Багушэвіча „мужыцкім адвакатам“. Пакуль амаль ніхто ня ведаў: Францішак ня толькі бароніць беларусаў у судах. Ён складаў на іх роднай — забароненай у навучаньні і друку, у цэрквах і касьцёлах — мове вершы.

„Дудка беларуская“ выйшла ў 1891-м у Кракаве. Прадмову да яе зноў і зноў цытуюць і ў XXI стагодзьдзі. Багушэвіч ня толькі назваў „мужыцкую“ мову беларускай. Ён даў назву будучай краіне і акрэсьліў яе этнічныя межы: „ад Вільні да Мазыру, ад Вітэбску за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня...“. Аўтар „Дудкі“ выявіў сябе і знаўцам гісторыі: „Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму ўжо была ад Балтыйскага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястра-ракі да Нёмну; ад Каменцу места аж да Вязьмы — у сярэдзіне Вялікаросіі; ад Дынабургу і за Крамяньчук, а ў сярэдзіне Літвы, як тое зерне ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь!“

Сёньня можна пачуць, што „нацыянальны праект мужыцкага адваката“ аказаўся ня самым плённым з магчымых. Але гісторыя ня мае ўмоўнага ладу.

Францішак Багушэвіч. 21.3.1840, фальварак Сьвіраны паблізу Вільні — 28.4.1900, в. Кушляны, цяпер Смаргонскі раён. Пахаваны ў в. Жупраны, Ашмянскі раён.

## Пачаўся збор грошай на кнігу пра паўстаньне Каліноўскага на Горадзеншчыне

23 студзеня 2017

На сайце talaka.by пачаўся збор грошай на выданьне і распаўсюд кнігі гісторыка Вячаслава Шведа „Рэквіем паўстанцам 1863–1864 гг. (Гродзенская губэрня)“. За першы дзень на новую кнігу сабрана 189 рублёў. Каб надрукаваць выданьне, патрабуецца 4500 рублёў.

Вячаслаў Швед кажа, што кніга напісаная на матэрыялах перш за ўсё Нацыянальнага гістарычнага архіву Беларусі ў Горадні і Віленскага гістарычнага архіву. Геаграфія кнігі —Горадзенская губэрня. Аўтар таксама працаваў з мэмуарамі, дзёньнікамі, успамінамі, з кнігамі, якія сталі цяпер бібліяграфічнай рэдкасьцю.

Ён кажа, што за апошні час зьявіліся новыя кнігі пра паўстаньне. Выйшла грунтоўная праца Дзьмітрыя Матвейчыка зь Менску, які перакапаў менскі архіў і напісаў біяграфічны слоўнік паўстанцаў Менскай губэрні. Вячаслаў Швед:

— Мая кніга раскрые другую частку Беларусі, найбольш актыўную ў тым паўстаньні. У кнізе будзе найперш аповед пра людзей, якія ў ім удзельнічалі, гэта рэквіем паўстанцам. Але мяне цікавілі лёсы і кіраўнікоў, і тых, хто змагаўся са зброяй у руках у атрадах, і тых, хто ўдзельнічаў у маніфэстацыях, насіў сымбалі паўстанцкія або дэманстратыўна — чорную вопратку. Далей — біяграфічны слоўнік. Адзначаныя асобы, якія самі ўдзельнічалі ці дапамагалі паўстанцам, ежу давалі, вопратку. Высьвет-

ліць лёсы паўстанцаў дапамаглі таксама зьвесткі з сібірскіх архіваў, што ёсьць у сеціве. У кнізе ёсьць дадаткі: сьпісы тых, хто сьпяваў патрыятычныя песьні, хто ўдзельнічаў у касьцельных шэсьцях. Я стараўся назваць як мага больш прозьвішчаў. Частку зь іх ніхто раней не ўспамінаў.

З кастрычніка 2016 году Вячаслаў Швед стаў пэнсіянэрам. Пэнсіі выпісалі 315 рублёў, кажа ён, пазьней дабавілі яшчэ дзесяць. У 2013 годзе ў Горадзенскім унівэрсытэце імя Янкі Купалы зь ім не працягнулі кантракт.

Гісторык надалей вядзе навуковыя дасьледаваньні, удзельнічае ў канфэрэнцыях, супрацоўнічае з Варшаўскім унівэрсытэтам.

## Першы бандэравец Каліноўскі

25 студзеня 2017
Севярын Квяткоўскі

„А яшчэ яны называлі цябе земляным чарвяком!“ — узгадваю я фразу з мульціка пра Маўглі, калі штораз сустракаю, як беларусафобы прыводзяць апошні аргумэнт пра „антырасейскасьць“ працэсаў у Беларусі.

„А яшчэ, а яшчэ... А яшчэ ў іх Каліноўскі — герой!“. — „Ах, ня можа быць?!.. А хто гэта?“. — „А гэта іх першы бандэравец, ён выступаў супраць Расеі“. — „А-я-я-й“.

Вышэй я вобразна змадэляваў, чаму рознага кшталту „рэгнумцы“ пэрыядычна чапляюцца за Кастуся Каліноўскага. Іх мэтавая аўдыторыя, віда-

вочна, расейская. То бок, неабазнаная ў гісторыі Беларусі, і ёй можна падсунуць жахалку.

Паколькі ў XX стагодзьдзі ў Беларусі не было такіх вядомых у Расеі людзей як Сьцяпан Бандэра, дэканструктарам беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці давялося неяк выкручвацца, бо жахаць жа неяк трэба, работа такая. Так зьявіўся „польскі шляхціц, які ваяваў супраць Расеі“. Ключавое слова „польскі“, бо палянафобія ў Расеі, здаецца, не зьнікала ніколі.

Спробы параспальваць у самой Беларусі антыпольскую карту ў зьвязку з Каліноўскім сышлі ў пясок. Каліноўскі ў Беларусі вядомы практычна ўсім апошніх дзевяноста гадоў. Ад выхаду фільму „Кастусь Каліноўскі“ ў 1927 годзе.

Фігура, якая яднае практычна ўсіх, бо не выклікае дыскусій. Не, асабліва абазнаныя часам іх ладзяць, але прыходзяць да супольнай роўніцы. „Я правы кансэрватар, а Каліноўскі быў сацыялістам. Ня мой герой“. — „Але ж ён быў супраць Расейскай імпэрыі, а да народу зьвяртаўся па-беларуску, газэту першую беларускамоўную выдаў“. — „Так, згода, гэта больш важна“.

Мы абіраем. З гісторыі мы абіраем сымбалі, важныя нам сёньня. Немагчыма параўноўваць людзей XIX-га, а пагатоў ранейшых стагодзьдзяў, зь сёньняшнім днём. Каліноўскі быў і шляхціц, і сацыяліст за простых людзей, і першы масава зьвярнуўся па-беларуску, і супраць імпэрыі, а яшчэ ён на піцерскім юрфаку вучыўся, а яшчэ яго кола сябравала з расейскімі протадэмакратамі. А яшчэ, а яшчэ...

А яшчэ імя Каліноўскага насіў савецкі партызанскі атрад.

Наўрад ці ў 1927 годзе думалі, што праз 90 гадоў імя Каліноўскага будзе асацыявацца найперш зь беларускай нацыянальнай ідэяй. Той самай „буржуазна-нацыяналістычнай“, зь якой змагаліся бальшавікі.

Зрэшты, у 1927 годзе наўрад ці маглі ўявіць, што ўжо неўзабаве пачнуцца рэпрэсіі, якія дасягнуць апагею празь дзесяць гадоў. І што імпэрыя зноў забярэ большасьць тых, хто дбаў пра беларускую зямлю. Так як і ў выпадку з паплечнікамі Каліноўскага.

Сёньня імя Каліноўскага жыве само па сабе, без прывязкі да яго біяграфіі, да яго поглядаў. Гэта як пароль, як сынонім слова „незалежнасьць“.

## Знойдзеныя парэшткі Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў?

6 лютага 2017

Сёлета ад 2 да 25 студзеня ў Вільні на пляцоўцы Замкавай гары падчас добраўпарадкаваньня тэрыторыі група археолягаў Літоўскага нацыянальнага музэю (ЛНМ) знайшла парэшткі чатырох чалавек. Археолягі высунулі гіпотэзу, што гэта могуць быць пахаваньні паўстанцаў 1863–1864 гадоў. Пра гэта паведамляецца на сайце музэю.

— Падчас дасьледаваньня мы выявілі пяць пахаваньняў, але поўнасьцю раскрылі і дасьледавалі два. У першай магіле мы знайшлі парэшткі аднаго чалавека, другая магіла была групавая, у ёй былі знойдзеныя парэшткі трох чалавек, — сказаў старэйшы навуковы супрацоўнік аддзелу сярэднявечча і новага часу ЛНМ, археоляг Арунас Калеюс.

Як цьвердзіць археоляг, памерлы быў пахаваны без труны і абсыпаны вапнай.

— Мужчына, знойдзены ў першай магіле, быў пахаваны ў вопратцы і ў скураным абутку з даўгімі халявамі да кален. Вопратка і абутак струхлелі. Лепш захаваліся толькі дэталі адзеньня — гузікі, спражка рэменя — вырабленыя зь неарганічных матэрыялаў. Памерлы пахаваны на сьпіне, з выцягнутымі нагамі, мяркуючы па стане касьцей — зь зьвязанымі за сьпінай рукамі, — расказвае Калеюс.

У другой магіле знойдзеныя парэшткі трох мужчын, памерлыя таксама пахаваныя бяз трунаў, абсыпаныя вапнай.

— Двое памерлых пахаваныя на сьпіне, адзін побач з другім. Адзін зь іх, паводле стану касьцей, пахаваны са зьвязанымі за сьпінай рукамі. Трэці памерлы ляжыць на жываце, упоперак паверх двух першых. Гэта кажа пра тое, што памерлыя не былі пахаваныя належным чынам, — расказаў археоляг.

Прычына сьмерці памерлых пакуль што застаецца неўсталяваная. У дасьледаваных магілах кулі ня знойдзеныя.

— У архівах Літоўскага нацыянальнага музэю мы маем малюнак Уладзіслава Загорскага, на якім намаляваныя кветкі браткі, пасаджаныя паміж двума дрэвамі ў форме крыжа. Вакол кустоўе, а за ім вежа Гедзімінавага замку. Археалягічных знаходак, якія б пацьвярджалі, што на гары былі пахаваныя людзі, мы дагэтуль ня мелі. Існавала легенда пра патаемна пахаваных паўстанцаў і пастаўлены ім крыж, — сказала дырэктарка ЛМН Біруце Кульніце.

Побач з парэшткамі аднаго з памерлых знойдзены срэбны мэдальён, выраблены ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя. Гэтая знаходка дазваляе археолягам высунуць гіпотэзу, што памерлыя былі пахаваныя не раней за другую палову XIX стагодзьдзя. Паводле архіўных дадзеных, гэтыя парэшткі ўжо былі знойдзеныя ў 1915–1916 гадах.

Таму выказваецца меркаваньне, што знойдзеныя парэшткі могуць належаць удзельнікам паўстаньня 1863–1864 гадоў, пакараным сьмерцю на Лукіскім пляцы ў Вільні.

Цяпер археалягічныя дадзеныя аналізуюцца. Нешматлікія знаходкі, выяўленыя падчас дасьле-

даваньня, кансэрвуюцца. Парэшткі перададзеныя спэцыялістам-антраполягам Мэдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Толькі пасьля дасьледаваньняў з удзелам навукоўцаў розных галінаў можна будзе адказаць на пытаньне, ці знойдзеныя парэшткі маюць дачыненьне да ўдзельнікаў паўстаньня 1863–1864 гадоў.

У 1863–1864 гадах на Лукіскім пляцы былі павешаныя або расстраляныя 21 удзельнік паўстаньня, у тым ліку яго правадыры — Зыгмунт Сераткоўскі і Кастусь Каліноўскі. Рашэньне закапаць целы паўстанцаў пасьля экзэкуцыі на Замкавай гары было б невыпадковае — так маглі спрабаваць схаваць месца іх пахаваньня ад іх блізкіх і ад грамадзкасьці.

Пасьля паўстаньня 1831 году на загад імпэратара Мікалая I на тэрыторыі Віленскага замку была абсталяваная крэпасьць. Яна была закрытая і недаступная для грамадзтва аж да самага канца XIX стагодзьдзя.

Вэрсію, што на Замкавай гары пахаваныя паўстанцы 1863 году, высунуў яшчэ ў 1904 годзе віленскі краязнавец Уладзіслаў Загорскі.

Пазьней у выданьні „Przewodnik po Wilnie“ ён сьцьвярджаў, што на Замкавай гары пахаваны правадыр паўстаньня 1863 году Зыгмунт Серакоўскі, а таксама ксёндз Станіслаў Ішора і Баляслаў Калышка.

17 жніўня 1917 году быў усталяваны крыж для ўвекавечаньня памяці С. Ішоры і З. Серакоўскага, аднак нямецкія ўлады ў той самы дзень крыж прыбралі.

Адноўлены ён быў толькі ў 1921 годзе. А ў 1925 годзе побач з крыжам былі ўсталяваныя дзьве таблiцы: адна з надпісам па-польску „Невядомаму

жаўнеру“, а другая з прозьвішчамі паўстанцаў 1863 году, пакараных сьмерцю на Лукіскім пляцы.

У чэрвені 1940 году крыж памяці паўстанцаў 1863 году, які стаяў на Замкавай гары, быў прыбраны.

**Алесь**

Калі навіна сапраўдная і парэшткі сапраўдныя, тады яны павінны быць пахаваны ў Беларусі!!

**Провинциалка**

Кастусь Калиновский — это наша гордость беларуская, наша святыня, национальный герой Беларуси! В Свободной Беларуси ему будет установлен памятник!

**Зоська**

На сайту „всероссійское генеалогіческое древо“ vgd.ru ёсьць цікавая інфармацыя пра быццам бы патомкаў роду Каліноўскіх. Гэта наконт магчымасьці генэтычных аналізаў на радство, чым чорт не жартуе?...

## З дакладнасьцю 100% мы ніколі не даведаемся, чые парэшткі знайшлі на Замкавай гары, — Алесь Смалянчук

7 лютага 2017

Пракамэнтаваць падзею Свабода папрасіла доктара гістарычных навук Алеся Смаленчука:

— Я ўспрыняў навіну дастаткова асьцярожна, — адказаў ён, — таму што ня хочацца нейкіх сэнсацыяў пустых, зьвязаных зь імем Каліноўскага. А наагул, вядома, вельмі цікава. Калі ў дзяржавы не даходзяць рукі да раскопак на Замкавай гары ў Вільні, то сама прырода дапамагае. Усё пачалося выпадкова: абсыпаўся схіл гары, убачылі косткі і

былі вымушаныя запрасіць археолягаў і пачаць раскопкі.

Алесь Смалянчук паразмаўляў сёньня з калегамі, якія працуюць у Нацыянальным мастацкім музэі Літвы.

— Знайшлі спачатку парэшткі аднаго чалавека, потым пад ім аказаліся яшчэ тры разам, — кажа Смалянчук. — Знайшлі некаторыя рэчы — мэдальён, гузікі не раней як зь сярэдзіны XIX стагодзьдзя. Значыць, цалкам магчыма, што гэта паўстанцы ляжаць. І я пацікавіўся гэтымі трыма. Ёсьць сьпіс, складзены ў свой час яшчэ польскім дасьледчыкам Студніцкім. Сьпіс тых, хто быў пакараны сьмерцю ў Вільні. 28 жніўня 1863 году пакаралі сьмерцю, расстралялі траіх. Яны былі кінутыя ў яму на Замкавай гары. А пазьней магілу раскрылі і кінулі яшчэ аднаго. Па датах атрымліваецца, што пасьля гэтых трох загінулі яшчэ шэсьць чалавек, у тым ліку і Каліноўскі. Яшчэ там ёсьць вядомае імя Ціта Далеўскага, сябра Каліноўскага і начальніка паўстаньня ў Вільні. Іншыя імёны нам мала што кажуць. І сяляне там, і жаўнеры. Серакоўскага расстралялі яшчэ ў чэрвені 1863 году. Да тых траіх. Гэта мая гіпотэза — я зьвязваю гэтую магілу з тымі трыма.

Смалянчук назваў прозьвішчы гэтых трох: Ян Бянькоўскі, сын Тамаша, селянін, фэльчар, з Варшаўскай губэрні; Эдвард Чаплінскі, шляхціц, з Панявескага павету; Ян Марчэўскі, мешчанін. Пра апошняга нічога не напісана, невядома, адкуль ён, кажа Алесь Смалянчук і ўдакладняе:

— Але гэта толькі гіпотэза. Сьцьвярджаць так адназначна немагчыма, нават з улікам таго, што разам ляжаць. Але гэта досыць верагодная гіпотэза, можна сказаць. Ну, і атрымліваецца, што потым

пакаралі сьмерцю яшчэ шасьцярых, Каліноўскі быў апошнім. Ціта Далеўскага расстралялі 30 сьнежня 1863 году.

На пытаньне, наколькі рэальна выявіць, ці сапраўды парэшткі Кастуся Каліноўскага маглі быць у раскапанай магіле, Алесь Смалянчук адказаў:

— Парэшткі, наколькі я ведаю, перадалі ў лябараторыю, іх паспрабуюць ідэнтыфікаваць. Захаваліся здымкі амаль усіх паўстанцаў. Можна на іх арыентавацца. Бо што да генэтычнага аналізу, мы ня ведаем прамых нашчадкаў Каліноўскага. Толькі што ёсьць здымкі яго, Далеўскага, і можна з пэўнай доляй верагоднасьці нешта ўстанавіць. Ня ведаю, як будзе зь іншымі, ці знойдуцца іхнія здымкі. Але нейкую працу праводзяць ужо ў мэдычным унівэрсытэце ў Вільні. І ёсьць шанцы, што праз некаторы час нешта даведаемся. Але з дакладнасьцю сто працэнтаў не даведаемся ніколі. Цяпер існуе мноства праграмаў, якія дазваляюць наблізіцца да ісьціны. І потым, са слоў маіх калегаў з музэю, яны казалі, што раскопкі сёлета адновяць. Яны ўпэўненыя, што там значна больш людзей ляжыць.

## Антраполягі шукаюць сваякоў Кастуся Каліноўскага

19 сакавіка 2017

Праз некалькі дзён на Замкавай гары ў Вільні будуць адноўленыя працы археолягаў на месцы пахаваньня кіраўнікоў паўстаньня 1863–1864 гадоў.

Прапануем вам запіс круглага стала на Літоўскім радыё, дзе спэцыялісты распавялі пра сёньняшнюю

сытуацыю вакол меркаванай магілы нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў.

**Вядоўца**: Мы будзем гаварыць пра знаходкі на гары Гедзіміна (Замкавай гары). Можна нясьмела марыць, што ўсё ж такі нам пашанцавала — што, магчыма, гэта парэшткі правадыроў паўстаньня 1863 году Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Сераkоўскага. Сёньня нашыя суразмоўцы — старэйшы музэязнаўца аддзелу Сярэднявечча і Новага часу Нацыянальнага музэю Літвы археоляг Арунас Калеюс (Arūnas Kalėjus), гісторык Вітаўтас Ягела (Vytautas Jogėla), а неўзабаве праз тэлефон далучыцца і прафэсар катэдры анатоміі, гісталёгіі і антрапалёгіі мэдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту Рымантас Янкаўскас (Rimantas Jankauskas). У якіх акалічнасьцях было знойдзенае гэтае пахаваньне, гэтыя пахаваныя?

**Калеюс**: Археалягічныя дасьледаваньні пляцоўкі на гары Гедзіміна мы выканалі ў студзені сёлета. Працавалі сямёра археолягаў з Нацыянальнага музэю. Дасьледаваньні былі зьвязаныя з працамі дзеля ўпарадкаваньня гары Гедзіміна.

**Вядоўца**: Упарадкаваньня ў сувязі з апоўзкамі глебы?

**Калеюс**: У сувязі з апоўзкамі глебы трэба было выканаць пэўныя працы, каб паменшыць імавернасьць фармаваньня апоўзкаў гэтай вясной. Раскопкі мы праводзілі на пляцоўцы і парэшткі знайшлі на пляцоўцы, не на схіле. Увесь студзень мы дасьледавалі невялікую, але і немалую тэрыторыю — 15 кв. м, зафіксавалі культурны пласт таўшчынёй ад 2 да 3 м, адкапалі некалькі дзясяткаў знаходак канца XIV ст., XX ст. Нашых слухачоў,

зразумела, найбольш цікавяць пахаваньні. На плошчы 15 кв. м мы выявілі пяць магілаў. Тры магілы раскапаць удалося часткова, закрануўшы край ці кут магільнай ямы. Было зразумела, што гэта магілы, што ў іх пахаваныя нябожчыкі. Мы закансэрвавалі іх і пакінулі для будучых дасьледаваньняў. А цалкам мы дасьледавалі дзьве магілы. У адной магіле быў пахаваны адзін нябожчык, а другая магіла групавая, у ёй пахаваныя трое нябожчыкаў.

**Вядоўца**: А ці для вас самых гэта была нечаканасьць? Ці вы чакалі, што знойдзеце магілы, шукаючы старэйшых артэфактаў?

**Калеюс**: Калі цяпер вярнуцца думкаю назад, то былі зьвесткі, што можна чакаць такіх знаходак. Але перад пачаткам дасьледаваньняў мы не спадзяваліся на такое, усё ж гэта была нечаканасьць. Усё ж гара Гедзіміна — гэта ня могілкі, не асьвячонае месца. Цяпер, азіраючыся назад, адзначаем, што на гэтым месцы стаяў крыж, мы капалі поруч з Крыжам паўстанцаў, і калі магілы былі выяўленыя, прэса пісала: як жа, маўляў, можна было не чакаць такога. Але так было — мы не чакалі.

**Вядоўца**: Ужо пасьля таго зьявілася публікацыя літаграфіі з Крыжам паўстанцаў.

**Калеюс**: У інтэрнэце гэты здымак не адзіны, і папраўдзе ён заўсёды быў даступны.

**Вядоўца**: На якой глыбіні былі парэшткі?

**Калеюс**: На адным перакапаным баку была глыбіня культурнага пласта каля мэтру, на іншым баку — тры мэтры. Нябожчыкі былі пахаваныя (калі яны былі пахаваныя ў другой палове XIX ст., а мы не сумняваемся ў гэтым) на глыбіні 1—1,5 м.

**Вядоўца**: Што падказваюць знаходкі, выяўленыя каля целаў?

**Калеюс**: Нябожчыкі былі пахаваныя бяз трунаў, несумненна, у адзеньні, хаця арганіка — тканіны — расклалася; мы выявілі некалькі шматкоў, рэстаўратары іх закансэрвуюць. Лепш захаваліся вырабы зь неарганічных матэрыялаў, такія, як дэталі адзеньня — гузікі, некалькі спражак ад папругаў. Цяпер гэтыя вырабы перададзеныя рэстаўратарам, яны будуць пачышчаныя, будзе праведзены больш дэталёвы тыпалягічны аналіз, але няма сумневаў, што рэчы выробленыя ў 2-й палове XIX ст.

**Вядоўца**: Такія храналягічныя рамкі?

**Калеюс**: Мы адразу акрэсьлілі гэтыя храналягічныя рамкі: у раскопках не было рэчаў, якія можна было б датаваць пачаткам XIX ст. (напрыклад, як у пахаваньнях ваяроў францускага войска). Таксама не было вырабаў, якія можна датаваць пачаткам XX ст. Таму маем даволі вузкія храналягічныя рамкі: сярэдзіна — другая палова XIX ст.

**Вядоўца**: Сам спосаб пахаваньня — які ён быў?

**Калеюс**: Паколькі нябожчыкі пахаваныя бяз трунаў, то можа і ня так дзіўна (іншыя тагачасныя пахаваньні пераважна ў трунах), што яны абсыпаныя вапнай.

**Вядоўца**: Чаму вапнай?

**Калеюс**: Вапна ўжывалася як дэзынфэкцыйны сродак, асабліва калі людзі паміралі ад хваробаў, падчас эпідэміяў. Таксама вапна выкарыстоўвалася для паскарэньня раскладу арганікі. Цікавейшая канфігурацыя пахаваньня нябожчыкаў. Нават не пахаваньня, а закопваньня. У групавой магіле трое нябожчыкаў. Двое пахаваныя раўналежна адзін аднаму. Адзін зь іх пахаваны на сьпіне і са зьвязанымі за сьпінай рукамі. Вядома, вяроўкі ці іншага рыштунку мы не знайшлі, але з разьмяшчэньня

касьцей відаць, што ён пахаваны са зьвязанымі за сьпінай рукамі.

**Вядоўца**: Нештодзённы звычай.

**Калеюс**: Сапраўды, нештодзённы. Я не магу прыгадаць, каб тут, у Літве, быў выяўлены нябожчык са зьвязанымі рукамі. Я не заглыбляўся ў пэрыяды 1-й і 2-й сусьветных войнаў, але з ранейшых пэрыядаў такога не магу прыпомніць. А трэці нябожчык быў пакладзены на тых дваіх, галавой у процілеглы бок.

**Вядоўца**: Дык гэта падказвае, што яны былі скінутыя.

**Калеюс**: Так, хутчэй не пахаваныя, а скінутыя і закапаныя без належнай пашаны. Як гэты чалавек, што быў кінуты на двух астатніх жыватом уніз і ў процілеглы бок.

**Вядоўца**: Такім чынам, храналягічныя рамкі — другая палова XIX ст., месца пахаваньня — пляцоўка гары Гедзіміна, г. зн. ня могілкі, адно зь целаў са зьвязанымі за сьпінай рукамі — гэта ўсё доказы, што і сапраўды яны маглі быць удзельнікамі паўстаньня 1863 году.

**Калеюс**: Так, і паколькі рукі ў нябожчыка зьвязаныя, то відавочна, што нябожчык памёр не сваёй сьмерцю.

**Вядоўца**: Іншая рэч, пра якую хачу спытаць спадара Вітаўта Ягелу. Паведамляецца, што куляў ня выяўлена, у целах няма сьлядоў куляў, прыкметаў гвалтоўнай сьмерці ад агняпальнай зброі няма. Гэта мела б сьведчыць, што быў іншы спосаб... Вы перад праграмай прыгадалі, што кіраўнікоў паўстаньня, адрозна ад шараговых удзельнікаў, не расстрэльвалі, іх вешалі.

**Ягела**: Так. Гісторыкі Нацыянальнага музэю Літвы цяпер праводзяць дадатковае дасьледаваньн-

не, шукаючы дакумэнтаў, якія б пацьвердзілі, так бы мовіць, аўтэнтычнасьць гэтых паўстанцаў. У тагачасным расейскім вайсковым карным кодэксе былі строга вызначаныя правілы, рэглямэнт выкананьня сьмяротнага прысуду. Перад павешаньнем так званага злачынцы (выкарыстоўваючы тэрміны тагачаснай Расейскай імпэрыі) рыхтавалі для гэтага спэцыяльнае месца — у гэтым выпадку ўсе такія экзэкуцыі (расстрэлы, павешаньні) у Вільні адбываліся на Лукіскім пляцы.

**Вядоўца**: Гэта былі публічныя працэсы.

**Ягела**: Так, гэта былі публічныя працэсы. З самай раніцы перад выкананьнем прысуду па горадзе хадзілі салдаты з барабанамі, лупілі ў барабаны і чыталі загад вайсковага трыбуналу пра будучае выкананьне прысуду.

**Вядоўца**: Своеасаблівае папярэджаньне.

**Ягела**: Так, папярэджаньне. І запрашалі людзей паглядзець, як той прысуд будзе выкананы. Перад павешаньнем з паўстанца здымалі верхнюю вопратку, надзявалі падрыхтаванае для гэтага адзеньне, а таксама каптур на галаву. Каптур быў патрэбны, каб засуджаны ня бачыў, што адбываецца. Яму таксама зьвязвалі рукі. Зьвяртаю ўвагу, што выканаць гэтае дзеяньне было абавязкова.

**Вядоўца**: Значыць, гэта не супадзеньне?

**Ягела**: Калі засуджанаму быў вынесены сьмяротны прысуд, то, скажам, перад павешаньнем кат надзяваў вяроўку і вешаў паўстанца. Іншы характар мела кара праз расстрэл. Перад расстрэлам прыводзілі паўстанца, шыхтавалася рота — прыблізна 15 салдатаў. Адлегласьць паміж паўстанцамі і салдатамі была 15 крокаў. Пад біцьцё барабанаў зачытвалі прысуд. На ўзмах рукі афіцэра салдаты рабілі залп.

Паводле інструкцыі належала страляць паўстанцу ў грудзі. Калі пасьля першага залпу паўстанец ня падаў, тады дазвалялася страляць адзіночнымі стрэламі. Потым павешанага ці расстралянага паўстанца клалі ў загадзя выкапаную каля слупа яму. Тады засыпалі вапнай і закопвалі. Рота салдатаў праходзіла па гэтым закапаным паўстанцу маршам. Такі быў афіцыйны парадак павешаньня і расстрэлу.

**Вядоўца**: Прашу ў слухачоў прабачэньня за ў пэўнай ступені жудасны абразок, якога не магло намаляваць нават уласнае ўяўленьне.

**Ягела**: Вусьцішная карціна.

**Вядоўца**: Але гэта важна, бо мы можам супаставіць пачутае са знаходкамі. Зноў жа пацьвярджаецца: калі б гэта быў расстрэл, мы несумненна пабачылі б на парэштках яго прыкметы.

**Ягела**: Так, куляў у магілах ня выяўлена. Кулі ў той час былі пераважна алавяныя [г. зн. на савецкай мове „сьвінцовыя“, Pb], яны вельмі добра зьберагаюцца ў культурным пласьце. Але ніводнай кулі ня знойдзена. Ёсьць некалькі маленькіх фрагмэнтаў памерам 1–2 мм, але сумнеўна, што гэта кулі. Пагатоў што антраполягі, якія дапамаглі нам спрэпараваць парэшткі, відавочных пашкоджаньняў на шкілетах не заўважылі. Ясна, будуць выкананыя больш дэталёвыя антрапалягічныя дасьледаваньні парэштак, будзе магчыма ўдакладніць ці вызначыць прычыну сьмерці, але, грунтуючыся на цяпер наяўных зьвестках, мы ня думаем, што выяўленыя нябожчыкі былі расстраляныя. Ня маем дадзеных, каб так меркаваць.

**Вядоўца**: Чаму ўсё ж гара Гедзіміна? З Лукішак, наколькі я ведаю, пазьней, увечары, калі горад

сунімаўся, тыя целы выкопвалі, вывозілі і перапахоўвалі ў невядомым месцы, каб магіла ня стала аб'ектам шанаваньня. Чаму гара Гедзіміна?

**Ягела**: Гара ў той час была на тэрыторыі расейскай фартэцыі. Тая тэрыторыя была закрытая, яе ахоўвалі, людзі з гораду не маглі туды патрапіць, там стаялі вайсковыя часткі, і я думаю, што такія перапахаваньні выконваліся асабліва патаемна. Колькі мы ні шукалі ў архівах — дагэтуль не знайшлі ані згадкі, ані загаду ці прынамсі распараджэньня, каб тыя целы выкапаць і вывезьці для пахаваньня. Улада рабіла гэта патаемна, бо баялася: калі б віленчукі ці іншыя людзі дазналіся, дзе пахаваныя правадыры паўстанцаў, то, ясна, пачалі б прыходзіць, класьці кветкі, маглі б пачацца маніфэстацыі...

**Вядоўца**: Месца зрабілася б цэнтрам супраціву...

**Ягела**: Так. Нават у Польшчы, дзе адбылося шмат расстрэлаў — расстралялі каля 500 чалавек — гэтыя месцы таксама невядомыя, іх зь цяжкасьцю можна ідэнтыфікаваць. Напрыклад, у Аўгустоўскай губэрні, дзе таксама было многа расстрэлаў, дагэтуль невядома, пад якім узгоркам пахаваныя паўстанцы, і працягваюцца дыскусіі, дзе ж гэта магло быць. Улады Расейскай імпэрыі, тагачасны генэрал-губэрнатар Мураўёў зрабілі ўсё, каб гэтае перапахаваньне было цалкам таемнае. Я нават чытаў ягоныя ўспаміны ў пецярбурскім архіве. Там няма ані слова пра перапахаваньні — што паўстанцаў трэба перапахаваць. Хаця ён шмат пісаў ва ўспамінах, што паўстанцаў трэба зьнішчаць, што трэба супраць іх змагацца.

**Вядоўца**: Таксама даводзілася чуць, што Мураўёў і адміністрацыя мелі праблемы, шукаючы

ка́та ўсім тым паўстанцам — а гэта 21 чалавек, якіх пакаралі сьмерцю на Лукіскім пляцы. Ці так?

**Ягела**: Калі вайсковы трыбунал прыняў рашэньне, некаму трэба гэты прысуд выконваць. Мураўёў сутыкнуўся зь дзіўнай праблемай: ува ўсёй Віленскай губэрні не знайшлося чалавека, які пагадзіўся б вешаць удзельнікаў і правадыроў паўстаньня. Найцікавейшы факт: першым меў быць расстраляны ксёндз Ішора, і Мураўёў з прыемнасьцю памяняў бы яму прысуд на павешаньне, але ў той момант ён не знайшоў у Вільні вешальніка. Толькі пазьней вешальнік прыбыў з Варшавы, яго прозьвішча невядомае, і ў архівах нічога не ўдалося выявіць. Але ўжо праз месяц у Вільні паўстанцаў пачалі ня толькі расстрэльваць, але і вешаць.

**Вядоўца**: А ці можна сказаць, што генэрал-губэрнатар Мураўёў, пазьней празваны Вешальнікам, ня здолеў знайсьці ка́та з прычыны пэўнай ляяльнасьці, паказальнай падтрымкі паўстанцам з боку літоўцаў ці мясцовых жыхароў — своеасаблівай формы супраціву?

**Ягела**: Гэтыя дзеяньні можна лічыць і формай супраціву. Для экзэкуцыяў патрэбны быў чалавек з своеасаблівай псыхікай. Я не псыхоляг, але хутчэй за ўсё асноўны аргумэнт быў у тым, што людзі супраціўляліся гэтай палітыцы ўладаў, у большасьці сваёй падтрымалі паўстаньне і не хацелі выконваць такіх жахлівых чынаў.

**Вядоўца**: Пагатоў калі ідэя Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў у 1863 годзе яшчэ канчаткова ня зьнікла. Але пра ходу паўстаньня ды іншыя аспэкты мы яшчэ пагаворым. Цікавы факт, што праз сорак гадоў пасьля паўстаньня, у 1904 годзе, польскі гісторык-аматар Уладзіслаў Загорскі ўпершыню

абнародаваў сьведчаньне, што целы ахвяраў экзэкуцыі на Лукіскім пляцы былі кінутыя ў яму, а ўначы вывезеныя на Замкавую ці Трохкрыжовую гару. Паводле яго, пахаваньне Зыгмунта Серакоўскага і Кастуся Каліноўскага — на гары Гедзіміна. Гэта, магчыма, адзінае такое сьведчаньне, што там можа быць тое пахаваньне.

**Ягела**: Сьведчаньні...

**Вядоўца**: Легенды?

**Ягела**: ...Легенды, можна і так сказаць, зьявіліся ў тагачасным грамадзтве зь дзьвюх крыніцаў, як цяпер вядома. Адна крыніца, паводле тагачасных апавядальнікаў, — жонка жандара, палкоўніка ці падпалкоўніка, якая згадвала, што паўстанцы пахаваныя на гары Гедзіміна. Іншыя сьведчаньні зьявіліся нядаўна ў беларускім друку. Адзін беларускі журналіст паведаміў, што тагачасны іхны нацыянальны дзяяч Антон Луцкевіч даведаўся ад вартаўніка Гедзімінавага замку, што на Замкавай гары былі пахаваныя правадыры паўстанцаў 1863 году ды іншыя расстраляныя і павешаныя паўстанцы. Ёсьць яшчэ і трэцяе такое сьведчаньне, яно прыйшло з ваколіцаў Пецярбургу. Але ў сутнасьці гэтыя сьведчаньні былі, так бы мовіць, на ўзроўні чутак, легендаў. Аднак папраўдзе я думаю, што гэтыя факты маглі і пацьвердзіцца. Хоць ясна, што трэба яшчэ выканаць шмат дасьледаваньняў.

**Вядоўца**: А на якой стадыі цяпер гэтая сытуацыя? Што мы можам абнавіць, што новага даведаліся пасьля эксгумацыі?

**Калеюс**: На гэты момант археалягічныя дасьледаваньні закончаныя, выяўленыя парэшткі нябожчыкаў перададзеныя катэдры антрапалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту для антрапалягічных

дасьледаваньняў, а знаходкі пры нябожчыках перададзеныя рэстаўратарам...

**Вядоўца**: Што новага знойдзена?

**Калеюс**: Яны кансэрвуюцца, рэстаўруюцца. Дадатковых зьвестак мы пакуль што ня маем.

**Вядоўца**: Іншыя знаходкі, іншыя магілы, якія вы ўзгадалі, — яны чакаюць сваёй чаргі на кансэрвацыю, так?

**Калеюс**: Так, яшчэ тры магілы, якіх мы не дасьледавалі... Фрагмэнтарна ўдалося пакапаць на іх тэрыторыі. Сёлета не было магчымасьці пашырыць раскопкі, рэшта пакінутая на будучыню. Мы выявілі, што ў дзьвюх магілах былі чацьвёра нябожчыкаў, а ў трох магілах прынамсі па адным. Разам мы выявілі прынамсі сем індывідаў.

**Вядоўца**: Якога ўзросту былі нябожчыкі? Мы ж можам на гэтае пытаньне адказаць толькі пасьля антрапалягічных дасьледаваньняў?

**Калеюс**: Пасьля антрапалягічных, так. У адной магіле быў выяўлены пахаваны нябожчык, антрапалягічныя прыкметы якога сьведчылі, што гэта мужчына 25–29-гадовага ўзросту. У іншай магіле трое мужчын, узрост не ўстаноўлены, бо гэтая магіла была парушаная у канцы XX стагодзьдзя, калі там надточвалі вадазборную засаўку. Але несумненна, што ў гэтых дзьвюх магілах мужчыны. У трох магілах, якія мы не дасьледавалі, на краёх магільных ямаў была выяўленая вапна. Можна меркаваць, што ўсе знойдзеныя магілы аднаго часу — гэта пахаваньні другой паловы XIX стагодзьдзя. Ці ў іх мужчыны і якога яны ўзросту, мы зможам сказаць, правёўшы дасьледаваньні.

**Вядоўца**: Пра антрапалягічныя дасьледаваньні мы паразмаўляем з прафэсарам катэдры анатоміі,

гісталёгіі і антрапалёгіі мэдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту сп. Рымантасам Янкаўскасам. Добры дзень.

**Янкаўскас**: Добры дзень.

**Вядоўца**: Прафэсар, хачу спытаць вас. Вам самому давялося кіраваць ідэнтыфікацыяй парэштак у пахаваньнях ваяроў Напалеона ў Вільні. Гэтыя знаходкі на гары Гедзіміна... Якая пэрспэктыва, што мы даведаемся, хто гэта такія? Хто тыя людзі, там пахаваныя?

**Янкаўскас**: Пэрспэктыва залежыць ад таго, якія зьвесткі мы будзем мець для параўнаньня, для ідэнтыфікацыі. У гэтым выпадку мы толькі з наяўнага матэрыялу маем археалягічны кантэкст, ведаем знаходкі, ведаем акалічнасьці пахаваньня, якія выводзяць нас на шлях. Я б згадаў, што досьведу нам дадало і нядаўняе дасьледаваньне і ідэнтыфікацыя чалавечых парэштак у Тускуленах [братняя магіла расстраляных камуністамі ў 1946 годзе ахвяраў савецкай улады. — Заўв. перакл.]. Відавочна, што гэта не шараговыя пахаваньні, а пэўным чынам схаваныя парэшткі. Іх, так бы мовіць, пазбаўляліся; гэта не пахаваньне, а пазбаўленьне парэштак. Гэта адзін момант, які вынікае з кантэксту. А далей будзе высьветлены пэўны біялягічны профіль — гэта пол, узрост, рост, пашкоджаньні, акалічнасьці сьмерці, усякія індывідуальныя прыкметы, якія маглі б дапамагчы ў ідэнтыфікацыі. Ну вось з касьцявога матэрыялу і ўсё. Возьмем пробы для генэтычных дасьледаваньняў. Вось, бадай, і ўсё. Усё будзе залежаць ад таго, якія ўдасца сабраць зьвесткі ante mortem, ад таго, якіх асобаў знойдзем для супастаўленьня іхных ідэнтыфікацыйных дадзеных са зьвесткамі з парэштак.

**Вядоўца**: Кажучы пра акалічнасьці сьмерці, мы зазначалі, што знакаў ад куляў ня знойдзена. Ці можна пацьвердзіць, што чалавек быў павешаны?

**Янкаўскас**: У прынцыпе так. Ёсьць пэўныя прыкметы пашкоджаньняў, але пакуль што я ня буду камэнтаваць далей, бо ў гэтым нас пракансультуюць экспэрты лябараторыі мэдычнай крыміналістыкі Дзяржаўнай судова-мэдычнай службы.

**Вядоўца**: Ці маеце якія навіны, што ўжо можаце сказаць новага?

**Янкаўскас**: Пакуль нічога, ня хочам узбуджаць спадзяваньняў, але сапраўды высьветлены іхны пол, іхны ўзрост, ну і некаторыя паталягічныя прыкметы, у тым ліку прыкметы пашкоджаньняў, якія маглі б прычыніцца да ідэнтыфікацыі.

**Вядоўца**: Археалягічны кантэкст і фактары, якія вы згадалі, — ці яны робяць праўдападобнай вэрсію, што гэта і ёсьць парэшткі ўдзельнікаў паўстаньня?

**Янкаўскас**: Гэта імаверная вэрсія, але ёсьць гіпотэза, і паводле навуковых падыходаў мы не шукаем дадзеных, якія б канечне пацьвярджалі якую б ні было вэрсію, але параўноўваем розныя гіпотэзы: ці гэта тыя асобы, якіх шукаем, ці ня тыя асобы. Абедзьве — гіпотэзы раўназначныя, і мы іх стараемся аб’ектыўна ацаніць, пацьвердзіць або адкінуць.

**Вядоўца**: Ці можна сказаць, калі прыблізна мы будзем больш-менш упэўненыя ў адной ці другой вэрсіі?

**Янкаўскас**: Пакуль што гэта залежыць ад пададзеных гісторыкамі архіўных ідэнтыфікацыйных зьвестак, фатаграфіяў. Біяархеалягічнае дасьледаваньне самых парэштак непрацяглае. Мы да красавіка павінны супаставіць дадзеныя.

**Вядоўца**: Дзякую, гэта быў прафэсар сп. Рымантас Янкаўскас. Ну а мы вяртаемся ў студыю. Знаходкі на гары Гедзіміна — добрая нагода пагаварыць пра самое паўстаньне 1863 году. І хачу спытаць нашага гісторыка — гэта Вітаўтас Ягела — ці сёньня паўстаньне займае належнае месца ў гісторыі Літвы?

**Ягела**: Думаю, што ў сучаснасьці...

**Вядоўца**: Напярэдадні паўстаньня адбыліся такія падзеі, як забарона друку традыцыйнымі лацінскімі літарамі...

**Ягела**: Паўстаньне набывае актуальнасьць асабліва гэтаю парою, бо ёсьць сьведчаньні, што можна адшукаць пахаваньні ўдзельнікаў паўстаньня, аднак уся гісторыя і інтэрпрэтацыя паўстаньня ў нашай сьвядомасьці даволі няпростая. Хоць паўстанцы змагаліся за адбудову, скажам так, нашае дзяржавы, за яе вызваленьне ад Расейскай імпэрыі, аднак гэты погляд на паўстанцаў зь цягам часу вельмі зьмяніўся.

**Вядоўца**: Не без дапамогі імпэрыі.

**Ягела**: Не без дапамогі імпэрыі. Таксама з прычыны дачыненьняў... з прычыны праблемаў са сталіцай у міжваенны час. Але я думаю, што ў нашым грамадзтве значнасьць гэтага паўстаньня, геройствы, зьдзейсьненыя паўстанцамі, усе тагачасныя змаганьні набываюць іншае значэньне — станоўчае. Мы пачынаем станоўча глядзець на само паўстаньне (хоць і раней глядзелі станоўча, але цяпер, думаю, больш людзей пачынае ўсьведамляць, што ў той час адбывалася і якія былі наступствы таго паўстаньня). Дык жа хачу сказаць, што ўсё ідзе ў пазытыўным кірунку, хоць гэты шлях ня быў лёгкі. Нават у 1939 годзе гісторык Аўгусьцінас Янулайціс у сваім лісьце да ўраду заклікаў, каб гра-

мадзтва прызнала значэньне паўстаньня, ацаніла правадыроў паўстаньня і ўсьведаміла, што гэта была супольная нашая барацьба супраць расейскага імпэрскага ярма, што паўстанцы, ахвяруючы свае жыцьці й сілы, хацелі аднавіць нашую дзяржаву і што тую барацьбу трэба цаніць і шанаваць.

**Вядоўца**: Акрамя ўсяго, пэўна, варта ўзгадаць, што ў гістарыяграфіі паўстаньне ацэньваецца яшчэ і як чыньнік, які далей забіваў клін паміж літоўцамі і палякамі: у Расейскай імпэрыі дзейнічала праграма вынішчэньня “польскіх пачаткаў“. Расейская імпэрыя заўсёды падкрэсьлівала, што гэта, маўляў, ня вашае паўстаньне, а чужое, польскае, што гэта ня вы вінаватыя, што гэта вас палякі правакавалі. Гэты чыньнік, відаць, таксама вельмі важны для дачыненьняў народаў паміж сабой, які адбіўся ў пазьнейшыя часы.

**Ягела**: Думаю, што гэты фактар важны, але трэба разумець, што асноўнай ідэяй паўстаньня ўсё адно было вызваленьне ад Расейскай імпэрыі.

**Вядоўца**: Але ўжо дзеля якой формы дзяржаўнасьці — гэта іншае пытаньне.

**Ягела**: Так. Дзеля якой формы дзяржаўнасьці — гэта ўжо пытаньне пасьля перамогі паўстаньня: якія павароты зьдзейсьніць, мелі абмяркоўваць самі тутэйшыя людзі. Аднак хачу сказаць, што нават правадыры паўстаньня — Каліноўскі ды іншыя — усё адно ў сваіх адозвах заклікалі, што хочуць аднавіць Вялікае Княства Літоўскае або, як яны яго называлі, Літву, Літву русінаў і Польшчу, і гэтая розьніца і ў той час была паміж правадырамі паўстанцаў Польскага каралеўства і Літвы.

**Вядоўца**: Паўстаньні і 1831-га, і 1863 гадоў пачаліся ў Польшчы, іх агмяні былі там.

**Ягела**: Так. Пачатак паўстаньняў і 1831-га, і 1863 году быў у Польшчы, а паўстаньне 1863-га пачалося ў самой Варшаве. З такіх, так бы мовіць, непрыкметных падзеяў у касьцёле, з маніфэстацыяў, са сьпяваньня гімну... І ўся тая падрыхтоўчая хада, тая ідэя ў Літву прыйшла з Польшчы, з Варшавы, хаця самыя ідэі свабоды, роўнасьці, братэрства былі папулярныя і пашыраліся з часоў рэвалюцыі 1848 году ў Францыі, калі маладыя людзі ўведвалі гэтыя ідэі такім ці іншым чынам. У той час — у 1850-я гады — пачалося аб'яднаньне Італіі, Гарыбальдзі пачаў яднаць Італію...

**Вядоўца**: Вясна народаў надыходзіць...

**Ягела**: Вясна народаў надыходзіць, у Амэрыцы адбываецца грамадзянская вайна, прэзыдэнт Абрагам Лінкальн імкнецца змагацца супраць нявольніцтва...

**Вядоўца**: Гэты кантэкст вельмі цікавы. Мы сапраўды былі ў гэтым агульнаэўрапейскім кантэксьце падзеяў. Вы ўзгадалі Джузэпэ Гарыбальдзі, і мы можам, відаць, паспрабаваць ацаніць паўстаньне як частку гэткай нацыянальнай гераічнай гісторыі, гераічнага эпасу, якога цяпер вельмі бракуе і пра які часта гавораць. Выдатны прыклад — Зыгмунт Серакоўскі. Калі мы паглядзім на ягоную гісторыю, на ягоную асобу, біяграфію, то гэта афіцэр, які меў давер расейскай адміністрацыі, займаў высокія пасады. А ён увесь час ідзе да ўзброеных косамі вяскоўцаў, да шляхты з паляўнічымі стрэльбамі. Ён пайшоў зь імі і змагаўся за тую ідэю.

**Ягела**: Так, мы маем сваіх герояў, але часам не заўсёды здольныя іх ацаніць. Пасьля паўстаньня 1831 году вырасла новае пакаленьне, і яно зноў падымаецца на змаганьне за свабоду, за стварэньне

сваёй дзяржавы, за вызваленьне. Гэтыя людзі, як вы сказалі, кідалі свае кар’еры. Сьвятар — як Антанас Мацкявічус — кідае свае наўпроставыя абавязкі, арганізоўвае паўстаньне, сам зачытвае паўстанцкі заклік — дэкларацыю, арганізоўвае паўстанцкі аддзел, вядзе наўпроставую барацьбу. Ідэі свабоды і стварэньня дзяржавы былі вялікія, і маладыя розумы былі захопленыя гэтымі ідэямі.

**Вядоўца**: Паўстаньне яшчэ больш гераічным робіць усьведамленьне, што паўстанцы, асабліва правадыры, наўрад ці верылі, што магчыма перамагчы ў паўстаньні супраць значна лепш узброенага войска Расейскай імпэрыі 1863 году. Узброенага стралковай зброяй, а сяляне, вяскоўцы ўзброеныя толькі косамі.

**Ягела**: Так, з вайсковага гледзішча былі няроўныя ўзбраеньне і колькасьць. Скажам, колькасьць войска Расейскай імпэрыі перавышала колькасьць паўстанцаў у 10 разоў. Вядома, што ўдзельнічалі каля 145 000 казакоў і войска, пагатоў што войска Расейскай імпэрыі пасьля Крымскай вайны мела ваенны досьвед. Хоць там і загінула ці памерла паўмільёна вайскоўцаў, але ўсё адно той ваенны досьвед быў вялікім фактарам і ў барацьбе з паўстанцамі. Засталіся афіцэры, расейцы правялі вайсковую рэформу пасьля паразы ў Крымскай вайне. Але, думаю, у паўстанцаў быў вельмі вялікі запал і прага перамагчы ў барацьбе.

**Вядоўца**: Ідэі паўстаньня 1831 году яшчэ нікуды не прапалі.

**Ягела**: Так. Дакладна. Таксама як і ідэі паўстаньня Касьцюшкі 1795 году былі жывыя, і кожнае пакаленьне спрабавала гэтыя ідэі ажыцьцявіць як найхутчэй.

**Вядоўца**: Калі казаць пра знакі — што мы маем у Вільні? Маем вуліцу Каліноўскага, вуліцу Сераkоўскага, і тых такіх знакаў... як бы і ўсё, ці не? Ага, яшчэ на Лукішках маем месца пакараньня, пазначанае крыжам.

**Ягела**: Хачу сказаць, што Вільні ганьба з прычыны такога ўвечненьня паўстаньня 1863 году. Той памятны камень і той крыж, які стаіць, выглядаюць дзіўна, і нашыя ўлады ніяк ня могуць чын гэтых паўстанцаў, гераізм гэтага паўстаньня ўвечніць. Дзьве вуліцы ў гонар двух правадыроў паўстаньня... Хаця быў тут і Баляслаў Калышка — павадыр паўстаньня на Жамойці, было і больш...

**Вядоўца**: Ксёндз Мацкявічус.

**Ягела**: Але. Калі мы не шануем сваіх герояў, то калі-небудзь будзем шанаваць чужых.

**Вядоўца**: Вы перафразавалі выказваньне Напалеона: калі вы ня корміце сваёй арміі...

**Ягела**: ...То будзеце карміць чужую. Некалі нам трэба вызначыцца і пачаць думаць і хаця б вучыцца з гісторыі.

**Вядоўца**: Але наагул гэта добрая нагода. Калі пацьвердзіцца тое, на што мы спадзяемся, — вярнуцца да таго, пра што казаў спадар Вітаўт, прыгадаць гэтую сваю гісторыю і ўрэшце адпаведна яе — ня ведаю як сказаць — пазначыць? увечніць?

**Калеюс**: Адпаведна ўвечніць. У гэтым выпадку нават няважна, ці гэта менавіта... Добра было б, каб гэта былі паўстанцы, але ня будзе блага, калі гэта нехта іншы. Мы адкрылі парэшткі, акрэсьлілі плошчу, вызначылі больш-менш храналёгію, ведаем, чаго мусім шукаць. Пацьвердзіцца ці не — пабачым у выніку дасьледаваньня. Важна ў гэтым выпадку не сьпяшацца, не рабіць пэўных заяваў заўчасна.

**Вядоўца**: Пасьля абнародаваньня гэтай знаходкі склалася ўражаньне, што яе аўтарства вашае, што вас атаесамляюць з гэтым адкрыцьцём.

**Калеюс**: Не. Дасьледаваньні вялі археолягі Нацыянальнага музэю, і хачу падкрэсьліць, што гэта адкрыцьцё Нацыянальнага музэю. Ці пацьвердзіцца, што гэта пахаваньні паўстанцаў, ці не, але працы выканалі супрацоўнікі Нацыянальнага музэю.

**Вядоўца**: Усё ж хацелася б спадзявацца, што больш як праз 150 гадоў сапраўды адкрытыя пахаваньні ўдзельнікаў ці нават правадыроў паўстаньня 1863 году, і ўрэшце мы зможам уганараваць тых, хто, практычна ня маючы шанцаў перамагчы, змагаліся і загінулі за свае каштоўнасьці, і якіх ушанаваць дагэтуль мы ня мелі магчымасьці. Гэта быў бы выдатны падарунак усім напярэдадні стагодзьдзя аднаўленьня Літвы. Дзякую ўдзельнікам перадачы.

*Расшыфраваньне і пераклад В. Вячоркі*

## У Маладачанскім раёне ўшанавалі пантэон антырасейскіх паўстанцаў

30 сакавіка 2017

На краўдфандынгавай плятформе talaka.by абвешчаны збор сродкаў для выпуску кнігі доктара гістарычных навук Вячаслава Шведа, прысьвечанай антырасейскаму паўстаньню 1863 году.

Падзякай тым, хто ахвяраваў свае сродкі, стала падарожжа ў вёску Плябань у Маладачанскім раёне, дзе захаваўся пантэон загінулым змагарам за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Як піша газэта „Новы час“, на магіле паўстанцаў былі ўскладзеныя кветкі, запаленыя зьнічы. На манумэнце пазначаныя імёны Рафала Малішэўскага, Людвіка Яманта, Леапольда Банькоўскага. Яны загінулі 21 сакавіка 1863 году ў змаганьні з расейскімі войскамі ля ракі Сьвечкі.

У магіле перахаваная зямля зь месцаў вечнага спачыну Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Сераkoўскага, кіраўніка паўстаньня на маладачанскіх землях Юльяна Бакшанскага. Гісторыкі дадаюць да гэтага сьпісу імя 15-гадовага паўстанца-гімназіста Ігната Сулістроўскага.

Помнік героям 1863 году зьявіўся не ў апошнюю чаргу дзякуючы гісторыкам Зянону Пазьняку і Міхасю Чарняўскаму, паведаміла каардынатарка выдавецкага праекту ў працяг кніжнага ўшанаваньня паўстанцаў Вольга Сямашка.

Плябань — знакавае месца.

Тут у мясцовым касьцёле (цяпер праваслаўная царква) захоўвалася зброя паўстанцаў, лячылі параненых інсургентаў, а праз чыгунку знаходзіцца магіла паўстанцаў.

## Пяць малавядомых фактаў пра Кастуся Каліноўскага

1 красавіка 2017

Горадзенскі гісторык Васіль Герасімчык напісаў кнігу „Канстанцін Каліноўскі. Асоба і легенда“. Мэтай было ня проста паказаць „халодныя факты“, але тое, як некаторыя маглі перарастаць у легенду, кажа аўтар.

Збор сродкаў на выданьне абвешчаны на плятформе „Талака“.

Васіль Герасімчык удакладняе, што на кнігу неабходна сабраць тры тысячы рублёў, каштаваць яна будзе дзесяць. У ёй каля 220 старонак, 20 выяваў. Збор сродкаў — крок вымушаны. Аўтар перш спрабаваў зьвяртацца да выдаўцоў, але гэта выніку не дало. Свае тэксты пра Каліноўскага ён друкаваў раней у „Нашай Ніве“, „Новым Часе“, у праекце „Историческая правда“, выкладаў на блогу.

Асобу Кастуся Каліноўскага гісторык вывучае сем гадоў, у біяграфіі нацыянальнага героя нямала белых плям, кажа ён. Хоць многія факты зьяўляюцца нібыта вядомымі.

### 1. Прыступы эпілепсіі

Зьвесткі пра хваробу Кастуся Каліноўскага былі вядомыя дасьледчыкам. Пэўны час ён цярпеў ад эпілепсіі. Аднак ня вывучаны кантэкст: што, як, чаму? Васіль Герасімчык удакладняе: „У яго была нэрвовая падучка ў пэрыяд навучаньня ў Пецярбурскім унівэрсытэце, выкліканая нэрвовымі фактарамі. Але ні раней, ні пазьней гэтага Каліноўскі на эпілепсію не хварэў. Толькі паўтара-два гады“.

Гісторык зазначае, што ў жыцьці маладога Каліноўскага быў складаны час: хворы на сухоты брат, які вось-вось памрэ, няма сувязі зь сям’ёю, няма магчымасьці зарабляць грошы, акрамя ўрокаў, сродкаў не хапае:

„І ў гэты час яшчэ думкі аб тым, каб зьмяніць сьвет, жыцьцё свайго народу. Гэта ўсё падарвала яго здароўе. Але ён выправіўся. Яму дапамагалі дактары. Мы ж ведаем, што многія зь іх былі завязаныя на рэвалюцыйную арганізацыю ў Горадні, Слоніме,

Менску, Вільні, іншых гарадах. У Пецярбургу таксама многія дактары былі зьвязаныя з рэвалюцыйнымі гурткамі. Перш за ўсё — Серакоўскага і Дамброўскага. Але лячэбныя сэансы не давалі паляпшэньня. Нарэшце адзін доктар даў найлепшыя парады, але патрэбныя былі грошы. Давялося напісаць чарговае прашэньне аб дапамозе, хутчэй за ўсё яго напісаў брат. На трыццаць рублёў. Унівэрсытэт дапамог, вылучыў грошы“.

## 2. Кансьпіратар ад Бога

За апошнія гады Васіль Герасімчык мэтанакіравана праглядаў архіўныя справы, што датычылі асобы Каліноўскага і паўстаньня.

І часам нібыта вядомыя рэчы набываюць новы сэнс, пачынаюць разумецца глыбей. Як, напрыклад, пошукі Каліноўскага жандарамі, зазначае гісторык:

„Здавалася, вось-вось яго павінны былі схапіць, але ён пры дапамозе чагосьці, можа гэта будзе не па-навуковаму сказаць, надзвычайнага выходзіў з сытуацыі. І такое зь ім здаралася ня раз. Як, напрыклад, у адным з твораў Крашэўскага, прысьвечанага паўстаньню, пра яго сказана, што ён у 1863 годзе харчаваўся ў карчме віленскай адначасова, калі там елі жандары. І хоць яны ведалі апісаньне Каліноўскага, ён мог зь імі і чарку падняць, і нешта нават даведацца. Яго твар быў настолькі тыповы, што жандары самі блыталіся. І настолькі ён мог да сябе выклікаць прыхільнасьць, што чалавек не падазраваў, што перад ім той, каго расшукваюць“.

Казалі, што ў ім было прыроджанае майстэрства кансьпіратара, гаворыць Васіль Герасімчык: „Калі памерла маці, яму было пяць гадоў, гэта на ім мо-

цна адбілася, пераажыты стрэс, гэта ўвасобілася ў пэўных праявах характару. Ён, можна сказаць, навучыўся хавацца“.

Пакуль Каліноўскага не павесілі, прадстаўнікі яго арганізацыі Заблоцкі, Мілевіч хлусілі ў сваіх паказаньнях, хавалі ўсё. Адчуваючы яго прыклад, моц асобы. „Калі ім паведамілі, што яго больш няма, яны не маглі паверыць, — зазначае гісторык. — Потым пачалі даваць праўдзівыя, падрабязныя паказаньні“.

Аўтар новай кнігі пра Каліноўскага кажа: „Гэта быў час нейкай містычнасьці, ня толькі распаўсюджваньня рэвалюцыйных ідэй. Гэта праяўлялася і ў стварэньні патаемных арганізацый, рэвалюцыйных“.

## 3. Чаму адмовіўся ад ксяндза?

Калі Каліноўскаму прапанавалі сустрэцца з ксяндзом для споведзі, ён адмовіўся. Чаму? Ён жа разумеў, што яго зараз павядуць на сьмерць, нагадвае гісторык Герасімчык:

„Хутчэй за ўсё ён зрабіў так, каб не паказацца слабым у вачах іншых. Ён у нечым прадумаў ужо сваю сьмерць. Нездарма ж імкнуўся пакінуць «лісты з-пад шыбеніцы». Не было б іх, тых аркушыкаў, якія да нас дайшлі, магчыма на асобу Каліноўскага мы б глядзелі зусім па-іншаму. Быў бы фальклёрным пэрсанажам, у якога ператвараўся з пачатку ХХ стагодзьдзя“, — робіць дапушчэньне аўтар кнігі пра Каліноўскага.

## 4. Легенды пра Кастуся прыдумалі сяляне

Пра Каліноўскага ў ваколіцах Сьвіслачы некалі складалі легенды. Як пра звышнатуральнага Касту-

ся, які дапамагае сялянам. Пра адну зь іх узгадвае Віктар Кардовіч, польскі дасьледчык, які ў 1920-х гадах наведаў тыя мясьціны, распавядае Васіль Герасімчык. Туды, зразумела, навіны з савецкай Беларусі, што ўздымаюць асобу Каліноўскага, яшчэ не даходзілі, мяркуе ён. Напрыклад, фільм пра кіраўніка паўстаньня выйшаў на шырокі экран толькі ў 1928 годзе.

Гісторык працягвае: „І выйшла так, што яго асоба была сугучнай тым праявам душы селяніна, настроям, якія панавалі ў Заходняй Беларусі. І яны так наклаліся адно на адно, што перарасьлі ў той вобраз дзецюка, як сам казаў Каліноўскі і яго паплечнікі ў «Мужыцкай праўдзе», бяз страху і папроку, як пра яго пісалі“.

### 5. Сын „ткача“

Бацьку Каліноўскага сярод часткі шляхты называлі зьняважліва „ткачом“. Зайздрасьць была, што шляхціц мае фабрычку. І гэта перайшло на сына, кажа Васіль Герасімчык:

„Студэнты называлі яго сынам ткача. І ў нелегальнай арганізацыі. Асабліва белыя, як Гейштар — ён ня наш, ён сын ткача... А ў савецкі час гэта стала, наадварот, як адзнака якасьці.

У кнізе Сьмірнова 1959 году, біяграфіі Каліноўскага, шмат савецкіх штампаў, у тым ліку і гэты: Кастусь Каліноўскі быў сына ткача, чалавека, які працаваў сваімі рукамі“.

Калісьці горадзенскі археоляг Міхась Ткачоў зрабіў раскопкі на месцы былой сядзібы Каліноўскіх у Якушоўцы Сьвіслацкага раёну. Сярод знаходак была пячатка мануфактуры, што належала бацьку Сымону Каліноўскаму.

Васіль Герасімчык нарадзіўся ў 1987 годзе ў Васілевічах Слонімскага раёну. Закончыў Горадзенскі ўнівэрсытэт. Асобай Каліноўскага зацікавіўся ў 2010 годзе, калі пачаў працу над магістарскай дысэртацыяй, прысьвечанай яго ідэнтычнасьці. Вучыўся ў Маскве, у Расейскім дзяржаўным гуманітарным унівэрсытэце. Атрымаў дыплём аб заканчэньні магістратуры таксама з адзнакай Торуньскага ўнівэрсытэту, паколькі вучыўся паводле двухгадовай супольнай расейска-польскай праграмы. Пазьней працаваў у горадзенскім Гісторыка-археалягічным музэі, дзе працягваў вывучаць паўстаньне 1863–1864 гадоў і асобу Кастуся Каліноўскага.

## Старшыню партыі БНФ аштрафавалі за акцыю шасьцімесячнай даўнасьці

12 красавіка 2017

Старшыня партыі БНФ Аляксей Янукевіч атрымаў па пошце запрашэньне зьявіцца да судовых выканаўцаў.

Разам з паперай — пратакол аб правапарушэньні і пастанова суду аб штрафе ў 1050 рублёў.

„Выклікаюць, каб узяць ад мяне тлумачэньні, чаму не сплаціў штраф. Магчыма, што будуць палохаць канфіскацыяй. Аказваецца, 30 сьнежня ў Сьвіслацкім райсудзе мяне аштрафавалі за ўдзел у акцыі памяці Кастуся Каліноўскага, але толькі цяпер пра гэта паведамілі. У тым ліку і пратакол толькі што ўбачыў,“ — сказаў палітык карэспандэнту Свабоды.

## Фільм, узяты з жыцьця

11 траўня 2017

У горадзенскім Цэнтры гарадзкога жыцьця адбылася прэзэнтацыя фільму Валера Мазынскага „Кастусь Каліноўскі. Апошнія дні“. Удзельнікі прагляду разам з аўтарам фільму наладзілі дыскусію на тэму „Права на нацыянальную гісторыю: беларусы паміж Усходам і Захадам“.

Паводле сцэнару, дзеяньні адбываюцца падчас рэпэтыцыі здымкаў фільму, прысьвечанага апошнім дням Кастуся Каліноўскага, калі ён знаходзіцца ўжо за кратамі. Акторы разам з рэжысэрам і гістарычным кансультантам зачытваюць тэксты і дакумэнты і, абмяркоўваючы ролі, паглыбляюцца ў тое, што адбылося тады ў беларускай гісторыі, як паводзіў сябе Каліноўскі падчас паўстаньня; чаму ён пайшоў на гэта, ведаючы, чым яно можа скончыцца.

І раптам высьвятляецца, што на рэпэтыцыю спазьнілася адна з акторак — яе сына затрымалі міліцыянты за бела-чырвона-белую стужку на заплечніку. І ўся здымачная група пачынае непрыкметна пераключацца на абмеркаваньне жыцьця ў цяперашняй Беларусі.

Горадзенскі гісторык Генадзь Семянчук адной з самых значных праблем беларускай сучаснай гістарыяграфіі назваў малалікасьць навуковых тэкстаў, дыскусій, манаграфій.

— У нас нават біяграфіі Кастуся Каліноўскага дагэтуль няма, — канстатаваў Семянчук. — Калі мы гаворым пра нацыянальную гістарыяграфію, то варта памятаць, што гэта ў першую чаргу пытаньне

нацыянальнай памяці, нацыянальнай сьвядомасьці, а ўжо гэта зьяўляецца часткай нацыянальнай ідэалёгіі. І вось асоба Каліноўскага якраз зьяўляецца вельмі яскравым прыкладам нацыянальнай ідэалёгіі і гістарыяграфіі.

Краязнаўца Эдвард Дмухоўскі дадаў:

— У нас няма кніжак ня толькі пра Каліноўскага, але і пра Вітаўта і пра шмат каго, а ўжо мінула больш за дваццаць гадоў, як мы жывём у незалежнай краіне. У нас дагэтуль аднаўляюць сядзібу Касьцюшкі і тут жа ўсхваляюць Суворава. Гэта робіцца адначасова — як такое можа быць? Нашы паўстаньні называюць польскімі, а пра беларусаў ніхто ня згадвае. Мы павінны заявіць пра сябе самі.

## Актывіста з Мастоў аштрафавалі за акцыю, на якой яго не было

24 траўня 2017

Васіля Клімовіча пакаралі 189 рублямі штрафу (9 базавых велічынь) за тое, што нібыта 30 кастрычніка 2016 году ён браў удзел у несанкцыянаванай масавай акцыі — ушанаваньні памяці паўстанцаў Каліноўскага ў Сьвіслачы. Паводле Клімовіча, на гэтым мерапрыемстве ён ня быў.

Скаргу на рашэньне Мастоўскага раённага суду не задаволіў напачатку абласны суд, а цяпер ён атрымаў адказ на скаргу ўжо на рашэньне абласнога суду ад старшыні Гарадзенскага абласнога суду Аляксандра Корзуна. Старшыня абласнога суду лічыць, што рашэньні ў дачыненьні да Васіля Клімовіча цалкам адпавядаюць закону.

Васіль Клімовіч у раённым судзе хадайнічаў, каб у якасьці сьведак выклікалі ягоных родных і блізкіх людзей, зь якімі ён правёў гэты дзень. Аднак судзьдзя не задаволіў хадайніцтва.

У раённым судзе супраць яго сьведчылі міліцыянты, а таксама паказалі здымак, на якім актывіст нібыта ёсьць. Клімовіч кажа, што на здымку ня ён, а нейкі іншы чалавек, што ў яго нават няма такой вопраткі. Але ягоныя словы засталіся без увагі суду.

У абласны суд на разгляд скаргі Клімовіч прывёў бацьку і жонку, каб яны выступілі ў якасьці сьведак. Але абласны судзьдзя сказаў, што пры разглядзе касацыйнай скаргі сьведак не апытваюць, і адмовіў у хадайніцтве.

## Магіла Каліноўскага можа абрынуцца разам з гарой

20 чэрвеня 2017

Замкавай гары ў Вільні, дзе, паводле дасьледнікаў, можа быць пахаваны Кастусь Каліноўскі, пагражаюць апоўзкі глебы.

На паўднёва-ўсходнім схіле гары фармуюцца асяродкі напружаньня, у якіх пры неспрыяльным надвор'і могуць узьнікнуць апоўзкі глебы, можа трэснуць ці нават абрынуцца фрагмэнт Верхняга замку, дзе ўтварыліся расколіны шырынёй у сантымэтар, паведамляе партал Delfi. Гэта спрабуюць прадухіліць, працы плянуюць пачаць сёлета.

Прэм'ер-міністар Літвы Саўлюс Сквярняліс 20 чэрвеня пасьля наведаньня Замкавай гары запэўніў, што ўрад неўзабаве прыме рашэньне наконт пра-

цаў, неабходных, каб прывесьці гару ў парадак. На паўночна-заходнім схіле таксама абсталююць сыстэму назіраньня, каб сачыць за кожным рухам гары. Яшчэ больш праблемаў з паўднёвым схілам, дзе, паводле міністра, ёсьць „некалькі апоўзкаў глебы, некалькі асяродкаў, яны аб'ядналіся, пры непагадзі або падчас адлігі ўзімку там гарантаваны вялікі апоўзак і нават адкол часткі замку і яе спаўзаньне“. Мяркуецца, што ўсе працы расьцягнуцца гадоў на 10.

**Кастусь-герой**

Интересно другое: Если чудом будут опознаны останки национального героя Беларуси Кастуся Калиновского, передаст ли их нам литовская сторона? А захоронение останков нужно будет провести со всеми воинскими почестями.

**марныя спадзевы**

Летувісы ня ведаюць паэта Міцкевіча і паўстанца Каліноўскага, у іх гэта Міцкявічюс ды Калінаўскас з гэтай нагоды спадзевы на адмову ад іх марныя.

**Тамара**

Хто б не пахаваў герояў — Беларусь ці Літва, галоўнае, каб гэта было зроблена годна.

## У менскім мікараёне Ўсход-2 плянуюць паставіць помнік Каліноўскаму

4 ліпеня 2017

А 18-й гадзіне вечара ў менскім Палацы барацьбы імя А. Мядзьведзя на вуліцы Каліноўскага, 55б, пройдзе прэзэнтацыя праекту забудовы раёну ўздоўж вуліцы Каліноўскага ад Лагойскага тракту

да вуліцы Славінскага. Грамадзкае абмеркаваньне праекту адбываецца з 1 па 25 ліпеня.

На месцы лініі электраперадач прапануецца збудаваць вышынныя жылыя комплексы, крамы, паркінгі, амбуляторыю і аптэку, а таксама паставіць помнік Кастусю Каліноўскаму (для апошняга трэба ўхваленьне асабіста Аляксандра Лукашэнкі).

Шэраг жыхароў раёну не задаволеныя такім плянам. Пэтыцыя супраць „ушчыльненьня" сабрала на момант публікацыі больш за 500 подпісаў.

## Імёны Свабоды: Людвік Зьвяждоўскі

15 ліпеня 2017
Уладзімер Арлоў

Віленскі генэрал-губэрнатар Назімаў любіў ставіць капітана расейскага Генэральнага штабу Людвіка Зьвяждоўскага ў прыклад іншым падначаленым. Царскі вяльможа і ў страшным сьне ня мог прысьніць, што ягоны адʼютант, гэты бліскучы рэспэктабэльны афіцэр з шырокімі знаёмствамі, які ўдзень старанна працаваў у кіраўніцтве Віленскай вайсковай акругі, вечарамі на кансьпірацыйных кватэрах займаўся падрыхтоўкаю збройнай барацьбы супроць расейскіх калянізатараў.

Да лета 1862-га менавіта Людвік ачольваў Літоўскі камітэт падрыхтоўкі паўстаньня. Калі на стол генэрал-губэрнатару легла данясеньне пра падазроныя сувязі адʼютанта, той ня даў веры і з шкадаваньнем перавёў улюбёнца ў Маскву.

Між тым у шэрагу „сумнеўных" знаёмых Зьвяждоўскага ў жандарскіх паперах згадваўся нейкі

Вікенцій Канстанцін Каліноўскі. Далей сьлед героя губляўся, хоць якраз да яго перайшло кіраўніцтва Літоўскім камітэтам. Дакумэнты сьведчаць ня тольκі пра частыя спрэчкі двух патрыётаў, але і пра іх ідэйную блізкасьць. Абодва былі прыхільнікамі не аднаўленьня Рэчы Паспалітай, а самавызначэньня яе народаў.

Увесну 1863-га Зьвяждоўскі таемна вярнуўся ў Беларусь і стаў на чале паўстаньня ў Магілёўскім ваяводзтве. У шынялі афіцэра царскага генштабу Зьвяждоўскі наперадзе падначаленых на кані заяжджаў у кожную сустрэтую па дарозе вёску і склікаў жыхароў на агульны сход. Вяскоўцам абяцалася аддаць усю зямля бяз выкупаў і павіннасьцяў, скасаваньне рэкруцкіх набораў і свабода веры (шмат хто па-ранейшаму таемна заставаўся прыхільнікам здратаванай каляністатарамі Уніі).

Пад канспірацыйным імем „Тапор“ ён асабіста кіраваў адной з найбольш удалых акцыяў інсургентаў 1863-га — захопам павятовага гораду Горы-Горкі. Людвікам валодала ідэя зрабіць паўстаньне народным і перанесьці яго на тэрыторыю Расеі. Аднак узяцьце Горак было першым і апошнім посьпехам аддзелу Зьвяждоўскага.

З суседняй Смаленшчыны яшчэ ляцелі ў Пецярбург панічныя тэлеграмы аб прысылцы дадатковых войскаў, але кінутыя супроць паўстанцаў чатыры рэгулярныя роты і казакі з артылерыяй усё шчыльней сьціскалі кальцо акружэньня. Каб ўратаваць людзей і даць ім шанец прарвацца на захад, Тапор праз тыдзень мусіў распусьціць аддзел, застаўшыся з ад’ютантам, двума вернымі паплечнікамі і палонным расейскім афіцэрам, чый лёс трэба было неадкладна вырашыць. Гэтыя падзеі ўзноўленыя

ў апавяданьні „Пяць мужчын у лесьнічоўцы“. Шостым з мужчын быў я.

Ад таго навальнічнага красавіцкага дня лёс адмераў Зьвяждоўскаму яшчэ год жыцьця. Ён будзе камандаваць Кракаўскай паўстанцкай дывізіяй, трапіць у рукі карнікаў і, успамінаючы вусны адной зь віленскіх прыгажуняў, скончыць свой 35-гадовы зямны шлях на эшафоце ў польскім горадзе Апатаў.

Людвік Зьвяждоўскі. 11.12.1829, Вільня — 23.2.1864, Апатаў, Сьвентакшыскае ваяводзтва, Польшча. Сымбалічная магіла ў Апатаве.

## Матрыца. Мёртвыя паўсталі з магіл

27 ліпеня 2017
Сяргей Дубавец

Новая чытанка пра БНР і тое, чаму гэта трэба ведаць кожнаму беларусу.

— Памятаеш, ты пытаўся пра нявыкарыстаныя актывы БНР? — спытаў Банкір. — Вось самы сьвежы прыклад. У Вільні на Замкавай гары знайшлі парэшткі пахаваных там паўстанцаў 1863 году, і цяпер пацьвердзілася, што адзін зь іх — Зыгмунт Серакоўскі. Пры чым слова „знайшлі“ я б узяў у двукосьсі. Бо ўсе, хто жыў у Вільні да вайны або цікавіўся тэмай, заўсёды ведалі пра гэтае пахаваньне і пра тое, што там ляжаць Каліноўскі, Серакоўскі, Калышка, Ішора і іншыя. Проста не ўздымалі гэтую тэму.

— А ў чым актыў? — спытаўся Маленькі Прынц.

— Нацыянальны пантэон герояў — тое, на чым гадуюцца пакаленьні. Ніякая кніжка не засьведчыць пра гісторыю нацыі лепей за пантэон.

— А чаму мала хто ведаў і маўчалі?

— Беларусы не хацелі пакрыўдзіць літоўцаў, а літоўцы сьцьвярджалі, што ніякага пахаваньня там няма. Увогуле гэта прыклад таго, што недарэчна рэзаць гісторыю як тэрыторыю. Уяві сабе літоўскага настаўніка, які кажа дзецям, што на Замкавай гары пахаваныя беларускія героі. Як яны туды патрапілі? Давялося б разбураць стройную канцэпцыю нацыянальнага міту і канчаткова заблытаць малым глузды. А цяпер уяві беларускага настаўніка, які распавядае, што нашы героі пахаваныя ў горадзе Вільнюс. І гэта пры тым, што Літва ў нас шмат гадоў лічыцца „дальнім замежжам“. Дык чаго яны ў той Вільнюс папёрліся, калі яны — беларускія героі? Таму на доўгія гады тэму папросту замарозілі, быццам ніякага пахаваньня і не было. Нават калі 16 гадоў таму мы пачалі яе дасьледаваць, літоўскія навукоўцы стаялі на сваім — не было. І ў Беларусі традыцыйна прамаўчалі. Дзесяць гадоў таму была новая спроба актуалізаваць тэму — вынік той самы.

І тады здарылася неверагоднае. Дакладна як у Бібліі. Паўстанцы выйшлі з магіл „на ўваскрэсеньне жыцьця“.

Летась увосень Замкавая гара „паплыла“, пачаліся апоўзкі, і парэшткі пахаваных агаліліся. Быццам ня ў змозе надалей трываць гэтае маўчаньне пра сябе. Мы тут! — вось усё, што яны хацелі сказаць. Пара з намі нешта рабіць. І што адбылося? Гэта, магчыма, не яны, — сказалі навукоўцы. Мы ня можам дакладна сказаць, ці яны гэта. Мы ніколі не даведаемся, ці гэта яны. Але цуды здараюцца не для таго, каб іх так проста было адпрэчыць. Знайшоўся доказ — пярсьцёнак Серакоўскага. У мяне няма сумневу, што і Каліноўскі там.

Пасьля таго, як парэшткі выйшлі на белы сьвет, літоўцы зьмянілі думку і прызналі пахаваньне паўстанцаў на гары. Трэба ўлічыць, што зьмянілася пакаленьне літоўскіх гісторыкаў, Літва цяпер незалежная, і няма патрэбы трымаць парог нацыянальнага самазахаваньня на занадта высокім узроўні. Пры тым зразумела, што беларускага нацыянальнага пантэону на гары, якая ёсьць сымбалем літоўскай дзяржаўнасьці, быць ня можа. Да таго ж невядома, ці захаваецца сама гара ці зьнікне, як гэта ўжо было зь Бекешавай гарой, што стаяла паміж Замкавай і Крыжовай і абсыпалася ў Віленку.

— Дык трэба пантэон перанесьці ў Менск, — прапанаваў Маленькі Прынц. — Каб гэты актыў пачаў працаваць. Але ты сам кажаш, што Менск маўчыць.

— Гэта можна зрабіць толькі на дзяржаўным узроўні, — уздыхнуў Банкір. — Але для гэтага ўладам РБ трэба было б адчуць сябе ўладамі БНР і папрасіць улады Літвы перадаць ім парэшткі паўстанцаў. З максымальнай пашанай пахаваць іх у цэнтры Менску і паставіць мэмарыял. Была б нагода таксама адкрыць музэй Паўстаньня, бо матэрыялаў пра яго ня менш, чым пра апошнюю вайну. Наколькі гэта магчыма? Тут многія фактары сёньня сыходзяцца ў адно. Сам выхад паўстанцаў з магіл, спрыяньне літоўцаў, заявы МЗС пра падтрымку беларушчыны, прызнаньне Лукашэнкам ключавой ролі БНР… Нават тое, што ў гэты час раптам узьнікае ідэя помніка Каліноўскаму ў Менску. Усё гэта нездарма. Нібы сам наш нацыянальны лёс дае ў рукі магутны актыў, не распарадзіцца якім было б проста злачынствам.

— Дык калі ўсё так выдатна, чаму ты думаеш, што могуць не распарадзіцца? — спытаў Маленькі Прынц.

— Пакуль усё ідзе як бы само сабой. Але выразных крокаў ані з боку ўладаў, ані з боку беларускіх гісторыкаў няма. Затое хапае ў нас галасоў пра тое, што ніякія яны не героі, прынамсі, не беларускія героі і ўвогуле сацыялісты… Постпраўда інтэрпрэтацыяў пакуль што перамагае факты, і скептыкі апускаюць рукі.

— Можа быць, яны ня вераць, што пантэон патрэбны, маўляў, яшчэ адзін „маўзалей“?

— Гаворка не пра магілу дыктатара-душагуба, а пра рэальных герояў, — запярэчыў Банкір. — І зладзіць пантэон можна зусім не па-маўзалейнаму. Мне згадваецца мэмарыял воінаў Карэйскай вайны ў Вашынгтоне... Зрэшты, рашэньняў можа быць мноства. У кожным разе гаворка ідзе пра творчасьць — самы галоўны нацыянальны актыў.

## Не далі ўшанаваць магілы паўстанцаў, каб „не патапталі лубін“

2 жніўня 2017

Лідзкія чыноўнікі забаранілі наведваць месца бою і магілы паўстанцаў 1863 году паміж вёскамі Мохавічы і Малое Вольжава ва ўрочышчы „Крыжы“.

У адмове напісана, што „шлях да ўказанага месца праходзіць праз землі сельскагаспадарчага прызначэньня ЛРСУП «Мажэйкава», якія выкарыстоўваюцца ў сельгасабароце. Землекарыстальнік супраць правядзеньня масавага мерапрыемства, таму што яно пацягне страты арганізацыі“.

Кіраўнік Лідзкай арганізацыі Таварыства беларускай мовы Станіслаў Суднік заўважыў Свабодзе,

што адмовы на ўшанаваньне памяці паўстанцаў у гэтым месцы здараюцца ўжо ня першы год і вэртыкаль знаходзіць самыя розныя прычыны:

— Яшчэ ў 1990-я, калі мы пачалі тут ушаноўваць паўстанцаў, старшыня калгасу даваў загад, і камбайнам зжыналі для нас праход — не было ніякіх праблемаў. Прыходзіў ксёндз, і мы належным чынам ушаноўвалі магілкі. А цяпер нам, па-сутнасьці, напісалі, што мы патопчам лубін. Забароны паўтараюцца шмат гадоў запар. Але чыноўнікі павінны ведаць, што мы будзем іх абскарджваць.

Паводле Станіслава Судніка, памятны мэмарыял па паўстанцах 1863 году знаходзіцца наўпрост пасярод калгаснага поля, хаця ў свой час ён знаходзіўся пры дарозе. Актывіст кажа, што, магчыма, мэмарыял узьнік адразу пасьля паўстаньня — прынамсі пра гэта сьведчаць камяні з выбітымі надпісамі, датаваныя годам паўстаньня. У 1990-я актывісты ўсталявалі некалькі новых крыжоў і ўжо больш за 20 гадоў даглядаюць за мэмарыялам.

## Мінадукацыі рэкамэндуе не вывучаць у школе „Лісты з-пад шыбеніцы“

18 жніўня 2017

Мы паглядзелі, як чыноўнікі раяць выкладаць прадмет на падставе апублікаваных мэтадычных рэкамэндацый.

„У мэтах аптымізацыі“ Міністэрства адукацыі выключае са школьнай праграмы каля 200 тэрмінаў і паняцьцяў, якія раней былі абавязковымі для запамінаньня. Таксама выключаюцца некаторыя

гістарычныя пытаньні. Сярод выключаных — згадка пра „Лісты з-пад шыбеніцы“ К. Каліноўскага.

## Кастусь Каліноўскі быў пахаваны на Замкавай гары ў Вільні — літоўскія навукоўцы

1 верасьня 2017

Літоўскія навукоўцы маюць „дастаткова доказаў“, каб сьцьвярджаць, што сярод фрагмэнтаў целаў, выяўленых на Замкавай гары ў Вільні, ёсьць і парэшткі лідэра антырасейскага паўстаньня на Беларусі і Літве 1863–1864 гадоў Кастуся Каліноўскага.

Пра гэта ў камэнтары агенцтву BNS сказаў прафэсар катэдры анатоміі, гісталёгіі і антрапалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту Рымантас Янкаўскас, перадае Delfi.

Янкаўскас адзначыў, што для канчатковага пацьверджаньня здагадкі трэба завяршыць дасьледаваньне ўсіх парэштак, знойдзеных на Замкавай гары, аднак наяўныя сёньня археалягічныя і антрапалягічныя дадзеныя гэтай здагадцы не супярэчаць.

„Іншымі словамі, калі мы ня выявім іншага, больш пэўнага кандыдата, зь якім бы супала больш доказаў, то тады будзем сьцьвярджаць, што гэта парэшткі Кастуся Каліноўскага“, — сказаў прафэсар.

У ліпені Міністэрства культуры Літвы паведаміла са спасылкай на папярэднія дадзеныя, што на пляцоўцы гары археолягі Літоўскага нацыянальнага музэю знайшлі парэшткі паплечніка Каліноўскага Зыгмунта Серакоўскага.

Яго цела было закапанае ў асобнай яме. Пры ім знайшлі мэдалік, а на правай руцэ — залаты пярсьцёнак з надпісам з унутранага боку: „Zygmunt Apolonija 11 Sierpnia / 30 Lipca 1862 r.“. Зыгмунт Серакоўскі быў жанаты з Апалёніяй Далеўскай (1841 — пасьля 1915), сястрою Ціта Далеўскага, якую пасьля паўстаньня 1863–1864 гадоў выслалі ў Ноўгарад. З 1867 году жыла ў Варшаве. Напісала ўспаміны пра паўстаньне.

**Алесь Белы**

Мяркую асабіста што мемарыял паўстанцам трэба абавязкова аднавіць, з надпісамі прынамсі на 3-х мовах — літоўскай, польскай і беларускай (думаю што ў такім парадку), а можа і яшчэ на нейкіх гістарычных мовах былога ВКЛ, калі б для іх знайшліся вартыя аргументы. Але наўрад ці магчыма надаць гэтаму мемарыялу хоць якое нацыяналістычнае гучанне — прыпісаць пакараных там паўстанцаў хоць якому нац. наратыву і нац. пантэону. Як мне падаецца — мемарыял на месцы пакарання мусіць быць досыць сціплым, мультыкультурным і смутным. А парэшткі трэба перазахаваць на Росах — і таксама дух мемарыялу, асноўнага, мусіць быць як мага больш мультыкультурным.

## Праўда выходзіць на паверхню — беларускія гісторыкі пра знаходку магілы Каліноўскага

4 верасьня 2017

Доктар гістарычных навук, прафэсар Аляксандар Краўцэвіч перакананы, што вельмі шмат прыкметаў сьведчаць пра дакладнасьць — на Замкавай гары сапраўды хавалі паўстанцаў, так што цалкам магчыма, што знойдзеныя парэшткі Кастуся Каліноўскага:

— На маю думку, калі б у нас была нармальная дзяржава, нармальнае кіраўніцтва, то пасьля такой заявы археолягаў Вільню з афіцыйным візытам наведаў бы кіраўнік Беларусі і над гэтай магілай на Замкавай гары ўжо б стаяў са зьнятым капелюшом, ушаноўваючы памяць.

Доктар гістарычных навук, прафэсар Алесь Смалянчук перакананы, што дакумэнты пра пахаваньні паўстанцаў трэба шукаць у Расеі:

— Я пляную хутка быць у Вільні, маю пляны сустрэцца зь людзьмі, якія непасрэдна ў тых раскопках удзельнічалі, паразмаўляць зь імі. І зь беларускай інтэлігенцыяй паразмаўляць, што далей рабіць. Я сам спрабаваў нешта знайсьці, калі працаваў у ЭГУ. Але зразумеў, што не абысьціся без паездкі ў Расею, у Маскоўскі вайсковы архіў. Бо закопвалі — ужываць слова „хавалі“ тут не выпадае — закопвалі паўстанцаў на тэрыторыі вайсковага гарнізона. Можа, нейкія дакумэнты ў вайсковых архівах ёсьць. Бо старанна шукала вельмі шмат дасьледчыкаў у мясцовых архівах — і Генадзь Кісялёў, і Язэп Янушкевіч, і іншыя. Можа, у тых вайсковых архівах атрымаецца нешта знайсьці. Менавіта вайскоўцы выконвалі ўсе гэтыя загады па пакараньнях.

— Але ж некалі на Замкавай гары быў помнік паўстанцам. Ці магчыма яго аднавіць?

— Тэарэтычна гэта магчыма. Можа, гэтыя знаходкі неяк падштурхнуць літоўскія ўлады. Бо калі я працаваў у Вільні ў ЭГУ, пытаньне гэтае ўздымалася, мы размаўлялі зь літоўскімі гісторыкамі. Там сапраўды стаяў вельмі цікавы помнік: крыж, які спалучаўся з шыбеніцай — паводле праекту славутага архітэктара Антона Вівульскага.

Але, мяркую, тут ёсьць праблема зь літоўскай гістарычнай палітыкай, бо і вежа, і сама гара Гедзіміна лічацца адным з асноўных месцаў памяці, пакланеньня менавіта літоўскай гісторыі. Для Вільні гэта важна, для ўсёй Літвы гэта важна. Дарэчы, гэта, відаць, было асноўнай прычынай, чаму прыбралі адтуль той помнік, і там нават сьледу цяпер няма, што калісьці быў помнік памяці паўстанцаў. Літоўскім уладам трэба неяк адважыцца на неразмываньне сваёй нацыянальнай гістарычнай памяці. Трэба пагадзіцца з тым, што тая гістарычная Вільня і сама Літва не былі такой чыста літоўскай этнічнай дзяржавай. Гэта была дзяржава шматлікіх народаў. Трэба нечым ахвяраваць. Ці будуць на гэта здольныя сучасныя літоўскія ўлады? Ведаю, што інтэлігенцыя гэта выдатна разумее і можа гэтаму паспрыяць. Але як быць з палітыкамі, цяжка сказаць.

У Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ведаюць пра тое, што літоўскія археолягі знайшлі парэшткі лідэра антырасейскага паўстаньня на Беларусі і Літве 1863–1864 гадоў Кастуся Каліноўскага. Пра гэта сказаў Свабодзе намесьнік дырэктара па навуковай працы Інстытуту гісторыі Вадзім Лакіза:

— Вядома, постаць Кастуся Каліноўскага нас вельмі цікавіць, асабліва калі зьяўляюцца новыя дасьледаваньні, аналізы. Тэма важная, цікавая і на гэтым этапе разьвіцьця беларускай дзяржаўнасьці, — сказаў Вадзім Лакіза. — Зь літоўскімі калегамі мы яшчэ ня зьвязваліся. Калі будуць нейкія дакладныя цікавыя вынікі, тады будзем кантактаваць. Да нас нашы калегі зь Літвы не зьвярталіся. Я думаю, што гэта дастаткова кваліфікаваныя навукоўцы,

якія самастойна могуць нейкія аналізы правесьці. Калі зьвернуцца — мы будзем толькі рады.

У лістападзе ў Літве будзе навуковая канфэрэнцыя Таварыства археолягаў Літвы, Інстытуту археалёгіі, Інстытуту гісторыі. Яны заўсёды, штогод запрашаюць і нас, беларускіх навукоўцаў-археолягаў.

## Лідзкія актывісты аднаўляюць крыжы на магілах паўстанцаў 1863 году

9 кастрычніка 2017

У выходныя актывісты зь Лідзкага раёну правялі талаку і адрэстаўравалі крыж паўстанцам 1863 году на магілах, якія знаходзяцца паміж вёскамі Малое Вольжава і Мохавічы.

Паводле Вітольда Ашурка, які браў удзел у талацэ, яны цалкам аднавілі адзін з крыжоў. Нягледзячы на тое, што яны дубовыя, на іх усё роўна ўзьдзейнічаюць дажджы і сонца. Актывісты выкапалі адзін з крыжоў і апрацавалі яго неабходнымі хімічнымі прэпаратамі. На наступныя выходныя будуць рэстаўраваць другі крыж.

Крыжы на магілах паўстанцаў былі пастаўленыя ў 1995 годзе. І туды на Дзяды раней заўсёды прыходзілі людзі з навакольных вёсак разам з ксяндзом і маліліся.

— Цяпер ужо некалькі гадоў, як сюды, апроч нас, ніхто не прыходзіць. Мясцовыя расказалі, што ўлады забаранілі ксяндзу тут маліцца. А многія старэйшыя людзі зь вёсак, з кім мы размаўлялі, папросту ня могуць ужо сюды дайсьці. Тым ня менш магілы нашых герояў, якія аддалі жыцьці за

нас, мы будзем даглядаць і ўшаноўваць, — сказаў Вітольд Ашурак.

У 1863 годзе паміж вёскамі Малое Вольжава і Мохавічы адбылася бітва касінераў атраду Нарбута з расейскімі царскімі войскамі. На гэтым месцы загінулі тры дзясяткі паўстанцаў.

## Лукашэнка супраць Каліноўскага

9 кастрычніка 2017
Сяргей Дубавец

Блогер Лапшын, які сядзеў на Валадарцы разам з Алесем Юркойцем, якога ўлады РБ выдалі ўладам Азэрбайджану і якога памілаваў тамтэйшы прэзыдэнт Аліеў, у лісьце да сястры Алеся Галіны выказаў спадзяваньне, што і Лукашэнка памілуе Юркойця.

Падабенства гэтых гісторый зьвязанае са словамі „прэзыдэнцкая крыўда“. Лапшын „пакрыўдзіў“ Аліева тым, што наведаў Нагорны Карабах. Юркойць, напэўна, „пакрыўдзіў“ Лукашэнку тым, што да 150-х угодкаў паўстаньня Каліноўскага ўсталяваў у вёсцы Слабодка ў прыродным амфітэатры велічны помнік паўстанцам і падрыхтаваў усебеларускі Касінерскі фэст.

Тагачасны кіраўнік раённага КДБ Сухоцкі запатрабаваў зьнесьці помнік, а каб не адбыўся Касінерскі фэст, самачынна арыштаваў Юркойця і літаральна ўпіхнуў яго ў групавую справу ашмянскіх мытнікаў (58 чалавек), якую акурат пачалі раскручваць у КДБ.

Ці было ўсё гэта крыўдаю самога Сухоцкага? Ці часткай палітыкі Лукашэнкі? Адказ трэба шу-

каць у тым, як зьмяніліся адносіны дзяржавы да паўстаньня 1863 году і асобы Каліноўскага з прыходам Лукашэнкі да ўлады. Прызнаны ў папярэднюю эпоху нацыянальным героем Беларусі Кастусь Каліноўскі, якога шанавалі яшчэ з савецкіх часоў, пры Лукашэнку патрапіў у апалу. Прыўладныя гісторыкі пачалі акцэнтаваць увагу на тым, што Каліноўскі „ня наш“, бо не праваслаўны, а таксама на яго „антырасейскай“ пазыцыі.

Апошняе, нібыта, вынікае з фразы „Толькі тады, народзе, зажывеш шчасьліва, калі ўжо над табой маскаля ня будзе“. Але шчасьце кожнага народа ў тым і заключаецца, каб ня быць пад кімсьці. Да таго ж фраза Каліноўскага — пра і для беларусаў, а не пра і для расейцаў, якія тым часам маштабна акупавалі наш край („Что не доделал русский штык — доделает русский чиновник, русская школа и русский поп“ — такі быў іхны дэвіз).

Пры Лукашэнку рэдкае ўшанаваньне паўстанцаў 1863 году абыходзіцца без затрыманьняў і штрафаў. Асабліва паказальна шчыруюць улады ў Сьвіслачы і Якушоўцы. Пакараньне Юркойця цалкам кладзецца ў гэты шэраг. Гэта дзяржаўная палітыка на месцах.

Ці можа Лукашэнка памілаваць Алеся? Па-першае, Алесь ніколі не папросіць пра гэта, бо пакараны незаконна. Па-другое, літасьць Лукашэнкі не сягае далей ягонага ўласнага кола. Па-трэцяе, яшчэ ў 2004 годзе сваім указам Лукашэнка скасаваў ордэн Каліноўскага — адну з новых узнагародаў незалежнае Беларусі, што былі задуманыя папярэдняй уладай.

Вядома, цяперашняя ўлада ня надта афішуе, што хоча зьмяніць ляндшафт беларускае памяці і

змагаецца супраць Каліноўскага. Але гэта не мяняе сутнасьці палітыкі на месцах — усімі спосабамі зьнішчаць хоць якую ўдзячную памяць пра паўстаньне. Алесю Юркойцю, асуджанаму на 7 гадоў турмы, дасталася ад гэтай палітыкі больш, чым камусьці іншаму.

## Акцыя ўшанаваньня паўстанцаў Каліноўскага ў Сьвіслачы скасаваная. Арганізатары мяняюць фармат праз рэпрэсіі

12 кастрычніка 2017

Упершыню больш як за 20 гадоў у Сьвіслачы і Якушоўцы ўшаноўваць памяць паўстанцаў будуць не ў адзін дзень, а на працягу двух месяцаў, каб пазьбегнуць перасьледу з боку ўладаў.

Аргкамітэт адзначэньня Дня памяці паўстанцаў 1863 году, які штогод праходзіць у Сьвіслачы і Якушоўцы, распаўсюдзіў заяву, у якой заклікае грамадзянскую супольнасьць краіны на працягу кастрычніка і лістапада, калі беларусы адзначаюць Дзяды, прыходзіць да помніка Каліноўскага ў Сьвіслачы і да крыжа ў Якушоўцы, на магілы паўстанцаў ва ўсёй Беларусі і ўшаноўваць іх памяць.

Аргкамітэт заклікае таксама ў гэты пэрыяд наведваць і ўшаноўваць іншыя гістарычныя мясьціны і помнікі, зьвязаныя з памяцьцю герояў паўстаньня 1863 году.

Уладзімер Хільмановіч:

— Людзям абрыдла хадзіць пад прыцэлам міліцэйскіх камэраў, страчваецца сьвяточны настрой ад такога татальнага прэсінгу. Нас жа суправаджа-

юць і фільмуюць на працягу ўсяго працэсу. Потым складаюць пратаколы за тое, што мы ўшаноўваем памяць нацыянальных герояў, ускладаем кветкі і запальваем зьнічы. Судзяць, накладваюць непамерныя штрафы, якія ўжо проста немагчыма выплачваць. Чыста маральна ня хочацца аддаваць дзяржаве гэтыя грошы, каб яна выкарыстоўвала іх на чарговыя рэпрэсіі.

Летась за ўшанаваньне паўстанцаў 1863 году ў Сьвіслачы і Якушоўцы былі аштрафаваныя 15 чалавек.

## Лесьнікі на Горадзеншчыне паставілі крыж памяці Ўрублеўскаму і паўстанцам 1863 году

19 кастрычніка 2017

Недалёка ад Горадні, у Зарубіцкім лесе, паставілі крыж у гонар паўстанцаў 1863 году. Гэта зрабілі лесьнікі Індурскага лясьніцтва.

Паводле Паўла Лігера, работніка названага лясьніцтва, у іхных лясах у свой час дзейнічаў паўстанцкі атрад пад кіраўніцтвам Валерыя Ўрублеўскага. Лігер сказаў Свабодзе, што яны плянавалі паставіць крыж на Дзень лясной гаспадаркі, але крыху спазьніліся.

„Справа ў тым, што Валеры Ўрублеўскі таксама меў дачыненьне да лясной гаспадаркі, і ягоны атрад тут непадалёк дзейнічаў. У нас ужо была даўно гэтая ідэя, каб ушанаваць Урублеўскага і ягоны атрад паўстанцаў, які дзейнічаў у нашых лясах. Яны змагаліся за нашу незалежнасьць, і вось мы здолелі ўшанаваць іх памяць“.

Крыж паставілі на экалягічнай сьцежцы, побач зь месцам, дзе некалі пасадзілі лес у імя Васіля Быкава і ўсталявалі там памятную шыльду.

## Актывісты з усёй Беларусі распачалі маратон ушанаваньня паўстанцаў Каліноўскага

30 кастрычніка 2017

Упершыню больш як за 20 гадоў у Сьвіслачы і Якушоўцы актывісты з усёй Беларусі ўшаноўваць памяць паўстанцаў будуць не ў адзін дзень, а на працягу двух месяцаў, каб пазьбегнуць перасьледу з боку ўладаў.

Памятныя імпрэзы распачалі сябры БНФ з Горадні і Менску. Падчас ускладаньня кветак да мэмарыяльных месцаў іх на камэры здымалі міліцыянты.

Кіраўнік Горадзенскай арганізацыі БНФ Вадзім Саранчукоў расказаў Свабодзе, што маратон ушанаваньня памяці паўстанцаў 1863 году ў Сьвіслачы ў новым фармаце распачалі фронтаўцы:

— У Сьвіслач прыехалі лідэры партыі Рыгор Кастусёў і Аляксей Янукевіч. Усяго было 12 чалавек.

Аляксей Янукевіч заўважыў Свабодзе, што „ўлады працягваюць паводзіць сябе непрыстойна. Прыехалі некалькі чалавек да помнікаў, запальваюць зьнічы, а яны з усіх бакоў ходзяць і ва ўпор здымаюць, суюць камэру ледзь не пад самыя рукі. Каб гэтая ўлада адчувала падтрымку народа, яна так бы сябе не пазыцыянавала. Гэта вельмі сумна, бо чыноўнікі працягваюць дэманстраваць сваю антыбеларускую сутнасьць“.

## У Лідзкім раёне паставілі помнік на магіле паўстанцаў Каліноўскага

1 лістапада 2017

Лідзкія актывісты ўстанавілі помнік паўстанцам 1863 году на месцы пахаваньня паміж вёскамі Малое Вольжава і Мохавічы Лідзкага раёну.

Паводле актывіста з гораду Бярозаўкі Лідзкага раёну Вітольда Ашурка, помнік вырашылі паставіць на месцы пахаваньня паўстанцаў.

22 гады таму актывісты паставілі тут драўляныя крыжы, але яны за гэты час зьмянілі свой вонкавы выгляд.

— Мы абмяркоўвалі гэтае пытаньне і вырашылі, што памяць пра нашых нацыянальных герояў, якія аддалі свае жыцьці за нашую незалежнасьць, павінна быць вечнай,— кажа спадар Ашурак. — А таму і сьцягнулі сюды камяні, каб зрабіць сапраўдны мэмарыял. Людзі павінны ведаць, дзе ляжаць нацыянальныя героі, і мець магчымасьць ушанаваць іх памяць. На гэтым месцы ляжаць паўстанцы з атраду Нарбута.

Вітольд Ашурак таксама расказаў, што работы на камені выканаў скульптар Максім Рунец зь Бярозаўкі:

— Максім вельмі талковы мастак і чалавек сапраўдны. Ён, дарэчы, калі мы да яго зьвярнуліся, сказаў, што сам хацеў прапанаваць нам такую справу. Мы вельмі задаволеныя ягонай працай.

Вітольд Ашурак таксама паведаміў, што некалі на гэтым месцы быў і камень з выгравіраванымі прозьвішчамі ўсіх, хто пахаваны. Але яго скралі.

## Дзе ў Вільні можа зьявіцца магіла Каліноўскага

17 лістапада 2017

Знойдзеныя сёлета падчас працаў на Замкавай гары парэшткі будуць урачыста пахаваныя на старажытных могілках Росы альбо Бэрнардынскіх, перадае сайт ураду Літвы.

Паводле сайту, гэтак пастанавіла ўрадавая камісія ўвечненьня памяці паўстанцаў, паседжаньне якой прайшло 16 лістапада пад старшынствам прэм’ер-міністра Літвы Саўлюса Сквярняліса.

Камісія вырашыла павялічыць фінансаваньне для завяршэньня археалягічных і антрапалягічных дасьледаваньняў, зьвязаных са знаходкамі на Замкавай гары.

— Тое паўстаньне супраць Расейскай імпэрыі было значным ня толькі ў Літве, але і ў Польшчы, Беларусі, Украіне і Латвіі. Адшуканьне і пахаваньне парэштак правадыроў паўстаньня — добрая нагода яшчэ раз абдумаць разам намаганьні нашага рэгіёну ісьці шляхам свабоды. Таму, рыхтуючыся да ўвечненьня правадыроў паўстаньня, мы будзем імкнуцца да супрацы з суседнімі краінамі, дзе адбывалася паўстаньне, — адзначыла на паседжаньні камісіі міністар культуры Літвы Ліяна Руокіце-Ёнсан.

## Гарадзенцы зрабілі бізнэс на настольных гульнях пра паўстанцаў і хочуць зьдзівіць Эўропу

29 студзеня 2018

Сям’я гарадзенцаў Янкоўскіх пачала бізнэс з грошай, сабраных на ўласнае вясельле. Яны прайшлі шлях ад крамы і фэстываляў настольных гульняў да выдавецтва. Сужэнцы мараць у будучыні заваяваць сэрцы эўрапейцаў якаснай беларускай гульнёй.

Антось і Наста Янкоўскія яшчэ 10 гадоў таму з настольных гульняў (настолак) ведалі толькі „Манаполію“ і „Мафію“. Цяпер іхная кватэра застаўленая каробкамі з уласнымі распрацоўкамі, якія прадаюцца нават у менскім аэрапорце, а ў сына Міхаські гэта любімыя цацкі.

— Раней знаёмыя гулялі ў настолкі, а я думала: „Што за олдскул!“. Калі б нехта сказаў, што пасьля ўнівэрсытэту я буду імі займацца, расьсьмяялася б яму ў твар, — усьміхаецца Наста.

Усё пачалося пяць гадоў таму. Антось працаваў выкладчыкам у каледжы мастацтваў, Наста — дызайнэркай у мастацкай студыі. Маладыя людзі набылі „Dixit“ (папулярная настольная гульня ў асацыяцыі) і гулялі зь сябрамі. Задумаліся, якія ёсьць беларускія настольныя гульні. Зразумелі: ніякіх.

Жартам нарадзілася ідэя. Калі ў іншых краінах ёсьць „Мафія“, то беларуская мафія — паўстанцы. З

агульнага: скрытнасьць, барацьба, супрацiў, трэба схавацца, знайсьці, рассакрэціць.

Распрацавалі правілы, пэрсанажаў, дызайн гульні „Паўстанцы“. Убачылі, што атрымліваецца. Якраз набліжалася 150-годзьдзе паўстаньня 1863–1864 гадоў. Але як выдаць навінку?

Можна было зрабіць 20 асобнікаў па вельмі высокім кошце. Наўрад ці нехта набыў бы, а хацелася шырокага распаўсюду. Афсэтам атрымалася б надрукаваць 1000 асобнікаў па сабекошце ў 10 разоў ніжэйшым, канкурэнтаздольным. Спыніліся на другім варыянце.

У маладых людзей былі грошы, сабраныя на вясельле, што мелася быць праз паўгода. Яны здаваліся нарачоным касьмічнай сумай, бо іншых фінансаў ня мелі.

— Я доўга думаў, пасьля прыйшоў да Насты, і кажу: „Тыя грошы, што мы сабралі на вясельле, трэба ўкласьці ў гульню“. Угаворваў яе тры дні. Сказаў, што паўгода буду хадзіць з гульнёй па офісах, прадаваць на вуліцы, толькі каб „адбіць“ грошы. У выніку мы рабілі друк у горадзенскай прыватнай друкарні, — узгадвае авантуру Антось.

— Паверыла. І дагэтуль веру, бо першы досьвед быў клясны. Тут пастаянна такія авантуры, — прызнаецца Наста.

Пра першую беларускую настолку тады напісалі многія мэдыі. Паводле Антося, ад званкоў журналістаў тэлефон разрываўся цягам тыдня. Ужо першыя прэзэнтацыі гульні чакаў посьпех.

— Горадзенская галерэя „Крыга“ „рвалася“ ад людзей, на вуліцы стаялі. У менскае выдавецтва „Логвінаў“ ахвочыя не маглі зайсьці, дык глядзелі праз вокны, — узгадвае аўтар.

Нават кіраўніцтва Антося праявіла цікаўнасьць. Дырэктар каледжу выклікаў хлопца да сябе з пытаньнем: „Што гэта за гульня такая? Каб улада заўсёды прайгравала?“. Пасьля гадзіны тлумачэньня ён зразумеў, што настолка не палітычная, а гістарычная, і шансы на перамогу ва ўсіх роўныя.

Аўтары адразу прадалі каля паловы ўсяго накладу. Ня толькі „адбілі“ вясельныя грошы, але і зарабілі дадаткова. Рэшта асобнікаў разышлася за 1,5–2 гады без рэклямы. Дагэтуль ідуць замовы „Паўстанцаў“ — сёлета плянуецца перавыданьне з дапаўненьнямі.

Аб прычынах посьпеху Янкоўскія адно здагадваюцца: першая беларуская аўтарская гульня, супадзеньне з гадавінай паўстаньня, агульны рост папулярнасьці настолак.

— Ніхто ня верыў, што будзе такі посьпех. А я чамусьці быў упэўнены ў „Паўстанцах“. Магчыма, гэта і спрацавала. У пазьнейшых праектах трэба было ісьці да мэдыяў. А тады ўсе самі ішлі да нас, запрашалі на прэзэнтацыі, — распавядаюць аўтары гульні.

## У Менску ўлады і апазыцыя разам ушанавалі Кастуся Каліноўскага

2 лютага 2018

Мэмарыяльная дошка зь бюстам Кастуся Каліноўскага вісіць на Палацы барацьбы ў Менску (вуліца Каліноўскага, 55). Сёньня з кветкамі сюды аднačасова прыйшлі сябры Аргкамітэту ўшанаваньня 100-годзьдзя незалежнасьці БНР, школь-

нікі зь менскай гімназіі № 9 і дзьве чыноўніцы з адміністрацыі Першамайскага раёну Менску.

Прадстаўніца адміністрацыі Першамайскага раёну выступіла з прамовай пра фігуру Кастуся Каліноўскага, распавяла пра яго як рэвалюцыянэра і змагара за правы грамадзян, які „дамагаўся свабоды і паляпшэньня жыцьця людзей Беларусі, Польшчы, Літвы“.

Сябра аргкамітэту ўшанаваньня мастак Мікола Купава запрасіў школьнікаў і чыноўнікаў прыходзіць да бюста Каліноўскага часьцей, ушаноўваць памяць беларускіх герояў.

Бард Зьміцер Захарэвіч выканаў песьню пра паўстанцаў 1863 году.

**З-пад Менску**

Безумоўна, „цвік“ выступлення чыноўніцы — заклік чытаць пра вялікіх людзей „нашай краіны і наогул Савецкага Саюза“. Гэта ўсё, што трэба ведаць пра светаўяўленне лукашэнкаўскіх дзяржслужачых.

## Як жыў Каліноўскі, каго кахаў, што еў, на што хварэў

3 лютага 2018

Гісторык і журналіст „Народнай Волі“ Васіль Герасімчык выдаў кнігу „Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда“. Аўтар зазначае, што робіць акцэнт на дробязях: „Як жыў Каліноўскі, што ёў, на што хварэў, што бачыў. Вакол яго заўсёды было нямала жанчын, але кахаў ён Марыську чарнаброву, галубку сваю“.

Прэзэнтацыя адбылася ў Горадні ў Цэнтральнай гарадзкой бібліятэцы імя Андрэя Макаёнка.

Васіль Герасімчык называе Каліноўскага Канстанцінам. Чаму? Ён тлумачыць: Кастусь — імя больш сваё, роднае, так ствараўся вобраз для сялян, каб яны змаглі адчуць крэўную сувязь зь ім. Але каб з павагай, то варта называць яго так, як называлі родныя. Не зважаючы, што сам Герасімчык сутыкнуўся са сьведчаньнем, што ў ваколіцах Сьвіслачы сяляне, удзельнікі таго паўстаньня, называлі яго Кастусём. „Была такая легенда на пачатку 1920-х гадоў, што ён змагаўся чамусьці з палякамі за сялян, Кастусь. Гэта своеасаблівы міт“, тлумачыць аўтар.

Герой кнігі быў названы ў гонар сына сьвятара мастаўлянскай царквы Сымона Крукоўскага, якога звалі Канстанцінам. Сям'я Каліноўскіх падтрымлівала добрыя стасункі з гэтым сьвятаром.

Васіль Герасімчык вырашыў наведаць радзіму Каліноўскага. Летась у лістападзе даехаў да Беластоку, затым да Ялоўкі, агледзеў старыя каталіцкія могілкі і адтуль пешшу, атрымалася больш за восем кілямэтраў, прайшоў шляхам, якім сям'я Каліноўскіх езьдзіла ў касьцёл са сваіх Мастаўлянаў (дзе была раней уніяцкая царква). Сьлядоў магіл знайсьці не атрымалася. Між тым, у бацькі Каліноўскага ад адной жонкі было 10 дзяцей і яшчэ 15 — ад другой. Усяго ў Сымона Каліноўскага, такім чынам, было 25 дзяцей. Хаця ён сам казаў толькі аб 22, таму што паміралі дзеці, кажа Васіль Герасімчык.

Васіль Герасімчык зьвяртае ўвагу на ненадрукаваны нумар „Мужыцкай праўды“. Ён захаваўся. Быў напісаны ад рукі 22 кастрычніка 1862 году, „у той час, калі ўзьніклі спрэчкі з палякамі“. „Вы, дзецюкі, пэўне ня ведаеце, хто вы такія, як называецца гэта зямля, на якой нашы бацькі жылі... Зямля наша зь

вякоў вечных называецца літоўская, а вы то называецеся літоўцы“, сьцьвярджаецца ў ненадрукаванай „Мужыцкай праўдзе“.

— Для мяне самога ўласная кніга паспрыяла разуменьню таго, як Канстанцін Каліноўскі напярэдадні сваёй сьмерці прыйшоў да важнага ўсьведамленьня, — кажа Васіль Герасімчык. — Што гэтыя людзі, сярод якіх ён выхоўваўся, якіх спрабаваў зразумець, інтарэсы якіх спрабаваў адстойваць, што няхай дзесьці яны літоўцы, але ў „Лістах з-пад шыбеніцы“, на маю думку, ён прыйшоў да разуменьня таго, што гэта мужыкі беларусы. У выніку ён ахвяраваў сваё жыцьцё народу, нараджэньне якога падсьвядома адчуваў.

Васіль Герасімчык разумее, што кніга можа выклікаць пытаньні. Напрыклад, ён піша адкрыта, што ў сям’і Кастуся карысталіся польскай мовай, ён выхаваўся на польскай культуры, „але ўзрасьціў у сабе разуменьне таго, што ён — частка гэтага мужыцкага люду“. І кніга менавіта аб тым, „як гэтае разуменьне вырастала ў ім“.

Доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук на прэзэнтацыі зазначыў: тое, што малады аўтар ўзяўся за такую тэму, з аднаго боку, добра. Але неабходна сказаць пра адказнасьць: трэба быць падрыхтаваным, у тым ліку маральна і псыхалягічна, таму што асоба Каліноўскага — вельмі важная для беларускай памяці. Ён параіў аўтару ставіцца да сябе крытычна. І выказаў спадзяваньне, што з часам цяперашняя кніга, у якой 228 старонак, перарасьце ў больш салідны том.

Алесь Смалянчук таксама зьвярнуў увагу на тое, што ня варта супастаўляць літоўцаў і беларусаў у тэкстах Кастуся Каліноўскага. Бо гэта была сьвя-

домасьць іншага ўзроўню, ня наша сёньняшняя нацыянальная:

— Літоўцы — гэта магло разумецца як нейкі палітонім, як прыналежнасьць да той вялікай гістарычнай Літвы. А беларусы — гэта ўжо этнонім. Адным словам, можна было тады адчуваць сябе і літоўцам, і адначасна беларусам.

Каб зразумець Каліноўскага, вельмі важна зразумець ідэйны кантэкст той эпохі, што было важна ў сьвядомасьці для жыхароў тагачаснай Беларусі, зазначае вядомы гісторык:

— Ва ўсім гэтым жыў Каліноўскі, варыўся, і там яго сьвядомасьць фармавалася. Бо гэта не чалавек эпохі нацыянальна-культурнага адраджэньня пачатку XX стагодзьдзя, калі ўсё стала больш відавочным: я беларус, ён — паляк. А тут можна было быць палякам і беларусам і літоўцам у адной асобе. Пасьля паўстаньня Беларусь апынулася перад наступленьнем эпохі нацыяналізму, якая пачала вельмі моцна мяняць сьвядомасьць людзей, — падсумоўвае Алесь Смалянчук.

## Чаму Канстанцін Каліноўскі, не Кастусь?

28 лютага 2018
Сяргей Астраўцоў

„Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда“ — сама назва кнігі Васіля Герасімчыка запыняе вока. Чаму Канстанцін?

Ён даўно для нас Кастусь, навошта гэты крок назад? Аўтар тлумачыць. Ня ўсякага гэтае тлумачэньне можа задаволіць. Што Канстанцінам называлі

яго ў сям’і, дзе карысталіся польскай мовай... Бо, калі разважыць, па-польску імя гучала ўсё роўна па-іншаму, як „Канстанты“. Адным словам, аўтар адразу змог настроіць частку магчымых чытачоў калі ня супраць, дык скептычна, выклікаць насьцярогу.

Што да мяне, я хутка адаптаваўся. Мне было зразумела, што маладому гісторыку з Горадні трэба было ня проста заявіць аб сабе першай сваёй кнігай, але зрабіць нейкі свой акцэнт, што датычыць яго героя. Кастуся ён зусім не адмаўляе, зазначаючы адно, што гэта народнае імя, якое Каліноўскі атрымаў пазьней. Пасьля сьмерці. Самае галоўнае, Васіль Герасімчык адразу пазначае тэму свайго дасьледаваньня, словамі Генадзя Кісялёва нагадваючы, што вакол Каліноўскага адбываецца ня проста спрэчка, а сапраўдная бітва. Гэтым словам амаль шэсьцьдзесят гадоў, але яны сёньня зноў надзённыя.

А самае галоўнае ў новай кнізе, што Герасімчык кінуўся ў змаганьне за Каліноўскага. І таму выглядае ня так істотным, што на вокладцы не стаіць прывычнае „Кастусь“.

Мінулай вясною быў абвешчаны цераз інтэрнэт збор грошай на выданьне новай кнігі пра Каліноўскага. Тады, між іншым, можна было пачуць засьцярожлівае: маўляў, аўтар грашыў некалі „заходнерусізмам“, і невядома чаго ад яго можна чакаць...

З краўдфандынгам не атрымалася. Герасімчыку давялося выдаць кнігу ўласным коштам. І не ў сталіцы, а ў прыватным выдавецтве ў Горадні. Яму хацелася абавязкова пасьпець да 180-й гадавіны з дня нараджэньня Каліноўскага. Атрымалася.

Сярод знаўцаў кіраўніка паўстаньня 1863 году зьявілася новае імя. Са словаў гісторыка Андрэя

Вашкевіча, які напісаў уступ да кнігі, спэцыялістаў па Каліноўскім у Менску — тры-чатыры, і ў Горадні можна назваць цяпер дваіх. Кніга своечасовая, паколькі вакол асобы Каліноўскага цяпер „больш ідэалёгіі, нэгатыву“, сказаў Вашкевіч. Што да Герасімчыка, ён знаёміць зь цікавымі матэрыяламі, з архіўнымі дакумэнтамі, са сваім аўтарскім поглядам. Публікуе некаторыя выказваньні кіраўніка паўстаньня з архіўных папер, зазначае Вашкевіч.

Што праўда, словы аўтара, што ён стараўся напісаць аб тым, як жыў Каліноўскі, што еў, чым хварэў, гучаць крыху па-рэклямнаму. Зьвестак аб гэтым няшмат, але гісторык іх знайшоў, выкарыстаў. І чытач ня можа не ацаніць гэтага.

У кнізе ёсьць нават пэўная сэнсацыя. Надрукаваны не вядомы шырокай публіцы нумар „Мужыцкай праўды“ за нумарам шэсьць. На прэзэнтацыі кнігі ніхто ня здолеў запыніць аўтара: што значыць № 6? Усім вядома, што ён быў, ёсьць, зьмест апублікаваны. Аднак Герасімчык зьмяшчае ў сваёй кнізе тэкст зусім іншага. Пры гэтым засяроджвае ўвагу на незвычайным моманце. У знойдзенай газэце сьцьвярджаецца ананімным аўтарам, які зьвяртаецца традыцыйна да „дзецюкоў“, наступнае: „Зямля наша з вякоў вечных называецца літоўская, а мы то называемся Літоўцы“.

Як, што за небыліцы, непрыемна зьдзіўляюцца аматары гісторыі. Ня можа быць! Ці гэта ня фэйк? У кнізе аўтар, аднак, раскрывае крыніцу і дае сваё тлумачэньне „літоўцам“ з „Мужыцкай праўды“.

У 1989 годзе ў адным віленскім касьцёле быў знойдзены рукапісны тэкст, пазначаны як „№ 6 „Мужыцкая праўда“. Зьмест зусім адрозьніваецца ад вядомага шостага нумару. Яго асаблівасьць у

тым, што гаворыцца чытачам — хто яны і як называецца іхні край, піша гісторык.

Другая асаблівасьць: няма подпісу „Яська-гаспадар з-пад Вільні“. Пры канцы тэксту пазначана — „Літоўскі правінцыйны камітэт“ і дата — 12 кастрычніка 1862 году.

Чаму нумар ня трапіў у друк? Магчыма, што зьмяніліся пэўныя абставіны. Якраз пачаліся перамовы паміж Літоўскім камітэтам і варшаўскім, Цэнтральным, нумар прытрымалі, а пазьней надрукавалі зусім іншы. У час паўстаньня літоўцамі сялян Каліноўскі не называў, а ў „Лістах з-пад шыбеніцы“, перад сьмерцю, ён зьвяртаўся да „мужыкоў Беларусаў“.

Васіль Герасімчык гаворыць, што для яго была важнай гэтая эвалюцыя. Як за вельмі кароткі час паўстаньня ў Каліноўскім высьпела і ўмацавалася перакананасьць, што жыхары гэтай зямлі — беларусы.

Чытач, загарнуўшы кнігу, застаўшыся сам-насам, можа зрабіць для сябе і такую выснову: што ў нашай сьвядомасьці менавіта Кастусь Каліноўскі пакінуў гэтае наша агульнае імя, зрабіў нас беларусамі. Ці, прынамсі, паклаў гэтаму пачатак.

Якія яшчэ высновы можа зрабіць сабе чытач з новай кнігі, якія я зрабіў? Любы дасьледчык ставіць перад сабой нейкую задачу, фармулюе ідэю. Напрыклад, за апошні час даводзілася чуць, што Каліноўскі ніякі не беларус, а быў палякам і змагаўся за Польшчу. Прачытаўшы Герасімчыка, яшчэ раз усьведамляеш, што такі погляд можна назваць недасьведчаным ці проста памылковым. Малады гісторык з фактамі ў руках тлумачыць, зь якой цяжкасьцю Каліноўскі змагаўся з Варшавай за асобны

Літоўскі камітэт, калі рыхтавалася паўстаньне. Змаганьне было няроўным. Варшава ўрэшце перамагла. Каліноўскага зь Вільні „саслалі“ ў Горадню. Што, як вынікае са зьместу кнігі, у далейшым істотна пашкодзіла паўстаньню.

Варшава адумалася, пагадзілася прызначыць яго кіраўніком над усім нашым краем. Але, зразумела, было запозна.

Аўтар любіць Кастуся, перажывае, захапляецца. Але называе Канстанцінам. Што ж, можна „даравацъ“.

І напэўна важна, наадварот, выказаць чалавеку падтрымку, заахвоціць. Як сказаў мне адзін з гісторыкаў: на жаль, мы бываем жорсткія адзін да аднаго, ня цэнім знаходак іншых, ня ўмеем радавацца чужым удачам.

Васіль паказвае, якімі няздольнымі выявіліся жандары пры пошуках Каліноўскага, менавіта не хаваючы захапленьня ім. Паказвае прыклады кансьпірацыі, без чаго нельга было рыхтаваць паўстаньне. Тым жа часам робіцца відавочным: пачуцьцё кансьпіратара аднойчы здрадзіла яму, калі запрасіў да сябе таго, праз каго яго нарэшце зловяць. Гэтым разам безь ніякай цяжкасьці. Мова пра Вітольда Парфяновіча, зусім маладзёна. Вельмі верагодна, што іначай Каліноўскаму яшчэ ўдавалася б пэўны час хавацца.

Што для мяне асабіста яшчэ было цікавым у кнізе? Зьвесткі аб канфіскацыі „Мужыцкай праўды“, „геаграфія“.

Асобнікі былі канфіскаваныя нават у Варшаве на Хмельнай вуліцы, дзе я люблю бываць у кавярнях. Ня ведаў, што нават там захоўвалі „Мужыцкую праўду“ Кастуся Каліноўскага.

## Герояў паўстаньня Каліноўскага пахаваюць у Вільні безь беларускай дэлегацыі

15 траўня 2018

Выяўленыя на Замкавай гары ў Вільні парэшткі паўстанцаў Каліноўскага будуць пахаваныя на віленскіх могілках Росы.

Такое рашэньне абвясьціла літоўская ўрадавая камісія, піша wilnoteka.lt.

Цырымонія адбудзецца ў ліпені або жніўні 2019 году з удзелам прадстаўнікоў польскага боку і будзе мець рэлігійны характар.

— Мы плянуем арганізаваць супольныя ўрачыстасьці з польскім бокам, для Польшчы гэта таксама вельмі важна, а з гістарычнага гледзішча мо і важней, чым для нас, — сказаў віцэ-канцлер ураду Літвы Дэйвідас Матулёніс.

Ён дадаў, што ва ўрачыстасьці мог бы прыняць удзел і беларускі бок, але пакуль, паводле яго, Беларусь не цікавілася знойдзенымі парэшткамі.

Сярод двух магчымых варыянтаў месца была абраная капліца на Росах. Іншым варыянтам была капліца ў касьцёле сьвятых Піліпа і Якуба на Лукіскім пляцы, дзе яны былі пакараныя сьмерцю.

— Гэта будзе своеасаблівы пантэон кіраўнікоў паўстаньня 1863–1864 гадоў, — сказаў Матулёніс.

На Замкавай гары да гэтага часу былі выяўленыя парэшткі 17 зь іх. 13 целаў ужо ўдалося ідэнтыфікаваць.

У чэрвені пачынаюцца чарговыя пошукі парэштак ня знойдзеных дагэтуль чатырох з 21 паўстанца, якія былі пакараныя сьмерцю на Лукіскім пляцы.

## „Непанятны“ Каліноўскі і незразумелы Калінін

16 траўня 2018
Сяргей Дубавец

Да цырымоніі пахаваньня парэштак Кастуся Каліноўскага афіцыйная РБ пакуль ня выказала ніякай цікавасьці.

Не таму, што ня любіць Каліноўскага, а таму, што ён для яе такі самы „непанятны“, як Касьцюшка, як БНР, як сама гэтая краіна, адлюстраваная ў паўстанцкім споклічы „Каго любіш? Люблю Беларусь! То ўзаемна“.

У БССР Кастусь Каліноўскі быў прызнаным нацыянальным героем. Выходзілі кнігі, здымаліся фільмы, называліся партызанскія атрады і вуліцы. У РБ ордэн Каліноўскага стаў адной з галоўных новых дзяржаўных узнагарод. Яшчэ да Лукашэнкі, натуральна. Лукашэнка скасуе гэты ордэн у 2004-м. Але наша гісторыя пачалася раней.

У 2001-м першай уздымае і дасьледуе тэму магілы героя Радыё Свабода. Улады РБ тым часам палююць на актывістаў, якія хочуць адзначыць даты славутага паўстаньня. Усебеларускі Касінерскі фэст, які рыхтаваў у 2013 годзе астравецкі асьветнік Алесь Юркойць, стаў яго апошняй ініцыятывай перад арыштам у КГБ і доўгім турэмным тэрмінам.

Артыкулы і кнігі працягваюць выходзіць выключна ў незалежных СМІ і выдавецтвах.

Калі Радыё Свабода напісала пра пахаваньне паўстанцаў у Вільні на Замкавай гары (гара Гедзіміна), адказныя асобы ў Літве рашуча адмаўлялі, што такая магіла там ёсьць. Сама гара — сымбаль

літоўскай дзяржаўнасьці, і там ня мусіць падмешвацца ніякае „Люблю Беларусь!“. Літоўцаў, прынамсі, можна зразумець.

Паўтара года таму гара „паплыла“, стала імкліва разбурацца, агаліліся чалавечыя парэшткі, за працу ўзяліся археолягі. Праўда выйшла на паверхню — гэта насамрэч паўстанцы. Пачаўся працэс ідэнтыфікацыі, у які ўключыліся беларускія недзяржаўныя гісторыкі і бізнэсоўцы, тэму ўвесь час асьвятляюць недзяржаўныя СМІ.

Я пра што? Кожная дзяржава мае сваю легенду. Каліноўскі для беларускай дзяржавы — ключавая постаць, як і Касьцюшка, як і БНР. Калі гэтую постаць „выняць“, „непанятнай“ становіцца сама дзяржава. Шмат хто гэта разумее і адчувае, таму і ўдзельнічаюць у справах адраджэньня з уласнае волі. І тое, што РБ на пахаваньні ня будзе, зусім ня значыць, што там ня будзе Беларусі. РБ не было і на сотых угодках БНР, і ў пастаўленым на народныя грошы помніку Касьцюшку…

Паказальнае нядаўняе прызнаньне чыноўніцы, галоўнай у РБ над кнігамі, якая пры тым кіруе літаратурнымі журы. Яна кажа, што Людміла Рублеўская для яе крыху складаная. Кожны, хто ў тэме, разумее, што напісаныя папулярна раманы Рублеўскай ня больш складаныя за самага чытанага ў беларускай літаратуры Ўладзімера Караткевіча. Гэтае прызнаньне — як мэтафара таго, што ў Беларусі „непанятна“ для РБ.

У сваю чаргу для Беларусі ў РБ незразумелая роля міністэрстваў інфармацыі, адукацыі і культуры, усе навіны пра дзейнасьць якіх носяць, як правіла, кур’ёзны характар. Звычайна нешта забараняецца або закрываецца. Як тое памятнае паведамленьне

пра закрыцьцё 260 бібліятэк, зь якога ў РБ пачаўся „Год культуры“.

У сфэры гуманістыкі на нашых вачах адбываецца ці то дзяржавазамяшчэньне, ці то асобнае будаваньне сапраўднай беларускай дзяржавы „за народныя грошы“. І займаюцца гэтым людзі, на падаткі якіх утрымліваецца цэлая армія чынавенства па ўсёй краіне, якія ў большасьці выпадкаў робяць усё, каб гэтага будаваньня не дапусьціць.

Няўдзел афіцыйнай дэлегацыі РБ у пахаваньні паўстанцаў для Беларусі мала істотны. Істотнымі для РБ былі б перамовы зь літоўскім бокам пра перанос пантэону ў Менск. Але ў Менску пакуль вольнага месца для плошчы і помніка Каліноўскаму няма. Тут на месцы нацыянальнага героя Беларусі ёсьць, напрыклад, помнік і аднайменная плошча нічым не зьвязанага зь Беларусяй або зь нейкімі добрымі справамі Міхаіла Іванавіча Калініна. Месца героя займае чалавек, які „здаў“ сваю жонку ў ГУЛАГ.

## Лідзкія ўлады правядуць раскопкі на месцы пахаваньня паўстанцаў 1863 году

19 чэрвеня 2018

Раскопкі правядуць паміж вёскамі Малое Вольжава і Мохавічы. Мясцовыя актывісты супраць, бо, на іх думку, раскопкі маюць праводзіць археолягі з Інстытуту гісторыі Акадэміі навук, а не вайсковы пошукавы атрад.

На гэтым месцы, дзе ў міжваенны час знаходзіўся фальварак Шчытна, мясцовыя актывісты ўпарад-

кавалі сапраўдны мэмарыял. Цяпер тут стаяць два вялікія драўляныя крыжы і валун з надпісам „Невядомым паўстанцам“.

— Крыжы на магілах паўстанцаў былі пастаўленыя ў 1995 годзе, а валун летась, — кажа актывіст Вітольд Ашурак. — Прычым мы ўсё тут зрабілі сваімі рукамі і на свае сродкі, ніякія ўлады нам ні ў чым не дапамагалі. Нехта прывозіў цэмэнт, нехта пясок, арандавалі генэратар на свае грошы.

Сябра Таварыства беларускай мовы і рэдактар газэты „Наша слова“ Станіслаў Суднік быў у выканкаме, дзе яму сказалі, што хочуць пераканацца, ці насамрэч там пахаваныя паўстанцы. Суднік, у сваю чаргу, выказаў уладам свой пратэст супраць раскопак на месцы пахаваньня паўстанцаў.

Ён кажа, што ўсе мясцовыя людзі добра ведаюць, што там пахаваныя менавіта паўстанцы. У міжваенны час уладальнік фальварку Шчытна паставіў у іх гонар крыж, людзі пераказвалі гэта з пакаленьня ў пакаленьне, і туды заўсёды прыходзілі мястэчкоўцы, каб ушанаваць памяць паўстанцаў.

— Я супраць раскопак і таму, што іх зьбіраюцца праводзіць не адмыслоўцы з Інстытуту гісторыі Акадэміі навук, а нейкі пошукавы атрад, — кажа Суднік.

Паводле яго, некаму ва ўладных структурах вельмі карціць зьнішчыць мэмарыял, які знаходзіцца ў чыстым полі, каб наагул сьцерці памяць пра паўстанцаў.

У аддзеле ідэалёгіі Лідзкага райвыканкаму мяркуюць, што на месцы мэмарыялу паўстанцам ёсьць вайсковае пахаваньне Першай усясьветнай вайны. Маўляў, раскопкі праводзяцца згодна з плянам палявых пошукавых работ. Райвыканкам

супольна з ваенкаматам склаў інфармацыйны ліст, які накіроўваецца ў Міністэрства абароны ва ўпраўленьне па ўвекавечваньні.

— Таму спэцыялізаваны пошукавы батальён Міністэрства абароны будзе выконваць гэтыя працы, — сказаў прадстаўнік аддзелу ідэалёгіі.

— Але, паводле мясцовых актывістаў, там пахаваныя паўстанцы 1863 году.

— А ў чым пытаньне? Гэта ж ня чорныя капальнікі, раскопкі праводзяць адмыслоўцы. Калі гэта будуць не ахвяры вайны і не вайскоўцы, магчыма, да гэтага далучацца і археолягі, і навуковыя супрацоўнікі. Калі там будуць знойдзены парэшткі, гэтаму месцу будзе нададзены афіцыйны статус як пахаваньня. Але гэта будзе па выніках працаў, гледзячы на тое, знойдуць нешта ці не, — сказалі ў аддзеле ідэалёгіі.

Раскопкі будуць праведзеныя з 11 чэрвеня па 19 кастрычніка.

— Лідзкі райвыканкам рашэньне аб правядзеньні прац ужо прыняў, — сказалі ў райвыканкаме.

## Імёны Свабоды: Цэлястын Цеханоўскі

21 чэрвеня 2018
Уладзімер Арлоў

Яны былі розныя — векам, прафэсіяй, характарам. Іх зблíжала адно — непрыняцьце расейскай улады, якая вырвала радзіму з эўрапейскай цывілізацыі.

У 1863-м яны, ведаючы, на што ідуць, абнялі мацярок, сясьцёр і каханых і ступілі насустрач лёсу.

Тое паўстаньне застанецца адным зь нешматлікіх у гісторыі XIX стагодзьдзя прыкладаў, калі, у існасьці, купка ўзброеных людзей, бароняючы сваю чалавечую й нацыянальную годнасьць, кінула выклік велізарнай імпэрыі. Тры эўрапейскія народы — беларусы, палякі й літоўцы — коштам жыцьцяў найлепшых сыноў выказалі пратэст расейскаму абсалютызму і дэспатызму, засьведчыўшы прыхільнасьць да канстытуцыйнасьці й дэмакратыі.

Выпускнік Маскоўскага ўнівэрсытэту Цэлястын Цеханоўскі працаваў лекарам у Горадні, меў добрую рэпутацыю й багатую практыку, сачыў за навінамі ў мэдычнай навуцы.

Але ў ягоных доктарскіх саквах часам ляжалі ня толькі лекі ды інструмэнты. Цэлястын уваходзіў у Гарадзенскую рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю, створаную Кастусём Каліноўскім і Валерам Урублеўскім дзеля падрыхтоўкі паўстаньня.

Калі яно пачалося, Цеханоўскага прызначылі паўстанцкім грамадзянскім начальнікам Горадні. У яго кампэтэнцыі было вэрбаваньне людзей у аддзелы інсургентаў, забесьпячэньне іх зброяй і рыштункам, пашырэньне газэтаў і праклямацыяў.

У ліпені 1863-га Цэлястына схапіла паліцыя. Заслугі доктара перад паўстаньнем царскі суд ацаніў сьмяротным пакараньнем, якое ў выніку хадайніцтва сваякоў і верагоднага подкупу царскіх урадоўцаў (хабарамі ня грэбаваў і генэрал-губэрнатар Мураўёў-вешальнік) замянілі 20 гадамі катаргі.

Ён будаваў Кругабайкальскі паштовы тракт, потым быў штатным лекарам Аляксандраўскага вінакурнага заводу, маючы практыку яшчэ больш багатую, чым у Горадні, — сотні зьняволеных. Уражанае ахвярнасьцю доктара-катаржаніна, што

рабіў свае мэдычныя абходы ў кайданах, турэмнае начальства прапанавала Цеханоўскаму раскаваць яго, але ён адмовіўся — каб дзяліць з таварышамі па няшчасьці ўсе іхнія пакуты.

Цэлястын Цеханоўскі. 1835, маёнтак Горлава, цяпер в. Горлава ў Дрыбінскім раёне — 10.1.1906, Іркуцк, Расея. Пахаваны ў Іркуцку.

## Чаму Каліноўскі павінен быць пахаваны ў Беларусі

26 чэрвеня 2018
Алесь Чайчыц

Калі інфармацыя пра знойдзеныя парэшткі Кастуся Каліноўскага выявіцца праўдай, гэта будзе калясальная сэнсацыя і знаходка стагодзьдзя. І дзейнічаць, зважаючы на гэта, беларускае грамадзтва й беларуская дзяржава павінны ўжо зараз. Неабходна прыцягваць да гэтай тэмы ўвагу беларускай амбасады ў Вільні, беларускіх МЗС і Міністэрства культуры.

Для Беларусі Каліноўскі — напэўна, цэнтральная гістарычная фігура ўсяго XIX стагодзьдзя. Гэта ікона барацьбы беларусаў за сацыяльныя і нацыянальныя правы, фігура, якая парадаксальным чынам яднае нацыянальна-дэмакратычны дыскурс і афіцыйны БССР'аўскі.

Каліноўскі — хоць і чалавек яшчэ „літвінскай“, „дабеларускай“ эпохі — стаў папярэднікам і натхняльнікам усяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, пачынаючы ад другой паловы XIX стагодзьдзя. Паралельна з гэтым ён быў адзінай

сымбалічнай асобай зь ліку барацьбітоў за вызваленьне Беларусі ад расейскага панаваньня, якая афіцыйна шанавалася ў БССР і забясьпечвала своеасаблівы нацыянальны складнік у савецкай ідэалёгіі на Беларусі.

Для палякаў і літоўцаў жа ён проста адзін з многіх актыўных дзеячоў і кіраўнікоў паўстаньня 1863 году — выбітны, шанаваны, але не галоўны. Пагатоў, як „чырвоны“ і як чалавек, што апэляваў да беларусаў, Каліноўскі яшчэ больш аддалены ад польскага пантэону „Студзеньскіх паўстанцаў“. Калі ён будзе пахаваны ў Вільні разам зь іншымі паўстанцамі, ягоная магіла будзе проста адной у шэрагу многіх. І надпіс на беларускай мове на ёй — калі ён увогуле будзе — быў бы толькі адным у шэрагу некалькіх.

Калі інфармацыя пра Каліноўскага ўсё ж пацьвердзіцца, беларуская афіцыйная ўлада павінна зрабіць усё, каб забясьпечыць пахаваньне Каліноўскага на тэрыторыі Беларусі. Магіла такога чалавека — гэта нацыянальны мэмарыял нумар адзін, ніяк ня менш важны за, напрыклад, савецкую стэлу перамогі ў Другой сусьветнай вайне на Круглай плошчы ў Менску. Пахаваць Каліноўскага можна было б ці ў Менску як сталіцы Беларусі, ці ў Горадні, зь якой зьвязанае яго жыцьцё.

У любым выпадку, забясьпечыць урачыстае пахаваньне Каліноўскага на беларускай зямлі — справа гонару для Беларусі, беларускай дзяржавы і беларускай нацыі.

**Illia Illia**

Дык з Вільняй жыццё Каліноўскага звязана не менш. Яго магіла з выразным мемарыялам магла бы стаць яшчэ ад-

ным знакавым пунктам прыцягнення беларусаў у Вільні. Гэта было б добра.

**Kon Syrel**

Пахаваць Кастуся Каліноўскага ў Беларусі сёньня — гэта значыць аддаць ягоную магілу на пацеху вандалам! Маё меркаваньне — толькі ў Вільні!

**Aleś Čajčyc**

Вандалы сыйдуць, а новы галоўны мэмарыял Беларусі — застанецца. Пахаваць ад пачатку ў Беларусі прасьцей, чым потым дамаўляцца зь літоўцамі аб перапахаваньні.

**Алег Леўчык**

А вандалам можна і рукі разам зь галавой адарваць.

## У пошуках ДНК Каліноўскага гісторыкі будуць дасьледаваць магілу ягонага брата ў Беларусі

13 ліпеня 2018

Беларускі і літоўскі бакі абмяркоўваюць пытаньне пра магчымасьць доступу навукоўцаў да магілы старэйшага брата Кастуся Каліноўскага Віктара ў Сьвіслачы на Гарадзеншчыне. Генэтычная экспэртыза можа даць адказ на пытаньне, ці належаць парэшткі, знойдзеныя ў Вільні на Замкавай гары, лідэру антырасейскага паўстаньня ў Беларусі і Літве 1863–1864 гадоў.

Раней у Літве афіцыйна паведамлялася, што меркаваныя парэшткі Кастуся Каліноўскага, а таксама Зыгмунта Серакоўскага і яшчэ 15 удзельнікаў антырасейскага паўстаньня 1863–1864 гадоў, знойдзеныя ў 2017 годзе падчас работ на Замкавай

гары ў Вільні, урачыста пахаваюць на старажытных могілках Росы альбо Бэрнардынскіх.

Нядаўна ў сацыяльных сетках зьявілася інфармацыя, што сярод паўстанцаў 1863 году, чые пахаваньні адшукалі ў Вільні, былі ідэнтыфікаваныя парэшткі Кастуся Каліноўскага. Аднак канчатковага пацьверджаньня пакуль няма.

Рымантас Янкаўскас, прафэсар катэдры анатоміі, гісталёгіі і антрапалёгіі мэдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту, займаецца ідэнтыфікацыяй парэштак, знойдзеных на Замкавай гары. Ён адказаў на пытаньні Радыё Свабода.

— Вядома, што ў мястэчку Сьвіслач у Беларусі пахаваны родны брат Кастуся — Віктар Каліноўскі. Ці зьвярталіся вы да беларускіх уладаў у пытаньні эксгумацыі яго парэштак?

— Да беларускіх уладаў абяцала зьвярнуцца літоўская амбасада ў Беларусі. Наша прапанова — супольныя дасьледаваньні зь беларускімі калегамі.

— Ці выяўляюць вашы беларускія калегі інтарэс да гэтай вашай працы? З кім канкрэтна вы супрацоўнічаеце?

— На жаль, такіх сувязяў у нас няма. Летась у нас былі прадстаўніцы беларускай амбасады ў Літве, але на гэтым кантакты спыніліся.

Паводле аднаго зь беларускіх дыпляматаў, цяпер амбасада Беларусі ў Вільні працуе зь літоўскім бокам, каб вызначыць, як фармалізаваць запыт і пабудаваць супрацоўніцтва ў пытаньні доступу літоўскіх навукоўцаў да магілы Віктара Каліноўскага і ідэнтыфікацыі парэштак. Але канкрэтнага рашэньня пакуль няма.

Гэтаксама прадстаўнік літоўскай амбасады ў Беларусі паведаміў карэспандэнту Свабоды, што

афіцыйных камэнтароў пакуль няма. Ён сказаў, што беларускі бок хоча атрымаць афіцыйны зварот пра садзейнічаньне. Дыплямат сказаў, што спадзяецца на станоўчы адказ.

Але пакуль літоўскі бок не зьвяртаўся з афіцыйным запытам па гэтым пытаньні, хоць яно ўзьнімалася на розных узроўнях. Экспэрты павінны сфармуляваць свой запыт, чаго яны жадаюць, усе нюансы павінны быць апісаныя.

— Гэтае пытаньне адчувальнае для абодвух бакоў, цікавае і важнае, і мы спадзяёмся на самае лепшае. Прапрацоўваем, але пакуль занадта рана казаць пра нейкія рашэньні, — сказаў прадстаўнік амбасады Літвы ў Беларусі.

Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі разам са Сьвіслацкім райвыканкамам арганізуе археалягічную экспэдыцыю ў Сьвіслацкі раён, падчас якой, верагодна, будзе абмяркоўвацца пытаньне пра магчымасьць эксгумацыі парэштак старэйшага брата Кастуся Каліноўскага Віктара, пахаванага ў Сьвіслачы.

Пра гэта карэспандэнту Свабоды сказаў намесьнік дырэктара па навуковай працы Інстытуту гісторыі Вадзім Лакіза.

Папярэдне пачатак экспэдыцыі заплянаваны на 18 ліпеня.

Яшчэ раней, падчас працы на тэрыторыі Ваўкавыскага раёну, прадстаўнікі Інстытуту сустрэнуцца з кіраўніцтвам гораду Сьвіслач, каб абмеркаваць некаторыя арганізацыйныя моманты.

— Мы ведаем пра тое, што і як адбываецца ў суседняй Літве. Да нас зьвярталіся на розных узроўнях па дадзеным пытаньні, таму інфармацыю мы маем. У гэтай справе зацікаўленыя МЗС Беларусі,

амбасада РБ у Літве і, зразумела, Нацыянальная акадэмія, Інстытут гісторыі, Міністэрства культуры. Мы працуем сумесна па некаторых пытаньнях, якія ставяцца, — сказаў Вадзім Лакіза.

Сярод гэтых пытаньняў — ідэнтыфікацыя парэштак Кастуся (Канстанціна) Каліноўскага. Маецца на ўвазе таксама прапанаваны літоўскім бокам варыянт, зьвязаны з генэтычным дасьледаваньнем парэштак Віктара Каліноўскага.

— Гэтае пытаньне ставілася яшчэ раней: у мінулым годзе да нас зьвярталіся. Яно прапрацоўвалася сумесна і зь Міністэрствам культуры, і са Сьвіслацкім райвыканкамам. Па інфармацыі, якую мы маем, ня ўсё адназначна з вызначэньнем дакладнага месца пахаваньня брата Каліноўскага — Віктара. Няма ўпэўненасьці ў дакладнай лякалізацыі магілы Віктара Каліноўскага. Яна пазначана на могілках, але чыя там магіла, на сто працэнтаў не вядома, — сказаў Вадзім Лакіза.

Яшчэ ў мінулым годзе інфармацыю пра магілу Віктара Каліноўскага ўдакладняў Сьвіслацкі райвыканкам.

— Нядаўна мы размаўлялі са старшынём Сьвіслацкага райвыканкаму па гэтым пытаньні. Ад яго я даведаўся, што прыяжджалі прадстаўнікі літоўскага боку, якія спрабавалі знайсьці сваякоў Кастуся Каліноўскага, для таго каб узяць аналіз ДНК, — сказаў Вадзім Лакіза.

Ці рэальна знайсьці магілу Віктара Каліноўскага на могілках у Сьвіслачы?

— Думаю, у сувязі з пашкоджаньнямі могілак падчас Вялікай айчыннай вайны і іх пасьляваенным аднаўленьнем зрабіць гэта будзе складана, — сказаў Вадзім Лакіза.

Паводле Вадзіма Лакізы, Інстытут гісторыі не зьяўляецца галоўнай арганізацыяй у справе ідэнтыфікацыі парэштак. Да гэтага пытаньня датычныя Міністэрства культуры, Сьвіслацкі райвыканкам і літоўскі бок:

— Літоўскі бок наўпрост не зьвяртаўся ў Інстытут гісторыі НАНБ для нейкай сумеснай працы. Хаця, калі будзе прынятае канчатковае рашэньне па дасьледаваньні гэтых могілак, пра якія я казаў, без Інстытуту гісторыі гэта ня будзе зроблена.

Паводле Вадзіма Лакізы, можна правесьці стандартныя археалягічныя дасьледаваньні, раскопкі з пэўнай мэтодыкай:

— Калі могілкі старэйшыя за 120 гадоў, гэта азначае, што справай займаюцца археолягі. Ну, а аналіз ДНК праводзіць ня наш інстытут, гэта даволі затратная справа. І тут патрэбнае пэўнае абсталяваньне, адмысловыя лябараторыі. Гэта вельмі складанае дасьледаваньне, і не заўсёды стопрацэнтныя яго вынікі. Тым больш, што справа тычыцца XIX стагодзьдзя.

Паводле Вадзіма Лакізы, любыя будаўнічыя, земляныя і іншыя працы на тэрыторыі раёну санкцыянуюцца райвыканкамам на падставе заключэньня Інстытуту гісторыі НАН Беларусі.

Паводле прафэсара, доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча, дакладна вызначыць магілу Віктара Каліноўскага магчыма, але раней яе ніхто не шукаў.

— Дзеля гэтага трэба правесьці адмысловае грунтоўнае дасьледаваньне. Эксгумацыя — гэта звычайная практыка. Эксгумацыя салдат, якія загінулі ў Другую сусьветную вайну, на шырокі маштаб праводзіцца беларускім пошукавым бата-

льёнам. Адзінае, каб не было насуперак апошняй волі асобы, якая эксгумуецца, альбо волі сваякоў. Сваякоў ня знойдзена. Таму гэтая ідэя прыгожая, але над ёй неабходна працаваць.

Алесь Краўцэвіч адзначае, што літоўскія археолягі высокакваліфікаваныя і іхным дасьледаваньням варта давяраць.

— Больш за тое, яны пераадолелі палітычны ціск, што, маўляў, гэтага ня трэба рабіць, ня трэба ідэнтыфікаваць. Навуковая сумленнасьць узяла верх, яны ідэнтыфікавалі, правялі гэтае расьсьледаваньне. І мы рэальна маем шанец атрымаць магілу Кастуся Каліноўскага. Іншая справа, дзе гэтая магіла павінна быць. Я лічу — у Беларусі. Літоўскія ўлады будуць ня супраць гэтага. Трэба паверыць на слова літоўскім спэцыялістам і дамовіцца пра перанос гэтай магілы ў Беларусь.

Як Вадзім Лакіза ставіцца да таго, каб пахаваць парэшткі Кастуся Каліноўскага ў Беларусі?

— У якім месцы перазахоўваць на тэрыторыі Беларусі? Ніхто ня скажа. Я думаю, гэтае пытаньне вельмі складанае. На яго адказаць адназначна немагчыма. Я размаўляў наконт гэтага з рознымі людзьмі, розныя меркаваньні чуў. Але ў большыні калегаў і знаёмых пра пахаваньне на тэрыторыі Беларусі размовы не было, — кажа намесьнік дырэктара па навуковай працы Інстытуту гісторыі НАН Беларусі.

**Юля Дарашкевіч**

Дык магіла Віктара Каліноўскага фэйкавая? Аляксандр Краўцэвіч?

**Юрка Цехановіч**

З улікам такім выпадкаў варта было б стварыць банк дадзеных ДНК гістарычных асобаў...

## Апошні прыстанак Каліноўскага: што гэта і як правільна называць

13 ліпеня 2018
Сяргей Дубавец

Найбольш імаверным месцам пахаваньня паўстанцаў 1863–1864 гадоў, парэшткі якіх знайшліся летась на Замкавай гары ў Вільні, стануць могілкі Росы — там будзе створаны мэмарыял.

Вядома, найлепшым месцам пахаваньня беларускіх герояў была б сучасная сталіца Беларусі. Але, як той казаў, не пры гэтай уладзе. Таму выбар старадаўняй сталіцы і мэмарыяльных Росаў у ёй выглядае найбольш адпаведным з усіх магчымых.

Гэты нэкропаль часта называюць могілкамі Роса (быццам яны належаць нейкаму Росу). Насамрэч назва ўсяго гэтага віленскага раёну — Росы — паходзіць ад паганскага сьвята веснавога цыклю, да якога царква прымеркавала дзень Сьвятога Юрыя. Памятаеце, у абрадавай песьні сьпяваецца: „Юр’я, адмкні зямлю. Юр’я, пусьці расу“. Тады ўжо — касі каса, пакуль раса. Так пачынаўся земляробчы год. А сьвяткаваць гэты пачатак году — Росы — віленчукі з дахрысьціянскіх часоў прыходзілі сюды, таму й раён стаў звацца Росамі, а пасьля, калі тут зьявіліся могілкі, іх назвалі таксама — могілкі Росы.

Першыя пахаваньні тут узьніклі ў XV стагодзьдзі. Гісторык Тэадор Нарбут кажа, што з 1436 году на гэтай тэрыторыі хавалі ахвяраў паморку. Тады тэрыторыя называлася Сьвятаюрскімі Росамі — ад пабудаванай тут праваслаўнай царквы Сьвятога Юрыя, якая пазьней стала ўніяцкай і служыла

падвіленскім парафіянам. Была яна дашчэнту спаленая вайною ў XVII стагодзьдзі і ўжо пазьней не адбудоўвалася.

Фармальна аднак заснаваньне могілак як публічнага месца пахаваньня памерлых жыхароў Вільні датуецца 1769 годам, калі тагачасны бурмістар Вільні Базыль Мюлер афіцыйна прызначыў для пахаваньняў гэтую тэрыторыю. 6 траўня 1801 году адбылося асьвячэньне могілак, а ўжо праз два дні на іх знайшоў свой спачын і сам Мюлер.

Сёньня агульная тэрыторыя нэкропалю Росы складае 10,8 га. Помнікі разьмясьціліся на пяці маляўнічых узгорках, кожны зь якіх мае сваю назву. На адным зь іх — Літарацкай горцы — сярод старых дрэваў месьціцца сымбалічная магіла пачынальнікаў беларускай дзяржаўнасьці братоў Івана і Антона Луцкевічаў, на цэнтральным узгорку каля ўваходу ў капліцу спачывае заснавальнік новай літоўскай дзяржаўнасьці Ёнас Басанавічус, а ўнізе, за агароджаю Росаў месьціцца маўзалей з сэрцам Юзафа Пілсудзкага, заснавальніка новай польскай дзяржаўнасьці. Разам з сэрцам Пілсудзкага пахаваная і ягоная маці.

Трэба сказаць, што ў часы, калі жылі й дзейнічалі пахаваныя тут героі (XIX — пачатак XX стагодзьдзя), у Вільні панавала расейская ўлада і польская культура, але агульны патрыятызм быў — краёвы. Пачыналася стварэньне новых беларускай і літоўскай нацыяў, і праваднікі гэтых працэсаў добра ведалі адны адных, бо па сутнасьці рабілі адну справу. Увогуле амаль усе, хто ляжыць на Росах, ведалі сваіх сучасьнікаў. Прафэсуру Віленскага ўнівэрсытэту, пісьменьнікаў і мастакоў, інжынэраў, лекараў, вайскоўцаў ведаў увесь горад. Таму

не зьдзіўляйцеся, калі, прыйшоўшы на могілкі, вы так выразна адчуеце дух часу. Яны нібы і цяпер перамаўляюцца адны з аднымі.

Натуральна, да магіл заснавальнікаў трох дзяржаваў (усе ў 1918 годзе) прыходзяць удзячныя нашчадкі — беларусы зьбіраюцца тут 25 сакавіка, на Дзяды і ў дні юбілеяў. Да свайго лідэра ў памятныя даты прыходзяць і літоўцы. А палякі масава прыяжджаюць да Пілсудзкага круглы год.

Магіла братоў Луцкевічаў сымбалічная, бо хоць яны жылі і працавалі ў Вільні, Іван памёр і пахаваны ў Закапаным (Польшча), куды яго адправілі лячыць сухоты, а Антон — у перасыльнай сталінскай турме ў Аткарску (Сьвярдлоўская вобласьць Расеі). Таксама сымбалічная на Літарацкай горцы магіла віленскага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча, яна зьявілася тут, бо іншыя могілкі — кальвінісцкія на Туравай гары ў Вільні, дзе яго пахавалі, былі пасьля апошняй вайны ліквідаваныя.

Сярод выбітных асобаў, што пахаваныя на Росах і імёны якіх на слыху: Яўхім Лялевель, Сыракомля, Чурлёніс. Тут — першы беларускі раманіст Ядвігін Ш. і стваральнік беларускага стылю ў архітэктуры Леў Вітан-Дубейкаўскі, заснавальнік першага беларускага музэю старажытнасьцяў граф Яўстах Тышкевіч, сьвятар Уладзіслаў Талочка, паэты Казімер Сваяк, Уладзіслаў Паўлюкоўскі і Стары Ўлас, кнігар Станіслаў Станкевіч, фундатар „Нашай Нівы“ Зыгмунт Нагродзкі…

Ёсьць тут і нямала паўстанцаў 1863–1864 году, між якіх ураджэнец Рэчыцкага павету і паўстанцкі начальнік Вільні Аляксандар Аскерка. Тутсама і архітэктар Антон Вівульскі, між іншым, аўтар

даваеннага мэмарыялу паўстанцам на Замкавай гары, парэшткі якіх так „нечакана“ знайшліся год таму. Словам, кантэкст для паўстанцкага мэмарыялу цалкам дарэчны.

Хацелі знайсьці свой апошні прытулак на Росах паэты Натальля Арсеньнева, Уладзімер Жылка і Максім Танк, пра што і пісалі ў сваіх вершах.

*Бывай, мой ранак срэбраросы!*
*Бывай, мой дзень клапот, пакут!*
*Прайшоўшы сьвет разьдзетым, босым,*
*Пара падумаць і пра кут:*
*На могілках зацішных Росы*
*Хачу спачыць ад каламут.*
*Сачыцьмуць мой спакой найпільней*
*Муры старой, каханай Вільні.*

*Уладзімер Жылка*

Але лёс склаўся па-іншаму. Арсеньнева спачывае за акіянам, Жылка ў Сібіры, а Танк — на радзіме на Нарачы.

Доўгі час месца пахаваньня павешаных і расстраляных паўстанцаў на Замкавай гары замоўчвалася, бо ня ўпісвалася ў канцэпцыю гары — галоўнага сымбалю сучаснай літоўскай дзяржаўнасьці. Але год таму гара нечакана „паплыла“, парэшткі выйшлі на паверхню, і археолягі мусілі ўзяцца за працу.

Цяпер парэшткі збольшага ідэнтыфікаваныя, і неўзабаве зьявіцца новы мэмарыял. Зразумела, што ў Вільню на Росы да сваіх герояў пацягнуцца беларускія паломнікі. Таму варта ведаць, што гэта і як правільна гэта называць.

## Ці змагацца за пахаваньне Кастуся Каліноўскага ў Беларусі? Аргумэнты за і супраць

23 ліпеня 2018

На гэтыя пытаньні Свабоды адказалі дэпутат, гісторык, прадстаўнік мясцовай улады са Сьвіслачы, дзе пахаваны брат Кастуся Каліноўскага Віктар.

Старшыня пастаяннай камісіі ў міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Валеры Варанецкі мяркуе, што літоўскі бок відавочна не гатовы да такой пастаноўкі пытаньня — аб пахаваньні парэштак Кастуся Каліноўскага ў Беларусі.

У беларускі парлямэнт па дапамогу ў справе ідэнтыфікацыі парэштак ніхто не зьвяртаўся.

Аднак Валеры Варанецкі ўпэўнены, што парэшткі Кастуся Каліноўскага павінны быць пахаваныя ў Беларусі:

— Паколькі Каліноўскі зьяўляецца сынам беларускай зямлі, то было б правільна пахаваць яго на ягонай радзіме. Гэта важна, бо ён унёс свой уклад у энэргетыку нашай зямлі. Ён — частка гэтай энэргіі.

Паводле Варанецкага, камісія ў міжнародных справах, якую ён узначальвае, можа зьвярнуцца да літоўскага боку ў справе ідэнтыфікацыі парэштак і пахаваньня іх у Беларусі. Але „трэба мець пазыцыю дзяржавы“ наконт гэтага, а такая пазыцыя яму невядомая.

Намесьнік старшыні Сьвіслацкага райвыканкаму Юры Кулікоў сказаў карэспандэнту Свабоды, што ні пра пахаваньне парэштак Кастуся

Каліноўскага, ні пра доступ навукоўцаў да магілы Віктара Каліноўскага ў райвыканкаме ніякай інфармацыі няма. З гэтай прычыны ён адмовіўся камэнтаваць сытуацыю.

Юры Кулікоў таксама сказаў карэспандэнту Свабоды, што рашэньне пра эксгумацыю парэштак Віктара Каліноўскага не прымалася і пытаньне не абмяркоўваецца:

— Па гэтым пытаньні трэба вывучаць прававую базу, наколькі гэта правамоцна. Мы ня можам самі па сабе пачаць гэтую эксгумацыю.

Прафэсар Алесь Смалянчук упэўнены, што месца Кастуся Каліноўскага — у Беларусі:

— Гэта была яго ідэалягічная і рэальная радзіма. Але ня ведаю, што ў сёньняшняй сытуацыі будзе з гэтай магілай. І здаецца, пачнуцца ня вельмі прыемныя палітычныя, каляпалітычныя гульні. Я пра гэта думаў у сувязі з чалавекам, пра якога я пішу. Я займаюся гісторыяй Рамана Скірмунта, ягонай біяграфіяй. Таксама магіла ў Парэччы ёсьць, меркаваная магіла, няма дакладнай, але яе можна ўстанавіць. Няма вялікай праблемы знайсьці, дзе пахаваны Раман Скірмунт. Некалькі разоў даходзіў да гэтай праблемы і думаў — навошта? А што будзе потым? То бок у ідэале мы за тое, каб Каліноўскі быў пахаваны, безумоўна, у Беларусі. Такое вяртаньне на радзіму было б сымбалічным у нейкім сэнсе. Але тут могуць быць нейкія праблемы, зь якімі цяжка будзе справіцца грамадзкасьці. Напрыклад тое, дзе ён павінен быць пахаваны. Тут адразу пачнуцца спрэчкі. Ён нацыянальны герой і павінен быць пахаваны ў сталіцы на нейкім высокім кургане. Гэта месца павінна быць сымбалічным у вялікай ступені. Думаю, калі ў склад камісіі ўвойдуць прад-

стаўнікі дзяржаўнай улады, то гэта будзе нешта ў раёне Сьвіслачы, дзе-небудзь у лесе.

Старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч кажа, а чаму Кастусь Каліноўскі павінен быць пахаваны менавіта ў Беларусі, чаму не ў Літве?

— Ён там быў страчаны, прысуд прыведзены ў выкананьне. На могілках Росы можна было б пахаваць. Ён нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і Літвы. Давайце разглядаць Каліноўскага, кім ён быў сапраўды. Ён быў у першую чаргу літвінам, у другую — прыхільнікам Рэчы Паспалітай, дзе адроджанае Вялікае Княства Літоўскае павінна было быць. Ён не змагаўся за Беларусь, ён змагаўся за Вялікае Княства Літоўскае. І таму казаць, ці ён павінен быць абавязкова пахаваны ў Беларусі — гэта таксама трошкі неправамерна. Трэба шукаць кансэнсус паміж намі і літоўцамі.

Астаповіч мяркуе, што парэшткі Кастуся Каліноўскага могуць быць пахаваныя на радзіме:

— Мастаўляны — гэта Польшча. Ці то ў Мастаўлянах, ці то ў Якушоўцы, ці то ў Сьвіслачы, побач зь ягоным братам. Калі ў Літве, то могілкі Росы. Калі б было вядома, дзе знаходзіцца фамільны склеп Каліноўскіх, калі такі наогул існуе, то было б лепей у сямейным склепе, на сямейных могілках пахаваць. Гэта было б больш па-чалавечы, больш натуральна.

Антон Астаповіч сказаў, што працэдура эксгумацыі і генэтычнай экспэртызы парэштак брата Кастуся Каліноўскага Віктара, пахаванага ў Сьвілачы, простая:

— Тым, што ў зямлі мае ўзрост больш за 120 гадоў, займаюцца толькі археолягі. Толькі з дазволу

Нацыянальнай акадэміі навук павінен быць вызначаны спэцыяліст, на якога мусіць быць аформлены адкрыты ліст, дазвол НАН. Але гэта толькі спэцыяліст, кваліфікаваны археоляг, з дазволу Акадэміі навук. Гэта не абавязкова Інстытут гісторыі. Любы археоляг, які мае права на атрыманьне дазволу на археалягічныя раскопкі.

Прынамсі, эксгумацыя павінна рабіцца пад яго кантролем.

Таксама абавязковы дазвол мясцовых уладаў, бо тут яшчэ дзейнічае закон аб пахаваньні і пахавальнай справе Рэспублікі Беларусь. Трэба прайсьці ўсю працэдуру. Але на гэтую магілу не распаўсюджваюцца палажэньні Кодэксу аб культуры, а менавіта закону аб пахаваньні і пахавальнай справе. І калі пачнуць рабіць эксгумацыю, то гэта ўжо археалёгія, бо прайшло больш за 120 гадоў, — кажа Антон Астаповіч.

## Менскія ўлады патлумачылі, чаму перайменавалі прыпынак „вуліца Кастуся Каліноўскага“

2 жніўня 2018

Менскія пасажыры гарадзкога транспарту заўважылі, што замест звыклага прыпынку „вуліца Кастуся Каліноўскага“ зьявіўся іншы — „вуліца Шырокая“.

У дзяржаўным прадпрыемстве „Сталічны транспарт і сувязь“ Свабодзе патлумачылі, што схаванага сэнсу тут шукаць ня трэба, бо адбылося толькі ўпарадкаваньне назваў — на невялікай пло-

шчы знаходзілася некалькі прыпынкавых пунктаў з аналягічнай назвай:

— Рашэньне выклікана адным: зьменшыць колькасьць дубляваньняў у назвах прыпынкаў, — сказалі Свабодзе у офісе ўстановы. — Скажам, прыпынак Каліноўскага, які ад 1 жніўня перайменавалі, потым з аналягічнай назвай уздоўж Лагойскага тракту ў бок кальцавой дарогі, на скрыжаваньні Кедышкі і Сядых, а таксама дыспэтчарская станцыя Каліноўскага. У раёне кілямэтру некалькі прыпынкаў маюць тую самую назву. Калі, напрыклад, рухаецца 37-ы маршрут на Карбышава, спачатку аб’яўляюць Каліноўскага, а праз тры прыпынкі — ДС Каліноўскага.

На сайце транспартнай арганізацыі адзначаецца, што назва „Каліноўскага“ захаваецца для прыпынкаў у раёне скрыжаваньняў вуліц Каліноўскага, Кедышкі і Сядых.

## Стэлі ў гонар паўстанцаў 1863 году ў Мастоўскім раёне не праставлі і дзесяці дзён

7 верасьня 2018

Дзьве драўляныя стэлі на месцы пахаваньня паўстанцаў 1863 году, усталяваныя ў канцы жніўня ў Мастоўскім раёне Горадзенскай вобласьці, таямнічым чынам зьніклі.

Дзьве стэлі паставілі 27 жніўня прадстаўнікі грамадзкай супольнасьці, сябры палітычных пар-

тый і арганізацый. Першую — каля вёскі Пацавічы, дзе пахаваныя 12 паўстанцаў, другую — каля вёскі Мінявічы, дзе спачываюць 40 паўстанцаў. Стэлі вышынёй звыш трох мэтраў у выглядзе падвойных калёнаў вырабілі з дрэва. На іх замацавалі крыж і шыльду з надпісам: „Айчына абаронцам сваім. Беларусь перадусім“.

Пра зьнікненьне стэляў у абодвух месцах стала вядома 6 верасьня. Хто гэта зрабіў, якім чынам і навошта, пакуль невядома.

Каардынатар ініцыятывы Вадзім Саранчукоў з Горадні патлумачыў, што зьвяртацца ў міліцыю ці некуды яшчэ з нагоды зьнікненьня стэляў яны пакуль ня будуць: спачатку трэба разабрацца ў сытуацыі на месцы.

Актывіст БХД Сяргей Верамеенка сказаў Свабодзе, што падазрэньні, хто гэта мог зрабіць, ёсьць, але выказваць іх пакуль не бяруцца да высьвятленьня абставінаў:

— Вядома, што скралі. Занадта многа людзей зацікаўленыя, каб іх (стэляў. — РС) там не было. Гэта даволі цяжкія помнікі — драўляны, прамочаны брус.

Іх было цяжка ставіць. І каб дэмантаваць, трэба мець каманду чалавек дзесяць, ня менш, — кажа Сяргей Верамеенка.

Да таго ж, паводле яго, каб вывезьці помнікі, патрэбная была машына. Да месца пахаваньняў вядзе даволі вузкая дарога праз поле, па якой складана заехаць.

Верамеенка паведаміў, што актывісты і надалей плянуюць усталёўваць падобныя стэлі ў іншых месцах, каб ушанаваць змагароў за вольнасьць Беларусі.

## Палякі абурыліся стэлямі, якімі беларусы ўшанавалі паўстанцаў Каліноўскага і якія зьніклі

10 верасьня 2018

Стэлі, усталяваныя беларускімі актывістамі ў гонар паўстанцаў 1863 году ўлетку ў Мастоўскім раёне, таямніча зьніклі праз некалькі дзён. Свабода праверыла польскі і дзяржаўны сьлед у гэтай справе.

Праз некалькі дзён пасьля ўсталяваньня стэляў польскі прафэсар, ганаровы сябар неафіцыйнага Саюзу палякаў на Беларусі Зьдзіслаў Юльян Віньніцкі выказаўся пра гэта крытычна. Дзеяньні беларусаў ён назваў „скандалам, крадзяжом памяці і непрыстойнасьцю“.

На думку гісторыка, польскае паўстаньне 1863–1864 гадоў ня мае нічога супольнага з барацьбой за незалежнасьць Беларусі. Ён думае, што беларусы хочуць адмовіць ролю польскіх змагароў у паўстаньні і прыпісаць яе беларусам, а гэта „гістарычная няпраўда“.

Гарадзенскі актывіст БХД Сяргей Верамеенка, які прычыніўся да ўсталяваньня стэляў, думае, што гэта не пазыцыя большасьці палякаў Беларусі, а польскі прафэсар самотны ў сваім перакананьні:

— Найбольш выгадна сьпіхваць на палякаў уладам, сутыкнуць ілбамі палякаў і беларусаў, — кажа Верамеенка.

Актывіст ня верыць, што палякі маглі прычыніцца да зьнікненьня стэляў. Ён адзначыў, што канфліктаў з Саюзам палякаў ніколі не было нягледзячы часам на рознасьць пазыцый.

Грамадзкі актывіст зь Ліды Валер Мінец, які ўсталёўваў стэлі, таксама не падазрае ў іх крадзяжы палякаў:

— Думаю, гэта малаверагодна, бо ўсё ж гэта сьвятое месца і для палякаў, і для беларусаў.

Ён патлумачыў, што яны стараліся не сапсаваць выгляд закладзенага палякамі мэмарыялу, які ўжо існуе. Таму драўляныя калёны паставілі крыху наводдаль ад крыжоў, „рабілі ўсё акуратна“.

На закіды польскага боку Мінец патлумачыў, што ў месцах ушанаваньня памяць павінна быць і ад палякаў, і ад беларусаў:

— Палякі дбаюць пра гэтыя месцы, за гэта ім вялікі дзякуй. Яны лічаць гэта сваёй спадчынай, мы гэта лічым спадчынай беларускай. Таму мы ня толькі маем права, але і абавязак даглядаць за гэтымі мясьцінамі, дзе ляжаць нашы палеглыя героі, — кажа Валер Мінец.

Старшыня непрызнанага беларускімі ўладамі Саюзу палякаў на Беларусі Анжаліка Борыс патлумачыла, што яны ўспрымаюць усталяваньне стэляў беларускімі актывістамі як недахоп пашаны да ўдзельнікаў СПБ і да іхнай дзейнасьці. Паводле яе, палякі ўшаноўваюць гэтае месца шмат гадоў, яшчэ з даваенных часоў. Яна не разумее, навошта нешта дадаткова рабіць у дагледжаным месцы памяці:

— Уявіце, ёсьць пахаваньне. Як будзе выглядаць, калі нехта нешта іншае будзе туды ставіць? Мы ж ня ставім там, дзе стаіць праваслаўны крыж. Проста неэстэтычна там ставіць, — кажа Борыс.

— Ці сапсавалі гэтыя стэлі першапачатковы помнік?

— Калі на каталіцкім пахаваньні мы зараз будзем ставіць нейкую шыльду, як гэта будзе выглядаць?

Навошта пхацца туды, дзе ўжо дагледжанае месца, каб проста нейкую дошку туды ўкапаць? — кажа кіраўніца польскай супольнасьці. — Навошта дзясяткі крыжоў, калі ёсьць адзін? Гэта чалавечае глупства. Відавочна, што людзі ніколі не займаліся ўшанаваньнем месцаў.

Старшыня неафіцыйнага СПБ мяркуе, што лепей было б ушанаваць іншыя месцы, дзе яшчэ няма мэмарыялаў. Пры гэтым яна прызнае, што кожны мае права ўшанаваць памяць. Паводле яе, беларусы ня мусяць кансультавацца з палякамі, калі хочуць гэта зрабіць:

— Кожны мае права ўшанаваць, але гэта трэба было рабіць крыху раней.

Анжаліка Борыс ня хоча пераносіць пытаньне ў шырэйшы, палітычны кантэкст і выклікаць польска-беларускі канфлікт:

— Гэта па-чалавечы крыху не ў парадку. Кажу толькі пра чалавечы кантэкст. Няўжо мы ня маем іншых праблем, толькі спрачацца палякам зь беларусамі?

Наконт гістарычнай праўды старшыня польскага саюзу не бярэцца выказвацца. Тлумачыць, што яна не гісторык і ня будзе ўступаць у дыскусію з ганаровым сябрам СПБ прафэсарам Зьдзіславам Віньніцкім.

Адначасова Борыс запэўніла, што палякі не маглі быць датычныя да зьнікненьня знакаў, якімі ўшанавана памяць герояў:

— З палякаў ніхто ня можа прычыніцца да зьнікненьня стэляў, бо нашыя крыжы таксама зьнікалі. Гэта выключана і ніколі ня зможа стацца.

Мясцовыя ўлады сказалі, што нічога ня ведаюць пра ўсталяваньне і зьнікненьне стэляў, толькі на

ўзроўні інфармацыі, „што пішацца на нейкіх там незразумелых сайтах“:

— Мастоўскі райвыканкам не валодае ніякай інфармацыяй па ўсталяваньні стэляў. Ніхто не зьвяртаўся ні з нагоды ўсталяваньня, ні з нагоды выдаленьня, — адказаў начальнік аддзелу ідэалёгіі Мастоўскага райвыканкаму Сяргей Дзейкала.

Ён дадаў, што праверку яны праводзіць не плянуюць, бо не валодаюць дэталямі таго, што адбылося:

— Мы нават не валодаем пытаньнем, калі там хто што паставіў, калі там што было скрадзена. На падставе чаго праводзіць праверку, калі тут нічога не было?

Да таго ж, тлумачыць Дзейкала, стэлі калі і былі ўсталяваныя, то з парушэньнем заканадаўства. За гэта, паводле ідэоляга, існуе адказнасьць.

Ён кажа, што ўсталёўваць любыя памятныя знакі і шыльды трэба згодна з адпаведнай адміністратыўнай працэдурай, якую прадугледжвае адпаведны заканадаўчы акт. Першым крокам дзеля гэтага павінна стаць заява ў райвыканкам.

Грамадзкія актывісты чакаюць днямі вяртаньня ў Беларусь каардынатара ініцыятывы Вадзіма Саранчукова. Тады яны плянуюць выехаць на месцы зьнікненьня стэляў і прыняць рашэньне, што рабіць далей.

**Aliaksandr Faktarovich**

Няўжо ж не відаць, што гэты дадатак выглядае па-дзікунску?

**Аляксей Дварэцкі**

Палякі з так званых крэсаў гатовыя любую коўдру зацягнуць на сябе, як тыя маскалі, але мяркую, што нехта зламаў стэлу

адмыслова, бо ведаў пра непаразуменьне. І відавочна мэта была выклікаць канфлікт, хаця нельга выключаць, што і нейкія „радыкальныя“ палякі маглі прыбраць, ведаючы, што дзяржава ня будзе турбавацца гэтым помнікам.

## Дэмакратычная Польшча чакае ад Беларусі добрасуседзтва, а прафэсар Віньніцкі — палянізацыі

11 верасьня 2018
Алесь Краўцэвіч

У артыкуле, апублікаваным газэтай Саюзу палякаў Беларусі „Głos znad Niemna“ („Голас з-над Нёмна“) б'е трывогу прафэсар Віньніцкі з Уроцлаўскага ўнівэрсытэту:

„Гэта скандал, крадзеж памяці і звычайная несумленнасьць“.

Артыкул называецца „Беларуская дэпалянізацыя польскіх месцаў нацыянальнай памяці“. Гнеў і трывогу сп. Віньніцкага выклікалі дзеяньні беларускіх патрыётаў, якія ўшанавалі месцы пахаваньняў паўстанцаў 1863 году. Паводле Віньніцкага, яны ня мелі ніякага права гэтага рабіць, бо тое выключна прэрагатыва палякаў. Беларусы ня маюць ніякага дачыненьня да польскага паўстаньня 1863 году (да болю знаёмы пасаж з падручніка Якава Трашчанка).

Як выкладчык польскай вышэйшай вучэльні я даволі добра знаёмы з асяродзьдзем і поглядамі польскіх інтэлектуалаў. Таму адразу хачу папярэдзіць беларускіх патрыётаў пра прафэсара Зьдзіслава Юльяна Віньніцкага — ягоныя погляды і пе-

ракананьні, мякка кажучы, даволі нетыповыя. Гэта чалавек, які лічыць беларусаў ворагамі Польшчы, прычым усіх — ад „лукашыстаў“ да „пазьнякоўцаў“. Ён ужо выклікаў скандал сваёй кнігай, у якой даказваў, што беларуская ідэалёгія — як афіцыёзная, так і апазыцыйная — варожая да Польшчы і палякаў. Кніга атрымала разгромную рэцэнзію прафэсара Алеся Смаленчука. Тым ня менш сп. Віньніцкі здабыў па ёй ступень доктара навук (доктара габілітаванага) — сьведчаньне, што ён ня цалкам самотны са сваімі поглядамі ў Польшчы нават сярод прафэсійных гісторыкаў.

Гэта той выпадак, калі абурацца, зьняпраўджваць, пратэставаць няма толку і сэнсу, бо мы маем справу з фанатыкам.

Гэта прыкладна тое самае, як даказваць камусьці існаваньне закону гравітацыі, калі чалавек не жадае ў яго верыць.

Але варта зьвярнуць увагу на некалькі момантаў, найперш на факт сапраўды велізарнай дапамогі і падтрымкі беларускай грамадзянскай супольнасьці з боку польскага грамадства і дзяржавы, што таксама выклікае моцнае раздражненьне спадара Віньніцкага. Ягонае разыходжаньне з польскім дэмакратычным урадам (няважна — правым, цэнтрысцкім ці лібэральным) палягае на тым, што дэмакратычная Польшча ў адказ на падтрымку чакае ад Беларусі добрасуседзтва, а спадар Віньніцкі хоча яе палянізацыі.

Польскія палітычныя эліты, здаецца, ужо канчаткова зразумелі, што добрай суседкай Польшчы можа быць толькі дэмакратычная Беларусь. Усе спробы навязаць сяброўства з аўтарытарным рэжымам, апошні раз узноўленыя пару гадоў таму

візытамі да „цёплага чалавека“ Лукашэнкі, закончыліся фіяска.

Шмат гадоў адпрацаваўшы ў польскіх унівэрсытэтах з прычыны немагчымасьці ўладкавацца ў беларускіх (хоць і маючы дыплём доктара навук), магу з пэўнасьцю канстатаваць — палякі чакаюць ад нас прыязнасьці, а ня службы.

Неаднакроць даводзілася і даводзіцца дыспутаваць з польскімі калегамі аб праблемах гісторыі Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага, але ніхто ніколі не спрабаваў дыктаваць ці вучыць, што і як я маю пісаць.

Пад артыкулам сп. Віньніцкага адзін спакойны польскі грамадзянін, падпісаўшыся поўным імем і прозьвішчам, напісаў камэнтар — добры адказ прафэсару. Варты, каб яго зацытаваць:

„1. У час Студзеньскага паўстаньня сьвядомасьць сялянаў з Кялеччыны (рэгіён вакол польскага гораду Кельцы. — РС) зусім не была лепшай, чым сялянаў з Горадзеншчыны. 2. Тэрыторыя сёньняшняй Беларусі ніколі да 1918 г. не належала да Кароны — гэта былі землі Вялікага Княства Літоўскага. 3. Прыпісваньне палякамі сабе паўстанцкіх баёў шляхты ВКЛ — перабольшваньне. Дык як можна казаць пра дэпалянізацыю, калі найперш была палянізацыя месцаў памяці. 4. Тое, што нехта гаворыць па-польску, зусім не азначае, што ён ёсьць палякам. З двух братоў Ромэраў адзін быў палякам, другі літоўцам. Тое, што шляхціч з-пад Горадні змагаўся ў Студзеньскім паўстаньні, зусім не азначае, што ён быў палякам. Аднак калі мы прыпісваем сабе гэтую частку агульнай гісторыі, то чаму адмаўляем у тым самым беларусам?

Чым гэта нам перашкаджае?“

## „Сьцяна Каліноўскага“ ў Берасьці праіснавала дзень. Сарвалі, зафарбавалі

2 кастрычніка 2018

Раніцай 1 кастрычніка на будынку на вуліцы Леніна ў Берасьці зьявіўся стрыт-арт з „новай «Мужыцкай праўдай»“ — фота відавочцаў публікавала „Хартыя-97“. Ды, як піша „Брестская газета“, раніцай 2 кастрычніка ад стрыт-арту нічога не засталося.

Месца, дзе была выява Кастуся Каліноўскага, зафарбавалі сіняй фарбай (хоць уся сьцяна жоўтая), а налеплены тэкст проста сарвалі, пакінуўшы сьляды клею.

Тэкст на плякаце нагадвае стылем „Мужыцкую праўду“ — першую беларускамоўную газэту, якую нелегальна выдавалі і распаўсюджвалі на Горадзеншчыне ў 1862–1863 гадах Кастусь Каліноўскі, Фэлікс Ражанскі, Валеры Ўрублеўскі і Станіслаў Сонгін. Сем нумароў „Мужыцкай праўды“ заклікалі людзей да змаганьня за зямлю і волю, друкаваліся па-беларуску лацінкай.

Цяперашні тэкст быў напісаны кірыліцай, але ад імя таго самага „Яські-гаспадара з-пад Вільні“ — так падпісваўся Каліноўскі:

*Дзецюкі!*

*Ізноў зьвяртаюся я да вас.*

*Грудзі стогнуць, баліць сэрца, бачучы, як дваццаць пяць год марнуецца тое, што дасталася табе, Народзе, так лёгка. Тое, за што паміралі мы са зброяй у руках і на шыбеніцах маскоўскіх — Свабода і Незалежнасьць.*

*Памыліўся ты, Народзе, абраў сабе ў ронд хлуса і здрадніка. Ён адно людзей абманвае, а перад пернікам маскоўскім гнецца, як астатні валацуга. Свабоду ён задушыў, мову нашую зьняважыў, а сымбалі нашыя спрадвечныя на д'ябальскія зьмяніў. Па лустачцы аддае Незалежнасьць нашую ўладару маскоўскаму.*

*Браты мае, мужыкі родныя, ганіце хлуса і халуёў яго агнём зь зямелькі роднай! Народзе, а як толькі пачуеш ты, што з усходу лезе арда маскоўская, не хавайся і не бяжы, але ўхапіўшы за што зможаш, цэлай грамадой ідзі змагацца за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю родную!*

*Бо я з таго сьвету для дабра твайго пішу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою ні тырана хлусьлівага, ні маскаля ўжо ня будзе.*

*Яська-гаспадар з-пад Вільні.*

## У Сьвіслачы ўшанавалі паўстанцаў 1863–1864 гадоў

27 кастрычніка 2018

Актывісты з Горадні і Сьвіслачы ўшанавалі памяць паўстанцаў Каліноўскага традыцыйна напярэдадні дня памяці памерлых, Дзядоў.

На акцыю памяці сабралася каля 20 чалавек. Яны ўсклалі кветкі і паставілі зьнічы на магіле Віктара Каліноўскага, брата Кастуся, і мясцовага актывіста Віктара Дзясяціка, які раней апекаваўся пахаваньнямі паўстанцаў. Падчас акцыі за актывістамі назіралі відэааператары ў цывільным.

## У беларускіх школах вучаць, што паўстаньне Каліноўскага было польскім

5 сьнежня 2018

У падручніках расейскай літаратуры для 8-й клясы, па якіх вучаць дзяцей у беларускіх школах, паўстаньне Кастуся Каліноўскага 1863–1864 гадоў называецца польскім.

Дапаможнік выпушчаны навукова-мэтадычнай установай „Нацыянальны інстытут адукацыі“ і дапушчаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусі.

У анатацыі да разьдзелу пра расейскую літаратуру другой паловы XIX стагодзьдзя гаворыцца:

„Адмена прыгоннага права ў 1861 годзе выклікала новы выбух народных хваляваньняў, найбуйнейшае зь іх — Польскае паўстаньне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага (1863–1864)“.

Рэдактарка падручніка — дацэнт БДУ Сьвятлана Захарава, супрацоўніца катэдры пэдагогікі і праблемаў разьвіцьця адукацыі БДУ.

Горадзенскі гісторык Васіль Герасімчык, які напісаў кнігу „Канстанцін Каліноўскі. Асоба і легенда“, пракамэнтаваў сытуацыю ў інтэрвію Свабодзе:

— Аўтары падручніка па „Расейскай літаратуры“ для 8-й клясы (Сьвятлана Захарава, Тацяна Марозава, Галіна Чапялёва), магчыма, і кандыдаты філялягічных навук, але ў пытаньнях гісторыі павінны былі дзейнічаць у адпаведнасьці з тым, што напісана ў падручніку па „Гісторыі Беларусі“ за 8-ю клясу або, як мінімум, прыгадаць тыя веды, якія атрымалі падчас навучаньня ва ўнівэрсытэце,

калі, вядома, яны атрымлівалі адукацыю ў беларускіх ВНУ.

Сваёй адвольнай інтэрпрэтацыяй такой важнай у нашай (магчыма, проста сэнсавае напаўненьне слова „нашая“ ў аўтарак падручніка іншае) гісторыі падзеі яны парушылі адзінства выхаваўча-адукацыйнага працэсу, ствараючы ўмовы для непаразуменьня сярод цікаўных вучняў, якія пасьля такой „адукацыі“ скептычна будуць успрымаць і іншыя рэчы, напісаныя ў падручніку „Гісторыя Беларусі“ (паколькі параграф у курсе „Расейскай літаратуры“ праходзіцца раней). Таму ў мяне асабіста ўзьнікаюць пытаньні і да Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, якое дапусьціла гэты падручнік да выхаду, не ўсьведамляючы адрознасьць яго ацэнак ад тых, якія маюцца ў іншым падручніку.

Як гісторык, які займаецца тэмаю паўстаньня і асобаю Кастуся Каліноўскага цягам апошніх 8 гадоў, скажу: ніякага „Польскага паўстаньня пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага (1863–1864)“ не існавала. Было паўстаньне на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай 1863–1864 гадоў, кіраўніком якога пэўны час на тэрыторыі Беларусі і Літвы быў Каліноўскі, які кіраваў Літоўскім камітэтам як Часовым правінцыйным урадам у Літве і Беларусі і таго самага, які свае перадсьмяротныя „Лісты з-пад шыбеніцы“ напісаў па-беларуску да „мужыкоў Беларусаў“. Прычым на тэрыторыі колішняга Каралеўства Польскага былі свае кіраўнікі — Мераслаўскі, Лангевіч, Траўгут.

У такім разе сказ, прапісаны ў падручніку па расейскай літаратуры, выглядае ня проста як адвольная інтэрпрэтацыя падзей гісторыі Беларусі ў „небеларускім іх разуменьні“, а як сапраўдная

акцыя супраць „К. Калиновского“. Якаў Трашчанок, які ў падручніку па гісторыі Беларусі ў свой час зьмясьціў цэлы параграф, у якім безвынікова імкнуўся даказаць, што Каліноўскі ня наш герой. Ці не па ягоных сьлядах пайшлі аўтаркі падручніка па расейскай літаратуры? — камэнтуе гісторык.

Свабода папрасіла пракамэнтаваць словы пра „польскае паўстаньне Каліноўскага“ і гісторыка, прафэсара Аляксандра Краўцэвіча:

— Вось шмат шуму пра новую канцэпцыю нацыянальнай гісторыі, пра новы афіцыйны, агульны для ўсіх курс гісторыі беларускай дзяржаўнасьці. А пачынаецца яна з Полацкага княства. Дзяржава нібыта паварочваецца ў бок беларускага патрыятызму. Афіцыёзныя гісторыкі і чыноўнікі публікуюць вялікія артыкулы ў газэце „Беларусь сегодня“ пра ўзмацненьне патрыятычнага выхаваньня.

Але гэта ўсё бла-бла-бла. Бо ёсьць яшчэ практыка рэальнага жыцьця. А ў практыцы ўсё выглядае трохі інакш. Надалей у падручніках гісторыі беларуская дзяржаўнасьць пачыналася з 1917 году; нямецка-савецкая вайна — аснова дзяржаўнай ідэалёгіі зь яе галоўнай міталягемай пра ўсенародную партызанскую вайну. Прычым высілкамі адпаведных гісторыкаў з кожным годам савецка-беларускіх партызанаў становіцца ўсё больш (як у Расеі абаронцаў „Белага дома“ ў 1991 годзе).

Праваслаўная царква стала неафіцыйным цэнзарам гуманітарных падручнікаў, безь яе дабраславеньня яны проста не ідуць у друк. І вось сьляды гэтага дабраславеньня. У падручніку расейскай літаратуры для 8-х клясаў школаў Рэспублікі Беларусі проста і выразна напісана: „польскае паўстаньне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага“. Адразу ўсё

ясна і зразумела з „паваротам да беларускасьці“. Бла-бла-бла.

Рэдактарка згаданага падручніка Сьвятлана Захарава, дарэчы — аўтарка больш як 35 навуковых і навукова-мэтадычных публікацыяў па пэдагогіцы і мэтодыцы выкладаньня расейскай літаратуры ў сярэдняй школе. У інтэрвію „Нашай Ніве“ Сьвятлана Захарава патлумачыла:

— У нас няма аўтараў асобных разьдзелаў, мы працавалі калектыўна. Але падручнік прайшоў праз сіта рэцэнзэнтаў, зьмяняў недзе зьмест. І на якім этапе выплыла гэтая фармулёўка, мне сказаць цяжка. Можа, недзе недагледзелі, ідэалягічна ня вытрымалі.

## Прадстаўнік БПЦ: „Паўстаньне Каліноўскага было польскім“

6 сьнежня 2018

Афіцыйны прадстаўнік Беларускай праваслаўнай царквы Сяргей Лепін у сваім фэйсбуку выказаўся з нагоды абмеркаваньня беларускага падручніка расейскай літаратуры. У прыватнасьці, Лепін напісаў, што паўстаньне было польскім, а Кастусь Каліноўскі — польскі патрыёт:

„Дзецюкі, а што не так? (Я пра падручнік той). Сапраўды, паўстанне Каліноўскага было... польскім. Дэвіз Каліноўскага: «Польская справа — гэта наша справа, гэта справа волі».

Сам Каліноўскі — польскі патрыёт, для якога Літва — Польская зямля. Ён і мужыкоў беларускіх, якім піша, называе мужыкамі польскімі: «Калі

цяпер Ронд Польскі, падняўшы паўстанне проціў маскаля, дае нам землю, справядлівую вольнасць і веру нашых бацькоў… чы ж мы сядзеці будзем? мы, што жывема на зямлі ПОЛЬСКАЙ, што ямо хлеб ПОЛЬСКІ, МЫ, ПАЛЯКІ З ВЯКОЎ ВЕЧНЫХ» («Ліст Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі ПОЛЬСКАЙ»). «Прыймеце для таго нашу падзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў* і ПАЎСТАННЕ ПОЛЬСКАЕ» (Пісьмы з-пад шыбеніцы)...

«А такіх, што за грошы не пабаялісь служыць ворагам нашым, што не хацелі мужыкам зямлі да праўды на свеце, да спрэчны былі новай вольнасці, да новаму ПОЛЬСКАМУ маніхвэсту, гэтакіх вешаюць, як подлых сабак, селішча іх апусцелі, пайшлі з дымам іх хаты, прапала марна худоба».

У Каліновскага гэтая думка выразная ды празрыстая: «Ронд Польскі, паставіўшы мяне над вамі, вымагае..., каб вы адно рабілі так, як вам ад Ронду Польскага будуць праказваць», «Хто проціў Ронду Польскага, таму агонь і шыбеніца», «Вы да Ронду Польскага належыце» і г. д.

А вось як Кісялёў апісвае агляд Каліноўскім атрада Стасюкевіча: калі наш герой павітаў строй «Шануем бронцев ойчізны», паўстанцы закрычалі: «Нех жые Польска!». Абыходзячы пастраенні з Каліноўскім... афіцэр падбадзёрваў радавых «Добжэ, поляце!», «Добжэ косіньеже, нех згінох маскалі!!». Ды і маніфест камітэта ад 1 лютага 1863 г. адразу кажа, што «сяляне, як і шляхта, павінны абараняць ПОЛЬСКІ край... хто з'явіцца аслушнікам... той будзе пакараны па ПОЛЬСКІМ ваенным законе»...

Вось яшчэ параграф 2 маніфэста: «ПОЛЬСКІ Нацыянальны урад аддае аседлым сялянам, панскім і

скарбовым, на вечныя часы ў поўнае ўладанне без чыншаў і выкупаў тую зямлю, якую яны мелі да гэтага часу, а ўсе распараджэнні маскоўскага ўрада адмяняе, таму што гэтая зямля ПОЛЬСКАЯ, а не маскоўская».

Якая прыкрасць: паўстанцам проста забыліся растлумачыць за тое, што іх паўстанне — беларускае. Ці ўсе, хто супраць «маскаля», адразу становяцца беларусамі?“ — напісаў Лепін.

Беларускі гісторык і літаратуразнаўца Генадзь Кісялёў ставіў пад сумнеў, што дакумэнт, на які спасылаецца Сергій Лепін, сапраўды напісаны Кастусём Каліноўскім.

У сваім артыкуле „Здарэньне зь Яськам-гаспадаром“ у падтрымку сваёй думкі Кісялёў прыводзіць меркаваньні на гэты конт Адама Станкевіча, польскага дасьледніка Кшыштафа Канкалеўскага, расейскага гісторыка А. П. Сьмірнова ды іншых навукоўцаў, якія лічылі, што гэтая адозва зьяўляецца падробкай з боку цэнтральнага паўстанцкага ўраду (белых).

**Аляксандр Краўцэвіч**

Уражанні ад рэплікі. Не прымаецца пад увагу гістарычны кантэкст, у прыватнасці, што пад польскасцю тады разумелася прыналежнасць да Рэчы Паспалітай. Пра незалежную ўласную дзяржаву ў той час не думалі не толькі беларусы, але і палякі. Па-другое, на жаль, праваслаўныя святары сталі цэнзарамі беларускай гістарыяграфіі. Гэта ім адгукнецца і вельмі моцна ды балюча. Тут вам не Расея.

**Юрка Цехановіч**

Пазіцыю Каліноўскага — адносна ягонай беларускасьці трэба разглядаць комплексна, а не выхопліваючы нешта адно на патрэбу. Каліноўскі выдаваў газэту па-беларуску, адстойваў Рэч Паспалітую — гэта значыць канфэдара-

тыўную дзяржаву, дзяржаву беларусаў, палякаў, літоўцаў, а не толькі палякаў, як падаюць недабразычліўцы... Калі Каліноўскі прыводзіў у прыклад палякаў, іх змаганьне, гэта рабілася з адзінаю мэтай — паказаць прыклад змаганьня з расейскімі акупантамі... Што тычыцца пазіцыі шаноўнага С. Лепіна — яго зразумець можна, не кожнаму хочацца паўтараць шлях а. Шрамко. Сям'ю карміць трэба. )) РПЦ і так валіцца ва Ўкраіне, а калі яшчэ і Беларусь пачне...

## Паўстаньне Каліноўскага было беларускім: Пяць доказаў ад гісторыка

8 сьнежня 2018

Кандыдат гістарычных навук Ігар Мельнікаў у гутарцы з карэспандэнтам Свабодзе тлумачыць, чаму антырасейскае паўстаньне 1863–1864 гадоў на беларускіх землях трэба лічыць выступам за незалежнасьць Беларусі.

Паўстаньне 1863–1864 гадоў — збройны выступ нацыянальна-рэвалюцыйных сілаў на частцы земляў былой Рэчы Паспалітай (сучасныя Польшча, Беларусь, Літва, Латвія й частка Ўкраіны) супраць расейскага панаваньня й за аднаўленьне Рэчы Паспалітай у межах 1772 году.

Паўстаньне Каліноўскага ня мела свайго кіраўніцтва на тэрыторыі Польшчы, усе кіраўнікі былі беларусамі і такімі сябе вызначалі, кажа гісторык Мельнікаў:

— Удзельнікі паўстаньня — беларусы. І шляхта, і сяляне. Ніхто з Польшчы не прыяжджаў кіраваць гэтым паўстаньнем. Валеры Ўрублеўскі, Кастусь Каліноўскі — ураджэнцы Беларусі, якія змагаліся супраць прыгону на беларускай тэрыторыі.

Усе дзеяньні адбываліся на тэрыторыі Беларусі, а пасьля здушэньня паўстаньня тут разгарнуліся рэпрэсіі.

— Гэтае выступленьне ўзмацніла ціск менавіта на Беларусь, не на Польшчу. Фактычна царская расейская ўлада баялася праяваў нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Вельмі жорсткае было здушэньне паўстаньня, — кажа Мельнікаў.

Адна з мэтаў паўстаньня — аднаўленьне Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў (Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага) як „шматнацыянальнай дзяржавы“.

— Каліноўскі ўжо ня памятаў часоў ВКЛ, але ўспрымаў ідэі Рэчы Паспалітай як шматнацыянальнай дзяржавы. Ішлося пра аднаўленьне першай Рэчы Паспалітай, якая была афіцыйна „абодвух народаў“, але там было шмат народаў. Гэтая дзяржава не пазыцыянавалася як польская. Гэта Рэч Паспалітая да падзелаў, у гістарычным, шматнацыянальным кантэксьце, — кажа Мельнікаў.

У вязьніцы Кастусь Каліноўскі пісаў свае знакамітыя „Лісты з-пад шыбеніцы“ па-беларуску, беларускай лацінкай. Гэта таксама выразна сьведчыць пра яго нацыянальную прыналежнасьць, кажа Мельнікаў:

— На той час толькі пачынаўся працэс станаўленьня беларускай сьвядомасьці. І ўсе лісты былі напісаныя Каліноўскім беларускай лацінкай. Паўстаньне было спробаю аднавіць ВКЛ. Гэта адзін з крокаў да фармаваньня нацыянальнай сьвядомасьці, які пасьля прывёў да зьяўленьня БНР.

У міжваенны і пасьляваенны пэрыяд у БССР Кастуся Каліноўскага ўвялі ў пантэон беларускіх герояў, кажа гісторык:

— Савецкая ўлада Каліноўскага ніколі не лічыла адэптам польскай нацыянальнай ідэі. Яго зрабілі лідэрам нацыянальнага пантэону. Яго імем назвалі вуліцу ў Менску, зрабілі стэлу, і гэта было не ў 1990-я гады.

Паводле Мельнікава, паўстаньне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага зрабілі „польскім“ гісторыкі царскай Расеі, каб выкараніць беларускія нацыянальныя ідэі на падкантрольнай тэрыторыі. Цяпер гэтую лінію працягваюць сучасныя расейскія гісторыкі, лічыць Мельнікаў.

## За ўшанаваньне паўстанцаў Каліноўскага ў Сьвіслачы актывістаў аштрафавалі амаль на 3,5 тысячы рублёў

27 сьнежня 2018

Адміністрацыйныя справы кожнага з актывістаў паасобку разглядаліся ў судзе Сьвіслацкага раёну больш за месяц.

Штрафы за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі атрымалі восем чалавек:

Віктар Пяцельчыц — 245 рублёў, Ігар Банцар, Сяргей Верамеенка, Віктар Сазонаў, Уладзімер Хільмановіч — па 367,5 рубля, Ежы Грыгенча — 490 рублёў, Юры Глебік, Мікалай Салянік — па 612,5 рубля.

Віктар Сазонаў і Ўладзімер Хільмановіч — гарадзенскія праваабаронцы. Яны зладзілі на акцыі экспэрымэнт. Сазонаў толькі назіраў з боку за акцыяй, Хільмановіч быў адным з актыўных

ейных удзельнікаў. Аднак штрафы яны атрымалі аднолькавыя.

— Гэта быў наш экспэрымэнт, каб паказаць усю нікчэмнасьць судовай сыстэмы. Што за саму прысутнасьць і імя цябе могуць засудзіць, — сказаў Свабодзе Ўладзімер Хільмановіч.

## Імёны Свабоды. Апалёнія Серакоўская

5 студзеня 2019
Уладзімер Арлоў

Яе называлі „першай прыгажуняю на Літве“.

Апалёнія паходзіла з роду Далеўскіх, які даў паўстаньню 1863-га трох кіраўнікоў. Улетку папярэдняга году яна выйшла ў Кейданах замуж за капітана расейскага Генштабу Зыгмунта Серакоўскага.

Шчасьце было нядоўгім: праз колькі месяцаў Зыгмунт, блізкі паплечнік Каліноўскага, ачоліў збройнае змаганьне на Ковеншчыне і, цяжка паранены, трапіў у палон да расейскіх карнікаў.

22-гадовую Апалёнію прывялі да Зыгмунта ўначы перад сьмяротным пакараньнем. Юная жанчына ўжо чакала дзіця. 15-хвіліннае спатканьне праходзіла пад аховаю пятнаццаці (!) салдат і афіцэраў. Апалёнія размаўляла з мужам, укленчыўшы перад яго ложкам. Празь некалькі гадзін вайсковы доктар перадаў ёй Зыгмунтаву цыдулку: „Анэлі мая! Жыць і быць вольным магу, толькі выдаўшы сяброў. Ніколі ня здолеў бы пайсьці на гэта, таму падпісаў сабе сьмяротны прысуд. Памру чысты і незаплямлены. Буду кахаць цябе, буду лунаць над табой і нашым немаўлём“.

Пасля сьмерці мужа на аўдыенцыі ў генэрал-губэрнатара Мураўёва-вешальніка Апалёнія прасіла не асуджаць яе на выгнаньне. Яна спасы-

лалася на кепскае здароўе і цяжарнасьць. На словы ўдавы Серакоўскага, што ў глыбіні Расеі яна ня знойдзе для сябе і дзіцяці добрых дактароў, Мураўёў задаволена адказаў: „Тым лепей!“ Народжаную ў высылцы дачушку Апалёнія назвала ў гонар мужа Зыгмунтай. Малая пражыла ўсяго адзін год.

Серакоўская напісала ўспаміны пра той незабыўны час. Яны поўныя горычы і смутку, але і найцікавейшых дэталяў, што дазваляюць аднавіць шматлікія падзеі паўстаньня, удакладніць партрэты яго герояў. Нельга без хваляваньня чытаць, як паўстанцы прыслалі ў Вільню да Апалёніі сувязнога. Ён папрасіў перадаць яму частку кашулі Зыгмунта, у якой той быў паранены і паланёны. Тканіну падзялілі на часткі і разаслалі па змагарскіх аддзелах. Сучасьнікі сьцьвярджалі, што тыя ядвабныя, шэрыя ў чорную кратку кавалачкі кашулі натхнялі ваяроў за волю ня горш за баявыя сьцягі.

Апалёнія пераканаўча даводзіць: паўстаньне ў Літве-Беларусі не было польскім. Яна апісвае, напрыклад, сход, дзе адзін з камандзіраў — паўстанцкі начальнік Вільні Ўладзіслаў Малахоўскі палымяна выступіў супроць варшаўскай апекі: „Варшава не разумее нашых патрэбаў! Павінны самі радзіць сабе пра дабро сваёй зямлі. Польскі камісар мае ўсяго дарадчы голас!“

Успаміны Апалёніі Серакоўскай з роду Далеўскіх перакладзеныя на беларускую мову Станіславам Суднікам. Яны друкаваліся ў газэце „Наша слова“, а цяпер чакаюць выданьня кнігаю.

Якраз па заручальным пярсьцёнку зь імёнамі Апалёнія і Зыгмунт і датай іх шлюбу былі ідэнтыфікаваныя знойдзеныя на Замкавай гары ў Вільні ў 2017-м парэшткі Серакоўскага.

Апалёнія Серакоўская (ад нараджэньня Далеўская). 19.1.1838, фальварак Кункулка (цяпер не існуе), Лідчына — 2.1.1919, Варшава. Пахаваная на варшаўскіх Павянзкоўскіх могілках.

## Дэпутат Марзалюк далучыўся да дыскусіі пра паўстаньне Каліноўскага. Устаў на „польскі“ бок

9 студзеня 2019

У „Настаўніцкай газеце“ апублікаваны артыкул дэпутата Палаты прадстаўнікоў Ігара Марзалюка пра паўстаньне 1863 году і ягонага лідэра Кастуся Каліноўскага.

Аўтар спасылаецца на дыскусіі ў інтэрнэце пра тое, што паўстаньне Каліноўскага было беларускім і нацыянальна-вызваленчым, а ня польскім, як зь нядаўняга часу сталі вучыць у беларускіх школах на ўроках расейскай літаратуры. Газэта зьвярнулася па камэнтар з гэтай нагоды да Марзалюка.

Ігар Марзалюк заявіў, што да паўстаньня, яшчэ ў XVIII стагодзьдзі нацыятворчыя працэсы ў Рэчы Паспалітай ішлі так, што не было месца для існаваньня дзяржавы некалькіх народаў, што ўся эліта Вялікага Княства Літоўскага лічыла сябе палякамі, а назва „літвін“ ужывалася як рэгіянальная і субэтнічная.

Ён таксама заяўляе, што студзеньскае паўстаньне 1863 году ніхто з сучасьнікаў не называў паўстаньнем беларускага народу, а Каліноўскага — беларускім нацыянальным героем, усе казалі пра „польскае паўстаньне на Беларусі і Літве“. А „бела-

русізацыя“ Каліноўскага пачалася ў XX стагодзьдзі сіламі Вацлава Ластоўскага.

Марзалюк спасылаецца на расейскага гісторыка Юрыя Барысёнка, які заяўляе, што Каліноўскі нібыта „носьбіт польскай самасьвядомасьці, нягледзячы на ўсе свае агітацыйныя творы на беларускай мове, якая была толькі тактычным сродкам дзейнасьці польскага пасланца ў Беларусі“.

Згадваюцца і словы Антона Луцкевіча 1935 году: што Каліноўскага абвяшчаюць беларускім незалежнікам на падставе заявы, што не „бязмозглая Варшава“, але „мы самі будзем будаваць мужыцкую Беларусь“. Ды, паводле Луцкевіча, гэта няправільна, а „крытычныя адносіны да Варшавы могуць быць тлумачаны ў сэнсе сэпаратызму ад Польшчы толькі тымі, хто зусім ня ведае настрояў польскага грамадзтва ў нашым краі ў даваенныя часы“, бо крытычнае стаўленьне было не да палякаў агулам, а да Варшавы і варшавякаў, а ідэі незалежнай Беларусі тады нібыта не існавала.

## Помнік паўстанцам Каліноўскага ў Вільні плянуюць падпісаць па-польску і па-літоўску

8 сакавіка 2019

Эльжбета Рагоўская зь Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы адзначыла Белсату, што адкрытым застаецца пытаньне, на якіх мовах будзе надпіс на помніку. Цяпер абмяркоўваюць варыянт, каб манумэнт падпісалі па-польску і па-літоўску. Пра беларускую мову Рагоўская не згадала.

## У Літве і Беларусі пачалі кампанію, каб надпісы на магілах паўстанцаў Каліноўскага былі і па-беларуску

12 сакавіка 2019

Пахаваньне знойдзеных у 2017 годзе на Замкавай гары ў Вільні парэштак паўстанцаў Кастуся Каліноўскага перанесьлі на восень.

Пытаньне, на якіх мовах будзе надпіс на магілах, паўстала ў сакавіку 2019 году, калі стала вядома пра варыянт афармленьня толькі па-польску і па-літоўску, безь беларускай мовы.

Старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Алесь Адамковіч у 2018 годзе браў удзел у паседжаньні дзяржаўнай камісіі, створанай пасьля знаходкі парэштак паўстанцаў. Ён мяркуе, што галоўная сярод прычын ігнараваньня беларускай мовы — інэртнасьць афіцыйнага Менску:

— Яшчэ летам мяне выклікалі, мы размаўлялі зь віцэ-канцлерам, адказным за справу. Ён тады абяцаў, што беларускі бок далучыцца і ўсе надпісы будуць на трох мовах. Але, як падалося асабіста мне, яго і іншых крыўдзіць і раздражняе адзін момант: беларускі афіцыйны бок не ідзе на перамовы. Ігнараваньне ня поўнае, але на 90 %. Зрэшты, калі ў афіцыйных СМІ пішуць, што Каліноўскі — кіраўнік „польскага паўстаньня“, чаму зьдзіўляцца? Па сутнасьці, змагаліся і паміралі тры народы: беларусы, палякі, літоўцы. І лягічна ўшанаваць памяць на іх мовах, а не дзяліць на нашых і ня нашых, правільных і няправільных.

Як кажа Алесь Адамковіч, нядаўна камісія сабралася наноў, прысутнічалі прадстаўнікі ўрадаў Літвы

і Польшчы. Праз абыякавасьць беларускага боку для бальшыні надмагільных надпісаў вырашылі пакінуць дзьве мовы — літоўскую і польскую. Выключэньне зрабілі толькі для Кастуся Каліноўскага — на ягонай магіле нібыта пагадзіліся дадаць інфармацыю і па-беларуску.

Паводле Алеся Адамковіча, на віленскіх могілках Росы ў капліцы будуць абсталяваныя адмысловыя нішы накшталт рымскіх пахаваньняў. Пры кожнай будзе мэмарыяльная дошка з надпісам. Суразмоўца дадае, што цяпер беларускія арганізацыі рыхтуюць зварот, каб былі надпісы і па-беларуску:

— Спадзяёмся, таксама выкажуцца з гэтай нагоды мясцовыя палякі, ужо пагадзіліся нас падтрымаць некалькі літоўскіх арганізацый. Паколькі ўсё пераносіцца на восень, яшчэ ёсьць нейкі час, а зь ім і шанцы дамагчыся беларускай мовы менавіта на магілах. Бо, выглядае, на інфармацыйным стэндзе і ў Каліноўскага яна ўсё ж будзе, — кажа беларускі актывіст.

Як сказаў Свабодзе дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня, гісторык Алег Трусаў, днямі і ў Беларусі пачалася кампанія зваротаў у дзяржаўныя органы Літвы з патрабаваньнем дадаць на помнік Каліноўскаму і яго паплечнікам беларускую мову.

11 сакавіка на сустрэчы ў Горадні з кіраўніцай Таварыства беларускай мовы і дэпутаткай Палаты прадстаўнікоў Аленай Анісім удзельнікі прынялі рашэньне скласьці пэтыцыю на беларускай і літоўскай мовах, даслаць яе ў літоўскую амбасаду і прэзыдэнту Літвы.

— Не сумняваюся, што жыхары Гарадзеншчыны як адзін падпішуцца, бо Каліноўскі — іх зямляк, — кажа Трусаў. — Таму трэба самім людзям брацца

за асадкі і пісаць літоўскім чыноўнікам, каб ушанаваць памяць герояў у тым ліку па-беларуску — не чакаючы, пакуль гэта зробяць улады. Ніхто ня супраць, калі МЗС ці іншыя ведамствы падтрымаюць, але практыка паказвае: яны прачынаюцца толькі пасьля таго, як падымае галаву грамадзкасьць.

На гэты момант афіцыйныя ўлады Беларусі ды спэцыялізаваныя акадэмічныя інстытуты стаўленьня да праблемы пакуль што не акрэсьлілі.

У сваю чаргу старшыня Віленскага беларускага клюбу „Сябрына“ Валянцін Стэх сказаў Свабодзе, што ад імя беларускай грамадзкасьці Літвы будуць падрыхтаваныя лісты ва ўсе зацікаўленыя дзяржаўныя інстанцыі краіны, а таксама ў МЗС Беларусі з просьбай далучыцца:

— Што з гэтага атрымаецца, пакуль сказаць цяжка. Але ў кожным выпадку будзе добра, калі такая хваля адначасова пойдзе і зь Беларусі, і зь Літвы, — перакананы Валянцін Стэх.

## Міністар культуры Літвы паабяцаў ушанаваць магілу Кастуся Каліноўскага па-беларуску

14 сакавіка 2019

Дэпутат літоўскага парлямэнту Томас Тамілінас напісаў у Facebook, што міністар культуры Літвы Міндаўгас Квяткаўскас „публічна пацьвердзіў“, што беларуская мова будзе на помніку Кастусю Каліноўскаму на могілках Росы.

„Як ведаеце, Літва плянуе пахаваць парэшткі знакамітых паўстанцаў 1863 году, знойдзеныя на

Замкавай гары ў Вільні, — напісаў дэпутат. — Зьявіцца месца для беларускай мовы — побач з польскай і літоўскай. Паколькі адзін з найслыньнейшых удзельнікаў паўстаньня Каліноўскі ўваходзіць у пантэон галоўных нацыянальных герояў Беларусі, цалкам зразумелая заклапочанасьць беларусаў з гэтай нагоды“.

**Imantas Melianas**

Если уже писать по-белорусски (после литовской и польской надписей), то и на других памятниках повстанцам, никак не выделяя Калиноускага. Мы что, сейчас наших героев по позже появившимся национальностям делить начнем, что-ли? Как вижу, здесь этот процесс уже идет полным ходом. Дурдом.

## Улады дэгераізуюць Каліноўскага, каб увечніць вобраз Лукашэнкі

19 сакавіка 2019
Валер Карбалевіч

У Беларусі існуе палітычная замова на дэгераізацыю гістарычных пэрсанажаў, каб увечніць вобраз дзейнага кіраўніка.

Кастусь Каліноўскі быў у пантэоне беларускіх нацыянальных герояў у савецкія часы. Гэта фактычна адзіны дарэвалюцыйны гістарычны пэрсанаж, які тады адназначна трактаваўся са знакам плюс — як лідэр сялянскага паўстаньня. Бо адпавядаў савецкаму канцэпту: рухавіком гісторыі ёсьць клясавая барацьба.

Вуліца Каліноўскага ў Менску — адна зь нямногіх вуліц сталіцы БССР, названых у гонар герояў

гісторыі Беларусі да 1917 году. Яму былі прысьвечаныя творы кінэматографу, мастацкай літаратуры (Уладзімер Караткевіч і інш.), жывапісу (Пётра Сергіевіч). І калі пасьля распаду СССР і ўтварэньня незалежнай Беларусі ўзьнікла пытаньне пра заснаваньне ўласных беларускіх узнагародаў, то выбраць патронаў для іх не было складана. У 1995 годзе быў зацьверджаны ордэн Кастуся Каліноўскага.

І, дарэчы, Каліноўскі — ці не адзіны беларускі гістарычны дзяяч, які не выклікаў ніякага расколу ў грамадзтве, палітычнай клясе. Яго прызнавалі і нацыяналісты, і камуністы (бо, як адзначана, ён быў знакавай постацьцю з савецкіх падручнікаў). Сацыялягічныя апытаньні паказвалі, што сярод беларускіх гістарычных дзеячоў большасьць беларусаў называла прозьвішчы Каліноўскага і Машэрава. Фактычна сёньня толькі гэтыя пэрсанажы застаюцца ў гістарычнай памяці, масавай сьвядомасьці грамадзтва.

І вось раптам у разгар працэсу так званай „мяккай беларусізацыі“, калі нават была часткова рэабілітаваная БНР, улады пачалі разьвенчваць Кастуся Каліноўскага як беларускага нацыянальнага героя. У абноўленым падручніку расейскай літаратуры для VIII клясы напісалі пра „польскае паўстаньне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага (1863–1864)“.

Пасьля справядлівага абурэньня грамадзкасьці і навукоўцаў гісторыкаў у сьнежні 2018 году Міністэрства адукацыі выступіла з заявай, дзе зноў паўтарыла вэрсію пра „польскае паўстаньне (1863–1864)“. Дарэчы, менавіта ў такім выглядзе трактуецца гэтая гістарычная падзея ў расейскіх школьных падручніках.

І вось у бой уступіла цяжкая артылерыя. У студзені ў „Настаўніцкай газэце“ апублікаваны артыкул Ігара Марзалюка, дзе ён пацьвярджае вэрсію Міністэрства адукацыі.

Стала зразумела, што ўсё гэта невыпадкова, што на нашых вачах разгортваецца палітычная кампанія.

17 сакавіка Марзалюк у інтэрвію перадачы „Главный эфир“ Першага нацыянальнага каналу, прысьвечанай тэме інфармацыйнай бясьпекі, намякаючы на Каліноўскага, зноў заявіў, што „чалавек, які называе, скажам, праваслаўе «сабачай верай» (калі ў нас 80% праваслаўных), ці можа такі чалавек быць нацыянальным героем краіны?“

Ігар Марзалюк быў калісьці добрым гісторыкам, але стаў дрэнным палітыкам. Ён цяпер прызначаны на ролю афіцыёзнага гістарыёграфа. Як Мікалай Карамзін у Расеі XIX стагодзьдзя ці Лаўрэнці Абэцэдарскі ў БССР, які ў сваіх працах стварыў антыбеларускую гістарычную міталёгію. Каб высновы Ігара Марзалюка былі больш важкімі, яго прызначылі старшынём камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы.

Як вядома, гісторыя — гэта сучасная палітыка, павернутая назад. І роля афіцыёзнага гістарыёграфа палягае ў тым, каб трактаваць мінулае ў патрэбным і выгадным існай уладзе выглядзе. Аляксандар Пушкін іранічна пісаў пра гістарычныя працы Мікалая Карамзіна:

*„В его «Истории» изящность, простота*
*Доказывают нам, без всякого пристрастья,*
*Необходимость самовластья*
*И прелести кнута*“.

Што азначае гэтая лінія на разьвенчваньне вобразу Кастуся Каліноўскага? Выкажу сваю гіпотэзу. На мой погляд, Ігар Марзалюк выконвае палітычную замову на дэгераізацыю беларускай гісторыі. Гэты працэс пачаўся яшчэ у сярэдзіне 2000-х гадоў. У 2004 годзе Лукашэнка скасаваў ордэн Кастуся Каліноўскага. У 2005 годзе ён прыбраў імёны Францішка Скарыны і Пятра Машэрава з назваў галоўных праспэктаў Менску. Цяпер дайшла справа і да Каліноўскага. Дарэчы, ці вы зьвярнулі ўвагу, што на беларускіх грашах няма партрэтаў знакамітых гістарычных дзеячоў? Гэта даволі рэдкая зьява ў сьвеце.

Навоша гэта робіцца? Вы яшчэ не здагадаліся? Бо трэба расчысьціць глебу для іншага героя. Адгадайце з трох разоў яго прозьвішча. Хто яшчэ не здагадаўся, наведайце Музэй сучаснай беларускай дзяржаўнасьці. Там партрэты толькі аднаго чалавека.

Дзяржаўныя мэдыі ўжо пачалі друкаваць матэрыялы, прысьвечаныя 25-годзьдзю прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі. Вось гэта будзе сапраўднае ўсенароднае сьвята. Таму трэба прыбраць канкурэнтаў.

У гэтым зьвязку варта прыгадаць, як улады змазалі, зрэдукавалі, спусьцілі на тармазах маштабнае сьвяткаваньне 100-годзьдзя БССР. Ня сталі праводзіць урачыстага пасяджэньня з гэтай нагоды, дзе з асноўным дакладам мусіў бы выступіць кіраўнік дзяржавы. Больш урачыста адзначылі менш значныя даты: 100-годзьдзе ўзброеных сілаў, 100-годзьдзе камсамолу, 100-годзьдзе МЗС. Чаму? Бо ва ўрачыстым дакладзе трэба было б назваць прозьвішчы Чарвякова, Жылуновіча, Мазурава,

Машэрава. Дык навошта? Краіне патрэбен толькі адзін герой.

А Каліноўскі — пабочны вынік, неабходная ахвяра гэтай палітычнай кампаніі. Вось Марзалюк і стараецца, прымяраючы лаўры Абэцэдарскага. Але гэта слава Герастрата.

## У Вільні з дакладнасьцю 95 % ідэнтыфікавалі парэшткі Кастуся Каліноўскага

19 сакавіка 2019

Дасьледнікі Віленскага ўнівэрсытэту сьцьвярджаюць, што на 95 % ідэнтыфікавалі парэшткі кіраўніка паўстаньня 1863–1864 гадоў Кастуся Каліноўскага, піша Tut.by.

У 2017 годзе падчас раскопак на Замкавай гары навукоўцы-археолягі выявілі парэшткі 17 паўстанцаў. У Каліноўскага не засталося нашчадкаў па мужчынскай лініі, таму дасьледнікі не маглі доўгі час вызначыць яго парэшткі праз генэтычную экспэртызу.

Парэшткі ідэнтыфікавалі 2–3 тыдні таму мэтадам выключэньня астатніх, а таксама праз супастаўленьне ўзросту, мэтаду сьмяротнага пакараньня і параўнаньня чэрапу з фатаздымкам. Пра гэта распавёў прафэсар катэдры анатоміі, гісталёгіі і антрапалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту Рымантас Янкаўскас:

— Паводле нашай грубай ацэнкі, з дакладнасьцю 95 % мы можам пацьвердзіць, што адны з гэтых парэштак належаць Кастусю Каліноўскаму.

## Віленскія званы 155 разоў білі ў памяць Кастуся Каліноўскага

22 сакавіка 2019

Званы віленскага касьцёла Сьвятых Якуба і Піліпа на Лукіскім пляцы ў цэнтры Вільні 22 сакавіка білі 155 разоў. Роўна 155 гадоў таму на гэтым пляцы расейскія акупанты пакаралі сьмерцю Кастуся Каліноўскага, паведамляе delfi.lt.

Так некалькі дзясяткаў актывістаў зь Вільні, Варшавы і Менску пачалі ўшанаваньне памяці ўдзельнікаў паўстаньня 1863–1864 гадоў і ягонага правадыра, беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага.

Урачыстасьць прайшла каля мэмарыяльнай дошкі пад драўляным разьблёным крыжам з выяваю Хрыста ў смутку на Лукіскім пляцы. Людзі трымалі беларускія нацыянальныя бел-чырвона-белыя і літоўскія дзяржаўныя сьцягі.

## Больш за паўтысячы беларусаў зьвярнуліся да прэзыдэнткі Літвы Далі Грыбаўскайце з просьбай пра беларускую мову

23 сакавіка 2019

Дзеячы культуры, навукі, мастацтва і іншых сфэраў просяць зьмясьціць на магілах паўстанцаў 1863–1864 гадоў надпісы па-беларуску.

Пра зварот беларусаў да прэзыдэнткі Літвы паведамляе „Наша ніва“.

## На беларускае шэсьце ў гонар Каліноўскага ў Вільні прыйшлі прапраўнук Міцкевіча і першы лідэр вольнай Літвы

23 сакавіка 2019

Цэнтрам Вільні прайшла калёна зь беларускімі, літоўскімі, польскімі і ўкраінскімі сьцягамі. Акцыю зладзілі з ініцыятывы беларускіх арганізацыяў Літвы. Удзельнікі шэсьця рушылі з вуліцы Сьвятога Ігната на Лукіскі пляц — менавіта там 155 гадоў таму быў пакараны сьмерцю нацыянальны герой Беларусі.

Спачатку ў жалобны дзень плянавалася перапахаваць парэшткі, якія знайшлі пазалетась на гары Гедзіміна. Аднак канчаткова апазнаньне пакуль не завершанае, да таго ж узьніклі моўныя спрэчкі вакол мэмарыялізацыі — цырымонію адклалі на восень.

Напярэдадні на Лукіскім пляцы званы касьцёла Сьвятых апосталаў Піліпа і Якуба 155 разоў прабілі ў гонар Каліноўскага, былі зачытаныя імёны паўстанцаў і запаленыя 26 паходняў — па колькасьці гадоў, пражытых Каліноўскім.

У суботу да ўшанаваньня далучыліся некалькі сотняў гасьцей зь Беларусі — палітыкі, грамадзкія дзеячы, гісторыкі, літаратары, навучэнцы і выкладчыкі Беларускага гуманітарнага ліцэю. З сабой яны прывезьлі бел-чырвона-белыя сьцягі, а таксама жывапісны партрэт Кастуся Каліноўскага працы Алеся Пушкіна — на чале працэсіі яго пранёс сын мастака Мікола. Побач быў і найбольш вядомы прыжыцьцёвы здымак лідэра паўстанцаў.

Па дарозе гісторык Язэп Янушкевіч называў герояў тагачасных падзеяў, бальшыню якіх напаткаў трагічны лёс, удзельнікі шэсьця адказвалі на кожнае прозьвішча воклічам „Вечная памяць!“. Агулам у дзеі брала ўдзел блізу тысячы чалавек. Таксама зь пераносных дынамікаў гучалі сьпевы з „паўстанцкага цыклю“ песень Сержука Сокалава-Воюша.

Ля крыжа на Лукіскім пляцы прайшоў імправізаваны мітынг.

Слова ўзяў першы лідэр Літвы Вітаўтас Ландсбергіс. Ён адзначыў, што па сутнасьці Каліноўскі стаў правадыром касінераў — людзей, якія былі гатовыя змагацца за сваю свабоду літаральна голымі рукамі: з косамі ды іншым гаспадарчым інструмэнтам. І гэта стала выдатным прыкладам для тых іх пасьлядоўнікаў, якія здабывалі незалежнасьць ад Расеі ўжо ў канцы XX стагодзьдзя.

Дэпутат літоўскага Сойму Эмануэліс Зінгерыс падтрымаў агульную танальнасьць прамовы, прысьвяціўшы яе Беларусі. Ён панаракаў, што, відавочна, не за такую Беларусь змагаўся Кастусь Каліноўскі больш чым 150 гадоў таму — дзяржаву, якая сёньня вынішчае беларускія школы, на тэрыторыі якой расейскія спэцслужбы выкрадаюць замежных грамадзянаў (гаворка пра ўкраінца Паўла Грыба — РС) і якой так карціць паставіць атамную станцыю побач зь Вільняй. Парлямэнтар выказаў спадзяваньне, што раней ці пазьней суседняя краіна скажа „так“ Эўропе, бо беларусы — эўрапейскі народ.

Гэтаксама ён паведаміў, што Сойм Літвы рыхтуе адмысловы акт пра перазахаваньне парэштак паўстанцаў, якое папярэдне прызначанае на сёлетнюю восень.

Беларускія афіцыйныя асобы пакуль ня выявілі інтарэсу да падзеі, затое высокую актыўнасьць дэманструе грамадзянская супольнасьць.

Быў ля крыжа паўстанцам заўважаны і вядомы літоўскі паэт, публіцыст, дысыдэнт і праваабаронца Томас Вянцлава. Сказаў, што не рыхтаваўся да выступу, але падкрэсьліў, што постаць Каліноўскага лішніх словаў і не вымагае.

На Лукіскім пляцы прысутнічалі актывісты і неабыякавыя людзі зь Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны.

Сярод іх — арганізатары мэмарыяльных імпрэзаў зь беларускіх нацыянальных суполак Анатоль Міхнавец, Аляксандар Адамковіч, Валянцін Стэх, Людвіка Кардзіс; гісторыкі Алесь Смалянчук, Язэп Янушкевіч, Васіль Герасімчык; палітыкі Вячаслаў Сіўчык, Алена Талстая, Сяргей Высоцкі; заснавальнікі руху адраджэньня „Саюдзіс", прадстаўнікі польскай і ўкраінскай грамады ў Літве.

Намесьнік амбасадара Польшчы ў Літве Гжэгаж Пазнанскі, сказаў у прыватнасьці, што свабода і незалежнасьць — галоўныя каштоўнасьці, за якія паўстанцы былі гатовыя ахвяраваць сваім жыцьцём. І нагадаў ляйтматыў Кастусёвых „Лістоў з-пад шыбеніцы": „Народзе! Тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою маскаля ўжо ня будзе".

А Раман Гарэцкі-Міцкевіч, прапраўнук „паэта трох народаў" Адама Міцкевіча, чарговым разам падкрэсьліў, як празь лёс выбітных асобаў свайго часу шчыльна і назаўсёды пераплёўся лёс беларусаў, палякаў, літоўцаў.

На завяршэньне перад крыжам на Лукіскім пляцы прайшоў малебен па загінулых змагарах з царскім рэжымам.

## Як расейцы пахавалі Кастуся Каліноўскага: рукі зьвязаныя за сьпінай, цела засыпанае вапнай

28 сакавіка 2019

Археолягі, супрацоўнікі Нацыянальнага музэю гісторыі Літвы Гіціс Грыжас і Валдас Сьцяпанайціс былі аднымі зь першых адмыслоўцаў, якія наткнуліся на фрагмэнты чалавечых парэштак на Замкавай гары ў Вільні.

У лютым 2016 году там здарыўся першы апоўзак, які паўтарыўся ў кастрычніку. Паўстала пагроза славутай вежы Гедзіміна — помніку гісторыі і культуры XIV стагодзьдзя. Трэба было тэрмінова „зьвязаць“ грунтовыя расколіны, каб будаўнікі маглі пачаць ліквідацыю наступстваў.

Але з улікам гістарычнай значнасьці месца наперад пусьцілі археолягаў. Раскопкі пачаліся ў студзені 2017-га, і ўжо празь некалькі дзён адкрылася першая пахавальная яма, у якой, як цяпер стала зразумела, ляжаў Кастусь Каліноўскі.

— Гэта быў мужчына 25–26 гадоў, — расказаў Гіціс Грыжас. — Ён ляжаў на баку, рукі за сьпінай зьвязаныя, цела аблітае вапнай. Пры ім знайшлі некаторыя прадметы: фрагмэнты абутку, гузікі, мэдальён з выявай Маці Божай Вастрабрамскай, а таксама раскладны мэдальён, унутры якога з аднаго боку крыжык з Хрыстом, з другога — моцна выцертыя, але пазнавальныя абрысы сьвятога Казімера.

У сувязі са знаходкай будаўнікі адтэрміновалі мантаж умацавальных канструкцыяў, і неўзабаве археолягі наткнуліся яшчэ на адно пахаваньне, гру-

павое: у яме ляжалі трое мужчын прыблізна 24, 25, 26 гадоў, таксама аблітыя вапнай. Як на пасьмяротнай масцы, застаўся адбітак паловы твару аднаго з забітых — вока і нос. Побач з другім ляжаў мэдальён з выявай Маці Божай Чанстахоўскай.

— На вяршыні гары ў 1831-м расейцы зрабілі фартэцыю, фактычна тэрыторыя стала закрытай, — працягвае Гіціс Грыжас. — Акурат на тым месцы, дзе мы капалі, стаяў дом дырэктара аптычнага тэлеграфу Санкт-Пецярбург — Варшава. Але на 1863 год яго ўжо зьнесьлі. З гораду нічога немагчыма было ўбачыць — хто там і што робіць на вяршыні, на гэтай пляцоўцы. Маглі бязь лішніх вачэй займацца чым заўгодна.

Замаскаваныя магілы паўстанцаў, якія знайшлі археолягі, былі супольныя і індывідуальныя — магчыма, у залежнасьці ад чарговасьці выкананьня прысудаў. Паводле экспэрта, найбольшая колькасьць выяўленых парэштак у яме — тры. У чатырох знайшлі па два чалавекі, у дзесяці астатніх — па адным. Усе ахвяры — мужчыны, ад 19 да 53 гадоў.

Выглядае, што расейцы зраўнялі захаваньні зь зямлёй знарок — каб не ператварыць іх у месца паломніцтва.

Згодна з балістычнымі і антрапалягічнымі дасьледаваньнямі, адным паўстанцам прысудзілі шыбеніцу, іншым — расстрэл. Першыя прысуды былі выкананыя ў траўні 1863-га, апошняй ахвярай стаў Кастусь Каліноўскі, якога публічна павесілі 22 сакавіка 1864 году на Лукіскім пляцы — галоўным месцы экзэкуцыі.

— Усяго на сьмяротнае пакараньне асудзілі 21 чалавека — праз павешаньне і расстрэл, — кажа Гіціс Грыжас. — Практычна ўсе каталікі, толькі адзін

лютэранін — Уладзіслаў Нікаляі. Паводле сьпісу, асобна павесілі траіх — Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага і Баляслава Калышку. Астатнія павешаньні групавыя. І наадварот з расстралянымі: у адным выпадку пакараньне сьпісам, іншыя — па чарзе ў асобныя дні.

Паводле антрапалягічных дадзеных, узросту і спосабу экзэкуцыі першымі ідэнтыфікаванымі былі Бяньхоўскі, Марчэўскі і Чаплінскі. Некаторых, працягвае Гіціс Грыжас, удалося апазнаць дзякуючы асабістым рэчам.

— У яме ляжаў мужчына са зьвязанымі ззаду рукамі, на пальцы — залаты пярсьцёнак з гравіраваным надпісам па-польску „Zygmónt Apolonija 11 Sierpnia / 30 Lipca 1862 r.“. Ён як пашпарт — падказаў, што парэшткі належаць Зыгмунту Серакоўскаму: Апалёнія з Далеўскіх — ягоная жонка. Параўнаньне чэрапа са здымкам адкінула сумневы. Акрамя таго, вядома, што ён быў паранены ў сьпіну — пашкоджаньне касьцей таксама пра гэта сьведчыць.

Побач знаходзілася яма з парэшткамі дваіх: аднаму больш за 50 гадоў, другі малады. У абодвух пераламаныя косьці, знайшлі кулю. Праз антрапалягічныя дасьледаваньні і характар пашкоджаньняў удалося высьветліць, што гэта Зямацкі і Лясковіч. Пазьней гэта пацьвердзілі і пробы ДНК, узятыя ад сваякоў — супадзеньне на 98 %.

У наступнай магіле аналіз ДНК на 99 % паказаў, што ў магіле двое братоў. Згодна са сьпісам, такая пара была толькі адна — Аляксандар і Язэп Раўкоўскія. Да таго ж былі знойдзеныя мэдальёны.

У некаторыя ямы карнікі скідвалі забітых неахайна, тварам уніз або аднаго на аднаго. У найгоршым стане захаваліся парэшткі, якія, згодна з

антрапалягічнымі і гістарычнымі дадзенымі, належалі Ўладзіславу Нікаляі. Вядома, што ён быў расстраляны, ужо быўшы ў вельмі цяжкім стане — меў шэсьць кулявых раненьняў.

Так навукоўцы вярталі зь нябыту адно прозьвішча за другім: Лясьнеўскі, Сіповіч, Яблонскі, Макавецкі, Здановіч, Далеўскі, Чэхан...

— Калі ідзецца пра асобна павешаных, цяпер можна казаць, што ў першай знойдзенай яме быў Кастусь Каліноўскі, — кажа Гіціс Грыжас. — Дапамагло антрапалягічнае дасьледаваньне і параўнаньне чэрапа з прыжыцьцёвай фатаграфіяй. І хоць сумневаў, што гэта ён, практычна не застаецца, было б добра працягнуць працу, узяўшы ДНК яго брата Віктара, пахаванага ў Сьвіслачы. Адзіны непацьверджаны пакуль — Станіслаў Ішора: маем ДНК ад жывых нашчадкаў, але ні з кім са знойдзеных не супадае.

Неўзабаве пасьля таго, як на Гедзімінавай гары знайшлі парэшткі паўстанцаў, была створаная дзяржаўная камісія ў справе пахаваньня пад кіраўніцтвам прэм'ер-міністра Саўлюса Скварнэліса.

У яе працы бярэ ўдзел і доктар гуманітарных навук, былы дырэктар Інстытуту гісторыі Літвы Альвідас Нікжантайціс. Паводле яго, калі літоўскі і польскі бок дамаўляюцца аб нюансах мэмарыялізацыі, то афіцыйная Беларусь гэта папросту ігнаруе. Калі зьявілася інфармацыя, што надпісы на магілах герояў плянуюцца толькі па-літоўску і па-польску, беларуская грамадзянская супольнасьць выказала незадавальненьне, а вось улады Беларусі на гэта не адрэагавалі.

— Магу сказаць: чальцы камісіі, як і экспэрты, адзіныя ня толькі што да месца пахаваньня на

віленскіх могілках Росы, але і ў тым, што гэта частка гісторыі як мінімум трох народаў — беларусаў, палякаў і літоўцаў, — адзначае гісторык. — Паверце, ніхто коўдру на сябе ня цягне. Іншая рэч, што за ўвесь час працы камісіі зь беларускага афіцыйнага боку ня выяўлена ні кроплі інтарэсу. Прыехалі аднойчы спэцыялісты зь Беларусі, але гэта была нефармальная сустрэча. Тым ня менш, калі глядзець на практычны бок працэсу, Літва па-ранейшаму адкрытая на прапановы Менску.

Пры гэтым, прызнаецца суразмоўца, у Вільні дагэтуль не разумеюць, з кім канкрэтна размаўляць у Менску, каб зьявілася хоць нейкая пэўнасьць. У прыватнасьці, ці гатовы хто-небудзь ад імя Беларусі ўдзельнічаць у цырымоніі пахаваньня, прызначанай на восень 2019 году:

— Ёсьць ідэя зрабіць на трох мовах зборнік, прысьвечаны паўстаньню, — працягвае экспэрт. — Задума такая, каб матэрыял быў напісаны папулярна, зразумела, трапіў у школы. Але якая імавернасьць, што яго дапусьцяць да навучэнцаў у Беларусі? Мая прапанова такая: паколькі афіцыйны Менск не прадэманстраваў ніводнага знаку зацікаўленьня на карысьць таго, што гэта гісторыя ня толькі польская ці літоўская, а і беларуская, варта лічыць падставай, аргумэнтам зварот грамадзкіх арганізацыяў да ўладаў Літвы. Няма патрэбы сварыцца за мінулае, асабліва тое, якое больш яднае, чым разьядноўвае.

Падчас круглага стала ў музэі археалёгіі Вільні, прысьвечанага паўстаньню 1863–1864 гадоў і 155-годзьдзю пакараньня сьмерцю Кастуся Каліноўскага, доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук быў вымушаны патлумачыць сваім літоўскім

калегам і ўсім прысутным прычыны маўчаньня афіцыйнага Менску:

— Рэжым, які прыйшоў да ўлады неўзабаве пасьля абвяшчэньня незалежнасьці, узяў на ўзбраеньне палітыку, што паўтарала каноны савецкай гістарыяграфіі, — кажа ён. — Эвалюцыя ня ў бок нацыянальных каштоўнасьцяў, а з ухілам у ідэалёгію заходнерусізму. Яна ўзьнікла ў XIX стагодзьдзі якраз падчас паўстаньня і зводзілася да таго, што беларусы — ніякая ня нацыя, а сапсаваныя палякамі расейцы. Фактычна адмаўлялася існаваньне народу, культуры, мовы. Ну якая можа быць дзяржаўнасьць? Заходні край Расеі. Амаль праз 30 гадоў існаваньня незалежнай краіны тая ідэалёгія зноў запатрабаваная.

Паводле гісторыка, сэнсацыйныя знаходкі на Замкавай гары справакавалі новы віток дыскусіі вакол асобы Кастуся Каліноўскага, якога афіцыйная гістарыяграфія ўпарта ня хоча прызнаваць „сваім“:

— Сутнасьць дыскусіі зводзіцца да таго, што Каліноўскі не беларус, што паўстаньне польскае і прынесла Беларусі толькі шкоду, што ня трэба нават турбавацца ўшанаваньнем памяці, — пералічвае Алесь Смалянчук. — Такую пазыцыю агучвае „галоўны гісторык“ Ігар Марзалюк, а значыць, гэта афіцыйны пункт гледжаньня на праблему. Дагаварыўся, што Каліноўскага наагул трэба выкінуць са школьных падручнікаў. Нават за савецкім часам гэта быў народны герой, у 1990-я ўжо нацыянальны. Здавалася, ягонае месца ў беларускай памяці непарушнае. Але ж не...

Алесь Смалянчук асабіста сутыкнуўся з „антыкаліноўскімі настроямі“ — прычым там, дзе агрэсіі нават не чакаў. Прыгадвае, што размаўляў

з прафэсарам духоўнай сэмінарыі ў Жыровічах, які выкладае асновы гісторыі. Як толькі паўстала тэма Каліноўскага, сьвятар літаральна выйшаў зь сябе: маўляў, таго дзеяча трэба выкапаць і яшчэ раз павесіць:

— Апанэнты спрабуюць знайсьці „навукова-гістарычнае абгрунтаваньне“, хоць яно і вельмі слабое. Усё ж гэта другая палова XIX стагодзьдзя, крыху іншая нацыянальная сьвядомасьць. Аднак тое, што ён ішоў да Беларусі, зьвяртаўся да беларусаў, да мовы — гэта цалкам бясспрэчна. Асоба, на прыкладзе якой можна і трэба выстройваць нацыянальную ідэю. Гэта надзвычай важная частка беларускае гісторыі, а яе намагаюцца проста выкінуць. У Беларусі вельмі складана супрацьстаяць дзяржаве, таму застаецца спадзявацца, што грамадзкія арганізацыі пададуць голас — трэба ўсё прывесьці ў парадак.

Падчас дыскусіі прагучала прапанова стварыць Беларускі грамадзкі камітэт ушанаваньня памяці паўстанцаў 1863–1864 гадоў, які ўзяў бы на сябе абавязкі прадстаўляць беларускі бок у перамовах наконт пахаваньня.

**Don Vir Vichor**

Грамацкі камітэт, усяго толькі — сорам на ўвесь белы сьвет. Вымушаны нагадаць тым, у каго кароткая памяць, наступнае: мы, беларусы, дэ-юрэ маем сваю дзяржаву — РБ (дэ-факта — far from it). У той жа час мы, беларусы, маем Раду БНР — Урад у выгнаньні Беларускае Народнае Рэспублікі, правамоцны і легітымны бяз тэрміну даўнасьці орган (закон грубай сілы тут ні пры чым, мы ня ў джунглях (ці ў джунглях?)) Што з гэтага вынікае? У дадзеным кантэксьце перазахаваньня выснова адна: камітэт ушанаваньня памяці мусіць быць утвораны самой Радай БНР, а грамацкі камітэт з той жа мэтай можа мець права на існаваньне, але толькі пад

эгідай Рады, пакуль дуркаваты рэжым у РБ чухае патыліцу ў асобах „вельмі адказных дзеячоў“ на сапраўды вельмі адказных дзяржаўных (а не рэжымных) пасадах.

**Алесь Аляксандар Кунчэўскі**

„Пры гэтым, прызнаецца суразмоўца, у Вільні дагэтуль не разумеюць, з кім канкрэтна размаўляць у Менску“ — чарговая няшчырая несумленная гульня летувіскага боку. Быццам ня ведаюць, што фактычна пры ўладзе ў Менску знаходзіцца антыбеларускае нешта (мякка сказана), якое на практыцы імкнецца зьніштожыць памяць пра беларускіх герояў-каліноўцаў, а каб магло дацягнуцца да Замкавай гары, дык зрабіла б тое самае (калі ня горш), што зрабілі мураўёвы-вешальнікі ў 1863–1864 г.г.

**Nasta Glushko**

Абавязкова трэба ствараць камітэт і прадстаўніцтва ад Беларусі. Яны аддалі жыццё за Беларусь і верылі, што не дарма. А нашчадкі...

**Артём Волкорезов**

Надо учесть, что церковь у нас под Московой находится, поэтому этого „учителя“ с Жировичей, нечего слушать даже. Калиновский всегда был, и будет, Белорусским Национальным ГЕРОЕМ!!!

**Uładzimir Palivač**

Пакуль такія, як вы будуць гаварыць па-руску — царква і будзе рускай. Спачатку самі станьце беларусамі, а потым ужо ад іншых патрабуйце. Таму ніякай беларускай мовы на помніку быць не мусіць, бо рускамоўныя беларусы не вартыя Каліноўскага.

**Аляксандр Арцёмчык**

Uladzimir Palivač, не будьте высокомерным снобом. Человек ЗА Беларусь. Не все могут перейти на мову быстро и полном объёме. Для этого нужна среда и время. А вы такой д'Артаньян выбегате и мордой в грязь своего единмышленника. Это па-беларуску?

## „Інтарэс праяўляем“. Інстытут гісторыі пракамэнтаваў сытуацыю вакол парэштак паўстанцаў Каліноўскага

29 сакавіка 2019

Намесьнік дырэктара ў навуковай працы Інстытуту гісторыі НАН Беларусі Вадзім Лакіза абверг заявы польскіх гісторыкаў, што афіцыйны Менск ігнаруе пытаньні мэмарыялізацыі ідэнтыфікаваных у Вільні парэштак паўстанцаў 1863–1864 гадоў на чале з Кастусём Каліноўскім.

У Літве створаная дзяржаўная камісія ў справе пахаваньня парэштак паўстанцаў Каліноўскага пад кіраўніцтвам прэм'ер-міністра Саўлюса Скварняліса. У яе працы бярэ ўдзел доктар гуманітарных навук, былы дырэктар Інстытуту гісторыі Літвы Альвідас Нікжантайціс.

Паводле яго, калі літоўскі і польскі бок дамаўляюцца аб нюансах мэмарыялізацыі, то афіцыйная Беларусь гэта папросту ігнаруе. Альвідас Нікжантайціс сказаў Свабодзе, што за ўвесь час працы камісіі зь беларускага афіцыйнага боку „ня выяўлена ні кроплі інтарэсу“.

— Прыехалі аднойчы спэцыялісты зь Беларусі, але гэта была нефармальная сустрэча, — сказаў Альвідас Нікжантайціс.

Намесьнік дырэктара ў навуковай працы Інстытуту гісторыі НАН Беларусі Вадзім Лакіза сказаў Свабодзе, што „гэта няпраўда“:

— Інтарэс праяўляецца. Працуе і МЗС, і іншыя ўстановы. Наша група езьдзіла зь Беларусі ў Літву: археоляг, антраполяг, спэцыялісты, экспэрты-крыміналісты. Была афіцыйна накіраваная зь

дзяржаўных арганізацый, установ Беларусі група, якая сустракалася ў Літве ў МЗС, і нашы дыпляматы былі куратарамі гэтай сустрэчы. Дык як можна казаць, што яна неафіцыйная ці нефармальная?

Вадзім Лакіза не адказаў на пытаньне, ці будзе нехта зь беларускага боку браць удзел у перазахаваньні парэштак паўстанцаў Каліноўскага:

— Мая асабістая думка: прадстаўнікі беларукага боку павінны браць удзел. І я думаю, што возьмуць.

Літоўскія спэцыялісты ўжо даўно казалі пра неабходнасьць узяць ДНК брата Кастуся Каліноўскага Віктара, пахаванага ў Сьвіслачы дзеля ідэнтыфікацыі парэштак. Аднак нічога зроблена так і не было.

— Гэтае пытаньне прапрацоўваецца. Нават учора пра гэта была размова. Магіла Віктара Каліноўскага дакладна абазначана. Пробы магчыма ўзяць, — сказаў Вадзім Лакіза.

Ён выказаў сваё перакананьне, што надпісы на магілах герояў павінны быць таксама і на беларускай мове.

## Пісьменьнік Горват апублікаваў адкрыты ліст міністру Макею пра пахаваньне паўстанца Каліноўскага

29 сакавіка 2019

Беларускі пісьменьнік Андрэй Горват апублікаваў на Facebook адкрыты ліст міністру замежных справаў Уладзімеру Макею. Маўляў, „вы прызналіся, што прачыталі маю кнігу, то ў мяне ёсьць надзея, што зможаце пачуць і зразумець мяне зараз“.

Ліст пра тое, што ў Вільні нядаўна знайшлі парэшткі паўстанцаў 1863–1864 году — і сярод іх ідэнтыфікавалі парэшткі лідэра паўстаньня Кастуся Каліноўскага. З афіцыйнага беларускага боку, піша Горват, не было „ні кроплі інтарэсу“, за што пісьменьніку сорамна.

„Маю да вас просьбу, — піша Горват Макею. — Зрабіце, калі ласка, вашую работу і на годным узроўні прадстаўце мае інтарэсы за межамі Беларусі. А таксама інтарэсы вялікай колькасьці беларусаў, для якіх постаць Кастуся Каліноўскага — гераічная.

Я не гісторык, каб запэўніць вас у гэтым, але я беларус і сфармаваўся на нацыянальнай культуры, у якую вобраз Каліноўскага назаўжды ўпісаны дзеячамі мастацтва як вобраз героя. У рэшце рэшт, ён сын беларускай зямлі, а ў нашых традыцыях даглядаць магілы продкаў“.

Горват піша, што адкрыў для сябе ў замежных паездках: беларусы „так прагнуць чысьціні, што прыбіраюць нават памяць пра сябе“, „нібы і не стваралі эўрапейскую гісторыю і культуру разам зь іншымі народамі“.

„Уладзімер Уладзімеравіч, вы любіце Парыж? — пытае Горват. — Я люблю. А яшчэ яго любіў наш зямляк Адам Міцкевіч. Аднойчы ў Парыжы ў яго на руках памёр яшчэ адзін наш — Валенці Ваньковіч.

Я знайшоў яго магілу на могілках Манмартр-дэ-Сэн-Дэні, хоць гэта было няпроста. Але пры дапамозе не Міністэрства, а беларускай афіцыянткі Ліды гэтае месца ўжо будзе пазначана на картах, а Ваньковіча падпішуць як беларускага і польскага мастака. Цяпер вы без праблем яго знойдзеце.

Уладзімер Уладзімеравіч, калі будзеце ў Парыжы восеньню, абрэжце, калі ласка, ружы. Іх трэба

абразаць перад зімой. Гэта важна. Ружы вы лёгка пазнаеце — на гаршчочку напісана: «Ад беларусаў зь любоўю»“.

З аднаго боку, мяркуе Горват, добра, што пісьменьнік Уладзімер Караткевіч не дажыў да таго часу, калі беларускіх чыноўнікаў не цікавіць Каліноўскі (у папулярным рамане Караткевіча „Каласы пад сярпом тваім“ фігуруюць Каліноўскі і ўдзельнікі паўстаньня).

З іншага боку, Горват шкадуе: Караткевіч „абавязкова знайшоў бы патрэбныя словы, каб абараніць свайго героя“.

## МЗС Беларусі пра Каліноўскага: „Гэта супольная спадчына Беларусі, Польшчы і Літвы“

29 сакавіка 2019

Прэсавы сакратар МЗС Анатоль Глаз пракамэнтаваў выказваньні аб тым, што беларуская дзяржава паводзіць сябе пасіўна ў справе парэштак Кастуся Каліноўскага.

— На мой погляд, гэта памылковае ўражаньне. Для Беларусі Кастусь Каліноўскі — значны гістарычны дзяяч. У гэтым ня можа быць сумневаў. Ня трэба дзяліць, каму ён больш належыць. Гэта супольная спадчына, якая аб’ядноўвае народы Беларусі, Польшчы і Літвы. З гэтага пункту гледжаньня мы сыходзілі і сыходзім. Такі самы падыход знаходзім і зь літоўскага боку, якому мы вельмі ўдзячныя за поўную гатовасьць супрацоўнічаць. Мабыць, уражаньне склалася таму, што мы канцэнтравалі

намаганьні на канкрэтных справах і ня так актыўна інфармавалі СМІ аб сваіх кроках. Але гэта не азначае, што нічога ня робіцца, — заявіў Свабодзе Анатоль Глаз.

Ён паведаміў, што яшчэ ў лістападзе 2018 году беларускія дзяржаўныя экспэрты афіцыйна прыяжджалі ў Вільню, дзе азнаёміліся з дасьледаваньнямі парэштак удзельнікаў паўстаньня 1863 году, правялі плённыя сустрэчы зь літоўскімі калегамі, зрабілі свае высновы:

— Цяпер мы абмяркоўваем зь літоўскім бокам магчымасьці супольнай працы для больш дакладнай ідэнтыфікацыі парэштак. У прыватнасьці, гаворка ідзе пра магчымасьць дасьледаваньня парэштак старэйшага брата Кастуся Каліноўскага, пахаванага ў Беларусі, — сказаў Анатоль Глаз.

Паводле Анатоля Глаза, сёньня ў МЗС адбылася сустрэча з амбасадарам Літвы, дзе абмяркоўваліся „і іншыя практычныя крокі ў супрацоўніцтве па гэтай тэме“.

Сярод іх — надпісы на беларускай мове на магілах пры пахаваньні:

— Мы вельмі зацікаўленыя ў дасягненьні гістарычнай справядлівасьці адносна гэтай асобы і гатовыя актыўна ўзаемадзейнічаць і з нашымі літоўскімі, і польскімі партнэрамі, і зь беларускай супольнасьцю.

**Джэральд Хвалявальд-Стэп**

Кастусь Каліноўскі — ня проста „значны гістарычны дзяяч“ прагнучай свабоды Беларусі, а тройчы Герой.

**Эдвард Зимин**

Сын камсамольца можа быть беларуским патрыетам, прыемна...

## Беларускія археолягі наведвалі раскопкі ў Вільні

29 сакавіка 2019

У пачатку лістапада 2018 году беларускія археолягі наведалі раскопкі з парэшткамі паўстанцаў Каліноўскага ў Вільні. Як расказаў карэспандэнту Свабоды загадчык аддзелу археалёгіі Сярэднявечча і Новага часу Інстытуту гісторыі НАН Беларусі Вадзім Кошман, гэта была найперш ініцыятыва беларускага МЗС і адміністрацыі прэзыдэнта.

Якія былі мэты візыту?

— Даведацца зь першых вуснаў літоўскіх калег пра вынікі іх працы, паглядзець сваімі вачыма на гэтыя матэрыялы. Бо ніколі ня ставілася задача перад беларускімі навукоўцамі альбо сьледчымі ці судовымі экспэртамі гэтым пытаньнем займацца.

Вадзім Кошман высока ацэньвае працу літоўскіх калегаў.

— Праца праведзеная на найвышэйшым узроўні, з выкарыстаньнем магчымых і немагчымых мэтадаў. Вынікі абсалютна ўнікальныя. І можна толькі павіншаваць з гэтым літоўскіх калегаў.

Ці ўздымалася там пытаньне пра магчымасьць пахаваньня парэштак на тэрыторыі Беларусі? Паводле Вадзіма Кошмана, гэтая паездка была выключна з навуковымі мэтамі.

— Ніякіх іншых мэтаў там не было, і задачы ніякія ня ставіліся. Да таго ж мы ня мелі ніякай кампэтэнцыі нешта іншае абмяркоўваць. Па-мойму, гэта пытаньне не да навукоўцаў.

Вадзім Кошман сказаў Свабодзе, што пакуль няма замовы з боку ўладаў, каб праводзіць эксгу-

мацыю парэштак Віктара Каліноўскага ў Сьвіслачы, а яе праводзіць неабходна:

— Мы даўно гатовыя, але трэба ўзгадніць пазыцыі, хто што будзе рабіць. Там патрэбныя адмысловыя аналізы, якія будуць карэляванца з аналізамі літоўскіх калег. А дзеля гэтага трэба праводзіць эксгумацыю. Ёсьць цэлая працэдура, асабліва калі ёсьць намер атрымаць ДНК. Патрэбныя асаблівыя ўмовы. Спэцыялісты-генэтыкі павінны ацаніць ступень захаванасьці касьцявых парэштак. А судова-мэдычны экспэрт павінен ацаніць, ці насамрэч гэтыя парэшткі належаць Віктару Каліноўскаму. Па-другое, няма ніякай гарантыі, што ў гэтай магіле ня трапяцца іншыя парэшткі альбо яна не парушаная іншымі пахаваньнямі.

Вадзім Кошман таксама зьвяртае ўвагу, што трэба вырашыць, хто панясе выдаткі, бо аналіз ДНК каштуе некалькі тысяч даляраў:

— Бо магілу Віктара Каліноўскага трэба разбурыць, зьняць пакрыцьцё, камяні, крыж. А потым усё гэта аднавіць. Хто на гэта будзе несьці выдаткі?

Як паведаміў карэспандэнту Свабоды адзін зь беларускіх дыпляматаў, каб пачаць эксгумацыю, трэба выканаць пэўныя фармальнасьці і потым працаваць разам зь літоўцамі.

Пытаньне наконт фінансаваньня пакуль не стаіць, але беларускі бок здольны самастойна фінансаваць сваю частку працаў дзеля эксгумацыі і аналізу ДНК:

— У нас няма праблемаў. Але літоўцы казалі, што калі ёсьць праблемы, то яны гатовыя разгледзець розныя варыянты супрацоўніцтва. Аднак пакуль нейкія фінансавыя аспэкты не абмяркоўваюцца, — сказаў дыплямат.

## МЗС адказала пісьменьніку Андрэю Горвату

29 сакавіка 2019

Прадстаўнік МЗС пазваніў Андрэю Горвату і запэўніў у сур'ёзным стаўленьні да постаці Кастуся Каліноўскага. Пра гэта пісьменьнік паведаміў у сваім акаўнце на Facebook.

„Пазванілі зь Міністэрства замежных справаў, каб падзякаваць за мой ліст, выбачыцца за недастатковую актыўнасьць і запэўніць у сур'ёзным стаўленьні да постаці Кастуся Каліноўскага і гісторыі са знаходкай яго парэштак. Абяцалі зрабіць усё магчымае, каб нам не было сорамна. Я веру, што так і будзе. Вялікі дзякуй", — напісаў Андрэй Горват.

Раней беларускі пісьменьнік Андрэй Горват апублікаваў на Facebook адкрыты ліст міністру замежных справаў Уладзіміру Макею. Маўляў, „вы прызнаваліся, што прачыталі маю кнігу, то ў мяне ёсьць надзея, што зможаце пачуць і зразумець мяне зараз".

## У Менску з помніка Калініну зробяць помнік Каліноўскаму. І пераймянуюць плошчу

1 красавіка 2019

Кіраўніцтва гораду натхнілася вынікамі археалягічных дасьледаваньняў у Вільні.

Як паведаміў Свабодзе кіраўнік ЖЭСу № 328 Іван Мураўёў, зрабіць гэта будзе зусім не складана і дазволіць зэканоміць.

— Там жа толькі некалькі літараў замяніць — Калін-ін, на Калін-оўскі. А пастамэнт мы нядаўна

адрамантавалі. Таксама будзе нескладана з шыльдамі на плошчы, трэба будзе проста дадаць пару літарак. Каб не перарабляць увесь помнік, разглядаецца пытаньне проста замяніць яму галаву, — расказаў Свабодзе Іван Мураўёў.

Пытаньне ўжо на разглядзе камісіі па называньні і перайменаваньні праспэктаў, вуліц, плошчаў ды іншых складовых частак Менску, паведамілі ў Менгарвыканкаме.

Адзначым, што ў Менску ўжо ёсьць досьвед перайменаваньня вуліц у сугучныя назвы — у другой палове 1990-х Танкавую перайменавалі ў вуліцу Максіма Танка, у 1991-м вуліцу Максіма Горкага — у вуліцу Максіма Багдановіча.

Новаму помніку ў спадчыну пяройдзе таксама статус гісторыка-культурнай каштоўнасьці, які мае помнік расейскаму рэвалюцыянэру Міхаілу Калініну.

*Радыё Свабода віншуе чытачоў з Днём сьмеху 1 красавіка і падкрэсьлівае, што меркаваньні, факты і фота, выкладзеныя ў гэтым артыкуле, не абавязкова адлюстроўваюць рэальнасьць.*

## Што пішуць пра Каліноўскага ў польскіх, літоўскіх і расейскіх падручніках

2 красавіка 2019

### Беларусь: Мужны і нястомны Каліноўскі ратаваў людзей

*8 кляса, параграф 14. „Паўстаньне 1863–1864 гг.“*

Паўстаньню прысьвечаны асобны параграф. Каліноўскі тут — цэнтральная фігура.

„Летам 1862 г. з мэтай падрыхтоўкі паўстаньня ў Беларусі і Літве прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні „чырвоных“ арганізавалі ў Вільні Літоўскі правінцыйны камітэт (ЛПК). Старшынёй ЛПК з кастрычніка 1862 г. стаў ураджэнец Гарадзеншчыны Кастусь (Канстанцін Вікенці Сямёнавіч) Каліноўскі (1838–1864)“.

„У канцы лета 1863 г. кіраўніцтва паўстаньнем у краі сканцэнтравалася ў руках К. Каліноўскага. Але ўжо было позна, рэальных посьпехаў дасягнуць не ўдалося. Восеньню 1863 г. узброеная барацьба ў Беларусі спынілася. Мужны і нястомны Каліноўскі працягваў сваю рэвалюцыйную дзейнасьць, спрабуючы выратаваць людзей, каб зноў выступіць вясною 1864 г. Доўгі час яму ўдавалася хавацца ад перасьледу, але адзін з членаў арганізацыі на допыце выдаў яго“.

„«Пісьмы з-пад шыбеніцы» ўяўляюць сабой духоўны запавет К. Каліноўскага беларускаму народу: «…народзе... цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную». Каліноўскі таксама прытрымліваўся ідэі дэмакратычнай народнай дзяржавы: «…не народ зроблены для ўрада, а ўрад для народа»“.

### Літва: К. Каліноўскі замяніў Серакоўскага на чале паўстаньня

*9 кляса. Разьдзел „Літва ў Расейскай імпэрыі ў 1815–1864 гадах“. Аўтары — Юозас Бразаўскас, Саўлюс Юркявічус, Кястуціс Пятраўскіс.*

Паўстаньню прысьвечаныя дзьве старонкі. Каліноўскі двойчы згадваецца як чалавек, які зьмяніў Зыгмунта Серакоўскага на чале паўстанцаў.

„1 лютага да паўстаньня далучыўся і Літоўскі правінцыйны камітэт. У сакавіку паўстаньне пачалося ў Ковенскай губэрні. Першым у бой уступіў аддзел на чале са сьвятаром Антанасам Мацкявічусам. Лідэры паўстаньня не разьлічвалі перамагчы толькі сваімі сіламі. Падтрымка чакалася ад Францыі, Ангельшчыны і Аўстрыі“.

„У канцы сакавіка ў Літву прыбыў афіцэр Зыгмунт Серакоўскі. Ён пачаў кіраваць паўстанцамі. У Рогаўскіх лясах да З. Серакоўскага далучыўся аддзел на чале з А. Мацкявічусам“.

„У сярэдзіне ліпеня пост камісара Часовага нацыянальнага ўраду перайшоў да К. Каліноўскага. Арганізаванае паўстаньне скончылася толькі 10 лютага 1864 году захопам К. Каліноўскага і павешаньнем яго празь месяц у Вільні, на цяперашнім Лукіскім пляцы“.

### Польшча: паўстаньнем у Літве і Беларусі кіраваў Серакоўскі. Пра Каліноўскага згадак няма

*7 кляса. Разьдзел „Польскія землі пасьля вясны народаў“. Аўтары — Яраслаў Клачкаў, Анна Лашкевіч, Станіслаў Рошак.*

Студзеньскаму паўстаньню — так паўстаньне 1863–1864 гадоў называецца ў Польшчы — прысьвечаныя тры параграфы. Але на 13 старонках польскага падручніка няма ніводнай згадкі пра Каліноўскага.

У падручніку разглядаецца найперш паўстаньне ў Каралеўстве Польскім — гэта была адміністрацыйная адзінка ў складзе Расейскай імпэрыі. Падзеі на землях сучаснай Беларусі прыгадваюцца двойчы.

„Паўстанцкія дзеяньні ахапілі ўсё Каралеўства Польскае, а таксама Беларусь і Літву, дзе здабываў перамогі Зыгмунт Серакоўскі“.

Таксама згадваецца Рамуальд Траўгут, які ўзначаліў Нацыянальны ўрад у Варшаве ў канцы паўстаньня. Ягоная біяграфія вынесеная ў падручніку асобна:

„Быў генэралам і апошнім дыктатарам (кіраўніком) Студзеньскага паўстаньня. Нарадзіўся ў Шастакове ў сучаснай Беларусі. [...] У пачатку Студзеньскага паўстаньня ў 1863 годзе ўзяў на сябе камандаваньне партызанскім атрадам на Палесьсі. [...] У красавіку 1864 году быў арыштаваны і 5 жніўня таго самага году пакараны сьмерцю“.

### Расея: праз польскае паўстаньне пагоршыліся стасункі з Францыяй

*8 кляса. Параграф 29: „Зьнешняя палітыка Аляксандра II“. Аўтар — Андрэй Левандоўскі.*

Паўстаньне 1863–1864 гадоў згадваецца ў двух абзацах у кантэксьце стасункаў Расеі з Францыяй і Прусіяй.

„Стасункі Расеі і Францыі ў хуткім часе рэзка пагоршыліся. Прычынай гэтага стала паўстаньне 1863–1864 гг. у Польшчы. Напалеон III заявіў, што лічыць патрабаваньні паўстанцаў справядлівымі. Хоць ніякай рэальнай дапамогі паўстанцы ад яго не атрымалі, расейска-француская стасункі былі сапсаваныя“.

„Затое барацьба з польскімі паўстанцамі прывяла да збліжэньня Расеі і Прусіі. Прусія мела ў сваім складзе землі, населеныя палякамі, была зацікаўле-

ная ў як найхутчэйшым здушэньні паўстаньня і аказала падтрымку Расеі“*.

## Прэмію Багушэвіча далі за кнігу пра Кастуся Каліноўскага

6 красавіка 2019

6 красавіка ў Менску на фэстывалі „Прадмова“ былі абвешчаныя вынікі Прэміі імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтру, якая ўручаецца за найлепшую гістарычную прозу. Ляўрэатам стаў гісторык Васіль Герасімчык за кнігу „Канстанцін Каліноўскі: Асоба і легенда“.

## Гісторыі трох ксяндзоў — паплечнікаў Каліноўскага, забітых на загад Мураўёва-вешальніка

8 красавіка 2019
Ігар Карней

Свабода сабрала зьвесткі пра двух пакараных сьмерцю ксяндзоў-паўстанцаў, чые парэшткі знойдзеныя на гары Гедзіміна ў Вільні. Яшчэ аднаго расстралялі казакі на ўскрайку Ліды, а месца пахаваньня затапталі коньмі.

* *У Літве, Польшчы і Расеі няма аднаго падручніка, па якім вучацца ўсе школы. Таму мы называем аўтараў падручнікаў, якія цытуем у матэрыяле.*

**Гісторыя першая. Сваячка забітага паўстанца**

Пасьля публікацыі пра знойдзеныя літоўскімі археолягамі парэшткі паўстанцаў 1863–1864 гадоў Свабода атрымала ліст ад жанчыны, якая не выключае сваёй сваяцкай сувязі са сьвятаром Станіславам Ішорам, якога пакаралі сьмерцю расейскія ўлады.

Паводле аўтаркі допісу Тацяны Дронь, у артыкуле „да болю зачапіла“ прозьвішча чалавека, ідэнтычнае зь ейным па бацькавай лініі — Ішора:

„У сувязі з гэтым згадалася сямейная гісторыя пра майго дзядулю. Яго звалі Няфёд Іванавіч Ішора, 1888 году нараджэньня. Пра яго бацькоў вядома толькі тое, што „палякі“. У 2 гады ён застаўся сіратой і выхоўваўся роднымі цёткамі ў Вялікалуцкім павеце (цяперашняя Пскоўшчына. — РС). Расказваў, што яго продкі былі зь Віленшчыны“.

Жанчына адзначае, што дзед атрымаў добрае выхаваньне: да апошніх дзён адзначаўся высакароднасьцю, але пры гэтым стараўся не выдзяляцца з агульнай масы. І цікавіцца: ці можа яе сям’я мець агульныя карані са Станіславам Ішорам?

Тэарэтычна продкі Тацяны Дронь маглі быць у сваяцтве зь сям’ёй Станіслава Ішоры. Прынамсі, пра гэта кажа іх агульнае геаграфічнае паходжаньне — зь Віленшчыны. Аднак глыбейшыя высновы рабіць дачасна: ДНК ніводнага з крэўных ксяндза Ішоры, якія жывуць цяпер, не супала з дадзенымі парэштак.

Як расказаў падчас нядаўняга круглага стала ў Нацыянальным музэі гісторыі Літвы археоляг Гіціс Грыжас, усяго на сьмяротнае пакараньне ў Вільні асудзілі 21 чалавека — праз павешаньне і расстрэл. Ідэнтыфікаваныя ўсе, апроч Станіслава Ішоры. Ёсьць генэтычныя дадзеныя двух нашчадкаў яго-

ных пляменьнікаў, якія жывуць у Літве і Польшчы. І аналіз паказаў, што ніводзін з двух дзясяткаў пахаваных — не Ішора.

Сярод дасьледчыкаў існуе гіпотэза, што ў пачатку XX стагодзьдзя ксяндза-паўстанца ўдалося пахаваць у касьцёле Сьвятога Мікалая ў Вільні. Аўтар песень „паўстанцкага цыклю“ Сяржук Сокалаў-Воюш рыхтуе грунтоўны даведнік па асобах паўстанцаў. Ён кажа, што асобныя прыклады таемных пахаваньняў сапраўды былі — дзеля гэтага патрабаваліся або спрыяльныя ўмовы, або немалыя грошы на подкуп вартавых.

Напрыклад, кіраўніка паўстанцкага аддзелу Яна Ельскага-Ёдку расейцы спачатку кінулі ў групавую магілу, а неўзабаве паплечнікі перазахавалі яго на могілках пры маёнтку Відзкі Двор.

Аднак пасьля гэтага ўлады правялі яшчэ адну эксгумацыю і перанесьлі парэшткі ў невядомае месца.

Незаўважна вынесьці цела з тэрыторыі вайсковага гарнізону, на яго думку, было надзвычай складана. Аднак падчас Першай сусьветнай вайны на Замкавай гары ўжо стаялі германцы і, паводле некаторых зьвестак, яны не пярэчылі, каб парэшткі сьвятара перанесьлі ў храм. Адпаведна, раней ці пазьней адмыслоўцам давядзецца выйсьці за пэрымэтар колішняга расейскага гарнізону.

Згодна з архіўнымі зьвесткамі, якія сабраў Сяржук Сокалаў-Воюш, Станіслаў Ішора нарадзіўся 12 красавіка 1838 году ў вёсцы Цасарка пад Вількамірам, што за паўсотні кілямэтраў ад Вільні. Ён сын Станіслава Ішоры-старэйшага і Марыі Шантыр, у яго былі брат Аляксандар і сястра Марыя (у замужжы Кярсноўская).

Ён скончыў гімназію ў Вільні і паступіў у Пецярбурскую духоўную акадэмію — адзіную ў Расейскай імпэрыі ўстанову для навучаньня каталіцкіх сьвятароў. Пасьля пасьвячэньня ў 23-гадовым узросьце быў прызначаны вікарыем у парафію Жалудок на Лідчыне.

Як вынікае з гістарычных архіваў, большасьць ксяндзоў падтрымала антырасейскае паўстаньне, многія бралі ўдзел у яго арганізацыі. У іх ліку і Станіслаў Ішора — першы, хто быў пакараны сьмерцю на Лукіскім пляцы ў Вільні.

Лідзкі павет, як і іншыя заходнія землі Беларусі, далучыўся да паўстаньня супраць расейскай акупацыі. У лютым 1863-га тут пачаў дзейнічаць партызанскі аддзел Людвіка Нарбута. Мясцовыя сьвятары займаліся пастырскай апекай у атрадах, даводзілі распараджэньні камандзіраў, вялі патрыятычныя казані сярод парафіянаў, хавалі забітых у сутычках, а часьцяком выступалі са зброяй у руках.

8 сакавіка 1863 году Станіслаў Ішора зачытаў у касьцёле паўстанцкі маніфэст і згадзіўся быць капэлянам. Адначасна прывёў да прысягі добраахвотнікаў, якія папаўнялі паўстанцкія аддзелы. Калі расейская адміністрацыя арыштавала пробашча Жалудоцкага касьцёла Юзафа Ясінскага, абвінаваціўшы яго ў дэклямаваньні маніфэсту, айцец Станіслаў добраахвотна здаўся, каб вызваліць невінаватага сьвятара.

За заклікі да паўстаньня разам з Ішорам былі аддадзеныя пад суд ксяндзы Раймунд Зямацкі і Адам Фалькоўскі, арганіст Адам Калясінскі, пісар Гаеўскі і стражнік Яцэвіч.

— Першапачаткова ў траўні 1863 году вайсковы суд пры штабе 2-й Гвардзейскай пяхотнай дывізіі

пад старшынствам генэрал-лейтэнанта Весяліцкага асудзіў Станіслава Ішору на 5 гадоў сібірскай катаргі, — адзначае Сяржук Сокалаў-Воюш. — Аднак на паўторным паседжаньні, праведзеным цягам аднаго дня пад кіраўніцтвам палкоўніка Ўласава, ужо было прынятае зусім іншае рашэньне: расстрэл. Ксяндзу было 24 гады.

Фатальным для дзясяткаў паўстанцаў стала прызначэньне ў Вільню генэрал-губэрнатарам Міхаіла Мураўёва, які з траўня 1863-га да красавіка 1865-га лютаваў у Беларусі і Літве. За дзейнасьць „по усмиренію польскаго возстанія“ ён атрымаў мянушку „вешальнік“.

Гэта на яго загад вярнулі на перагляд ранейшыя „мяккія“ прысуды. Адносна пашчасьціла тым, каго на момант прыезду высокага чыну ўжо адправілі ў Сібір. А вось на справу сьвятара генэрал наклаў забойчую рэзалюцыю:

„Ксяндза Ішору расстраляць у Вільні, арганіста Калясінскага, пазбавіўшы ўсіх правоў, саслаць на 12 гадоў катаргі ў шахты-капальні“.

На падставе пастановы Віленскага губэрнскага праўленьня маёмасьць асуджаных да сьмерці падлягала канфіскацыі.

Паводле адных зьвестак, Станіслаў Ішора быў расстраляны 3 чэрвеня (22 траўня паводле новага стылю) 1863 году ў Лукіскай вязьніцы, паводле іншых — пры зборы войска і вялікім зграмаджэньні народу на кірмашовым пляцы ў прымесьці Лукішкі. Сьведкі ўспаміналі, што сьвятар зьвярнуўся да натоўпу з заклікам трымацца і ня падаць духам: „Мы паміраем, а вам перадаём далейшы лёс Айчыны“.

У 1933 годзе ў касьцёле сьвятога Якуба ў Вільні пасьвяцілі мэмарыяльную дошку на польскай мове:

„Сьвятой памяці ксёндз Станіслаў Ішора, народжаны ў Вільні 12.IV.1838, вікарый у Жалудку, сьвятар-герой, забіты за справу касьцёла і нацыі ў Вільні на Лукішках 3.VI.1863 году. Слава яго памяці“.

А ў 2003-м, да 140-годзьдзя паўстаньня, на касьцёле ў Лідзе была ўсталяваная мэмарыяльная шыльда ў памяць пра расстраляных ксяндзоў Станіслава Ішору, Раймунда Зямацкага і Адама Фалькоўскага.

### Гісторыя другая. Сьвятар — удзельнік двух паўстаньняў

Аналягічны са Станіславам Ішорам лёс напаткаў Раймунда Зямацкага, яшчэ аднаго сьвятара зь Лідчыны. Ён самы стары з ахвяр мураўёўскай „зачысткі“ — на момант вынясеньня прысуду меў 53 гады.

Як вынікае з дасьледаваньня Сержука Сокалава-Воюша, нарадзіўся ён 19 верасьня 1810 году ў двары Дахны Крэўскай гміны Ашмянскага павету ў сям’і Янука і Кацярыны з Камінскіх. Хрышчоны ў парафіяльным касьцёле ў Лоску.

У 20-гадовым узросьце браў удзел у паўстаньні 1831 году, падчас сутычкі з расейцамі ў Ашмяне атрымаў чатыры ўдары казацкай пікай і два шабляй. Страціўшы прытомнасьць, застаўся на полі бою сярод трупаў, а калі ачуняў, сплываючы крывёй, дапоўз да найбліжэйшага засьценка.

Вярнуцца ў родны двор ён ня мог — Дахны былі пад расейскім кантролем. Родныя вырашылі, што Раймунду „для заціраньня сьлядоў“ трэба паступіць у духоўную сэмінарыю. Так у ягонай біяграфіі пачаўся духоўны адрэзак.

Ён быў вікарыем у Пружане і вікарыем парафіі сьвятога Рафала ў Вільні. Ад 1850 году і да пака-

раньня сьмерцю ў 1863-м — пробашч Вавёрскага касьцёла Лідзкага павету.

27 студзеня ўзяў на сябе місію зачытаць маніфэст Літоўскага паўстанцкага ўраду, які абяцаў волю і зямлю, заклікаючы народ да абароны сваёй Айчыны.

Арыштаваны 15 лютага 1863 году. Быў высланы ў Ліду, адтуль у Вільню.

Першапачаткова асуджаны на катаржныя працы ў Сібіры, але праз умяшаньне Мураўёва-вешальніка пакараны сьмерцю: расстраляны на кірмашовым пляцы ля касьцёла сьвятога Якуба ў Вільні — праз два дні пасьля ксяндза Ішоры. Згодна з распараджэньнем генэрал-губэрнатара і пастановай Віленскага губэрнскага праўленьня ягоная маёмасьць падлягала сэквэстру.

Як вынікае са справаздачы літоўскіх археолягаў Гіціса Грыжаса і Валдаса Сьцяпанайціса, Раймунд Зямацкі пахаваны ў адной магіле з 23-гадовым шляхціцам Альбэртам Лясковічам. У абодвух пераламаныя косьці, у яме знайшлі кулю. Праз антрапалягічныя дасьледаваньні і характар пашкоджаньняў удалося высьветліць, што гэта сапраўды Зямацкі і Лясковіч.

Тое самае пацьвердзілі пробы ДНК, узятыя ад сваякоў — супадзеньне на 98 %.

23 ліпеня 1933 году на касьцёле сьвятога Рафала ў Вільні ўсталявалі памятную дошку: „Сьвятой памяці ксёндз Раймунд Зямацкі, народжаны ў Лоску 10 верасьня 1810 г., удзельнік паўстаньня 1831 г., вікарый касьцёла сьв. Рафала ў Вільні, потым пробашч у Вавёрцы Лідзкага павету. Сьвятар-герой загінуў пакутніцкай сьмерцю, расстраляны на Лукіскім пляцы ў Вільні 5 чэрвеня 1863 г.“.

**Гісторыя трэцяя. Кінулі ў дол і залілі вапнай**

Поруч са Станіславам Ішорам і Раймундам Зямацкім часта згадваецца яшчэ адзін сьвятар — 51-гадовы Адам Фалькоўскі, пробашч зь Ішчалны Лідзкага павету. Як і тыя, ён зачытаў у касьцёле паўстанцкі маніфэст і заклікаў сялянаў да паўстаньня.

Паводле наяўных зьвестак, Адам Фалькоўскі быў арыштаваны 2 сакавіка 1863 году і адпраўлены зь Ліды ў Вільню. Але неўзабаве яго адаслалі назад у Ліду, дзе 24 чэрвеня расстралялі.

З успамінаў ксяндза-дэкана Іпаліта Баярунца, на якія спасылаецца Сяржук Сокалаў-Воюш, вынікае, што а 6-й раніцы арыштанта прывялі да месца пакараньня, дзе ўжо быў выкапаны дол і ў бочцы падрыхтавана сьвежая вапна. Там прывязалі да слупа і завязалі вочы. Раздаўся залп з карабінаў... Цела ксяндза кінулі ў дол без труны і залілі вапнавым растворам. Магілу закапалі, эскадрон казакоў на конях зацёр яе сьляды.

„За час паўстаньня сьвятароў расстралялі вельмі шмат, — кажа яшчэ адзін дасьледчык тагачасных падзеяў Язэп Янушкевіч. — З гэтай прычыны я нават ламаю звыклае датаваньне, пазначаючы пэрыяд ад 1863 да 1865 гадоў, бо каралі сьмяротнымі выракамі і пасьля здушэньня выступаў. Да таго ж мы звычайна разглядаем землі Літвы і Беларусі, а калі ўзяць яшчэ Польшчу — колькі капуцынаў было забіта там? Так што ахвярамі царскага рэжыму былі многія і многія прадстаўнікі Касьцёлу“.

У траўні 1919 году магілу Адама Фалькоўскага аднавілі. Аднак у 1940-м яе зьнішчылі савецкія ўлады. У 1990-х сябры Лідзкай арганізацыі БНФ „Адраджэньне“ ня раз аднаўлялі пахаваньне паў-

станцкага сьвятара, якое зноў і зноў руйнавалася на загад адміністрацыі. Урэшце там паставілі каменны знак.

Акрамя таго, шэраг ксяндзоў былі пакараныя працяглымі тэрмінамі катаржных працаў. Так, вікарый з Новага Двара Ян Кажанёўскі, які таксама прачытаў у касьцёле паўстанцкі маніфэст, атрымаў 12 гадоў катаргі ў шахтах і пазбаўленьне духоўнай годнасьці.

Пробашч парафіі Васілішкі Ануфры Сырвід за прачытаньне маніфэсту быў пакараны аналягічным тэрмінам — 12 гадоў катаргі ў Іркуцкай губэрні.

Пробашч парафіі Дэмбрава — як і Васілішкі, і Новы Двор, гэта колішні Лідзкі павет, а цяпер Шчучынскі раён — Рамуальд Скібінскі быў пакараны 8 гадамі катаргі ў Сібіры.

## Дасьледчык паўстаньня 1863–1864 гадоў: Улады палохае вобраз Кастуся Каліноўскага

15 красавіка 2019

Гутарка Свабоды з Васілём Герасімчыкам — гарадзенскім гісторыкам, які дасьледуе вызваленчае паўстаньне супраць Расейскай імпэрыі 1863–1864 гадоў і асобу Кастуся Каліноўскага.

Вынікам працяглай працы ў архівах стала кніга „Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда“ — найбольш сыстэматызаваны збор біяграфічных зьвестак пра нацыянальнага героя Беларусі, выдадзены за апошнія дзесяцігодзьдзі.

— Пахаваньне парэштак паўстанцаў заплянаванае ўвосень на віленскіх могілках Росы. Як вы

лічыце, ці варта дамагацца вяртаньня нацыянальнага героя на радзіму?

— У Вільні ў сёньняшніх умовах гэта найлепшы варыянт. У Беларусі, як паказвае стрыманае, мякка кажучы, стаўленьне ўладаў, такое проста немагчыма. Каліноўскі ў Беларусі проста непатрэбны. І гэта нягледзячы на тое, што яго вобраз як народнага змагара і абаронцы прычыніўся да зьяўленьня і станаўленьня самой нашай дзяржавы. Вобраз, які натхняе не адно пакаленьне беларусаў на працу ў імя Бацькаўшчыны.

Нават у „Гісторыі беларускай дзяржаўнасьці„ (2019), выдадзенай Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, Каліноўскі названы постацьцю, якая сфармулявала беларускую нацыянальную ідэю XIX — пачатку XX стагодзьдзя: змаганьне „за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную“. Прыкра, што асабістыя меркаваньні пэўных асобаў пераважваюць шматгадовую традыцыю вывучэньня Каліноўскага ў нашай краіне.

— Каліноўскі быў зусім малады, калі пайшоў на шыбеніцу — меў усяго дваццаць шэсьць гадоў. Тым ня менш ён пасьпеў атрымаць багата жыцьцёвага досьведу...

— У кнізе я паспрабаваў паказаць Каліноўскага як асобу, якая шукае сябе, паказаць, як зьмяняецца яго сьвядомасьць, перш чым прыйсьці да звароту „Да люду беларускага“ — як сам ён назваў „Лісты з-пад шыбеніцы“. Праблема, нават „загадка Каліноўскага“ — у тым, што ён шмат у чым быў пачынальнікам, імкнучыся патлумачыць словамі тое, што адчуваў і прадбачыў. І розныя людзі, якія сутыкаліся зь ім, разумелі гэта па-рознаму. Адны

бачылі „ліцьвінскага сэпаратыста“, другія — „польскага Рабэсп’ера“, трэція — „апошняга з магіканаў“, чацьвёртыя — „караля Літвы“, „дыктатара Літвы і Беларусі“. Але нават сучасьнікі зь ліку палякаў, якія блізка яго ведалі, разгледзелі „апостала беларускага народу“ і „пачынальніка беларускай літаратуры“. Вось так, проста і ёміста.

— Ці будзе працяг кнігі? Верагодна, архівы хаваюць яшчэ нямала цікавых таямніцаў?

— Я працягваю займацца дасьледаваньнем асобы Кастуся Каліноўскага. Толькі за апошні год сабралася багата матэрыялу. Магчыма, калісьці кніга будзе і перавыдадзеная. Але лічу, што найперш патрэбна выданьне, прысьвечанае ўсім паўстанцам, асуджаным на сьмерць на тэрыторыі Беларусі — а прысуды прыводзіліся ў выкананьне і пасьля 1864 году. Так, адзін зь іх, Тэлесфар Халева, быў пакараны сьмерцю 8 красавіка 1865-га ў ваколіцах Бараўлянаў. Ушанаваньня вартыя і ўраджэнцы беларускай зямлі, забітыя ў сёньняшніх Польшчы і Літве — у тым ліку пахаваныя ў Вільні (літоўскія навукоўцы якраз рыхтуюць зборнік пра знойдзеных паўстанцаў).

— Расейская акупацыйная адміністрацыя асудзіла на сьмерць амаль дзьве сотні ўдзельнікаў паўстаньня 1863–1864 гадоў, больш за 850 былі сасланыя на катаргу, тысячы забітыя ў баях з расейскімі атрадамі. Многія — родам зь Беларусі, аднак памяць пра іх практычна адсутнічае.

— Памяць пра многія падзеі беларускай мінуўшчыны адсутнічае, бо гэтае поле было мэтанакіравана зачышчанае. І паўстаньне 1863–1864 гадоў у гэтым пляне не выключэньне. Аднак на беларускай зямлі шмат пахаваньняў удзельнікаў паўстаньня,

месцаў бітваў і сутычак, якія яшчэ чакаюць свайго дасьледчыка.

Багатыя матэрыяламі і архівы Беларусі. Напрыклад, у 2016 годзе пабачыў сьвет біяграфічны слоўнік аўтарства Дзьмітрыя Матвейчыка. У ім зьмешчаныя біяграмы 7053 удзельнікаў паўстаньня. Усяго ж праз збройны канфлікт у Беларусі і Літве прайшлі ад 68 да 77 тысяч чалавек, зь іх амаль 6 тысяч былі забітыя.

— Якія яшчэ асобы, з вашага гледзішча, адыгралі найбольш заўважную і значную ролю ў паўстаньні 1863–1864 гадоў?

— На тэрыторыі Беларусі найбольшы ўплыў, акрамя Кастуся Каліноўскага, аказала дзейнасьць Рамана Рагінскага зь яго 750-кілямэтровым маршам углыб Палесься. Гэтаксама Людвік Нарбут, будучы генэрал Парыскай камуны Валеры Ўрублеўскі, Аляксандар Лянкевіч, Казімір Кабылінскі, Апалін Гафмэйстар, Якуб Гейштар, Людвік Зьвяждоўскі, Міхал Аскерка, Францішак Юндзіл, Уладзіслаў Борзабагаты... За шэраг герояў ужо браліся дасьледчыкі, але яны ўсё роўна пакуль застаюцца быццам у цені.

## Міністар культуры Літвы паведаміў, што надпісы на магілах паўстанцаў 1863 году будуць і па-беларуску

15 красавіка 2019

Міністар культуры Літвы Міндаўгас Квяткаўскас паведаміў, што сёлета ў верасьні паўстанцы будуць урачыста пахаваныя на віленскіх могілках Росы, у

калюмбарыі цэнтральнай капліцы. Да апошняга моманту не было пэўнасьці, на якіх мовах будуць надпісы на магілах, але выглядае, што ў гэтым пытаньні ёсьць прагрэс:

— Мы прыйшлі да агульнага палажэньня, што імёны і прозьвішчы [паўстанцаў] мусяць быць напісаныя на трох мовах — літоўскай, польскай і беларускай, — адзначыў Квяткаўскас. — Гэта павінна падкрэсьліць важнасьць паўстаньня для ўсіх гэтых краін, усіх гэтых народаў.

Дагэтуль не ідэнтыфікаваныя парэшткі ксяндза Станіслава Ішоры — генэтычныя тэсты, узятыя ў ягоных жывых сваякоў, не супалі ні з кім, каго археолягі адшукалі на гары Гедзіміна. Менавіта таму, як сказаў археоляг Гіціс Грыжас, неабходна зноў туды вярнуцца і працягнуць пошукі.

Таксама пакуль не ўдалося атрымаць афіцыйнага пацьверджаньня ад уладаў Беларусі што да тэсту ДНК Віктара Каліноўскага, роднага брата Кастуся Каліноўскага, пахаванага ў сямейным склепе ў Сьвіслачы на Горадзеншчыне.

У такім выпадку ўдалося б зьняць апошнія сумневы.

Як падкрэсьліваюць літоўскія мэдыі, беларусы лічаць Кастуся Каліноўскага адным з нацыянальных герояў сваёй краіны.

Антраполяг зь Віленскага ўнівэрсытэту Юсьціна Казакайце паведаміла, што з дасьледаваньняў парэштак паўстанцаў вынікае нямала фактаў пра іхнае жыцьцё, звычкі, хваробы. Так, аналіз зубоў паказаў, што пастаянна курылі тытунь прынамсі дзесяць з дваццаці чалавек.

Але Кастусь Каліноўскі і Зыгмунт Серакоўскі не курылі.

## Урад Літвы: Імёны паўстанцаў будуць напісаныя на літоўскай, польскай і беларускай мовах

15 красавіка 2019

Урад Літвы адказаў на зварот больш як 500 грамадзкіх дзеячоў Беларусі, якія патрабавалі ўшанаваньня паўстанцаў 1863–1864 гадоў у тым ліку на беларускай мове — бо спачатку меркавалася зрабіць надпісы толькі па-літоўску і па-польску.

Адказ прыйшоў галоўнаму рэдактару часопіса „Наша гісторыя“ Андрэю Дынько, каардынатару збору подпісаў пад зваротам беларускай грамадзкасьці, паведамляе „Наша ніва“.

„Імёны кіраўнікоў і ўдзельнікаў паўстаньня на іх магілах пасьля пахаваньня, як мяркуецца, будуць запісаныя на літоўскай, польскай і беларускай мовах“, — гаворыцца ў лісьце першага намесьніка канцлера ўраду Літвы Дэйвідаса Матулёніса.

## Літва рыхтуе запрашэньне Лукашэнку на цырымонію пахаваньня паўстанцаў Каліноўскага

16 красавіка 2019

Міністар культуры Літвы Міндаўгас Квяткаўскас паведаміў журналістам, што на ўрачыстую цырымонію пахаваньня парэштак паўстанцаў, знойдзеных летась на гары Гедзіміна ў Вільні, будуць запрошаныя найвышэйшыя службовыя асобы Беларусі, Польшчы і Украіны.

Запрашэньні гасьцям будзе накіроўваць прэзыдэнт Літвы.

„Увосень плянуецца арганізаваць урачыстую цырымонію пахаваньня, — адзначыў літоўскі міністар, — будзе прапанаваны фармат на самым высокім узроўні — з удзелам першых асобаў Беларусі, Польшчы, Украіны. Гэта было ўхвалена падчас паседжаньня літоўскай урадавай камісіі. Таксама вырашана, што прозьвішчы ўсіх асуджаных на сьмерць будуць запісаныя на трох мовах — літоўскай, польскай і беларускай, каб падкрэсьліць важнасьць паўстаньня для ўсіх згаданых краін“.

Дакладная дата цырымоніі пакуль не абвешчаная, усё будзе залежаць ад работ па аднаўленьні капліцы на віленскіх могілках Росы. Чакаецца, што яны маюць завяршыцца да верасьня.

## „Ёсьць пэўны рух“, — МЗС Беларусі пра магчымасьць эксгумацыі парэштак брата Каліноўскага

17 красавіка 2019

Міністэрства замежных справаў Беларусі рэгулярна і „канструктыўна“ кантактуе зь літоўскім бокам адносна ідэнтыфікацыі парэштак Кастуся Каліноўскага, паведамілі Свабодзе ў зьнешнепалітычным ведамстве.

Гаворка ідзе пра магчымасьць дасьледаваньня парэштак яго старэйшага брата Віктара, пахаванага ў Беларусі. Парэшткі Кастуся Каліноўскага, знойдзеныя летась на гары Гедзіміна ў Вільні, ідэнтыфікаваныя з пэўнасьцю 95 %.

Аднак літоўскі бок выказваў пажаданьне працягнуць гэтую працу, узяўшы ДНК яго брата Віктара, пахаванага ў Сьвіслачы. Літоўскі бок даўно казаў пра неабходнасьць эксгумаваць парэшткі Віктара Каліноўскага ў Беларусі. Але дагэтуль пытаньне ня вырашанае.

„Ёсьць пэўны рух. МЗС амаль на штотыднёвай аснове канструктыўна кантактуе зь літоўскім бокам па гэтай тэме“, — сказаў карэспандэнту Свабоды афіцыйны прадстаўнік беларускага МЗС Анатоль Глаз.

Начальніца аддзелу ідэалягічнай работы, культуры і па справах моладзі Сьвіслацкага райвыканкаму Ірына Паўлючэня паведаміла Свабодзе, што зваротаў адносна эксгумацыі парэштак Віктара Каліноўскага не паступала:

— Пытаньні эксгумацыі рэглямэнтуюцца ч. 3 артыкулу 205 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, адносяцца да кампэтэнцыі Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь. У выпадку правядзеньня працаў па эксгумацыі, ідэнтыфікацыі і перазахаваньні аддзел ідэалягічнай работы, культуры і па справах моладзі возьме непасрэдны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, — паведамілі Свабодзе ў райвыканкаме.

— Мы бачылі рэпартаж на вашым сайце, — сказала Ірына Паўлючэня. — Людзі ў нашым раёне ведаюць, хто такі Кастусь Каліноўскі. Вы напісалі, што ў нас помнікаў Каліноўскаму больш, чым помнікаў Леніну. Гэта сапраўды так.

У Сьледчым камітэце і Генпракуратуры карэспандэнту Свабоды сказалі, што ніякіх зваротаў адносна эксгумацыі парэштак Віктара Каліноўскага не паступала.

## Імёны Свабоды. Зыгмунт Мінейка

20 красавіка 2019
Уладзімер Арлоў

Зь біяграфіі гэтага чалавека мог бы нарадзіцца добры тузін гістарычных раманаў. Адзін зь іх я пачаў бы з таго, як вучань чацьвертай клясы Віленскай гімназіі Зыгмунт Мінейка пасьля цырымоніі прысягі імпэратару Аляксандру II пад сакрэтам паведаміў сябрам, што паставіў на падпісным лісьце прыдуманае прозьвішча і, такім чынам, лічыць сябе не зьвязаным ніякімі абавязкамі.

Юнак стаў студэнтам адной з самых прэстыжных навучальных установаў імпэрыі — Акадэміі генэральнага штабу — і меўся атрымаць дыплём вайсковага інжынэра, але хутка далучыўся да вызвольнага руху.

У жніўні 1861-га агент III аддзяленьня даносіў начальству, што “кадет Сигизмунд Минейко ходит переодет крестьянином и разносит сочиненную неким Марцинкевичем на народном языке «Гутарку старога дзеда», где в стихах представлены судьбы Литвы и все притеснения приписаны российскому правительству“. У выніку назіральнасьці жандарскага шпега нядобранадзейны юнак мусіў тэрмінова сесьці ў паштовую карэту, каб урэшце апынуцца ў Генуі. Там Джузэпэ Гарыбальдзі адчыніў тады вайсковую школу для моладзі з былой Рэчы Паспалітай.

У 1863-м Мінейка — паўстанцкі начальнік Ашмянскага павету — трапляе ў рукі расейскіх карнікаў і выслухоўвае сьмяротны прысуд. Але прага Мураўёва-вешальніка да грошай такая бязьмежная,

што Зыгмунтавай маці шанцуе выкупіць сынава жыцьцё за дзевяць тысяч рублёў.

Наперадзе — дванаццаць гадоў катаргі ў Нерчынскіх капальнях. Аднак пакутны шлях нядаўняга камандзіра інсургентаў у Сібір дае гістарычнаму раманісту новы паварот сюжэту. На этапе Зыгмунт Мінейка бярэ сабе імя падобнага да яго памерлага таварыша, што засуджаны толькі на пасяленьне. Паведаміўшы канвою пра ўласную “сьмерць“, ён застаецца ў Томску і адчыняе там прыбытковую шапачную майстэрню.

Празь нейкі час пад выглядам сібірскага купца Зыгмунт ужо запісваецца на прыём да самога пецярбурскага генэрал-губэрнатара і атрымлівае зь яго рук замежны пашпарт.

У Парыжы ён пасьпяхова заканчвае Акадэмію генштабу. Але Мінейкам ня надта задаволеныя: былы беларускі паўстанец лічыць, што ня мае маральнага права служыць у замежным легіёне, які ваюе ў Альжыры.

Другой радзімаю становіцца для яго Грэцыя.

Славу прыносяць Мінейку ня толькі шматлікія праекты дарог і мастоў, але і археалягічныя экспэдыцыі. Адна зь іх завяршаецца сэнсацыйным адкрыцьцём згаданага Сакратам храма Зэўса ў Дадоне.

Зыгмунт рэстаўраваў легендарны Мармуровы стадыён у Атэнах — сымбаль адроджаных Алімпійскіх гульняў. Грэцкі парлямэнт надаў нашаму суайчыньніку званьне ганаровага грамадзяніна гэтай краіны. Ягоны ўнук Андрэас Папандрэу двойчы быў прэм’ер-міністрам Грэцыі.

Узгадайце гэта, калі будзеце ўздымацца на атэнскі Акропаль.

Зыгмунт Мінейка. 1840, в. Балванішкі, цяпер Зялёны Бор, Ашмянскі раён — 27.12.1925, Атэны, Грэцыя. Пахаваны ў Атэнах.

## У Вільні вырашылі, калі пахаваюць паўстанцаў Каліноўскага

25 красавіка 2019

У Вільні прайшла сустрэча прадстаўнікоў Беларускага грамадзкага камітэту памяці паўстанцаў 1863–1864 гадоў зь віцэ-канцлерам ураду Літвы Дэйвідасам Матулёнісам.

„Беларуская мова адназначна будзе: гэта тычыцца парэштак усіх паўстанцаў, а таксама асноўнага тэксту, які паведамляе пра магілы“, — сказаў Свабодзе гісторык Алесь Смалянчук, які ўдзельнічае ў абмеркаваньні пытаньняў пахаваньня з боку беларускай грамадзкасьці.

Ён таксама паведаміў, што Дэйвідас Матулёніс пацьвердзіў рашэньне Дзяржаўнай камісіі Літвы абраць месцам спачыну паўстанцаў пахавальную нэагатычную капліцу на віленскіх могілках Росы (Rasų kapinės).

Праект мэмарыялізацыі распрацаваны літоўскай архітэктаркай Рутай Астасявічуце.

— Беларускія ўдзельнікі абавязаліся падрыхтаваць сьпісы паўстанцаў на беларускай мове і зьвярнулі ўвагу на важнасьць удзелу прадстаўнікоў беларускага грамадства ў пахавальных урачыстасьцях. У сытуацыі, калі афіцыйныя ўлады самаўхіліліся ад ушанаваньня памяці герояў вызвольнага паўстаньня і чарговым разам спрабуюць выкрасьліць імя

Кастуся Каліноўскага з айчыннай гісторыі, сваё слова павінна сказаць грамадзянская супольнасьць. Дэйвідас Матулёніс запэўніў, што літоўскія ўлады да такой супрацы гатовыя, — падсумаваў Алесь Смалянчук.

Акрамя Алеся Смаленчука ў перамовах бяруць удзел ад „Таварыства беларускай культуры ў Літве“ Алесь Адамковіч і ад „Беларускай нацыянальнай памяці“ Анатоль Міхнавец.

Беларуская дзяржава на перамовах не прадстаўленая.

— Так, на гэты момант дзяржаўных прадстаўнікоў няма, — удакладніў Свабодзе Алесь Адамковіч. — Віцэ-канцлер сказаў, што запрашэньні ў Беларусь накіроўвалі, але да сёньняшняга дня ніякай рэакцыі. Адзінае, дзесьці месяц таму, пасьля рэзанансных публікацый у прэсе, патэлефанавалі зь беларускай амбасады, пацікавіліся, як і што, але на гэтым усё скончылася. Прынамсі, ні з камісіяй, ні зь літоўскім урадам беларускі бок афіцыйна ня зьвязваўся.

Паводле Алеся Адамковіча, згодна з праектам кожнае надмагільле будзе падпісанае на трох мовах, а на агульным стэндзе яшчэ дадасца чацьвёртая — ангельская:

— У нэкропалі будуць 21 ці 22 месцы — пакуль што няма дакладнай інфармацыі па Станіславу Ішору. Разам з тым існуе такая вэрсія, гіпотэза, што пазьней ксяндзы выкупілі цела свайго субрата ў царскіх салдат і пахавалі ў касьцёле ці іншым месцы. Відаць, запатрабуюцца дадатковыя дасьледаваньні. Дзеля справядлівасьці, у нішы, дзе будуць пахаваньні, ёсьць таблічка і з указаньнем прозьвішча Ішоры, — сказаў Алесь Адамковіч.

## „Яшчэ тут беларусы замітусіліся“. Літоўскі палітык выступіў супраць беларускай мовы на магілах паўстанцаў Каліноўскага

26 красавіка 2019

Былы міністар замежных справаў Літвы і кандыдат літоўскіх кансэрватараў на выбарах у Эўрапейскі парлямэнт Аўдронюс Ажубаліс выступіў супраць беларускай і польскай моваў на магілах паўстанцаў 1863–1864 гадоў, якіх сёлета пахаваюць на віленскіх могілках Росы.

Сваю пазыцыю літоўскі палітык патлумачыў у артыкуле на сайце delfi.lt.

„Літва ў Літве робіць пахаваньне герояў, і надпісы над іхнымі трунамі маюць быць па-літоўску, бо іначай гэта будзе не дзяржаўнае пахаваньне, калі дзяржаўнай мове патрэбныя «спадарожнікі»“, — піша Ажубаліс.

Літоўскі палітык лічыць, што, магчыма, дапушчальна было б падпісаць шыльды на польскай мове, паколькі на гэтай мове свае імёны пісалі і самі паўстанцы.

Але ён зьвяртае ўвагу, што ў Літве ёсьць уласная традыцыя пісаць і польскія імёны па-літоўску, а адмаўленьне ад гэтай традыцыі Ажубаліс назваў зьнішчэньнем „падмурку, які сьведчыць пра самапавагу Нацыі“.

„Яшчэ тут суседзі-беларусы замітусіліся і патрабуюць, каб хаця б прозьвішча Кастуся Каліноўскага было і па-беларуску напісана. Напісаньне прозьвішчаў трыма мовамі — несур’ёзна. Адзін чалавек — тры прозьвішчы, як у музэі, каб усім

наведнікам было ўсё ясна. Толькі, бачыце, гэта не інфармацыйная шыльдачка музэйнага экспаната, гэта пантэон змагароў за свабоду Літвы (а яе яны ўсе разумелі ў катэгорыях таго часу) ад маскаліі“, — працягвае былы літоўскі міністар.

Далей Ажубаліс адказвае ініцыятарам трохмоўных шыльдаў, якія сваё рашэньне абгрунтоўваюць запісаньнем імёнаў паўстанцаў паводле царкоўных кніг ці як яны самі падпісваліся.

„Калі так, то тады, браточкі, мецьмем працу па ўсёй Літве. Цікава, як бы ў Польшчы адрэагавалі на просьбу Літвы, каб на магіле Чэслава Мілаша былі надпісы на дзьвюх мовах, не кажу ўжо пра Беларусь, дзе, як грыбы пасьля дажджу, зьяўляюцца гедзіміны і міндоўгі“, — задае рытарычнае пытаньне Ажубаліс.

Свой артыкул былы міністар замежных справаў завяршае думкай, што гістарычная палітыка Літвы „павінна быць адпорнай на патоп прапаганды з суседніх дзяржаваў і на фальсыфікацыі літоўскай гісторыі“.

„Гістарычная палітыка патрэбная ня толькі дзеля таго, каб мы паразумеліся міжсобку і засталіся сьвядомымі грамадзянамі дзяржавы, але і дзеля таго, каб Літва годна паразумелася з партнэрамі, не прыніжаючыся, не ахвяруючы гістарычнаю праўдаю дзеля кароткачасовай карысьці і не страчваючы годнасьці дзяржавы“, — піша Аўдронюс Ажубаліс.

**Gleb Manaev**

Печаль то, что Беларусь потеряла свою историю из-за бездарных политиков. Мало что жмудины город наш забрали так они еще и историю прибурают к рукам.

**Леонид Борисевич**

Жмудь была, есць и буде жмудзю. Кали тэутонцы давали пендаля, бегли у Вильню за дапамогай, а кали навала адыходзила зноу самастийными рабилися. Дзякуючы красным и Вильню палучыли. Цяпер яны Вяликае Князства Литоускае!

**Алесь Кутасаў**

Так паўстанцы змагаліся за слабоду Літвы, а не Летувы (Жамойці)! Вучыце матчасть спадар экс-міністр!

**Vadim Ignatiev**

А не здаецца паважанаму панству, што беларусы вядуць сябе па многих кирунках, прабачэння просим, ях халяушчыки. Зрабице нам так, дайце грошау, визы, картки палякау, нафты и газу... а мы пасядзим у бульбе???

**Viktuś Parfienienka**

Było b sensoŭna pachavać herojaŭ, dzie naradzialisia. Taho j mova.

**Aliaksandr Kasiak**

Здаецца, літоўскі ўрад ужо прыняў рашэнне зрабіць надпісы на трох мовах. Спадзяюся выпад Ажубаліса ўсур'ёз ніхто не ўспрыме.

## „Dzieciuki“ запісалі песьню пра Каліноўскага

27 траўня 2019

Горадзенскі гурт Dzieciuki прэзэнтаваў новы трэк „Час касінераў“ на верш Алеся Чобата і прапануе далучыцца да кампаніі папулярызацыі вобразу Кастуся Каліноўскага, паведамляе музычны партал TuzinFM.

— Мы заклікаем паказаць разам, што народ, у імя якога Кастусь Каліноўскі ўзышоў на шыбеніцу, памятае свайго героя! — кажуць музыкі.

Лідэр гурту Алесь Дзянісаў расказаў, што напісаў песьню падчас працы над сваім сольным альбомам „Кароткая гісторыя Беларусі“, але аўтар тэксту паэт Алесь Чобат папрасіў яго не ўключаць песьню ў рэліз, патлумачыўшы тым, што „гэта раньні верш і што ён занадта рамантычны і наіўны“. Пры гэтым Чобат не забараніў выкарыстоўваць песьню па-за межамі сольніка.

Песьня будзе фінальнай у будучым альбоме гурту.

Dzieciuki заклікаюць далучацца да грамадзкай кампаніі „Каліноўскі — наш герой“ усіх неабыякавых беларусаў, каб годна прадставіць беларускі бок ва ўрачыстым пахаваньні паўстанцаў 1863–1864 гадоў.

## Мэрыя Вільні рыхтуецца да пахаваньня ўдзельнікаў паўстаньня 1863 году і абвяшчае конкурс

3 чэрвеня 2019

Віленскае самакіраваньне шукае здольных абсталяваць у цэнтральнай капліцы на могілках Росы месца для пахаваньня паўстанцаў 1863–1864 гадоў, паведамляе delfi.lt.

У дакумэнтах абвешчанага мэрыяй конкурсу гаворыцца, што ў асноўным памяшканьні капліцы неабходна сфармаваць месца пахаваньня, выбраць матэрыялы і стылістыку саркафагаў (трунаў), прадугледзець іх разьмяшчэньне, геральдычнае афармленьне, асьвятленьне.

## МЗС Беларусі чакае ад Літвы запрашэньня

4 чэрвеня 2019

Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім атрымала адказ на свой зварот у Міністэрства замежных справаў Беларусі наконт удзелу беларускай афіцыйнай дэлегацыі ў цырымоніі пахаваньня парэштак Кастуся Каліноўскага ды іншых удзельнікаў антырасейскага паўстаньня 1863 году.

У лісьце на імя кіраўніка замежнапалітычнага ведамства Ўладзімера Макея дэпутатка напісала, што да яе зьвяртаюцца грамадзяне, якіх хвалюе пытаньне стаўленьня беларускай дзяржавы да пахаваньня Кастуся Каліноўскага. Мэмарыяльныя імпрэзы заплянаваныя на гэтую восень.

— Як сябра камісіі адукацыі, культуры і навукі прапаную пад патранатам МЗС стварыць міжведамасную афіцыйную дэлегацыю для ўдзелу ў імпрэзах дзеля ўшанаваньня памяці беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Лічу, што гэта паспрыяе ўмацаваньню аўтарытэту Беларусі як унутры нашай краіны, так і за яе межамі, а таксама паслужыць падвышэньню прэстыжу нашай дзяржавы ў беларусаў замежжа, — перакананая Алена Анісім.

У адказе Ўладзімер Макей піша, што МЗС у рамках сваёй кампэтэнцыі „ажыцьцяўляе неабходнае ўзаемадзеяньне“ зь літоўскімі калегамі па ўсіх пытаньнях, якія тычацца ідэнтыфікацыі і пахаваньня знойдзеных у Вільні парэштак Кастуся Каліноўскага.

„З ініцыятывы і пры садзейнічаньні МЗС наладжаныя кантакты паміж зацікаўленымі ведам-

ствамі Беларусі і Літвы. У адказ на афіцыйны зварот літоўскі бок даў згоду на ўжываньне беларускай мовы ў надпісах на надмагільных плітах і іншых месцах пры пахаваньні ўдзельнікаў паўстаньня 1863 году. Дасягнуты шэраг іншых дамоўленасьцяў“, — адзначаецца ў лісьце міністра замежных справаў Беларусі.

Макей піша, што Беларусь пакуль не атрымала афіцыйнага запрашэньня на цырымонію пахаваньня парэштак паўстанцаў Каліноўскага. Пытаньне абмяркоўваецца ў дыпляматычных каналах.

## Вобраз Каліноўскага ў інтэр’еры бару: каго гэта абражае?

18 чэрвеня 2019
Севярын Квяткоўскі

Франак Вячорка заўважае шыльду Kalinoŭski і піша ў сябе ў фэйсбуку: „Кусаю локці, што зрабіў гэта ня я. Прыкладна 12 гадоў таму мы з моладзьдзю ладзілі кампанію папулярызацыі Каліноўскага і стварэньня зь яго сымбалю барацьбы за Свабоду і Незалежнасьць, які натхняў бы і аб’ядноўваў. І тады мы казалі, маўляў, было б добра мець у Менску такі падпольны паб, дзе ўваход толькі па паролі: «Каго любіш? Люблю Беларусь!»“.

А ў абмеркаваньні ў фэйсбукавай суполцы Свабоды адзін за адным бачу сярод іншых камэнты ў спэктры ад скепсісу да абурэньня (падаю на мове арыгіналу, каб захаваць стылістычны калярыт):

„По какому праву именами выдающихся людей на какой-то алкогольной, чтоб не сказать хуже,

Зыбицкой, которая возникла для развлечения не самых достойных, называть питейные заведения“;

„Смешанные чувства. С одной стороны, радует появление национального контекста. А с другой, трагическая судьба Калиновского и то, что обычно происходит в барах на Зыбицкой, как-то не очень сочетается“.

І тут я прыгадваю як у 2017-м у Менску мужчыну асудзілі на тры гады зьняволеньня за „хуліганства і зьдзек з асабліва каштоўнай матэрыяльна-культурнай каштоўнасьці“. За дрыфт, г. зн. кіраваны занос, аўтамабіля на плошчы Перамогі ў Менску. Хоць у справе, на мой погляд, відавочным было небясьпечнае кіраваньне ў нецьвярозым стане, але ніяк ня зьдзек з чагосьці. Проста савецкія сымбалі для больш-менш новай генэрацыі даўно не сьвятыя, а плошча Перамогі — ня месца пахаваньня, а проста архітэктурная славутасьць. Справы там было — на штраф і пазбаўленьне правоў. Але не на тры гады няволі, бо ніхто не пацярпеў дый нікога побач не было пасярод ночы. Але жорсткасьць прысуду ня выклікала вялікай хвалі абурэньня.

Надаваць нейкім памятным рэчам сьвятасьць — ёсьць у гэтым штосьці паганскае. Уся савецкая эстэтыка была прасякнутая культам сілы і прыніжэньня чалавека грознымі „багамі“ з ЦК, якія пасьля сьмерці перасяляліся на камуністычны „алімп“. Ёсьць для мяне наўпроставая паралель між асуджэньнем бару „Каліноўскі“ і прысудам дрыфтару. Якія пачуцьці могуць быць абражаныя, калі Каліноўскі — хоць і сымбаль, але не рэлігійны?

Далей. Чаму адразу вырашылі, што ў бар „Каліноўскі“ будуць прыходзіць амаральныя тыпы? Ды наагул, хіба раён вуліцы Зыбіцкай — спрэс гняздо

разбэшчанасьці? Можа, там па-рознаму, як паўсюль у горадзе дый проста сярод людзей? І чаму вырашана, што канкрэтна ў „Каліноўскім“ будуць сцэны, якія апаганяць імя змагара за...

Савецкія камуністы любілі вобраз Каліноўскага за антыцарызм. А беларускія патрыёты — за тое, што гэта быў антыцарызм паралельна з ідэяй змагання за незалежнасьць былога ВКЛ.

Камусьці лёс Каліноўскага здаецца сумным — павесілі, а камусьці ўзьнёслым — быў сьмелым і стаўся сымбалем адвагі дзеля справядлівай ідэі. Уладзімер Караткевіч пад уплывам паўстаньня Каліноўскага напісаў рамантычны твор „Каласы пад сярпом тваім“. У мастацкай літаратуры фіналы бываюць такімі, якімі хоча аўтар і чытачы. У Караткевіча даецца надзея на зьяўленьне незалежнай Беларусі. Вельмі актуальна сёньня, калі беларускія чыноўнікі два дзясяткі гадоў гавораць пра незразумелую інтэграцыю з Расеяй. Таму вобраз Каліноўскага ня мусіць быць ідалам для псэўдарэлігійнага культу, а працаваць тут і цяпер на сьветаадчуваньне беларусаў. На такія погляды, дзе няма сумневаў у незалежнасьці.

Бары і кавярні — частка чалавечай цывілізацыі. Прыраўноўваць іх усе да чагосьці брыдкага можна толькі фантазійна, прыдумана і надумана. Адказнасьць чалавека за свае паводзіны застаецца на ім паўсюль, ня толькі ў барах. А вось тое, што назвы зь беларускага культурнага поля служаць распаўсюду беларушчыны — факт. Таму і марыў Франак Вячорка зь сябрамі пра кавярню з тэмай паўстаньня Каліноўскага ў назьве і афармленьні. Бо беларускае мусіць быць паўсюль, у тым ліку ў месцах адпачынку. А можа, і найперш у такіх месцах.

## „Зыбіцкая праўда“. Як мы схадзілі ў бар Kalinoŭski

20 чэрвеня 2019
Алесь Пілецкі, Уладзь Грыдзін

Праверылі, як чарка і скварка спалучаюцца з ідэяй барацьбы за незалежнасьць.

Бар з гучнай назвай Kalinoŭski адкрыўся на славутай вуліцы Зыбіцкай у Менску на мінулым тыдні, аб чым тут жа раструбілі ў сацсетках. „Выдатная ідэя!“, „Чаму гэта зрабіў ня я?“, „Трэба туды схадзіць!“ — прыкладна так камэнтавалі ў фэйсбуку паведамленьні аб адкрыцьці новага месца. Ажыятаж можна зразумець. Унівэрсытэту, помніка ці хаця б школы імя Кастуся Каліноўскага ў Менску няма, а бар — ёсьць. Мы не маглі застацца ўбаку і пайшлі праверыць патрыятычнасьць установы.

На ўваходзе ў бар сустракае ветлівы адміністратар. На мой „Добры дзень“ паслужліва адказвае: „Добрый вечер! Куда бы вы хотели присесть?“ Накіроўваюся ў самы дальні і цёмны куток, адначасова разважаючы, што за прывітаньне па-расейску ў далёкім 1863-м маглі б зрабіць зь ветлівым адміністратарам паўстанцы Каліноўскага. Праз хвіліну прыносяць мэню. Ужо лепш, яно беларускамоўнае. Ангельская таксама ёсьць, але нават амэрыканскі бурбон названы „кукурузнай гарэлкай“, а лацінаамэрыканскі ром — „трысьняговай“. Паўстанцы б ацанілі.

Выбіраю са сьпісу фірмовых, названых у гонар месяцаў году кактэйляў. „Чэрвень“. „Ещё один червень“, — кажа афіцыянт бармэну. Напой гато-

вы празь пяць хвілін. Нагадвае вішнёвы кампот зь дзяцінства, куды ўлілі крыху самагонкі. Так і ёсьць. Толькі замест самагонкі — віскі. Цікава, ці ацаніў бы такое спалучэньне кіраўнік гераічнага паўстаньня.

Уладальнік бару Аляксей Славута абяцае адмысловую імпрэзу ў дзень афіцыйнага адкрыцьця. А таксама гаворыць пра пляны адкрыць аднайменную ўстанову ў Вільні. Яму ўжо давялося апраўдвацца за расейскамоўнасьць бармэнаў. Маўляў, цяжка яшчэ ў Менску зь беларускамоўнымі. Таму пакуль як ёсьць. Акрамя назвы на ўваходзе (лацінкай, дарэчы), мэню і цытат з „Мужыцкай праўды" на сьценах, беларускай мовы ў новым бары на Зыбіцкай няма. Аматары львоўскай „Крыіўкі" могуць быць расчараваныя.

Кактэйль „Чэрвень" тым часам канчаецца. Заўважаю ў мэню „Жнівень" з сапраўдным самагонам, але вырашаю замовіць „Люты". „Осторожно, очень крепкий. Если что, лучше дождаться таяния кубика льда", — адміністратар упарта ня хоча пераходзіць на беларускую (пры гэтым застаецца падкрэсьлена ветлівым). Фонам гучыць прыемны ангельскамоўны соўл, „Люты" на смак сапраўды моцны. У мэню пазначана, што там віскі, лікёр і таямнічае „варэньне з гузоў".

Цэны ў Kalinoŭski сярэднія для Зыбіцкай. Кава — 2,5, піва — 5,9. Апісаныя вышэй кактэйлі, названыя ў гонар беларускіх месяцаў — больш за 13 рублёў. Часта сюды не находзісься.

Дарэчы, пад'есьці ў Kalinoŭski не атрымаецца. У мэню выключна напоі. Да іх вам прынясуць хіба што крыху арэшкаў. Так што жарт пра „чарку і скварку" не пра новы бар. Хаця ўладальнік не

выключае ў будучыні зьяўленьня ў сваёй установе ежы.

Наведнікаў у новым месцы з патрыятычнай назвай пакуль няшмат. За дзьве гадзіны, што мы тут заставаліся, у Kalinoŭski зайшло каля дзесяці чалавек. Нягуста для вечара серады і хайпу ў сацсетках. Тэрасы суседніх з новым барам установаў былі запоўненыя амаль цалкам. Афіцыйна адкрыюць установу 3 ліпеня, у Дзень вызваленьня Менску з-пад нямецкай акупацыі. Адміністрацыя абяцае канцэрт.

## На Гарадзеншчыне і Берасьцейшчыне ўсталявалі стэлі паўстанцам 1863–1864 гадоў

6 ліпеня 2019

Помнікі зьявіліся ў месцах баёў паўстанцаў Каліноўскага — каля вёскі Новы Двор Сьвіслацкага раёну на Гарадзеншчыне і каля аграгарадка Лыскава Пружанскага раёну на Берасьцейшчыне.

Вышыня драўляных стэляў — каля 6 мэтраў.

— Дзяржава ніякім чынам не ўшаноўвае сваіх герояў, таму нам, грамадзкасьці і актывістам, даводзіцца браць на сябе гэтую адказнасьць, — адзначыў адзін з ініцыятараў акцыі Вадзім Саранчукоў.

Ён расказаў, што стэлі зьявіліся ў выніку грамадзкай кампаніі „Каліноўскі-2019“. Мэта кампаніі — каб як мага больш беларусаў даведалася і прыехала на пахаваньне парэштак Кастуся Каліноўскага ў Вільні сёлета ўвосень.

Таксама ў межах гэтай кампаніі ладзіцца вершаваны маратон на тэму паўстаньня, будуць усталяваныя іншыя памятныя знакі ў гонар змагароў.

## На Горадзеншчыне пачалі эксгумацыю — шукаюць парэшткі брата Кастуся Каліноўскага

8 ліпеня 2019

Сьледчы камітэт пачаў эксгумацыю меркаванага пахаваньня Віктара Каліноўскага — старэйшага брата кіраўніка паўстаньня 1863–1864 гадоў. Генэтычная экспэртыза можа пацьвердзіць, што ў Вільні на Гедзімінавай гары знайшлі менавіта Кастуся Каліноўскага.

Падрыхтоўчыя працы пачаліся 8 ліпеня, сказаў Свабодзе праваабаронца Ўладзімер Хільмановіч. Ён удзельнічае ў працэсе як прадстаўнік грамадзкасьці і назіральнік.

У Сьвіслачы па абедзе прайшла нарада з удзелам прадстаўнікоў Сьледчага камітэту Менску і Горадні, беларускіх і літоўскіх археолягаў, літоўскай амбасады. На ёй абмеркавалі парадак правядзеньня працаў.

Дакладнае месца пахаваньня Віктара Каліноўскага невядомае, акрамя таго, што гэта на сьвіслацкіх могілках, побач з касьцёлам. Крыж і камень зь ягонай магілы знайшлі сьвіслацкія краязнаўцы ў пачатку 1990-х гадоў. Надмагільле аднаўлялі ў прыкладным месцы за свае сродкі актывісты са Сьвіслачы і Горадні.

## Што калі ДНК не супадуць? Літоўскі антраполяг пра эксгумацыю парэштак брата Кастуся Каліноўскага ў Беларусі

10 ліпеня 2019

Трэці дзень на могілках у горадзе Сьвіслач на Горадзеншчыне ідуць працы па эксгумацыі парэштак, якія могуць належаць брату Кастуся Каліноўскага Віктару.

Навошта капаць, калі ў гэтым месцы не дакладна пахаваны Віктар Каліноўскі?

Калі ДНК віленскіх парэштак не супадуць са сьвіслацкімі, ці прызнаюць парэшткі Кастуся Каліноўскага сапраўднымі? Раскопкі працягнуць, пакуль ня знойдуць патрэбную магілу? Хто фінансуе эксгумацыю ў Сьвіслачы? Якія сумы на працы выдаткаваў літоўскі бок?

На гэтыя пытаньні адказаў назіральнік за працамі зь літоўскага боку Рымантас Янкаўскас, прафэсар катэдры анатоміі, гісталёгіі і антрапалёгіі мэдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту, які займаецца ідэнтыфікацыяй парэштак паўстанцаў, знойдзеных на Замкавай гары.

Адказны за эксгумацыю пахаваньня Віктара Каліноўскага — Сьледчы камітэт Беларусі, ён жа фінансуе працы. Сьледчыя і міліцыянты прысутнічаюць на месцы раскопу. Уначы магілу пільнуе вартаўнік.

У першы дзень 8 ліпеня рабочыя дэмантавалі помнік і надмагільную пліту Віктара Каліноўскага. На наступны дзень пачалася непасрэдна праца археолягаў, якая працягваецца дагэтуль. Над пахаваньнем працуюць беларускія спэцыялісты

Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук: антраполяг Мікалай Памазанаў і археоляг Вадзім Кошман.

Зь літоўскага боку прысутнічаюць прафэсар-антраполяг Рымантас Янкаўскас, доктар гістарычных навук Юсьціна Казакайце, другі сакратар амбасады Літвы ў Беларусі Міндаўгас Габрэнас. Яны не вядуць працы, але могуць назіраць і кансультаваць. Прысутнасьць літоўцаў фінансуе літоўскі бок.

Менавіта Літва ініцыявала эксгумацыю Віктара Каліноўскага. Першы раз яны зьвярнуліся з гэтай просьбай да беларускага боку летась у ліпені. Паводле інфармацыі Янкаўскаса, гэта першы падобны выпадак запыту аб эксгумацыі ў літоўска-беларускіх адносінах.

Да таго ж, назіраць за працамі дазволілі прадстаўнікам беларускай грамадзкасьці Юрыю Глебіку са Сьвіслачы і Ўладзімеру Хільмановічу з Горадні.

Як расказаў Янкаўскас, раскоп зроблены памерам 4×1,5 мэтры. Пакуль патрэбных парэштак не знайшлі. У верхнім слоі спачатку ішла перамяшаная зямля з керамікай і фрагмэнтамі пераважна дзіцячых костак ад іншых пахаваньняў. Падчас раскопу пачала асыпацца зямля суседняга пахаваньня, таму давялося дэмантаваць гэтае надмагільле і ўмацаваць схіл. Аднак у канцы другога дня ўбачылі абрысы некранутага пахаваньня. Яго пачалі расчышчаць.

„Калі знойдуць парэшткі, і будзе бачна, што яны некранутыя, то выклічуць зь Менску экспэртаў, каб узялі пробы“, — тлумачыць прафэсар Рымантас Янкаўскас.

Ці дакладна адкопваюць парэшткі Віктара Каліноўскага? Вядома, што месца пахаваньня Віктара

Каліноўскага прыкладнае. Чаму тады менавіта там усталявалі помнік?

Актывіст Юры Глебік расказаў: было вядома, што Віктар Каліноўскі пахаваны недзе на сьвіслацкіх могілках. Падчас перабудовы капліцы частку надмагільляў перамясьцілі. Адсюль блытаніна зь месцамі пахаваньня.

У канцы 1980-х гадоў сьвіслацкі краязнаўца Аляксандар Палубінскі знайшоў каля капліцы камень з крыжам, падобны паводле апісаньня да таго, што быў на магіле Віктара Каліноўскага. Крыж аднавілі і ў пачатку 1990-х гадоў за сродкі грамадзкасьці ўсталявалі сымбалічнае надмагільле на гэтым месцы.

„Але сапраўднае пахаваньне можа знаходзіцца і за пяць мэтраў, і за дзясяткі мэтраў ад яго. Мы ніколі не хавалі, што гэтае надмагільле сымбалічнае“, — кажа Юры Глебік.

— Калі можа быць вядомы вынік экспэртызы?

— Гэта залежыць ад таго, што мы тут знойдзем, — кажа Рымантас Янкаўскас. — Наш досьвед у Вільні паказвае, што пры добрай захаванасьці костак вынік можа быць ужо праз тры дні. Тут будуць працаваць беларускія судова-мэдыцынскія экспэрты. Праз пракуратуру пробы будуць перадавацца пракуратуры Літоўскай Рэспублікі і паралельна дыпляматычнай поштай у нашу лябараторыю.

— ДНК парэштак мусіць супасьці на 100 %?

— 100 % ніколі не бывае. Мы звычайна атрымліваем адказ, што аб’ект А і аб’ект Б супадаюць зь верагоднасьцю 99,99 %. Гэтага дастаткова.

— Калі ДНК парэштак меркаванага Кастуся Каліноўскага не супадзе з парэшткамі, знойдзенымі ў гэтым пахаваньні, што будзе далей?

— У такім выпадку мы будзем лічыць, што гэтае пахаваньне [Віктара Каліноўскага] — сымбалічнае месца. Бо дакладна вядома, што на гэтых могілках яно ёсьць... Калі ДНК не супадуць, больш ня будзем распрацоўваць іншыя пахаваньні, бо яны некранутыя. Іншых сьведчаньняў таксама няма.

— Ці можна тады быць упэўненым на 100 %, што ў Вільні знайшлі менавіта кіраўніка паўстаньня?

— Тады застанецца сумнеў. Нашыя высновы будуць базавацца на археалягічным кантэксьце, агульных антрапалягічных зьвестках, спэцыяльных дадзеных, поле, узросьце, спосабе пакараньня і фотасумяшчэньні. Гэта не такія дакладныя дадзеныя. Улічваючы, што такія пытаньні заўжды будуць узьнікаць, мы стараемся давесьці справу да канца. Ёсьць такія канапныя экспэрты. Каб не ўзьнікалі пытаньні, што была магчымасьць зрабіць, чаму не зрабілі. Мы будзем спакойныя. Тады і беларускі бок зможа спакойна сказаць: „Так, мы зрабілі ўсё, што было магчыма". Толькі такія тэхнічныя магчымасьці былі... Нельга будзе казаць, што гэта толькі сымбалічнае пахаваньне Каліноўскага.

— Год таму ў інтэрвію вы казалі, што зьвесткі пра Кастуся Каліноўскага — фантастычныя чуткі. Чаму?

— Бо гэта былі самыя першыя знаходкі. Надта прыгожа было б, каб самы першы [знойдзены] быў Каліноўскім. Але ён і быў Каліноўскім. Мы сумняваліся, пакуль не былі зробленыя іншыя знаходкі і выключаныя іншыя магчымасьці.

— Калі зьявілася большая ўпэўненасьць, што гэта менавіта лідэр антырасейскага паўстаньня?

— Гэтай зімой. Калі мы атрымалі сумяшчэньне чарапоў з фатаздымкамі апошніх трох знойдзеных паўстанцаў.

Генэтычную экспэртызу, паводле правілаў, будуць праводзіць у дзьвюх лябараторыях: у Беларусі і ў Літве. Пробы са сьвіслацкай магілы перададуць з дапамогай пракуратураў дзьвюх краін і паралельна праз дыпляматычную пошту.

Літоўскі бок у сваю чаргу гатовы адкрыць беларусам доступ да пробы меркаваных парэштак Кастуся Каліноўскага. Пакуль беларусы па гэта не зьвярталіся.

Вядома, што на сьвіслацкіх могілках пахаваная бабуля Кастуся Каліноўскага Тарэса, а таксама некаторыя іншыя ягоныя браты і сёстры. Праўда, таксама невядома дзе. Калі выявіцца, што ў тым месцы, дзе ідуць працы, пахаваны нехта зь іншых сваякоў, ДНК таксама супадзе. Лепшыя паказальнікі будуць у мужчынскага полу, бо там супадае храмасома Y, але і парэшткі жанчыны могуць даць пацьверджаньне.

## У магіле Віктара Каліноўскага ў Сьвіслачы знайшлі парэшткі двух чалавек

14 ліпеня 2019

Археалягічныя і экспэртныя працы на месцы меркаванай магілы Віктара Каліноўскага ў Сьвіслачы закончаныя. Працы ішлі 4 дні — ад 8 да 11 ліпеня. Калі былі выяўленыя парэшткі двух чалавек, археолягі спынілі сваю частку працы, паведамляе Радыё Рацыя.

Пасьля гэтага зь Менску былі выкліканыя дадатковыя экспэрты. Адмыслоўцы ўзялі фрагмэнты парэштак, пасьля чаго раскоп быў засыпаны.

Усе працы пратакаляваліся Сьледчым камітэтам у адпаведнасьці з працэсуальным заканадаўствам. Як паведаміў прадстаўнік грамадзкасьці Юры Глебік, цяпер трэба чакаць афіцыйных вынікаў экспэртызаў, якія будуць весьці беларускія і літоўскія спэцыялісты.

Пасьля правядзеньня дасьледаваньня фрагмэнтаў на сайце Сьледчага камітэту мае зьявіцца афіцыйная інфармацыя.

Незалежна ад вынікаў экспэртызы праз некалькі месяцаў, калі асядзе грунт, помнік з крыжам і яшчэ адзін надмагільны камень з шыльдай маюць вярнуцца на ранейшае месца.

## Прэзыдэнт Літвы выказаўся пра запрашэньне Лукашэнкі на пахаваньне Каліноўскага

17 ліпеня 2019

Прэзыдэнт Літвы Гітанас Наўседа сказаў, што пакуль не прыняў рашэньня, ці можа дыялёг зь Беларусьсю праходзіць на самым высокім узроўні.

Паводле прэзыдэнта, цяпер Літва яшчэ думае, каго з прадстаўнікоў беларускіх уладаў запрасіць на цырымонію пахаваньня парэштак удзельнікаў паўстаньня 1863–1864 гадоў, заплянаваную на восень у Вільні.

„Ці гэта павінен быць візыт кіраўніка самага высокага ўзроўню, дазвольце нам пра гэта яшчэ падумаць, і я лічу, што неўзабаве мы зможам адказаць вам на гэтае пытаньне“, — сказаў Наўседа, адказваючы на пытаньне BNS.

## На Берасьцейшчыне ратуюць ад разбурэньня магілу паўстанцаў Каліноўскага

25 ліпеня 2019

У вёсцы Новая Папіна Драгічынскага раёну ідзе рэстаўрацыя магілы ўдзельнікаў паўстаньня 1863–1864 гадоў.

Грамадзянін Польшчы дапамог рэстаўрацыі грашыма.

Як расказаў архітэктар Андрэй Варабей, які працаваў на рамонце агароджы, тут пахаваныя мясцовыя ўдзельнікі паўстаньня 1863–1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага:

— Гэта не магіла часоў баявых дзеяньняў, тут адбываліся пахаваньні ўжо пасьля паўстаньня. Але Ян Жук і ягоная жонка Стэфанія Жук былі яго ўдзельнікамі. Яна Жука саслалі ў аддаленыя губэрні Расейскай імпэрыі. Потым ён вярнуўся, маёнтак застаўся за ім, памёр ён ужо ў 1898 годзе. Жонка памерла раней. Тут паставілі помнік, а мур, відавочна, ужо ў часы польскай улады. На помніку знайшлі надпіс майстэрні Анджэя Прушынскага з Варшавы. Крыж паставілі да 1895 году, а гранітная пліта Яну Жуку ўжо пазьнейшая, — расказаў Андрэй Варабей.

Гэтае пахаваньне ўключана ў сьпіс гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. Зьявіўся прыватны спонсар Станіслаў Кендзерскі, грамадзянін Польшчы, які мае бізнэс у Кобрыні. Ён даў сродкі на распрацоўку навукова-праектнай дакумэнтацыі на рамонт помніка.

Дакумэнтацыю рыхтавала Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры пад кіраўніцтвам Антона Астаповіча. Потым, у чэрвені, быў падрамантаваны сам помнік — яго патынкавалі, залілі новы п’едэстал замест старога.

— Наконт агароджы — тут праведзеныя проціаварыйныя кансэрвацыйныя работы. Часова замацавалі найбольш парушаныя фрагмэнты, патынкавалі растворам і пакрылі пабелкай. Папраўдзе, рэстаўрацыі гэтая агароджа не падлягае, бо калі гэта пачаць рабіць, тут спатрэбяцца вялікія грошы, таму што цэгла ў вельмі дрэнным стане. Хутчэй за ўсё, цэгла была недапаленая і цяпер проста рассыпаецца. Агароджу многія дзесяцігодзьдзі не даглядалі, трапляла вада, шкодзіла. Таму, па сутнасьці, на старой тынкоўцы ўся гэтая канструкцыя і трымаецца, — сказаў Андрэй Варабей.

Архітэктар кажа, што на гэтую тэрыторыю не было праекту ахоўных зонаў. Андрэй Варабей і таварыства аховы помнікаў распрацавалі гэты праект, у межы ахоўнай зоны будуць трапляць цалкам каталіцкія могілкі.

## Як пераймяноўвалі беларускія гарады

28 жніўня 2019
Вінцук Вячорка

Поруч з імёнамі беларускіх гарадоў, мястэчак і вёсак, якія прымусам замяніла савецкая ўлада, вось ужо пару соцень гадоў існуюць і „тапонімы з памылкамі“.

Перайменавалі старажытныя гарады й мястэчкі, назвы якіх былі „немілагучныя“ або палітычна сумнеўныя для зрусыфікаванага бальшавіцкага вуха.

- Койданава (Койданаў) зрабілі Дзяржынскам,
- Рудобелку — Акцябарскім,
- Дрысу — Верхнядзьвінскам,
- Ігумен — Чэрвенем,
- Кабыльнік — Нараччу,
- Качэрычы — Кіраўскам,
- Прапойск — Слаўгарадам,
- Шацілавічы — Сьветлагорскам.

Вёсак такіх значна больш. Агулам блізу 450 беларускіх паселішчаў пацярпелі ад радыкальнай рэвізіі аўтэнтычных тапонімаў.

Раней, у пару Расейскай імпэрыі, назвы не мянялі радыкальна, а „карэктавалі“ адпаведна моўным густам новых гаспадароў.

Спачатку наагул не зважалі на мясцовыя тапанімічныя традыцыі.

„Калі Беларусь апынулася ў складзе Расейскай імпэрыі, ні дакумэнталісты, ні гісторыкі, ні картографы таксама не парупіліся пра дакладнасьць перадачы беларускіх айконімаў на расейскую мову, — пісала выбітная беларуская тапаністка Валянціна Лемцюгова. — Яны запазычвалі ўжо гатовыя польскія формы і запісвалі іх кірыліцкай графікай. У выніку шэраг беларускіх айконімаў увайшоў у гісторыю ў чужамоўнай ці скажонай форме, зь неўласьцівымі для іх гукавымі, граматычнымі і словаўтваральнымі рысамі“.

Але пасьля паўстаньня Кастуся Каліноўскага ўлады Расейскай імпэрыі пачалі выкарыстоўваць

тапанімію як складнік гібрыднай вайны — дзеля зьмены ідэнтычнасьці жыхароў заваяваных земляў. У 1866 годзе яны ўзяліся мяняць назвы вуліц беларускіх гарадоў ды склалі сьпіс паселішчаў, назвы якіх „подверглись извращению во время польского господства в здешнем крае“ і якім неабходна было надаць „местные русские названия“. Толькі ў Горадзенскай губэрні такіх паселішчаў было 558, сьведчыць гісторык Іна Соркіна. За часамі СССР практыку працягнулі.

Пэўныя спрадвечныя назвы былі змадыфікаваныя адміністрацыйным чынам, іншыя — стыхійна, але ўсе такія зьмены аддалялі аблічча беларускіх тапонімаў ад першаўзору.

## Вядомыя беларусы падпісаліся за пахаваньне Каліноўскага ў Беларусі

24 верасьня 2019

За пахаваньне ў Беларусі лідэра паўстаньня 1863–1864 гадоў Кастуся Каліноўскага зьбіраюць подпісы ў інтэрнэце.

Сярод тых, хто падпісаў зварот, згадваюць нобэлеўскую ляўрэатку Сьвятлану Алексіевіч, заснавальніка Tut.by Юрыя Зісера, музыку Лявона Вольскага.

Пісьменьнік Віктар Марціновіч падпісаў зварот, бо лічыць Каліноўскага героем, які шмат чаго зрабіў, каб Беларусь існавала:

— Мы мусілі б адзначыць яго ролю ў нашай гісторыі хаця б спробай пахаваць яго ў Беларусі.

На думку Марціновіча, для пахаваньня павінна быць створана адмысловая камісія, якая, сярод

іншага, вызначыць месца пахаваньня Каліноўскага ў Беларусі. Пісьменьнік лічыць, што Каліноўскаму можна знайсьці месца на адных зь менскіх могілак:

— Як з Каліноўскім, так і з астатнімі беларускімі героямі шмат паганага было зроблена за апошнія гады і сказана таксама. І нам усёй краінай трэба выбачыцца перад славутымі продкамі і аддаць ім даніну павагі, якую яны, канечне, заслугоўваюць.

Падпісала пэтыцыю і дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім. Яна лічыць Каліноўскага вельмі важнай постацьцю ў беларускай гісторыі і знакавай для дзяржаўнага будаўніцтва.

На думку Анісім, пахаваньнем Каліноўскага павінны займацца Міністэрства замежных справаў, Міністэрства культуры, Адміністрацыя прэзыдэнта, грамадзкія колы.

Паводле Анісім, Каліноўскі можа быць пахаваны ў Сьвіслачы на Гарадзеншчыне. Таксама было б выдатна знайсьці месца для Каліноўскага на закрытых Усходніх могілках у Менску, дзе пахаваныя вядомыя дзяржаўныя дзеячы, літаратары, спартоўцы і дзеячы культуры.

Як сказала Анісім, калі ня прымуць рашэньня аб пахаваньні Каліноўскага ў Беларусі, яго могуць пахаваць і ў Вільні. Аднак Беларусь — больш „прыдатнае месца“ для пахаваньня Каліноўскага:

— Каб многія пакаленьні патрыётаў маглі прыйсьці да яго магілы, пакланіцца яго праху і, можа, даць клятву на вернасьць Беларусі.

Доктар гістарычных навук, прафэсар Алесь Краўцэвіч лічыць, што на сёньняшні дзень пахаваньнем Каліноўскага ў Беларусі павінна займацца грамадзкасьць. Ва ўлады няма фармальных падстаў гэта забараніць:

„Месца пахаваньня Каліноўскага належыць дасканала прадумаць. Мяркую, месца павінна быць такое, каб ля яго магла зьбірацца значная колькасьць людзей для правядзеньня ўрачыстасьцяў: прысягі, прыём у афіцэры, скаўты і іншае“, — напісаў Краўцэвіч.

Гісторык лічыць, што пахаваньне Каліноўскага ў Вільні не дазволіць арганізоўваць на магіле паўстанца імпрэзы нацыянальнага маштабу.

Заснавальнік „Кінаконгу“ Андрэй Кім падпісаў зварот, бо лічыць Каліноўскага героем Беларусі і адным з сымбаляў барацьбы за незалежнасьць Беларусі:

— Я лічу што, гэта было б вельмі добра для нашай краіны, калі б такія героі былі пахаваныя ў Беларусі. Зь іншага боку, летувісы ня маюць да яго сэнтымэнтальных дачыненьняў. У прынцыпе, мне здаецца, што для іх гэта ня будзе сур’ёзным выклікам, яны яго ня лічаць сваім героем, бо Кастусь Каліноўскі быў выразна беларусацэнтрычны. Таму я лічу, што мэтазгодна да іх зьвярнуцца, — сказаў Кім.

**Тамара Воронина Шостак**

Не заслугоуваем такога гонару.

**Aliaksandr Faktarovich**

Пахаваць Каліноўскага ў Саюзнай дзяржаве... Ну-ну. І помнік на мастацкім узроўні, як у Курапатах.

**Zmicer Shyshkou**

Прычым тут нейкая „саюзная дзяржава“???

**Алег Леўчык**

Сапраўды, а пры чым тут „Саюзная дзяржава“? Яна ў галаве Лукашэнкі, часткі саўкоў ды расейцаў, якія мараць пра ўзнаўленьне СССР ды вяртаньне сваёй імпэрыі.

## Пазьняк: Каліноўскі — наш сьцяг, і ён мае быць там, дзе быў узьняты

24 верасьня 2019

У інтэрнэце пачалі зьбіраць подпісы за пахаваньне Кастуся Каліноўскага ў Беларусі. Сярод тых, хто падпісаў зварот, — пісьменьнікі Сьвятлана Алексіевіч і Ўладзімер Арлоў, гімнастка Меліціна Станюта, гісторык Алесь Краўцэвіч, бізнэсовец Юрый Зісер, музыка Лявон Вольскі і іншыя.

Катэгарычна супраць гэтай ідэі выступіў лідэр БНФ і адкрывальнік Курапатаў Зянон Пазьняк.

Свае аргумэнты палітык агучыў у інтэрвію Свабодзе.

— Ці бачыце вы аргумэнты за пахаваньне Каліноўскага ў Беларусі?

— Не. Гэтага катэгарычна нельга рабіць. Гэта неразумная і антыкультурная справа. Сьмерць Каліноўскага ў Вільні зьвязаная зь ягонай дзейнасьцю. Гэта „Яська, гаспадар з-пад Вільні“. Ён у Вільні дзейнічаў, у Вільні былі кансьпіратыўныя кватэры, ён там быў зьнішчаны і закапаны на Замкавай гары. Ягоная сьмерць у гэтым месцы — сакральная. Туды беларусам трэба хадзіць калі не на каленях, то хаця б пешшу. І гэтая магіла павінна быць там. Я вельмі абураны гэтай ідэяй, яна крайне неразумная.

— Прыхільнікі пахаваньня ў Беларусі кажуць, што ён беларускі герой, а ня польскі ці літоўскі, і таму павінен быць там, дзе яго лічаць сваім героем.

— Яго месца там, дзе ён змагаўся, дзе ўвайшоў у гісторыю, дзе ён паклаў сваё жыцьцё за Беларусь. Каліноўскі — гэта чалавек, які сьцьвердзіў беларускую нацыю. Уся шляхта, якая змагалася за свабоду,

змагалася за свабоду Рэчы Паспалітай. У іх не было нацыянальнай ідэі, яны змагаліся на польскай мове. Каліноўскі адлюстраваў нацыянальную ідэю для інтэлігенцыі, якая за мову і за адраджэньне Беларусі. Без Каліноўскага ўсяго гэтага магло б і ня быць. „— Каго любіш? — Люблю Беларусь! — То ўзаемна“. Ён — сьцяг, які сьцьвердзіў нашую нацыю, і ён мае быць там, дзе быў узьняты.

— Беларускія героі паміралі шмат дзе па-за Беларусьсю. Але ці значыць гэта, што яны павінны заўсёды заставацца там, дзе завяршылася іх жыцьцё?

— Вось Іван Луцкевіч памёр, напрыклад, у Закапаным, але гэта было абсалютна выпадкова. Ён быў хворы і паехаў туды лячыцца. Гэты горад ніяк не зьвязаны ні зь яго дзейнасьцю, ні з жыцьцём. Гэта быў выпадак. У такіх умовах можна перавозіць. Але ёсьць і іншы прыклад: Багдановіч у Крыме. Ягоная сьмерць у Ялце — гэта легенда, авеяная яго паэзіяй, яго трагічным вершам і трагічным жыцьцём. Гэта сакральнае месца. Яго нельга перавозіць сюды, і дзякуй Богу, што не перавезьлі.

— Ці было б вашае меркаваньне іншым, калі б Беларусь была дэмакратычнай дзяржавай пад бел-чырвона-белым сьцягам?

— Не. Нават калі б сучасная Літва была супэрдыктатарскай і варожай дзяржавай, усё роўна ён павінен быць там. Гэта духоўны жыцьцёвы закон, і такія элемэнтарныя рэчы павінен разумець кожны беларускі інтэлігент. Я зьдзіўлены, што такая ідэя зьявілася.

**Миша Ого-го**

А сам Зянон быў у Вільні на пахаваньні герояў-паўстанцаў ці не?

## Калі чакаць, пакуль Беларусь стане беларускай, то так і сканаем у чаканьні

25 верасьня 2019
Алесь Краўцэвіч

Каліноўскі — наш нацыянальны герой. Месца свайго пахаваньня ён выбіраў ня сам.

Мы даўно прысабечылі яго духоўна, дык што перашкаджае зрабіць гэта і фізычна?! Калі зьявілася такая магчымасьць?! Дзе ж яму спачываць, як не ў Беларусі?!

Вільня знаходзіцца ў іншай краіне, і любое беларускае сьвята, зьвязанае зь месцам пахаваньня, будзе залежаць ад ласкі ўладаў гэтай краіны. Разважаньні кшталту — пакінуць Кастуся ў Вільні, каб потым яе забраць, фізычна ці мэнтальна, падаюцца несур’ёзнымі і небясьпечнымі.

Калі чакаць, пакуль Беларусь стане беларускай, то так і сканаем у чаканьні. Ці стаялі б у нас сёньня помнікі Гедзіміну, Альгерду, Сапегу, Касьцюшку, ці была б перапахаваная Магдалена Радзівіл?! Калі б чакалі?

Ці ня знойдзецца побач зь ёй месца Кастусю, якраз да часу калі Беларусь стане беларускай? Ці потым зноў будзем прасіць выкопваць яго з магілы ў Вільні?

Нацыятворчы патэнцыял аўтэнтычных парэштак нацыянальнага героя Беларусі можа напоўніцу рэалізавацца толькі на беларускай тэрыторыі.

Месца пахаваньня Каліноўскага належыць дасканала прадумаць. Каб каля яго магла зьбірацца вялікая колькасьць людзей для ўрачыстасьцяў: прысягі, прыёму ў афіцэры, у скаўты і інш.

І каб кожны беларус у любы момант мог туды прыйсьці сам і з дзецьмі, ня просячы замежнай візы.

## Каліноўскі: забраць, каб страціць

25 верасьня 2019
Сяргей Дубавец

Пахаваньне парэштак Кастуся Каліноўскага ў Беларусі выглядае як чыстай вады ўкід, на які паддаліся паважаныя падпісанты.

Па-першае, ні ў кога няма хоць колькі-небудзь пэўнай візіі гэтага пахаваньня: дзе, кім, у якім „фармаце“. Хто ў Менску хоча, хто ў Сьвіслачы, хто на могілках, хто на плошчы — я перакананы, што спрэчка па кожным пункце расколе шаноўную грамаду, зьвядзе тэму нацыянальнага героя да мітусьні нашчадкаў вакол ягонага імя.

Па-другое, цяперашнія афіцыйныя канцэпты гісторыі не пакідаюць для Каліноўскага месца. Скасаваньне ордэна ягонага імя ў 2004-м, запісваньне яго ў палякі... Нават самае актуальнае пасланьне героя цяпер у Беларусі немагчыма працытаваць без купюр: „Толькі тады, народзе, зажывеш шчасьліва, калі над табой м...ля ўжо ня будзе“.

Пахаваўшы Каліноўскага ў Беларусі (а без уладаў гэтага не адбудзецца), афіцыёз паспрабуе тым самым увогуле закрыць тэму нацыянальнага героя. Гэта будзе паўторнае пахаваньне „на тэрыторыі расейскага гарнізону“, каб не дапусьціць паломніцтва да магілы, як тое ўпершыню адбылося ў 1864 годзе. Каліноўскага ўлады панічна баяцца. І ініцыя-

тыва з пахаваньнем у Беларусі нагадвае выкраданьне з мэтаю зьнішчыць.

Па-трэцяе. Сваю сьмерць Каліноўскі прыняў на Лукіскім пляцы ў Вільні — і гэта знакавае месца беларускай гісторыі. Пахавалі Каліноўскага ў братняй магіле на Замкавай гары ў Вільні — яшчэ адно знакавае месца. Доўгі час літоўцы сьцьвярджалі, што ніякага пахаваньня там няма. Але паўстанцы самі выйшлі з магілы. Гара абрынулася. І сёньня гэта знакавая падзея беларускай гісторыі.

Заплянавана пахаваньне паўстанцаў на могілках Росы — яшчэ адным знакавым месцы, дзе спачываюць героі несавецкай беларускай гісторыі.

Перавоз Каліноўскага ў Беларусь дэсакралізуе і ягоны подзьвіг, і ягонае імя, і ўсе гэтыя зьвязаныя зь ім месцы.

На маю думку, ня варта ў такой надзвычай датклівай і адначасова глыбокай тэме „грымець косткамі“. Было б лепш, калі б шаноўныя падпісанты выказаліся за эўрапейскую пэрспэктыву для Беларусі з Эўразьвязам. Бліжэй было б і Каліноўскаму, і да Каліноўскага.

## Група літоўскіх парлямэнтароў сабралася падтрымаць перазахаваньне Каліноўскага ў Беларусі

25 верасьня 2019

Калектыўны зварот з просьбай перадаць Беларусі парэшткі аднаго зь лідэраў антырасейскага паўстаньня 1863 году Кастуся Каліноўскага разглядаўся 24 верасьня на ўзроўні найвышэйшых асобаў

Літвы, падзялілася са Свабодай канфідэнцыйнай інфармацыяй абазнаная крыніца.

„Подпісы, якія выклікалі рэзананс у беларускім грамадзтве, — гэта толькі постфактум, — адзначыў літоўскі актывіст. — Неўзабаве зьявіцца таксама зварот ад групы літоўскіх парлямэнтароў з аналягічнай просьбай: станоўча адказаць і перадаць Каліноўскага беларускаму боку“.

Пра такія пляны літоўцаў Свабодзе расказваў і адзін зь беларускіх палітыкаў, які пры гэтым адмовіўся ўдакладняць нейкія дэталі.

За пахаваньне ў Беларусі ўжо выказаўся літоўскі філёзаф, прафэсар Гінтаўтас Мажэйкіс, які бачыць у Каліноўскім сымбаль незалежнасьці Беларусі, асабліва важны ў кантэксьце перамоваў з Расеяй аб „паглыбленьні інтэграцыі“.

Паводле суразмоўцы зь Літвы, ідэя зь пераездам парэштак Каліноўскага на радзіму была агучаная яшчэ на пачатку лета, неўзабаве пасьля перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах Гітанаса Наўседы. Але толькі цяпер махавік закруціўся на поўную магутнасьць.

Шэраг прадстаўнікоў беларускай апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці накіравалі зварот да прэзыдэнта і Сойму Літвы, каб Кастуся Каліноўскага пахаваць у Беларусі. Некаторыя апанэнты іх жорстка раскрытыкавалі — маўляў, ня месца народнаму герою ў аўтарытарнай краіне.

Прадстаўнікі ўладаў Беларусі пакуль не падпісвалі ліста і не выказваліся пра пахаваньне.

Пахаваньне Кастуся Каліноўскага ў Беларусі лабіююць некаторыя літоўскія палітыкі, найперш кансэрватары з партыі „Саюз Айчыны — Хрысьціянскія дэмакраты Літвы“. У офісе арганізацыі паведамілі, што іхны лідэр Жыгімантас Павілёніс

да канца тыдня ў службовай выправе, таму камэнтары з гэтай нагоды будуць пазьней.

Дарадца прэзыдэнта Літвы Антанас Бубняліс не пацьвердзіў Свабодзе зьвестак пра датычнасьць прэзыдэнта да кулюарных перамоваў, удакладніўшы, што гэта не кампэтэнцыя першай асобы дзяржавы:

— Калі я правільна разумею сытуацыю, справу з пахаваньнем паўстанцаў трымае на кантролі не прэзыдэнт, а ўрад. Там ёсьць адмысловая камісія, кампэтэнтная разглядаць падобныя пытаньні. Прэзыдэнт у гэтыя справы ня ўмешваецца, — сказаў прадстаўнік прэзыдэнцкага кабінэту.

У канцылярыі літоўскага ўраду на запыт Свабоды адказалі, што ў парадку дня прэм’ер-міністра, канцлера і віцэ-канцлера гэткія пытаньні ў гэтыя дні ня значацца:

— Пакуль што абмеркаваньняў на гэтую тэму не было, магчыма, нешта зьявіцца пазьней. Камісія досыць даўно ўжо не зьбіралася, а без экспэртаў такія пытаньні наўрад ці будуць вырашацца, як той казаў, „са столі“, — адзначылі ў апараце ўраду.

Суразмоўца Свабоды, знаёмы з працэдурамі мэмарыялізацыі, адзначае, што пахаваньне Каліноўскага ў Беларусі можа стаць прычынай таго, што літоўскія ўлады адмовяцца ад беларускай мовы ў нэкропалі іншых паўстанцаў, целы якіх знайшлі побач з пахаваньнем Каліноўскага:

— Магчыма, ініцыятары і падпісанты пакуль не ўяўляюць усіх наступстваў, але сваімі дзеяньнямі могуць сапсаваць усю ранейшую справу: і безь беларускіх надпісаў застанемся, і бяз згадкі пра Беларусь на месцы пахаваньня, — падкрэсьлівае суразмоўца.

## Дзе варта пахаваць Каліноўскага? Што кажуць беларускія гісторыкі

25 верасьня 2019

Свабода сабрала меркаваньні трох гісторыкаў за перанос цела ў Беларусь і аднаго — супраць.

Кандыдат гістарычных навук, археоляг Сяргей Тарасаў перакананы: найлепшым месцам для мэмарыялу было б месца ў цэнтры Менску, хоць у сёньняшняй сытуацыі „гэтага не дазволяць па-любому“. Пры гэтым ён супраць, каб месцам спачыну нацыянальнага героя сталі канфэсійныя могілкі — на той самай Кальварыі бракуе месца, каб сабрацца вялікай грамадзе.

Пры гэтым не адкідае і варыянт, каб пахаваць парэшткі побач з братам Віктарам на радзіме ў Сьвіслачы, што на Горадзеншчыне. Далёка ад сталіцы, але можа ператварыцца ў знакавы маршрут для кожнага беларускага патрыёта.

Кандыдат гістарычных навук, археоляг Алег Трусаў у якасьці такога месца бачыць Усходнія могілкі — побач зь іншымі выбітнымі беларусамі: Васілём Быкавым, Уладзімерам Караткевічам, Міхасём Ткачовым.

Аднак рабіць гэта можна, удакладняе ён, толькі пры адной умове: калі літоўскі ўрад праз МЗС сваёй краіны накіруе ноту ў Беларусь з прапановай забраць свайго гераічнага земляка. Тады адмовіцца будзе проста немагчыма, гэтым скарыстаецца „русский мир“. Маўляў, сказаў Ігар Марзалюк (праўладны гісторык і дэпутат Палаты прадстаўнікоў. — РС), што Каліноўскі гэта польскі герой, а ў Менску і пагадзіліся. Аднак калі афіцыйна нічога

ня будзе, то „ня варта ганьбіцца і рабіць скандал на роўным месцы“.

Доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч перакананы, што месца пахаваньня Кастуся Каліноўскага належыць дасканала прадумаць усім разам.

Найперш дзеля таго, каб каля яго магілы магла зьбірацца вялікая колькасьць людзей для ўрачыстасьцяў. Гэта можа быць і вайсковая прысяга, і прыём у скаўты, і г. д. Каб кожны беларус у любы момант мог туды прыйсьці сам ці зь дзецьмі, „ня просячы замежнай візы“. Вільня цяпер у іншай краіне, і любая імпрэза будзе залежаць ад ласкі тамтэйшых уладаў, адзначае ён.

Доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук, горадзенскі калега Алеся Краўцэвіча, настойвае, што чапаць парэшткі героя ня варта. Магіла Каліноўскага ў Вільні — гэта яго пахаваньне сярод сяброў і паплечнікаў, кажа ён.

Гэтаксама як і сьведчаньне прыналежнасьці Вільні да беларускай гісторыі. Зь яго гледзішча, ня выключана, што ініцыятыва асобных літоўскіх палітыкаў у справе перадачы парэштак Каліноўскага Беларусі абумоўленая ў першую чаргу якраз імкненьнем працягваць „літоўскую прыхватызацыю“ Вільні. Кастусь Каліноўскі не павінен быць закладнікам палітычных гульняў, а прадстаўнікі беларускай культурніцкай эліты не павінны ў гэтым удзельнічаць, падсумоўвае ён.

Настаяцель касьцёла Сьвятога Роха на Залатой Горцы ў Менску ксёндз-канонік Юры Санько сказаў „Нашай Ніве“, што перадусім гэта пытаньне дзьвюх дзяржаваў. Аднак калі ўсё адбудзецца, то будзе створаны аргкамітэт дзеля пахаваньня, у рамках

якога Касьцёл з радасьцю ўзяў бы свой чынны ўдзел ды разгледзеў магчымасьць даць зямлю пад магілу каля аднаго са сталічных храмаў.

## Каліноўскага нельга хаваць у зямлю!

25 верасьня 2019
Сяргей Абламейка

Уражвае недальнабачнасьць тых, хто купіўся на яўна інсьпіраваную зь Літвы (а можа і з Расеі) ініцыятыву з пахаваньнем парэштак Кастуся Каліноўскага ў Беларусі.

Гэта адназначна дае літоўцам падставу адмовіцца ад беларускай мовы ў мэмарыяле на віленскіх могілках Росы.

А беларусы самі адмаўляюцца ад найважнейшага свайго духоўнага аб'екту ў Вільні, фактычна, ад самой Вільні як сымбалічнага і містычнага цэнтру беларускай гісторыі.

Але я сёньня не пра гэта.

Сёньня я пра спосаб пахаваньня. Каліноўскага хочуць закапаць!

І супраць гэтага ніхто не пярэчыць!

Нават прадстаўнік Каталіцкай царквы ў Беларусі заявіў:

„Мы б з радасьцю ўзялі ўдзел (Каліноўскі не чужы беларусам чалавек) і разгледзелі б пытаньне прадстаўленьня зямлі каля аднаго са сталічных касьцёлаў пад магілу".

Пасьля майго паста ў Фэйсбуку пра непажаданасьць пахаваньня ў Беларусі Ўладзімер Мацкевіч напісаў у камэнтары, што, нібыта, дасягнутая да-

моўленасьць разьдзяліць парэшткі Каліноўскага і адну частку пахаваць у Менску, на месцы былых Залатагорскіх могілак каля касьцёла Сьвятога Роха, а другую пакінуць у Вільні.

Гэта ўжо лепш. Але...

Людзі, пра што вы гаворыце? Каліноўскага нельга хаваць у зямлю!

Гэта сакральныя косьці. Ім месца ў велічным мэмарыяльным алтары аднаго з галоўных храмаў краіны або ў адмысловым нацыянальным пантэоне, якога Беларусь пакуль ня мае.

Ці вы забыліся, што мы сваіх найлепшых хавалі ў храмах?

Ці вы ня ведаеце, дзе ляжаць нашы вялікія князі і члены паноў-рады?

Ці вы забыліся, як у Эўропе хаваюць выбітных людзей?

Ці вы ня ведаеце, што Віторыё Эмануэле ляжыць у двухтысячагадовым Пантэоне ў Рыме?

А можа вы ніколі ня бачылі велічнага алтара Тыцыяна працы Кановы і такога самага велічнага алтара самога Кановы насупраць магілы Тыцыяна ў базыліцы дэй Фрары ў Вэнэцыі?

А вы хочаце Кастуся ў зямлю?!

Пачынальнік беларускай нацыі, 26-гадовы бацька сучаснай Беларусі, герой паўстаньня, першы наш палымяны публіцыст і паэт, аўтар палітычнага запавету (Лісты з-пад шыбеніцы) і галоўнага пастуляту нашай гісторыі (...тагды толькі зажывеш шчасьліва...) ня можа быць проста закапаны ў зямлю.

Ён павінен ляжаць у месцы, дзе я змагу ўкленчыць, пакланіцца і пацалаваць яго каменную труну.

У Вільні на Росах гэта магчыма. У Менску пакуль, на вялікі жаль, не.

## Імёны Свабоды: Баляслаў Калышка

25 верасьня 2019
Уладзімер Арлоў

Ці вам не даводзілася ставіць сябе на месца нашых суайчыньнікаў, што жылі паўтара стагодзьдзя таму? Задумвацца аб тым, дзе вы былі б у 1863-м?

Кім вы лічыце іх, паўстанцаў? Героямі? Безразважнымі авантурнікамі? Вар’ятамі?

Яны адказвалі на гэтыя пытаньні сваімі лёсамі.

Уявіце сябе ў натоўпе, што аднае чэрвеньскае раніцы запоўніў перад збудаваным эшафотам віленскі Лукіскі пляц.

Аўдытар пачаў чытаць прысуд, і асуджанаму — маладому й пагляднаму шыракаплечаму інсургенту — загадалі зьняць шапку. „Абыдзецца! — крыкнуў ён афіцэрам. — Ня бачу тут нікога больш годнага за сябе!“ Калі кат нацягваў пятлю, вяроўка парвалася, што здавён лічылася знакам невінаватасьці, але, вядома ж, прагучала каманда паўтарыць экзэкуцыю. Студэнт юрыдычнага факультэту Маскоўскага ўнівэрсытэту Баляслаў Калышка браў удзел у сутычках з паліцыяй падчас хваляваньняў у 1861 годзе. Пасьля гэтага ён на паўгоду прыехаў дадому, у Лідзкі павет, дзе вёў рэвалюцыйную агітацыю ня толькі сярод сялянаў ды мяшчанства, але і сьмела заходзіў у павятовай сталіцы ў цукроўню ды раздаваў там расейскім афіцэрам праклямацыі й памфлеты Аляксандра Герцэна.

У лютым 1863-га ён апошні раз зьявіўся ў Лідзе і ваколіцах, каб разьвітацца з сваякамі. Баляслаў атрымаў ад паўстанцкага кіраўніцтва прызначэньне ў Жамойць.

Хутка ягоны аддзел налічваў ужо некалькі сотняў стрэльбаў і косаў.

Калі ён прывёў сваіх людзей да Зыгмунта Серакоўскага, што меў званьне літоўскага ваяводы, той уражана ўсклікнуў: „Каб ня бачыў Вас перад сабою, ня даў бы веры, што Вы жывы, бо з столькіх небясьпекаў хіба па небе можна вырвацца!“

У змаганьні з рэгулярнай арміяй імпэрыі паўстанцы маглі дасягнуць адно часовых посьпехаў.

У красавіцкіх баях пад Біржамі жамойцкія інсургенты, на чале якіх, як і ў выпадку з Калышкам, часта стаялі нашы суайчыньнікі, прадэманстравалі сапраўдны гераізм.

Аднак сілы былі няроўныя. Асабліва цяжкай для змагароў стратаю быў захоп у палон камандзіраў — Калышкі й Серакоўскага...

Баляслаў Калышка. 7.8.1837, фальварак Карманішкі, паблізу Эйшышак, цяпер Літва — 9.6.1863, Вільня. Пахаваны на віленскіх могілках Росы.

## Пасьля эксгумацыі парэштак Віктара Каліноўскага ўлады Беларусі не перадалі Літве генэтычны матэрыял

25 верасьня 2019

Пра гэта Радыё Свабода паведаміў літоўскі прафэсар Рымантас Янкаўскас, які ад Літвы быў назіральнікам падчас эксгумацыі магілы Віктара Каліноўскага ў горадзе Сьвіслач Горадзенскай вобласьці ў пачатку ліпеня сёлета:

„На жаль, ніякіх навінаў [няма], бо ўлада Беларусі нам не перадала ўзоры“, — напісаў прафэсар

катэдры анатоміі, гісталёгіі і антрапалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту Рымантас Янкаўскас, адказваючы на наш электронны ліст.

На пытаньне, ці перадаў літоўскі бок узоры Кастуся Каліноўскага беларускім уладам для генэтычнай экспэртызы, Рымантас Янкаўскас сказаў:

„Не перадалі, бо яны (Сьледчы камітэт Беларусі — РС) не прасілі“.

Свабода таксама пацікавілася ў Рымантаса Янкаўскаса, ці літоўскі бок зьвяртаўся да беларускіх уладаў у справе перадачы генэтычных узораў Віктара Каліноўскага? І чаму тыя ўзоры не былі адвезеныя ў Вільню яшчэ ў ліпені, адразу пасьля эксгумацыі парэштак Віктара Каліноўскага?

Прафэсар Янкаўскас адказаў наступным чынам:

„Да Беларусі зьвярталіся дзьвюма афіцыйнымі дыпляматычнымі нотамі, яшчэ ў 2018 годзе. Праз некалькі месяцаў (у лістападзе) прыбыла дэлегацыя беларускіх экспэртаў, якія падрабязна азнаёміліся з працамі, тым матэрыялам, які маем і г. д.

Пасьля гэтага да траўня месяца была цішыня. Тады мы атрымалі інфармацыю, што працы прызначае Сьледчы камітэт, і для гэтага пракуратура Літвы падрыхтавала афіцыйнае хадайніцтва аб прававой дапамозе.

Адказваючы на яго, Сьледчы камітэт правёў эксгумацыю ў Сьвіслачы, на якой нам дазволілі прысутнічаць у якасьці назіральнікаў. Было сказана, што ўзоры літоўскаму боку будуць перададзеныя паводле дзейных законаў.

Карацей кажучы, мы асабіста і літоўская амбасада ў Менску зрабілі ўсё, што магчыма: афіцыйнымі і неафіцыйнымі шляхамі спрабавалі закончыць экспэртызу да канца. Гэта можна было зрабіць яшчэ ў

ліпені, але, на жаль, з таго часу аніякай інфармацыі мы ня маем“.

У ліпені сёлета была праведзена эксгумацыя меркаванай магілы роднага брата Кастуся Каліноўскага Віктара.

У выніку былі знойдзеныя парэшткі двух чалавек — мужчыны і жанчыны.

Эксгумацыю праводзіў Сьледчы камітэт Беларусі.

Зь літоўскага боку прысутнічалі прафэсар-антраполяг Рымантас Янкаўскас, доктар гістарычных навук Юсьціна Казакайце, другі сакратар амбасады Літвы ў Беларусі Міндаўгас Габрэнас. Прысутнасьць літоўцаў фінансаваў літоўскі бок.

## Урад Літвы не зьбіраецца перадаваць Беларусі парэшткі Каліноўскага. Пакуль што

26 верасьня 2019

У навінах Літоўскай нацыянальнай тэлерадыёкампаніі LRT расказалі пра просьбу перадаць Беларусі парэшткі Кастуся Каліноўскага. Кажуць, урад ня будзе разглядаць просьбу беларускіх інтэлектуалаў.

„Некалькі дзясяткаў беларускіх інтэлігентаў просяць Літву перадаць парэшткі беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага, каб яны былі пахаваныя, — расказваюць у літоўскіх вечаровых навінах. — Аднак урад кажа, што такую просьбу разглядаць ня будзе, а Каліноўскі зь іншымі паўстанцамі будзе пахаваны на могілках Росы ў Вільні ў лістападзе“.

Адназначнай заявы з боку ўраду Літвы пра гэта не было.

Так, першы намесьнік канцлера ўраду Літвы Дэйвідас Матулёніс казаў 25 верасьня, што Літва не атрымлівала афіцыйнай просьбы пахаваць парэшткі Кастуся Каліноўскага ў Беларусі — толькі даведаліся з прэсы пра зварот беларускіх інтэлектуалаў.

Гэтай прапанове ва ўрадзе на дадзены момант не давалі ацэнкі, кажа ён, і на гэты момант плянуецца пахаваць Каліноўскага разам зь іншымі паўстанцамі ў Вільні, у цэнтральнай капліцы могілак Росы. „Што там будзе ў будучыні, цяжка сказаць, але сёньня прынята рашэньне, што яны будуць пахаваныя ў Вільні“.

На пахаваньне паўстанцаў у Вільні (і ў іх ліку Каліноўскага) ужо запрасілі прэзыдэнта і прэм’ера Польшчы, і яны выказалі зацікаўленасьць, дадаў Матулёніс. Адпаведныя ноты будуць пасланыя Ўкраіне і Латвіі. З палякамі размаўляюць на гэтую тэму асобна, паколькі „вырашана правесьці супольную цырымонію“.

Матулёніс казаў, што запрашэньняў беларускім афіцыйным асобам не высылалі, але хацелі б запрасіць і дзяржаўную дэлегацыю, і грамадзкія арганізацыі, якія шануюць памяць пра Каліноўскага.

„Мы паспрабуем іх больш дакладна вызначыць і запрасіць іхных прадстаўнікоў, а разам і Каталіцкую царкву Беларусі, якая таксама вельмі зацікаўленая“, — сказаў Матулёніс і дадаў, што апошняй запрашэньне будзе ад імя Каталіцкай царквы Літвы.

Але 26 верасьня, як піша BNS, міністар замежных справаў Літвы Лінас Лінкявічус на сустрэчы зь беларускім калегам запрасіў беларускую дэлегацыю на цырымонію пахаваньня паўстанцаў у

Вільні (імя Каліноўскага наўпрост ня згадвалася ў паведамленьні).

Міністар Макей не адказаў, на якім узроўні можа быць дэлегацыя.

Дырэктар Інстытуту гісторыі Літвы Альвідас Нікжантайціс у інтэрвію парталу 15min.lt кажа пра разуменьне жаданьня беларусаў пахаваць Каліноўскага ў Беларусі, разважае пра пагрозы незалежнасьці Беларусі і параўноўвае сымбалічнасьць асобы Каліноўскага для Беларусі за значэньнем Вітаўта для Літвы.

Аднак ён адзначае, што ўлады Беларусі пра пахаваньне не выказваліся, а беларуская эліта ня мае адзінства ў думцы наконт годнага месца пахаваньня Каліноўскага. Дэманстрацыя прыхільнасьці да Каліноўскага „ідзе супраць афіцыйнай палітычнай лініі“ ў Беларусі, думае ён, таму ўзьнікае пытаньне пра тое, што ж будзе з парэшткамі Каліноўскага, калі іх перададуць у Беларусь. Калі ў Літве ёсьць такі „нацыянальны нэкропаль“ як Росы, то ў Беларусі — толькі разважаньні пра стварэньне чагосьці падобнага. Таму, як адзначае Нікжантайціс, літоўцы маюць „дастаткова аргумэнтаў“, каб пахаваць Каліноўскага ў Вільні, недалёка ад месца сьмерці яго і ягоных паплечнікаў.

**Тамара Воронина Шостак**

Цалкам падтрымливаю литоуски бок. Калиноускаму няма месца у ленинска-сталинскай-халопскай дзяржаве. Прабач, Кастусь, ты у нашым сэрцы!

**Нирей Таэль**

Не мудрылі б, а лепш пачалі пошук парашткаў Вацлава Ластоўскага і Мельхісэдэка Паеўскага ды іншых асоб, чые косці гніюць у Расіі.

## Дэпутат літоўскага Сэйму пра Каліноўскага: „Гэта герой найвышэйшага парадку, і ён застанецца ў Вільні“

26 верасьня 2019

Старшыня міжнароднай камісіі Сойму Літвы, самы дасьведчаны дэпутат з амаль 30-гадовым стажам працы ў парлямэнце Эмануэліс Зінгерыс у гутарцы са Свабодай пракамэнтаваў ініцыятывы магчымай перадачы парэштак Кастуся Каліноўскага ў Беларусь.

Спадар Зінгерыс называе „надзвычай важнай гістарычнай падзеяй“ тое, што праз гэтулькі часу нарэшце знайшлі ды ідэнтыфікавалі парэшткі паўстанцаў. Штогод Эмануэліс Зінгерыс разам зь першым кіраўніком незалежнай Літвы Вітаўтасам Ландсбергісам бярэ ўдзел ва ўрачыстасьцях, прысьвечаных паўстаньню 1863 году на Лукіскім пляцы ў Вільні, дзе выконвалі сьмяротныя прысуды.

Паводле яго, тагачасны лёзунг „За нашу і вашу свабоду“ ня страціў актуальнасьці і сёньня — найперш у Беларусі, на радзіме Кастуся Каліноўскага. І менавіта з гэтай прычыны асабіста ён супраць таго, каб змагар, які ўсё жыцьцё прысьвяціў барацьбе зь несправядлівасьцю, зноў стаў закладнікам прарасейскага рэжыму.

— Дзеля справядлівасьці, у Літве, Польшчы ўнёсак Каліноўскага ў нацыянальна-вызвольны рух ацэньваецца ня так, як у Беларусі: нават беларуская афіцыйная гістарыяграфія прызнае ягоныя заслугі. Ці азначае гэта, што, скажам, для літоўскага

істэблішмэнту дапушчальная страта „не найважнейшага героя“?

— Дыскусія толькі пачынаецца, вы падключаецеся да яе пачатку... Знаходкі археолягаў, гісторыкаў на гары князя Гедзіміна (самым галоўным месцы ВКЛ і цяперашняй Літвы) парэштак апошніх герояў XIX стагодзьдзя найвышэйшага рангу, якія ўзначальвалі паўстаньне і супрацьстаялі сатрапам, — проста эпахальная падзея. Дзіўна, што гэтага не адбылося раней; мы больш ведалі пра дзясяткі тысяч прадстаўнікоў асьвечаных колаў Беларусі, Літвы, Польшчы, часткі Ўкраіны, якіх генэрал Мураўёў выслаў у Сібір, чым пра тых, хто ляжаў побач. У гэтым сэнсе Вільня павінна застацца месцам неаспрэчнага знаходжаньня парэштак герояў. Амаль у кожным горадзе Літвы, Польшчы, магчыма і Беларусі, ёсьць вуліцы, названыя ў гонар Каліноўскага. Таму мы лічым яго героем першага шэрагу, а заклік „За нашу і вашу свабоду!“ дагэтуль ёсьць актуальным. На жаль, у шэрагу краінаў усталяваліся таталітарныя рэжымы і працягваецца барацьба за дэмакратыю. У тым ліку ў Беларусі.

— Ужо чуюцца прапановы падзяліць Каліноўскага „на мошчы“, пахаваўшы часткі ў розных месцах Эўропы, да якіх ён меў дачыненьне. Маўляў, каб нікому не было крыўдна...

— Нягледзячы на тое, што вялікія масы беларусаў удзельнічалі ў грамадзкім паўстаньні супраць паняволеньня, змагаліся за незалежнасьць, роўнасьць і братэрства, менавіта Вільня мусіць стаць месцам апошняга спачыну для тых, хто завяршыў тут жыцьцё. Я зь цяжкасьцю магу ўявіць, каб адна частка парэштак Каліноўскага паехала ў Менск, другая ў Варшаву, а трэцяя яшчэ кудысьці. Усё ж

гэта не рэліквіі сьвятых, якія можна трымаць у храмах па ўсім сьвеце. У нашым выпадку барацьбіт за свабоду мусіць быць годна пахаваны „цалкам“. Паколькі цэнтральным месцам для ВКЛ, куды ўваходзілі землі Беларусі, Літвы, Латвіі, Украіны і якое суіснавала ў адной дзяржаве з Польскім каралеўствам, ёсьць Вільня, не магу назваць здаровай ідэю падзяліцца з усімі роўнымі фрагмэнтамі шанаванага чалавека. Так, большая частка сялянаў была зь беларускіх родаў (адрозна ад паўстаньня 1831 году, калі шляхта грунтавалася на ідэалах Францускай рэвалюцыі і польска-літоўскай Канстытуцыі 3 траўня 1791 году), але мы павінны дайсьці да агульнага разуменьня: пантэон для вялікіх пакутнікаў і герояў, якія падняліся, каб вызваліць нашыя землі ад расейскага фэадалізму і далучыцца да Заходняй Эўропы, мусіць быць у Вільні. Тыя выступленьні для нас настолькі важныя, што мы думаем пакінуць героя найвышэйшага парадку тут. Ня ведаю, адкуль зьвесткі пра „зацятыя дыскусіі“.

— Значыць, пэрсанальна вы супраць таго, каб „адрываць“ кіраўніка паўстаньня ад сваіх паплечнікаў. Дарэчы, сярод дваццаці аднаго пакаранага сьмерцю на Лукішках толькі трое не паходзяць зь беларускіх земляў, таму лягічна прасіць „вярнуць дадому“ амаль што ўсіх...

— Мы разумеем, што тэма вельмі важная для дэмакратычнай грамады Беларусі, канчаткова ня вызваленай з-пад кайданоў дыктатара Лукашэнкі. Разам з тым у дэмакратычнай Вільні мы думаем, што пад сіне-зорным сьцягам парэштткі Каліноўскага, які аддаў жыцьцё за мільёны людзей, што марылі аб вяршэнстве правоў чалавека ў кантэксьце дэклярацыі Францускай рэвалюцыі, будуць больш

адпавядаць ягоным ідэалам. Гэтыя тэрыторыі на інстынктыўным узроўні пачуваліся Заходняй Эўропай, а не „Северо-Западным краем“. У ВКЛ сотні гадоў адбывалася працэдура наданьня Магдэбурскага права грамадзянам вольных гарадоў, што рэзка кантраставала з самадзяржаўем Маскоўскага княства, а пасьля і Расейскай імпэрыі. Таму вызваленьне ад гэтай імпэрыі ўспрымаецца як працэс аднаўленьня правоў чалавека. Гіганцкае спазьненьне (у параўнаньні з эўрапейскімі краінамі) вызваленьня ад прыгону сялянаў прычынілася да таго, што на паход Напалеона ў Польшчы, Літве, Заходняй Беларусі глядзелі, несумненна, пазытыўна. Бо з гэтай арміяй ішло і стаўленьне да свабоды, тоеснае таму, што адбывалася на тэрыторыі нямецкіх княстваў і ў самой Францыі.

— Іншымі словамі, вы лічыце, што душы Каліноўскага ў Літве будзе нашмат камфортней, чым у Беларусі?

— Так ці інакш імя Каліноўскага гучыць на ўзроўні першых зорак — як я ўжо казаў, вуліцы ў ягоны гонар у нас цэнтральныя. На жаль, калі глядзець на моцна прыпозьненую з дэмакратыяй Беларусь і мужных людзей, якія дагэтуль змагаюцца за свабоду сваёй краіны, усё ж больш справядліва, калі Эўразьвяз будзе мець у сваіх межах [парэшткі] чалавека, які быў нарожным каменем для разьвіцьця правоў чалавека ў XIX стагодзьдзі. Не сумняваюся, што гэтая прастора цягам усіх гадоў расейскай акупацыі жадала зноў вярнуцца на колы заходнеэўрапейскага існаваньня. Для нас гэты чалавек ёсьць сьветачам № 1 свайго часу і зьвязаны ня толькі з вызваленьнем беларускага народу, а і з барацьбой усёй польска-літоўскай дзяржавы, якая

пасьля Канстытуцыі 3 траўня 1791 году ўвесь час вярталася да ідэі, што гэтая прастора больш прыдатная для таго, што Францыя прапанавала ў 1789 годзе ўсёй Заходняй Эўропе: кожная асоба ёсьць свабоднай.

— І ўсё ж ці ёсьць сілы ў літоўскім парлямэнце, у палітычнай сыстэме краіны, якія дамаўляюцца зь беларускім бокам, лабіююць уласныя інтарэсы? Ці можа ісьці „гандаль Каліноўскім“ кулюарна, непублічна?

— Вядома, могуць быць людзі, якія думаюць, што знаходжаньне Каліноўскага ў ня вызваленай ад дыктатуры краіне будзе стымулам для дэмакратычнага руху. Калі высока трымаць сьцяг свабоды і правоў чалавека, гэта само па сабе будзе канфрантаваць зь цяперашнім „уладальнікам“ Беларусі. То бок у такім сэнсе ствараць для Лукашэнкі некамфартабэльную зону існаваньня. Іншымі словамі, хатнія заданьні па дэмакратыі пастаянна будуць маячыць перад ягонымі вачыма ў выглядзе манумэнта Каліноўскаму — калі, натуральна, рэжым такое дапусьціць. Такая думка трымаецца на тым, што ў нас ня толькі некалькі дзясяткаў кілямэтраў беларускай мяжы а-ля „жалезная заслона“ паміж Усходам і Захадам (на манер Бэрлінскага муру), дык яшчэ на нашыя галовы прыткнулі побач зь Вільняй атамную станцыю, якой мы нікольркі не давяраем. Добра разумеем, што за час кіраваньня Лукашэнкі беларускі народ пайшоў па крывой уніз і інтэлігенцыі было б надзвычай важна вярнуць дадому сьветача нацыянальнай гісторыі. Бо ў той час, як у Літве захоўваюцца шматлікія рэліквіі, прысьвечаныя вашым дзеячам гісторыі і культуры, у самой Беларусі працэс адваротны: закрываюцца школы на

роднай мове, зьнішчаюцца асновы для разьвіцьця культуры і г. д.

— Выглядае, што ў пэўным сэнсе „пад'ёмная сіла" ў выглядзе змагара за свабоду Кастуся Каліноўскага цяпер у руках літоўцаў, так?

— Гэта была б добрая нагода для беларусаў, каб узьняцца духам, нейкім чынам нацыя ўсё ж павінна адбыцца. У тым ліку дзякуючы агульнай памяці пра беспрэцэдэнтнае паводле свайго размаху паўстаньне „нізоў" супраць расейскага самадзяржаўя. Паўтаруся: мы ўсё гэта разумеем, але я ня думаю, што шкадаваньне аб нерэалізаванай дэмакратыі ў Беларусі мацнейшае, чым разуменьне простай праўды: адрозна ад Менску, Вільня ёсьць эўрапейскім цэнтрам, абароненым каптурамі NATO і Эўразьвязу. І мы ўпэўненыя, што будучы манумэнт кіраўнікам паўстаньня 1863 году тут будзе ў большай бясьпецы, чым калі аддаць яго ў рукі ўлады, якая ўсімі сваімі інстынктамі супрацьлеглая тым праўдам, якія дэкляравалі людзі, што ахвяравалі сваімі жыцьцямі за свабоду і дэмакратыю — у грамадзянскім разуменьні XIX стагодзьдзя. Таму, добра ўсьведамляючы важнасьць гэтай вялікай фігуры і якім бы ён быў стымулам для адважных і рашучых сёньняшніх дэмакратаў у Беларусі, усё ж думаем, што Каліноўскі будзе па-сапраўднаму абаронены ў Вільні, дзе былі зрэалізаваныя ягоныя ідэі і думкі. Чатыры сотні гадоў гэта была сталіца моцнай эўрапейскай дзяржавы, і праз XIX стагодзьдзе якраз праходзіла думка аднаўленьня ВКЛ у той форме, якую прапанавала агульная Канстытуцыя 3 траўня.

— Спадар Зінгерыс, за свае крытычныя заявы супраць Аляксандра Лукашэнкі вы даўно неўязны

ў Беларусь. Падаецца, пры нібыта пацяпленьні стасункаў Менску і Брусэлю ваша ацэнка далёкая ад аптымізму...

— Так, мяне шмат гадоў да вас не пускаюць, але я заўсёды ўспамінаю адно. Перасякаеш літоўскую мяжу і бачыш гіганцкую колькасьць помнікаў забойцам беларускага ды іншых народаў! Ленін, Дзяржынскі, Калінін, чорт нагу зломіць! На мяжы ў Друскеніках ёсьць парк такіх стодзіваў, мы іх туды пазвозілі з усёй Літвы. Там можна купіць сасіску за пару цэнтаў, узяць кантовую шклянку, квадратны савецкі хлеб. Гіганцкая плынь турыстаў з усяго сьвету, якія прыяжджаюць паглядзець на крывавых забойцаў-бальшавікоў. А зрабіць пару крокаў у бок Беларусі — і гэтыя ідалы тысячамі стаяць на пастамэнтах, ля іх ускладаюць кветкі! І, прабачце, побач з гэтымі людажэрамі пакласьці свабоднага чалавека Каліноўскага? Пакуль прастора ня будзе зачышчаная на ўзор Украіны ад балванаў-камуністаў, якія зьнішчылі ўсю інтэлігенцыю Беларусі, суседзтва выглядае блюзьнерствам! Прабачце за эмацыйнасьць, я разумею, што не беларускія дэмакраты ў гэтым вінаватыя, мы якраз на іхным баку. Аднак Каліноўскі і Ленін? Як можна мецъ прадстаўнікоў пекла і вышэйшага сьвету на адной вуліцы? На жаль, вельмі зацягнуўся паноптыкум неачышчанай гісторыі Беларусі. Украінцы хоць са спазьненьнем, але ўзяліся за сымбалі жахлівага кастрычніцкага перавароту. Неверагодна, што забойцаў дагэтуль шануюць у Беларусі...

— Рэспубліка Беларусь, мяркуючы з вашых высноваў, безнадзейна адстала ня толькі ад старых дэмакратыяў, а і ад маладзейшых таксама? Ад Літвы ў тым ліку...

— Уся барацьба XIX і пачатку XX стагодзьдзяў фактычна зводзіцца да аднаго — змаганьня за свабоду. І ў гэтым сэнсе на тэрыторыях, якія больш-менш утрымаліся — Польшча, Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, а цяпер, думаю, і Ўкраіна — мы маем права, каб нашыя землі былі месцам успаміну пра герояў, якія аддалі свае жыцьці за нашу і вашу свабоду. Наш народ вельмі добра разумее значнасьць Каліноўскага і за што ён загінуў. Гэта для нас вельмі сучасна, гэта не XIX стагодзьдзе. Таму тут, у межах Эўразьвязу, дзе ўсё ж дзейнічае дэмакратыя, свабодны парлямэнт і кожныя чатыры гады выбіраюць іншых лідэраў, а ня тыя самыя сядзяць дзясяткамі гадоў, мы маем права быць цэнтрам ушанаваньня тых, хто змагаўся за свабоду і дэмакратыю, якія мы ў рамках магчымага ўрэшце стварылі. І Вільня сёньня — вольны горад, у якім дзясяткі палітычных уцекачоў зь Беларусі маюць змогу свабодна выступаць, хадзіць пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Усё тое, што немагчыма ў іх на радзіме...

## Назвалі дату пахаваньня Кастуся Каліноўскага

26 верасьня 2019

Парэшткі паўстанцаў 1863–1864 гадоў пахаваюць на віленскіх могілках Росы 22 лістапада, піша партал delfi.lt са спасылкай на ўрад Літвы.

Падчас цырымоніі парэшткі паўстанцаў даставяць у віленскі Катэдральны сабор, а пасьля перавязуць на могілкі Росы.

Літоўскія ўрадоўцы падрабязна абмяркуюць цырымонію 8 кастрычніка, сказаў віцэ-канцлер ураду Дэйвідас Матулёніс:

— Парэшткі будуць зьмешчаныя ў сымбалічныя маленькія труны і будуць ганарова транспартаваныя.

## „Праз два-тры тыдні паведамім“. Чаму дагэтуль невядомыя вынікі ДНК-экспэртызы парэштак Кастуся Каліноўскага і ягонага брата Віктара?

26 верасьня 2019

Сьледчы камітэт, Генэральная пракуратура і Дзяржкамітэт судовых экспэртыз Беларусі пакуль не камэнтуюць, на якой стадыі генэтычныя экспэртызы братоў Кастуся і Віктара Каліноўскіх. МЗС Беларусі запэўнівае, што „працэс ідзе“, і абяцае раскрыць усе таямніцы праз два-тры тыдні.

Афіцыйны прадстаўнік Сьледчага камітэту Сяргей Кабаковіч перанакіраваў Свабоду ў Генэральную пракуратуру.

— У цяперашні час я не праваўладальнік інфармацыі. Хутчэй за ўсё, я параіў бы вам зьвярнуцца ў Генэральную пракуратуру, якая зьяўляецца суб’ектам міжнародных адносін, што да выкананьня розных запытаў аб прававой дапамозе, — сказаў Кабаковіч.

Афіцыйны прадстаўнік Генпракуратуры Дзьмітры Брылёў патлумачыў, што калі б пытаньне тычылася прававой дапамогі ў крымінальных спра-

вах, тады Генэральная пракуратура выступала б субʼектам прававых адносін і займалася б вырашэньнем гэтай праблемы. Але рэч у тым, што тут справа не крымінальная. І накіраваў Свабоду ў МЗС Беларусі.

Начальнік упраўленьня інфарматызацыі і лічбавай дыпляматыі беларускага замежнапалітычнага ведамства Анатоль Глаз заявіў, што камэнтаваць гэтую тэму цяпер заўчасна.

— Мы ня будзем пакуль камэнтаваць, бо мы робім справу фактычную. Калі мы зробім — мы пра ўсё абавязкова раскажам. Я спадзяюся, праз пару тыдняў, калі будуць вынікі, мы ўсё пракамэнтуем і раскажам, як яно было. Тым больш што дакладна яшчэ не вядома, чые гэта парэшткі. 96–98 % літоўцы даюць, што гэта Кастусь Каліноўскі, але без генэтычнай экспэртызы складана, — сказаў Анатоль Глаз.

На канкрэтнае пытаньне, ці перададзеныя парэшткі Віктара Каліноўскага, атрыманыя пасьля эксгумацыі, для экспэртызы літоўскаму боку, Анатоль Глаз адказаў так:

— А чаму мы павінны перадаваць? Чаму мы павінны заўсёды ўсё аддаваць? У нас таксама ёсьць магчымасьці, абсталяваньне і апаратура ў Камітэце судовых экспэртыз, нават лепшыя і навейшыя. Таму пачакайце. Працэс ідзе. Ужо пэўны час ідзе.

У Дзяржаўным камітэце судовых экспэртыз Беларусі 26 верасьня Свабодзе не ўдалося спраўдзіць, на якой стадыі генэтычная экспэртыза парэштак братоў Каліноўскіх і ці праводзіцца яна наагул. Прэсавы сакратар дзяржкамітэту Ганна Жданава паабяцала высьветліць, але пакуль не адказала на пытаньні.

## У інтэрнэце зьбіраюць подпісы за вяртаньне ордэна Кастуся Каліноўскага

27 верасьня 2019

На сайце Petitions.by („Зручны горад“) пачалі зьбіраць подпісы за тое, каб вярнуць у сьпіс дзяржаўных узнагародаў ордэн Кастуся Каліноўскага, скасаваны ў 2004 годзе.

На момант публікацыі пад пэтыцыяй падпісаліся больш за 120 чалавек. Подпісы накіруюць у Палату прадстаўнікоў.

Ордэн Кастуся Каліноўскага быў афіцыйнай узнагародай Беларусі з 1996 па 2004 год. Узнагароду маглі атрымаць грамадзяне:

- за самаадданы ўчынак, мужнасьць і адвагу, выяўленыя пры выратаваньні людзей, спыненьні злачынных замахаў на іх жыцьцё; за адвагу, выяўленую ва ўмовах падвышанай небясьпекі пры ахове грамадзкага парадку, абароне дзяржаўнай уласнасьці, пры затрыманьні злачынцаў і выкрыцьці злачынных групаў;
- за мужнасьць і трываласьць, выяўленыя падчас стыхійных бедзтваў, пажараў, аварыяў, катастрофаў і іншых надзвычайных абставін, у выніку чаго папярэджаная пагроза жыцьцю і здароўю людзей або выратаваныя значныя матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасьці;
- за іншыя самаадданыя дзеяньні, зьвязаныя з выкананьнем воінскага, грамадзянскага або службовага абавязку і спалучаныя з рызыкай для жыцьця.

У 2002 годзе да ўзнагароды пасьмяротна прадставілі старшую судовую выканаўцу з Рагачова Натальлю Камарову за „ўзорнае выкананьне служ-

бовых абавязкаў, значны ўнёсак у забесьпячэньне законнасьці і правапарадку“.

## „Гэта страшная праўда“. Як шукалі і „знайшлі“ магілу брата Кастуся Каліноўскага

30 верасьня 2019

Як у 1990-я гады ў Беларусі „адшукалася“ пахаваньне Віктара Каліноўскага, Свабодзе расказаў былы дырэктар сьвіслацкага музэю Мікалай Пакутнік.

— Як гэта было? Расказаць праўду? Гэта страшная праўда, — па-змоўніцку пачынае Мікалай Пакутнік. Спачатку ён увогуле не хацеў гаварыць на гэтую тэму.

Мужчына ўжо 17 гадоў не працуе ў музэі, цяпер яму 70 гадоў.

Дзе менавіта Віктар Каліноўскі быў пахаваны на сьвіслацкіх могілках, ніхто ніколі дакладна не пацьвярджаў. Пра пахаваньне казалі, што яно сымбалічнае, помнік на прыблізным месцы. Менавіта гэта было перашкодай для эксгумацыі парэштак, што ляжалі пад сымбалічным надмагільлем.

Вядома, што на могілках у Сьвіслачы пахаваныя ня толькі брат Кастуся Каліноўскага Віктар, але таксама іхны бацька Сымон, бабуля Тарэса, некаторыя іншыя браты і сёстры. Аднак нічыіх надмагільляў так і не знайшлі.

Пошукамі займаліся краязнаўца і навуковы супрацоўнік сьвіслацкага музэю Аляксандар Палу-

бінскі, журналіст газэты „Пагоня“ Зьміцер Кісель. Яны ўжо памерлі.

Выявілася, што на такія пошукі ў 1990-х выходзіў і Мікалай Пакутнік. І яны мелі вынік. Суразмоўца не памятае дакладна, які тады быў год.

— Значыць, з Горадні, з аблвыканкаму мае прыехаць камісія. Тады Каліноўскі быў на вышыні, на ўсю краіну цаніўся. Віктар ня толькі брат Кастуся, а і сам знаны краязнаўца, трэба ж яго магілу знайсьці. Ідзем мы зь ім (з Аляксандрам Палубінскім. — РС) на могілкі, шукаць магілу. Гучыць як анэкдот, але гэта шчырая праўда. Калісьці казалі старыя людзі — няма магілы. Прыйшлі мы, пахадзілі па могілках. Палубінскі гаворыць: „Ай, давай гэтую магілу пакажам, безыменную. Стаіць там нейкі крыж“. Гэтую — то гэтую, — успамінае падзеі Пакутнік.

Калі прыехалі чыноўнікі з аблвыканкаму, ім паказалі на выпадкова вызначанае пахаваньне.

— Калі ўзьнік БНФ, яны і крыж паставілі, упарадкавалі, пліткай абклалі, — расказвае працяг гісторыі пахаваньня былы дырэктар.

На пытаньне, навошта яны „прыдумалі“ магілу Каліноўскага, Пакутнік адказаў: „Каб даць справаздачу супрацоўнікам аблвыканкаму“.

— Вось так узьнік міт магілы Віктара, — падсумоўвае мужчына.

Калі на эксгумацыю прыяжджалі спэцыялісты, ён казаў актывістам, што магіла несапраўдная.

— Але цяпер ніхто ня верыць, — кажа Пакутнік.

Ён узгадаў, што ў 1990-я да Кастуся Каліноўскага ставіліся інакш. У Сьвіслачы правялі некалькі навуковых канфэрэнцыяў, прысьвечаных лідэру паўстаньня. Фальварак Якушоўка, дзе жыла сям'я Кастуся Каліноўскага і ад якога застаўся толькі пад-

мурак, улады хацелі адбудаваць. Калгасу імя Кастуся Каліноўскага пад Сьвіслаччу вылучылі дрэва на пабудову. Але яго пусьцілі на іншыя патрэбы. Дом не адноўлены дагэтуль.

Сьвіслацкі актывіст Юры Глебік ня быў пры пошуках магілы Віктара Каліноўскага, але ведае пра іх з апавяданьняў.

Паводле ягоных зьвестак, Аляксандар Палубінскі знайшоў у архіве газэту міжваеннага часу з фаздымкам надмагільля Віктара Каліноўскага. На фота былі камень і крыж.

На могілках каля царквы ён убачыў падобны паўразбураны крыж бяз шыльдаў і надпісаў. На месцы, дзе ён бачыў той крыж, і стаіць цяпер сымбалічнае пахаваньне Віктара Каліноўскага.

Аднаўленьнем крыжа займаўся горадзенскі каваль Юрась Мацко. У пачатку 2000-х надмагільле абклалі пліткай, у 2012 годзе яго зноў добраўпарадкавалі. Пасьля эксгумацыі парэштак косткі зноў засыпалі зямлёй і аднавілі надмагільле чарговы раз.

— Мэтар туды, мэтар сюды. Парэшткі могуць быць і пад царквой. Бо з моманту пахаваньня прайшло 157 гадоў, — разважае Юры Глебік.

Актывіст кажа, што царкву на месцы капліцы пабудавалі ў 1949 годзе. Яна займае плошчу большую за тую капліцу.

**Vadim Ignatiev**

Сімбалічная магіла, сімбалічныя страсці, сімбалічная гісторыя...

**Andrey Mielnikaw**

Чамусь у артыкуле ўвогуле не ўзгаданы Віктар Хрышчановіч, былы марскі афіцэр, які шукаў магілы сваіх сваякоў, а адшукаў магілу Віктара Каліноўскага. Так гісторыю падаў

мне напачатку 1998 г., калі я выйшаў з турмы, Зміцер Кісель. І ў 1998-м, калі рабілі свята памяці братоў Каліноўскіх і ў некалькі наступных, версіі, што адшукаў менавіта Хрышчановіч ніхто не аспрэчваў. Ён, Мацко, Кісель, Сазонаў, Хільмановіч — вось тыя людзі, якія прыцягвалі ўвагу да гэтай магілы і арганізоўвалі свята памяці Каліноўскіх на мяжы тысячагоддзяў.

**Аляксандр Краўцэвіч**

Занадта экспрэсыйны загаловак. Ніякай „страшнай праўды“ тут няма. Бо Віктар Каліноўскі сапраўды пахаваны на гэтых могілках, а ягоная магіла сапраўды сімвалічная, пра што даўно вядома. Хоць бы глядзіце з серыі „Загадкі беларускай гісторыі“: „Свіслач — мясціна загадак і парадоксаў“ на ютубе (12.20-12.40).

## Дэпутатка Анісім падрыхтавала законапраект аб ордэне Каліноўскага

30 верасьня 2019

На тле абмеркаваньня пахаваньня Кастуся Каліноўскага дэпутатка Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім вырашыла прапанаваць Савету міністраў разгледзець праект закону аб аднаўленьні ордэна імя Каліноўскага.

Тэкст ліста з праектам яна цалкам разьмясьціла на Facebook. Ордэнам прапануецца ўзнагароджваць:

• за асаблівыя заслугі ў зацьвярджэньні і абароне дзяржаўнага сувэрэнітэту, тэрытарыяльнай цэласьці, ва ўмацаваньні абароназдольнасьці і бясьпекі Рэспублікі Беларусь;

• за значны ўклад у разьвіцьцё дэмакратыі і сацыяльнага прагрэсу, правядзеньне сацыяльна-эка-

намічных і палітычных рэформаў, актыўную дзейнасьць па абароне правоў і свабодаў чалавека.

Ордэн Кастуся Каліноўскага носіцца на левым баку грудзей і пры наяўнасьці іншых ордэнаў разьмяшчаецца пасьля ордэна „За асабістую мужнасьць“.

На момант публікацыі амаль 280 чалавек падпісаліся пад пэтыцыяй за аднаўленьне ордэну Каліноўскага на сайце Petitions.by. Подпісы накіруюць у Палату прадстаўнікоў.

## Архіяпіскап Сьвятаслаў Логін пра пахаваньне Каліноўскага

3 кастрычніка 2019

Кіраўнік Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, архіяпіскап Сьвятаслаў Логін з Таронта ў інтэрвію Радыё Свабода адказаў пра тое, як БАПЦ ставіцца да Кастуся Каліноўскага і да спрэчак вакол яго пахаваньня.

— Апошнія паўтара тыдня ў Беларусі вяліся гарачыя спрэчкі пра пахаваньне Кастуся Каліноўскага. Афіцыйны беларускі гісторык прафэсар Ігар Марзалюк паспрабаваў падзяліць беларусаў на каталікоў і праваслаўных у стаўленьні да спадчыны і гістарычных пэрсанажаў, назваўшы Каліноўскага пачынальнікам беларускага каталіцкага руху. Як БАПЦ ацэньвае ролю Кастуся Каліноўскага ў гісторыі?

— БАПЦ ставіцца да Кастуся Каліноўскага як да нацыянальнага героя Беларусі нягледзячы на ягоную прыналежнасьць да Каталіцкай царквы. Ён

ваяваў не за нейкую веру ці за правы нейкай часткі грамадзтва, а, як сапраўдны беларускі шляхціц-ліцьвін, — за свой беларускі народ і сваю беларускую дзяржаўнасьць. Сярод паўстанцаў Каліноўскага былі і праваслаўныя вернікі, і нават праваслаўныя сьвятары, якія ўзначальвалі аддзелы паўстанцаў на тэрыторыі сваіх парафій, аб чым пісалі самі расейцы. Вядомыя адмоўныя выказваньні Кастуся Каліноўскага на адрас Праваслаўнай царквы, але яны тычыліся менавіта расейскай імпэрскай царквы. Такія самыя словы патрыятычныя беларусы, у тым ліку і праваслаўныя, выказваюць у бок РПЦ і сёньня.

— А як вы ставіцеся да праблемы перазахаваньня парэштак Каліноўскага? Дзе і як яны павінны знайсьці супакой?

— Думаю, што беларускага змагара, забітага расейцамі, лепей было б пахаваць на тым самым знакамітым месцы, дзе ён ляжаў дагэтуль. Калі была б перадача часткі парэштак Каліноўскага для пахаваньня іх у Беларусі, тады іх трэба было б пахаваць у некім пантэоне беларускіх герояў, якога, на жаль, пакуль няма. Дый цяперашнія ўлады ня зробяць такое пахаваньне належным чынам.

**Dmitry Duma**

Оккупация Беларуси Московской Ордой окончится тогда, когда Беларусь вернется к своей исторической православной униатской церкви. Ну это же смешно, когда БПЦ руководит поп из Рязани.

**Alexandre Kot**

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква — сапраўды наша, беларуская, ні ад каго незалежная. Менавіта з-за гэтых яе фундаментальных адрозненьняў, існуючы ў Беларусі рэжым ўпарта ня вызнае БАПЦ, адмаўляючы ёй ў рэгістрацыі

## Як выглядае месца, дзе пахаваюць Кастуся Каліноўскага ды іншых паўстанцаў

4 кастрычніка 2019

На віленскіх могілках Росы ідзе рамонт. Робяць новыя дарожкі, водаадводы, мяняюць некаторыя гранітныя пліты.

Як расказалі Свабодзе рабочыя, якія працуюць на добраўпарадкаваньні могілак, палову работ яны ўжо выканалі, працуюць тут ужо зь месяц.

Дакладнае месца пахаваньня парэштак паўстанцаў яны ня ведаюць, але кажуць, што гэта адбудзецца ў цэнтральнай частцы могілак.

Раней паведамлялася, што Каліноўскага пахаваюць у капліцы, якая цяпер на рэстаўрацыі. Рамонт на могілках Росы пачаўся ячшэ ў 2018 годзе, яго плянуецца завяршыць цалкам у 2020 годзе.

Пакуль гутарым з рабочымі, экскаватар засыпае новыя пясчаныя дарожкі. Відаць, што на могілках часткова памянялі галоўную агароджу, у некаторых месцах паклалі новыя дарожкі з пліткі.

## Гарадзенскія мастакі намалявалі партрэт Каліноўскага на Цэнтры гарадзкога жыцьця

5 кастрычніка 2019

На будынку ў Горадні зьявілася пано ў гонар Кастуся Каліноўскага і паўстанцаў 1863–1864 гадоў.

Яго малявалі Сяргей Грыневіч, Віктар Ярашэвіч, Ірына Варкулевіч і Андрэй Радзівонаў.

## У Грузіі зарэгістравалі Міжнародны камітэт захаваньня незалежнасьці Беларусі імя Каліноўскага

7 кастрычніка 2019

Міністэрства юстыцыі Грузіі зарэгістравала Міжнародны камітэт захаваньня незалежнасьці Беларусі імя Кастуся Каліноўскага (Kastus Kalinowsky International Committee for Preservation of Independence of Belarus).

Асноўнай мэтай грамадзкай арганізацыі дэкляруецца ўвасабленьне высокіх ідэалаў аднаго зь лідэраў паўстаньня 1863 году Кастуся Каліноўскага аб незалежнай краіне. У прыватнасьці, садзейнічаньне стварэньню адміністрацыйных, эканамічных і прававых перадумоваў для таго, каб Беларусь умацавала свой эканамічны патэнцыял, ператварылася ў моцную краіну эўрапейскага тыпу.

Кіраўнік ініцыятыўнай групы стварэньня Міжнароднага камітэту захаваньня незалежнасьці Беларусі імя Кастуся Каліноўскага — Зураб Ванішвілі. Ён вучыўся на юрыдычным факультэце Белдзяржунівэрсытэту, у Віленскім дзяржаўным унівэрсытэце і на факультэце міжнароднага права Тбіліскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Свабодна размаўляе па-беларуску. Прадстаўніком у Беларусі будзе праваабаронца Алег Воўчак, зь якім яны разам вучыліся ў БДУ і дагэтуль падтрымліваюць сяброўскія стасункі.

Супраца з урадам і НДА Беларусі ў мэтах зьбліжэньня з Эўразьвязам і выпрацоўка пляну дзеяньняў на ўступленьне ў Сусьветную гандлёвую

арганізацыю — вось найпершыя найбліжэйшыя пляны камітэту.

— Адной зь першарадных задач камітэту зьяўляецца судзеяньне ў справе прыцягненьня вядучых краін Заходняй Эўропы, ЗША, Японіі дзеля паскоранага, цягам 2–2,5 гадоў, уступленьня Беларусі ў Сусьветную гандлёвую арганізацыю (СГА), — расказаў Свабодзе Зураб Ванішвілі. — Мы зьбіраемся наладзіць сувязь паміж вядучымі дзяржавамі-донарамі і ўрадам Беларусі з тым, каб стварыць міжнародную групу сяброў вашай краіны, якая арганізацыйна дапаможа зрабіць належныя заканадаўчыя і адміністрацыйныя захады, неабходныя для імплемэнтацыі патрабаваньняў Маракескага пагадненьня (Статуту СГА).

Зураб Ванішвілі быў удзельнікам групы экспэртаў, якая распрацоўвала статутныя дакумэнты для ўступленьня Грузіі ў Сусьветную гандлёвую арганізацыю. Ягоная краіна прайшла гэты шлях за тры гады і спраўна атрымлівае эканамічныя дывідэнды. Беларусь бясплённа спрабуе гэта зрабіць вось ужо чвэрць стагодзьдзя.

## Стала вядома, як маюць пахаваць паўстанцаў Каліноўскага

8 кастрычніка 2019

8 кастрычніка ў Вільні адбылося паседжаньне дзяржаўнай камісіі ў справе пахаваньня паўстанцаў 1863 году. Ад беларускай грамады быў запрошаны старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве

Алесь Адамковіч, таксама далучыліся каталіцкія біскупы зь Літвы, Польшчы і Беларусі.

У часе нарады трэба было ўхваліць канчатковы варыянт праграмы ўшанаваньня двух дзясяткаў паплечнікаў Кастуся Каліноўскага, асуджаных на сьмерць царскім рэжымам. Збольшага гэтая задача выкананая, адзначыў у гутарцы са Свабодай спадар Адамковіч.

Што да пытаньня магчымай перадачы парэштак самога Каліноўскага ў Беларусь, пра што прасілі кіраўніцтва Літвы лідэры беларускай грамадзкай думкі, яно ў парадку дня ня значылася. Наадварот, разам зь іншым лідэрам паўстанцкага руху Зыгмунтам Серакоўскім Кастусь Каліноўскі атрымае значна большыя знакі пашаны і ўвагі ў Літве.

Згодна з рашэньнем камісіі, урачыста-жалобная цырымонія зойме тры дні.

Кіраўніцтва Літоўскай тэлевізіі зьбіраецца арганізаваць жывую трансьляцыю на Першым нацыянальным канале, таксама ў пэўных месцах на шляху працэсіі паставяць вялікія экраны, куды будзе буйным плянам выводзіцца карцінка.

На паседжаньні камісіі таксама меркавалася падняць пытаньне візавай падтрымкі для беларусаў, якія не хацелі б прапусьціць гістарычную падзею. Бо выглядае, што з улікам важнасьці асобы Кастуся Каліноўскага для Беларусі колькасьць удзельнікаў пахаваньня будзе вымярацца тысячамі.

Паводле Аляксандра Адамковіча, віцэ-канцлер ураду Літвы Дэйвідас Матулёніс заявіў, што беларусы вартыя такога падарунку, таму Міністэрству замежных справаў даручана папрацаваць над рэалізацыяй такой магчымасьці.

Каб не ствараць затораў на памежных пераходах, для разгрузкі патоку могуць быць задзейнічаныя прапускныя пункты з Латвіяй і Польшчай.

## Палата прадстаўнікоў прапанавала сабраць 50 тысяч подпісаў за вяртаньне ордэна Каліноўскага

17 кастрычніка 2019

Палата прадстаўнікоў адказала на пэтыцыю аб вяртаньні ў сьпіс дзяржаўных узнагародаў ордэна Кастуся Каліноўскага, які скасавалі ў 2004 годзе.

Трэба сабраць 50 тысяч подпісаў, каб пэтыцыя набыла заканадаўчую ініцыятыву, напісаў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Леанід Цупрык.

На гэты момант актывісты сабралі 386 подпісаў.

## Кніга пра Кастуся Каліноўскага, якая атрымала прэмію Багушэвіча, выкладзеная ў вольны доступ

19 кастрычніка 2019

Аўтар кнігі „Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда“, гісторык Васіль Герасімчык паведаміў, што выклаў у вольны доступ сваю працу.

— 22 лістапада 2019 году ў Вільні на могілках Росы адбудзецца ўрачыстае пахаваньне паўстанцаў, знойдзеных на Замкавай гары на пачатку 2017 году. Сярод іх — нацыянальны герой беларускага народу

Кастусь Каліноўскі. Я лічу, што трэба пасадзейнічаць, каб як мага больш беларусаў прыехала на гэтую ўрачыстасьць і каб ведалі, хто такі Каліноўскі, — распавёў Герасімчык.

## Зьявіўся расклад імпрэзаў у гонар пахаваньня Кастуся Каліноўскага і паплечнікаў

21 кастрычніка 2019

Беларускі грамадзкі камітэт ушанаваньня памяці паўстанцаў апублікаваў папярэдні плян мерапрыемстваў на 22–24 лістапада з нагоды пахаваньня паўстанцаў 1863–1864 гадоў у Вільні.

У камітэт уваходзяць грамадзкія дзеячы Беларусі, прадстаўнікі беларускай дыяспары за мяжой, у тым ліку зь Вільні. Узначальвае камітэт доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук.

Што ў раскладзе?

**22 лістапада, пятніца**

11.00–11.45 — Разьвітаньне грамадзкасьці з паўстанцамі ў Катэдральным касьцёле Вільні (уваход свабодны).

12.00 — Пачатак урачыстай імшы ў Катэдральным касьцёле Вільні (уваход абмежаваны, але на Катэдральнай плошчы будуць усталяваныя адмысловыя вялікія экраны).

13.20 — Пачатак пешай разьвітальнай працэсіі ад Катэдральнага касьцёла да могілак Росы.

14.00 — Цырымонія пахаваньня парэштак у калюмбарыі капліцы на могілках Росы.

Вечар — Канцэрт гурту „Dzieciuki“ (дакладны час і месца агучаць пазьней).

**23 лістапада, субота**

11:00 — Грэка-каталіцкае богаслужэньне за супакой паўстанцаў 1863–1864 гадоў у Базыльянскіх мурах (Святатроіцкая грэка-каталіцкая царква, адрас: Aušros Vartų g, 7B).

13:00 — Сустрэча грамадзкасьці з Радай Беларускай Народнай Рэспублікі (дакладныя час і месца назавуць пазьней).

16:00 — Містэрыя: гісторыка-тэатральна-паэтычны Рэквіем прысьвечаны паўстаньню 1863–1864 гадоў (дакладны час і месца назавуць пазьней).

18:00 — Паўстанцкі ланцуг: жалобнае грамадзкае шэсьце са зьнічамі ад Вострай брамы да могілак Росы.

**24 лістапада, нядзеля**

12:00 — Беларускае рымска-каталіцкае набажэнства за спакой паўстанцаў у касьцёле Сьв. Барталамея на Зарэччы (адрас: Užupio, 17).

14:00 — 16:00 — Бясплатныя пазнавальныя вандроўкі па беларускіх мясьцінах Вільні. Сустрэча каля касьцёла Сьв. Барталамея на Зарэччы (Užupio, 17).

## Як атрымаць ільготныя візы на пахаваньне Каліноўскага ў Вільні

23 кастрычніка 2019

Амбасада Літвы ў Беларусі прапануе беларусам, якія хочуць наведаць цырымонію, атрымаць ільготныя візы.

Тыя, хто хоча атрымаць ільготную візу, павінны папярэдне індывідуальна зарэгістравацца ў амбасадзе да 5 лістапада 2019 году па адрасе электроннай пошты k1@urm.lt.

У лісьце павінна быць хадайніцтва аб выданьні візы на наведаньне мерапрыемстваў пахаваньня паўстанцаў.

Візы будуць даваць на аднаразовую паездку, максымальны тэрмін дзеяньня — з 20 па 24 лістапада 2019 году.

Колькасьць ільготных візаў абмежаваная. Пра магчымасьць падачы дакумэнтаў амбасада праінфармуе заяўнікаў індывідуальна, праз электронную пошту.

Колькі будзе каштаваць ільготная віза, на сайце амбасады не пазначана.

Падрабязны сьпіс дакумэнтаў пералічаны на сайце амбасады.

Жыхарам Горадзенскай і Берасьцейскай абласьцей трэба зьвяртацца ў Генконсульства Літвы ў Горадні.

## Прадстаўнікі Каталіцкай царквы ў Беларусі возьмуць удзел у пахаваньні парэштак Каліноўскага

26 кастрычніка 2019

Як паведамляе catholic.by, у цырымоніі возьмуць удзел Старшыня Канфэрэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Менска-Магілёўскі, а таксама прадстаўнікі Касьцёлу.

## „Нечаканы попыт“. У амбасадзе Літвы спынілі выдачу льготных візаў на пахаваньне паўстанцаў 1863 году

29 кастрычніка 2019

Амбасада Літвы ў Беларусі прыпыніла рэгістрацыю на выдачу льготных візаў для наведаньня жалобных імпрэзаў у Вільні. Пра гэта гаворыцца на сайце дыпляматычнага прадстаўніцтва.

Ад пачатку плянавалася, што заяўкі на індывідуальную візу можна будзе падаваць у электронным выглядзе да 5 лістапада ўключна.

Як патлумачылі Свабодзе ў літоўскім кансуляце ў Менску, рашэньне зьвязана з надзвычай высокай актыўнасьцю беларусаў — на гэты момант ужо аформлена больш за 1000 візаў, і колькасьць ахвотных не зьніжаецца. Прадстаўнікі амбасады пакуль ня ведаюць, ці працэдура рэгістрацыі прыпыненая зусім або ўсё ж будзе адноўленая.

У размове з карэспандэнтам Свабоды супрацоўнікі кансуляту выказалі жаданьне дапамагчы ўсім ахвотным, аднак пры гэтым наракаюць на непрыстасаванасьць да збору такой колькасьці людзей на старых могілках Росы, дзе маюць пахаваць паўстанцаў, што вялікая колькасьць людзей там ня зьмесьціцца фізычна.

**Aliaksandr Stepanovič**

Гэта ўсё падобна на фармальныя адгаворкі, бо грамадзян Летувы ніхто не будзе абмяжоўваць і ўсе ахвочыя змогуць прыйсці на перапахаванне паўстанцаў, а прысутнасці вялікай колькасці беларусаў літоўцы банальна баяцца, бо яна прадэманструе — чый нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі!

## Арганізатары імпрэз падчас пахаваньня паўстанцаў Каліноўскага абвясьцілі збор сродкаў

30 кастрычніка 2019

Як паведамляюць ініцыятары краўдфандынгу, неабходна сабраць сродкі на арэнду памяшканьняў і апаратуры, а таксама атрыбутыку для шэсьцяў і урачыстасьцяў — сьцягі, дрэўкі, кветкі, стужкі, зьнічы, лямпады. Акрамя таго, грошы патрэбныя на арганізацыйна-лягістычныя і інфармацыйныя выдаткі.

Сабраць трэба каля 3000 эўра.

Зрабіць грашовы перавод на PayPal з можна з уласнага акаўнту ў гэтай сыстэме альбо банкаўскай карткай.

Беларускі грамадзкі камітэт ушанаваньня памяці паўстанцаў зьвяртаецца таксама да прыватных фундатараў, гатовых ахвяраваць сродкі.

## Як у Беларусі робяць бізнэс на Каліноўскім

12 лістапада 2019

Свабода пацікавілася, як у Беларусі зарабляюць на культавым гістарычным пэрсанажы праз паўтара стагодзьдзя.

### 1. Настольная гульня „Паўстанцы“

Гульню, якая нагадвае папулярную „Мафію“, распрацавалі горадзенцы Антон і Наста Янкоўскія.

Толькі беларуская „мафія“ — гэта паўстанцы. Ролі ў ёй разьмяркоўваюцца з дапамогай картак. Удзельнікі могуць стаць і Каліноўскім або кімсьці зь ягоных паплечнікаў, і Мураўёвым-вешальнікам. Задача — здагадацца, хто ёсьць хто.

Упершыню гульня выйшла ў 2013 годзе. Увесь наклад хутка разышоўся.

Сёлета ў сьнежні выдавецтва „А4“ плянуе выдаць новую, палепшаную вэрсію „настолкі“. Перавыданьне рыхтавалася два гады і выпадкова супала з пахаваньнем паўстанцаў. Цяпер ідуць перадзамовы, пры якіх можна заказаць лоты, якія будуць недасяжныя пазьней — прыкладам, пэрсанальную карту з уласным партрэтам.

Ужо замовілі больш як 300 гульняў, сказаў Свабодзе Антон Янкоўскі.

## 2. Бар Kalinoŭski

Новае месца на Зыбіцкай вуліцы ў Менску адкрылася сёлета ў чэрвені.

Назьве, напісанай беларускай лацінкай, адпавядаюць выявы самога кіраўніка паўстаньня і цытаты з „Мужыцкай праўды“ на сьценах. Алькагольныя кактэйлі маюць назвы месяцаў году па-беларуску. Можна замовіць кукурузную ці трысьняговую гарэлку. Ёсьць мэню на беларускай мове. Разам з тым наведнікі неаднойчы скардзіліся, што афіцыянты гавораць па-расейску, а ў бары гучыць расейская „папса“.

Кіраўнік бару Kalinoŭski Глеб Кізін сказаў карэспандэнту Свабоды, што зьмены колькасьці кліентаў перад пахаваньнем паўстанцаў не назіраецца. Аднак усё часьцей людзі ў бары абмяркоўваюць гэтую падзею.

— Разоў пяць на тыдзень яны пытаюцца ў бармэнаў: „А вы ведаеце? Вы ведаеце?“ І расказваюць пра пахаваньне, — кажа Глеб Кізін.

Наведнікі, арыентаваныя на беларускасьць, якія гавораць на беларускай мове або якім важная канцэпцыя бару, складаюць каля 20%. Іх больш у будзённыя дні, калі зручней пагаварыць. Астатнія — гэта турысты і людзі, якія проста любяць хадзіць па барах і рэстаранах. У будзённыя дні агулам прыходзіць да 100 чалавек, у выходныя — каля 300.

Адмысловых акцый, прымеркаваных да пахаваньня паўстанцаў, не плянуецца. На думку кіраўніцтва ўстановы, назваць кактэйль у гонар гэтай падзеі або зладзіць забаўляльнае мерапрыемства — значыла б паставіцца да яе без пашаны:

— Для нас гэта занадта сур’ёзнае мерапрыемства, каб абыгрываць яго ў забаўляльным фармаце. Я думаю, тут важна стрымана падтрымаць, пагадзіцца з тым, што гэта сапраўды важны чалавек для нашай культуры, гісторыі. Мы стараемся выкарыстоўваць вобраз Кастуся Каліноўскага як чалавека, які змагаўся за свабоду, і стараемся рэалізаваць як мага больш лякальных напояў, — патлумачыў кіраўнік бару.

Уласьнік установы Аляксей Славута паходзіць з Мастоўскага раёну і зь дзяцінства захапляўся постацьцю лідэра паўстаньня 1863–1864 гадоў.

### 3. Тату з Каліноўскім і касінерамі

Горадзенка Юлія Кульба распрацавала эскізы для татуіровак зь беларускімі героямі і дзеячамі. Сярод іх — Кастусь Каліноўскі і касінер. Майстрыха гатовая рабіць тату зь беларускай тэматыкай за

паўцаны. Каб набіць Каліноўскага, спатрэбіцца 9 гадзін часу.

### 4. Швэдры і цішоткі „Каго любіш?“

Святшоты і цішоткі з прынтом Кастуся Каліноўскага (аўтарства мастака Міколы Купавы) і паўстанцкім паролем „Каго любіш?“ стварылі адмыслова да пахаваньня парэштак нацыянальнага героя. На больш старым варыянце цішотак можна прачытаць і адказ на пароль: „Каго любіш? — Люблю Беларусь — То ўзаемна!“ Яшчэ адна навінка — цішоткі з прынтом „Каліноўшчына“, дзе рэвалюцыянэр трымае пісталет у выцягнутай руцэ, аўтарства Макса Пякарскага. Паўстанцкае адзеньне прапаноўвае крама symbal.by.

Як сказаў уласьнік крамы symbal.by Павал Белавус, „сымбальбаеўцы“ самі стараюцца ўзьняць цікаўнасьць да гэтай падзеі, паказаць важнасьць Каліноўскага перадусім маладому пакаленьню беларусаў.

На сваім сайце яны разьмясьцілі праграму мерапрыемстваў, прысьвечаных пахаваньню. Разьмясьцілі ў сябе бясплатную электронную вэрсію кнігі Васіля Герасімчыка „Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда“. Вылучылі асобны разьдзел, прысьвечаны таварам з выявай Каліноўскага.

### 5. Паўстанцкая магерка

Яшчэ адзін элемэнт паўстанцкай вопраткі можна знайсьці ў горадзенскай краме „Адметнасьць“. Гэта магерка „Рагуля“, расшытая футрам, — дакладная копія той, якую насілі каліноўцы. Каштуе магерка 60 рублёў.

### 6. Сувэніры

Паўстанцкую тэматыку да таго ж можна сустрэць на кубках з надпісам „Захоўвайце спакой ды вастрыце косы“, магнітах з выявамі Каліноўскага, паштоўках. Значкі з гербам паўстаньня 1863–1864 гадоў плянуюць выпусьціць аўтары гульні „Паўстанцы“ сёлета ў сьнежні. Значак адносіцца да так званай „чорнай біжутэрыі“. Так у 1863 годзе называлі знак грамадзянскай жалобы, праявы салідарнасьці і падтрымкі паўстанцаў.

Паводле назіраньняў уласьніка горадзенскай крамы „Адметнасьць“ Сяргея Верамеенкі, зарабіць на Каліноўскім пакуль складана. Часам набываюць адпаведныя паштоўкі, пытаюцца пра цішоткі. Цікаўнасьць да паўстанцкай тэмы больш праяўляецца, прыкладам, калі наведнікі купляюць для паездкі ў Вільню на пахаваньне бел-чырвона-белыя сьцягі.

## На пахаваньне Каліноўскага просяць даслаць беларускую роту ганаровай варты

13 лістапада 2019

Беларускі грамадзкі камітэт ушанаваньня памяці паўстанцаў 1863–1864 гадоў зьвярнуўся да міністра абароны Беларусі Андрэя Раўкова з просьбай даслаць роту ганаровай варты на цырымонію пахаваньня Кастуся Каліноўскага ў Вільні 22 лістапада. Просьбіты паведамляюць, што літоўскі ўрад падтрымае такую ініцыятыву беларускага Міністэрства абароны.

## Айцішнік стварыў старонку з поўным раскладам пахаваньня Каліноўскага

14 лістапада 2019

Праграміст Глеб Пятроў стварыў старонку Kalinouski.me, дзе разьмясьціў падрабязны расклад мерапрыемстваў.

Падобныя праекты Пятроў робіць з уласнай ініцыятывы не ўпершыню. Летам праграміст зрабіў сайт кампаніі супраць закону аб адтэрміноўках protestby.live. Цяпер сайт не працуе, бо ініцыятыва сябе вычарпала.

— Я актыўна назіраю за любымі ініцыятывамі і калі бачу, што магу зрабіць нейкі свой унёсак, то прапаную дапамогу. Я вэб-распрацоўшчык і найбольш эфэктыўна магу дапамагаць у гэтай галіне.

Цяпер у фокусе ўвагі Пятрова — пахаваньне Каліноўскага і праект для выяўленьня фальсыфікацый на прэзыдэнцкіх выбарах 2020 году.

Сайт каштаваў 4 эўра. Рабіўся 4 гадзіны.

Пятроў ня ўпэўнены, што сайт будзе абнаўляцца пасьля пахаваньня Кастуся Каліноўскага, бо ня ведае, як можна разьвіваць праект далей.

## „Пагоню“ нельга, паўстанцкі пароль можна. Краме Symbal.by дазволілі рэкляму ў мэтро

15 лістапада 2019

Дырэктар крамы Symbal.by Павал Белавус расказаў на Facebook пра забароненую і дазволеную рэкляму ў менскім мэтро.

15 лістапада на станцыі мэтро „Кастрычніцкая“ зьявіўся плякат крамы з партрэтам Каліноўскага і паролем-адказам удзельнікаў паўстаньня 1863 году: „— Каго любіш? — Люблю Беларусь! — То ўзаемна“.

Раней краме не дазволілі разьмясьціць іншы рэклямны плякат у мэтро: на ім дзяўчына ў цішотцы з гербам „Пагоня“ і надпісам „Пагоня побач“. Намесьніца дырэктара Менскага мэтрапалітэну Ірына Розум патлумачыла, што рэклямны сюжэт разглядаўся спэцыяльнай камісіяй па рэкляме ў мэтро, і тая вырашыла адмовіць у разьмяшчэньні рэклямы.

На якой падставе адмовілі, Ірына Розум не паведаміла. Герб „Пагоня“ ня толькі не зьяўляецца забароненай сымболікай, але і ўваходзіць у дзяржаўны сьпіс гісторыка-культурных каштоўнасьцяў, што было пазначана ў тэксьце на плякаце.

Раней намесьніца старшыні Менгарвыканкаму Ганна Мацельская тлумачыла прычыны адмовы тым, што «ў рэкляме забаронена выкарыстоўваць эмблемы і сымболіку асобамі, якія ня маюць права на іх выкарыстаньне». Як можна атрымаць права на колішнюю дзяржаўную сымболіку і гістарычны герб у рэкляме, у адказе не ўдакладнялася.

Улетку 2019 году ў менскага мэтрапалітэну выклікаў пытаньні іншы плякат крамы Symbal.by — бел-чырвона-белы з надпісам «Родная Беларусь» і заклікам «правільна» паставіць націск. Банэр спачатку павесілі, праз два дні загадалі зьняць, пасьля заявілі, што такога загаду не было.

Год таму білборды крамы зь вядомымі беларусамі — паэтам і палітыкам Уладзімерам Някляевым і тэлевядоўцам Юрыем Жыгамонтам — на правіселі ў цэнтры Менску ўсяго некалькі гадзінаў і былі зьнятыя на загад невядомага.

## 40 мясьцінаў у Беларусі, дзе можна ўшанаваць паўстанцаў Каліноўскага

15 лістапада 2019

**1. Помнікі лідэрам паўстаньня ў Сьвіслачы**

Адзіны ў Беларусі помнік Кастусю Каліноўскаму знаходзіцца ў горадзе Сьвіслач на Горадзеншчыне паблізу гарадзкой плошчы. Яго паставілі ў 1958 годзе. Аўтар — Заір Азгур. У Сьвіслачы Кастусь скончыў гімназію, у будынку якой цяпер месьціцца шпіталь. Сучасная гімназія ў горадзе названая імем Каліноўскага.

У сквэры ў цэнтры Сьвіслачы ёсьць помнік яшчэ аднаму лідэру паўстаньня — Рамуальду Траўгуту. Яго паставілі ў 1928 годзе і аднавілі ў 1989-м.

**2. Могілкі ў Сьвіслачы, дзе пахаваная сям'я Каліноўскіх**

На могілках у Сьвіслачы ёсьць надмагільле брата Кастуся Каліноўскага Віктара, яго паставілі ў прыблізным месцы пахаваньня, бо дакладнае невядомае.

Вядома, што недзе на гэтых самых могілках пахаваныя бацька, бабка, некаторыя іншыя браты і сёстры Кастуся Каліноўскага.

**3. Падмурак фальварку Каліноўскіх у Якушоўцы**

У вёсцы Якушоўцы каля гораду Сьвіслач засталіся адно падмуркі сядзібы, дзе жыла сям'я Каліноўскіх. Каля гэтага месца стаіць крыж, выкаваны Юрасём Мацко, і памятны камень.

**4. Стэля на Сьвіслаччыне**

Драўляную стэлю паставілі ў месцы баёў паўстанцаў Каліноўскага, каля вёскі Новы Двор Сьві-

слацкага раёну на Горадзеншчыне, улетку 2019 году. Помнік зьявіўся дзякуючы актывістам з Горадзеншчыны як вынік грамадзкай кампаніі „Каліноўскі-2019“. Мэта кампаніі — каб як мага больш беларусаў даведаліся і прыехалі на пахаваньне парэштак паўстанцаў у Вільні.

**5. Крыж у гонар 150-годзьдзя паўстаньня на Астравеччыне**

Побач зь вёскай Слабодка Астравецкага раёну на высокім пагорку ў 2013 годзе паставілі крыж з шэрага каменю ў выглядзе гіганцкага мяча, загнанага вастрыём у зямлю.

На крыжы выгравіраваны паўстанцкі пароль „Каго любіш?“ лацінкай і кірыліцай. Наверсе крыжа, на дзяржальне мяча — выява „Пагоні“.

Крыж паставілі ня ў гонар нейкай канкрэтнай бітвы, а як памятны знак усяму паўстаньню — трагічнай, але вельмі яркай падзеі. А меч — гэта стары сымбаль, які мае два прачытаньні. Калі ён узьняты — гэта кліч да барацьбы, дзеяньня. Калі ж ён уторкнуты ў зямлю — гэта сымбаль таго, што бітва скончаная, засталося падлічыць страты, пахаваць памерлых і памятаць пра іх.

Аўтар ідэі — краязнаўца Алесь Юркойць, фундатар — Мікіта Забуга, скульптар — Ігар Засімовіч.

**6. Памятны камень і крыжы на Лідчыне**

Памятны камень з надпісам „Невядомым паўстанцам 1863“ паставілі паміж вёскамі Малое Вольжава і Мохавічы Лідзкага раёну ўлетку 2018 году. Яшчэ два крыжы паўстанцам у Лідзкім раёне сёлета паставілі актывісты з Горадзеншчыны. На полі паміж Мохавічамі і Раклёўцамі на Лідчыне былі пастаўленыя яшчэ два крыжы паўстанцам сіламі ТБМ у 1995 годзе.

У вёсцы Ва́верка Лідзкага раёну ў касьцёле вісіць памятная шыльда ў гонар ксяндза Раймунда Зямацкага. Яго расстралялі ў Вільні на асабісты загад Мураўёва за тое, што ён прачытаў вернікам маніфэст Нацыянальнага ўраду пра пачатак паўстаньня.

У 1863 годзе між вёскамі Малое Вольжава і Мохавічы адбыўся бой паміж касінерамі атраду Нарбута ды расейскім войскам. Тут загінулі і былі пахаваныя тры дзясяткі паўстанцаў. Краязнаўцы кажуць, што гэта быў атрад з Наваградзкага павету, які прабіваўся на Віленшчыну і даў апошні бой расейскім карнікам.

Сёньня вядомыя імёны больш як 400 паўстанцаў зь Лідзкага павету.

**7. Магіла ксяндза Адама Фалькоўскага ў Лідзе**

Знаходзіцца ў гарадзкім парку Ліды на вуліцы Міцкевіча.

Ксёндз Адам Фалькоўскі служыў пробашчам у Ішчалне Лідзкага павету. Зачытаў маніфэст паўстаньня і заклікаў жыхароў узяць у ім удзел. Быў арыштаваны і расстраляны ў 1863 годзе ля дарогі на Крупава. Ягонае цела скінулі ў падрыхтаваную яму, залілі вапнай і закапалі. Жыхары пазначалі месца пахаваньня камянямі, якія потым раскідвалі расейскія паліцыянты.

Пазьней на гэтым месцы ня менш за сем разоў ставілі крыжы, але кожны раз іх зьнішчалі царскія, савецкія, а потым і цяперашнія ўлады. У 2010 годзе на магіле паставілі памятны камень, які захаваўся дагэтуль.

На старых каталіцкіх могілках у Лідзе знаходзіцца магіла вэтэранкі паўстаньня Валерыі Ціхановіч. У касьцёле сьвятой Барбары — шыльда

памяці расстраляных царскімі ўладамі ксяндзоў; каля касьцёла айцоў піяраў у прамысловым раёне Ліды — памятная пліта Людвіку Нарбуту.

**8. Памятныя знакі Нарбутам на Воранаўшчыне**

Камень з шыльдай паставілі каля касьцёла ў вёсцы Нача Воранаўскага раёна ў 1988 годзе. З гэтае вёскі паходзіць адзін з кіраўнікоў паўстаньня, Людвік Нарбут. У вёсцы Шаўры на каталіцкіх могілках знаходзяцца пахаваньні Баляславы і Крысьціны Нарбут.

**9. Помнікі паўстанцам у Мастоўскім раёне, дзе зьніклі стэлі**

Каля вёсак Мінявічы і Пацавічы Мастоўскага раёну Горадзенскай вобласьці яшчэ ў міжваенны час палякі ўстанавілі памятныя камяні і крыжы. У гэтых двух месцах пахаваныя 52 паўстанцы. Сёлета горадзенскія актывісты паставілі побач з гэтымі мэмарыяламі драўляныя высокія стэлі. Аднак празь некалькі дзён абедзьве зьніклі. Іх дагэтуль не знайшлі.

**10. Схаваны мэмарыял паўстанцам на Сьвятым балоце**

Надпіс на вялікім драўляным крыжы зроблены па-беларуску і па-польску. Ён сьведчыць, што на гэтым месцы, паміж Азёрамі і Берштамі на Горадзеншчыне, 22 красавіка 1863 году адбыўся бой паміж паўстанцамі і царскімі войскамі. Мясьціны тут былі непраходныя.

На 136 касінераў пад кіраўніцтвам палкоўніка Лянкевіча было 25 стрэльбаў, супраць іх — дзьве роты ўзброенай пяхоты і 30 казакоў. Амаль усе паўстанцы загінулі. Пасьля гэтага балота атрымала назву Сьвятое. Большасьць паўстанцаў пахавана на могілках у Азёрах.

Паблізу Сьвятога балота ёсьць яшчэ адзін памятны знак — мэталічны мальтыйскі крыж памерам 2×2 мэтры з датай на шыльдзе „1863“. Стаіць на ўзгорку, за 50 мэтраў ад дарогі Р-145, за мостам цераз раку Бярвенку.

**11. Шыльды паўстанцам у Горадні**

Памятная дошка з надпісам „1863“ усталяваная на чыгуначным вакзале ў Горадні. Тут адбыўся бой паміж царскім войскам і паўстанцкім атрадам, які меўся выехаць з Горадні ў кірунку Парэчча. Шыльда Валеру Ўрублеўскаму вісіць на пачатку вуліцы Ўрублеўскага. Да таго ж памятная дошка братам Урублеўскім ёсьць у горадзенскім фарным касьцёле.

**12. Помнік паўстанцам на мяжы зь Літвой**

Драўляны і мэталічны крыжы, а таксама памятныя камяні стаяць каля памежнай вёскі Кадыш Горадзенскага раёну. Першапачаткова помнік быў пастаўлены яшчэ ў 1920-я гады. Яго аднавілі ў 2011-м. На гэтым месцы адбыўся бой паўстанцаў з царскімі войскамі 22 траўня 1863 году. Тут пахаваныя забітыя паўстанцы.

У вёсцы Гожа Горадзенскага раёну побач з касьцёлам месьціцца радавы склеп Сільвястровічаў. Тут пахаваныя дзед і бацька Станіслава Сільвястровіча, аднаго з блізкіх паплечнікаў Каліноўскага, які быў сасланы ў Сібір і памёр далёка ад бацькаўшчыны.

**13. Крыж паўстанцам у Ваўкавыску**

Крыж паўстанцам 1863–1864 гадоў стаіць на старых каталіцкіх могілках у горадзе Ваўкавыску Горадзенскай вобласьці.

У мястэчку Поразаве Сьвіслацкага раёну на могілках стаяць два помнікі — валуны з крыжамі — на пахаваньнях паўстанцаў Яна Дмухоўскага і Казімера Шалкевіча.

**14. Крыжы паўстанцам пад Горадняй**

Высокія драўляныя крыжы ў гонар паўстанцаў стаяць на могілках у мястэчку Азёры Горадзенскага раёну.

Недалёка ад Горадні, у Зарубіцкім лесе, лесьнікі Індурскага лясьніцтва паставілі крыж у гонар паўстанцаў 1863 году. У гэтых лясах дзейнічаў паўстанцкі атрад пад кіраўніцтвам Валерыя Ўрублеўскага.

**15. Памятныя шыльды сьвятарам у Шчучынскім раёне**

У касьцёле вёскі Ішчална Шчучынскага раёну знаходзіцца дошка ў памяць пра ксяндза Адама Фалькоўскага, які падтрымліваў паўстанцаў. У мястэчку Жалудок Шчучынскага раёну вісіць мэмарыяльная дошка ў гонар ксяндза Станіслава Ішоры, расстралянага на асабісты загад Мураўёва за тое, што прачытаў вернікам маніфэст Нацыянальнага ўраду аб пачатку паўстаньня.

**16. Капліца на месцы бітвы пры Мілавідах**

Найбольш шырока ўшаноўваюцца падзеі паўстаньня на Берасьцейшчыне на месцы адной з самых буйных бітваў — каля Мілавідаў сёньняшняга Баранавіцкага раёну. Тут пры дарозе на месцы бітвы збудавалі капліцу ў гонар паўстанцаў і паставілі валун.

З другога боку дарогі стаіць крыж-помнік у гонар палеглых тут расейскіх жаўнераў.

Пару гадоў таму актывісты паставілі яшчэ адзін валун — з рэльефам Кастуся Каліноўскага.

Штогод у дзень бітвы, 3 чэрвеня, тут ладзяць фэст. Улады ў ім ня ўдзельнічаюць, а часам і перашкаджаюць. Напрыклад, у 2013 годзе супрацоўнікі ДАІ ўшанаваньне спынілі, а на арганізатара Вікта-

ра Сырыцу склалі пратакол за несанкцыянаваную акцыю.

**17. Крыж-помнік на магіле паўстанцаў каля Косава**

Гранітны крыж на каталіцкіх могілках каля Косава паставілі ў 1927 годзе на магіле трох паўстанцаў. Вядомыя прозьвішчы двух зь іх: Красінскі і Лукашэвіч.

У савецкія часы крыж быў павалены. У 1990-х яго паставілі на ранейшае месца.

Да крыжа зрэдку прыяжджаюць актывісты. Даглядаюць яго мясцовыя каталікі.

**18. Шыбельная гара ў Івацэвічах**

Назва Шыбельнай гары пад Івацэвічамі — ад слова „шыбеніца“. Тут расейскія карнікі распраўляліся з палоннымі паўстанцамі — вешалі іх на соснах. Пасьля паўстаньня мясцовыя людзі завялі традыцыю вешаць на тыя сосны абразкі. Як апавядаў мясцовы краязнавец Алесь Зайка, яшчэ ў 60-я гады XX стагодзьдзя тыя абразкі выглядалі з-пад кары дрэваў.

На пачатку 2000-х івацэвіцкія грэка-каталікі паставілі на пагорку драўляны крыж.

**19. Стэля ў Пружанскім раёне**

Драўляную стэлю паставілі сёлета каля аграгарадка Лыскава Пружанскага раёну на Берасьцейшчыне гарадзенскія актывісты. Там паўстанцы вялі баі з царскімі войскамі.

**20. Памятны камень каля Крывошына на Берасьцейшчыне**

Усталяваны ў 1988 годзе ў памяць пра бой, які адбыўся тут 9 чэрвеня 1863 году паміж паўстанцамі і царскімі войскамі. Знаходзіцца ў Рэпіхаўскім лесе, за кілямэтар ад мястэчка Крывошын.

**21. Два валуны ў гонар Рамуальда Траўгута і паплечнікаў каля Кобрыні**

Стаяць у маёнтку Божы Дар на Кобрыншчыне Берасьцейскай вобласьці. Тут Рамуальд Траўгут прысягаў на вернасьць паўстаньню і прыняў на сябе кіраваньне паўстанцкім атрадам.

**22. Мэмарыяльны помнік у пасёлку Дамачава на Берасьцейшчыне**

Помнік мае форму крыжа. Пастаўлены ў 1936 годзе. Надпіс на ім зроблены на польскай мове.

**23. Адзіная вядомая магіла паўстанцаў у Берасьці**

Пахаваньне на каталіцкіх могілках на Пушкінскай вуліцы ў Берасьці нядаўна знайшоў краязнаўца Іван Чайчыц. На крыжы па-польску напісаныя імёны Ірэны і Францішка Карнелюкоў і іхных дзяцей Яна і Юзэфы, паўстанцаў 1863 году. Кім яны дакладна былі, пакуль невядома. Гэта адзінае знойдзенае ў Берасьці пахаваньне ўдзельнікаў гэтага паўстаньня.

**24. „Расстраляны“ помнік каля вёскі Ласасін на Берасьцейшчыне**

На гэтым месцы пахавана 40 паўстанцаў. Помнік устанавілі ў міжваенны час. Саветы яго зруйнавалі. У канцы 1980-х гадоў высілкамі Таварыства беларускай мовы і Беларускага народнага фронту быў адноўлены. У 1998 годзе яго расстралялі зь верталёта падчас вучэньняў, бо цяпер ён месьціцца на тэрыторыі вайсковага палігону вайскова-паветраных сілаў. У 2000 годзе тут усталявалі новую пліту.

**25. Магіла паўстанцаў Жукоў на Берасьцейшчыне**

Удзельнікі паўстаньня 1863–1864 гадоў Ян Жук і яго сваякі пахаваныя ў аграгарадку Новая Папіна Драгічынскага раёну Берасьцейскай вобласьці.

**26. Мэмарыяльныя калёны на Берасьцейшчыне**

Калёны з чырвонай цэглы з крыжам наверсе ў гонар паўстанцаў усталяваныя ў вёсках Палонск і Магілёўцы Пружанскага раёну Берасьцейскай вобласьці.

**27. Пахаваньне касінераў з косамі**

Незвычайнае пахаваньне паўстанцаў 1863–1864 гадоў знаходзіцца каля вёскі Сабалі Бярозаўскага раёну на Берасьцейшчыне. Над магілай стаіць крыж, а чатыры рагі агароджы аздабляюць косы, зь якімі ваявалі касінеры.

**28. Магіла паўстанца-вэтэрана на Берасьцейшчыне**

Пахаваньне Антонія Калішка знаходзіцца на каталіцкіх могілках у вёсцы Шчытнікі Берасьцейскага раёну. Паўстанец перажыў рэпрэсіі і памёр ва ўзросьце 95 гадоў.

**29. Крыж паўстанцам у Столінскім раёне**

Мэталічны крыж у гонар двух пахаваных тут паўстанцаў устаноўлены каля вёскі Вароні Столінскага раёну Берасьцейскай вобласьці.

**30. Капліца на месцы пахаваньня паўстанцаў каля Берасьця**

Капліца роду Талочак месьціцца ў вёсцы Вялікая Ра́кавіца Берасьцейскага раёну.

Талочкі былі ўдзельнікамі паўстаньня 1863–1864 гадоў.

**31. Мэмарыял каля вёскі Калоднае на Берасьцейшчыне**

Улетку 1863 году ў ваколіцах маёнтку Калодна (цяпер Столінскі раён Берасьцейскай вобласьці) быў разьбіты паўстанцкі атрад пад кіраўніцтвам Рамуальда Траўгута. На гэтым месцы паставілі

помнік, які зьяўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасьцю раёну, і крыж.

**32. Помнік паўстанцам у Пагосьцішчы**

Помнік у гонар паўстанцаў 1863 году зьявіўся ў вёсцы Пагосьцішча Лёзьненскага раёну з ініцыятывы мясцовай настаўніцы Алены Грачышнікавай у 2006 годзе. Але апякуюцца ім пераважна аршанцы, бо пастаўлены помнік у гонар апошняга бою паўстанцаў менавіта аршанскага атраду. Бой адбыўся 26 красавіка 1863 году.

Штогод аршанскія актывісты прыяжджаюць сюды 28 жніўня — у дзень расстрэлу камандзіра атраду Ігната Будзіловіча. Яны парадкуюць тэрыторыю вакол помніка, ладзяць імправізаваныя канцэрты.

**33. Магіла ўдзельніка паўстаньня, які дажыў да 91 году**

Пахаваньне Міхала Фалькоўскага знаходзіцца на могілках у вёсцы Падсьвільле паблізу Глыбокага на Віцебшчыне. Ён быў удзельнікам паўстаньня 1863–1864 гадоў. Быў сасланы ў Сібір. Дажыў да 91 году.

**34. Магіла сваяка Ўладзімера Караткевіча ў Рагачове**

Шляхціц Тамаш Грыневіч узначальваў паўстанцкі атрад у Рагачоўскім павеце. Быў арыштаваны і расстраляны разам з паплечнікамі ў 1863 годзе каля старых гарадзкіх могілак, на якіх ягонае цела таемна пахавалі. На месцы расстрэлу стаіць крыж і памятны валун. Ягоная постаць стала прататыпам героя ў творах Караткевіча. Паводле сямейнай легенды, быў сваяком беларускага пісьменьніка Ўладзімера Караткевіча.

**35. Магіла паўстанца-студэнта ў Горках**

24 красавіка 1863 году ў Горкі ўвайшоў атрад Людвіка Зьвяждоўскага, паплечніка Кастуся Калі-

ноўскага. Было абвешчана, што ў мястэчку ўсталёўваецца народная ўлада.

Паўстанцаў падтрымалі студэнты мясцовага земляробчага інстытуту (цяпер Сельскагаспадарчая акадэмія). У ваеннай сутычцы з расейскімі войскамі ў Горках і загінуў студэнт інстытуту Войцех Дамарацкі.

За савецкім часам у акадэмічным дэндрапарку на магіле Войцеха Дамарацкага паклалі мармуровую пліту як змагару з царызмам.

Яна трэснула, і горацкія рупліўцы даўніны настаялі, каб улады замянілі яе. Паставілі абэліск з надпісам на расейскай мове.

**36. Магіла паўстанца ў Менску**

На цэнтральнай алеі Кальварыйскіх могілак, непадалёк ад касьцёла (зьлева) можна знайсьці магілу Яна Баляслава Луцкевіча (15.05.1831–04.09.1895) — штабс-капітана расейскай арміі, удзельніка паўстаньня 1863–1864 гадоў, які цудам пазьбег рэпрэсій.

Бацька дзеячаў беларускага адраджэньня і ініцыятараў незалежнасьці Івана і Антона Луцкевічаў Ян Баляслаў быў адным зь першых прафэсійных беларускіх чыгуначнікаў.

Сябраваў зь Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам, які прысьвяціў яму верш „Заўтра Спаса, кажуць людзе“.

**37. Помнік паўстанцам пад аховай дзяржавы ў Плябані**

На старых могілках вёскі Плябань у Маладачанскім раёне пахаваныя кіраўнік паўстаньня на Маладачаншчыне й Вялейшчыне Юльян Бакшанскі, а таксама ягоныя аднадумцы і памочнікі паўстанцы — Рафал Малішэўскі, Людвік Ямант,

Леапольд Панькоўскі і пятнаццацігадовы гімназіст Сулістроўскі.

Яны загінулі падчас бою з расейскімі войскамі 23 сакавіка 1863 году недзе ў раёне вёскі Сьвечкі.

Помнік на магіле паўстанцаў Каліноўскага зьявіўся ў 1921 годзе, але доўгі час быў занядбаны, пакуль Зянон Пазьняк і Міхась Чарняўскі не адкрылі яго наноў у 1980-х ды не дамагліся ад уладаў устаноўкі новага.

Сёньня на камені адразу дзьве шыльды: афіцыйная з пазнакай, што магіла ёсьць аб'ектам гісторыка-культурнай спадчыны, і „грамадзянская“: „Тут пахаваныя паўстанцы — змагары за незалежнасьць і волю Беларусі і Літвы“.

**38. Месца бітвы ў Налібацкай пушчы**

17 траўня 1863 году ва ўрочышчы Буды ў Налібацкай пушчы адбылася бітва паўстанцаў Каліноўскага з расейскімі салдатамі.

Атрад Янкі Каваля і ксяндза Фэліцыяна Лашкевіча налічваў 65 чалавек.

У пушчы да іх далучыліся каля 20 мясцовых абшарнікаў, шляхты. Атрад адважна змагаўся са значна большай групай расейцаў, але вымушаны быў адступіць пад Мілавіды.

Да Другой сусьветнай вайны ў Будах была лесьнічоўка і пастаянна жыла сям'я лесьніка.

Урочышча месьціцца далёка ад вялікіх дарог, найбліжэйшы населены пункт — вёска Кляцішча. Трапіць туды няпроста, а звычайным транспартам — рызыкоўна.

Месца да гэтага часу ніяк не ўшанавана. Старая дуброва, рака побач, цішыня і слаўная мінуўшчына робяць з Будаў выдатнае месца для летняй вандроўкі з намётамі.

**39. Магіла паўстанцаў з косамі на Вялейшчыне**

Каля вёскі Ўладыкі Вялейскага раёну Менскай вобласьці на месцы пахаваньня паўстанцаў 1863–1864 гадоў стаіць крыж.

Дарогу да яго паказвае ўказальнік з косамі, якімі ваявалі касінеры з царскімі войскамі.

**40. Магіла „апошняга паўстанца“ каля Маладэчна**

Удзельнік паўстаньня Ігнат Абрамовіч дажыў да 106 або да 108 гадоў (паводле розных зьвестак). Пахаваны на каталіцкіх могілках у вёсцы Краснае Маладачанскага раёну Менскай вобласьці. Ягоную сям'ю забілі царскія ўлады, родную сядзібу спалілі. Самога саслалі ў Сібір на 12 гадоў. Вярнуўся ў Беларусь. Меў пяцёра дзяцей.

Да скону хадзіў у паўстанцкім галаўны ўборы — канфэдэратцы.

**Павел Обухович**

На могілках у весцы Кашубінцы паблізу Скідзеля Горадзенскай вобласці пахаваныя паустанцы 1863 г. Месца пахавання не пазначана, на жаль.

**Рамуальд Ніпрышэй-Прысьцябай**

А шыльда ў гонар Каліноўскага ў Менску на вуліцы Каліноўскага — хіба дрэннае месца для ўшанаваньня?!

**Uladzimier Skrabatun**

Магілу Міхала Фалькоўскага ў Падсьвільлі знайшоў выпадкова менавіта я. Знайсці б яшчэ магілу ў Глыбокім Францішка Зарэмбы, таксама удзельніка паўстання 1863 года. У 1938 годзе ён меў 120 гадоў і сваімі нагамі дайшоў да выбарчага ўчастка. Аб гэтым пісала газета „Slowo“. У Глыбокім захаваліся руіны кармеліцкага кляштара. Манахі бралі чынны ўдзел у паўстанні. У гэтым будынку чыніў прысуды Мураўёў-вешальнік.

## У Вільні адкрыецца выстава пра знойдзеных на гары Гедзіміна паўстанцаў

16 лістапада 2019

Пра знойдзеных на Замкавай гары ў Вільні паўстанцаў можна будзе даведацца з экспанатаў новай выставы, арганізаванай Дзяржаўным музеем Літвы ў будынку былой віленскай турмы для палітычных вязьняў.

Выстава называецца „Абуджаныя“. Поўная назва: „The Awakened: The History of the Rebels Found on Gedimino Hill / Абуджаныя: гісторыя паўстанцаў, якіх знайшлі на Гары Гедзіміна“.

Выстава адкрыецца 21 лістапада і будзе дзейнічаць да 31 траўня 2020 году. Адрас: вуліца Тадэвуша Касьцюшкі (T. Kosciuškos) № 1.

Арганізатары паведамляюць, што выстава будзе працаваць у сераду і чацьвер ад 12.00 да 20.00, а ад пятніцы да нядзелі ад 12.00 да 18.00.

Уваходныя квіткі будуць па 4 эўра, ільготныя — па 2 эўра.

## Лукашэнка пра Каліноўскага: „Быў нашым грамадзянінам“

17 лістапада 2019

У часе размовы з журналістамі пасьля галасаваньня на выбарах у Палату прадстаўнікоў Лукашэнка выказаў сваё стаўленьне да постаці Кастуся Каліноўскага.

„Я ведаю ролю Кастуся Каліноўскага ў гісторыі. Але не настолькі, як, вы думаеце, вы ведаеце. Там было вельмі шмат нюансаў, і я сваіх палітыкаў і вучоных перасьцерагаю, каб мы, ацэньваючы ролю Каліноўскага, ня ўдарыліся ў нейкую палітыку. Ён дзейнічаў на нашай тэрыторыі, быў нашым чалавекам, калі хочаце — грамадзянінам. І ад гэтага нікуды не падзецца. Нават як гісторык я баюся паглыбляцца ў гэтую праблему“, — заявіў Лукашэнка.

На пытаньне, ці варта было вярнуць парэшткі Каліноўскага ў Беларусь, Лукашэнка рашуча адказаў: „Ня трэба“.

„Косьці варушыць ня трэба“, — дадаў ён.

## Афіцыйную Беларусь на пахаваньні Каліноўскага прадставіць намесьнік прэм’ер-міністра

18 лістапада 2019

Міністэрства замежных справаў Беларусі 18 лістапада перадало літоўскім калегам вынікі экспэртызы матэрыялаў зь меркаванага пахаваньня Віктара Каліноўскага.

Вынікі экспэртызы МЗС Беларусі апублікавала ў сваім фэйсбуку.

Меркаваныя парэшткі Віктара Каліноўскага літоўскаму боку не перадаваліся, паведамілі ў прэсслужбе МЗС Беларусі.

Афіцыйную дэлегацыю Беларусі на пахаваньні Каліноўскага ўзначаліць намесьнік прэм’ерміністра Ігар Петрышэнка.

## Імёны Свабоды. Марыя Ямант

18 лістапада 2019
Уладзімер Арлоў

Яна была роднай сястрой паплечніка і аднадумца Кастуся Каліноўскага — Язэпа Яманта. Юнакі пасябравалі ў Пецярбурскім унівэрсытэце. Калі Каліноўскі выправіўся на радзіму рыхтаваць паўстаньне, Язэп паехаў сьледам. Кастусь часта бываў па сваіх нелегальных справах у Вільні, і сям'я Ямантаў прапанавала яму спыняцца ў іхняй кватэры на вуліцы Вялікай у самым цэнтры былой сталіцы Княства. Там і адбылося знаёмства Кастуся і Марыі. Сябры сьцьвярджалі: гэта было каханьне зь першага позірку.

Пачыналася вясна 1861-га. Каліноўскі меў дваццаць тры гады, Марыя — на тры меней. Яна была адукаванай дзяўчынаю: ведала замежныя мовы, глыбока цікавілася гісторыяй і літаратурай. Хутка Кастуся сустракалі ў Ямантаў ужо як самага жаданага госьця. Праз год Марыя зрабілася яго нарачонаю. Яна прыняла ад каханага заручальны пярсьцёнак і проста сьвяцілася шчасьцем, хоць і прадчувала, што наперадзе іх чакаюць нялёгкія выпрабаваньні.

Надзею на хуткае вясельле перакрэсьліў пачатак паўстаньня. Кватэра Ямантаў ператварылася ў яго сапраўдны штаб зь нелегальнай друкарняй. Менавіта там Каліноўскі сустракаўся з камісарам Нацыянальнага ўраду ў Варшаве і адстойваў будучую самастойнасьць народаў Вялікага Княства Літоўскага і перадачу зямлі сялянам.

Марыя стварыла ў Вільні падпольны жаночы камітэт салідарнасьці. Ён захоўваў і пашыраў нелегальную літаратуру, браў пад апеку паўстанцкія сем'і і саміх вязьняў. Яго ўдзельніцы зьбіралі ахвяраваньні, разносілі пошту, усялякімі шляхамі перадавалі ў турэмныя камэры лісты, прадукты, сьвежую бялізну.

Побач з Марыяй заўсёды была сястра Людвіка. Менавіта дзякуючы яе ўспамінам мы найперш і ведаем пра пачуцьці Марыі і Кастуся і пра тое, што Марыя была яго нарачонаю. Людвіка пахаваная на віленскіх могілках Росы, там, дзе праз 155 гадоў пасьля тых падзеяў знойдуць апошні зямны прыстанак Каліноўскі зь Серакоўскім ды іхнія паплечнікі.

Той самай студзеньскай ноччу, калі схапілі Кастуся, паліцыя арыштавала і сям'ю Ямантаў. Кіраўніка паўстаньня зьняволілі ў былым дамініканскім кляштары, Марыю — у манастырскіх мурах насупраць. Яе цётка Ядвіся Макрыцкая падкупіла ахову і здолела наладзіць нарачоным ліставаньне. У цыдулцы да любай Каліноўскі пісаў: „Зайздрошчу свабодзе вароны, якую бачу з вакна на сьнезе…“. Дарэчы, якраз празь цётку Ядвісю ўдалося перадаць на волю "Лісты з-пад шыбеніцы". Да нас, як вядома, дайшоў і вершаваны ліст да каханай, напісаны Кастусём незадоўга да сьмерці:

*Марыська чарнаброва, галубка мая,*
*Дзе ж падзелася шчасьце і ясна доля твая?..*

Разам з бацькамі і сястрой Марыю выслалі на дзесяць гадоў у сібірскі Табольск. Увесь гэты час яна насіла жалобу па каханым.

Марыя Ямант. 1842, Вільня — 3.9.1908, Варшава. Пахаваная на варшаўскіх Паванзкоўскіх могілках.

## Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі

19 лістапада 2019
Сяргей Абламейка

### Дзень народзінаў

Вялікая загадка беларускай гісторыі — нараджэньне Беларусі як краіны.

З аднаго боку, мы, беларусы, лёгка прызнаем, што маем маральнае права са зваротнай сілай называць беларускім усё, што стварылі і мелі продкі на нашай зямлі аж з часоў Полацкай дзяржавы. А таксама саміх гэтых продкаў.

Зь іншага боку, гісторыкі так і не прыйшлі да згоды адносна дакладнага вызначэньня паняцьцяў „беларускі народ“, „беларуская нацыянальная ідэя“, „беларуская нацыя“ і нават „беларуская нацыянальная палітыка“.

Спрачаюцца і пра тое, калі гэта ўсё як сацыяльна-гістарычны фэномэн узьнікла.

Адказы на гэтыя пытаньні губляюцца ў смузе часу і мностве гістарычных канцэпцый і поглядаў, народжаных за апошняе стагодзьдзе.

Калі мова ідзе пра паняцьці з прыметнікам „нацыянальны“, то зразумела, што маецца на ўвазе пэрыяд ад канца XVIII стагодзьдзя да нашага часу. Якраз у гэты прамежак гісторыі пакладаюцца ўсе наяўныя ў беларускім інтэлектуальным дыскурсе канцэпцыі.

Калі ж гаворка заходзіць пра нацыю, нельга абысьціся без палітыкі. Палітычная пастаноўка нацыянальных мэтаў і іх палітычная абарона сьведчаць пра тое, што працэс нацыянальнай кансалідацыі зайшоў дастаткова далёка.

У нашым выпадку гэта азначае пэрыяд, калі частка гістарычных ліцьвінаў і частка гістарычных русінаў зь ліку адукаваных прадстаўнікоў грамадзтва вырашылі ідэнтыфікаваць сябе як беларусаў на падставе сваёй, або сваіх продкаў, „рускай“ мовы — так у Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай называлі беларускую мову ў XIV–XVIII стагодзьдзях.

Калі гэта здарылася зь Беларусьсю ў яе сёньняшнім значэньні?

Хто стаяў ля вытокаў беларускай палітычнай ідэі?

Сёньня мы можам назваць дакладны год, месяц і дзень палітычнага нараджэньня сваёй краіны.

Гэта адбылося, калі ў Вільні быў утвораны Часовы правінцыйны ўрад Літвы і Беларусі на чале зь Вінцэнтам Канстанцінам (Кастусём) Каліноўскім.

Дата на календары — 1 лютага 1863 году.

## Як слова „нацыя“ і вытворныя ад яго блытаюць галовы

Тэрмін „нацыянальны“ — амбівалентны, ён мае і палітычны (сацыялягічны), і этнічны зьмест. З аднаго боку, мы кажам, што нацыі ўзьніклі ў часы мадэрну, і вызначаем іх розныя тыпы, а зь іншага боку кажам „нацыянальныя строі беларусаў“, маючы на ўвазе чыста этнічную зьяву.

Гэтай амбівалентнасьці ня трэба баяцца і ня трэба зацыкліваццa на адным зь яе бакоў. Урэшце, на

сьвеце існуе беларускі народ, які жыве ў сваёй дзяржаве Беларусі. Гэта ён стварыў беларускую нацыю, да якой пры жаданьні могуць свабодна далучыцца (і далучаюцца) іншаэтнічныя жыхары Беларусі.

Адпраўным пунктам нацыі лічыцца момант, калі з народных шэрагаў вылучаецца вялікая група людзей, якая ставіць сабе за мэту абарону правоў гэтага народу палітычнымі сродкамі.

Таму кажуць, што беларуская нацыя заявіла пра сябе тады, калі Вацлаў Іваноўскі, браты Іван і Антон Луцкевічы і іншыя беларускія дзеячы стварылі ў 1903 годзе першую беларускую палітычную партыю — Рэвалюцыйную грамаду.

Але палітыка — ня толькі партыі і ўрады. Палітычным дзеяньнем можа быць, напрыклад, і вайна, якую прускі генэрал Карл фон Кляўзэвіц называў працягам палітыкі іншымі сродкамі.

Дык вось, Кастусь Каліноўскі разам з паплечнікамі стварыў нелегальную палітычную арганізацыю і пасьля палітычнай і культурнай падрыхтоўкі ў форме распаўсюджваньня газэт і праклямацый пачаў узброеную барацьбу (вайну) за самастойнасьць і незалежнасьць беларускага народу.

У дакумэнтах паўстаньня і тэкстах Каліноўскага пачалі выкрышталізоўвацца тэрміны «Беларусь» і «беларускі».

### Беларушчына да Каліноўскага

Беларуская нацыянальная ідэя ўзьнікла ў самым канцы XVIII — пачатку XIX стагодзьдзяў у асяродзьдзі адукаваных уніяцкіх сьвятароў.

Гэта не азначае, што тады пачаў фармавацца новы этнічны ці нацыянальны арганізм. Наш народ меў сваю моўна-культурную ідэнтычнасьць ад са-

мага часу ўзьнікненьня асноўных рыс беларускай мовы ў VIII–IX стагодзьдзях. Пацьверджаньне гэтаму — факт існаваньня і гісторыя Полацкай дзяржавы.

Калі мы кажам пра ўзьнікненьне беларускай нацыянальнай ідэі, мы маем на ўвазе пачатак працэсу замены тэрмінаў „русін“ і „рускі“ на тэрміны „беларус“ і „беларускі“ самімі іх носьбітамі — жыхарамі былога Вялікага Княства Літоўскага. Часткова гэта тычыцца і тэрміну „ліцьвін“.

З другой паловы XVIII стагодзьдзя ў літаратурнай творчасьці старабеларуская пісьмовая традыцыя пачынае выцясьняцца новай, больш набліжанай да гутарковай мовы.

У 1826 годзе на публічным адкрыцьці курсу славяназнаўства ў Галоўнай духоўнай сэмінарыі Віленскага ўнівэрсытэту ўніяцкі сьвятар, прафэсар Міхал Баброўскі заявіў, што дзяржаўнай мовай ВКЛ і мовай літоўскіх статутаў была „беларуская мова“.

У 1837 годзе пачынаецца выданьне фальклёрных зборнікаў, дзе ўжо фігуруе тэрмін „беларускі“.

У 1838 годзе ў віленскім альманаху „Bojan“ друкуецца „Песьня на беларускай гаворцы“. Так рэдакцыя назвала верш „Скажы, вяльможны пане...“ беларускага паэта Ігната Легатовіча, які нарадзіўся ў вёсцы Малая Капліца пад Горадняй.

У 1840 годзе ў Парыжы паэт і фальклярыст Аляксандар Рыпінскі выдае кнігу „Беларусь“.

У 1842 годзе чэскі славіст Павел Шафарык выдае ў Празе „Славянскі народапіс“, дзе ставіць беларускую мову ўпоравень зь іншымі славянскімі мовамі.

У 1843 годзе выкладчык Полацкага духоўнага павятовага вучылішча Іосіф Цытовіч пачынае

прапагандаваць у расейскім друку Беларусь і беларускую мову.

У 1844 годзе ў Санкт-Пецярбургу пачынаецца выданьне „Rocznika Literackiego“ пад рэдакцыяй крытыка і публіцыста, аўтара „Лістоў пра Беларусь“ Рамуальда Падбярэскага. У Санкт-Пецярбургу дзейнічае беларускі гурток, удзельнікам якога зьяўляецца Падбярэскі.

У тым самым 1844 годзе Падбярэскі ў рэцэнзіі на музычную паэму кампазытара Антона Абрамовіча „Беларускае вясельле“ ўпершыню заяўляе пра „беларускую нацыянальнасьць“:

„Ідэя беларускіх паэтаў адносна праяўленьня нацыянальнасьці ў мастацтве пачынае выказвацца і ў музыкаў“.

У 1845 годзе ў расейскім часопісе „Маяк“ выходзіць друкам беларуская паэма „Энэіда навыварат“ Вікенція Равінскага.

У сярэдзіне 40-х гадоў XIX стагодзьдзя ў Санкт-Пецярбургу выходзяць чатыры тамы „Шляхціца Завальні, або Беларусі ў фантастычных апавяданьнях“ Яна Баршчэўскага.

У 1846 годзе Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч выдае дзьвюхмоўную п’есу „Сялянка“.

У 1848 годзе Ўладзіслаў Сыракомля вітае рэвалюцыйную „вясну народаў“ вершам на беларускай мове „Добрыя весьці“.

У 1849 годзе ў Вільні складаецца праект беларускага часопісу. У сьнежні таго году кампазытар Станіслаў Манюшка піша ў Менск літаратару, музычнаму крытыку і выдаўцу Аляксандру Валіцкаму: „Падбярэскі закончыў выданьне першага тома „Pamiętnika“… здаецца, што ён будзе рэдактарам

беларускага часопісу, пра які мы зноў пачынаем гаварыць...“

Але ў наступным годзе ў Вільні і іншых месцах Беларусі адбываюцца арышты групы грамадзкіх і культурных дзеячоў. Рамуальда Падбярэскага высылаюць у Архангельскую губэрню, дзе ён памірае ў 1856 годзе.

Вось гэтага ўраджэнца і выхаванца Вільні і трэба лічыць першай ахвярай і першым героем новай Беларусі.

## Беларусь і беларуская мова ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя

Беларусьсю ад XVII стагодзьдзя называлі Полаччыну, Віцебшчыну і Магілёўшчыну. Астатняя частка сёньняшняй Беларусі называлася Літвой.

Менавіта пра Полаччыну і Віцебшчыну пісаў Рамуальд Падбярэскі ў сваіх „Лістах пра Беларусь“.

Можна казаць, што ў 40–50-я гады XIX стагодзьдзя існавала адрознае тэрытарыяльнае разуменьне Беларусі і беларускай мовы. Беларуская мова ахоплівала сабой і тагачасную Беларусь, і большую частку гістарычнай Літвы.

Дзе ёсьць мова, там ёсьць і яе носьбіт — народ. На вокладцы кнігі „Гапон“ Дуніна-Марцінкевіча, выдадзенай у 1855 годзе ў Менску, было напісана, што гэта „беларуская аповесьць… на мове беларускага народу“.

Паколькі Менск знаходзіўся ў гістарычнай Літве, то ў гэтым выпадку мы маем справу з парасткамі разуменьня, што беларускі народ жыве ня толькі ў Беларусі, але і ў Літве.

Дунін-Марцінкевіч ня мог прызначаць свае кнігі толькі для Віцебшчыны.

У 50-я гады XIX стагодзьдзя зьяўляюцца тэксты Ўладзіслава Сыракомлі і Віктара Каліноўскага (брата Кастуся), дзе беларуская мова называецца крывіцкай гаворкай. Але тэрмін „крывіцкая“ ў іх ідзе на другім месцы, як удакладненьне пасьля тэрміну „беларуская“, каб падкрэсьліць яе старажытнасьць.

„«Вечарніцы» напісаныя на беларускай або, дакладней, крывіцкай мове. Пекная гэта галіна славянскай мовы... і старая! Бо гэта мова нашага Літоўскага статуту і заканадаўства... на ёй размаўлялі тры чвэрці даўняй Літвы, народ, шляхта і паны“, — пісаў у 1855 годзе Сыракомля пра творы Дуніна-Марцінкевіча.

Сам Дунін-Марцінкевіч у тым самым 1855 годзе канстатаваў: „Я пад старасьць зрабіўся песьняром беларускага народу“, а празь некалькі гадоў яго калега, паэт Арцём Вярыга-Дарэўскі ў лісьце да Адама Кіркора заявіў: „Зь Беларушчынай не разбратаўся. Гэта мой ідэал. Можа дарэмна на яе трачуся. Што ж рабіць — «Па Хомку шапка»“.

Важным для беларускай мовы і ўсёй беларускай культуры стаў 1858 год. У пачатку верасьня Вільню наведваў расейскі імпэратар Аляксандар II. Падчас знаходжаньня ў сталіцы былога Вялікага Княства Літоўскага манарху быў уручаны дыхтоўна выдадзены Адамам Кіркорам „Віленскі альбом“. У альбоме, сярод іншага, былі зьмешчаны і два вершы на мовах аўтахтоннага насельніцтва краю — па-беларуску і па-літоўску. Аўтарам беларускага верша быў Вінцэсь Каратынскі. За гэты альбом польская эміграцыя ў Парыжы абвінаваціла Кіркора ў здрадзе нацыянальным інтарэсам.

Наогул, тады ў Вільні сабралася шмат літоўска-беларускай шляхты прагрэсіўных поглядаў для

перадачы цару просьбы аб скасаваньні прыгону. І вось напярэдадні прыезду Аляксандра ІІ у Вільні адбыўся ні многа ні мала... першы зьезд беларускіх пісьменьнікаў. У ім бралі ўдзел літаратар і гісторык Адам Кіркор, паэты Ўладзіслаў Сыракомля, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Вінцэсь Каратынскі і некалькі іх маладзейшых калегаў.

Пісьменьнікі абмеркавалі становішча беларускай мовы, культуры і літаратуры, а таксама склалі вялікі і амбітны плян асьветнай, выдавецкай і літаратурнай працы. На думку ўдзельнікаў сходу, менавіта літаратура на беларускай мове магла аб'яднаць народ, які належаў да розных станаў і розных веравызнаньняў.

У расейскіх уладаў, аднак, былі іншыя пляны. У наступным 1859 годзе быў канфіскаваны і зьнішчаны беларускі пераклад міцкевічаўскага „Пана Тадэвуша“, зроблены Дунінам-Марцінкевічам.

## Беларусь і Літва ў публіцыстыцы паўстаньня

Тэрмін „Літва“ ў галовах і тэкстах паўстанцаў меў амбівалентны характар. Мовы яны адрозьнівалі дакладна, а вось з нацыянальным зьместам паняцьця „Літва“ часам была блытаніна. Адны называлі Літвой цэнтральную частку былога ВКЛ, іншыя — увесь яго былы абшар.

Да таго ж у асяродзьдзі паўстанцаў суіснавалі розныя ідэалягічныя і культурныя плыні і погляды. Адны зь іх беларускіх мужыкоў называлі палякамі, другія — літоўцамі, трэція — беларусамі. Пра гэта сьведчаць апублікаваныя і неапублікаваныя дакумэнты паўстаньня.

У адным з такіх тэкстаў, які беларускі гісторык Генадзь Кісялёў усьлед за многімі сваімі калегамі зь

Беларусі, Польшчы і Расеі лічыў прыпісанай Каліноўскаму падробкай варшаўскіх дзеячоў, гаварылася: „Мы, хто жывемо на зямлі Польскай, што ямо хлеб Польскі, мы Палякі ад векаў вечных“.

У другім — не надрукаваным нумары „Мужыцкай праўды“ ад 1862 году — гаварылася: „Зямля наша зь вякоў вечных называецца літоўская, а мы то называемся Літоўцы“.

У трэцім — ставілася пытаньне аб школах на роднай мове і аб праве на свабоднае разьвіцьцё ўсіх народаў былой Рэчы Паспалітай: „Масква перасьледуе мову польскую, беларускую, маларускую, літоўскую і навязвае маскоўскую; мы хочам, каб кожная мова разьвівалася паводле ўласнай жыцьцяздольнасьці: і літоўская, і беларуская, і маларуская, і польская“, — пісаў падпольны „Głos z Litwy“ праз тыдзень пасьля пакараньня сьмерцю Кастуся Каліноўскага.

У выдадзеным у чэрвені 1863 году ў Вільні беларускамоўным „прыказе“ Кастусь Каліноўскі зьвяртаўся „да народу зямлі Літоўскай і Беларускай“.

Як бачым, ужо былі беларускія мова, народ і зямля. Зусім мала заставалася і да зьяўленьня краіны.

Нарэшце,у другой палове 1863 году ў паролі паўстанцаў зьяўляецца краіна Беларусь: „Каго любіш? — Люблю Беларусь! — То ўзаемна!“

Зразумела, што Каліноўскі і яго паплечнікі не маглі любіць выключна Віцебшчыну і Магілёўшчыну. Пагатоў, як даказана мовазнаўцамі, публіцыстыка паўстаньня, у тым ліку тэксты Каліноўскага, утрымліваюць асаблівасьці гарадзенскіх беларускіх гаворак. З Гарадзеншчыны паходзілі і члены рэдакцыі „Мужыцкай праўды“ Валеры Ўрублеўскі і Фэлікс Ражанскі.

Гэтак яны знайшлі сваю краіну.

## Сучасьнікі пра сэпаратызм Каліноўскага

Кастусь Каліноўскі, бясспрэчна, зьяўляецца першым беларускім палітычным дзеячом і першым змагаром за незалежнасьць Беларусі.

Пра гэта ў адзін голас сьведчаць усе сучасьнікі Каліноўскага, якія пакінулі ўспаміны пра яго. Пра тое самае сьведчаць матэрыялы сьледчай справы і тэксты расейскага гісторыка паўстаньня генэрала Васілія Ратча.

„Константин Калиновский... во главе честолюбивейших личностей из красных литвинов настойчиво проводил идею о самостоятельности Литвы“ — пісаў Ратч у „Сведениях о польском мятеже“ і пераказваў адну з фразаў Каліноўскага: „Такой бестолковой башке, как Варшава, нельзя вверять будущую судьбу Литвы“.

З запісак Ратча мы ведаем, што вайсковы кіраўнік паўстаньня Зыгмунт Серакоўскі „мечтал об образовании конфедеративного государства, соединенного в одной нераздельной Польше, но в которое бы Литва вошла, имея своих представителей“, а вось „Калиновский стоял внимательным сторожем интересов Литвы и отстаивал, чтобы средства и силы Литвы вовсе не шли бы на дело Царства Польского. Литва, говорил он своим интимным, должна воспользоваться разладом между Россиею и Польшею и сделаться самостоятельною“.

Адзін зь лідэраў паўстаньня Якуб Гейштар у сваіх мэмуарах называе Каліноўскага перакананым літоўскім сэпаратыстам.

Варшаўскі ўдзельнік паўстаньня Юзаф Яноўскі пісаў, што Каліноўскі „адносіны Літвы і Польшчы разумеў толькі як фэдэратыўныя — з поўнай незалежнасьцю Літвы“.

Гісторык паўстаньня Баляслаў Ліманоўскі пісаў, што Каліноўскі „раўніва пільнаваўся поўнай роўнасьці і самастойнасьці Літвы“.

Польскі гісторык Валеры Пшыбароўскі сьцьвярджаў, што Каліноўскі „быў адным з галоўных прыхільнікаў і папулярызатараў сэпаратысцкіх літоўскіх памкненьняў і не адзін раз выказаўся на сваёй сакавітай народнай мове, што «дурным варшаўскім мазгаўням нельга давяраць лёсы Літвы» ... Паводле яго, Літва павінна разам з Польшчай дабівацца незалежнасьці, змагацца за выбаўленьне ад чужога захопніка, але складаць асобную адзінку, зусім незалежную ад Польшчы...“

Падобных сьведчаньняў мноства. Калі ж дадаць сюды факт зацятых спрэчак з Варшавай пра межы паміж Польшчай і „Літвой“, то перад намі паўстае поўная карціна палітычнай барацьбы Каліноўскага за бацькаўшчыну.

Паводле сьведчаньня асабістага сакратара Каліноўскага Юзафа Яманта, у жніўні 1863 году лідэр паўстаньня вёў вострую палеміку з Варшавай, пратэстуючы супраць плянаў уключыць у склад Царства Польскага Ковенскае і Горадзенскае ваяводзтвы. Вядомы і факт вострага канфлікту з Варшавай, якая ўзяла на сябе кіраваньне Беластоцкім аддзелам. Каліноўскі рашуча выступіў супраць і дамогся вяртаньня роднай Беласточчыны пад уладу Вільні.

У прыведзеных цытатах, якія належаць этнічным палякам і расейцу — сучасьнікам Каліноўскага, Літвой называлася ўсё былое ВКЛ.

Але мы разумеем, што ўжо выбраўшы Беларусь сваёй радзімай, Каліноўскі і яго паплечнікі змагаліся за ўсё былое Вялікае Княства Літоўскае, без

асобных Літвы і Беларусі. Яны не маглі яшчэ ўявіць сабе асобнага дзяржаўнага існаваньня славянскай і балцкай частак ВКЛ.

Як не маглі яго ўявіць і беларускія палітыкі, арыстакраты і шляхта нават у пачатку XX стагодзьдзя — Іван і Антон Луцкевічы, Раман Скірмунт, Геранім Друцкі-Любецкі, Эдвард Вайніловіч, Юры Гутэн-Чапскі, Альбрэхт-Антоні Радзівіл і іншыя. Апошняя спроба з боку беларусаў захаваць ВКЛ датуецца 1918 годам.

### Крыніцы палітычнага сэпаратызму

Вытокі незалежніцкай пазыцыі Каліноўскага і яго паплечнікаў караніліся ў шматвяковай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Насуперак сьцьвярджэньням многіх гісторыкаў, ВКЛ ад часу свайго заснаваньня ў XIII стагодзьдзі аж да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе ніколі ня трациіла сваёй палітычнай суб'ектнасьці. Ёсьць нават падставы казаць, што Вялікае Княства заўсёды захоўвала сувэрэнітэт нягледзячы на Люблінскую унію 1569 году і Канстытуцыю 3 траўня 1791 году.

У 1569 годзе ў Любліне ВКЛ і Польшча злучыліся ў Рэч Паспалітую.

Акт уніі ў прэамбуле абвяшчаў, што Карона Польская і Вялікае Княства Літоўскае злучаюцца ў „непадзельнае цэлае". Гэта была праграма польскіх магнатаў. А вось у тэксьце акту былі ўлічаныя пажаданьні беларуска-літоўскай эліты.

Гісторыкі праз усё XX стагодзьдзе спрачаліся, што ж узьнікла пасьля 1569 году. Спэктар думак — ад адзінай дзяржавы, праз фэдэрацыю і канфэдэрацыю аж да поўнай незалежнасьці. Славуты гісторык

Станіслаў Закшэўскі лічыў Рэч Паспалітую саюзам незалежных дзяржаў.

Так ці іначай, паводле ўмоваў уніі, манарх, заканадаўчы орган (Вальны сойм) і зьнешняя палітыка былі адзінымі, а ўсё астатняе — асобным. Але неўзабаве і гэтыя дасягненьні палякаў былі перакрэсьленыя.

Эліты ВКЛ так моцна цанілі незалежнасьць, што заявілі, што не прызна́юць выбранага ў 1587 годзе караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазу, калі ён не зацьвердзіць новы Статут. Кароль быў вымушаны Статут падпісаць нягледзячы на вялікае супраціўленьне палякаў.

„Так у Вялікім Княстве набыў сілу галоўнага закону звод новых прававых нормаў, якія, па сутнасьці, адмаўляў прынцыпы дзяржаўнай уніі з Каронай“, — пісаў гісторык Генадзь Сагановіч.

Найважнейшыя палажэньні Статуту 1588 году і наступствы яго прыняцьця:

1. Пра Люблінскую унію ў Статуце ня згадвалася ні словам.

2. ВКЛ захавала Вальны сойм, які стаў называцца Вальным зьездам або канвакацыяй.

3. Статут сьцьвярджаў, што найважнейшыя зьнешнепалітычныя пытаньні (вайна і мір, скліканьне паспалітага рушэньня і іншыя) вырашаюцца толькі Вальным соймам (зьездам) ВКЛ.

4. На тэрыторыі ВКЛ Статут скасаваў раўнапраўе кароннай шляхты са шляхтай ВКЛ, трактуючы першую як чужаземную.

5. Польскай шляхце зноў было забаронена купляць зямлю ў ВКЛ.

6. Польская шляхта не магла займаць дзяржаўныя пасады ў ВКЛ.

7. Нават для праходжаньня польскага войска па тэрыторыі ВКЛ патрабавалася згода вялікага князя і паноў-рады.

8. Пасьля прыняцьця Статуту 1588 году абедзьве дзяржавы засталіся сувэрэннымі, захаваўшы свае ўрады, войска, грошы, судовую сыстэму і заканадаўства. Іх аб'ядноўваў толькі супольны манарх і сойм.

9. Але і манарх пасьля абраньня на сойме павінен быў праходзіць цырымонію паўторнага зацьвярджэньня і прысягі ў Вільні як вялікі князь.

Асобнае дзяржаўнае існаваньне ВКЛ, таксама насуперак меркаваньням многіх гісторыкаў, не зьмяніла і прыняцьце Соймам Рэчы Паспалітай Канстытуцыі 3 траўня 1791 году.

Ужо 20 кастрычніка таго году да Канстытуцыі была прынятая папраўка пад назвай „Узаемныя заручыны абодвух народаў". Гэты дакумэнт, прыняты паводле настойлівых патрабаваньняў эліты ВКЛ, гарантаваў далейшае існаваньне цэнтральных літоўскіх установаў і міністраў, уласную скарбовую касу і падаткі, асобны судовы лад, уласную сыстэму права і г. д.

Польскі гісторык Юліюш Бардах наступным чынам ахарактарызаваў становішча пасьля 1791 году:

„Узаемныя заручыны абодвух народаў былі саступкаю ліцьвінам, якія баранілі сваю палітычную суб'ектнасьць. Кампраміс адбыўся ў рамках існуючай фэдэрацыі... Гэта мацавала повязь паміж «палітычнымі народамі» Кароны і Вялікага Княства, а адначасна давала ліцьвінам магчымасьць захаваць традыцыю ўласнай дзяржаўнасьці..."

Магнаты і шляхта ВКЛ вякамі адстойвалі сваю самастойнасьць. Сэпаратызм Каліноўскага і яго

аднадумцаў быў працягам гэтай шматвяковай традыцыі.

Новым у гэтым быў толькі рост нацыянальнай сьвядомасьці ў асяродзьдзі эліты былога Вялікага Княства Літоўскага ў першай палове — сярэдзіне XIX стагодзьдзя. Гэты працэс выявіўся ў выбары прадстаўнікамі асьвечаных пластоў грамадзтва (адны зь якіх лічылі сябе ліцьвінамі, а іншыя — русінамі) назвы „Беларусь“ і „беларусы“.

Ідэйным пасьлядоўнікам і палітычным лідэрам гэтай часткі эліты былога ВКЛ стаў Кастусь Каліноўскі.

І гэта быў другі фактар, другая крыніца ягонага сэпаратызму нароўні з гістарычнай традыцыяй і запаветам яго шляхецкіх продкаў.

## Рэвалюцыянэр-радыкал ці патрыёт

Савецкая і нават постсавецкая гістарычныя школы нярэдка называлі Кастуся Каліноўскага рэвалюцыянэрам-дэмакратам.

У гады існаваньня Польскай Народнай Рэспублікі дакумэнты паўстаньня захоўваліся ў архіве ЦК Польскай аб’яднанай рабочай партыі. У XX стагодзьдзі Каліноўскага спрабавалі зрабіць ледзь не камуністам.

Такая сацыялягізацыя адсоўвала на другі плян нацыянальны аспэкт ягонай дзейнасьці — гэта адбывалася нават у Польшчы, ня кажучы ўжо пра СССР.

Але і сучасьнікі Каліноўскага называлі яго чырвоным радыкалам і нават „хлапаманам“. Жонка Зыгмунта Серакоўскага Апалёнія пісала пра Каліноўскага, што „быў ён сябрам люду — можа, нават хлапаманам“.

Якуб Гейштар пісаў у сваіх успамінах: „Пры першым маім знаёмстве з Каліноўскім у Далеўскага балюча ўразіла мяне яго тэорыя пра будучае паўстаньне на Літве. На думку Каліноўскага, можна разьлічваць толькі на... люд, а шляхту трэба пакінуць убаку“.

Вядомыя і больш радыкальныя выказваньні Каліноўскага пра шляхту, нават пагрозы. Напрыклад такое: „Паўстаньне мае быць чыста народным — шляхта, пакольківз намі ня пойдзе, няхай гіне — тады сялянская сякера не павінна спыніцца нават над калыскай шляхецкага дзіцяці“.

Але гісторыя захавала для нас і больш дакладныя сьведчаньні пра погляды Каліноўскага на рухаючыя сілы паўстаньня. У сваіх „Сведениях“ генэрал Ратч засьведчыў, што Каліноўскі зьбіраўся „раздать всю поземельную собственность крестьянам и из среды землепашцев составить организацию. Он заявлял, что укажет из мелкой шляхты и из крестьян на способные личности, которые сумеют панов принять в руки...“

Вось ключ, сапраўдны PIN-код для разуменьня грамадзка-палітычных поглядаў Кастуся Каліноўскага! Гэта — яго ашаламляльная згадка ня толькі пра сялян, але і пра „мелкую шляхту“.

Менавіта дробная шляхта і сялянства былі ў тыя часы носьбітамі беларускай мовы. Паводле лідэра паўстаньня, той, хто размаўляў па-беларуску, і складаў беларускі народ. А сярэдняя і буйная шляхта былі ўжо спалянізаванымі носьбітамі польскай мовы і польскай нацыянальнай сьвядомасьці.

Вось чаму ён сказаў: „Шляхта з намі ня пойдзе“. І вось чаму Каліноўскі спадзяваўся на шляхту дробную і на сялянства — менавіта з апорай на іх

ён зьбіраўся пабудаваць свой уласны нацыянальны беларускі дом у выглядзе адроджанай гістарычнай Літвы.

Польская шляхта Беларусі, паводле Каліноўскага, магла і павінна была перашкаджаць гэтаму нацыянальнаму праекту. Так і было ў сапраўднасьці. У 50–60-я гады XIX стагодзьдзя Дуніна-Марцінкевіча і яго аднадумцаў цкавалі арганізатары падпольных польскіх школаў.

Адсюль робіцца больш зразумелым і генэзіс назвы першай беларускай газэты — „Мужыцкая праўда“. А таксама і асноўны канспіратыўны псэўданім Кастуся Каліноўскага — Хамовіч. Вядома, што польская і спольшчаная шляхта Беларусі ў XIX — пачатку XX стагодзьдзя называла хамамі беларускіх сялян.

Дарэчы, і сам Каліноўскі пакінуў нам сьведчаньне аб тых, хто адгукнуўся на палымяныя заклікі „Мужыцкай праўды“. Ва ўласнаручнай тлумачальнай запісцы пасьля сьледзтва ён напісаў пра склад паўстанцкіх атрадаў на Горадзеншчыне ў часе, калі ён быў там камісарам:

„Состав этих отрядов был большей частью из крестьян казенных, мелкопоместной шляхты и городских жителей, в которых шайки и находили самую сильную поддержку. На помещиков и их крестьян я получал постоянные жалобы от военных начальников...“

У арыентацыі на небагатыя пласты грамадзтва мы знаходзім эмацыйны матыў і прычыну ягонага радыкалізму адносна заможных землеўласьнікаў. Выступаючы супраць удзелу ў паўстаньні спольшчанай буйной шляхты і арыентуючыся на дробную шляхту і на сялян — ён бараніў свой „дарагі народ“.

Важна зразумець — гэта быў ня толькі сацыяльны, але і нацыянальны праект. Ён хацеў забраць беларускую зямлю з рук палякаў і перадаць яе ў рукі беларусаў.

## Нацыянальны дэмакратызм Каліноўскага

Ня менш важнай за сацыяльную справядлівасьць для Каліноўскага была справядлівасьць нацыянальная.

Вось яшчэ адзін штрых да гэтага. Калі падчас пакараньня на Лукіскім пляцы ў Вільні 22 сакавіка 1864 году быў зачытаны прысуд і Каліноўскага назвалі „дваранінам“, ён выгукнуў: „У нас няма дваран; усе роўныя!“

Гэты факт пасьля ня раз камэнтаваўся і прысутнымі на пакараньні расейцамі, і гісторыкамі.

Камэнтатары лічылі Каліноўскага радыкальным сацыялістам, прыхільнікам роўнасьці і сусьветнай рэвалюцыі. Нацыянальнага аспэкту ў апошнім слове лідэра паўстаньня ніхто ня ўбачыў. Але ён там быў!

Гісторыя многіх славянскіх народаў падобная — практычна ўсе славяне, за выключэньнем палякаў і расейцаў, страцілі свае эліты. У чэхаў арыстакратыя і шляхта былі анямечаныя. І вось калі 28 кастрычніка 1918 году паўстала незалежная Чэхаславаччына, чэхі і славакі вырашылі забараніць шляхту, шляхецкія тытулы і згадкі пра іх. Гэта было зроблена ўжо праз паўтара месяца — 10 сьнежня 1918 году. Ад 1921 году выкарыстаньне шляхецкіх тытулаў і гербаў каралася як крымінальнае злачынства. У 1919 годзе была праведзеная зямельная рэформа, якая пазбавіла нямецкую шляхту зямлі і маёмась-

ці. Усе грамадзяне Чэхаславаччыны ад таго часу былі роўныя.

Гэта сацыялізм ці акт нацыянальнай справядлівасьці?

Безумоўна другое, і безумоўна гэта адпаведным чынам сьведчыць пра апошнюю заяву Кастуся Каліноўскага ў перадсьмяротную хвіліну на эшафоце. Ён ня здрадзіў сабе і тады. І тым больш каштоўным для нас гэты факт застаецца. Для Каліноўскага шляхты не было пастолькі, паколькі яна не была беларускаю.

Неўзабаве, усяго праз некалькі дзесяцігодзьдзяў, пазыцыя значнай часткі шляхты зьменіцца. Гэта адбудзецца дзякуючы дзейнасьці Каліноўскага і яго наступнікаў.

## Нацыянальная ідэалёгія паўстаньня

Гісторыя пакінула дастаткова сьведчаньняў пра нацыянальную ідэалёгію братоў Каліноўскіх. У 1850-я гады XIX стагодзьдзя ў Санкт-Пецярбургу склалася падпольная арганізацыя, якой кіравалі афіцэры Генэральнага штабу расейскай арміі Зыгмунт Серакоўскі і Яраслаў Дамброўскі, а таксама адна цывільная асоба — Віктар Каліноўскі. Старэйшы брат Кастуся адказваў за маладое папаўненьне арганізацыі.

Віктар быў блізка знаёмы са славутым расейскім гісторыкам Мікалаем Кастамаравым, які ў 1890 годзе расказаў пра знаёмства са старэйшым Каліноўскім у сваіх мэмуарах. Паводле Кастамарава, Віктар Каліноўскі шакаваў маладых палякаў, якія прыяжджалі ў Санкт-Пецярбург на вучобу, расказамі пра няпольскае мінулае ВКЛ:

„Будучы знаёмы з гісторыяй сваёй бацькаўшчыны значна глыбей за тых верхаглядных патрыётаў, якія, не вывучаючы грунтоўна мінулага, складалі сабе пра яго летуценныя вобразы, Каліноўскі ў асяродзьдзі сваіх суайчыньнікаў выклікаў нават незадавальненьне за тое, што сьмела гаварыў рэчы, якія тагачасным польскім патрыётам былі не даспадобы“.

Цалкам успрыняў сьветапогляд Віктара і яго малодшы брат.

Генадзь Кісялёў лічыў, што ў 1861–1862 годзе Кастусь Каліноўскі працаваў рэпэтытарам дзяцей Уладзіслава Сыракомлі, „вясковага лірніка“. І вось яшчэ адзін факт, які тлумачыць нам нацыянальную арыентацыю паўстаньня. Калі ў верасьні 1862 году Сыракомля памёр, яго труну несьлі і парадак у 10-тысячным натоўпе захоўвалі маладыя людзі, апранутыя ў тое, што жандары ў данясеньнях называлі „серые кафтаны“.

Гэта былі сялянскія сьвіткі, у якія апраналіся і сотні агітатараў, што разносілі тады па вёсках «Мужыцкую праўду». Таксама ў сьвіткі будуць апранутыя і многія паўстанцы, здымкі якіх да нас данесла гісторыя.

Кастусь Каліноўскі меў некалькі кансьпіратыўных псэўданімаў, сярод іх — Васіль Сьвітка. Нават у гэтым нельга не пачуць выклік польскім панам. А калі ня выклік, дык, прынамсі, нацыянальную адметнасьць і салідарнасьць з носьбітамі і захавальнікамі нацыянальнай культуры — беларускімі сялянамі.

Актыўны ўдзельнік паўстаньня, найбліжэйшы паплечнік Каліноўскага, ураджэнец Віленскага павету лекар Баляслаў Длускі падчас навучаньня

у Маскоўскім унівэрсытэце ў другой палове 50-х гадоў XIX стагодзьдзя, паводле мэмуараў Якуба Гейштара, заўсёды быў апрануты „ў беларускую сьвітку шэрага простага сукна“.

Уявіце сабе — Масква, унівэрсытэт, студэнты з расейскіх дваран і польскай шляхты, і раптам беларуская сялянская сьвітка з-пад Вільні!

А Длускі ж быў не юнак, ён скончыў унівэрсытэт у 45 гадоў.

Упершыню ён быў высланы зь Беларусі яшчэ ў 1843 годзе за ўдзел у патрыятычным руху падчас навучаньня ў віленскай гімназіі.

Быў аддадзены ў салдаты, асабістым геройствам падчас вайны на Каўказе даслужыўся да афіцэрскага чыну падпаручніка і дазволу на звальненьне і толькі пасьля гэтага паступіў ва ўнівэрсытэт.

Так што традыцыя апранацца ў сьвіткі была даўняя і чыста патрыятычная.

Гэта была пазыцыя, якая праявіла сябе і падчас падзеяў 1863–1864 гадоў. Неафіцыйную форму ўдзельнікаў паўстаньня — чамаркі — таксама называлі паўстанцкімі сьвіткамі. Зрэшты, гэта і былі сьвіткі, толькі з нашытымі на грудзях шэрымі або чорнымі шнурамі. Сьвіткі XIX стагодзьдзя — гэта вышыванкі XXI стагодзьдзя.

Усё гэта сьведчыць, што ў паўстаньня была свая выразная нацыянальная ідэалёгія, выяўленая ў заявах лідэраў, друку, праклямацыях і масавых мастацкіх формах — напрыклад, у ваярскіх песьнях.

Вось яшчэ адзін яскравы прыклад. Падчас паўстаньня ў віленскага мешчаніна Пятра Мацкевіча, які тады жыў у Менску, быў канфіскаваны цэлы сшытак нелегальных тэкстаў.

У паўстанцкім гімне „Песьнь на Божы час“, які выконваўся на матыў народнай песьні „І шуміць, і гудзе“, сяляне, мяшчане і дробная шляхта сьпявалі:

*І хто пан — вон ад нас!*
*Ў Божы час, ў Божы час!*
*Бо мы роўныя з панамі,*
*Бо за вольнасьць мы з касамі!*

Відавочна, што і ў гэтым выпадку мы маем справу ня толькі з сацыяльнай, але і нацыянальнай эмансыпацыяй. Што пацьвярджае наступная страфа той самай песьні:

*Чуваць крык у адзін тон:*
*Маскалёў ад нас вон!*
*Бо як брытвы косы маем,*
*Пагуляем, пагуляем!*

Гэта — відавочнае выяўленьне ігнараванага дагэтуль нацыянальнага наратыву паўстаньня пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага: паны (палякі) і маскалі (расейцы) — прэч ад нас!

Сацыяльнае і нацыянальнае ішло ў паўстаньні побач. Дзьве страфы гэтай песьні, дзе згадваліся „маскалі“, у СССР друкаваць было забаронена.

Дарэчы, мы дагэтуль цалкам не ўяўляем сабе сапраўдных маштабаў удзелу сялян у паўстаньні. Гэта зьвязана зь ціскам расейскай і савецкай цэнзуры на гісторыкаў за апошнія 150 гадоў. Але ня толькі.

Ужо ў часе паўстаньня расейскія ўлады хавалі ўдзел сялян у паўстаньні. Фальсыфікацыя адбылася ўжо ў 1863–1864 гадах. Захопленыя ў палон атрады паўстанцаў нярэдка дзялілі на шляхту і

сялян. Апошніх раззбройвалі і пасьля некалькіх дзён утрыманьня пад вартай распускалі па дамах, і толькі пасьля гэтага перапісвалі шляхецкіх удзельнікаў і адпраўлялі данясеньні ў штабы і губэрнскія канцылярыі для наступных судоў, высылак і пакараньняў. Сялян каралі толькі ў выпадку неабвержнай віны ў цяжкіх, з пункту гледжаньня ўладаў, злачынствах.

Падчас паўстаньня нярэдка здараліся выпадкі, калі сяляне выступалі на баку ўладаў і дапамагалі ім арыштоўваць паўстанцаў. Некаторыя гісторыкі неапраўдана надаюць такім выпадкам характар міжканфэсійнага процістаяньня — маўляў, праваслаўныя сяляне ненавідзелі паноў-каталікаў.

Насамрэч, у гэтым праявіўся сацыяльны і нацыянальны антаганізм. Яшчэ ў 1846 годзе ў сувязі з хваляваньнямі ў Галіцыі віленскія ўлады даручылі губэрнскаму сакратару Адаму Кіркору таемную місію з мэтай ацаніць настроі сялян Заходняй Беларусі. У справаздачы Кіркор зрабіў выснову аб вялікай варожасьці сялян да землеўласьнікаў.

І ў часы паўстаньня сяляне востра адчувалі адчужанасьць паміж сабой і польскамоўнымі панамі. Гэтым таксама тлумачыцца нацыянальны і сацыяльна-палітычны выбар, зроблены Каліноўскім і яго паплечнікамі.

Пра нацыянальную ідэалёгію паўстанцаў сьведчыць і такі адметны факт. Пасьля задушэньня паўстаньня, калі па ўсім краі адбываліся суды, сьмяротныя пакараньні і высылкі, паэт Вінцэсь Каратынскі напісаў своеасаблівы гімн беларускага выгнанца-катаржаніна „Туга на чужой старонцы“. Музыку да яго стварыў высланы ў Сібір у чэрвені 1864 году ўдзельнік паўстаньня, беларускі кампа-

зытар Вінцэсь Клімовіч. Гімн быў вядомы і сярод сібірскіх выгнанцаў, і ў Беларусі.

Нават у пачатку XX стагодзьдзя адзін зь яго экзэмпляраў трапіў у рэдакцыю „Нашай Нівы“. Вось яго фрагмэнт:

*Ой, саколка, ой, галубка!*
*Не пытайся, не, —*
*Што мне тошна, мая любка,*
*Ў гэтай старане...*
*Я ж зямліцу меў радную,*
*Быў свабодзен сам.*
*Ох, ці днюю, ці начую, —*
*Я ўсё там ды там!*
*Там гукнеш ў сардэчным краю —*
*Разьлягнецца сьвет.*
*Тут гукаю, прамаўляю —*
*Адгалоску нет...*
*Там, як птушка на свабодзе,*
*Я быў жыць прывык,*
*Не пытаўся: „Мала? Годзе?“ —*
*Быў вясёл і дзік...*
*Паглядаю праз аконца —*
*Чоран цэлы сьвет;*
*Усім людзям сьвеціць сонца —*
*Мне прасьветку нет...*

## Нацыянальны аспэкт у абароне Уніі

І ў абароне Ўніяцкай царквы Каліноўскім несумненна быў нацыянальны аспэкт.

Па-першае, гэта было тактычна правільна, бо рана, нанесеная разгромам Уніяцкай царквы ў 1839 годзе, для шмат каго ў Беларусі была яшчэ сьвежай і балючай.

Па-другое, з пункту гледжаньня нацыянальнага праекту Каліноўскага, Унія стратэгічна ўмацоўвала асобнасьць беларусаў, узмацняла іх тоеснасьць і гарантавала ад асыміляцыі і расейцамі, і палякамі. „Пакуль я хрышчуся як праваслаўны, я не паляк, пакуль я памінаю папу падчас літургіі, я не праваслаўны“, — казалі тады ўніяцкія сьвятары.

З часу афіцыйнай забароны Ўніяцкай царквы на большай частцы тэрыторыі Беларусі прайшло толькі крыху болей за 20 гадоў. У часы паўстаньня ўніяцкаю заставалася Холмская япархія, якая ахоплівала сабой тэрыторыю Беласточчыны і заходняй Горадзеншчыны ўключна з Аўгустоўскім дэканатам. Гэтая япархія сілаю была пераведзена ў праваслаўе толькі ў 1874–1875 гадах. Уладам давялося выкарыстоўваць войскі супраць абаронцаў Уніі, падчас захопу цэркваў расейскімі салдатамі адбыліся масавыя расстрэлы сялян. Так што абарона Уніі паўстанцамі для часткі беларусаў наогул заставалася яшчэ востра актуальнай.

Але і на той тэрыторыі Беларусі, дзе Унія была скасаваная ў 1839 годзе, у 50-я і 60-я гады XIX стагодзьдзя яшчэ заставаліся цэнтры супраціву. Некаторыя вёскі адмаўляліся хадзіць у царкву. Шмат дзе нябожчыкаў хавалі безь сьвятара. Сумныя пахавальныя працэсіі без духоўнікаў у вёсках Беларусі ня раз апісваліся ў тагачасным расейскім друку. У многіх месцах дзейнічалі падпольныя ўніяцкія сьвятары. Вядомыя нават выпадкі высылкі ў Сібір беларускіх шляхцянак за дапамогу нелегальным уніяцкім духоўнікам напярэдадні і падчас паўстаньня.

У траўні 1864 году, ужо пасьля задушэньня паўстаньня, магілёўскі жандарскі штаб-афіцэр

палкоўнік Бязяеў у адным са сваіх данясеньняў у Санкт-Пецярбург пісаў, што мясцовыя праваслаўныя сьвятары, якія перайшлі ў праваслаўе з Уніі, маюць зусім невялікі ўплыў на распаўсюджаньне „действительного православия“, бо ня ведаюць яго і ня хочуць ведаць. А мясцовая праваслаўная паства, паводле жандарскага палкоўніка, наогул яшчэ такой нават ня стала:

„Народ, называющий себя русским и православным, не есть в точном смысле ни то ни другое, они не русские, потому что исторические и местные причины были для них другие..., не православные, потому что наружные религиозные знаки и поверья... здесь вследствие влияния польщизны во многом изменились“.

А далей жандар расказвае, што мясцовыя праваслаўныя нярэдка ня ўмеюць жагнацца па-праваслаўнаму і жагнаюцца па-каталіцку. І гэта на ўсходзе Беларусі!

Менавіта памяць пра Унію і антыправаслаўныя настроі беларускіх сялян, а не жаданьне шляхецкіх рэвалюцыянэраў вярнуць народ у каталіцтва, спарадзілі заклікі да вяртаньня Ўніяцкай царквы ў паўстанцкай публіцыстыцы. Тады гэта быў дзейсны сродак агітацыі, і гэта разумелі нават польскія дзеячы паўстаньня, якім было мала клопату да нацыянальна-рэлігійных патрэбаў беларусаў.

Праціўнік Кастуся Каліноўскага, лідэр беластоцкай паўстанцкай арганізацыі польскі рэвалюцыянэр Браніслаў Шварцэ, які добра валодаў сытуацыяй на месцах, у верасьні 1862 году ў лісьце да польскага эміграцкага дзеяча, генэрала Людвіка Мераслаўскага назваў адну зь меркаваных падставаў для посьпеху паўстаньня. Гэта „гвалтоўны

пераводу пры Мікалаю I літоўскіх уніятаў у праваслаўных, рэлігійны рычаг на Літоўскай Русі можна выкарыстаць найбольш эфэктыўна, асабліва пры глыбокай нянавісьці да маскалёў“.

Тут няма каталіцкага патрыятызму. Толькі цьвярозая канстатацыя факту. Вяртаньне Уніі ў Беларусі ўсё яшчэ было на парадку дня.

## Удзел праваслаўных у паўстаньні

Паводле гісторыка Васіля Герасімчыка, царскім уладам удалося ўстанавіць веравызнаньне 116 удзельнікаў „польскай“ рэвалюцыйнай арганізацыі Серакоўскага-Дамброўскага-Каліноўскага (старэйшага) ў Санкт-Пецярбургу. Зь іх 40 чалавек былі праваслаўнымі.

У паўстаньні ўдзельнічалі тысячы праваслаўных беларусаў — сялян, гараджан і шляхціцаў. Існавала нават асобная праваслаўная паўстанцкая прысяга.

За ўдзел у паўстанцкіх атрадах было арыштавана 14 праваслаўных сьвятароў. Манахі праваслаўнага Жыровіцкага манастыра ў складзе атраду Валерыя Ўрублеўскага бралі ўдзел у славутай бітве пад Мілавідамі, якая скончылася адной з самых вядомых паўстанцкіх перамогаў над царскімі войскамі.

Праваслаўныя нароўні з каталікамі займалі паўстанцкія пасады. Паўстанцкім начальнікам Лідзкага павету, напрыклад, быў праваслаўны шляхціц Вітольд Гажыч.

Дастаткова зазірнуць у кнігі Генадзя Кісялёва і іншых беларускіх гісторыкаў паўстаньня, каб пераканацца, што гэта не адзінкавыя выпадкі, але масавая зьява.

Закідаць Каліноўскаму яго антыправаслаўную рыторыку — гэта значыць цалкам ня ведаць і не

разумець гісторыі XIX стагодзьдзя і непрафэсійна пераносіць туды сёньняшнія ідэалягічныя схемы.

У той час абедзьве царквы не прызнавалі адна адну кананічнымі і ня мелі ніякіх афіцыйных зносін. Абедзьве лічылі, што вернікі супернай царквы не ўратуюцца і загінуць у пекле, таму іх трэба ратаваць. Пры пераходах з каталіцтва ў праваслаўе і наадварот людзей наноў хрысьцілі і шчыра радаваліся чарговай уратаванай душы.

Здаралася, што праваслаўны мітрапаліт падчас падарожжа па заходняй частцы Расеі спыняўся і заходзіў паглядзець інтэр'ер правінцыйнага касьцёла.

Такі выпадак адбыўся, напрыклад, у 1884 годзе, дзейныя асобы — праваслаўны Кіеўскі і Галіцкі мітрапаліт Платон і каталіцкі ксёндз Вінцэнт Маравіч. У выніку мітрапаліт быў пакараны ўсерасейскім астракізмам у прэсе, а ксяндза, які пусьціў праваслаўнага герарха за парог каталіцкай сьвятыні, забаранілі ў служэньні.

Гісторык, які сёньня бярэцца асуджаць Каліноўскага і яго паплечнікаў за іх пазыцыю ў рэлігійным пытаньні, парушае асноўныя мэтады гістарычнай навукі — гісторыка-генэтычны і параўнаўчы. Такі гісторык таксама парушае асноўны прынцып аб'ектыўнага гістарычнага дасьледаваньня, сфармуляваны ў 2005 годзе вядучымі францускімі навукоўцамі ў адмысловай дэклярацыі ў адказ на ўхваленьне парлямэнтам Францыі рэкамэндацый для асьвятленьня францускага каляніялізму.

Гісторыкі заявілі, што ня хваляць і не асуджаюць мінулае, не трактуюць яго з пазыцый сёньняшніх прыярытэтаў і не пераносяць туды актуальныя ідэалягічныя схемы, а толькі стараюцца зразумець

падзеі мінулага ў іх прычыннай сувязі і патлумачыць іх. У выніку спрэчны закон быў адкліканы.

Гісторыя — гэта навука, і праца гісторыка вымагае прафэсіяналізму, як любая іншая прафэсія.

### Процістаяньне з Варшавай

У паўстаньні 1863–1864 гадоў удзельнічалі тры партыі — „белыя“, правыя „чырвоныя“ і левыя (або радыкальныя) „чырвоныя“. Першыя хацелі далучыць былое Вялікае Княства Літоўскае да Царства Польскага і дамагчыся яго аўтаноміі. Другія дамагаліся стварэньня незалежнай Польшчы ў межах Рэчы Паспалітай 1772 году. Трэція, да якіх належаў і Кастусь Каліноўскі, хацелі вырашыць сацыяльнае пытаньне і ў той або іншай форме аднавіць існаваньне гістарычнай Літвы.

Восеньню 1861 году ў Вільні для арганізацыі і кіраваньня будучым паўстаньнем быў створаны Камітэт руху, праз год ператвораны ў Літоўскі правінцыйны камітэт, лідэрам якога стаў Кастусь Каліноўскі. У 1862 годзе ў Варшаве быў створаны Цэнтральны нацыянальны камітэт.

З гэтага часу пачынаецца процістаяньне Каліноўскага з Варшавай. Галоўнай прычынай процістаяньня і канфлікту была адмова Каліноўскага прызнаць вяршэнства Варшавы і яго патрабаваньне партнэрскай роўнасьці ў дачыненьнях. Другой прычынай канфлікту было жаданьне Каліноўскага не дапусьціць любой формы кантролю і юрысдыкцыі Варшавы над тэрыторыяй былога Вялікага Княства Літоўскага, уключна з Жамойцю і Інфлянтамі.

Польскі сучасьнік і гісторык паўстаньня 1863 году Валеры Пшыбароўскі пакінуў вымоўнае сьведчаньне пра той пэрыяд дзейнасьці Каліноўскага:

„Ён, уваходзячы ў Літоўскі камітэт, не хацеў прымаць ніякіх загадаў з Варшавы, а хацеў, каб гэты камітэт распараджаўся і кіраваў паўстаньнем самастойна і ў адносінах да Нацыянальнага ўраду займаў становішча ўлады роўнай і нікому не падначаленай“.

З тэрытарыяльнай спрэчкі і ўзьнік першы сапраўдны канфлікт восеньню 1862 году.

Варшава, не параіўшыся зь Вільняй, падпарадкавала сабе беластоцкую паўстанцкую арганізацыю і пачала там зьбіраць рэвалюцыйны падатак.

У лістападзе, падчас абмеркаваньня гэтага пытаньня на пасяджэньні Літоўскага правінцыйнага камітэту, раззлаваны Каліноўскі, прымяніўшы фізычную сілу, выкінуў з пакою камісара Цэнтральнага нацыянальнага камітэту ў Вільні Нэстара Дзюлерана.

У тым самым месяцы Каліноўскі паслаў у Варшаву спачатку Эдмунда Вярыгу, а пасьля Баляслава Длускага з патрабаваньнем вярнуць Беласточчыну Вільні, забараніць Варшаве дасылаць сваіх прадстаўнікоў у Літву, мець толькі па адным камісары ў абедзьвюх сталіцах, роўнасьці ў дачыненьнях і супольнага вызначэньня даты пачатку паўстаньня.

Варшава Беласточчыну вярнула, але роўнасьці не прызнала і паўстаньне пачала без узгадненьня зь Вільняй. Гэта адбылося ў ноч на 23 студзеня 1863 году.

22 студзеня Цэнтральны нацыянальны камітэт у Варшаве быў ператвораны ў Часовы нацыянальны ўрад і выдаў Маніфэст, якім пераняў уладу, скасаваў маскоўскія распараджэньні, абвясьціў усіх грамадзян такімі ж вольнымі, як „старапольская шляхта“, і перадаў сялянам тую зямлю, якой яны карысталіся.

У Вільні пасьля некалькіх дзён разгубленасьці і спрэчак вырашылі далучыцца і надрукавалі кароценькую ўлётку з заклікам падтрымаць палякаў і фінальнымі словамі „Божа, збаў Польшчу“, аўтарам якіх яўна быў не Каліноўскі.

Ён тады меў іншы клопат — у гарачых спрэчках з калегамі настойваў на ператварэньні Камітэту ва ўрад.

## Стварэньне ўраду і яго разгром

1 лютага 1863 году, пасьля ўзгадненьня розных пазыцый у Вільні было абвешчана аб стварэньні Часовага правінцыйнага ўраду Літвы і Беларусі, які ў сваім маніфэсьце фактычна прадубляваў маніфэст варшаўскі. Урад узначаліў Кастусь Каліноўскі.

Сярод прынятых урадам дакумэнтаў зьвяртаюць на сябе ўвагу дзьве інструкцыі новым паўстанцкім уладам.

У першай гаварылася, што „ўсе паветы Літвы і Беларусі павінны выступіць і пачаць барацьбу“, каб падтрымаць Польшчу, а восьмы пункт другой інструкцыі загадваў публічна караць сьмерцю „найбольш вядомых прыгняталькікаў сялян“. Зноў мы разумеем, што за сацыяльным зьместам тут можа хавацца і нацыянальная пазыцыя — беларускіх сялян прыгнятаюць польскія паны. У этнічнай Літве восьмы пункт у інструкцыі адсутнічаў.

У Варшаве факт стварэньня ўраду Літвы і Беларусі выклікаў шок. Тое самае адбылося і зь віленскімі „белымі“. Пасьля шэрагу захадаў, таемных перамоў і візытаў варшаўскі ўрад 27 лютага 1863 году выдаў пастанову аб роспуску Часовага ўраду Каліноўскага і аб стварэньні на яго месцы Аддзелу для кіраваньня правінцыямі Літвы. Каліноўскаму

было загадана перадаць Аддзелу „пячатку, дакумэнты, перапіску і грошы“.

Пастановы ўраду Літвы і Беларусі былі адмененыя, а яго членам было заяўлена, што ў выпадку непакоры іх імёны будуць абвешчаныя ў друку — інакш кажучы, выдадзеныя царскім уладам.

Як заўважыў гарадзенскі гісторык Васіль Герасімчык, у пастанове Часовага нацыянальнага ўраду аб роспуску ўраду Літвы і Беларусі апошні па-ранейшаму называўся Літоўскім правінцыйным камітэтам.

У Варшаве не жадалі нават заўважаць новых рэалій.

Каліноўскі напісаў пратэст на адрас Нацыянальнага ўраду ў Варшаве, у якім паведаміў, што вырашыў падпарадкавацца, бо „не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва спраў з рук сваіх праціўнікаў“. Тут ён выразна назваў варшаўскі ўрад і прыхільнікаў адзінай Польшчы сваімі праціўнікамі. Пры гэтым ён з прыкрасьцю ўбачыў, што віленскіх „белых“ падтрымалі варшаўскія „чырвоныя“, якія кіравалі Часовым нацыянальным урадам. Для яго гэта быў важны сыгнал і навука пра перавагу нацыянальных інтарэсаў над усімі астатнімі.

Сытуацыя стала б яшчэ больш зразумелаю, калі б Каліноўскі убачыў запіс, які расейскі пісьменьнік-эмігрант і рэвалюцыянэр Аляксандар Герцэн зрабіў у дзёньніку ў верасьні 1862 году пасьля перамоваў з варшаўскімі дзеячамі: „Мне ўсё здаецца, што ім да сялянскай зямлі, па сутнасьці, мала справы, а да правінцый — занадта многа“.

Першы ўрад Літвы і Беларусі праіснаваў 27 дзён. Кожны зь іх для гісторыі быў неаспрэчным дока-

зам нацыянальных прыярытэтаў і інтарэсаў Каліноўскага-палітыка.

## Вымушаная паўза, але не адступленьне

У пачатку сакавіка Каліноўскі прымае ад „белых“ прызначэньне на пасаду горадзенскага вайсковага камісара і выяжджае ў Горадню, а затым у Беласток. У Беластоку ён выдае па-беларуску загад аб сваім заступленьні на пасаду.

Той дакумэнт пад назвай „Прыказ урадавага камісара ў Горадзенскім ваяводзтве“ можна лічыць гістарычным. Гэта было ня што іншае, як вяртаньне беларускай мовы ў дзяржаўнае справаводзтва пасьля забароны, уведзенай у Рэчы Паспалітай у 1696 годзе. Ініцыятарам вяртаньня стаў Кастусь Каліноўскі.

Вайсковыя аддзелы паўстанцаў на Горадзеншчыне былі самымі арганізаванымі і баяздольнымі. Менавіта на Горадзеншчыне ў часы кіраваньня Каліноўскага адбылася славутая бітва пад Мілавідамі.

У выніку над існаваньнем беларусаў задумваюцца і ў Варшаве. Праз два месяцы, у дзень Канстытуцыі 3 траўня, варшаўскі ўрад выдае па-беларуску адозву, у якой заклікае „братоў-беларусаў“ дапамагчы Польшчы і абяцае ім зямлю бяз паншчыны і чыншу. Гэтак у выніку дзейнасьці Каліноўскага і яго паплечнікаў беларусы набылі суб’ектнасьць у вачах Варшавы.

У траўні ў Вільню прыяжджае новы генэрал-губэрнатар Міхаіл Мураўёў, які тут жа распачынае тэрор і сэквэстры маёмасьці. „Белыя“ пачынаюць разьбягацца, павятовыя і ваяводзкія начальнікі паляць паперы і закопваюць у зямлю пячаткі.

## Дзяржаўны пераварот і аднаўленьне ўраду

У гэтых умовах у пачатку чэрвеня ў Вільню нечакана вяртаецца Кастусь Каліноўскі. Ён і яго найбліжэйшы паплечнік, паўстанцкі начальнік Вільні Ўладзіслаў Малахоўскі зьдзяйсьняюць захоп улады. Кіраўнік вайсковых спраў віленскіх паўстанцаў Юзаф Каліноўскі наступным чынам апісаў гэтую падзею ў сваіх мэмуарах: „Канстанцін Каліноўскі з тагачасным начальнікам гораду Ўладзіславам Малахоўскім зрабілі сапраўдны coup d'état* (фр. дзяржаўны пераварот — С. А.) і адважыліся ствараць уласнае ўпраўленьне“.

Генадзь Кісялёў маляўніча апісаў, як Малахоўскі прыйшоў у кабінэт да лідэра Аддзелу для кіраваньня правінцыямі Літвы, прадстаўніка „белых“ Якуба Гейштара і кінуў яму на стол выробленую на загад Каліноўскага пячатку бяз польскага Арла — толькі з Пагоняй. Гейштар усё зразумеў і падаў у адстаўку.

Усё яшчэ пакуль „Аддзел для кіраваньня правінцыямі Літвы“ ўзначаліў Каліноўскі. Таму выдадзены ім 11 чэрвеня па-беларуску славуты загад называўся „Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі Літоўскай і Беларускай“.

Але пасьля дзяржаўнага перавароту, як пісаў ужо згаданы мэмуарыст, Кастусь Каліноўскі атрымаў правы сапраўднага дыктатара Літвы.

З гэтай пазыцыі ён і пачаў свой апошні бой за бацькаўшчыну.

Варшава спрабуе ўскочыць у апошні вагон і дасылае ў Вільню новы загад аб стварэньні Выканаўчага аддзелу Літвы на чале з Каліноўскім. У дасланым праз некалькі дзён Статуце нарэшце прызнавалася роўнасьць Вільні і Варшавы.

Гэта была перамога Каліноўскага і яго паплечнікаў. Выканаўчы аддзел Літвы робіцца аналягам лютаўскага Часовага ўраду Літвы і Беларусі. Сучасьнікі назвалі яго „Чырвоным жондам“, пад гэтай назвай ён і ўвайшоў у гісторыю. Сёньня мы можам гаварыць пра два ўрады Каліноўскага — першы і другі.

Вядома, Варшава прызнала толькі роўнасьць, а не незалежнасьць. Тэрытарыяльныя спрэчкі працягваліся яшчэ нават у жніўні. І мы ня ведаем, чым бы гэтая справа скончылася ў выпадку перамогі паўстаньня — фэдэрацыяй, канфэдэрацыяй ці поўнай незалежнасьцю Беларусі і Літвы. Але гэта ўсё роўна было прызнаньнем іх суб’ектнасьці.

### Таямніца „Прыказу... да народу зямлі Літоўскай і Беларускай“

Сам „Прыказ“ скіраваны на растлумачэньне народу задачаў паўстаньня. У ім Каліноўскі заклікае ня верыць расейскай прапагандзе, якая сьцьвярджала, што паны паўсталі, каб дамагчыся вяртаньня прыгону. Таксама „Прыказ“ забараняе дапамагаць царскім войскам і загадвае не ствараць у вёсках сялянскай антыпаўстанцкай міліцыі.

Некаторыя асаблівасьці гэтага дакумэнту дазваляюць больш поўна зразумець нацыянальны сьветапогляд Каліноўскага.

Найперш гэта подпіс, які стаіць на друкаванай улётцы з гэтым „Прыказам“: „Дан в месьці Вільні, у дзень Сьвятога Варфаломея лета Господня 1863“.

Раней большасьць гісторыкаў датавала гэты „Прыказ“ жніўнем 1863 году, бо менавіта 24 жніўня каталікі адзначаюць дзень сьвятога Барталамея. Аднак Генадзь Кісялёў знайшоў доказы распаўсюдж-

ваньня гэтага дакумэнту на Горадзеншчыне ўжо ў пачатку ліпеня 1863 году і пераканаўча даказаў, што мова ідзе пра дзень сьвятога Варфаламея, які паводле ўсходнехрысьціянскіх сьвяткаў (уніяцкіх і праваслаўных) адзначаўся 23 чэрвеня.

Гэта ўражвае. Паўстанцы адразу пасьля пачатку паўстаньня ўвялі датаваньне сваіх дакумэнтаў паводле Грыгарыянскага календара, каб падкрэсьліць асобнасьць ад Расеі, якая выкарыстоўвала Юліянскі каляндар. Але тут мова ідзе пра ўсходне- і заходнехрысьціянскія календары рэлігійных сьвятаў.

Наступная дэталь дакумэнту яшчэ больш неверагодная. Каліноўскі ў ім піша, што „Гэты Прыказ мае быць чытаны ў кожнай цэркві да ў кожным касьцёле, па ўсіх сёлах і дворах для ведама ўсяго народу. А хто гэтаму Прыказу спрэчан будзе, таго — ці ён поп, ці ксёндз, мужык ці пан... зрабіўшы справядлівы суд, без адгаворкі весьці на шыбеніцу! Бо хто хоча крыўды людзкой — той няхай лепш сам марна прападае!“

Такім чынам, Каліноўскі зьвяртаецца да ўсяго „народу зямлі Літоўскай і Беларускай“ — і праваслаўных, і каталікаў — але пры гэтым пазначае ўніяцкую дату сьвята і называе яго патрона на ўсходні манер „Варфаламеем“. Непахісная пасьлядоўнасьць і цьвёрдасьць гэтага юнака, у якога тры старэйшыя браты былі хрышчаныя ва Ўніяцкай царкве, уражвае.

Гэтак робіцца зразумелым яго нацыянальны і рэлігійны выбар. Да праваслаўных і каталікаў зьвяртаецца чалавек, які бачыць Унію стратэгічным выбарам беларускага народу. Улада адкрыта паказвае панам і мужыкам сваю пазыцыю ў рэлігійным і нацыянальным пытаньні.

Так мы яшчэ больш разумеем, кім быў Каліноўскі-палітык і з кім ён быў.

Апрача таго, „Прыказ“ зьяўляецца другім выпадкам выкарыстаньня лідэрам паўстаньня беларускай мовы ў афіцыйнай дзяржаўнай практыцы пасьля забароны 1696 году. Гэта — надзвычай важны крок і запавет Каліноўскага ў справе дзяржаўнай эмансыпацыі беларускай мовы.

### Крок да незалежнасьці

Тым часам Каліноўскі ідзе далей. Ён замаўляе гравёру новую пячатку Выканаўчага аддзелу з надпісам „Літоўскі камітэт. Свабода. Роўнасьць. Незалежнасьць“.

Слова „незалежнасьць“ там прысутнічала невыпадкова. Сучасьнікі ў адзін голас сьведчылі, што з гэтага часу Кастусь Каліноўскі бярэ курс на здабыцьцё былым Вялікім Княствам Літоўскім незалежнасьці ад Польшчы.

У ліпені з Варшавы ў Вільню для перамоваў з Каліноўскім прыяжджае камісар Нацыянальнага ўраду Лявон Главацкі, які з жахам даведваецца, што Каліноўскі настойвае на адасабленьні былога Княства ад Польшчы.

20 ліпеня ў Вільню прыяжджае адзін з кіраўнікоў Нацыянальнага ўраду Оскар Авэйдэ, якому Каліноўскі падчас некалькіх шматгадзінных перамоваў цьвёрда заяўляе, што „Літва і Беларусь — зусім асобная і самастойная дзяржава“.

Гэтую яго фармулёўку ў адзін голас прыводзяць і гісторыкі, і мэмуарысты.

І зноў тут трэба паўтарыць, што Літва і Беларусь ужо ўспрымаліся паўстанцамі дзьвюма краінамі, але яшчэ адзінаю дзяржавай. Каліноўскі і яго па-

плечнікі не ўяўлялі сабе мяжы там, дзе яе ніколі не было і дзе, паводле трапнага выразу Генадзя Кісялёва, пра яе ніколі не парупілася гісторыя. „Літва“ ў шырокім сэнсе была для іх найбольш блізкім па часе гістарычным макратапонімам радзімы.

Для праціўнікаў Каліноўскага побач з макратапонімам „Літва“ існаваў яшчэ супэртапонім „Польшча“. Гэта адпавядае распрацаванай у XX стагодзьдзі тэорыі шматузроўневай нацыянальнай сьвядомасьці жыхароў былога ВКЛ.

Паводле сьведчаньня Васіля Ратча, Авэйдэ так і ня змог угаварыць Каліноўскага адмовіцца ад сэпаратызму.

22 жніўня Авэйдэ быў арыштаваны, пасьпеўшы перад гэтым перадаць Каліноўскаму сваю пячатку і паўнамоцтвы камісара варшаўскага ўраду ў Літве і Беларусі. Гэтак Кастусь Каліноўскі засяродзіў у сваіх руках усю магчымую паўстанцкую юрысдыкцыю ў Літве і Беларусі.

З таго часу і да канца паўстаньня ён дзейнічаў як лідэр самастойнай дзяржавы Літвы і Беларусі — былога ВКЛ. Яго ўладу прызн алі ўсе цывільныя і вайсковыя паўстанцкія адміністрацыі ў ваяводзтвах і паветах. Прымаючы яго прызначэньні на пасады, дзясяткі людзей, часта на дваццаць і болей гадоў старэйшыя за яго, ішлі на верную сьмерць або катаргу — ва ўмовах паўсюднага тэрору і здрады іх арыштоўвалі ўжо праз тыдзень-два.

У сваіх паказаньнях сьледчай камісіі ўжо згаданы польскі афіцэр Юзаф Каліноўскі, які летам 1863 году быў блізкі да лідэра паўстаньня, расказаў пра амаль поўны разрыў Кастуся з Варшавай:

„Отчужденность от Народного правительства, в которой находился уполномоченный комиссар

Литвы в последнее время, самым гибельным образом отозвалась в крае“.

Але Каліноўскі зусім не зьбіраўся прайграваць. У апошнія паўгода свайго жыцьця ён разьвіў вельмі актыўную дзейнасьць.

Каб актывізаваць паўстаньне, ён стварае палявую жандармэрыю і палявыя суды для пакараньня здраднікаў, замяняе паўстанцкіх камандзіраў. Пад канец году ён распускае касінераў па дамах на зімоўку і плянуе на вясну новае выступленьне.

Менавіта ў другой палове 1863 году Каліноўскі фармулюе сваё разуменьне будучыні Беларусі і беларускага народу, выкладзенае ім пасьля ў „Лістах з-пад шыбеніцы“.

Ён таксама бачыць нацыянальныя патрэбы балцкага насельніцтва. У пачатку лістапада 1863 году ён прызначае этнічнага літоўца ксяндза Антанаса Мацкявічуса вайсковым кіраўніком Ковенскага ваяводзтва, але той неўзабаве гіне на шыбеніцы.

Каліноўскі па-ранейшаму спадзяваўся на сілу друкаванага слова і да самага арышту рыхтаваў выданьне новага часопісу. Паводле Юзафа Каліноўскага, „печатное слово всегда было его слабостью, он приписывал ему какое-то особенное значение“.

У новым часопісе Каліноўскі, які за апошні год, з увагі на ходу паўстаньня і пазыцыю Варшавы, перажыў істотную эвалюцыю, зьбіраўся, відавочна, сфармуляваць свае погляды на будучыню краіны і выкласьці іх папулярна. Арышт у ноч з 28 на 29 студзеня 1864 году перашкодзіў гэтаму.

Але нацыянальны запавет усё ж быў выкладзены ў турме на паперы і перададзены на волю ў выглядзе „Лістоў з-пад шыбеніцы“, якіх, паводле сьведчаньняў сучасьнікаў, было больш чым тры —

частка была канфіскаваная сьледчымі. Месца іх знаходжаньня да гэтага часу невядомае.

## Першая палітычная суб'ектнасьць Беларусі

Трэба дакладна разумець, што пасьля адстаўкі Якуба Гейштара ў чэрвені сытуацыя фактычна, а пасьля і юрыдычна вярнулася да 1 лютага 1863 году. У выніку цяжкай барацьбы Кастусь Каліноўскі і яго паплечнікі вырвалі ў Варшавы саступкі і другі раз на працягу 1863 году аднавілі суб'ектнасьць былога Вялікага Княства Літоўскага. А яно, у іх разуменьні, ужо складалася зь дзьвюх нацыянальных частак, якія пачыналі ўсьведамляць сябе палітычна — Літвы і Беларусі.

Гэта — першая палітычная суб'ектнасьць Беларусі ў гісторыі пад яе новай, мадэрнай назвай. Першым урадам абвясьціў сябе Літоўскі правінцыйны камітэт, які складаўся з Кастуся Каліноўскага, Ахіла Банольдзі, Эдмунда Вярыгі, Баляслава Длускага, Эразма Заблоцкага, Антона Залескага, Яна Козела, Ежы Кучэўскага-Порая, Баляслава Сволькена, Пятра Чакатоўскага і Зыгмунта Чаховіча.

У лютым справамі ў Вільні кіравалі Кастусь Каліноўскі і Зыгмунт Чаховіч, астатнія разьехаліся з даручэньнямі Каліноўскага або атрымалі прызначэньні ў паўстанцкія структуры на месцах.

Пасьля чэрвеньскага перавароту „Чырвоны жонд" у Вільні складаўся з Кастуся Каліноўскага, Ціта Далеўскага, Ігната Здановіча, Фэлікса Зянковіча, Мечыслава Дарманоўскага і Ўладзіслава Малахоўскага.

Гэта людзі, якія ў тых складаных умовах здолелі кінуць выклік ня толькі Санкт-Пецярбургу, але і Варшаве.

Трое членаў першага ўраду Каліноўскага — Эдмунд Вярыга, Ян Козел і Зыгмунт Чаховіч — пасьля катаргі здолелі праз шмат гадоў вярнуцца ў Беларусь і ў канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзя леглі ў родную зямлю. Пры гэтым Чаховіч пасьпеў стаць апекуном суседзкага юнака і выхаваць у яго асобе наступніка, а нам, будучым пакаленьням, нацыянальнага прарока — Янку Купалу.

Член другога ўраду Фэлікс Зянковіч, жывучы пасьля катаргі ў Варшаве, праз ліставаньне стаў апекуном беларускай паэткі другой паловы XIX стагодзьдзя Зоф'і Манькоўскай.

## Нараджэньне краіны

У сярэдзіне XIX стагодзьдзя на сутыку эпох Рамантызму і Мадэрну па ўсёй Эўропе актывізаваліся нацыянальныя рухі. Працэс гэты ахапіў і славянскія народы.

Ва ўсходняй частцы Эўропы з апераджэньнем суседзяў актыўна фармавалася мадэрная польская нацыя, якая ў рамках пошуку гістарычных аргумэнтаў спрабавала ахапіць сабой усю тэрыторыю былой Рэчы Паспалітай. Аднак новай Польшчы не ўдалося тады цалкам усьвядоміць сябе ў межах Рэчы Паспалітай, бо гэтаму перашкодзіла дзейнасьць Каліноўскага і яго паплечнікаў.

Падзеі 1863–1864 гадоў прывялі да вычляненьня з агульнапольскага руху беларускага і літоўскага нацыяналізмаў. Прычым беларускі ўзьнік раней за літоўскі, але пасьля запаволіўся і адстаў ад апошняга з прычыны татальных рэпрэсій супраць сваіх носьбітаў — удзельнікаў паўстаньня. Да таго ж літоўцы мелі два важныя фактары нацыягенэзу, якіх у беларусаў не было — неславянская мова і

прыналежнасьць да Каталіцкай царквы большасьці народу.

Таму варта паўтарыць яшчэ і яшчэ раз. 1 лютага 1863 году, у дзень стварэньня Часовага ўраду Літвы і Беларусі, узьнікла першая ў гісторыі палітычная суб'ектнасьць новай Беларусі. Старая Беларусь, што існавала раней пад назвамі і Русь, і Літва, пачала ўсьведамляць сябе новай мадэрнай Беларусьсю ў сваіх этнічных межах.

Гэта адбылося менавіта ў 1863–1864 гадах, прычым раней, чым гэта ўбачылі і зразумелі ў Расеі. Там яшчэ ў другой палове 60-х гадоў XIX стагодзьдзя ў прывітальнай одзе Мураўёву-вешальніку пісалася:

*Мятеж прошёл, крамола ляжет,*
*В Литве и Жмуди мир взойдёт;*
*Тогда и самый враг твой скажет:*
*Велик твой подвиг... и вздохнёт.*

Але самі ўдзельнікі „мятежа“ ўжо назвалі сваю краіну Беларусьсю і нават пасьпелі ў паўстанцкім паролі прызнацца ёй у любові.

Гэта праўда, што Кастусь Каліноўскі і большасьць яго паплечнікаў паходзілі з заходняй часткі Беларусі — зь Віленшчыны, Беласточчыны і Горадзеншчыны. Але прысутнасьць у шэрагах яго аднадумцаў Станіслава Сангіна з Гомельшчыны, Пятра Чакатоўскага і Цэлястына Цеханоўскага з Магілёўшчыны, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага і Марцэля Карафы-Корбута зь Віцебшчыны, Уладзіслава Малахоўскага і Францішка Юндзіла зь Берасьцейшчыны, ня кажучы ўжо пра шматлікіх ураджэнцаў Меншчыны, паказвае, што мы маем

справу з завяршальным этапам нацыянальнай кансалідацыі. Яна, як і ў іншых народаў, адбываецца найперш сярод актыўнай часткі грамадзтва.

У першай палове — сярэдзіне XIX стагодзьдзя галоўнымі прапагандыстамі назвы „Беларусь“ сапраўды былі ўраджэнцы Вільні, Беласточчыны і Горадзеншчыны. Але працэс нацыянальнага ўсьведамленьня праходзіў на ўсёй тэрыторыі краіны. Калі будучыя ўніяцкія прафэсары зь Беласточчыны (Міхал Баброўскі, Ігнат Даніловіч, Язэп Ярашэвіч і інш.), якіх называюць пачынальнікамі беларускай ідэі, у 10-я гады XIX стагодзьдзя паступілі ў Віленскі ўнівэрсытэт, там ужо існаваў уніяцкі беларускі гурток, створаны Антонам Марціноўскім, сынам уніяцкага сьвятара зь Меншчыны.

Нішто не зьяўляецца зь ніадкуль. Сучасныя межы Рэспублікі Беларусь, уключна з дыялектна спэцыфічнай Берасьцейшчынай (Уладзіслаў Малахоўскі паходзіў з Кобрыні), акрэсьліліся менавіта ў часы Каліноўскага.

І менавіта тады на сьвет зьявілася мадэрная краіна Беларусь у сваіх геаграфічных і этнічных межах, якім яшчэ толькі належала ў будучыні стаць дзяржаўнымі.

Апісаны тут працэс нацыянальнага нараджэньня краіны адпавядае канцэпцыі пабудовы нацый у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе, створанай чэскім гісторыкам Міраславам Грохам, які лічыцца клясыкам сусьветнай этналёгіі.

Паводле Гроха, падставы і сувязі, на якіх недамінантныя групы будуюць нацыі ў процістаяньні з пануючымі этнасамі ў нашым рэгіёне Эўропы, бываюць вельмі розныя, але тры зь іх застаюцца нязьменнымі. Гэта:

• Памяць пра агульнае мінулае, якое ўсьведамляецца як агульны лёс усёй этнічнай групы ці хаця б яе ключавых элемэнтаў (напрыклад, шляхты).

• Шчыльныя моўныя або культурныя сувязі, якія забясьпечваюць больш высокі ўзровень сацыяльнай камунікацыі ўнутры групы ў параўнаньні з навакольным сьветам.

• Канцэпцыя роўнасьці ўсіх членаў групы.

Усе гэтыя пункты прысутнічаюць у палымянай публіцыстыцы Каліноўскага.

Але былі і асаблівасьці. Адна зь іх палягае ў тым, што Каліноўскі да арышту не пасьпеў у друку цалкам выкласьці свае нацыянальныя погляды. У „Мужыцкай праўдзе“ праявіўся толькі самы пачатак нацыянальнай агітацыі.

Таму ў пачатку 1864 году на ініцыятыву Каліноўскага ў Каралеўцы (Кёнігсбэргу) пачала выдавацца польскамоўная газэта „Głos z Litwy“, якая, з увагі на мову выданьня, прызначалася для адукаванай часткі грамадзтва. І вось у напісаных для гэтай газэты „Лістах з-пад шыбеніцы“, як і ў апошнім слове на эшафоце („У нас няма дваран; усе роўныя“) ужо дастаткова выразна праявіліся неабходныя для нараджэньня нацыі ідэі.

Важна таксама, што ня толькі Каліноўскі фармуляваў і выказваў ідэалягічныя пастуляты новай беларускай нацыі. І гэта — дадатковы доказ рэальнасьці нацыятворчага працэсу ў Беларусі ў 1850-я — 1860-я гады XIX стагодзьдзя. Успомнім радкі з паўстанцкай „Песьні на Божы час“:

*Бо мы роўныя з панамі,*
*Бо за вольнасьць мы з касамі!*

Тыя самыя погляды выказвалі і іншыя паплечнікі Каліноўскага. Выданьнем газэты „Głos z Litwy“ ў Кёнігсбэргу і падборам матэрыялаў для яе займаліся былыя віленчукі зь ліку радыкальных „чырвоных“, якія на той час ужо апынуліся за мяжой, — Уладзіслаў Малахоўскі і Міхал Ляпкоўскі (калега Каліноўскага па ўнівэрсытэце).

Вось цытаты, узятыя з нумару за 1 красавіка 1864 году, які выйшаў ужо пасьля сьмерці Кастуся Каліноўскага:

„Масква перасьледуе мову польскую, беларускую, маларускую, літоўскую і навязвае маскоўскую; мы хочам, каб кожная мова разьвівалася паводле ўласнай жыцьцяздольнасьці: і літоўская, і беларуская, і маларуская, і польская“.

„Мы хочам, каб кожны меў роўныя правы на ўласнасьць, на службу, на працу, каб усе атрымалі і ніхто ня страціў“.

„Таго, што хочам, чаго патрабуем, Масква нам ніколі не дала і даць не магла. Ёй гісторыя надала адзін кірунак народнага жыцьця, нам — іншы. Разам нашыя прызначэньні рэалізаваць мы ня можам. Павінны разьдзяліцца для нашага і яе дабра“.

Тут і разуменьне асобнасьці гістарычнага лёсу, і ўсьведамленьне важнасьці сваёй мовы як сродку камунікацыі, і патрабаваньне роўнасьці. Паляк мог бачыць у гэтых радках адзін нацыянальны зьмест, беларус — зусім іншы. Але назва газэты, пазначэньне тэксту як карэспандэнцыі зь Вільні, магчымае аўтарства самога Каліноўскага (пра што пісаў яшчэ Генадзь Кісялёў), а таксама імёны выдаўцоў (Малахоўскі, Ляпкоўскі) даюць падставы ўключаць гэты артыкул у беларускі гістарычны дыскурс.

Тое самае і з роляй шляхты ў беларускім нацыятворчым працэсе, што зьяўляецца пэўным выключэньнем з правілаў. Арыстакратыя, эліта грамадзтва часта застаюцца абыякавымі і нават варожымі да нацыянальных рухаў, бо тыя выстаўляюць лёзунг роўнасьці ўсіх членаў будучай нацыі.

Паводле Міраслава Гроха, нараджэньне нацыі мае тры структурныя фазы — A, B і C. У выпадку Беларусі першыя два этапы — фаза A (зацікаўленьне і вывучэньне нацыянальных асаблівасьцяў, самапазнаньне) і фаза B (нацыянальна-патрыятычная агітацыя) — былі ажыцьцёўленыя шляхтай, яе найлепшымі і найбольш прагрэсіўнымі прадстаўнікамі, якія не зракліся нацыянальных каранёў або вярнуліся да іх. І толькі на этапе рэалізацыі фазы C (масавы рух і яго структураваньне, стварэньне дзяржавы і паўнацэннай структуры грамадзтва) да шляхты далучыліся выхадцы зь іншых слаёў. Гэта — важная асаблівасьць нашай гісторыі.

Нараджэньне краіны Беларусі стала заканамернай і своечасовай зьявай у Эўропе.

### Маці Беларусі шляхта

Цяжка пагадзіцца з тымі гісторыкамі, якія сьцьвярджаюць, што ўся шляхта Беларусі ўжо ў XVIII стагодзьдзі цалкам успрыняла літоўскі этнагенэтычны міт пра сваё паходжаньне ад рымлян і цалкам зраклася „рускай“ мовы і русінскай сьвядомасьці.

У Беларусі і ў XVIII стагодзьдзі, і ў пачатку XIX стагодзьдзя заставалася яшчэ праваслаўная шляхта, было нямала ўніяцкай і беднай каталіцкай шляхты. Траплялiся нават зямяне, а на поўначы Віцебшчыны аж да пачатку XIX стагодзьдзя за-

хоўваліся памежныя паселішчы панцырных баяраў. Усе яны карысталіся беларускай мовай у побыце і памяталі пра сваё „рускае“ паходжаньне, як пра яго яшчэ ў пачатку XVII стагодзьдзя сказаў Мялеці Сматрыцкі: „Ня вера русіна русінам, паляка палякам, літоўца літоўцам робіць, але нараджэньне і кроў руская, польская і літоўская“.

Ня ўся і буйная шляхта цалкам забылася на сваю „рускасьць“.

Беларускамоўная паэзія XVIII стагодзьдзя шляхецкага паэта Дамініка Рудніцкага або апошняга канцлера Вялікага Княства Літоўскага, магната Яўхіма Храптовіча гэтаму пацьверджаньне.

Дзясяткі беларускіх пісьменьнікаў першай паловы XIX стагодзьдзя — гэты час называюць пэрыядам літаратурнага абуджэньня Беларусі — паходзілі са шляхты, і толькі адзінкі — Паўлюк Багрым, Вінцэсь Каратынскі — зь сялян. Ды яшчэ Ян Баршчэўскі быў сынам уніяцкага сьвятара.

Менавіта дзякуючы інтэлектуалам і палітыкам шляхецкага паходжаньня на сьвет зьявілася новая Беларусь. І менавіта пад кіраўніцтвам шляхты наш народ прайшоў няпростую дарогу ад Русі празь Літву і часткова Польшчу да Беларусі.

Нярэдка кажуць, што „беларусы“ і „Беларусь“ — не саманазвы народу і краіны. Гісторыя, аднак, сьведчыць пра адваротнае. Менавіта гэтую назву ў XIX стагодзьдзі выбралі самі віленскія і наогул заходнебеларускія ліцьвіны і русіны, калі вырашылі выразна адрозьніць сябе ад балцкага насельніцтва гістарычнай Літвы на падставе сваёй (або сваіх продкаў) „рускай“ мовы.

Калі б не распаўсюджанасьць польскай мовы сярод эліты тагачаснага грамадзтва — нашым на-

цыянальным назовам мог стаць этнонім і палітонім „ліцьвіны“.

Але для польскамоўных пачынальнікаў беларускай ідэі ў XIX стагодзьдзі слова „ліцьвін“ (Litwin) было сынонімам сёньняшняга слова „літовец“ (балт, lietuvis). Пачынальнікі адчувалі патрэбу самаідэнтыфікавацца, аддзяліць сябе ад балтаў. Таму выбар быў зроблены на карысьць „Беларусі“ і „беларусаў“.

Ужо ў сярэдзіне 30-х гадоў XIX стагодзьдзя студэнт Мэдыка-хірургічнай акадэміі ў Вільні, беларускі паэт і рэвалюцыянэр Францішак Савіч у вершы „Дзе ж тое шчасьце падзелася“ ад імя беларусаў усклікне:

*Ліцьвін, валынец, падайце ж мне рукі,*
*Так — прысягаем на Госпада-Бога,*
*Царам — на згубу, панам — для навукі,*
*Што на той зямлі не паўстане і нога —*
*Ані гэта паганска, ані гэта тыранска...*

І сама выбраная назва — беларусы — таксама тлумачыцца польскамоўнасьцю тых, хто выбіраў. Для іх гэта была важная гістарычная пераемнасьць. Па-польску русіны — Rusini, а беларусы — Białorusini.

Гэты выбар зрабіла пераважна ўжо польскамоўная шляхта і, у меншай ступені, прадстаўнікі ўніяцкіх і праваслаўных адукаваных колаў. Гэтыя апошнія сябе амаль не пераймяноўвалі — былі русіны, сталі — „беларусіны“.

Ці добра гэта ці дрэнна — абмяркоўваць ня мае сэнсу. У момант зараджэньня нацыі яе заснавальнікі далі ёй такую назву. І сёньня гэта ўжо ня зьменіш.

Складанасьць гэтага пошуку ідэнтычнасьці і назвы ілюструюць назва адной кнігі і дзьве цытаты.

У 1835 годзе ў Вільні па-беларуску быў выдадзены „Кароткі збор навукі хрысьціянскай для вяскоўцаў рымска-каталіцкага веравызнаньня, якія гавораць мовай **польска-рускай**“.

У пачатку 40-х гадоў XIX стагодзьдзя Адам Міцкевіч падчас лекцый казаў студэнтам: „Гаворкаю Белай Русі, званаю русінскай ці літоўска-русінскай... размаўляе каля 10 мільёнаў чалавек: гэта гаворка найбагацейшая і найчысьцейшая; яна распрацоўвалася з даўніх часоў: вялікія князі літоўскія карысталіся ёю ў дыпляматычным ліставаньні ў пару незалежнасьці Літоўскага княства“.

Празь дзесяць гадоў — у 1853 годзе — сябар і паплечнік Адама Міцкевіча Аляксандар Рыпінскі ў прадмове да выдадзенай ім беларускай баляды „Нячысьцік“ пісаў: „Просты народ на Беларусі і амаль што ва ўсёй Літве, там, дзе селянін не па-літоўску, але па-руску гаворыць, сьпявае на сваёй мове нейкую сьмешную песьню пра дзіўнага ілгуна Мікіту...“

Як бачым, Рыпінскі, выдаючы ўласны паэтычны твор на беларускай мове, усё яшчэ вагаўся з назвай мовы, на якой пісаў.

Але аўтары абедзьвюх цытатаў былі далёка ад Беларусі. Міцкевіч сказаў гэта ў Парыжы, Рыпінскі — у Лёндане.

У самой Беларусі ў пачатку 60-х гадоў XIX стагодзьдзя справа з назвай мовы, народу і краіны была ўжо вырашана канчаткова.

У гэтага выбару былі добры і дрэнны бакі. Новая назва захавала гістарычную пераемнасьць і справядлівасьць — Русь значна старэйшая за Літву.

Разам з тым, вылучэньне Беларусі і беларусаў з гістарычнай Літвы як бы пазбавіла іх фармальнага права на спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Таму для беларускай нацыянальнай ідэі заўсёды важным застаецца фактар гістарычнай адукацыі. Кожны школьнік павінен ведаць, што ВКЛ — адна з апораў беларускай дзяржаўнасьці і культуры, але не адзіная — да яе былі Полацкая дзяржава, Тураўскае княства і сярэднявечны Навагрaдак.

Вядома, ня ўся шляхта тады і пазьней зрабіла выбар на карысьць беларускай нацыянальнасьці і Беларусі.

Большасьць выбрала Польшчу. Часам гэты падзел праходзіў паміж членамі адной сям'і або паміж пакаленьнямі.

Але перадавая частка шляхты, якая захоўвала гістарычную памяць і адчувала сувязь з народам, выбрала Беларусь.

Лідэрам і выказьнікам пазыцый перадавой часткі шляхты быў Кастусь Каліноўскі са сваімі паплечнікамі.

Усяго праз паўстагодзьдзя, увесну 1917 году, у Расейскай імпэрыі праводзіўся перапіс уладальнікаў сельскіх гаспадарак, падчас якога ўпершыню ў гісторыі задавалася пытаньне пра нацыянальнасьць.

І вось тады ўжо практычна ўсе сяляне і пераважная большасьць шляхты і арыстакратаў Меншчыны назвалі сябе беларусамі. Сярод іх былі і Друцкія-Любецкія, і Гутэн-Чапскія, і Скірмунты, і Радзівілы, і Любанскія, і Ваньковічы, і многія, многія іншыя.

Калі б не бальшавіцкі пераварот кастрычніка 1917 году, Беларусь магла быць зусім іншаю.

## Нацыянальны маніфэст Каліноўскага

Кастусь Каліноўскі пакінуў даволі вялікую спадчыну. Цяжка перааценіць значэньне першай беларускай газэты „Мужыцкая праўда“. Толькі за яе чытаньне і распаўсюджваньне было пакарана сьмерцю або высылкай мноства беларускіх патрыётаў.

Афіцэраў царскай арміі, беларусаў з паходжаньня, за чытаньне салдатам „Мужыцкай праўды“ расстрэльвалі. Так у чэрвені 1863 году каля брамы менскага Пішчалаўскага замку быў расстраляны Міхал Цюндзявіцкі з Барысаўскага павету.

Але па-над усім у спадчыне Каліноўскага стаяць ягоныя „Лісты з-пад шыбеніцы“, якія ў арыгінале называліся „Да беларускага народу“. Вось да каго ён зьвярнуўся перад сьмерцю! Да свайго народу і каханай дзяўчыны.

Ужо ў самым пачатку першага ліста, які Каліноўскі даслаў з турмы ў газэту „Głos z Litwy“ як артыкул, ён адмяжоўваецца ад расейцаў і ад палякаў: „Пісьмо аддрукуйце, каб знаў сьвет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстаньне польскае...“

У гэтай і наступных частках „Лістоў з-пад шыбеніцы“ ён працягвае выкарыстоўваць уведзенае ім у ранейшай публіцыстыцы паняцьце народнай (мужыцкай) праўды — праўды беларусаў або беларускай праўды:

„...Ты, народзе вялікі і чэсны, праўдай ім [замежным народам] адкажы“.

„Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці...“

„...Но ня жаль згінуць за тваю праўду“.

Беларуская праўда (ідэя, рацыя, права, справядлівасьць) выступае ў „Лістах“ пад трыма фармулёўкамі — „праўда“, „твая праўда“, „наша праўда“.

Пара прыналежных займеньнікаў „твая-наша“ паказвае, што Каліноўскі назаўсёды залучыў сябе да ліку беларусаў, ад імя якіх і да якіх ён піша лісты.

Пасьля гэтага маніфэсту абвясьціць Каліноўскага некім іншым проста немагчыма. Гэта поўнае нацыянальнае ўсьведамленьне і атаясамленьне сябе зь беларускім народам. Ён піша ад імя мужыка-беларуса і на ягонай мове — па-беларуску.

А там, дзе жывуць беларусы і дзе гавораць па-беларуску — там і любімая Беларусь з паўстанцкага паролю. Па-беларуску гавораць і ў родных для Каліноўскага Мастаўлянах на Беласточчыне, і за Магілёвам. Значыць, гэта ўсё Беларусь.

Гэты запавет Каліноўскага праз 27 гадоў прамовіць удзельнік паўстаньня Францішак Багушэвіч:

„Можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак“.

„Лісты з-пад шыбеніцы“ — гэта нацыянальна-палітычны маніфэст і асабісты запавет Каліноўскага будучым пакаленьням. Там утрымліваюцца геапалітычныя, эканамічныя і культурна-адукацыйныя пастуляты, выкананьне якіх мае захаваць беларускі народ ад гістарычнай сьмерці.

Гэта — вяршыня і фінальны пункт нацыянальнай эвалюцыі не да канца спольшчанага беларускага шляхціца, ліцьвіна-русіна з былога Вялікага Княства Літоўскага.

За яго прыкладам пойдуць многія ўжо ў XIX стагодзьдзі, а ў пачатку XX стагодзьдзя, як мы цяпер ведаем, сярэдняя і буйная шляхта Беларусі пачне ўжо масава называцца беларусамі.

### Водгук у сэрцах эліты

Прамысловая рэвалюцыя XIX стагодзьдзя амаль не закранула Беларусь, якую ўлады Расеі зрабілі сваёй аграрнай ускраінай. Таму паўстанцы мелі мала апоры ў пераважна габрэйскіх гарадах і зьвярталіся да сельскага насельніцтва — шляхты і сялян. А Каліноўскі, у дзейнасьці якога быў і нацыянальны аспэкт, — толькі да сялян і дробнай шляхты як носьбітаў беларускай мовы і культуры. У паўстаньні прымалі ўдзел і рамесьнікі, але іх было няшмат.

Адпаведна і беларускі нацыяналізм пачатку XX стагодзьдзя амаль не заўважыў звароту да беларушчыны часткі арыстакратаў і шляхты. Ён шукаў апору ў сялянскіх масах і менавіта таму заразіўся сацыялістычнымі ідэямі, якія ішлі з Санкт-Пецярбургу. Гэта пайшло на шкоду нацыянальнай ідэі, выклікала разлад і падзел элітаў, а ў канечным выніку прывяло да аслабленьня руху і адштурхоўваньня арыстакратыі.

Гэты падзел паспрабаваў у 1918 годзе ліквідаваць прэм’ер-міністар Беларускай Народнай Рэспублікі магнат Раман Скірмунт. Ён прывёў у Раду БНР князя Геранiма Друцкага-Любецкага і прыцягнуў да дыпляматычнай дзейнасьці рэспублікі князя Альбрэхта Антонія Радзівіла, графа Юрыя Гутэн-Чапскага, магната Аляксандра Любанскага і іншых прадстаўнікоў арыстакратыі. Але было ўжо позна, геапалітычная сытуацыя разгортвалася не на карысьць БНР.

Буйны землеўласьнік Менскай губэрні Эдвард Вайніловіч, у доме якога праходзіў Беларускі зьезд Случчыны, што ўзьняў Слуцкае паўстаньне, пісаў у сваіх успамінах: „З усіх беларускіх суполак, прымаючы ў іх удзел матэрыяльна, я ўрэшце сыходзіў,

таму што іх дзейнасьць, якая пачыналася з самапазнаньня і нацыянальнага адраджэньня („Лучынка“, „Саха“, „Загляне сонца і ў наша ваконца“ і т. д.) звычайна ў канцы набывала сацыялістычны кірунак, які супярэчыў усім маім перакананьням і зь якім я ня мог пагадзіцца“.

Зь іншага боку, можна канстатаваць, што рэальны ўплыў нацыянальна-палітычнай рыторыкі Каліноўскага на розумы беларускай эліты меў далекасяжныя наступствы і выявіўся амаль імгненна. Усяго празь некалькі гадоў яго падхапілі юнакі, якім падчас паўстаньня было 13–15 гадоў.

Ужо ў 1868 годзе ў Санкт-Пецярбургу ўзьнік „Крывіцкі вязок“ — культурна-асьветная арганізацыя беларускай арыстакратычнай моладзі. Паводле сьведчаньня аднаго зь яе ўдзельнікаў, графа Вайніслава Савіч-Заблоцкага, у „Вязок“ увайшлі да пяцідзесяці князёў, графаў, сыноў камэргераў імпэратарскага двара і генэралаў. Прычым, як пісаў Савіч-Заблоцкі, сярод удзельнікаў арганізацыі былі ня толькі беларусы, але таксама палякі і расейцы, якія спачувалі беларускай ідэі.

Члены „Вязка“ вывучылі беларускую мову, пачалі складаць слоўнік і зьбіраць фальклёр, унесьлі ў агульную скарбонку па 100 рублёў, утварыўшы такім чынам, выдавецкі фонд. У выдавецкім пляне значыліся беларускія лемантары, календары, падручнікі, праваслаўныя і каталіцкія малітоўнікі, кнігі па заалёгіі і гігіене, а таксама папулярная літаратура, у тым ліку байкі Эзопа і зборнікі прымавак і прыказак.

„Вязок“ быў разгромлены ў 1870 годзе — адны яго члены былі ўзятыя пад нагляд паліцыі, іншыя высланыя дадому пад хатні арышт, нехта трапіў

на лячэньне за мяжу або быў узяты на казённую службу.

Сам малады граф, ураджэнец Віленшчыны Вайніслаў Суліма-Савіч-Заблоцкі быў высланы ў Варшаву, адкуль праз тры гады эміграваў за мяжу. Ён жыў у некалькіх эўрапейскіх сталіцах, блізка кантактаваў з нацыянальным героем Італіі Джузэпэ Гарыбальдзі.

У 1886 годзе ў беларускамоўным лісьце з Парыжу ў Жэнэву да ўкраінскага дзеяча Міхайлы Драгаманава беларускі граф назваў сярод сваіх папярэднікаў Кастуся Каліноўскага і напісаў: „А збожжа ж усё-такі і ў нас расьце, кроў і ў нашых краўніцах цячэ! Беларусь мая будзе!“

Неўзабаве, у 1906 годзе, у складзе І Дзяржаўнай думы Расеі ўзьнікне беларуская дэпутацкая група, у якую ўвойдуць і арыстакраты, і шляхта, і каталіцкія біскупы, якія пачнуць палітычную барацьбу за аўтаномію і самакіраваньне Беларусі. Сярод іх будуць прамы нашчадак Рурыка і Рагвалода князь Геранім Друцкі-Любецкі, магнат Раман Скірмунт, біскуп Эдвард фон Роп. У 1918 годзе іх барацьба, як ужо і многіх, многіх іншых, скончыцца абвяшчэньнем незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

У пачатку ўсяго гэтага палітычнага працэсу стаіць дзейнасьць Кастуся Каліноўскага, у тым ліку два ягоныя ўрады 1863 году.

## Палітычны запавет

У „Лістах з-пад шыбеніцы“ ўтрымліваюцца яшчэ не сыстэмна сфармуляваныя, але ўжо дакладна акрэсьленыя пастуляты беларускай нацыянальнай ідэі. Іх дзесяць. І ўсе яны дагэтуль актуальныя:

1. Самы галоўны зь іх: Мы — беларусы. Гэта слуп, на якім стаіць Беларусь. Каліноўскі цалкам атаясамлівае сябе зь беларускім народам, фактычна, называе сябе беларусам і сьцьвярджае суб'ектнасьць беларускага народу:

„...Каб знаў сьвет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстаньне польскае".

„...Енарал Касьцюшка, што то, кажуць, каля Слоніма радзіўся і а каторым народ наш сьпявае".

„...Нам пад рондам польскім не заўсім было добра".

2. Каліноўскі называе першаступеннай каштоўнасьцю сувэрэнітэт народу:

„Калі ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства, маскаль... гэтак ня робіць".

3. У некалькіх месцах Каліноўскі называе вялікай каштоўнасьцю патрыятызм. Вось адно зь іх:

„...Ты, аднак, народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за свайго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчызну".

4. Каліноўскі ставіць пытаньне пра сацыяльную справядлівасьць у будучым беларускім грамадзтве:

„...Ронд наш павінен быць на ўсё чуткі, каб мог для дабра народнага за ўсяго карыставаць".

5. Каліноўскі адкідае расейскі тэзіс пра „брацтва" беларускага і расейскага народаў, моцна яго крытыкуе, піша пра рэкруцкія наборы, высылкі ў Сібір і параўноўвае расейскіх чыноўнікаў з саранчой. Паводле Каліноўскага, Расея, „пабіўшыся з палякамі, каб удзяржаць сваё панаваньне, да нашага брацтва хоча ўпісаціся".

6. Каліноўскі разумее, што з усіх суседзяў Беларусі менавіта Расея распрацавала найбольш грунтоўны комплекс ідэалягічных і гістарычных

аргумэнтаў для асыміляцыі беларусаў. Ён піша пра несправядлівую забарону Ўніяцкай царквы і, фактычна, выказваецца за яе вяртаньне:

„...Каб сьлёзы мужыцкія ня трапілі перад трон праўдзівага Бога, забралі нам і духоўну нашу пацеху — нашу веру ўніяцкую“.

7. Каліноўскі ставіць пытаньне пра адукацыю на роднай мове. Два апошнія тэзісы, відавочна, разумеюцца ім як procівага асыміляцыі:

„...Маскаль... там, дзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах вучаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску“.

8. Каліноўскі высоўвае тэзіс пра разьвіцьцё ў будучай Беларусі ўсеагульнай адукацыі, культуры і навукі як гарантыю ўсеагульнага дабрабыту:

„...Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве, па праўдзе“.

9. Каліноўскі называе найбуйнейшую геапалітычную пагрозу для існаваньня Беларусі і беларускага народу. Гэта — „маскаль“, Расея:

„Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ ня будзе“.

10. Каліноўскі ставіць пытаньне пра неабходнасьць арыентацыі Беларусі на Польшчу, а значыць — на Захад. Ён відавочна яшчэ ня мае яснага бачаньня далейшага лёсу сваёй краіны, ня ведае, у якой форме будзе захаванае адзінства Польшчы, Літвы і Беларусі — фэдэрацыі, канфэдэрацыі ці нейкай іншай форме дзяржаўнага саюзу — і ці будзе яно захаванае наогул. Але праз увесь тэкст

„Лістоў з-пад шыбеніцы“ параўноўвае парадкі і падыходы „ронду польскага“ з „рондам маскоўскім“ і прыходзіць да высновы, што

„...Польскае дзела гэта наша дзела, гэта вольнасьці дзела“.

„Для таго, Народзе, як толька калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду... грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную“.

Арыентацыю на Польшчу XIX стагодзьдзя ва ўмовах тагачаснага процістаяньня з Расеяй — у XXI стагодзьдзі можна сьмела трактаваць як заклік Каліноўскага да празаходняй геапалітычнай арыентацыі Беларусі і жыцьцёвую неабходнасьць такой арыентацыі для народу і краіны ў будучыні.

Апошняя цытата наогул усёабдымная. Яна адна можа быць і палітычным запаветам, і нацыянальнай ідэяй. Тут зьвяртаюць на сябе ўвагу тэзіс пра „чалавечае права“ (захаваньне правоў чалавека), пра „народнае права“ (захаваньне нацыянальных правоў), а за заклікам ваяваць „за сваю зямлю радную“ зноў стаіць тэзіс пра вялікую каштоўнасьць патрыятызму і любові да Бацькаўшчыны.

Гэта — клясыка беларускай палітычнай ідэі, яе вытокі.

## Сымболіка ягонай сьмерці

На дзейнасьць і тэксты Каліноўскага можна паглядзець з пункту гледжаньня моднай у яго часы філязофіі гісторыі нямецкіх мысьляроў Шэлінга і Гегеля. Развагі ў сымбалічных катэгорыях прыводзяць да наступных высноваў.

Шэлінг падзяліў усе народы на гістарычныя і негістарычныя. Паводле яго, гістарычны народ

рэалізуе нейкую звышідэю дабра, праўды і красы. Негістарычныя народы такога пакліканьня ня маюць і таму знаходзяцца ў духоўным рабстве ў гістарычных.

Гегель лічыў, што гісторыяй кіруе сусьветны дух, які самарэалізуецца і пазнае самога сябе. Паводле Гегеля, кожны народ мае права зрабіць свой унёсак у гісторыю, але ў канкрэтны пэрыяд гісторыі сусьветны дух аддае перавагу аднаму народу-пераможцу. Народ-пераможца заўсёды мае рацыю, бо абраны на сваю ролю духам гісторыі.

Славян на герархічнай лесьвіцы гісторыі Гегеля не было зусім. Ён лічыў, што славяне асуджаныя на пажыцьцёвае рабства ў нямецкай цывілізацыі. Менавіта немцы, паводле Гегеля, былі тагачаснай вяршыняй сьвету.

Тым ня менш, абодва гэтыя нямецкія філёзафы ў 30–50-я гады XIX стагодзьдзя зрабілі вялікі ўплыў на грамадзкую думку Расеі. „Заходнікі“ з Гегелем згаджаліся і заклікалі Расею працягнуць шлях, вызначаны Пятром I. „Славянафілы“ адкідалі тэзіс нямецкіх філёзафаў пра перавагу германцаў як спадчыньнікаў Рыму і лічылі Расею асобнай славянскай цывілізацыяй, пераемніцай Грэцыі.

У маленькім сусьвеце, якім для Каліноўскага зьяўлялася ўсходняя Эўропа зь пераможнай Расеяй і пераможанай Польшчай, была свая драма і свой выклік. Для беларусаў пераможцамі былі і Расея, і Польшча. Ад імя беларусаў Каліноўскі кінуў выклік абодвум народам-пераможцам і нямецкай філязофіі гісторыі наогул. І выйграў.

Ён нібы адчуваў, што кароткага пэрыяду ягонай дзейнасьці і ягоных тэкстаў аказалася недастаткова, каб ужо тады абудзіць беларусаў да гістарычнага

быцьця і вывесьці іх на шлях самарэалізацыі і дасягненьня ўсеагульнага „народнага дабра“, таму не захацеў эміграваць і пайшоў на найвышэйшую ахвяру.

Перад сьмерцю ён сымбалічна адмовіўся ад паслугі сьвятара і напісаў пра гэта ў „Лістах з-пад шыбеніцы“, каб нашчадкі дакладна ведалі, чаму ён адмовіўся ад „неба“ і дзеля чыёй „праўды“:

*Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці*
*Дай ў прадвечнага саду вялеў прападаці,*
*То мы прападзем марна, но праўды ня кінем,*
*Хутчэй Неба і шчасце, як праўду, абмінем.*

Гэта агаломшвае! Сьмерць уласнай душы, сашэсьце ў пекла для абуджэньня і ўратаваньня душы народу! Паводле хрысьціянскай традыцыі, так зрабіў Ісус Хрыстос, калі пасьля сьмерці на крыжы сышоў у пекла, зьнішчыў яго і вывеў адтуль праведнікаў — свой народ.

Няма сумневу, што Каліноўскі ведаў, што робіць, і выбраў сьмерць сьвядома і сымбалічна. Першы палітык мог паступіць толькі так, ён мусіў пайсьці да канца. Інакш нельга было перамагчы народыпераможцы — расейцаў і палякаў.

Яго сьмерць у процістаяньні з гэтымі народамі, несумненна, мела сваю трансцэндэнтную сымболіку. Каб перамагчы сусьветны дух і яго абраньнікаў — гэта значыць адстаяць „нашу праўду“, пад якой можа разумецца толькі праўда беларуская, патрэбны чын — нешта вельмі моцнае, магутнае, напрыклад, нечуваная, неверагодная ахвяра.

Каліноўскі выбірае поўны, татальны нябыт — сьмерць і фізычную, і духоўную; ахвяруе ня толькі

целам, але і душой. Для верніка адмаўленьне ад вечнага жыцьця („Хутчэй Неба і шчасьце, як праўду, абмінем“) — гэта катастрофа.

Адначасова ён не адступаецца ад свайго народу і яго дабра: „...Мы прападзем марна, но праўды ня кінем“.

Ён лічыць, што маштаб ахвяры варты ягонай мэты.

Ахвяра Каліноўскага не была адмаўленьнем ад веры і ад Бога. Наадварот, ён застаецца шчырым вернікам, бо дзейнічае ў сыстэме хрысьціянскіх каардынат — Бог, Неба, пекла — і хрысьціянскага запавету: „Няма большае за тую любоў, як калі хто пакладзе душу сваю за сяброў сваіх“ (Эвангельле паводле Яна, 15:13).

Каліноўскі дакладна ведаў ад чаго адмаўляецца, дзеля каго адмаўляецца і дзеля чаго. Ён ведаў, што стварае народ, нацыю, краіну і дзяржаву. І напісаў пра гэта адкрыта і мэтафарычна:

*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе.*
*І часам спамяні пра Яську твайго,*
*Што згінуў за праўду для дабра твайго.*

*А калі слова пяройдзе у дзела,*
*Тагды за праўду станавіся сьмела,*
*Бо адно з праўдай у грамадзе згодна*
*Дажджэш, Народзе, старасьці свабодна.*

У гэтых радках — уся яго нацыянальна-палітычная праграма. Ён гіне за беларускі народ (Бывай здаровы, мужыцкі народзе), да якога залучае і сябе (Яську твайго). Гэты народ мае згуртавацца (у грамадзе згодна) вакол нацыянальнай ідэі (адно з

праўдай) і стварыць сваю краіну, якая будзе заможнай, справядлівай і незалежнай (Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе), бо шчасьце і свабода народу магчымыя толькі ў сваёй незалежнай дзяржаве. І дзяржава гэтая ня толькі народзіцца, але пражыве доўга, пасьпее пасталець і пастарэць (Дажджэш, Народзе, старасьці свабодна).

З гэтым нельга нічога зрабіць. Ён сапраўды ў нас быў. Сапраўды гэта сказаў і зрабіў.

Чын Кастуся Каліноўскага натхняў многія пакаленьні беларусаў, а яго выхад зь зямлі праз 155 гадоў і містэрыя пахаваньня ў драматычны для беларускай незалежнасьці час — натхняюць і дапамагаюць далей.

А сьвятарскую паслугу ён у 2019 годзе, падчас пахаваньня ў Вільні, атрымаў спаўна! У Бога часу не існуе.

## Хто ён для нас

Яшчэ ў Санкт-Пецярбурскім унівэрсытэце студэнты назвалі Каліноўскага апосталам — за глыбокую перакананасьць у сваіх ідэях.

Пасьля сьмерці апосталам яго назвалі і сучасьнікі. Польскі гісторык Юзаф Яноўскі так і напісаў пра яго: „Шчыры апостал беларускага народу“.

Кастусь Каліноўскі сапраўды зьяўляецца апосталам Беларусі, апосталам беларушчыны і беларускай мовы. Але ня толькі.

Вінцэнта Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага можна сьмела называць барацьбітом за беларускую нацыянальную ідэю, айцом беларускай нацыі, палітычным бацькам Беларусі.

Пры ўважлівым аналізе робіцца відавочным, што беларускія палітыкі пачатку XX стагодзьдзя

былі ідэйнымі нашчадкамі і пасьлядоўнікамі Кастуся Каліноўскага.

Айцу-заснавальніку мадэрнай Беларусі было ўсяго 26 гадоў, калі ён прыняў пакутніцкую сьмерць за бацькаўшчыну, напісаўшы перад гэтым:

„Горка пакінуць зямельку родную і Цябе, дарагі мой народзе...“

Паклонімся яму.

## На пахаваньне Каліноўскага ў Вільні шукаюць валянтэраў. Што трэба рабіць?

19 лістапада 2019

Беларускі грамадзкі камітэт ушанаваньня памяці паўстанцаў 1863–1864 гадоў шукае валянтэраў для дапамогі 22 лістапада на цырымоніі пахаваньня Кастуся Каліноўскага ў Вільні.

Падаць заяўку на валянтэрства можна праз Google-форму.

Камітэт шукае валянтэраў для:

- грамадзкай ганаровай варты;
- ускладаньня вянкоў паўстанцам;
- іншай дапамогі на Катэдральным пляцы ў Вільні.

Неабходна мінімум 50 чалавек, пажадана болей, напісаў Свабодзе сябра грамадзкага камітэту Кірыл Атаманчык.

Колькі чалавек падаліся? 14 заявак атрымаў камітэт на момант публікацыі. Паводле Атаманчыка, прыкладна аднолькавая колькасьць людзей падалася на розныя задачы.

## Літоўскі навуковец: у Сьвіслачы эксгумавалі парэшткі ня Віктара Каліноўскага , а іншага чалавека

19 лістапада 2019

Літоўскі бок правёў аналіз ДНК-экспэртызы парэштак, якія былі эксгумаваныя зь меркаванай магілы брата Кастуся — Віктара Каліноўскага ў Сьвіслачы, піша „Белсат“.

Дасьледчыкі з Вільні прыйшлі да высновы, што ў магіле ў Сьвіслачы пахаваны ня Віктар Каліноўскі.

— Наш судовы мэдык супаставіў дадзеныя і прыйшоў да высновы, што храмасомы і ДНК не супадаюць з ДНК Кастуся Каліноўскага. Таму пахаваньне ў Сьвіслачы — ня брата Кастуся Каліноўскага. Ідэнтыфікаваць, хто пахаваны ў магіле, не ўяўляецца магчымым, гэта невядомая асоба, — сказаў Рымантас Янкаўскас, прафэсар-антраполяг Віленскага ўнівэрсытэту, каардынатар ідэнтыфікацыі парэштак.

## „Галоўнае, каб паўстаньня не падняў!“ Як жывецца сучасным хлопцам зь імем Кастусь Каліноўскі

19 лістапада 2019

Свабода знайшла сучасных Кастусёў Каліноўскіх і спытала, як ім жывецца з такім імем.

28-гадовы Кастусь Каліноўскі стаў цёзкам беларускага рэвалюцыянэра выпадкова: кажа, што бацькі не ўкладалі ў ягонае імя асаблівага сэнсу. На пахаваньне Каліноўскага хлопец не паедзе, але ставіцца да яго асобы з павагай.

— Матуля мяне называла Касьцюшка, таму спачатку даведаўся пра Тадэвуша. І потым пра Каліноўскага, — кажа хлопец.

У школе, калі па гісторыі Беларусі вывучалі антырасейскае паўстаньне 1863–1864 гадоў і асобу Каліноўскага, Кастусь чырванеў, бо аднаклясьнікі глядзелі на яго і ўсьміхаліся.

— Такі незразумелы быў стан: быццам бы і ня сорамна, але крыху няёмка, што ўсе глядзяць.

Калі хлопец вучыўся ва ўнівэрсытэце, знакамітае спалучэньне імя і прозьвішча дапамагала яму здаваць іспыты.

— На гісторыі адразу знайшлася тэма для размовы з выкладчыкам. На экзамэне па мовах праграмаваньня выкладчык вельмі ўзрадаваўся і сказаў, што ён сам жыў на вуліцы Каліноўскага, таму быў станоўча настроены да мяне.

Другому Кастусю Каліноўскаму 31 год. Сам ён са Жлобіна.

Успамінае, як знаёмыя казалі яму: „Галоўнае, каб паўстаньня не падняў!“

Цяпер працуе ў адной з крамаў Менску. Нядаўна падпрацоўваў у краме на вуліцы Каліноўскага і, калі загадчыца запаўняла ведамасьць, пажартаваў: „Вы хаця б памылку ў прозьвішчы не зрабіце!“

Калі вучыўся ў школе, то спрабаваў даведацца — раптам ён нашчадак рэвалюцыянэра Каліноўскага?

— Пытаўся ў сваякоў, ці не належу я да гэтага роду. Сказалі, што не.

## „І першым паказаўся Каліноўскі“. У Літве прэзэнтавалі хроніку адкрыцьця магілаў паўстанцаў

19 лістапада 2019

У Нацыянальным музэі Літвы прэзэнтавалі гісторыка-археалягічнае дасьледаваньне „Шлях паўстанцаў 1863–1864 гадоў на сьмерць і ўваскрэсеньне“.

Над 220-старонкавым томам працавалі літоўскія адмыслоўцы пад кіраўніцтвам навуковага рэдактара Тамары Байрашаўскайце. У выданьні падсумоўваецца праца археолягаў, якія цягам 2017–2019 гадоў вялі раскопкі на Гедзімінавай гары.

— Дасьледаваньне парэштак паўстанцаў і наступныя аднаўленчыя працы адпавядаюць узроўню кампутарнага XXI стагодзьдзя, — дзеліцца ўражаньнямі Язэп Янушкевіч, аўтар жыцьцяпісу Кастуся Каліноўскага. — Узорная практычна-дасьледчая дзейнасьць за тры гады падмацаваная дзясяткам тысяч фатаграфій, мізэрную частку якіх я змог пабачыць на маніторы кіраўніка прадпрыемства Rekreacinė statyba Альгімантаса Шукшты. А гэта азначае, што на прэзэнтаваным гісторыка-археалягічным томе ў нашых літоўскіх калегаў выданьні ня спыняцца.

Кніга складаецца зь дзьвюх частак. Першая мае назву „Дарога да сьмерці“ і зьмяшчае біяграфіі паўстанцаў, якія загінулі на Лукіскім пляцы, а таксама апісвае гісторыю іх арыштаў, допытаў і судовых працэсаў. На падставе зьвестак гістарычных архіваў выяўляецца закулісьсе рэпрэсіўнай

машыны Расейскай імпэрыі. Аўтарам было важна назваць судзьдзяў і карнікаў.

Другая частка называецца „Дарога да адраджэньня“ і апісвае месцы пахаваньня забітых паўстанцаў, абставіны іх адкрыцьця і ідэнтыфікацыі. Дасьледчыкі вывучалі фатаграфіі загінулых, шукалі іхніх жывых і мёртвых крэўных у Літве, Польшчы, Беларусі.

Складальнікі кнігі — гісторыкі, археолягі, адмыслоўцы ў галінах антрапалёгіі і судова-мэдычнай экспэртызы: Тамара Байрашаўскайце, Вольга Масьцяніца-Станкевіч, Дайва Мілінкявічуце, Біруце Рута Віткаўскене, Гіціс Грыжас, Арунас Калеюс, Валдас Сьцяпанайціс, Віцяніс Падзенас, Жыдруне Міляўскене, Рымантас Янкаўскас, Юсьціна Казакайце, Гедрус Кіселюс, Юраце Янкаўскене.

На працягу трох гадоў Літоўскі нацыянальны музэй стаў цэнтрам міждысцыплінарных дасьледаваньняў, які аб’яднаў адмыслоўцаў у розных сфэрах. Цяпер іх высілкі набываюць фізычную форму.

Як адзначае Язэп Янушкевіч, відавочна кульгае ў выданьні гісторыка-аглядная частка, бо дзеля таго, каб раскрыць стан „калінаўскіяны“ ў поўнай меры, трэба браць пад увагу літаратуру ня толькі на літоўскай, расейскай ды польскай мовах, а і на беларускай. Па-беларуску выходзілі выдатныя працы, у прыватнасьці, пра Кастуся Каліноўскага. Аднак ва ўсім томе ніводнага разу ня згадваецца прозьвішча нябожчыка Генадзя Кісялёва, славутага дасьледчыка паўстанцкага руху. Зрэшты, нашмат горш тое, што аналягічная тэндэнцыя мае месца і ў самой Беларусі.

— На жаль, гэтая ганебная практыка — нешанаваньне годных папярэднікаў —назіралася апош-

нім часам паўсюль у публічных выступах, пісаных тэкстах, тэлеперадачах і інтэрнэтных публікацыях, калі я сачыў за перадачамі пра адкрыцьцё парэштак Каліноўскага. Нагадаю, што Генадзь Кісялёў — найлепшы ў Эўропе знаўца таго пэрыяду, які пачаў свае дасьледаваньні пра веліч і трагедыю 1863–1865 гадоў яшчэ напрыканцы 1950-х, — кажа Язэп Янушкевіч.

Зрэшты, пакуль напярэдадні гістарычнай падзеі 22 лістапада ў нацыянальным жыцьці народаў, якія зьядналіся ў антыкаляніяльным паўстаньні „супраць маскалёў“, пануе ўзьнёслы настрой, можна ўстрымацца ад паасобных крытычных заўваг, лічыць Язэп Янушкевіч. Бо комплекс навуковых і аднаўленчых працаў, праведзеных літоўскімі навукоўцамі, сапраўды беспрэцэдэнтны.

Дарэчы, найноўшая кніга Язэпа Янушкевіча так і называецца — „І першым паказаўся Каліноўскі“.

Дык за што на загад віленскага генэрал-губэрнатара Міхаіла Мураўёва пакаралі паўстанцаў?

Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага прызналі „завадатарамі масавых выступаў“ і за гэта асудзілі на сьмерць. Астатнія былі пакараныя за розныя акты супраціву.

Баляслаў Калышка — „за кіраўніцтва групай паўстанцаў“.

Сьвятары Станіслаў Ішора і Раймунд Зямацкі — „за чытаньне маніфэсту паўстаньня ў касьцёлах“.

Дваране Юльян Лясьнеўскі і Альбэрт Лясковіч — „за падбухторваньне сялян да паўстаньня“.

Юзаф Яблонскі, Аляксандар і Юзаф Раўкоўскія, Караль Сіповіч — „за арганізацыю замаху на маршалка дваранства Віленскай губэрні Аляксандра Дамейку“.

Ян Бянькоўскі, Ян Марчэўскі і Эдвард Чаплінскі прызнаныя „кінжальшчыкамі“, якіх кіраўніцтва паўстаньня паслала забіць маршалка віленскага дваранства Дамейку.

Усе гэтыя асобы былі асуджаныя да сьмерці праз павешаньне на Лукіскім пляцы.

З кіраўнікоў арганізацый паўстаньня на расстрэл былі асуджаныя Мечыслаў Дарманоўскі, Ігнат Здановіч, Ціт Далеўскі, а таксама былыя афіцэры і салдаты расейскай арміі, якія былі ўзятыя ў палон рознымі групамі паўстанцаў і пасьля далучыліся да паўстаньня — Генрык Макавецкі, Уладзіслаў Нікаляі, Казімер Сычук, Якуб Чэхан.

## Горадзенскія адрасы паўстанцаў Каліноўскага

20 лістапада 2019

Горадня была адным з важных цэнтраў паўстаньня 1863–1864 гадоў.

У гэтым беларускім горадзе, мабыць, захавалася найбольш будынкаў, якія памятаюць Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў. І сутыкненьняў з расейскімі войскамі найбольш было на Горадзеншчыне.

Упершыню беларускія адрасы паўстаньня 1863–1864 гадоў сабралі ў адным даведніку на 150-я ўгодкі гэтай падзеі.

Буклет „Шляхамі паўстаньня 1863“ зьявіўся дзякуючы руху „За свабоду“ ў межах кампаніі „Год Каліноўскага“ ў 2013 годзе.

**1. Езуіцкі калегіюм**

*Горадня, Кірава, 1*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Вязьніца. З чэрвеня 1863 па жнівень 1865 году там сядзелі толькі ўдзельнікі паўстаньня. Пастаянна там утрымлівалася да 350 чалавек і штогод праходзіла да 700 перасыльных арыштантаў, якіх накіроўвалі ў іншыя турмы або на катаргу. З чэрвеня 1863 па кастрычнік 1864 году тут апрача таго месьціліся вайскова-судовая і сьледчая камісіі. Езуіцкі калегіюм у гэтым будынку дзейнічаў з 1625 да 1773 году.

**Што там цяпер.** Турма № 1, адна з трох турмаў у Беларусі.

**2. Кляштар кармэлітаў**

*Горадня, Маставая, 37*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Трымалі ў вязьніцы паўстанцаў. Будынак быў пашкоджаны яшчэ ў вайну з Напалеонам, больш яго так і не аднавілі. Калі кляштар расфармавалі, яго будынак у 1843 годзе дастаўся вайсковаму ведамству.

**Што там цяпер.** Банк. Будынак старога кляштару урэшце зруйнавалі, а на ягоных падмурках адбудавалі новы гмах, фасад якога паўтарае абрысы кляштарнага.

**3. Стары замак**

*Горадня, Замкавая, 22*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** У 1863–1864 гадах выкарыстоўваўся як астрог для паўстанцаў. Замкавы комплекс XI стагодзьдзя быў перададзены Расейскай імпэрыі пасьля трэцяга падзелу Рэчы Па-

спалітай. Пры расейскай уладзе тут быў афіцэрскі сход, казармы, вайсковы шпіталь, склады.

**Што там цяпер.** Гісторыка-археалягічны музэй. Неўзабаве музэй пераедзе ў іншы будынак на час рэканструкцыі, якая ідзе ў замкавым комплексе з 2014 году.

**4. Аптэка Адамовіча**

*Горадня, Савецкая плошча, 4*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Аптэка Адамовіча. Правізарам у аптэцы быў шляхціц Адольф Шміт. У сакавіку 1863 году ён падрыхтаваў для паўстанцаў паходную аптэку, якую захапілі расейскія войскі падчас сутычкі на гарадзенскай чыгуначнай станцыі. Шміт сьцьвярджаў, што рыхтаваў лекі „на просьбу невядомай асобы“, аднак яго прызналі ўдзельнікам паўстаньня і саслалі ў Томскую губэрню.

**Што там цяпер.** Самая старая аптэка ў Беларусі і адзіная ў краіне аптэка-музэй. Яе заснавалі езуіты ў 1709 годзе. Амаль палову мінулага стагодзьдзя яна выкарыстоўвалася пад іншыя мэты.

**5. Дом Фукса**

*Горадня, Савецкая вуліца, 7*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Тут на другім паверсе, у кватэры Ільдэфонса Мілевіча адбываліся сустрэчы Гарадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, якія наведваў Кастусь Каліноўскі. Тут жылі начальнік Гарадзенскага павету Сільвястровіч, начальнік рэвалюцыйнага бюро Геніюш, памочнік ваяводы Адольф Талочка.

**Што там цяпер.** Крамы оптыкі і галянтарэі.

**6. Мужчынская гімназія**

*Горадня, Савецкая вуліца, 6*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Горадзенскія гімназісты актыўна ўдзельнічалі ў паўстаньні і рэвалюцыйным руху напярэдадні яго. На пачатку сакавіка 1863 году ня менш як 24 гімназісты ўзялі ўдзел у няўдалай выправе чыгункай з Горадні. Пасьля гэтага царскія ўлады паставілі ў гімназіі вайсковы каравул з афіцэра і дзесяці жаўнераў. У гімназіі навучаліся паўстанцы браты Баляслаў і Эразм Заблоцкія, Уладзіслаў Жалкоўскі, Зыгмунт Урублеўскі, Юзаф Руткоўскі.

**Што там цяпер.** Крама салодкіх ласункаў, крама мабільных тэлефонаў, салён прыгажосьці, хостэл.

**7. Дом і гатэль Ромэра**

*Горадня, Савецкая вуліца, 23*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Тут Кастусь Каліноўскі сустракаўся з удзельнікамі горадзенскай паўстанцкай арганізацыі. Севярын Мікалай Ромэр і ягоная жонка Тэадора актыўна дапамагалі паўстанцам. Севярын быў высланы ў Томскую губэрню, Тэадора — у Казанскую, але паехала за мужам.

Пасьля ссылкі Ромэры вярнуліся на радзіму. На той момант гатэль быў канфіскаваны і прададзены. Пасьля называўся — гатэль „Маскоўскі“, але гарадзенцы яго яшчэ доўга называлі „гатэлем Ромэра“ або „гатэлем паўстанцаў“.

**Што там цяпер.** Рэстарацыя.

**8. Акруговы шпіталь**

*Горадня, Ажэшкі, 9*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Шпіталь. Ён быў перабудаваны напрыканцы 1850-х з бы-

лога бровара баніфратраў. Тут быў лекарам Ёсіф Маркевіч, які зьбіраў грошы для Горадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Яго арыштавалі ў сакавіку 1863 году і выслалі ў Пермскую губэрню. Уладкаваўся лекарам на залатых рудніках на Ўрале. З 1868 году жыў у Варшаве, займаўся мэдыцынай і музыкай. Дапамог стаць мастаком і кампазытарам Мікалоюсу Чурлёнісу.

**Што там цяпер.** Пошта, арганізацыі тэлефоннай сувязі.

**9. Дом Элізы Ажэшкі**

*Горадня, Ажэшкі, 17*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Эліза Ажэшка, тады яшчэ будучая пісьменьніца-дэмакратка, актыўна дапамагала паўстанцам. Калі жыла на Палесьсі разам са сваім першым мужам Пятром Ажэшкам, то прымала ў сябе атрад Рамуальда Траўгута.

**Што там цяпер.** Дом-музэй Элізы Ажэшкі.

**10. Дом Абрэмбскіх**

*Горадня, Ажэшкі, 19*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Трохпавярховы дом пабудавала на зямлі Ажэшкі сям’я Абрэмбскіх у канцы XIX стагодзьдзя. Абрэмбскія падтрымлівалі паўстанцаў. Любамір Абрэмбскі служыў у губэрнскай палаце дзяржаўных маёмасьцяў. Падчас паўстаньня стаў касірам горадзенскай паўстанцкай арганізацыі. У яго на кватэры адбываліся сустрэчы паўстанцаў. Абрэмбскі быў арыштаваны царскімі ўладамі, высланы ў Сыбір, вярнуўся адтуль у 1878 годзе. Увесь гэты час ягоная сям’я жыла ў вялікай нястачы. Любамір памёр

у 1894 годзе, пахаваны на старых гарадзенскіх могілках па вуліцы Антонава.

**Што там цяпер**. Упраўленьне спорту і турызму гарадзенскага аблвыканкаму.

**11. Чыгуначны вакзал**

*Горадня, Будзённага, 37*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** 2 сакавіка 1863 году тут адбыўся бой паміж царскімі ўладамі і паўстанцкім атрадам, які меўся выехаць з Горадні ў бок Парэчча. Атрад заўважыў вайсковы патруль Калускага палка і падняў трывогу. Салдаты атакавалі цягнік з паўстанцамі. Машыніст Вінтэр адчапіў вагоны з паўстанцамі ад цягніка. Зьехаць з гораду ўдалося толькі начальніку гарадзенскай станцыі Кульчыцкаму, які пасьля памёр ад ран, і яшчэ 6–8 паўстанцам. Рэшту паўстанцаў салдаты расьсеялі, двух паранілі. У наступныя дні ў горадзе затрымалі ня менш як 46 паўстанцаў.

**Што там цяпер.** Чыгуначны вакзал.

Пра паўстанцкае змаганьне нагадвае шыльда на сьцяне вакзалу з боку прывакзальнай плошчы зь лічбамі „1863“.

**12. Гімназія, дзе вучыўся Кастусь Каліноўскі**

*Горад Сьвіслач Гарадзенскай вобласьці, вуліца 17 верасьня, 3*

**Што там было ў часы Каліноўскага.** Сьвіслацкая павятовая вучэльня, якую наведвалі браты Каліноўскія, Рамуальд Траўгут. Кастусь Каліноўскі вучыўся тут у 1847–1852 гадах.

**Што там цяпер.** Сьвіслацкі цэнтральны раённы шпіталь. Сучасная гімназія ў Сьвіслачы месьціцца па іншым адрасе, але носіць імя Каліноўскага.

## Беларуская чыгунка пусьціць у Вільню дадатковыя цягнікі

20 лістапада 2019

Беларуская чыгунка ўвяла дадатковыя цягнікі Менск — Вільня і Вільня — Менск на 22–24 лістапада, сказалі Свабодзе ў даведцы чыгункі. У гэтыя дні ў Вільні будуць праходзіць мерапрыемствы з нагоды пахаваньня паўстанцаў 1863–1864 гадоў.

Зь Менску цягнік № 801 будзе выходзіць а 8:13, зь Вільні цягнік № 802 будзе адпраўляцца а 20:15. На момант публікацыі прадалі ўсе квіткі на цягнік Вільня — Менск на 23 і 24 лістапада.

## Пароль, які немагчыма ўзламаць ніякімі хакерскімі атакамі

21 лістапада 2019
Аляксандар Лукашук

Каго любіш — вельмі інтымнае пытаньне.

„Каго любіш? — Люблю Беларусь. — То ўзаемна!“ Так віталі адзін аднаго паўстанцы Каліноўскага.

Чаму ня „што“ любіш? Ведаючы адказ, трэба ж „што“, так? Каго — толькі чалавека. Яшчэ — Бога. А тут трэці адказ, нароўні зь першымі.

Але займеньнік „каго“ ўсё ж на месцы — бо маці проста любяць.

Гэта клясычны пароль — часткі ня маюць сэнсу самі па сабе.

Гэта цэласнае выказваньне, праграма паводзінаў і жыцьця для сябе, сяброў, будучыні. Калі яе падзяліць, страчваецца сэнс. Цэлае большае за суму частак. Толькі калі яны гучаць разам, успыхвае сьвятло, і ўсё становіцца ясным: хто мы, што адбываецца, што рабіць.

Гэта самы прыгожы пароль ва ўсясьветнай гісторыі. Самы рамантычны і самы практычны. І самы надзейны. Яго немагчыма ўзламаць, хакерскія атакі доўжацца паўтара стагодзьдзя, а ён па-ранейшаму працуе: адкрывае доступ да аднаго лёсу, не прапускае іншы.

Просты тэст: задайце гэтае пытаньне прызначаным дэпутатам і сэнатарам, удзельнікам выбарчай хлусьні — каго яны любяць? Розныя людзі ёсьць сярод дырэктараў і міністраў, судзьдзяў і генэралаў — і яны таксама часам кажуць — „Люблю Беларусь“. Але чамусьці цяжка, часам немагчыма адказаць ім — „То ўзаемна“.

Бо пытаньне, якое задае пароль, — не пра пачуцьці, не пра словы, не пра намеры, а пра дзеяньне: „Паводле плёну справаў іх пазнаеце іх“.

Дакладна вядома, як на гэтае пытаньне адкажа Алесь Юркойць, вязень Віцебскай калёніі, што паставіў на радзіме помнік з паролем паўстанцаў, як на яго адкажа рэжысэр, які ў тэатры Шэксьпіра ставіць Шэксьпіра па-беларуску, беларуская паэтка, якая выкладае паэзію ў амэрыканскім унівэрсытэце, журналісты, музыкі, пісьменьнікі, мастакі, праграмісты, юрысты, навукоўцы, бізнэсмэны, настаўнікі, студэнты, якія сёньня быццам бы пазбаўленыя ўзаемнасьці.

Быццам — бо ніхто ня можа забраць любоў, гэта ўсё адно як спыніць вецер і забараніць неба.

Водгук у гэтым паролі — самая вялікая беларуская таямніца. Што такое „ўзаемна“? Узаемна — значыць, вас любіць Беларусь? Калі так, дык дзіўным чынам. Што ж гэта за ўзаемнасьць, якая для тых, хто сапраўды любіў, канчаецца сьмерцю, турмой, выгнаньнем, пакутамі? Ад Каліноўскага да Быкава, ад Ластоўскага і Геніюш да Пазьняка і Сурвілы, да тых, хто бароніць Курапаты і выходзіць на плошчу?..

Адзіны адказ: гэта — за Беларусь.

Пытаньне „Каго любіш?“ — самае стваральнае і пазытыўнае з магчымых.

Паспрабуйце наадварот — каго ненавідзіш? Гэта таксама законнае пытаньне, і на яго таксама трэба ведаць адказ.

Але гэты адказ, які б даўгі ён ні быў, заўсёды будзе меншы за водгук на пароль Каліноўскага.

## Будзе холадна. Якое надвор'е прагназуюць на пахаваньне Каліноўскага

21 лістапада 2019

Удзень 22 лістапада ў Вільні будзе ніжэй за нуль, ветрана і вільготна. Наведнікам цырымоніяў варта апранацца цёпла.

На суботу і нядзелю, калі таксама будуць праходзіць урачыстасьці, зьвязаныя з пахаваньнем паўстанцаў Каліноўскага, прагназуюць яшчэ халаднейшае надвор'е: ад „каля нуля“ да –5°C у суботу і –2..+1°C у нядзелю. Дажджоў не чакаецца, але высокая вільготнасьць захаваецца.

## Магілы вядомых беларусаў на віленскіх Росах, дзе пахаваюць Каліноўскага з паплечнікамі

21 лістапада 2019

На адным з найстарэйшых нэкропаляў Вільні — могілках Росы — знайшлі свой спакой шмат значных для беларускай гісторыі асобаў. Напярэдадні пахаваньня тут паўстанцаў 1863-64 гадоў Свабода нагадвае некаторыя зь іх.

**Уладзіслаў Сыракомля** (1823–1862), беларускі і польскі паэт, перакладчык, драматург, літаратурны крытык і краязнаўца.

**Ануфры Петрашкевіч** (1793–1863), беларуска-польскі паэт. Сузаснавальнік Таварыства філяматаў. Працаваў у архіве Радзівілаў у Вільні.

**Адам Вайткевіч** (1796–1869), біскуп Менскай архідыяцэзіі і рэктар Менскай сэмінарыі.

**Яўстах Тышкевіч** (1814–1873), археоляг, гісторык, этнограф.

**Аляксандар Аскерка** (1830–1911), грамадзкі дзяяч, публіцыст, выдавец. Адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863–1864 гадоў. Паўстанцкі начальнік Вільні.

**Людвіка Ямант** (1833–1914), удзельніца паўстаньня 1863–1864 гадоў, родная сястра Марыі Ямант (каханай Кастуся Каліноўскага).

**Эма Дмахоўская** (1864–1919), беларуская фальклярыстка і этнограф.

**Іван Луцкевіч** (1881–1919), гісторык, археоляг, публіцыст, пачынальнік беларускага нацыянальнага руху.

**Ядвігін Ш.** (1869–1922), беларускі празаік, драматург і публіцыст, аўтар першага беларускага раману „Золата“.

**Казімер Сваяк** (1890–1926), беларускі каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзяяч, паэт і музыкант.

**Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч** (1869–1927), беларускі графік і жывапісец.

**Фадзей Дмахоўскі** (1858–1930), жывапісец, пэдагог у Віленскім унівэрсытэце. Вучыўся ў Яна Матэйкі.

**Альбін Стаповіч** (1895–1934), беларускі грамадзка-культурны і рэлігійны дзяяч, кампазытар і музыказнаўца, літаратурны крытык і публіцыст, выдавец.

**Зыгмунт Нагродзкі** (1866–1937), культурны дзяяч, мэцэнат.

**Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі** (1865–1939), паэт, празаік, зьбіральнік беларускага фальклёру. Вядомы пад псэўданімам „Стары Ўлас“.

**Лявон Вітан-Дубейкаўскі** (1869–1940), галоўны ўрадавы архітэктар БНР.

**Уладзіслаў Талочка** (1887–1942), беларускі каталіцкі сьвятар, культуроляг, гісторык, літаратуразнавец.

**Францішак Аляхновіч** (1883–1944), беларускі драматург, тэатральны дзяяч, публіцыст, пісьменьнік.

**Павал Пякарскі** (1889–1954), рэлігійны і грамадзкі дзяяч, каталіцкі сьвятар. Старшыня беларускага культурна-асьветнага гуртка ў Духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу.

**Уладзіслаў Паўлюкоўскі** (1895–1955), паэт, празаік, этнограф, мастак і краязнаўца.

**Станіслаў Станкевіч** (1886–1964), беларускі грамадзка-культурны дзяяч, паэт, выдавец. Уласьнік беларускай кнігарні.

**Лявон Луцкевіч** (1922–1997), беларускі грамадзкі і культурны дзяяч, пэдагог.

**Галіна Войцік** (1927–2007), навукоўца, пэдагог, мэмуарыстка.

## Імёны Свабоды. Зыгмунт Серакоўскі

21 лістапада 2019
Уладзімер Арлоў

Будучы герой вызвольнага паўстаньня Каліноўскага вучыўся ў Пецярбурскім унівэрсытэце. За ўдзел у нелегальных суполках і спробу ў часе „вясны народаў“ 1848 году накіравацца ў Аўстрыю, ён трапіў на вока жандарам. Юнака выслалі салдатам-шарагоўцам у далёкі Арэнбурскі край. Там Зыгмунт пасябраваў з Тарасам Шаўчэнкам, які таксама апрануў салдацкі шынэль не з уласнае волі.

Праз восем гадоў Зыгмунту Серакоўскаму ўдалося вярнуцца ў Пецярбург. Ён бліскуча адвучыўся ў Акадэміі генэральнага штабу і служыў у вайсковым міністэрстве. Зыгмунт, лічыла начальства, раскаяўся за памылкі юнацтва. Яно і не падазравала, што афіцэр, якому давалі адказныя заданьні і пасылалі ў замежныя камандзіроўкі, вядзе падрыхтоўку да збройнага змаганьня за свабоду. У часе паездак у эўрапейскія краіны ён сустракаўся з расейскімі рэвалюцыянэрамі-эмігрантамі Аляксандрам Герцэнам і Мікалаем Агаровым, з Джузэпэ Гарыбальдзі. У нелегальную арганізацыю, створаную і ўзнача-

леную Серакоўскім у Пецярбургу, уваходзілі браты Віктар і Канстанцін Каліноўскія.

Калі на радзіме разгарэлася барацьба з калянізатарамі, безь пяці хвілінаў палкоўнік Серакоўскі пакінуў службу і прыехаў у Вільню. Ён камандаваў збройнымі сіламі на Ковеншчыне. Пад свае сьцягі Зыгмунт хутка сабраў пяць тысяч ваяроў, у тым ліку шмат простых вяскоўцаў. Апрача касінераў пад рукой Серакоўскага быў аддзел з 500 цапавікоў — сялянаў, узброеных цапамі.

Каля мястэчка Біржы інсургенты пацярпелі цяжкую паразу. Паранены ў грудзі навылёт Серакоўскі трапіў у палон.

Віленская моладзь склала плян нападу на турэмны шпіталь і вызваленьня героя. Калі Зыгмунту перадалі ліст пра гэта, ён не пагадзіўся, бо ведаў: генэрал-губэрнатар Мураўёў-вешальнік, каб адпомсьціць, учыніць у Вільні крывавую расправу, якая забярэ дзясяткі жыцьцяў.

На допытах Зыгмунт, не зважаючы на пакуты ад ранаў і тры апэрацыі, адмовіўся даваць паказаньні на паплечнікаў. Мураўёў-вешальнік загадаў правесьці вайскова-палявы суд проста вакол ложка нямоглага целам, але магутнага духам паўстанцкага камандзіра. Судзьдзі пастанавілі: „асабліва небясьпечнага мяцежніка“ — расстраляць! Мураўёў паводле сваёй зьвярынай завядзёнкі замяніў расстрэл на павешаньне.

У адным з апошніх лістоў на волю Серакоўскі пісаў: „І стоячы пад шыбеніцай, буду пратэставаць супроць барбарскага бяспраўя, што прынесла маскоўская ўлада маёй дарагой Айчыне“.

На віленскім Лукіскім пляцы, дзе пазьней расейская пятля абарвала жыцьцё і Каліноўскага, нашы

героі ўшанаваныя мэмарыяльнай плітой. Калі б ні прыйшоў туды, заўсёды ўбачыш кветкі і бел-чырвона-белыя сьцяжкі ды стужкі.

Зыгмунт Серакоўскі. 30.5.1826, с. Лісавое, цяпер Маневіцкі раён, Валынская вобл., Украіна — 27.6.1863, Вільня. Пахаваны 22.11.2019 на віленскіх могілках Росы.

## Пахаваньне Каліноўскага 22 лістапада. Глядзіце трансьляцыю Свабоды зь Вільні

21 лістапада 2019

Жывая трансьляцыя з Катэдральнага пляцу распачнецца ў 9.30 і завершыцца пасьля 17.00. Эфір будуць весьці журналісты Свабоды Аляксандра Дынько і Дзьмітры Гурневіч.

Мы пакажам перанос трунаў з парэшткамі паўстанцаў з Палаца валадароў ВКЛ у віленскі Катэдральны сабор і цырымонію грамадзкага разьвітаньня.

У нашым эфіры вы пабачыце гутаркі з нашчадкамі паўстанцаў, беларускімі, польскімі і літоўскімі гісторыкамі, чальцамі Рады БНР, чыноўнікамі, сьвятарамі, прадстаўнікамі беларускай грамадзкасьці і проста ўдзельнікамі ўрачыстасьці.

У нас вы таксама пабачыце Сьвятую імшу з удзелам беларускага, літоўскага і польскага біскупаў, выступы прадстаўнікоў найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны.

Нашыя журналісты пройдуць шлях у 3 кілямэтры разам з працэсіяй на віленскія могілкі Росы, дзе парэшткі паўстанцаў будуць пахаваныя ў капліцы.

## Вільня ці Вільнюс? Ці карэктна называць горад традыцыйным беларускім імем

21 лістапада 2019
Вінцук Вячорка

У „Новай зямлі“ Якуба Коласа ёсьць разьдзел „Дзядзька ў Вільні“:

*Антось да Вільні пад'яжджае*
*І свой гарнітур папраўляе.*

Усе гэтую паэму ў школе, так бы мовіць, праходзілі. І бывалі людзі, якія да размовы са мной не падазравалі, што Коласава Вільня і цяперашні Вільнюс — гэта той самы горад. І што прыяжджаючы на тамтэйшы вакзал, яны ідуць тымі самымі тунэлямі, што й дзядзька Антось.

У кожнай мове нямала свойскіх найменьняў для тых гарадоў, паселішчаў і рэк, што цяпер за мяжой. Пагатоў межы пашырэньня моваў (былыя ці актуальныя) не заўсёды супадаюць зь дзяржаўнымі. Дзе былі або жывуць дагэтуль беларускія дыялекты, былі і ёсьць беларускія геаграфічныя найменьні.

Ці ня крыўдзім мы суседзяў, называючы паселішчы ў суседніх дзяржавах па-беларуску — Гайнаўка, Беласток, Сьвянцяны, Дзьвінск, Вялíж? Ня думаю.

Назвам такім сотні гадоў, яны традыцыйныя. Дарэчы, французы не крыўдуюць, калі мы іхную сталіцу шмат вякоў завём не „Пары“, а Парыж.

Пагатоў па-літоўску некаторыя гарады ў Беларусі таксама завуцца традыцыйна з інакшымі асновамі:

Горадня — Gardinas, Смаргоні — Smurgainys, Наваградак — Naugardukas, Іўе — Yvija... (Увага: формы Minskas, Pinskas або Lepelis — ня зьмененыя, не „літуанізаваныя“, а маюць звычайны канчатак називнага склону мужчынскага роду -as/-is: іначай іх па-літоўску не праскланяеш).

Для многіх будзе адкрыцьцём, што форма Вільня — таксама і літоўская.

„Гэтае словаўжываньне яшчэ сустракаецца і ў нашы дні (каля Рамігалы, Гелванаў, Шэдувы, Гярвятаў і ў іншых месцах). Няма сумневаў, што форма Vìlnia — рэальны факт жывой мовы. Латыскае Viļņa [Вільня] гэта толькі пацьвярджае“, — піша найбольш аўтарытэтны літоўскі тапаніміст Аляксандрас Ванаґас.

Вось жа Vìlnia — першасная, найбольш старажытная назва гораду ў літоўскіх гаворках і, відавочна, у беларускіх.

Адкуль яна?

Часта ў нашым рэгіёне назва гораду, разьмешчанага на ўпадзеньні меншай ракі ў вялікую, утваралася ад імя гэтай меншай. Напрыклад, на Дзьвіне: Полацак — Палата, Віцебск — Віцьба, Дрыса (цяпер „Верхнядзьвінск“) — Дрыса, Дзісна — Дзісна (цяпер рэчка завецца Дзісёнка) і г. д.

Гэтаксама тапаніміcты і этымолягі згодныя, што назва гораду Вільня паходзіць ад гідроніма Вільня (Vìlnia). Гэта тая меншая, але быстрая рэчка, левы прыток Вяльлі, якая ўпадае ў яе каля Замку і Замкавай гары, а вышэй аддзяляе Зарэчча — якое многія ведаюць як „рэспубліку Užupis“ — ад Старога гораду.

Сучаснае літоўскае імя рэчкі Vilnẽlė — калька зь яе беларускай памяншальнай назвы Віленка.

Першаю пісьмоваю згадкаю назвы Вільні лічыцца лацінская фраза in civitate nostra regia Vilna dicta (‘у горадзе нашым каралеўскім, Вільняю/Вільнаю званым’) у лісьце Гедзіміна нямецкім гарадам і кляштарам ад 1323 году. У старабеларускіх тэкстах спачатку, з XV стагодзьдзя пачынаючы, суіснавалі Вильня / у Вильни і Вильна / у Вильне (параўнайма дублеты Горадна — Горадня, Коўна — Коўня). Але паступова Вильня запанавала.

Форму Vilnius па-літоўску пачалі ўжываць прыблізна з XVII ст. (М. Даўкша ў сваёй „Пастыле“ 1600 году). А. Ванагас думае, што яна ўзьнікла пад уплывам польскай назвы Wilno (у літоўскай ніякага роду назоўнікаў няма, у пазычаньнях ён мяняецца на мужчынскі). А Wilno, у сваю чаргу, — ад старабеларускага варыянту Вільна.

Вялікая рака, на якой стаіць Вільня, гістарычна па-беларуску завецца Вяльля. Форма Велья была ў старабеларускіх тэкстах, Вяльлёю раку завуць і ў сучасных беларускіх гаворках, адсюль беларуская народная назва гораду Вялейка. З паходжаньня гэта славянская назва, корань той самы, што ў прыметніку вялікі. Вілія, Вілейка — пазьнейшыя зьмены, ад польскіх вэрсіяў гэтых назваў. (Ніжэй за Вільню літоўскамоўныя жыхары здаўна звалі тую самую раку Nerìs, назва балцкая, корань як і ў nerti ‘нырцаваць’.)

А славянская ці балцкая назва меншай рэчкі — Вільні? Больш аргумэнтаў за балцкі корань: vilnyti ‘хвалявацца’, vilnis ‘хваля’.

Але магчымая і славянская вэрсія, параўн. у беларускага дасьледніка мікратапанімікі Івана Яшкіна народны тэрмін вільня ‘улукаткі, крутня, месца, дзе трэба круціцца, віляць на абмежаванай

тэрыторыі (напрыклад, ісьці па балотных купінах і інш.); віляньне’. Запісаны, праўда, далекавата — ля Прапойску (цяп. Слаўгарад).

Зрэшты, і ў сучаснай Беларусі мноства гідронімаў балцкага паходжаньня — ад Ісланы да Лошы, ад Гаўі да Лучосы, якія сьведчаць пра балцкі субстратны фон нашае мовы.

Яшчэ Міхал Фэдэроўскі запісаў пад Ваўкавыскам два варыянты прыказкі, якую можна лічыць квінтэсэнцыяй нацыянальнага мэнталітэту: „Круці жорна пільне, то і тут будзе табе Вільня“. І другі варыянт — эмацыйны, тым, да каго адразу не даходзіць: „Рабі, курва, пільне, то і тут будзе Вільня!“

Фальклярысты 2-й паловы XX стагодзьдзя запісалі спакайнейшую вэрсію рабі пільна — і тут (і дома) будзе Вільня. Сталічнага ўзроўню жыцьця і культуры дасягнуць можна ўсюды, калі шмат і сумленна працуеш.

Яна складзе ладны том выбітных твораў. Колас у згаданай эпічнай паэме Вільню зарыфмаваў:

*А першым дзелам справа пільна —*
*Паехаць трэба ў банк у Вільню...*

На Вільнюс ніяк не замяніш. А Ўладзімер Жылка напісаў сапраўдны гімн Вільні зь вястунскімі ноткамі:

*О Вільня, крывіцкая Мэкка!*
*О места, — ўсё цуд, хараство!*
*Дзяржаўная думнасьць павекаў,*
*Узьнята рашуча брыво! (...)*

*І ты ці чакаеш пад зьдзекам,*
*Што бомкне ўрачыстая медзь?*

*О Вільня, крывіцкая Мэкка!*
*Ці варта прарока ты стрэць?*

Сучасныя паэты і барды вярнуліся да віленскіх вобразаў. У Зьмітра Бартосіка ў альбоме „Дарога на Вільню“ апеты нават віленскі кот. У Вінцэся Мудрова кніга прозы „Восень у Вільні“ пра падзеі 1939 году. А раней Сяржук Сокалаў-Воюш, які ўпершыню прыехаў быў у Вільню разам са мною, пад уражаньнем пабачанага і адчутага напісаў цыкль паўстанцкіх песень — пра 1863 год у горадзе Каліноўскага.

Міжваенная Вільня памятае імёны выдатных беларусаў.

Віленскі беларускі музэй імя Івана Луцкевіча ніяк не назавеш „Вільнюскім“, дый патрэбы ў гэтым няма.

Памятныя для мяне і маіх сяброў пешыя падарожжы па Вільні, калі сын аднаго з айцоў БНР — Антона Луцкевіча — Лявон раскрываў нам беларускую гісторыю ледзьве ня кожнага дому, усіх вуліц і пагоркаў. І як добра, што ён пасьпеў напісаць пра гэтыя вандроўкі кнігу.

Палякі не адмаўляюцца ад уласнага старадаўняга варыянту назвы гораду над Вяльлёй — Wilno. І нам ня трэба саромецца формы Вільня. Нікога яна не пакрыўдзіць і не абурыць. У сваю чаргу і мы мусім з разуменьнем успрымаць, напрыклад, літоўскую назву Горадні Gardinas.

Больш за тое. У вінавальным склоне беларускі назоўнік Вільня і сучасны літоўскі Vilnius супадаюць. Куды едзеш? — У Вільню! Į Vilnių! Даю 100 %, што вас зразумее літоўскі памежнік. Для пэўнасьці можаце дадаць — да Каліноўскага.

## 10 адрасоў паўстанцаў Каліноўскага, якія варта наведаць у Вільні

21 лістапада 2019

Кіраўнік антырасейскага паўстаньня на Беларусі і Літве і пачынальнік беларускай нацыянальнай ідэі Кастусь Каліноўскі назаўжды зьнітаваў сваё жыцьцё зь Вільняй.

Напярэдадні цырымоніі пахаваньня парэштак Каліноўскага ды іншых паўстанцаў прапануем вашай увазе галоўныя адрасы цяперашняй сталіцы Літвы, зьвязаныя зь ім.

**1. „Сьвятаянскія муры“, дзе арыштавалі Каліноўскага**

*Сучасны адрас: Pilies, 19*

З кастрычніка 1863 году Кастусь Каліноўскі пад імем Ігнат Вітажэнец жыў у кватэры № 16 чыноўніка віленскай казённай палаты Канстанціна Жаброўскага — у „гімназіяльным доме“ на тагачаснай вуліцы Замкавай, побач з зь велічным касьцёлам Сьвятога Яна.

„Каліноўскі звычайна ўставаў каля 9 гадзін, і, напіўшыся гарбаты, а 10-й гадзіне накіроўваўся з хаты па справах. Вяртаўся амаль заўсёды апоўдні або пад абед. У пачатку 6-й вечара да яго ў пакой дворнік Ігнат прыносіў самавар. Пасьля гарбаты Каліноўскі зноў выходзіў з кватэры і вяртаўся а 8-й або да паловы 9-й“, — гісторык Васіль Герасімчык апісвае побыт лідэра паўстанцаў, якога тады ўжо пільна шукалі расейскія ўлады.

Тут Кастуся Каліноўскага і арыштавалі царскія жандары ў ноч на 29 студзеня 1864 году.

Перад гэтым увесь сьвятаянскі квартал ачапілі дзьве роты салдат.

**2.Дамініканскі кляштар, дзе зьняволілі паўстанцаў**

*Сучасны адрас: Dominikonų, 8 — Šv. Ignoto, 11*

Цяперашні будынак касьцёла Сьвятога Духа ўжо прынамсі пяты на гэтым месцы. У 1408 годзе князь Вітаўт пабудаваў тут касьцёл, які пры Казіміру Ягайлавічу ператварылі ў мураваны (1441). З пачатку XVI стагодзьдзя тут атайбаваліся манахі-дамініканцы.

Пасьля вайны 1812 году расейскія ўлады перарабілі частку кляштара ў вязьніцу, дзе ўтрымлівалі філарэтаў (1822–1823) і ўдзельнікаў паўстаньня 1830–1831 гадоў.

Менавіта ў мурах канчаткова зьліквідаванага ў 1844 годзе кляштара на загад генэрал-губэрнатара Мураўёва трымалі перад палявым судом лідэраў вызвольнага паўстаньня 1863 году: Кастуся Каліноўскага, Якуба Гейштара, Францішка і Ціта Далеўскіх ды іншых.

Тут і зьявіліся на сьвет легендарныя „Лісты з-пад шыбеніцы“ аўтарства Каліноўскага.

У 1993-м віленскія беларусы павесілі на сьцяне кляштара мэмарыяльную дошку памяці нацыянальнага героя наўзамен ранейшай дошцы Каліноўскага, што існавала яшчэ з савецкіх часоў.

**3. Лукіскі пляц, дзе павесілі Каліноўскага і паўстанцаў**

*Сучасны адрас: Lukiškių aikštė*

У 10.30 ранку 22 сакавіка 1864 году Кастуся Каліноўскага павесілі на запоўненым віленчукамі Лукіскім пляцы.

Мяркуецца, шыбеніца стаяла паміж цяперашнімі будынкамі Музэю ахвяраў генацыду (Aukų, 2a) і кансэрваторыі (Gedimino pr., 42).

На другім баку плошчы ад меркаванага месца пакараньня Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Сеpакоўскага і яшчэ 20 паўстанцаў, амаль пад самым касьцёлам Сьвятых Якуба і Піліпа, стаіць памятны крыж і мэмарыяльная пліта (з надпісамі на літоўскай і расейскай мовах).

Ужо ў 2000-х, дзякуючы настойлівасьці літоўскіх беларусаў, улады ўзялі пад ахову дзяржавы крыж з мэмарыяльнай плітой, а таксама 6 драўляных лавак і 10 дэкаратыўных ліхтароў з чырвонага граніту і чыгуну.

**4. Замкавая гара зь вежай Гедзіміна, дзе пахавалі паўстанцаў**

*Сучасны адрас: Arsenalo g. 5*

Замкавую гару яшчэ называюць замкам ці гарой Гедзіміна. Верхні замак быў разбураны маскоўцамі ў вайну 1654–1663 гадоў. Заходняя вежа (вежа Гедзіміна) — адзіны элемэнт колішняга замка, які захаваўся з тае пары.

З 1960 году ў вежы месьціцца філіял Літоўскага нацыянальнага музэю.

СМІ паведамілі, што ў месцы, дзе археолягі знайшлі парэшткі Каліноўскага, паставяць мэмарыяльны знак.

**5. Дом „пад балванамі“, дзе на сходы зьбіраліся паўстанцы**

*Сучасны адрас: Pylimo, 26 / Trakų, 1*

Дом са статуямі атлянтаў вядомы яшчэ з XV стагодзьдзя. Належаў ён графам Тышкевічам, чый родавы герб захаваўся на франтоне.

Яўстах Тышкевіч, стваральнік Лагойскага і Віленскага музэяў старажытнасьцяў, захоўваў тут частку сваіх археалягічных збораў, якія сталі асновай для першага беларускага музэю. У 1863 годзе тут зьбіраліся паўстанцы Каліноўскага, хоць сам Тышкевіч падпісаў вернападданьніцкі ліст расейскаму манарху.

У „доме пад балванамі“, як яго называлі ў народзе, быў і акруговы суд, дзе з 1884 да 1898 году служыў адвакатам „бацька беларускай літаратуры“ Францішак Багушэвіч.

З траўня 1907-га да вясны 1908 году ў будынку на рагу Завальнай і Троцкай месьцілася рэдакцыя „Нашай Нівы“. Менавіта сюды ў „Нашу Ніву“ ўпершыню завітаў Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас). У 2017 годзе на доме адкрылі мэмарыяльную дошку ў гонар беларускага клясыка.

**6. Дом гісторыка Нарбута**

*Сучасны адрас: Pilies, 9*

Аўтар 9-тамовай „Гісторыі літоўскага народу“ (1835–1841) і праекту будаўніцтва Бабруйскай фартэцыі Тэадор Нарбут (1784–1864) большую частку свайго віленскага жыцьця правёў у доме № 9 на вуліцы Замкавай.

Сям’я Нарбутаў падтрымала паўстаньне 1863–1864 гадоў і брала ў ім непасрэдны ўдзел. У выніку рэпрэсій гісторык страціў повязь з роднымі.

Мэмарыяльная дошка ў гонар гісторыка, археоляга і архітэктара вісіць у галерэі Вялікага двара Віленскага ўнівэрсытэту (Universiteto, 3).

### 7. Дом паэта Сыракомлі

*Сучасны адрас: Barboros Radvilaitės, 3*

Паэт Уладзіслаў Сыракомля (1823–1862) паходзіў з Бабруйшчыны, яго бацькі былі безьзямельнай шляхтай. Жыў у Нясьвіжы, Наваградку, пад Вільняй, пакуль у 1852 годзе не пераехаў у цэнтар гораду. Да самай сьмерці „вясковы лірнік“, які зьбіраў і апрацоўваў беларускі фальклёр, кватараваў каля Катэдральнага пляцу па вуліцы Каралеўскай. У ягонай кватэры разам з маладымі людзьмі розных поглядаў часта бываў Кастусь Каліноўскі; пазьней ён вучыў тут расейскай мове дзяцей паэта.

Сыракомля ўдзельнічаў у антыцарскай маніфэстацыі ў Коўне ў 1861 годзе, пасьля чаго на месяц трапіў за краты Лукіскай турмы.

У верасьні 1862 году больш за 10 тысяч чалавек, у тым ліку многія будучыя паўстанцы, праводзілі паэта ў апошні шлях на могілкі Росы.

На доме, дзе жыў Сыракомля, вісіць старая польскамоўная мэмарыяльная дошка.

Гэты двухпавярховы будынак захаваў нязьменны вонкавы выгляд ад першай паловы XIX стагодзьдзя.

### 8. „Акадэмія Ромэраў“

*Сучасны адрас: Bokšto, 10*

За сьцяной з брамай на вуліцы Бакшта захаваўся будынак XVI стагодзьдзя, які з XVIII стагодзьдзя належаў роду Ромэраў.

Менавіта тут жыў слынны мастак Альфрэд Ромэр (1832–1897), пра што сьведчыць мэмарыяльная шыльда. У 1852 годзе разам з бацькам, таксама мастаком, заснаваў найстарэйшую ў Вільні мастацкую майстэрню — „Акадэмію Ромэраў“.

У выніку здушэньня нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863–1864 гадоў яго прыхільнік Альфрэд Ромэр быў зьняволены, пасьля чаго жыў у маёнтку Каралінава на Пастаўшчыне.

Ніводзін беларускі музэй на сёньня ня мае твораў гэтага мастака. 28 карцін і 12 мэдальёнаў ягонай работы захоўваюцца ў Вільні ў Літоўскім мастацкім музэі.

У будынку Ромэраў таксама дзейнічала знакамітая масонская лёжа „Руплівы літвін“.

**9. Гатэль Нішкоўскага**

*Сучасны адрас: Bokšto, 2*

У будынку, які з другой паловы XVIII стагодзьдзя належаў сям'і прафэсара хірургіі Віленскага ўнівэрсытэту Яна Нішкоўскага, месьціўся аднайменны гатэль.

У сярэдзіне XIX стагодзьдзя ім валодаў ужо іншы чалавек, Аляксандар Шульц, але ранейшую назву захаваў.

У гатэлі Нішкоўскага, які лічыўся ці не найлепшым у Вільні, незадоўга да пачатку паўстаньня (сакавік 1863-га) спыніўся адзін зь яго лідэраў капітан расейскага Генштабу Зыгмунт Серакоўскі, які прыехаў у Вільню зь Пецярбургу.

Тут адбылося і тайнае паседжаньне вайсковай рады паўстаньня.

**10. Могілкі Росы, дзе пахаваюць паўстанцаў**

*Сучасны адрас: Rasų, 32*

Росы ёсьць адным з сымбаляў Вільні для беларусаў, палякаў і літоўцаў, бо тут спачываюць знакавыя дзеячы ўсіх трох народаў, у тым ліку айцы-заснавальнікі трох сёньняшніх незалежных краін.

22 лістапада ў могілкавай капліцы пахаваюць парэшткі Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Сераkоўскага і яшчэ 18 паўстанцаў 1863–1864 гадоў. Аднак і сярод ранейшых пахаваньняў на Росах можна знайсьці надмагільлі паўстанцаў ці ўдзельнікаў антырасейскага супраціву.

## Адкрылі доступ у віленскую турму, дзе перад сьмерцю трымалі паўстанцаў Каліноўскага

21 лістапада 2019

Былую турму для палітычных вязьняў у Вільні, дзе расейскія ўлады ўтрымлівалі асуджаных на сьмерць паўстанцаў 1863–1864 гадоў, 21 лістапада адкрылі для наведнікаў. Тут пачала працу выстава „Абуджэньне. Гісторыя паўстанцаў, знойдзеных на гары Гедзіміна“. Адрас — вуліца Касьцюшкі, 1 (Kosciuškos gatvė, 1).

Больш за паўтара стагодзьдзя будынак пад Замкавай гарой выкарыстоўваўся паводле прызначэньня. У часы першай усясьветнай вайны тут была турма для палонных, за савецкім часам — гаўптвахта віленскага гарнізону, пазьней — паліцэйскі арыштны дом.

Толькі сёлета ў ліпені яго пастаяльцаў вывелі ў іншыя пэнітэнцыярныя ўстановы краіны.

Такое рашэньне ўладаў прысьпешыла нечаканая гістарычная знаходка на Замкавай гары. У 2016-м тут двойчы здарыўся апоўзень, а на пачатку наступнага году археолягі знайшлі на яго месцы парэшткі 21 чалавека.

Восем зь іх чакалі сьмяротнай кары менавіта ў гэтай турме: Караль Тэафіл Сіповіч, Ян Марчэўскі, Эдвард Чаплінскі, Баляслаў Калышка, Альбэрт Вандалін Лясковіч, Юльян Лясьнеўскі, Генрык Макавецкі, Уладзіслаў Нікаляі (псэўданім, сапраўднае прозьвішча Вярнішын).

Зразумела, за прамінулы час антураж моцна зьмяніўся — кафляная плітка, жалезныя лесьвіцы, электрычнасьць у камэрах. Аднак дух старой вязьніцы адчуваецца дагэтуль — арачныя скляпеньні, высокія столі, гулкае рэха.

У некаторых „боксах“ аднавілі інтэр'еры, у якіх працавалі царскія сьледчыя: стол на гнутых ножках зь зялёным сукном, масіўнае крэсла-трон, катавальня.

На нарах на трох мовах (літоўскай, польскай і беларускай) напісаныя прозьвішчы 21 героя паўстаньня, вышэй — іх фатаздымкі.

На калідорныя сьцены выводзіцца анімацыйная 3D-праекцыя з хронікай тагачасных падзеяў. Расейскія канваіры вядуць на расстрэл ці эшафот палонных, выкананьне прысуду... Сьледам чорна-белыя выявы парэштак: са зьвязанымі рукамі, зь пераламанымі касьцьмі і чарапамі.

Тут жа ў нішах асабістыя рэчы, знойдзеныя падчас раскопаў.

Праз паўтара стагодзьдзя іх парэшткі знойдуць спачын у капліцы на старых віленскіх могілках Росы.

Расейскія ўлады ператварылі ў турму і Дамініканскі кляштар. Менавіта адсюль 22 сакавіка 1864 году павялі на эшафот Кастуся Каліноўскага.

Трапіць у колішні манастырскі двор немагчыма — цяжкія дзьверы зачыненыя на замок. Боль-

шая частка будынка занядбаная: муры асыпаюцца, аконныя праёмы забітыя. Праз дзіркі ў фанэрных лістах усярэдзіне відаць размаляваныя сьцены і сьмецьце. Захаваліся хіба толькі аўтэнтычныя аркі і лесьвіцы.

Раней літоўскія ўлады плянавалі аднавіць будынак, аднак пакуль што не знайшлі інвэстара.

## Годны фінал 150-гадовай трагедыі. Як у Вільні разьвіталіся з Каліноўскім і яго паплечнікамі

22 лістапада 2019

Карэспандэнты Свабоды Аляксандра Дынько і Дзьмітры Гурневіч 8 гадзінаў вялі наўпроставую трансьляцыю ўрачыстасьцяў. Прапануем вам найбольш важныя і цікавыя яе фрагмэнты.

**8.30** Салдаты ротаў ганаровай варты Арміі Літвы і Войска Польскага вынесьлі два дзясяткі невялікіх драўляных трунаў з унутранага двара Палаца валадароў Вялікага Княства Літоўскага.

Дзьве першыя труны накрытыя чырвоным штандарам з паўстанцкім гербам — літоўскай „Пагоняй“, польскім арлом і нябесным заступнікам арханёлам Міхаілам. У іх — парэшткі правадыроў паўстаньня Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага.

На плошчы тым часам сабраліся сотні ахвочых стаць сьведкамі гістарычнай падзеі. Найбольш беларусаў, якіх лёгка пазнаць па бел-чырвона-белых сьцягах, партрэтах Каліноўскага і плякатах зь ягонымі цытатамі. З прыбыцьцём на вакзал кожнага новага цягніка ці аўтобуса людзей прыбывае. Беларусы, на вока, складаюць 2/3 ад усіх прысутных.

Некаторыя прызнаюцца, што ніводнага разу не былі ў Вільні, але не маглі прапусьціць такую па-

дзею ў гістарычнай сталіцы. Арганізавана дабраліся выкладчыкі і навучэнцы падпольнага Беларускага гуманітарнага ліцэю — адразу паўсотні чалавек.

Да неабыякавых людзей далучыліся палітыкі, грамадзкія і культурныя дзеячы: Станіслаў Шушкевіч, пэрсанальна запрошаны як першы кіраўнік незалежнай Беларусі, а таксама лідэры грамадзянскай супольнасьці, іншыя вядомыя людзі.

Адмыслова прыехалі ў Вільню кіраўнікі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чале з Івонкай Сурвілай.

**9.45** Труны з парэшткамі паўстанцаў унесьлі ў Катэдральны касьцёл. На пачатку цырымоніі там будзе праходзіць адкрытае разьвітаньне — зайсьці зможа любы ахвочы. Пад касьцёлам шмат людзей зь бел-чырвона-белымі сьцягамі — беларуская „грамадзкая дэлегацыя“ самая масавая.

**10.05** Пачалася адкрытая цырымонія грамадзкага разьвітаньня. Кожны ахвочы можа падысьці да трунаў паўстанцаў у Катэдральным касьцёле. А каля ўваходу ў касьцёл фармуецца беларуская калёна, пачынаюць раздаваць бел-чырвона-белыя сьцягі і сьцяжкі.

**10.25** Цырымонія пахаваньня паўстанцаў — у галоўных навінах на сайтах Tut.by, Onliner.by, „Нашай нівы“, „Белсату“, „Эўрарадыё“… Але навінаў пра цырымонію зусім няма на галоўных старонках дзяржаўных выданьняў БелТА, „СБ. Беларусь сегодня“, „Звязда“ і Белтэлерадыёкампаніі.

У **11:02** навіна пра цырымонію зьявілася на сайце дзяржаўнага тэлеканалу АНТ.

**10.45** Прафэсар Віленскага ўнівэрсытэту Рымантас Янкаўскас, які дасьледаваў парэшткі паўстанцаў, у эфіры Свабоды расказаў, што для ідэнтыфіка-

цыі выкарыстоўвалі і дасьледаваньні ДНК, і параўнаньне парэштак з фота, і мэтад супастаўленьня з гістарычнымі зьвесткамі, і мэтад выключэньня. Усе магчымыя месцы на гары ўжо дасьледаваныя і перакапаныя, адзначыў ён.

Тым часам на плошчы перад касьцёлам яшчэ багата людзей чакаюць сваёй чаргі разьвітацца з паўстанцамі.

**10.50** Адна зь беларускіх наведніц цырымоніі расказвае, што „яшчэ многія беларусы стаяць на мяжы, многія бязь візаў — ня ўсім пашчасьціла сюды трапіць“.

На разьвітаньне ў саборы адвялі дзьве гадзіны. Пасьля прыбыцьця афіцыйных асобаў і кіраўнікоў замежных дэлегацый доступ у храм часова прыпынілі. Але за тым, што адбываецца ўнутры, можна назіраць на вялікіх экранах.

**10.55** На плошчы перад Катэдральным саборам мы бачым старшыню Рады БНР Івонку Сурвілу, якая запрошаная ў Вільню афіцыйна:

— Я прыехала б нават калі б не было афіцыйнага запрашэньня, — кажа спадарыня Сурвіла. — Кастусь Каліноўскі — найбольшы герой беларускай гісторыі, ён прыклад для ўсіх. Прачытаўшы ягоныя «Лісты з-пад шыбеніцы», я была моцна ўзрушаная. Ён такі беларус, якіх мала ёсьць. Так любіў Беларусь, так прыгожа напісаў. Я захопленая ім. Я заўсёды лічыла яго нашым героем і толькі нядаўна пачула, што і палякі і літоўцы лічаць яго сваім героем. Ён быў заўсёды маім героем.

**11.10** У эфіры Радыё Свабода прысутны на цырымоніі палітык Аляксей Янукевіч сказаў, што ўзровень прысутнасьці тут афіцыйнай Беларусі высокі, але недастаткова высокі:

— Гэта сьведчаньне такога „гібрыднага“ прызнаньня ўласнай гісторыі з боку ўлады Аляксандра Лукашэнкі. Яны разумеюць, што савецкая спадчына прыватызаваная Пуціным, і калі ты на гэтай спадчыне будуеш сваю гісторыю, то ты падкрэсьліваеш, што належыш Пуціну і Крамлю. Яны гэтага ня хочуць. Але прызнаць сапраўдную беларускую гісторыю — значыць прызнаць тыя рэчы, зь якімі ты шмат гадоў змагаесься.

**12.15** Уваход у касьцёл зачыняюць — хутка маюць прыбыць афіцыйныя дэлегацыі Літвы, Польшчы, Беларусі, Украіны і Латвіі. Прыблізна праз паўтары гадзіны пасьля пачатку імшы труны вынесуць з касьцёла і панясуць на могілкі Росы.

**12.30** Да касьцёла прыбыла беларуская дэлегацыя, у складзе якой віцэ-прэм’ер Беларусі Ігар Петрышэнка і амбасадар Беларусі ў Літве Валер Бараноўскі, іх суправаджае амбасадар Літвы ў Беларусі Андрус Пулокас. Таксама ўжо прыбылі экс-прэзыдэнты Літвы Даля Грыбаўскайце і Валдас Адамкус.

**12.45** Прыехалі прэзыдэнт Літвы Гітанас Наўседа і прэзыдэнт Польшчы Анджэй Дуда. У саборы пачалася закрытая ўрачыстая цырымонія.

**13.05** У саборы пачалася імша, яна будзе цягнуцца каля гадзіны. Прысутных павіталі на літоўскай, польскай, беларускай і ангельскай мовах, затым сьвятары прамаўлялі па-літоўску, па-польску і па-беларуску.

Сьвятую імшу служаць арцыбіскуп-мітрапаліт Гінтарас Грушас і біскупы ды вайсковыя капэляны зь Літвы, Польшчы і Беларусі. Сярод іх арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, мітрапаліт Менска-Магілёўскі, Апостальскі візытатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, кіраўнік Бела-

рускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы архіяпіскап Сьвятаслаў Логін з Таронта.

**13.30** Ад імя старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, якая прысутнічае на цырымоніі ў Вільні, Рада апублікавала зварот да грамадзкасьці. У звароце пішуць: „Героі-паўстанцы яднаюць нашыя тры народы: беларускі, літоўскі, польскі. Многія зь іх нарадзіліся на тэрыторыі цяперашняй Беларусі. Усе яны былі патрыётамі нашай супольнай гістарычнай айчыны, старадаўняй Літвы. І спачын яны знайшлі ў горадзе, які гэтаксама зьяўляецца сваім і для беларусаў, і для літоўцаў, і для палякаў: у Вільні. Барацьба, якую вялі паўстанцы, праз 55 гадоў пасьля іхнае гераічнае сьмерці прывяла да абвяшчэньня незалежных Беларускай Народнай Рэспублікі, Літоўскай Рэспублікі і Польшчы“.

**14.15** На цырымоніі выступае арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, мітрапаліт Менска-Магілёўскі:

„Вашы Эксцэленцыі, паважаныя прэзыдэнты Рэспублікі Літвы і Польшчы, прадстаўнікі дзяржаўных дэлегацый Беларусі, Латвіі, Украіны, паважаныя браты і сёстры, пілігрымы, асабліва зь Беларусі!

Божы Провід дазваляе нам узяць сёньня ўдзел у перапахаваньні парэштак паўстанцаў 1863–1864 гадоў. Гара Гедзіміна — сымбаль Вільні — два гады таму адкрыла нам сваю таямніцу. Нарэшце скрытыя цягам паўтараста гадоў парэшткі герояў паўстаньня былі аднойдзеныя і сёньня з пашанай пераносяцца на месца вечнага спачынку на могілкі Росы ў Вільні.

У Бога няма выпадковасьцяў. Магчыма, так трэба было, каб мы зноў узгадалі пра тых, хто аддаў сваё жыцьцё ў трагічных абставінах, імкнучыся здабыць волю.

Паўстанцы былі прадстаўнікамі розных народаў і веравызнаньняў. Але ўсе яны змагаліся з царызмам за свабоду сваіх народаў і за іх агульную свабоду — змагаліся за нашу і вашу свабоду.

Сярод іх Канстанцін Каліноўскі, сын беларускага народу, лідэр нацыянальнага вызваленчага руху, публіцыст і паэт, высакародны чалавек, які вызначаўся незвычайнаю сілаю духу і зьяўляўся адным з кіраўнікоў паўстаньня. Таму сёньняшняя падзея мае таксама вельмі вялікае значэньне для Беларусі.

Канстанцін Каліноўскі належыць нашай гісторыі як той, хто ўсьведамляў беларусаў як асобную нацыю, якая мае права на самавызначэньне.

У ім і ў яго паплечніках мы бачым своеасаблівы альтруізм, самаахвярнасьць, усьведамленьне ўласнае годнасьці.

Хоць у жыцьці і барацьбе паўстанцаў былі разнастайныя кантэксты, якія цяжка ацаніць некалькімі сказамі, і само паўстаньне не прынесла жаданага плёну, тым ня менш яно пакінула свой сьлед у гісторыі.

Узгадваючы тыя далёкія гістарычныя падзеі, мы не імкнёмся разьдзіраць загоеныя раны і пасыпаць іх сольлю. Наадварот, мы хочам яшчэ раз асэнсаваць, да чаго можа прывесьці адсутнасьць любові да бліжняга і павагі да яго правоў, правоў, якія ён атрымаў не ад кагосьці іншага, але ад Бога, каб падобнае больш ніколі не паўтарылася.

Мы таксама жадаем маліцца за паўстанцаў-пакутнікаў, магілы якіх яшчэ зусім нядаўна не былі вядомыя, і аднавіць братэрскія адносіны з суседнімі народамі і вернікамі розных веравызнаньняў. Нішто так не аб'ядноўвае, як пралітая за агульныя ідэалы кроў.

Сымбалічна, што перапахаваньне парэштак паўстанцаў адбываецца ў Вільні — горадзе Божай Міласэрнасьці. Сваімі малітвамі мы спадарожнічаем загінулым паўстанцам і даручаем іх душы міласэрнаму Богу.

Вечны адпачынак дай ім, Пане, а сьвятло вечнае няхай ім сьвеціць. Няхай адпачываюць у супакоі. Амэн“.

Плошча перад катэдральным саборам, якая назірала і слухала прамову на вялікіх экранах, сустрэла прамову мітрапаліта Кандрусевіча воклічам „Жыве Беларусь!“

**14.23** У віленскім катэдральным касьцёле перад прысутнымі выступіў прэзыдэнт Літвы Гітанас Наўседа:

„Эксцэленцыі, шаноўныя госьці!

У Сьвятым Пісаньні сказана, што няма нічога таемнага, што не адкрыецца, і нічога схаванага, што ня выйдзе вонкі. Амаль тры гады таму дарагая сэрцу кожнага літоўца гара Гедзіміна раскрыла нам даўно схаваную таямніцу — масавую магілу правадыроў і ўдзельнікаў паўстаньня 1863 году. Сёньня мы выконваем свой абавязак — годна пахаваць парэшткі тых, хто даўно завяршыў зямны шлях, але не перастае пашыраць сярод нас праўду і сьвятло.

На загад віленскага губэрнатара Міхаіла Мураўёва на пляцы Лукішкі было выканане сьмяротнае пакараньне праз павешаньне або расстрэл 21 чалавека, у тым ліку кіраўнікоў паўстаньня Зыгмунта Серакоўскага і Канстанціна Каліноўскага. Гэтыя людзі былі адлюстраваньнем свайго часу: шляхта і гараджане, сяляне і духавенства, арганізатары і камандзіры паўстаньня, кансьпіратары і зьвестуны. Гэта былі годныя сыны сваёй Бацькаўшчыны,

якія адмовіліся пагадзіцца зь яе паняволеньнем, уступілі ў няроўную барацьбу і ўрэшце ахвяравалі жыцьцём.

Самавызначэньне гэтых людзей імпэрскі рэжым пагардліва назваў бунтам. Як на дзікіх зьвяроў, паляваў на іх у лясах, палях і на гарадзкіх вуліцах. Яны не знайшлі справядлівасьці перад судом, і пасьля іх сьмерці большасьці зь іх прытулкам стала безыменная яма на вяршыні гары Гедзіміна. У нашых вачах іх усё яшчэ аб'ядноўвае жаданьне катаў схаваць найвышэйшую праўду — тое, што яны памерлі недарма.

Целы ўдзельнікаў паўстаньня хавалі, каб яны ня сталі прыкладам для пераймaньня і натхненьнем для новых пакаленьняў змагароў за свабоду. Аднак мы ніколі іх не забывалі. Прыйшла пара, іх парэшткі былі знойдзеныя, каб прамовіць пра спынены паход за свабоду.

Сёньня мы можам апраўдана ганарыцца літоўскімі археолягамі, гісторыкамі, мастацтвазнаўцамі і спэцыялістамі іншых галінаў. Дзякуючы ім мы вярнулі сабе каштоўную частку нашай гістарычнай спадчыны.

Дбайнае дасьледаваньне адкрыла нам складаныя і драматычныя жыцьцёвыя гісторыі ўдзельнікаў паўстаньня.

Сымбалічна, што першы знак, які дазволіў бясспрэчна распазнаць парэшткі, быў сымбалем вечнага каханьня — залатым пярсьцёнкам з імёнамі маладых і датай вясельля. Такім чынам Літва зноў выявіла трагічны лёс правадыра паўстаньня Зыгмунта Серакоўскага, і пярсьцёнак набыў новы сэнс — сымбаль любові і вернасьці ня толькі жанчыне, але і Бацькаўшчыне.

Гэтая знаходка прымушае нас паглядзець на нашу мінуласьць іншымі вачыма. У Літве паўстаньне 1863 году доўгі час было складанай тэмай. Мы не былі ўпэўненыя, як узгадніць сучасную Літву са спадчынай гістарычнай Літвы. Аднак пахаваньне ўдзельнікаў паўстаньня дазваляе нам пераасэнсаваць гісторыю Літвы і ўсяго рэгіёну XIX стагодзьдзя, лепш зразумець яе складанасьць і знайсьці адпаведнае месца для паўстаньня ў нашай гістарычнай памяці.

Наша сувязь з удзельнікамі паўстаньня 1863 году і іх ідэаламі ніколі не была такой моцнай, як гэтымі днямі. Сёньня мы ўжо лепш разумеем, што высунутыя ўдзельнікамі паўстаньня ідэі грамадзянскіх правоў, свабоды веравызнаньня, сумленьня, свабоды слова і сацыяльнай справядлівасьці пазначаюць адкрытасьць нашых народаў да сучаснасьці. Сёньня мы можам ацаніць, што тэмы патрыятызму, вернасьці, высакароднасьці і рашучасьці не належаць нейкай адной нацыі або нейкай гістарычнай эпосе.

Зыгмунт Сераkоўскі, які паходзіць з сучаснай украінскай тэрыторыі, з Валыні, вёў у бой атрады пераважна літоўскамоўных сялян і трапіў у палон пры спробе пашырыць паўстаньне на Латвію. Кастусь Каліноўскі, народжаны побач з цяперашняй польска-беларускай мяжой, пісаў «Лісты з-пад шыбеніцы» на беларускай мове, заклікаючы народ змагацца за справядлівасьць і свабоду. Баляслаў Калышка, які нарадзіўся на тэрыторыі сучаснай Літвы, у Салечніцкім раёне, быў вымушаны эміграваць, але пасьля вайсковага навучаньня ў Італіі вярнуўся, каб зброяй кінуць выклік царскаму ўраду.

Гэта толькі некаторыя гісторыі, якія заахвочваюць ня толькі літоўцаў, але і палякаў, беларусаў,

украінцаў, латышоў зноў зьвярнуцца да паўстаньня 1863 году, каб захапіцца мужнасьцю ўдзельнікаў і чэрпаць ад іх натхненьне. Праўда, яшчэ як найменей адна гісторыя чакае нас у будучыні — парэшткі ксяндза Станіслава Ішоры дагэтуль знайсьці не ўдалося.

Як і ў тыя далёкія часы, лёзунг «За нашу і вашу свабоду» застаецца актуальным і сёньня, таму што ён шматзначны. Мы можам пажадаць свабоды адны адным, вузка разумеючы «нас» і «вас» як сучасныя нацыі, якія памятаюць і шануюць традыцыю агульнай дзяржавы. Але роўна гэтаксама мы можам пажадаць свабоды і іншым народам, якім усё яшчэ яе не хапае.

Дагэтуль мы чуем гаворкі пра тое, што чалавечая годнасьць і свабода мала чаго вартыя, што навязваньне волі іншым лепшае за дыялёг, што прагматызм павінен пераважаць над каштоўнаснай палітыкай. Аднак гэта ня тая праўда, якую прадстаўлялі і якую несьлі з сабой хаваныя намі сёньня героі.

Яны ўступілі ў барацьбу, бо вырасьлі ў культуры шляхецкай дэмакратыі і адчувалі нясьцерпны прыгнёт ланцугоў, выкаваных усходняй тыраніяй. Яны ўступілі ў барацьбу, бо хацелі быць свабоднымі і целам, і духам. Яны ўступілі ў барацьбу, бо не маглі ўявіць сабе іншага выйсьця, як толькі супрацьстаяць прыгнёту.

Здушэньне паўстаньня і жорсткія рэпрэсіі павінны былі разьвеяць усе надзеі на адраджэньне Рэспублікі Абодвух Народаў. Тыранія зьбіралася жыць вечна, абапіраючыся на прымус, падман і подкуп.

Гэта фатальная памылка, якую зноў і зноў паўтараюць дэспаты гэтага сьвету. Зьменлівая гісторыя

XX стагодзьдзя, перажытая нашымі народамі з усімі ўзьлётамі і падзеньнямі, паказвае: пакуль жывая памяць людзей і пакуль жыве іх імкненьне да свабоды, ніводзін рэжым прыгнёту ня можа адчуваць сябе ў бясьпецы. Патрэбная толькі адна іскра, каб успыхнула магутнае полымя. Патрэбная толькі група шалёна адважных, ахвярных людзей, каб павярнулася кола гісторыі. Патрэбныя толькі спрыяльныя абставіны, каб ператварыць, здавалася б, безнадзейную ідэю ў рэальнасьць.

Літоўцы, палякі, беларусы, украінцы і латышы — усе мы зазналі розныя нягоды, перажылі шмат выпрабаваньняў, але ўрэшце здолелі аднавіць дзяржаўнасьць. Магчыма, яна набыла новыя формы, адрозныя ад тых, якія ўяўлялі кіраўнікі і ўдзельнікі паўстаньня 1863 году, але наша агульная мінуласьць застаецца жывою і гаворыць з намі на старых могілках і ў цэрквах, у нашых гарадах, палях і лясах. Яна натхняе нас шукаць цесных зносін, ствараць новыя бачаньні свабоды і брацца за супольную працу.

Гэта сапраўдны трыюмф. Гэта сапраўдная перамога тых, што ўжо неўзабаве лягуць на вечны спачын. Іх ахвяры не былі дарэмныя — наша свабода ўсё яшчэ сьвеціць найярчэйшым полымем. Давайце шанаваць яе!

За нашу і вашу свабоду!“

**14.30** Выступае прэзыдэнт Польшчы Анджэй Дуда:

„Вельмі шаноўны спадар прэзыдэнт, Эксцэленцыі, шаноўныя гаспадары, паважаныя госьці, шаноўнае спадарства!

Для мяне гэта незвычайны, выдатны досьвед — сустрэцца з вамі тут, у віленскай катэдры, у месцы пахаваньня сьвятога каралевіча Казіміра Ягайла-

віча, патрона Польшчы і Літвы ў іх гістарычным значэньні, якое ахоплівае амаль увесь наш рэгіён Эўропы. Лічу, што гэта вялікая, надзвычай важная падзея, што мы тут стаім сёньня разам: палякі, літоўцы, беларусы, латышы, украінцы. Мы тут сабраліся як прадстаўнікі дзяржаваў Цэнтральнай Эўропы. Але мы тут таксама як захавальнікі вялікай спадчыны Рэчы Паспалітай многіх народаў, якую некалі разам стваралі нашыя продкі.

Мы сустрэліся, каб супольна ўшанаваць герояў Студзеньскага паўстаньня. Мы сустрэліся пад знакам Белага Арла, Пагоні і сьв. Арханёла Міхаіла — гербамі Польшчы, Літвы і Русі, якія відаць на пячатцы Нацыянальнага ўраду. Рывок 1863 году быў скіраваны супраць імпэрыі цароў, якая зьнішчыла нашу агульную дзяржаву і зьняволіла нашы народы.

Паўстаньне было апошнім акордам той прыгожай сымфоніі розных культураў, моваў і веравызнаньняў, якая некалі гучала ў даўняй Рэчы Паспалітай. У яе гісторыі, якая налічвае больш за чатыры стагодзьдзі — ад заключэньня першай польска-літоўскай уніі да апошняга трэцяга падзелу — чуваць было мовы польскую, літоўскую, рускую, ідыш і шмат іншых. Таксама чуваць іх выдатна ў двухгадовай драматычнай гісторыі Студзеньскага паўстаньня.

«Za wolność naszą i waszą» — «Už jūsų ir mūsų laisvę» — «За нашу і вашу свабоду». Той самы дэвіз на штандарах і глыбока ў сэрцах несьлі ўсе нашы героі-ваяры — па-польску, літоўску, руску. У імя гэтых каштоўнасьцяў яны пачалі няроўную барацьбу: за свабоду, годнасьць, незалежнасьць. Сёньня мы, сучасьнікі, стаім тут, каб ушанаваць гераізм

і ахвяру нашых папярэднікаў. Але мы стаім тут таксама — перадусім! — дзеля таго, каб паказаць, што нас яднае — тая самая, што і 156 гадоў таму — супольнасьць памяці і лёсаў, супольнасьць каштоўнасьцяў і памкненьняў.

Шаноўнае спадарства!

Падчас гэтых урачыстасьцяў мы аддаем апошні паклон і пахаваем парэшткі 20 герояў Студзеньскага паўстаньня, сярод іх генэрала Зыгмунта Сεракоўскага-«Далэнгі» — правадыра паўстаньня на Ковеншчыне і Жмудзі — і Вінцэнта Канстанціна Каліноўскага — правадыра паўстанскай Горадзеншчыны, будзіцеля беларускага народу на супольнае з палякамі і літоўцамі змаганьне за вызваленьне з маскоўскага ярма.

Схопленыя ворагам, зьняволеныя на Лукішках, яны былі страчаныя ганебнай сьмерцю злачынцаў на шыбеніцы і таемна пахаваныя ў расейскай крэпасьці на Замкавай гары.

Якраз гэтая гістарычная гара — што носіць імя Гедзіміна, дзеда караля Ўладзіслава Ягайлы, першага супольнага ўладара нашых народаў — гэтая гара хавала іхныя целы больш за паўтара стагодзьдзя. Цэлыя пакаленьні здагадваліся, што яны могуць там спачываць, хоць ка́ты не дапусьцілі да пахаваньня нават сем’і асуджаных. У міжваеннае дваццацігодзьдзе там паставілі драўляны крыж і памятныя табліцы. Пазьней іх зьнішчылі Саветы, бо памяць пра герояў змаганьня за свабоду замінала і тым новым, камуністычным тыранам.

Урэшце амаль тры гады таму археолягі адкрылі парэшткі герояў. Бяз трунаў і са зьвязанымі ззаду рукамі іх целы былі кінутыя ў магільныя ямы і засыпаныя вапнай.

Мы добра ведаем гэты характэрны барбарскі звычай, які працягваўся „ад белага да чырвонага царызму“. У нашых краінах мы ўсё яшчэ знаходзім безыменныя сьмяротныя ямы з трупамі ахвяраў — салдатаў антысавецкай партызанкі, забітых чырвоным рэжымам. Сёньня мы таксама помнім пра іх, пра польскіх «праклятых-нязломных салдатаў», пра літоўскіх «лясных братоў» і пра іншых.

Бо ўсе яны — як тыя 150 гадоў таму, так і тыя 70 гадоў таму — для нашых народаў героі свабоды. Усіх іх павінен быў напаткаць такі самы лёс: асуджэньне, зганьбаваньне, пагібель, забыцьцё. Але мы тут, у Цэнтральнай Эўропе, ніколі з гэтым не пагадзіліся. Мы дбалі пра іхнюю памяць насуперак замоўчваньню, ушаноўвалі іх подзьвігі патаемна, у дамах і на могілках. А сёньня мы робім гэта ўрачыста, разам, бо мы зноў сталі свабоднымі людзьмі, грамадзянамі ўласных сувэрэнных дзяржаваў.

Шаноўныя спадарыні, шаноўныя спадары!

У асобах герояў, якія сёньня нарэшце атрымаюць належнае ім годнае пахаваньне, мы аддаём пашану ўсім удзельнікам рыўка 1863 году. Гэта быў супольны бой многіх народаў колішняй Рэчы Паспалітай.

Мы памятаем, што яшчэ да выбуху паўстаньня першымі за канспірацыйную дзейнасьць былі забітыя: латыш Ян Арнгольд, украінец ПятроСьлівіцкі і паляк Францішак Расткоўскі, расстраляныя ў Модлінскай крэпасьці. Мы памятаем таксама, што падчас адной з патрыятычных маніфэстацыяў у Варшаве загінуў Міхал Лянды, малады польскі габрэй, які нёс на чале калёны крыж, пераняты з рук параненага раней каталіцкага сьвятара.

Мы памятаем таксама, што ў паўстанцкіх партыях на Літве і Русі, побач з хрысьціянамі, змагаліся

таксама татары, мусульмане, якія шмат стагодзьдзяў служылі Рэчы Паспалітай. Усе яны біліся разам, салідарна за свабоду — за агульную свабоду для нас усіх.

За ўсе гэтыя гады мы ніколі не адмовіліся ад такога падыходу. Ён годна праявіўся хаця б на першым зьезьдзе «Салідарнасьці» ў Гданьску ў 1981 годзе, падчас якога дэлегаты ўхвалілі Пасланьне да людзей працы Ўсходняй Эўропы. Палякі, аб'яднаныя ў вялікім вальналюбным руху, руху «Салідарнасьці», «глыбока адчувалі супольнасьць нашых лёсаў» — народаў, адданых новай няволі, новай тыраніі, чырвонаму царызму.

Людзі «Салідарнасьці» зьвярталіся да народаў у іншых краінах «камуністычнага блёку» з заклікам да супольнага змаганьня за права на свабоднае яднаньне, годнае жыцьцё і справядлівасьць. За сьціслымі словамі пасланьня гучаў заклік устаць разам, салідарна супраць рэжымаў, накінутых з Масквы — падобна як 150 гадоў таму студзеньскія паўстанцы розных нацыянальнасьцяў біліся разам за нашу супольную свабоду — за «свабоду нашу і вашу».

Вельмі шаноўнае спадарства!

Сёньня мы сустракаемся тут усе — палякі, літоўцы, беларусы, латышы, украінцы — як свабодныя людзі, прадстаўнікі свабодных народаў, якія ёсьць гаспадарамі ва ўласных сувэрэнных дзяржавах, нашых незалежных айчынах.

Тое, пра што марылі нашы продкі і папярэднікі, за што змагаліся са зброяй, а таксама непакорнай думкай і словам, за што аддавалі жыцьцё, гэтага мы, сучасьнікі, дасягнулі. Мы маем — паўтару яшчэ раз — тое, што для кожнага народу найважнейшае,

што ёсьць найважнейшым супольным дасягненьнем: уласныя сувэрэнныя дзяржавы, нашы незалежныя айчыны.

І гэтаксама як яны — 150 гадоў таму — былі людзьмі салідарнасьці, бо кіраваліся яе ідэяй, так і мы, сучасьнікі, хочам дзейнічаць разам, салідарна. Мы хочам падтрымліваць адны адных, каб разам забясьпечыць сабе супольны мір і бясьпеку, разьвіцьцё і посьпех.

Цяпер, калі адбываюцца гэтыя ўрачыстасьці, у кракаўскай архікатэдры на Вавэлі ўдарыў звон Зыгмунта. Гэты звон, названы імем супольнага ўладара усёй колішняй Рэчы Паспалітай, унука Ягайлы, б'е толькі ў выключныя моманты. Адлілі яго з маскоўскіх гармат, здабытых у бітве пад Воршай у 1514 годзе польска-літоўскім войскам пад камандаваньнем гетмана Канстанціна Астроскага — таго самага, які тут у Вільні фундаваў царкву і якога пахавалі ў Пячорскай лаўры ў Кіеве. Як бачым, нават гэты жэст супольнасьці і салідарнасьці — біцьцё звона за 700 кілямэтраў адсюль — сымбалічна перагукаецца з гэтай вялікай супольнай спадчынай, якая злучае народы нашага рэгіёну.

Мы ўспамінаем сёньня нашых гістарычных герояў, але робім гэта з думкай не пра мінуўшчыну, але гледзячы на супольную будучыню. Нас яднае супольнасьць досьведу і каштоўнасьцяў, найважнейшая зь якіх — для нас усіх — свабода. Яднае нас таксама дзень сёньняшні: партнэрская супраца, жаданьні і памкненьні.

Нарэшце яднае нас уласная будучыня: каб была яна добрай і пасьпяховай, мы мусім абапірацца на прынцып салідарнасьці, сяброўства і ўзаемнай дапамогі.

Бо адзінства народаў Цэнтральнай Эўропы — гэта неабходны, надзейны і наймацнейшы падмурак і гарантыя свабоды, сувэрэннасьці, сілы і незалежнасьці нашых дзяржаваў. І я глыбока, моцна веру, што ў такім духу мы будзем дзейнічаць надалей, разам будаваць шчасьлівую Цэнтральную Эўропу многіх народаў“.

Тым часам да сярэдзіны дня на Катэдральнай плошчы заўважна паболела літоўскіх, польскіх, украінскіх палотнішчаў. Прадстаўнікі гэтых краін воплескамі рэагуюць на выступы сваіх лідэраў, трансьляваныя на экранах.

**14.45** Віцэ-прэм’ер Беларусі Ігар Петрышэнка прамаўляе па-беларуску:

„Вашы Эксцэленцыі, шаноўнае спадарства!

Сёньняшняя цырымонія — гэта сапраўды гістарычны момант, аднолькава важны для беларускага, літоўскага, польскага, украінскага і латыскага народаў.

Падзеі 1863–1864 гадоў, якія закранулі тэрыторыі адразу некалькіх дзяржаў Усходняй Эўропы, адбываліся і на нашых землях. Большасьць асобаў, якім мы сёньня аддаём даніну памяці, зьяўляюцца сынамі беларускай зямлі, зьвязанымі зь ёй агульным лёсам. Для беларусаў гэта ня толькі ўспамін мінулага, але і, што нават больш важна, магчымасьць аддаць належную пашану нашым продкам, спачыўшым на гэтай зямлі.

Дзейнасьць Кастуся Каліноўскага зьвязаная зь перарастаньнем беларускага нацыянальна-культурнага руху ў барацьбу за беларускую дзяржаўнасьць у форме народаўладзьдзя. Ужо ў той час дэкляравалася ідэя аб палітычнай суб’ектнасьці Беларусі ў адносінах з краінамі-суседзямі. Знакава, што паролем

паўстанцаў Кастуся Каліноўскага зьяўляліся словы «Каго любіш? — Люблю Беларусь». Запаветы змагароў ня страцілі актуальнасьці і знайшлі працяг у галоўным дэвізе нашай краіны — „За моцную і квітнеючую Беларусь“, у нашай працы па стварэньні дзяржавы для народа.

Асоба Каліноўскага назаўжды ўпісаная ў гісторыю Беларусі, як і падзеі паўстаньня XIX стагодзьдзя. Памяць аб ім увекавечаная ў нашай краіне: у Сьвіслачы, дзе ён вучыўся, у творах беларускіх пісьменьнікаў, мастакоў, скульптараў, у назвах вуліц беларускіх гарадоў, школаў, а таксама ў мастацкіх стужках, паштовых марках і нават партызанскай брыгадзе, якая вызваляла беларускі край падчас нацысцкага нашэсьця.

Калі літоўскія навукоўцы яшчэ ў 2017 годзе выказалі здагадку пра тое, што знойдзеныя парэшткі могуць належаць удзельнікам паўстаньня, наша краіна ўключылася ў працэс іх ідэнтыфікацыі па дыпляматычнай, навуковай, гістарычнай і сьледчай лініях. Беларусь і Літва абмяняліся адмысловымі візытамі працоўных і экспэртных групаў. Беларуская мова прысутнічае ў афармленьні мэмарыялу, дзе будуць спачываць паўстанцы. Мы ўдзячныя літоўскаму боку за праведзеную працу і плённае супрацоўніцтва. І, безумоўна, за магчымасьць усім разам быць тут у Вільні дзеля ўшанаваньня нашых землякоў. Перакананы, што капліца на могілках Росы стане тым месцам, куды будуць прыходзіць беларусы, літоўцы, палякі, латышы і ўкраінцы, каб аддаць пашану памяці сваім землякам.

Напрыканцы хачу адзначыць. Для кожнай краіны ёсьць свой вобраз Кастуся Каліноўскага, але ён не павінен стаць той гістарычнай постацьцю, якая

выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах. Наадварот, гэта тая старонка нашага сумеснага мінулага, якую мы павінны шанаваць і якая нас аб’ядноўвае зараз і ў будучыні. Дзякуй за ўвагу“.

Фразу Петрышэнкі аб тым, што „асоба Каліноўскага не павінна выкарыстоўвацца ў палітычных мэтах“, беларусы на плошчы сустрэлі сьвістам і воклічамі „Ганьба!“

**15:10** Урачыстая служба скончылася. З сабору-базылікі сьвятога Казіміра і сьвятога Ўладзіслава вынесьлі 20 трунаў з парэшткамі паўстанцаў. Кіраўнікоў паўстаньня Каліноўскага і Сераkoўскага вязуць на ляфэтах, іншых паўстанцаў — на катафалках. Працэсія рухаецца да могілак Росы. Паперадзе з боем рушаць барабаншчыкі і сьвятары. За імі — найвышэйшыя асобы і ўдзельнікі афіцыйных дэлегацый.

**15:15** Дасьледнік паўстаньня Язэп Янушкевіч, які бярэ ўдзел ва ўрачыстым шэсьці, распавёў нам пра паўстанцаў, якіх сёньня хаваюць на дзяржаўным узроўні. Сярод іх няма парэштак Станіслава Ішоры, які разам зь іншымі быў схаваны на Замкавай гары. Тым ня менш, ён належыць да гэтага сьпісу пакараных сьмерцю паўстанцаў.

**Станіслаў Ішора**, 25 гадоў. Нарадзіўся ў Вільні 12.04.1838. Вучыўся ў гарадзкой гімназіі. На пачатку 1860-х вікарны ксёндз у Жалудку Лідзкага павету (радзіма паўстанцкага генэрала Валяр’яна Ўрублеўскага). 27 студзеня 1863-га зачытаў маніфэст Часовага ўраду Літвы і Беларусі пра пачатак паўстаньня і абвясьціў „мужыкам, каб не хадзілі на паншчыну“. 22.05/04.06.1863, праз тыдзень пасьля прыезду ў Вільню Міхаіла Мураўёва, Станіслава Ішору расстралялі на Лукішках.

**Раймунд Зямацкі**, 53 гады. Нарадзіўся ў Дахна́х пад Крэвам 19.09.1810. Ахрышчаны ў мястэчку Лоску (цяпер Валожынскі раён). Удзельнік паўстаньня 1830–31 гадоў, цудам выжыў у Ашмянскай разьні, зладжанай расейскімі акупантамі ў красавіку 1831-га. Пробашч Ваверскага касьцёла на Лідчыне. Расстраляны 24.05/06.06.1863 у Вільні за абвяшчэньне маніфэсту Нацыянальнага ўраду. 23 ліпеня 1923 году ў віленскім касьцёле сьвятога Рафала асьвячана мэмарыяльная дошка ў памяць сьвятара.

**Альбэрт Лясковіч**, 23 гады. Нарадзіўся на Лідчыне 15.04.1840 у маёнтку Голдаве Лідзкага павету. Скончыў Віленскі шляхотны інстытут. Доказамі палічылі замоўленыя ім у шаўца боты з халявамі, што мусіла сьведчыць пра рыхтаваньне да ўступленьня ў паўстанцкія шэрагі, а таксама „заклікі да паўстаньня сярод сялянаў“. Расстраляны ў адзін дзень з ксяндзом Зямацкім — 24.05/6.06.1863. Абодвух пасьля экзэкуцыі ўкінулі ў магільныя ямы, папярэдне выкапаныя перад слупамі, да якіх асуджаныя былі прывязаныя. Целы засыпалі зямлёй, магілы выраўнялі.

**Баляслаў Калышка**, 25 гадоў. Нарадзіўся ў фальварку Карманішкі Лідзкага павету Віленскай губэрні 26.07.1837. З хатняй адукацыяй здолеў стаць студэнтам Маскоўскага ўнівэрсытэту, дзе ў той час дзейнічаў польска-расейскі гурток. Падчас паўстаньня камандзер аддзелу касінераў у Ковенскім павеце. Павешаны ў Вільні 28.05/09.06.1863. 18 жніўня 2013 году ў Бутрыманскім касьцёле, дзе хрысьцілі Баляслава, устаноўлена мэмарыяльная дошка. Наагул сям’я дала чатырох паўстанцаў: Баляслава-Каятана, Уладзіслава, Фэлікса-Генрыка, Яна-Вінцэнта.

**Юльян Лясьнеўскі**, 31 год. Паходзіў зь Любліншчыны (шляхціц Люблінскай губэрні). Падчас паўстаньня аканом у маёнтку графа Грабоўскага Вялікім Мажэйкаве (Лідзкі павет). Расстраляны на загад расейскіх уладаў 10/22 чэрвеня 1863 году „за закліканьне сялянаў да мяцяжу“.

**Зыгмунт Серакоўскі**, 36 гадоў. Нарадзіўся 30.05.1826 у сяле Лісаве Луцкага павету на Валыні (цяпер Маневіцкі раён Валынская вобласьць, Украіна). Вучыўся ў Пецярбурскім унівэрсытэце, адкуль за рэвалюцыйныя погляды быў высланы шараговым у Арэнбурскі корпус, дзе пасябраваў з гэткім самым ссыльным Тарасам Шаўчэнкам. Скончыў Акадэмію генэральнага штабу ў Пецярбургу. Варшаўскі паўстанцкі камітэт прызначыў яго вайсковым начальнікам паўстаньня ў Літве. 25–27.04/07–09.05.1863 ягоныя касінеры былі разьбітыя пад Біржамі. Параненым трапіў у палон. Павешаны 15/27.06.1863.

**Аляксандар Раўкоўскі**, 27 гадоў і **Язэп Раўкоўскі**, 36 гадоў. Браты-шляхціцы Ашмянскага павету. Абодва зараблялі на жыцьцё рамесьніцкай дзейнасьцю. Нават без суду, толькі на моцы вайсковай канфірмацыі, атрымалі вырак павешаньня як падазраваныя ў выкананьні прысудаў паўстанцкага камітэту ў Літве над здраднікамі і згоднікамі. Павешаныя 07/19.08.1863.

**Караль Сіповіч**, 19 гадоў. Віляничук. Хоць і належаў да рэвалюцыйнай арганізацыі паўстаньня на Літве, акупанцкія ўлады бяздоказна палічылі яго датычным да замаху на віленскага маршалка Дамейку. Павешаны ў Вільні 07/19.08.1863. Наймаладзейшы сярод 20 паўстанцаў, чые парэшткі адшуканыя.

**Язэп Яблонскі**, 20 гадоў. Нарадзіўся ў Ломжы (Польшча). За прыналежнасьць да Нацыянальнай паліцыі і магчымы ўдзел у замаху на маршалка Дамейку павешаны ў Вільні 07/19.08.1863.

**Генрык Макавецкі**, 27 гадоў. Паходзіў з Магілёўскай губэрні. Падчас паўстаньня жыў у Вільні, харунжы корпусу лясьнічых. Абвінавачаны ў „дзяржаўнай здрадзе“, расстраляны ў Вільні 17/29.08.1863. Ягоны брат Аркадзь-Антось, шляхціц Чэрыкаўскага павету, асуджаны на пазбаўленьне правоў стану, канфіскацыю маёмасьці і ссылку на жыхарства ў Табольскую губэрню.

**Ян Бянькоўскі**, 26 гадоў. Паходзіў з Варшавы. Загадам Варшаўскага паўстанцкага камітэту пасланы ў Вільню з мэтай учыніць прысуд над віленскім маршалкам Дамейкам за складаньне апошнім вернападданьніцкіх адрасоў расейскаму цару Аляксандру II. Як кінжальнік павешаны ў Вільні 28.08/09.09.1863.

**Ян Марчэўскі**, 24 гады. Паходзіў з Каралеўства Польскага, фэльчар. На падставе канфірмацыі вайскавода Віленскай вайсковай акругі павешаны ў Вільні 28.08./09.09.1863 „за служэньне Польскаму рэвалюцыйнаму камітэту ў якасьці шпега і паліцыянта ў горадзе Вільні з мэтай учыненьня забойстваў“.

**Эдвард Чаплінскі**, дата нараджэньня невядомая. Вучань аптэкара з Панявескага павету. Падазраваны ў тым, што разам зь Янам Бянькоўскім і Янам Марчэўскім рыхтаваў замах на маршалка Дамейку. Пасьля цяжкага катаваньня амаль у непрытомным стане павешаны 28.08/09.09.1863.

**Уладзіслаў Нікаляі**, 26 гадоў. Паходзіў зь лютаранскай шляхты Віленскай губэрні. Падпаруч-

нік Нараўскага пяхотнага палка. Расстраляны 13/25.09.1863. З роду Нікаляі, шляхціцаў Віленскай губэрні, у Сібір як „палітычна нядобранадзейныя“ былі высланыя Багуслаў, Людамір, Станіслаў.

**Казімер Сычук**, 36 гадоў. Нарадзіўся ў Вільні. Служыў кананірам Віленскай абарончай артылерыі. На заключэньне Аўдытарыяту прысудам вайскавода Віленскай вайсковай акругі расстраляны 10/22.12.1863 „за дэзэртырства, далучэньне да банды мяцежнікаў і ўдзел зь імі супраць войскаў, а пасьля палону — за ілжывае паведамленьне пра сваю станавую прыналежнасьць“.

**Мечыслаў Дарманоўскі**, 27 гадоў. Нарадзіўся ў Варшаве, прускі падданы. Чалец Варшаўскай паўстанцкай паліцыі, з сакавіка 1863 году выконваў абавязкі камісара Віленскай губэрні (псэўданім Людвік Сухадольскі). На падставе канфірмацыі вайскавода Віленскай вайсковай акругі павешаны 21.12.1863/02.01.1864 за тое, што „пасьля прыбыцьця ў Вільню з Варшавы, з тамтэйшага Рэвалюцыйнага камітэту, асабіста распараджаўся кіраваньнем рэвалюцыйнай арганізацыі, а таксама браў на сябе выкананьне найважнейшых даручэньняў“.

**Ігнат Здановіч**, 22 гады. Сын Аляксандра, гісторыка і пісьменьніка з Ігуменшчыны, і Эміліі Пясэчанкі, роднай сястры філямата Казімера Пясэцкага. Нарадзіўся 01/13.01.1841 у Вільні. Скончыў Пецярбурскі ўнівэрсытэт са ступеньню кандыдата матэматычных навук. Падчас паўстаньня выконваў абавязкі „скарбніка“, пэўны час начальнік паўстанцкай Вільні, адзін з найбліжэйшых паплечнікаў Кастуся Каліноўскага. Арыштаваны 26.09.1863. Катаваны ў сьледчай камісіі, трымаўся „з рэдкай упартасьцю“. Павешаны 21.12.1863/02.01.1864.

**Ціт Далеўскі**, 23 гады. Нарадзіўся 1/13.05.1840 у фальварку Кункулка Лідзкага павету Віленскай губэрні. Вучыўся ў віленскай гімназіі, унівэрсытэтах Масквы і Пецярбургу, удзельнічаў у таемным студэнцкім руху. Сябра віленскай паўстанцкай арганізацыі, адзін з найбліжэйшых памочнікаў Каліноўскага. На падставе канфірмацыі вайскавода Віленскай вайсковай акругі расстраляны 30/12.1863/11.01.1864 за прыналежнасьць да рэвалюцыйнай арганізацыі ў Літве ў якасьці экспэдытара і сакратара пры ўпаўнаважаным камісару, а таксама за непасрэдны ўдзел у распараджэньнях арганізацыі, што мелі мэтай абуджэньне ўжо згаслага мяцяжу.

**Якуб Чэхан**, прыкладна 40 гадоў, дакладная дата і месца нараджэньня невядомыя. Як шараговец унутранай варты Віленскага батальёну на падставе канфірмацыі вайскавода Віленскай вайсковай акругі і прысуду Аўдытарыяту ад 30 сьнежня 1863 году расстраляны ў Вільні 13/25.01.1864 „за дэзэртырства, уступленьне ў шэрагі мяцежнікаў, знаходжаньне ў іхнай бандзе і збройнае выступленьне супраць войскаў“.

**Кастусь Каліноўскі** (Канстанцін-Вінцэнт), 26 гадоў. Сын безьзямельнага шляхціца, уладальніка майстэрні льняных вырабаў Сымона Каліноўскага і Веранікі з Рыбінскіх. Нарадзіўся 21.01/02.02. 1838 у Мастаўлянах Горадзенскага павету. Павешаны расейскімі ўладамі 10/22.03.1864 за тое, што „быў сябрам рэвалюцыйнай арганізацыі і самастойным кіраўніком паўстаньня ва ўсім Літоўскім Краі“. У народзе Кастуся называлі „апошнім каралём Літвы“. Гэта была апошняя экзэкуцыя, учыненая расейскімі акупантамі ў Вільні.

**15:59** Працэсія падышла да Вострай брамы, пачалася малітва. На пачатку калёны гучаць касьцельныя сьпевы па-літоўску, польску і беларуску. Напрыканцы калёны скандуюць „Жыве Беларусь“.

Першыя асобы пераселі ў свае аўтамабілі, яны будуць чакаць ужо на месцы пахаваньня. Калёна расьцягнулася больш як на кілямэтар.

**16:35** Калёна прыйшла да могілак Росы. Парэшткі паўстанцаў заносяць у капліцу, дзе яны будуць пахаваныя.

**16:47** У капліцу заносяць апошнюю труну з паўстанцамі, пачынаецца малітва. Натоўпы людзей на вялікім экране назіраюць, што адбываецца ў капліцы.

Пасьля разьвітальных прамоваў труны ўклалі ў адмысловыя нішы, абсталяваныя ў капліцы-нэкропалі на Росах. Сьцяг з труны Зыгмунта Серакоўскага атрымаў у памяць пра падзею Анджэй Дуда, зь імем Каліноўскага — Гітанас Наўседа.

З усіх відаў зброі прагрымеў памятны салют у гонар кіраўнікоў і ўдзельнікаў паўстаньня — усіх, хто змагаўся і загінуў за свабоду свайго краю.

**17:05** Кіраўнік афіцыйнай дэлегацыі Беларусі Петрышэнка адмовіўся камэнтаваць Свабодзе цырымонію пахаваньня паўстанцаў. Ён патлумачыў, што яму трэба ехаць на агульную сустрэчу з прэзыдэнтамі.

**17:10** Прысутны на цырымоніі дырэктар Радыё Свабода Аляксандар Лукашук зьвярнуўся да слухачоў і гледачоў наўпроставай трансьляцыі:

— Гэта самы, відаць, незвычайны дзень пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, які быў у гісторыі нашай краіны. Прынамсі на працягу ўсяго майго жыцьця. Тыя гледачы, слухачы, якія сёньня

правялі гэты дзень са Свабодай, перш за ўсё я вас віншую, што мы гэтага дня дачакаліся. Гэта вялікая падзея. І, вядома, у канцы гэтага дня трэба сказаць словы вялікай удзячнасьці ўраду Літвы, які гэтую справу давёў да канца і так годна, так урачыста. Вы не змаглі прыехаць, вы глядзіце на нас у эфіры. Паверце, гэта вялікае шчасьце быць тут сёньня. Такой колькасьці бел-чырвона-белых сьцягоў за межамі Беларусі ніколі не было. Ніколі такога шэсьця праз сэрца Вільні не было. Гэты гістарычны дзень проста няма ў нашай гісторыі з чым параўнаць. Згадайце пароль каліноўцаў «Каго любіш? Люблю Беларусь». Сёньняшні дзень стаў увасабленьнем трэцяй часткі гэтага паролю: «То ўзаемна». Тое, што сёньня мы бачылі, гэта і ёсьць самы праўдзівы адказ: «То ўзаемна». І яшчэ адзін момант. Ці азначае сёньняшні дзень, што паўстаньне Каліноўскага скончылася? Для Каліноўскага і паплечнікаў так. А вось для тых, хто сёньня быў у Вільні, хто глядзіць нашу трансьляцыю, справа застаецца жывой.

**17:22** Ад вечара 22 лістапада пантэон герояў адкрыты для грамадзкага наведваньня.

**17:27** Пачалося грамадзкае разьвітаньне з паўстанцамі ў капліцы. Яно цягнулася каля гадзіны.

Пасьля гэтага беларусы з нацыянальнымі сьцягамі зладзілі начное шэсьце па вуліцах Вільні.

Некалькі соцень беларускіх удзельнікаў урачыстага пахаваньня сабраліся пад Вострай брамай, адкуль накіраваліся да капліцы на могілках Росы.

Усклаўшы кветкі і запаліўшы зьнічы, яны прайшлі праз цэнтар Старога гораду, сьпяваючы патрыятычныя песьні і скандуючы „Жыве Беларусь!“.

Сьпераду і ззаду калёну суправаджалі машыны паліцыі.

## Імёны Свабоды: Кастусь Каліноўскі

22 лістапада 2019
Уладзімер Арлоў

Спрабую ўявіць, як Каліноўскі адзначаў свой апошні дзень нараджэньня.

Віленскія Сьвятаянскія муры, дзе ён, хаваючыся ад жандараў, жыве пад імем Ігната Вітажэнца. За марознымі вокнамі крывава барвянее зара-вечарніца. Там, на захадзе, дагарае паўстаньне. Там ляснымі дарогамі адыходзяць у Польшчу апошнія змагары...

Магчыма, ён думае, што свабода стане бліжэйшай толькі на вышыню паўстанцкіх магілаў.

Магчыма, ён чакае сваю Марыську чарнаброву, сваю галубку — нарачоную Марыю Ямант.

Магчыма, акурат у той самы час былы паўстанцкі камісар Магілёўскай губэрні Вітаўт Парфяновіч называе на допыце ягоны адрас у Сьвятаянскіх мурах і кансьпірацыйнае імя, выдае пароль: „Каго любіш? — Люблю Беларусь! — То ўзаемна!“

Да арышту застаецца некалькі дзён, да эшафоту на Лукіскім пляцы і неўміручасьці — некалькі тыдняў...

Апошнім часам у беларускай прэсе раз-пораз зьяўляюцца артыкулы, дзе Каліноўскага, кіраўніка паўстаньня 1863 году ў Літве-Беларусі й прыхільніка самавызначэньня народаў былой Рэчы Паспалітай, спрабуюць абвясьціць „палякам“ (самі палякі з паўстанцкага Варшаўскага жонду, дарэчы, называлі яго „сэпаратыстам“), які ў палітычных мэтах проста паддобрываўся да мясцовых „мужыкоў“ (ажно да таго, што выдаваў на іх мове нелегальную газэту).

Найлепшы адказ такім „гісторыкам“ — ягоныя перадсьмяротныя „Лісты з-пад шыбеніцы“. Яны зьвернутыя да беларусаў. Яны напісаныя па-беларуску. Яны прысьвечаныя будучыні Беларусі. Яны ня страцілі сваёй актуальнасьці і ў нашым XXI стагодзьдзі.

Пахаваньне парэштак Каліноўскага і ягоных паплечнікаў, якое пры ўдзеле тысяч беларусаў з морам бел-чырвона-белых сьцягоў адбылося ў Вільні 22 лістапада 2019 году, сталася незабыўнай велічнай містэрыяй, сапраўды гістарычным днём, што абавязкова ўвойдзе ў падручнікі і даведнікі.

Кастусь (Вікенці Канстанцін) Каліноўскі. 2.2.1838, в. Мастаўляны, Беласточчына — 22.3.1864, Вільня. Пахаваны 22.11.2019 на віленскіх могілках Росы.

## Мінабароны не патлумачыла, чаму не накіравала роту ганаровай варты ў Вільню

22 лістапада 2019

Міністэрства абароны Беларусі толькі 22 лістапада адказала на просьбу даслаць роту ганаровай варты на цырымонію пахаваньня Кастуся Каліноўскага ў Вільні. Таксама аўтары звароту прасілі правесьці салют у гонар Каліноўскага і ягоных паплечнікаў у Менску.

Міністэрства абароны паведаміла, што „правядзеньне салюту і накіраваньне роты ганаровай варты не ўяўляюцца магчымым“. Больш ніякіх тлумачэньняў не было.

## Песьня пра паўстанцаў: новы кліп Лявона Вольскага

22 лістапада 2019

Музыка Лявон Вольскі апублікаваў новы відэакліп на песьню, прысьвечаную паўстанцам Кастуся Каліноўскага.

Песьня „Калі ідуць на абардаж“ напісаная на верш Уладзімера Караткевіча „Павешаным 1863 году“. Кліп прымеркаваны да пахаваньня ў Вільні парэштак Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў.

## Улады Беларусі на вачах мяняюць стаўленьне да постаці Кастуся Каліноўскага

22 лістапада 2019
Валер Карбалевіч

Віленскія ўрачыстасьці пахаваньня Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага і яшчэ 18 удзельнікаў паўстаньня 1863–1864 гадоў — знакавая падзея для Беларусі. Менавіта для Беларусі.

Чаму на ўрачыстасьцях у Вільні беларусаў было больш, чым палякаў і літоўцаў? Адказ просты. Бо ў Польшчы і Літве даўно вызначыліся з нацыянальнай ідэалёгіяй, нацыянальнай ідэнтыфікацыяй, нацыянальнай гісторыяй і нацыянальнымі героямі. І тамтэйшыя ўлады рэалізуюць праект, які вызначаны грамадзкім кансэнсусам. Там няма неабходнасьці грамадзтву моцна ўмешвацца, уплываць.

Зусім іншая сытуацыя ў Беларусі. Тут мы маем справу зь недасфармаванай нацыяй. Беларускі

соцыюм моцна расколаты адносна сьветапоглядных, базавых каштоўнасьцяў. Таму ідзе вострая ідэалягічная барацьба вакол пытаньня, на якім ідэйным грунце павінна будавацца беларуская нацыя. Дзейная ўлада апэлюе да посткаляніяльнай спадчыны. Зь яе гледзішча, Беларусь — гэта аскепак Расеі з Аляксандрам Неўскім, Суворавым, Леніным, Дзяржынскім, Кастрычніцкай рэвалюцыяй, Вялікай айчыннай вайной. А дэмакратычная супольнасьць, незалежнае грамадзтва прапануе нацыянальны наратыў зь Вялікім Княствам Літоўскім, Францішкам Скарынам, Кастусём Каліноўскім, БНР.

Гэты раскол добра бачны па тым, як цырымонія ў Вільні асьвятляецца афіцыйнымі мэдыямі. Дзяржаўныя СМІ, акрамя тэлеканалу АНТ, маўчалі, а для недзяржаўных гэтая падзея была сярод галоўных навінаў.

Але, падаецца, сытуацыя больш складаная, чым схема барацьбы паміж уладай і апазыцыяй. У саміх уладных структурах назіраецца канкурэнцыя розных ідэалягічных канцэпцый, зьвязаных з гісторыяй.

Апошнім часам менавіта вакол постаці Кастуся Каліноўскага больш за ўсё ломяцца ідэалягічныя дзіды. Раптам, нечакана для ўсіх, улады пачалі разьвенчваць Кастуся Каліноўскага як беларускага нацыянальнага героя. У абноўленым падручніку расейскай літаратуры для 8-ай клясы напісалі пра „Польскае паўстаньне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага (1863–1864)“. Пасьля справядлівага абурэньня грамадзкасьці і гісторыкаў у сьнежні 2018 году Міністэрства адукацыі выступіла з заявай, дзе зноў паўтарыла вэрсію пра „Польскае паўстаньне

(1863–1864)“. У студзені сёлета ў „Настаўніцкай газэце“ апублікаваны артыкул Ігара Марзалюка, прызначанага на ролю афіцыёзнага гістарыёграфа. Ён пацьвярджае вэрсію Міністэрства адукацыі. 17 сакавіка Марзалюк у перадачы „Главный эфир“ Першага нацыянальнага каналу ў інтэрвію, прысьвечаным тэме інфармацыйнай бясьпекі, зноў заявіў, намякаючы на Каліноўскага, што „чалавек, які называе, скажам, праваслаўе «сабачай верай» (калі ў нас 80 % праваслаўных), — ці можа такі чалавек быць нацыянальным героем краіны?“

У жнівеньскім нумары часопісу Адміністрацыі прэзыдэнта „Беларуская думка“ зьявіўся, як казалі за савецкім часам, установачны артыкул „Да пытаньня аб гістарычнай палітыцы“. Яго падпісалі два галоўныя афіцыёзныя гісторыкі (акадэмік-сакратар аддзяленьня гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандар Каваленя і дырэктар Інстытуту гісторыі НАН Вячаслаў Даніловіч) і два кіраўнікі Савету бясьпекі Беларусі. У артыкуле адмаўляецца канцэпцыя савецкай гістарыяграфіі аб прагрэсіўным, нацыянальна-вызваленчым характары паўстаньняў Тадэвуша Касьцюшкі і Кастуся Каліноўскага, абедзьве гэтыя асобы абвяшчаюцца польскімі героямі.

Здавалася б, усё зразумела, Каліноўскі ня наш герой, тэма закрытая.

Але вось раптам, насуперак меркаваньням і афіцыёзных гісторыкаў, і дзяржаўных установаў, у Вільню на пахаваньне Кастуся Каліноўскага накіроўваецца афіцыйная дэлегацыя на чале зь віцэ-прэм’ерам Ігарам Петрышэнкам.

Падзея ў літоўскай сталіцы безумоўна мае антырасейскі кантэкст. Беларусь апынулася ў адным

шэрагу зь дзяржавамі (Польшча, Літва, Латвія, Украіна), у якіх, скажам мякка, складаныя адносіны з Расеяй. У выступах кіраўнікоў гэтых краін гучала думка пра неабходнасьць аб'яднаньня краін рэгіёну на грунце спадчыны 1863 году, то бок спадчыны антырасейскага паўстаньня.

Лукашэнка, адказваючы 17 лістапада на выбарчым участку на пытаньні журналістаў пра ягонае стаўленьне да Каліноўскага, сказаў: „Ён дзейнічаў на нашай тэрыторыі, быў нашым чалавекам, калі хочаце — грамадзянінам. І ад гэтага нікуды не падзецца". Праўда, перасьцярог ад палітызацыі вобразу Каліноўскага.

Дык, выходзіць, усё ж наш?

Віцэ-прэм'ер Ігар Петрышэнка, уся праца якога ў структурах МЗС, пачынаючы з 2003 году, была скіраваная на інтэграцыю з Расеяй, заявіў у Вільні, што дзейнасьць Кастуся Каліноўскага „зьвязаная зь перарастаньнем беларускага нацыянальна-культурнага руху ў барацьбу за беларускую дзяржаўнасьць у форме народаўладзьдзя". То бок няма сумненьня, што Каліноўскі — беларускі, а ня польскі герой.

Далей — яшчэ цікавей. Петрышэнка сказаў: „Знакава, што паролем паўстанцаў Кастуся Каліноўскага зьяўляліся словы «Каго любіш? — Люблю Беларусь». Запаветы змагароў ня страцілі актуальнасьці і знайшлі працяг у галоўным дэвізе нашай краіны «За моцную і квітнеючую Беларусь»". То бок, перакладаючы на зразумелую мову, Лукашэнка — ідэйны нашчадак Каліноўскага! І ўсё гэта на фоне масы бел-чырвона-белых сьцягоў, якія луналі побач на плошчы.

Хацелася б пачуць, што цяпер скажа Ігар Марзалюк.

## Як афіцыйныя СМІ (ня) ўбачылі цырымонію ў Вільні

22 лістапада 2019

На ніводзін фотаздымак агенцтва БелТА з пахаваньня паўстанцаў у Вільні не патрапілі бел-чырвона-белыя сьцягі, якія пераважалі сёньня на цырымоніі. На гэта зьвярнулі ўвагу карыстальнікі сацсетак, іранізуючы з таленту афіцыёзных фатографаў.

Тое самае тычыцца і інфармацыйных сюжэтаў на дзяржаўных тэлеканалах Беларусь 1 і АНТ. У іх гледачы пабачылі толькі буйныя пляны, на якія не патрапіў ніводзін бел-чырвона-белы сьцяг.

На фота, зробленых фатографамі незалежных мэдыяў і ўдзельнікамі цырымоніі, бачна, што вуліцы Вільні былі літаральна запоўненыя беларускімі нацыянальнымі сьцягамі.

## У Польшчы дзень пахаваньня паўстанцаў адзначылі ілюмінацыяй на прэзыдэнцкім палацы

23 лістапада 2019

На палацы прэзыдэнта ў цэнтры Варшавы 22 лістапада зьявіўся сьветлавы герб.

На адным шчыце побач выяўлены сымбалі Літвы (Пагоня), Польшчы (Арол) і Русі-Ўкраіны (Арханёл Міхаіл). Гэты герб выкарыстоўвалі паўстанцы 1863 году.

## У Вільні ўручаныя мэдалі Рады БНР дзеячам зь Беларусі

24 лістапада 2019

Мэдалі ў гонар 100-годзьдзя Незалежнасьці БНР уручылі грамадзкім і палітычным дзеячам зь Беларусі, якія прыехалі на пахаваньне Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў. Уганараваньне адбылося на сустрэчы зь беларускай грамадзкасьцю ў Доме нацыянальных абшчынаў.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла сказала, што мае вялікую прыемнасьць спаткацца зь людзьмі зь Беларусі, чые заслугі ў справе барацьбы за дэмакратыю ацэненыя ўзнагародай, якую ёй ужо даводзілася ўручаць дзеячам дыяспары.

Ад імя тых, хто атрымаў мэдаль раней, выступіў пісьменьнік Уладзімер Арлоў. Ён выказаў упэўненасьць, што ў будучай дэмакратычнай Беларусі мэдаль будзе прыроўнены да найвышэйшай дзяржаўнай узнагароды.

Мэдалі БНР-100 з рук Івонкі Сурвілы атрымалі сьвятар а. Андрусь Абламейка, мастак Аляксей Марачкін, рэжысэр, пастаноўшчык спэктаклю „Кастусь Каліноўскі“ паводле п’есы Ўладзімера Караткевіча (1978) Валер Мазынскі, заснавальнікі „Майстроўні“ Вінцук Вячорка і Сяргей Дубавец, мастак Алесь Пушкін, скульптар Гэнік Лойка, дэпутат Незалежнасьці Юрась Беленькі, палітык Анатоль Лябедзька, заснавальнік БЗВ Мікола Статкевіч, паэт Уладзімер Някляеў, палітык і былы палітвязень Павал Севярынец, гісторык Аляксандар Краўцэвіч, палітык Аляксей Янукевіч, грамадзкі актывіст

Андрэй Стрыжак, мэцэнат Павал Бераговіч (Падкарытаў), кіраўнік арганізацыі Беларуская нацыянальная памяць Анатоль Міхнавец, арганізатары сьвяткаваньня БНР-100 Франак Вячорка і Павал Белавус.

Узнагароджаных прывітаў першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

Таксама ў Вільні ад Івонкі Сурвілы мэдалі атрымалі старшыня партыі БНФ Рыгор Кастусёў, былы палітвязень, лідэр Руху Салідарнасьці „Разам“ Вячаслаў Сіўчык, рэдактар беластоцкай „Нівы“ Яўген Вапа, былы народны дэпутат СССР Аляксандар Дабравольскі.

## Як беларускія заўзятары ўшанавалі памяць Каліноўскага на хакейным матчы ў Расеі

24 лістапада 2019

Заўзятары менскага хакейнага клюбу „Дынама“ на матч з расейскім клюбам „Авангард“, які прайшоў 23 лістапада ў падмаскоўнай Балашысе, прывезьлі банэр з выявай Кастуся Каліноўскага і паролем паўстанцаў 1863–1864 гадоў. Разам з банэрам заўзятары зьмясьцілі і бел-чырвона-белыя сьцягі з „Пагоняй“.

Як паведаміў Свабодзе адзін з заўзятараў, на матч прыехала больш за 200 беларускіх заўзятараў.

Паводле яго, на пачатку матчу ахоўнікі запатрабавалі зьняць банэр, пагражаючы спыніць гульню. Аднак беларускія заўзятары ўсталі і адмовіліся гэта рабіць. У выніку банэр з Каліноўскім правісеў усю гульню.

— Каліноўскі — наш нацыянальны герой. На жаль, ня ўсе змаглі трапіць у Вільню на пахаваньне парэштак паўстанцаў, але беларускія заўзятары такім чынам ушанавалі ягоную памяць на матчы ў Расеі, — сказаў Свабодзе заўзятар.

Матч менскае „Дынама“ выйграла зь лікам 2:1.

## Гэтыя дні выявілі, дзеля чаго перадусім жыў і за каго змагаўся Каліноўскі

25 лістапада 2019
Зьміцер Дашкевіч

Маштаб, зь якім патрыёты Беларусі празь візавы кардон і працоўны графік прарваліся ў Вільню, каб ушанаваць Кастуся Каліноўскага, бацьку нацыі, — маштаб гэты шакаваў усіх.

Летувіска сярэдняга веку, побач зь якой мы зь сябрамі сядзелі ў кавярні, на ламанай расейскай так прачулена распавяла нам, у якім яны захапленьні ад беларусаў, аж прасякнуліся 22 лістапада духам свабоды пачатку 1990-х.

Можна колькі заўгодна спрачацца пра спадчыну Паўстаньня, але гэтыя дні яскрава выявілі, дзеля чаго перадусім жыў і за каго перадусім змагаўся Кастусь Каліноўскі.

Можна колькі заўгодна выразаць з этэру бел-чырвона-белыя сьцягі, але ўваскрэслыя з-пад вапны героі пераконваюць нас:

Праўда перамагае нават тады, калі ейных носьбітаў спыняюць фізычна.

Зласьліўцы Беларусі спрабуюць даказаць, што Каліноўскі паляк і паўстаньне чыста польскае, хоць

сам Яська гаспадар з-пад Вільні ад самага пачатку пісаў: „Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацісь, бо яны ня вольнасьці, а глуму і зьдзерства нашага хочуць“ (Мужыцкая праўда, 1:16).

Зласьліўцы Каліноўскага спрабуюць даказаць, што Каліноўскі перасьледаваў праваслаўных, хоць за падтрымку паўстаньня самі расейцы рэпрэсавалі 14 праваслаўных сьвятароў.

Ворагі Беларусі скрыгочуць, што Паўстаньне было бессэнсоўным, але ж на мапе сьвету няма сёньня турмы народаў, але ёсьць незалежныя Польшча, Летува, Беларусь, за свабоду якіх і змагаліся паўстанцы 1863–1864 гадоў.

Уявіць, што расступіцца зямля і героі Паўстаньня ўваскрэснуць з-пад вапны, ня мог нават самы сьмелы патрыёт. Але Бог гэта зрабіў. І зрабіў не абы калі, а менавіта цяпер, калі на 30-м годзе незалежнасьці мы зноў разважаем пра страту незалежнасьці.

Зрабіў менавіта ў гэтыя дні, калі на 20-м годзе будаваньня „Саюзнай дзяржавы“ адміністрацыя зноў прэцца ў імпэрыю дзеля новай дамовы на рабства.

Тое, што Каліноўскі не дарабіў на зямлі ў целе, ён робіць сёньня па-за целам. І разважаць над гэтай містэрыяй было б добра сёньня кожнаму патрыёту. Каб упэўніцца ў сабе, каб умацавацца вераю, што Госпад ня кідае нас нават у сёньняшнім нашым расьцярушаньні.

Творца гісторыі ўваскрэсіў нас з-пад вапны турмы народаў, уваскрэсіў з-пад вапны імпэрыі зла,

Ён уваскрэсіць нас і з-пад вапны часовай акупацыйнай адміністрацыі.

## „Польскі бандыт і мяцежнік“. Як у Расеі адрэагавалі на пахаваньне Каліноўскага і яго паплечнікаў

25 лістапада 2019

Урачыстую цырымонію пахаваньня паўстанцаў шырока асьвятлялі беларускія незалежныя і замежныя мэдыі. Свабода паглядзела, што пісалі пра гэтую падзею ў Расеі, дзе паўстанцаў на чале з Кастусём Каліноўскім многія дагэтуль лічаць „ворагамі імпэрыі“.

Аказалася, што буйныя інфармацыйныя агенцтвы — ТАСС, РИА „Новости“, Интерфакс — „байкатавалі“ ўрачыстасьць, нават пра яе не згадаўшы. Затое на многіх менш афіцыйных пляцоўках адзначаўся выразна „антырасейскі кантэкст“ публічнай дзеі.

### Regnum: „Мяцежнік масава зьнішчаў продкаў беларусаў“

Сэрыя прынагодных матэрыялаў зьявілася ў стужцы агенцтва Regnum. Вось некаторыя загалоўкі:

„Польскі бандыт Каліноўскі аказаўся «грамадзянінам Беларусі»“,

„Афіцыйны Менск адсьвяткуе паўстаньне супраць царскай Расеі ў Літве“,

„МЗС Беларусі ўшаноўвае парэшткі польскіх бандытаў“,

„У Літве заявілі пра аб’яднаньне народаў у памяць змаганьня супраць Расеі“.

„Празаходняя русафобская апазыцыя ў Беларусі разышлася ў поглядах на лёс парэштак: адны патрабавалі на незразумелых прававых падставах вывезьці іх у Беларусь, іншыя назвалі патрабаваньні правакацыяй і заявілі пра неабходнасьць урачыста пахаваць іх у Вільні, — уводзіць чытачоў у курс нехта Георгій Шклоўскі. — Піку гэтая блюзьнерская, адкрыта рэвізіяністцкая эпапэя дасягнула 17 лістапада: выступаючы перад прэсай, Аляксандар Лукашэнка заявіў, што Каліноўскі «дзейнічаў на нашай тэрыторыі, быў нашым чалавекам, калі хочаце, грамадзянінам»“.

Аўтар робіць закіды і ў бок беларускіх нацыяналістаў, якія лічаць „польскага мяцежніка, вінаватага ў масавым зьнішчэньні продкаў цяперашніх беларусаў“, нацыянальным героем і змагаром за незалежнасьць Беларусі.

### Евразия Daily: „Пад бандэраўскім лёзунгам «Героі не паміраюць!»“

У падобнай танальнасьці апісвае падзеі 22 лістапада іншая прапагандысцкая пляцоўка рунэту — Евразия Daily. Выніковы артыкул называецца „У Вільні ўрачыста перапахавалі правадыроў антырасейскага паўстаньня“.

„Першымі зьявіліся труны з парэшткамі Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага, кіраўнікоў паўстаньня, — адзначаецца ў артыкуле. — Беларускія нацыяналісты расказвалі, што хаваюць «герояў барацьбы за незалежнасьць», а апазыцыйны палітык Павал Севярынец выкрыкнуў бандэраўскі лёзунг «Героі не паміраюць!». Сярод прысутных заўважаныя важакі беларускай апазыцыі: Станіслаў Шушкевіч, Рыгор Кастусёў, Мікалай Статкевіч,

Уладзімер Някляеў. На працягу дзьвюх з паловай гадзінаў яны мелі магчымасьць разьвітацца з парэшткамі, выстаўленымі ў саборы“.

У іншым матэрыяле крытыкуецца віцэ-прэм’ер Беларусі Ігар Петрышэнка, які „высока ацаніў“ значэньне паўстаньня для беларускай гісторыі, зьвязаўшы яго зь „перарастаньнем беларускага нацыянальна-культурнага руху ў барацьбу за дзяржаўнасьць у форме народаўладзьдзя“ („Віцэ-прэм’ер Беларусі: Каліноўскі — сын беларускай зямлі“).

## Фонд стратэгічнай культуры: „Нічога (бела)рускага ў яго не было“

Электроннае выданьне „Фонд стратэгічнай культуры“ не хавае абурэньня, што ў Літве на дзяржаўным узроўні адбылося ўрачыстае пахаваньне парэштак удзельнікаў „мяцяжу“ 1863 году, у тым ліку аднаго з ідэолягаў „взбунтовавшейся шляхты“ Канстанціна Каліноўскага, які толькі „прыкідваўся“ беларускім селянінам.

„Галоўнай мэтай мяцяжу было вяртаньне польска-каталіцкай шляхце, якая прыгнятала праваслаўнае насельніцтва, „залатых вольнасьцяў“ часоў Рэчы Паспалітай, — адукоўвае рэсурс. — Каліноўскі і Серакоўскі пакараныя сьмерцю за злачынствы: удзел у забойствах расейскіх салдатаў, сялянаў, праваслаўных сьвятароў. На гэтым фоне дзіўна выглядала прысутнасьць на працэдуры ўшанаваньня забойцаў віцэ-прэм’ера Петрышэнкі. Яшчэ раз: Каліноўскі быў палякам, заклікаў польскую шляхту да паўстаньня супраць Расейскай імпэрыі. І мроіў аб Рэчы Паспалітай, якая паглыне Беларусь. Нічога (бела)рускага ў тым чалавеку не было“.

Канструяваньне міту пра супольнае паўстаньне палякаў, літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў супраць царскай Расеі працягваецца, падсумоўвае безыменны „ўласны карэспандэнт“.

### RuBaltic: „Антыправаслаўная прапаганда Каліноўскага“

Інфармацыйны рэсурс RuBaltic.ru (Калінінград) засяродзіўся на прамове кіраўніка Каталіцкай царквы ў Беларусі Тадэвуша Кандрусевіча. У прыватнасьці, незадаволенасьць выклікалі заявы сьвятара пра тое, што Кастусь Каліноўскі „першым успрыняў беларусаў як асобную нацыю“.

У артыкуле „Каталіцкая царква заляцаецца да беларускага нацыяналізму“ нехта Ўсевалад Шымаў называе заканамернай прысутнасьць мітрапаліта на дзяржаўнай цырымоніі ў Вільні:

„Касьцёл у Беларусі працуе як з польскай ідэнтычнасьцю, так і зь беларускім нацыяналізмам, згодна зь якім Каліноўскі ня польскі, а нацыянальны герой, — гаворыцца ў публікацыі. — Беларуская праваслаўная царква з нагоды ўрачыстай цырымоніі ў Вільні пакуль захоўвае маўчаньне. Хоць, па ідэі, менавіта ў праваслаўнай грамадзкасьці павінны паўстаць пытаньні наконт гэткай палітыкі гістарычнай памяці. Бо тэрор супраць праваслаўнага насельніцтва і сьвятароў на тэрыторыі Беларусі быў неад’емнай часткай паўстаньня 1863 году, а ў выдаваных Каліноўскім лістках антыправаслаўная прапаганда адыгрывала адну зь вядучых роляў“.

У тэксьце канстатуецца, што прадстаўнікі афіцыйнай дэлегацыі разам зь сьвятарствам другой паводле колькасьці рэлігійнай канфэсіі Беларусі ўшаноўваюць дзеячоў, якія вялі барацьбу з

рэлігійнай групай, якая і тады, і сёньня дамінуе ў краіне.

### MR7.ru: „Арганізатар паўстаньня супраць Расейскай імпэрыі“

Інфармацыйны партал MR7.ru зь першых радкоў тлумачыць чытачам, што Кастусь Каліноўскі „быў адным з арганізатараў паўстаньня супраць Расейскай імпэрыі“.

Адрозна ад іншых публікацыяў, тут прынамсі згадваюць пра апоўзень на Замкавай гары. Маўляў, былі заплянаваныя работы для ўмацаваньня глебы, але ў сувязі з гістарычнай значнасьцю месца туды запусьцілі археолягаў, якія „выпадкова знайшлі меркаваныя парэшткі пакараных паўстанцаў“.

„У цырымоніі перапахаваньня ўзялі ўдзел прэзыдэнты Літвы і Польшчы Гітанас Наўседа і Анджэй Дуда, а таксама віцэ-прэм’ер Беларусі Ігар Петрышэнка, — акцэнтуецца ў публікацыі ўзровень падзеі. — Адметна, што для беларускай дэлегацыі і ўсіх ахвочых літоўская амбасада ў Менску выдала аднаразовыя візы. Літоўскія камэнтатары ў наўпроставай трансьляцыі ня раз заяўлялі аб тым, што падзея «аб’ядноўвае прыгнечаныя народы ў барацьбе супраць Расеі». Героі таго паўстаньня, паводле іх, паказваюць, хто сапраўдны вораг краіны. Лідэраў антырасейскіх выступаў называюць «агульнымі» для Літвы, Польшчы, Беларусі і Ўкраіны“.

### Газэта „Правда“: „Зьверствам паўстанцаў не было мяжы“

Карэспандэнты газэты „Правда“, калісьці галоўнага друкаванага органу ЦК КПСС, не вялі рэпартажаў з пахаваньня, але кандыдат гістарычных навук

Яўгені Падлесны ў вялікім артыкуле тлумачыць, чаму Кастуся Каліноўскага нельга лічыць „змагаром за інтарэсы беларускага народу“:

„Гэта было польскае паўстаньне супраць Расеі, і Каліноўскі быў польскім нацыяналістам, які змагаўся за аднаўленьне Рэчы Паспалітай «од можа до можа», — расказвае аўтар. — Называць паўстаньне беларускім — мяжа гістарычнай непісьменнасьці, палітычнага махлярства. Беларускі народ не падтрымаў польскага паўстаньня. Наадварот, выступіў супраць, аказваючы актыўны супраціў. Для расправы зь непаслухмянымі паўстанцы стварылі адмысловыя групы жандараў-вешальнікаў і кінжальнікаў. Зьверствам іх не было мяжы. Віна большасьці была ў тым, што яны не хацелі змагацца за аднаўленьне «вялікай Польшчы»“.

Ня дзіва, што царскія ўлады не адчувалі недахопу ў добраахвотных памагатых, падсумоўвае палітоляг. Паводле яго зьвестак, шмат дзе ў аддзелы мясцовай самаабароны запісвалася ледзь ня ўсё мужчынскае насельніцтва. Таму польскія паўстанцы баяліся беларускіх сялянаў больш, чым царскіх войскаў.

Дзеля справядлівасьці, недалёка ад праўладных расейскіх мэдыяў адышлі і беларускія дзяржаўныя СМІ. Агенцтва БелТА надрукавала нататку ў рубрыцы „Дальнее зарубежье“ з цытатамі віцэ-прэм’ера Петрышэнкі, на якую спасылаліся іншыя афіцыйныя выданьні.

У фотарэпартажы БелТА, як і ў тэлерэпартажах дзяржаўных каналаў, урачыстасьць паказаная безь ніводнага бел-чырвона-белага сьцяга, якіх у той дзень у Вільні лунала не адна сотня.

## „Сорамна перад беларусамі“. У Польшчы абураныя тым, як TVP паказала ўрачыстасьці ў Вільні

25 лістапада 2019

Галоўная інфармацыйная перадача на грамадзкім канале TVP цалкам праігнаравала масавую прысутнасьць беларусаў у Вільні 22 лістапада, а ў адным з кадраў беларускі сьцяг выдалі за польскі.

Урачыстасьць пахаваньня лідэраў і ўдзельнікаў паўстаньня 1863–1864 гадоў асьвятлялася ў польскіх СМІ сьціпла. Цырымонію трансьлявалі тэлеканал „Белсат“, які зьяўляецца часткай грамадзкай польскай тэлевізіі TVP, а таксама каналы для палякаў замежжа — Polonia і TVP Wilno. Іншыя СМІ перадавалі паведамленьні ад інфармагенцтваў.

Прысутных у Вільні польскіх журналістаў, актывістаў і проста ўдзельнікаў цырымоніі зьдзівіў і абурыў вечаровы эфір галоўнай інфармацыйнай перадачы TVP1 „Wiadomości“.

Дырэктарка тэлеканалу „Белсат“ Агнешка Рамашэўска-Гузы напісала ў Твітэры, што беларусаў там прадставілі „палякамі зь Літвы“:

„Бываюць хвіліны, калі чалавека перапаўняе. Кім былі гэтыя людзі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, якіх быў такі натоўп у Вільні, пытаецца ў мяне праз мэсэнджэр калега з Гданьску. А я не разумею, чаму ён пытаецца. Сёньня я паглядзела „Wiadomości“ і ўжо ведаю. Мне было сорамна глядзець учорашнія навіны. Празь мяжу ў працоўны і халодны дзень прыехала маса беларусаў зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. А пра гэта не было ані слова. Было сорамна

перад літоўцамі, якія арганізавалі ўрачыстасьці, перад тысячамі беларусаў, якія прабіваліся празь мяжу і стаялі гадзінамі на моцным холадзе і якіх прадставілі „палякамі зь Літвы“. Пасыл „Wiadomości“ з учорашніх урачыстасьцяў у Вільні мала таго, што ня ўтрымліваў асноўных фактаў, якія былі бачныя няўзброеным вокам, дык выглядаў так, нібыта ў Польшчы кіруе „Канфэдэрацыя“ (нацыяналістычная кааліцыя ў Сэйме Польшчы. — РС)“.

Сваімі ўражаньнямі ад прысутнасьці ў Вільні і ад прагляду навінаў на канале TVP1 падзяліўся са Свабодай аналітык Інстытуту Цэнтральнай Эўропы Дамінік Вільчэўскі. Паводле яго, калі б нехта ў Польшчы хацеў даведацца пра ўрачыстасьці ў Вільні і атрымліваў інфармацыю толькі зь перадачы „Wiadomości“, то дазнаўся б, што гэта было пахаваньне выключна польскіх герояў, пашану якім аддалі найперш палякі:

„Адзін з рэпартэраў так і сказаў: «Палякі не падвялі». Карцінка ўрачыстасьці ў TVP мела мала супольнага з тым, што я пабачыў на ўласныя вочы каля катэдры і на вуліцах Вільні. Літоўцы нібыта былі толькі статыстамі, а беларусаў польская грамадзкая тэлевізія не заўважыла“.

У агульных плянах глядач мог пабачыць бел-чырвона-белыя сьцягі, але рэпартэры за кадрам падкрэсьлівалі масавы ўдзел палякаў. На некалькіх кадрах можна было пабачыць абрэзаны беларускі сьцяг, які ператварылі ў польскі, абрэзаўшы ніжнюю белую стужку.

Паводле Вільчэўскага, на практыцы глядач не зразумеў, якое значэньне маюць студзеньскія паўстанцы для літоўцаў і беларусаў, і мог скласьці

сабе ўражаньне, што літоўцы і беларусы шануюць польскіх герояў.

„Я не хацеў бы падазраваць рэдактараў «Wiadomości» ў кепскім намеры. Магчыма, гэта проста адсутнасьць ведаў і палёнацэнтрызм. На жаль, на ўроках гісторыі працягваюць вучыць, што Рэч Паспалітая — гэта Польшча, а яе жыхары — палякі ў сёньняшнім значэньні. Не гаворыцца пра шматкультурнасьць і шматэтнічнасьць той дзяржавы, якую хацелі адрадзіць паўстанцы. Я разумею, што ўспрыманьне паўстанцаў можа ў кожнага быць розным, але ў гістарычным дыялёгу, ці нават трыялёгу, гаворка ідзе не пра тое, каб знайсьці агульную пазыцыю. Сэнс у тым, каб выслухаць і спрабаваць зразумець другі бок. Гэтага ў матэрыялах «Wiadomości» не было, і таму словы пра тое, што «нас яднае гісторыя» і што «польска-літоўскія адносіны яшчэ ніколі не былі такімі добрымі, як цяпер» (пра што казалі рэпартэры), гучаць на гэтым фоне трошкі няпраўдзіва“, — кажа Дамінік Вільчэўскі.

Прысутны на віленскай цырымоніі гарадзкі актывіст зь Беластоку, сябра Інстытуту гарадзкой актыўнасьці Радаслаў Пусько ў інтэрвію Свабодзе назваў сюжэт польскай грамадзкай тэлевізіі прапагандай, якая „часам ня вельмі адрозьніваецца ад рэжымнай тэлевізіі Лукашэнкі“:

„Матэрыял, які быў паказаны ў галоўным выпуску «Wiadomości» 22 лістапада, на жаль, ёсьць працягам кепскай тэлевізійнай прапаганды, якой ужо даволі даўно займаецца польская грамадзкая тэлевізія. На ўрачыстасьці ў Вільні прыбыла вялікая колькасьць грамадзян Беларусі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, і іх прысутнасьць была відавочная. Шкада, што відавочнае для іншых не відавочнае

для прапагандыстаў (якіх часам называюць журналістамі) у TVP.

Матэрыял ад 22 лістапада пра пахаваньне герояў шматнацыянальнай Рэчы Паспалітай сьведчыць пра тое, што польская грамадзкая тэлевізія часам ня вельмі адрозьніваецца ад рэжымнай тэлевізіі Лукашэнкі“.

У інтэрвію Свабодзе дырэктарка „Белсату“ Агнешка Рамашэўска-Гузы кажа, што польскія каналы не высылалі ў Літву сваіх карэспандэнтаў і амаль не асьвятлялі пахаваньне ані да, ані падчас урачыстасьці ў Вільні. І менавіта адсутнасьць зацікаўленасьці польскіх СМІ яна называе прычынай малой колькасьці ўдзельнікаў цырымоніі з Польшчы.

„У Польшчы перакананыя, што ўсе героі — палякі. Шмат хто ня мае нават паняцьця пра гісторыю Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў і што гэта была шматнацыянальная дзяржава. Я кажу не пра гісторыкаў, бо яны ўсё цудоўна ведаюць. Я маю на ўвазе папулярную гісторыю.

Як гэта ні дзіўна, пра шматнацыянальную гісторыю ведаюць ураджэнцы «Крэсаў», людзі, якія адтуль паходзяць, і яны — хаўрусьнікі беларусаў. Ім ня варта нічога даказваць. Гэта не яны крычаць пра польскія Крэсы. Але гістарычна так сталася, што Рэч Паспалітую як дзяржаву шмат хто называў Польшчай. Так было стагодзьдзямі, і па-за межамі дзяржавы. І сам Каліноўскі так казаў. Але паняцьці зьмяніліся. Бяда ў тым, што палякі як людзі зь вельмі моцнай ідэнтыфікацыяй атаясамліваюць старое паняцьце са сваёй сучаснай дзяржавай. Гістарычна было інакш. Але людзі ня маюць гістарычных ведаў. Людзі ў нас вельмі зьдзіўляюцца, калі чуюць, што

першы пераклад Бібліі ў Рэчы Паспалітай быў не на польскую, а на «рускую» мову. Людзі проста гэтага ня ведаюць. І ўрачыстасьць у Вільні пацьвердзіла кепскія веды гісторыі. Палякі — вялікія патрыёты. Але ня ўсе яшчэ разумеюць, што калі нейкія героі прызнаюцца супольнымі, то мы іх ня страчваем. Ніхто ня можа забраць у палякаў Касьцюшку, бо гэта была б гістарычная няпраўда. Людзей трэба вучыць, што мы можам ганарыцца нашай супольнай спадчынай“.

22 лістапада на сайце польскай грамадзкай тэлевізіі зьявіўся даволі ваяўнічы артыкул „Пахаваньне Арла і Пагоні. Як Літва і Беларусь забралі ў Польшчы герояў“.

„...былым малодшым братам спатрэбілася захады зь Серакаўскасамі і культам Каліноўскага, каб яны не адчувалі пагрозы сваёй ідэнтычнасьці, — піша аўтар Кшыштаф Звалінскі, называючы Каліноўскага перарobленым у беларуса палякам. — Малады нацыяналізм непісьменных да нядаўняга часу народаў мусіў змагацца з памяцьцю аб элітах, бо яны былі польскімі. Насуперак усяму, што было польскім, фарміравалася нацыянальная сьвядомасьць у Літве, Беларусі і Ўкраіне“.

Польская грамадзкая тэлевізія TVP пакуль не адказала на запыт Свабоды з просьбай пракамэнтаваць форму і зьмест сюжэту пра ўрачыстасьці ў Вільні.

**Виктор Шалкевич**

Тэлевізыя Trwam і Republika дастаткова падрабязна асьвяцілі падзею і нармальна ўсё паказалі... Якія праблемы? Што каму хочацца? Ці большасць ехала туды пасьвяціцца перад камерамі?

## Чаму прэзыдэнту Польшчы пасьля прамовы ў Вільні варта зьмяніць сьпічрайтэраў

26 лістапада 2019
Сяргей Абламейка

Тое, што перажылі беларусы ў Вільні 22 лістапада падчас пахаваньня Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў, думаю, ніхто зь іх не забудзе да канца жыцьця. Гэта была неверагодная, містычная падзея, у якой, бясспрэчна, бралі ўдзел ня толькі людзі, але і нябёсы.

### Падзяка Літве і беларусам

Велізарная падзяка і паклон у ногі належыцца ўладам Літвы. Цырымонія дзяржаўнага пахаваньня была зладжаная на найвышэйшым арганізацыйным і эмацыйным узроўні.

Велічная багаслужба з шырокім выкарыстаньнем беларускай мовы, найвышэйшы склад удзельнікаў урачыстасьці, беззаганны рытуал, маршыроўка ганаровай варты, вусьцішны барабанны дробат, калёна біскупаў і сьвятароў перад трунамі, тысячы беларусаў пад нацыянальнымі сьцягамі — усё гэта застанецца ў розумах і сэрцах людзей назаўжды. Дзякуй Літва!

І дзякуй беларусы! Вы, а ня ўрад, уратавалі гонар Беларусі!

Тым больш прыкра, што ў гэтай аграмаднай бочцы зь мёдам знайшліся і чатыры маленькія лыжкі дзёгцю. Мова ідзе пра тэрміналёгію, выкарыстаную прэзыдэнтам Польшчы Анджэем Дудам падчас прамовы ў віленскай катэдры.

## Першая недарэчнасьць

Гаворачы пра цудоўную сымфонію культур, якая гучала ў Рэчы Паспалітай на працягу 400 гадоў яе існаваньня, прэзыдэнт сказаў, што гэтую сымфонію было чуваць па-польску, па-літоўску, па-руску, на ідышы і на многіх іншых мовах — „słychać było mowę polską, litewską, ruską, jidysz i wiele innych“.

Тут дзьве недакладнасьці. Па-першае, Рэч Паспалітая ўсё ж існавала крыху больш за 200 гадоў, а не 400. Пэрсанальную Крэўскую ўнію нельга лічыць пачаткам Рэчы Паспалітай. Па-другое, на месцы згадкі пра „рускую“ мову ў XXI стагодзьдзі павінны былі стаяць „беларуская“ і „ўкраінская“.

У выніку на заўтра галоўнае інфармацыйнае агенцтва Польшчы — PAP — пераказваючы прамову Дуды, назвала згаданую Дудам у гэтым месцы „рускую“ мову „расейскай“!

## Другая недарэчнасьць

Падчас прамовы прэзыдэнт Польшчы агучыў лёзунг папярэдняга паўстаньня „За нашу і вашу свабоду“ на трох мовах — па-польску, па-літоўску і па-беларуску (!). І тут жа недарэчна заявіў, што гэты самы лёзунг быў напісаны на штандарах і ў сэрцах герояў Студзеньскага паўстаньня 1863 году па-польску, па-літоўску і па-руску — „To samo hasło na sztandarach i głęboko w sercach wypisane mieli wszyscy nasi bohaterscy bojownicy — po polsku, litewsku, rusku“.

Дык па-руску ці па-беларуску?

## Трэцяя недарэчнасьць

Згадваючы пра ўдзел татар-мусульман у супольнай барацьбе народаў былой Рэчы Паспалітай

на тэрыторыі былога ВКЛ, прэзыдэнт Польшчы сказаў, што гэтая барацьба адбывалася на Літве і Русі — „w partiach powstańczych na Litwie i Rusi, obok chrześcijan, walczyli także Tatarzy, muzułmanie od stuleci pozostający w służbie Rzeczypospolitej“.

Няма ніякай (апрача наўмысна палітычнай ці ненаўмысна недарэчнай) прычыны, выкарыстоўваць у XXI стагодзьдзі тэрміналёгію XIV–XVIII стагодзьдзяў, нават калі ў Польшчы некаторыя публіцысты называлі Беларусь „Русьсю“ аж да пачатку XX стагодзьдзя.

## Чацьвёртая недарэчнасьць

Нарэшце, характарызуючы двух лідэраў паўстаньня, труны якіх стаялі асобна ад рэшты герояў, прэзыдэнт Польшчы назваў Кастуся Каліноўскага лідэрам паўстанцаў Горадзеншчыны, будзіцелем беларускага народу да супольнай з палякамі і літоўцамі вайны за скідваньне маскоўскага ярма — „oraz Wincentego Konstantego Kalinowskiego — przywódcy powstańczej Grodzieńszczyzny, budziciela ludu białoruskiego do wspólnej z Polakami i Litwinami walki o zrzucenie moskiewskiego jarzma“.

Тут, канечне, зьвяртае на сябе ўвагу фраза „лідэр паўстанцаў Горадзеншчыны“. Гісторыя, аднак, сьведчыць пра іншае.

Кастусь Каліноўскі ў кастрычніку 1862 году ўзначаліў Літоўскі правінцыйны камітэт.

1 лютага 1863 году Каліноўскі ўзначаліў Часовы правінцыйны ўрад Літвы і Беларусі.

У сакавіку 1863 году Каліноўскага адхілілі ад пасады „белыя“ (кансэрватары, прыхільнікі шчыльнага саюзу з Польшчай) і накіравалі яго на пасаду рэвалюцыйнага камісара Горадзенскага ваяводзтва.

У жніўні 1863-га Каліноўскі вярнуўся да кіраўніцтва ўсёй узброенай барацьбой на тэрыторыі Літвы і Беларусі як старшыня Выканаўчага аддзелу Літвы.

Выбраўшы кароткі пэрыяд знаходжаньня Каліноўскага на пасадзе рэвалюцыйнага кіраўніка Горадзеншчыны, аўтары прамовы польскага прэзыдэнта зрабілі яму дрэнную паслугу.

Яны прынізілі ролю Каліноўскага ў паўстаньні і выклікалі падазрэньне, што зрабілі гэта наўмысна ў адказ на незалежніцкую рыторыку айца-заснавальніка мадэрнай Беларусі.

### Падзяка Анджэю Дуду

Гістарычна беларускі і польскі народы зьвязаны тысячамі культурных і асабовых ніцяў, а многіх дзеячоў культуры XIX стагодзьдзя мы наогул называем беларуска-польскімі.

І сёньня Польшча аказвае велізарную дапамогу дэмакратычнай Беларусі — гэта і спрыяньне НДА, і студэнцкая праграма Каліноўскага, і тэлеканал Белсат, і шмат чаго іншага.

Я думаю, што зьяўленьне ў рыторыцы найвышэйшай афіцыйнай асобы Польшчы тэрміналёгіі XIV–XVIII стагодзьдзяў — гэта прыкрая недарэчнасьць, якую дапусьцілі аўтары прамовы. Тым больш, што прамова прэзыдэнта Літвы Гітанаса Наўседы была ў гэтым сэнсе бездакорнаю.

Але нягледзячы на тэндэнцыйныя памылкі сьпічрайтэраў прамова прэзыдэнта Польшчы Анджэя Дуды ўсё роўна была прыхільнаю да Беларусі і беларусаў. Дзякуй яму за гэта!

А ці захоча ён пасьля паездкі ў Вільню зьмяніць аўтараў сваіх прамоваў — гэта ўжо яго асабістая справа як палітыка і як чалавека.

## Зьдзек з парэштак паўстанцаў: расейцы гулялі на магілах у крыкет

28 лістапада 2019

Дасьледнік тэмы паўстаньня 1863–1864 гадоў Язэп Янушкевіч у сваёй апошняй кнізе „І першым паказаўся Каліноўскі“ публікуе малавядомыя зьвесткі пра тое, як салдаты царскага гарнізону ў Вільні зьдзекаваліся з расстраляных і павешаных герояў антырасейскага супраціву.

Адзін з самых абуральных эпізодаў — пляцоўка для крыкету, абсталяваная на тагачаснай Замкавай гары проста паверх сьвежых магілаў. Дакумэнтальнае сьведчаньне гэтаму ёсьць у пляне аб'ектаў фартэцыі, а таксама на рэдкіх фатаздымках таго часу. Ад сярэдзіны 1863-га і да сакавіка 1864-га ў Вільні пакаралі сьмерцю 21 паўстанца, уключна зь іхнымі лідэрамі Каліноўскім і Серакоўскім.

Як кажа аўтар, у пачатку XIX стагодзьдзя крыкет пачаў трыюмфальнае шэсьце з Ангельшчыны па ўсім сьвеце. Паступова дабралася забава і да Расеі, дзе падавалася як „руская народная гульня“ лапта. Высокія дзяржаўныя і армейскія чыны з задавальненьнем адбівалі мячыкі спэцыяльнымі дошкамі, дэманструючы спрыт і рэакцыю.

Самая жудасная пляцоўка для „лапты“ ў 1864 годзе была разьбітая на Замкавай гары — проста на месцы брацкага пахаваньня, сьцьвярджае Язэп Янушкевіч:

— Усё адзначана на плянах: дзе стаяў дом тэлеграфіста, дзе трымалі зброю, дзе была парахаўніца. І таксама поле для крыкету — у белых фуражках расейскія афіцэры ганялі роўна па тым месцы,

дзе ня так даўно знайшлі парэшткі паплечнікаў Каліноўскага. Сыходзячы са структуры ляндшафту, гэта мне пацьвердзіў і літоўскі археоляг Валдас Сьцяпанайціс, які непасрэдна займаўся раскопкамі: ямы зь нябожчыкамі ўтрамбавалі і зрабілі поле для крыкету.

Язэп Янушкевіч у сваіх апошніх кнігах „І першым паказаўся Каліноўскі“ і „Партрэты паўстаньня“ ня толькі зрабіў экскурс у падзеі 1863–1864 гадоў, багата аздобленых архіўнымі матэрыяламі і фатаздымкамі, але і сыстэматызаваў зьвесткі пра герояў, чые біяграфіі мелі безьліч белых плямаў.

Паводле месца нараджэньня, 14 паўстанцаў паходзілі з этнічнай тэрыторыі Беларусі, 4 — з Польшчы, па адным з Украіны і Літвы (месца нараджэньня аднаго дакладна ня вызначана).

Адзіны, чые парэшткі цягам 2017–2019 гадоў ня знойдзеныя на Замкавай гары, — вікарны ксёндз Станіслаў Ішора. Ня выключана, што парэшткі выкапалі браты-дамініканцы і пахавалі ў віленскім касьцёле Сьвятога Якуба, дзе ў памяць пра сьвятара 4 чэрвеня 1933 году была асьвячаная мэмарыяльная дошка.

Ішора стаў першай ахвярай Мураўёва-вешальніка пасьля прызначэньня таго ў Вільню генэрал-губэрнатарам.

**Ina Mudracenka**

А як гэткія брыдкія паводзіны карнікаў стасуюцца з іхнай фармальнай належнасцю да хрысціянства? Мо хто з РПЦ патлумачыць, сп. Лепін, напрыклад?

**Vadim Ignatiev**

Асабіста мне цяжка паверыць, што афіцэры царскай арміі маглі сабе дазволіць такое дзікунства...

## Куды пайшлі грошы, сабраныя на пахаваньне Каліноўскага

28 лістапада 2019

Выдаткі беларускага грамадзкага камітэту на пахаваньне паўстанцаў 1863–1864 гадоў склалі 1757,61 эўра. Пра гэта сьведчыць справаздача, якую апублікаваў Эдуард Пальчыс у сваім фэйсбуку.

Колькі грошай сабралі? 2 672 эўра атрымаў Беларускі грамадзкі камітэт ушанаваньня памяці паўстанцаў з улікам камісій, канвэртацый і падаткаў. Грошы зьбіралі праз Facebook і PayPal.

Колькі грошай патрацілі? 1757,61 эўра. Выдаткі пайшлі:

562,64 эўра — на вянкі, кветкі і лямпадкі;

543 эўра — на вялікія і малыя бел-чырвона-белыя сьцягі, бел-чырвона-белую стужку і значкі;

220 эўра — на арэнду залі і апаратуры для паэтычна-гістарычнай „Містэрыі“;

90,75 эўра — на друк улётак і праграмаў;

60 эўра пайшло ў якасьці ахвяраваньняў на набажэнствы;

40 эўра — на падрыхтоўку відэа;

32,42 эўра — на транспартныя паслугі па Вільні;

60,50 эўра — на бухгальтарскія паслугі;

148,72 эўра — на дапамогу ў арганізацыі канцэрту гурту „Dzieciuki“.

Што будзе з грашыма, якія засталіся? У камітэце засталіся 913,97 эўра. Паводле Кірыла Атаманчыка, сябры камітэту вырашылі накіраваць іх на аднаўленьне некаторых беларускіх пахаваньняў на могілках Росы, а таксама на рэстаўрацыю памят-

ных шыльдаў Кастусю Каліноўскаму, Браніславу Тарашкевічу і Рыгору Шырму ў Вільні.

Што за камітэт зьбіраў грошы? У камітэт уваходзілі грамадзкія дзеячы Беларусі, прадстаўнікі беларускай дыяспары за мяжой, у тым ліку зь Вільні. Узначальваў камітэт доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук.

## „Крыважэрны Каліноўскі?“ Гісторык адказвае прэс-сакратару праваслаўнай царквы ў Беларусі

29 лістапада 2019
Васіль Герасімчык

„Тэрарызм і арганізацыя бандфармаваньняў, забойствы, катаваньні, гвалт, ну, і здрада (і гэта ўсё — ва ўмовах ваеннага часу)“, — менавіта так на сваёй старонцы ў LiveJournal Сергій Лепін характарызуе віну паўстанцаў, пакараных на тэрыторыі Беларусі, ды вінаваціць ва ўсім „крыважэрнасьць Каліноўскага“.

Кожны чалавек, кожная арганізацыя мае права на ўласную думку. Аднак нельга змаўчаць, калі яна грунтуецца на памылковых фактах, пачынаючы ад таго, што ў лік запісаных Сергіем Лепіным паўстанцаў трапілі адразу тры царскія казакі, якія паўстаньне душылі.

Гэта асуджаныя на сьмерць, як прыклад іншым салдатам, казакі Данскога 5-га Казацкага палка Ваўжынец Алаеў, Нікіфар Гнутаў, Ян Каргальскоў — „за забойства габрэя, разбой, гвалт

сялянскай дзяўчыны“. Паказальна, што ў сьпісе, зьмешчаным Сергіем Лепіным„Korgalskow“ трансфармаваўся ў „Коргальский“.

Сергію Лепіну варта зьвярнуць увагу на прыклад узгаданага ім самім сьвятара Гардзея Шчаглова, які ў трэцім выданьні сваёй кнігі перагледзеў першапачатковую выснову пра асобу таго, каго называў „галоўным віноўнікам сьмерці“ забітага праваслаўнага сьвятара Данілы Канапасевіча. Ці здольны як мінімум такую пераацэнку зрабіць Сергій Лепін у адносінах Кастуся Каліноўскага? Мяркую, што не, бо ён верыць у „крыважэрнасьць Каліноўскага“.

Пацьверджаньнем таму для яго выступае і вобраз „паплечнікаў Каліноўскага“, якія, як вынікае з тэксту Сергія Лепіна, панесьлі тое пакараньне, якога заслужылі нягледзячы на тое, што асабіста ён супраць сьмяротнага пакараньня. Але ці сапраўды ўсё так відавочна?

Сергій Лепін перапосьціў у скарочаным варыянце тэкст Алега Карповіча, надрукаваны яшчэ ў 2011 годзе і затым у 2013 годзе зьмешчаны на сайце „Западная Русь“ ды растыражаваны на іншых шматлікіх рэсурсах падобнай накіраванасьці. Ніякага аналізу сапраўднай віны асуджаных „паплечнікаў Каліноўскага“ Алег Карповіч тады не праводзіў, як ня спраўджваў і падставаў вынясеньня сьмяротных прысудаў. А якраз матэрыялы асабістых спраў дазваляюць сьцьвярджаць, што пакараньні ажыцьцяўляліся без належнай папярэдняй праверкі і ў шмат якіх выпадках грунтаваліся на асабістых, суб’ектыўных меркаваньнях віленскага генэрал-губэрнатара Міхаіла Мураўёва.

Напрыклад, асуджанаму на 11 гадоў катаргі Станіславу Адамовічу Мураўёў уласнаручна за-

мяніў пакараньне на расстрэл, што і адбылося ў чэрвені 1863 году ў Берасьці.

У шэрагу выпадкаў у справу вымушаны быў умешвацца нават імпэратар Аляксандар II, але яго памілаваньні прыходзілі „запозна“, як тое было зь Лявонам Плятэрам і Міхалам Аскеркам. Часам, праўда, Мураўёў і сам замяняў сьмяротнае пакараньне на ссылку, як тое было з Зыгмунтам Мінейкам. Але гэта каштавала 9 тысяч рублёў. А пасьля здушэньня паўстаньня ў Расейскай імпэрыі грамадзкасьць цікавіў лёс 7 млн рублёў, на якія Мураўёў фактычна абрабаваў Беларусь і Літву ў 1863–1864 гадах.

Сам віленскі генэрал-губэрнатар казаў пра абвінавачаных ва ўдзеле ў паўстаньні наступнае: „Вельмі часта саджаю іх без найменшай віны, нават падазрэньня няма, ну, у такім выпадку я заўжды вырашаю: няхай пасядзіць трохі даўжэй пад замком, быць можа, што-небудзь знойдзецца. І што вы думаеце! Быў такі шчасьлівы, што заўсёды нешта на рахунак майго самотніка знаходзілася. Ну тады падавай мне яго сюды!“

Ці паглыбляецца ў такія рэчы чалавек, які піша, што „простых удзельнікаў“ за просты ўдзел „не каралі“? Не, як ня ўзгадвае і пра тое, што пакаранага ў Навагрудку Адама Пуслоўскага асудзілі ня столькі за ўдзел у паўстаньні, да якога ён быў датычны цягам сутак, колькі за яго прозьвішча — прадстаўніка адной з найвядомейшых сем’яў на тэрыторыі колішняга Вялікага Княства Літоўскага. Адзінае, што крыху зьдзіўляе Сергія Лепіна, гэта лёс ксяндза Фалькоўскага, пакаранага ў Лідзе за прачытаньне паўстанцкага маніфэсту і заклік далучыць сялян да паўстаньня.

У тым, як чынілася „правасудзьдзе“ з боку царскіх уладаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы ў часе паўстаньня, паказальны прыклад Аляксандра Кучынскага, павешанага на падставе ўласных прызнаньняў у забойстве ў жамойцкай вёсцы Умкольні селяніна Лапукса, які, у сваю чаргу, дапамагаў уладам лавіць паўстанцаў. Пры гэтым сяляне Умкольняў адмовіліся даваць паказаньні супраць Кучынскага, які пасьля перадачы справы ў вайскова-сьледчую камісію „данное и военному начальнику показание объяснял тем, что начальник допрашивал его с пристрастием под ударами казачьих нагаек. Действительно, при осмотре в комиссии, на спине Кучинского оказалось несколько синебагровых полос, по-видимому, следов нагаек“.

У сувязі з новымі акалічнасьцямі камісія зьвярнулася па дапамогу да Мураўёва, які, „возвращая дело, предписал комиссии судить в двадцать четыре часа по имеющимся в деле данным. По приговору Кучинский был подвергнут смертной казни через повешение“. Прысуд быў прыведзены ў выкананьне 12 студзеня 1864 году.

Ці турбуюць усе гэтыя акалічнасьці Сергія Лепіна?

Зусім не, бо тут галоўнае — падкрэсьліць злачынны характар усіх прысутных у сьпісе, супрацьпаставіўшы іх забітым у большасьці выпадкаў нявызначанымі асобамі мірным жыхарам. Усяму віной называецца „крыважэрнасьць Каліноўскага“, і гэта нягледзячы на тое, што ў часе пачатку паўстанцкага тэрору, выкліканага тэрорам царскіх уладаў, Кастусь увогуле быў адхілены ад улады і займаў пасаду ўсяго толькі намесьніка кіраўніка гораду Вільні.

Яшчэ больш агідна выглядае абвінавачаньне паўстанцаў у змаганьні з праваслаўем:

„Рэлігія большасьці беларусаў — праваслаўе — цкавалася, храмы паліліся і рабаваліся, сьвятароў прыніжалі, зьбівалі, дапытвалі і забівалі. Усіх, хто быў нязгодны з парадкам дня паўстаньня і не выконваў загадаў яго кіраўніцтва, загадана было вешаць, мірныя жыхары гінулі сотнямі, і некаторыя зь іх — у неверагодных пакутах“ — піша Лепін.

Хіба ў такім разе магла існаваць „праваслаўная прысяга на вернасьць мяцяжу“, пра якую распавядае адзін з удзельнікаў здушэньня паўстаньня Аляксандар Гейнс? Ці маглі б у такім разе 14 праваслаўных сьвятароў узяць удзел у паўстаньні? Ці тыя чатыры прадстаўнікі духавенства Жыровіцкага манастыра, якія ў ліку касінераў на чале з Валерыем Урублеўскім змагаліся ў бітве пад Мілавідамі, у тым ліку 19-гадовы Іван Шышко зь вёскі Добрая Воля Ваўкавыскага павету, што служыў пры жыровіцкім архімандрыту?

А тысячы іншых удзельнікаў паўстаньня, праваслаўных паводле веравызнаньня, для якіх у выніку свая канфэсія стала паратункам ад зьняволеньня, бо кіраўніцтва імпэрыі зрабіла стаўку на раскручваньне вобразу „ксёндза-шляхецкага мяцяжу“ і праваслаўныя паўстанцы таму былі перашкодай?

Можа, на тое паўплывала і прапаганда вяртаньня да ўніяцтва, скасаванага ўсяго 25 гадоў да таго, пра што сьведчылі ўлады? Нават зьявілася частка паўстанцаў, якіх характарызавалі як „сыны ўніяцкіх сьвятароў“, залічваючы да іх і радню сьвятароў праваслаўных? Ці не таму пасьля ўвядзеньня ў Расейскай імпэрыі ў 1905 годзе ўказу аб верацярпімасьці толькі ў адной Віцебскай губэрні цягам

1905–1906 гадоў адбылося 3020 выпадкаў „совращения в католицизм православных“?

Пытаньняў шмат, і яны застаюцца, бо паўстаньне 1863–1864 гадоў у сучаснай Беларусі ня мае суцэльнага канцэптуальнага выданьня, якое расставіла б усе кропкі над „і“.

Пры гэтым нягледзячы на зьняважлівыя заўвагі Сергія Лепіна адносна Кастуся Каліноўскага гэтая сытуацыя выглядае цяпер відавочнай, пра што сьведчыць „Гісторыя беларускай дзяржаўнасьці“:

„Ужо ў ходзе паўстаньня К. Каліноўскі дэкляраваў ідэю пра палітычную суб’ектнасьць Беларусі ў адносінах з Расеяй і Польшчай. Аб гэтым сьведчыць і зварот-пароль паўстанцаў: „Каго любіш?“, водгук — „Люблю Беларусь!“, далей: „То ўзаемна“... У „Лістах з-пад шыбеніцы“ К. Каліноўскі напоўніў сэнсам беларускую нацыянальную ідэю, якая нарадзілася ў полымі вызваленчага руху.

Яго заклік змагацца „за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную“ і стаў нацыянальнай ідэяй беларусаў XIX — пачатку XX ст.“.

Гэта пацьвердзіў у сваім выступленьні 22 лістапада на ўрачыстасьцях у Вільні і віцэ-прэм’ер Ігар Петрышэнка. Можа, таму так эмацыйна загучаў пост старшыні Сынадальнага інфармацыйнага аддзелу Беларускай праваслаўнай царквы?

**Владимир Сельвесюк**

Все просто. Лепин представитель имперской РПЦ. Они будут делать все, чтобы скомпроментировать людей, боровшихся за независимость Белорусского государства. И переписывать историю на свой лад и агитировать верующих за объединеие. Святая для них лишь имперская Россия. И бога не боятся. Потому что ложь — это большой грех.

**Alexander Muzaliov**

А где захоронен муравьёв-вешатель, где подлая его могила?

**Taresa Paszkiewicz**

Усё даволі проста: Лепін выконвае загад сваіх маскоўскіх гаспадароў. Ні больш, ні менш. Гэта яшчэ адзін прыклад таго, як прадаецца сумленне. Але чаму няма боязі Божай у гэтых служкаў Хрыста , мне не зразумела.

**Пётра Садоўскі**

Я вельмі расчараваны звераватымі пасажамі сп. Лепіна. Гадоў 20 таму я ўпершыню прачытаў ягоныя тэксты ў 2-тамовіку матэрыялаў Кірыла-Мефодзіўскіх чытанняў, якія мне падараваў Мітрапаліт Філарэт, мой сусед злева ў зале пленарных пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Не магу зараз цытаваць, бо аддаў зборнік свайму пляменніку, які меў няшчасце паступіць на тэалягічны факультэт БДУ, пакуль той не пачаў траціць сваё тэалягічнае аблічча. У зборніку дакладаў сп. Лепін быў самым цікавым аўтарам. Пісаў, як экуменіст, заклікаючы беларускіх царкоўных дзеячоў чытаць кніжкі сваіх заходніх калег, не замыкацца ў асобай місіі праваслаўя, не разглядаць працу з вернікамі іншых канфесій і неўцаркоўленых грамадзян як пэўную праяву празалетызму і г. д. Як час мяняе людзей!

**Андрэй Мядзведзеў**

Там жа „зубкі экзархавых фаварытаў“ тырчаць у япархіі! То цалкам зразумела, што, каб і Лепін не пайшоў наўздагон за Шрамко, і ён мусіць „па-воўчы выць“.

**Ina Mudracenka**

На ролю крыважэрных знішчальнікаў праваслаўных вернікаў і святароў найболей пасуюць іншыя асобы, што шануюцца цяперашнім рэжымам — Ленін і Дзяржынскі, напрыклад. Помнікамі гэтым катам застаўлена ўся Беларусь. Толькі гэта чамусьці не выклікае справядлівага абурэння сп. Лепіна, А допісы такога кшталту сведчаць пра тое, што праваслаўная царква ў нашай краіне больш расейская, чым беларуская. Скажы мне, хто твой герой…

**Uładzimir Palivač**

Які народ — такая і царква. Сёння так, а не як некалі (каков поп — таков і приход).

**Vadim Ignatiev**

Праваслаўная царква больш прыўладная! Калі мець на ўвазе яе іерархаў. Калі б Лукашэнка цыкнуў на іх, дык былі б рахманыя, як тыя цяляты. Мо гэты святар агучвае і яго пазіцыю.Таму і статуй Леніна тырчыць, як бяльмо, на плошчы. А Лукашэнка глядзіць на электарат, якому да лямпачкі страсці па гісторыі з геаграфіяй, абы бянзіна не даражэла…

## Дасьледчык Вячаслаў Шалькевіч: „Лістоў з-пад шыбеніцы“ было значна больш, чым тры вядомыя сёньня

29 лістапада 2019
Сяргей Абламейка

Аўтар кнігі „Кастусь Калиновский. Страницы биографии“ (Мн. 1988) доктар філязофскіх навук Вячаслаў Шалькевіч у інтэрвію Радыё Свабода расказвае пра вынікі сваіх шматгадовых пошукаў спадчыны Каліноўскага і пра сваю новую кнігу аб ім.

— Ці лічыце вы, што ў біяграфіі і спадчыне Каліноўскага яшчэ ня ўсё знойдзена і яшчэ ня ўсё сказана?

— Так, лічу. Справа ў тым, што ў жыцьці Кастуся Каліноўскага былі розныя пэрыяды, ён жыў у розных месцах, і шмат з таго, што яго атачала, захавалася.

Калі я быў маладым чалавекам, я хацеў знайсьці хоць адну кнігу зь бібліятэкі Сьвіслацкай гімназіі. Гэтую бібліятэку перавялі ў Шаўлі, я так туды і не дабраўся.

Каліноўскі жыў у Санкт-Пецярбургу каля пяці гадоў. І вось яны з братам Віктарам стварылі сваю бібліятэку. Віктар зарабляў тым, што перапісваў старыя манускрыпты ў бібліятэцы. У часе жыцьця ў Пецярбургу Кастусь Каліноўскі быў вельмі веруючым чалавекам, рэгулярна хадзіў у касьцёл. Магчыма, пра яго ёсьць нешта недзе і ў касьцельных архівах.

Іншы этап жыцьця — падрыхтоўка паўстаньня. У нас было тады шэсьць губэрняў — Віленская, Ковенская, Горадзенская, Менская, Магілёўская і Віцебская. Чатыры першыя называліся літоўскімі, дзьве апошнія — беларускімі. Самы вялікі паўстанцкі рух назіраўся ў літоўскіх губэрнях. У Горадні і Менску было неверагодна моцна. Менск быў адным з самых значных цэнтраў паўстаньня. У Магілёве трошку было. Тады ўся перапіска вялася яшчэ на польскай мове — і з Варшавай, і інструкцыі, і загады.

Каліноўскі, вядома, арганізаваў Літоўскі правінцыйны камітэт. Але думкі яго былі зусім не такія, каб падпарадкоўвацца Варшаве заўсёды і ўсюды. Падчас паўстаньня ён стаў другі раз на чале ўраду ў чэрвені 1863 году і кіраваў урадам 6 месяцаў да свайго арышту. І вось тут ён пачаў праводзіць палітыку, якая зусім не падабалася Варшаве. І якраз у гэты пэрыяд паўстанцкая дакумэнтацыя пачала весьціся па-беларуску. Вядома, ня ўся. З Варшавай трэба было перапісвацца па-польску. Але ўвядзеньне беларускай мовы вельмі занепакоіла Варшаву.

Вось тыя шэсьць месяцаў — гэта зорны час Каліноўскага. Тады нарадзілася (а больш дакладна — была сфармуляваная Каліноўскім) беларуская нацыянальная ідэя. Сутнасьць яе вось у чым: стварыць на беларускай зямлі найбольш спрыяльныя ўмовы (палітычныя, гаспадарчыя і духоўныя) для самадзейнасьці, разьвіцьця і росту беларускай нацыі. І вось гэтыя шэсьць месяцаў — менавіта тое, што Каліноўскі рабіў у гэты час — амаль не дасьледаваныя.

Яшчэ раз паўтараю: менавіта гэтыя шэсьць месяцаў — лета і восень 1863 году — гэта зорны час палітычнай думкі і палітычнай дзейнасьці Каліноўскага. Ён ня толькі сфармуляваў беларускую ідэю, ён пачаў ствараць беларускі ўрад такім чынам, каб адпавядаць задачам дня. Дакумэнтаў таго часу мала знойдзена, але яны павінны недзе быць.

— Як бы вы адказалі тым, хто называе Каліноўскага палякам, які толькі з тактычных меркаваньняў карыстаўся беларускай мовай і зьвяртаўся на ёй да беларускіх сялян?

— Гэта думка графа Міхаіла Мураўёва. Паколькі яны стварылі Віленскую палітычную па асаблівых справах камісію для пакараньня паўстанцаў, то стараліся не адшукаць сапраўдныя прычыны паўстаньня, сапраўдныя матывы і мэты Каліноўскага, але стараліся найперш паўстанцаў пакараць.

Паколькі дакумэнтацыя паўстаньня была пераважна польскамоўная, значыць, і паўстаньне — польскае. Гэта думка Мураўёва-вешальніка. Таму і Каліноўскага яны абвясьцілі палякам, польскім рэвалюцыянэрам.

Галоўная памылка ў тым, што ні Мураўёў, ні яго памагатыя ня бачылі беларускай нацыі, якая ўдзе-

льнічала ў паўстаньні і паступова сфармулявала ў ім свой парадак дня, свае патрэбы — палітычныя, гаспадарчыя і духоўныя. Яны папросту да гэтага не дайшлі. Для іх галоўнае было пакараць і ня даць гэтай зямлі адарвацца ад Расейскай імпэрыі.

Каліноўскі — гэта вызнаўца рамантызму. Спачатку ўзьнікае культурны рамантызм у форме інтарэсу да сваёй культуры, побыту, фальклёру і так далей. А наступны этап — палітычны рамантызм. І вось наш Кастусь Каліноўскі быў палітычным рамантыкам, бо дбаў пра свой народ і сваю нацыю, чаго ня ўбачыў Мураўёў. Каліноўскі выкарыстаў гэты рух, асягнуў яго, каб падняць гэтыя мэты.

Ужо Ластоўскі і яго пасьлядоўнікі паглядзелі на гэта зусім па-іншаму. Таму існуе дзьве гістарыяграфіі паўстаньня: мураўёўска-ратчаўская, якая ідзе ад публікацый Мураўёва, Ратча, Гогеля і іншых, што глядзелі на паўстаньне як на польскае. А іншая гістарыяграфія глядзіць на паўстаньне як на беларускае нацыянальнае паўстаньне, нацыянальны рух, які ставіў перад сабой мэту рэалізацыі беларускай нацыянальнай ідэі. І гэта абсалютна правільна.

Але па часе першаю паўстала мураўёўская гістарыяграфія — успаміны Мураўёва, кніга Ратча, пасьля Гогеля — усё гэта зьявілася ўжо ў 60-я гады XIX стагодзьдзя. А Ластоўскі пачаў пісаць ужо ў гады Першай сусьветнай вайны, а яго пасьлядоўнікі далучыліся яшчэ пазьней. Гэта Адам Станкевіч, Генадзь Кісялёў, Уладзімер Конан і іншыя.

Уявіце сабе — чалавек чакае сьмерці і піша на роднай беларускай мове!

Ён жа мог і па-польску пісаць, але піша па-беларуску публіцыстычныя творы і верш „Марыська чарнаброва, галубка мая“.

— Вы сказалі, што нас яшчэ чакаюць новыя адкрыцьці спадчыны Каліноўскага. Якога характару гэта могуць быць дакумэнты?

— Тут важна сказаць, што ня ўсё з таго, што напісаў Каліноўскі па-беларуску, знойдзена. У мяне ёсьць успаміны асобы, якая добра тую эпоху ведала і якая сьведчыць, што ня ўсё, што Каліноўскі напісаў, сёньня нам вядома. Гэтая асоба напісала, што толькі частку з таго, што пісаў Каліноўскі за паўтара месяца, што ішло сьледзтва, яму ўдалося перадаць на волю.

Я знайшоў у Польшчы рукапіс успамінаў асобы, якая ўсе вядомыя рукапісы Каліноўскага прапусьціла праз свае рукі. Так што Кастусь перадаў толькі частку таго, што напісаў, а другую частку забралі сьледчыя — рознымі спосабамі, але яны гэта ў яго забралі.

Забраная частка невядома дзе. Можа ў паперах Мураўёва, можа ў Ратча, можа ў Гогеля.

Было ня тры „Лісты з-пад шыбеніцы“, было больш. І ў Парыжы надрукавалі толькі частку з таго, што вывезьлі зь Вільні. Я якраз над гэтым працую. Трэба шукаць у Францыі, у Польшчы, трэба туды ехаць.

— Дык можа варта як найхутчэй успаміны той асобы, якія вы знайшлі, перакласьці на беларускую мову і апублікаваць?

— Я думаю над гэтым. Яны знаходзяцца ва Ўроцлаве ў бібліятэцы Асалінскіх. Асоба, якая напісала гэтыя ўспаміны, была вельмі блізкаю да Кастуся Каліноўскага. Гэта родная сястра яго нарачонай Марысі Ямант.

— Няўжо Людвіка?

— Так, Людвіка.

— У нядзелю, 24 лістапада, я быў на яе магіле на могілках Росы ў Вільні.

— Значыць, яна там пахаваная?! Бачыце, а я шукаў яе магілу ў Варшаве, яна там жыла пасьля вызваленьня. Вось як бывае! Яе ўспаміны былі ў Лодзі, у сваякоў, а ў 1953 годзе іх купіла бібліятэка. І вось я іх упершыню прачытаў. Яна, бедная, пісала іх на польскай мове, хаця любіла беларускую... Марыська чарнаброва — гэта яе сястра. Я маю поўную копію яе рукапісных успамінаў.

Там вельмі цікавыя падрабязнасьці функцыянаваньня канспірацыйнай пошты. Напрыклад, трэба было плаціць вялікія грошы і г. д.

— Вы маеце на ўвазе перапіску паміж турмой і воляй?

— Так, так, калі Каліноўскі перапісваўся зь людзьмі на волі, знаходзячыся ў зьняволеньні. Гэта такі агульны сшытак, цалкам сьпісаны. Людвіка Ямант — гэта выдатная асоба, яна была пасьля забытая ўсімі, хаця раней шмат каму дапамагала.

— Вядома, што вы цяпер працуеце над новай кнігай пра Каліноўскага. Што гэта будзе?

— Гэта кніга пад назвай „Велічны помнік беларускага рамантызму“. Падзагаловак — „Нататкі аб вершы «Марыська чарнаброва, галубка мая»“. Кніга складаецца зь пяці разьдзелаў.

Гэта здаецца, што пра адзін верш можна напісаць мала. Не, гэта цэлая старонка жыцьця Каліноўскага ў зьняволеньні. Я напісаў пра гэта кнігу.

— А вы спрабавалі шукаць невядомую спадчыну Каліноўскага?

— У сваіх успамінах Людвіка Радзевіч зь Ямантаў піша, што частка беларускамоўнай спадчыны Каліноўскага засталася ў сьледчай камісіі. Значы-

ць, паперы маглі быць у архіве або Мураўёва, або Ратча, або Гогеля.

Мне здаецца, што гэтую спадчыну Каліноўскага хацеў выкарыстаць Гогель, ён жа сам паходзіў з Магілёва. Ён старэйшы за Каліноўскага толькі на два гады, зрабіў на гэтай справе кар'еру, апублікаваў дзьве кнігі пра паўстаньне.

Мне здаецца, што ён хацеў пісаць пра Каліноўскага асобную кнігу. Але ён памёр у вельмі маладым узросьце.

— Што вам удалося знайсьці падчас пошукаў спадчыны Каліноўскага?

— Пра невядомы верш Кастуся Каліноўскага, які быў перад Другой сусьветнай вайной у распараджэньні польскага гісторыка беларускага паходжаньня Генрыка Масьціцкага.

А там быў і другі паэт, паплечнік Каліноўскага. Гэта Фэлікс Ражанскі. Ён напісаў „Маршавую песьню беларускіх паўстанцаў“. Я не магу на памяць яе вам прадыктаваць, але гэты верш існуе. Гэта маршавая песьня, і яе сьпявалі ўсе атрады беларускага апалчэньня. З тэксту адразу відаць, што гэта піша не паляк. Я магу па памяці прывесьці два радкі:

*Гэй-га, разам, хлопцы,*
*Гэй-га, мы малойцы...*

Далей, на жаль, ня памятаю, але ў наступных радках гаворыцца, што „мы — беларусы“, але разам з палякамі змагаемся за нашу вольнасьць. Гэтая песьня складалася прыкладна з 12–16 радкоў.

Так што маем ня толькі другі верш Каліноўскага — вялікага рамантыка часоў паўстаньня, але і верш ягонага паплечніка Фэлікса Ражанскага.

— На заканчэньне пытаньне пра вашага калегу. Як вы ацэньваеце „каліноўсказнаўчую“ працу Генадзя Кісялёва?

— Генадзь Васілевіч — гэта сьветлы чалавек, чалавек, які сьвеціцца. У нас былі філяматы і філярэты ў часы Міцкевіча. Філямат — гэта чалавек, які любіць навукі і наогул любіць, у самым шырокім сэнсе. А філярэт — гэта той, хто сьвеціцца, хто хоча зрабіць гэты сьвет больш маляўнічым і сьветлым. Вось такім быў Генадзь Кісялёў.

Пасьля вайны ў Маскве і Варшаве выходзіў збор дакумэнтаў „Паўстаньне 1863 году. Матэрыялы і дакументы“. Выйшла каля 25 тамоў. І вось два зь іх уклаў Генадзь Кісялёў. Першы называўся „Рэвалюцыйны уздым у Беларусі напярэдадні паўстаньня 1863 году“. Ня памятаю, колькі дакладна старонак — можа 600, можа 900. А другі — „Паўстаньне 1863 году. Матэрыялы і дакумэнты“. І вось там была апублікаваная „Мужыцкая праўда“ і іншыя матэрыялы з часоў паўстаньня.

Тое, што зрабіў Генадзь Васілевіч, робяць цэлыя інстытуты. Дый тое цяпер ужо ня робяць, чакаюць, пакуль нехта іншы зробіць.

Таму ўклад Генадзя Васілевіча непараўнальны ні з кім з гісторыкаў, якія працавалі над тэмай паўстаньня 1863 году ў Беларусі і Літве і над тэмай Кастуся Каліноўскага.

Я б назваў Генадзя Васілевіча Кісялёва клясыкам беларускай гістарычнай навукі XX стагодзьдзя.

**Stanislau Rudovich**

Глыбокапаважаны Вячаслаў Феліксавіч, я вельмі рады даведацца, што Вы працягваеце навуковую дзейнасць. Бо было шчыра шкада, калі здавалася, што Вы ад гэтай працы адыйшлі. Добра памятаю, што дзякуючы менавіта

Вам і светлай памяці Генадзю Васілевічу Кісялёву тэма Каліноўскага і ўвогуле паўстання 1863-64 гг. сталася годна пададзенай у шматлікіх тамах Энцыклапедыі гісторыі Беларусі. Сённяшняе Ваша сенсацыйнае інтэрв'ю сведчыць, што Вы па-ранейшаму ў выдатнай творчай форме. Новых Вам навуковых здабыткаў і добрага здароўя на доўгія гады — на радасць Вашым блізкім і ўсім, хто шануе беларускую гісторыю і яе герояў.

## Кіраўнік БТ: Каліноўскага ставяць у супрацьвагу сёньняшняй Беларусі

30 лістапада 2019

Кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі выказаўся пра пахаваньне Каліноўскага і іншых паўстанцаў у Вільні. На думку Івана Эйсманта „асобу Каліноўскага выкарыстоўваюць для расколу“.

У перадачы „Клюб рэдактараў“ Іван Эйсмант сказаў:

„Ён [Каліноўскі] цяпер выкарыстоўваецца як інструмэнт расколу. Дзяржава прызнае заслугі Каліноўскага. Віцэ-прэм'ер паехаў на цырымонію. У нас вуліцы называюць яго прозьвішчам. Але яго дэманстратыўна кладуць пад бел-чырвона-белы сьцяг. Дэманстратыўна ставяць у супрацьвагу цяперашняй дзяржаве і цяперашняй Беларусі. Такім чынам расколваюць сытуацыю“, — сказаў Іван Эйсмант.

Журналісты дзяржаўнага тэлебачаньня і інфармацыйнага агенцтва БелТА праігнаравалі ў сваіх рэпартажах з пахаваньня Каліноўскага ды іншых паўстанцаў бел-чырвона-белыя сьцягі. Іх проста не было ні на фатаздымках, ні ў тэлесюжэтах.

## Гераіні 1863-га

1 сьнежня 2019
Уладзімер Арлоў

„Якая маці, сястра, жонка, сяброўка, каханая, дачка ня знойдзе шляху да сэрца мужчыны, што яе любіць? Натхніце ж іх! Запаліце агнём! Спыніце свае забавы і дарагія задавальненьні! Айчына патрабуе помсты і малітваў, ахвяраваньняў на зброю і на справу паўстаньня“.

Гэтыя словы гучалі ў паўстанцкай адозьве „Да ліцьвінак і русінак!“. Але і без гарачых заклікаў жанчыны, як маглі, дапамагалі каліноўцам. Так было і ў часе вызвольнага паўстаньня 1831-га, калі графіня Эмілія Плятэр і дзясяткі патрыётак поплеч з мужчынамі змагаліся з расейскімі карнікамі са зброяй у руках. Можна выказаць здагадку, што ў 1863–1864 гадах дзейнічаў няпісаны загад, які не дазваляў жанчынам удзельнічаць непасрэдна ў баях, аднак ліцьвінкі-беларускі ўсё адно змагаліся, рызыкавалі, пакутавалі.

Дакумэнты, складзеныя імпэрскімі сьледчымі, паведамляюць, што яшчэ да паўстаньня многія нашы суайчыньніцы насілі „рэвалюцыйныя знакі і адзеньне“ і сьпявалі забароненыя патрыятычныя гімны і песьні. Такія сьпевы шмат разоў гучалі ў Менскім катэдральным касьцёле Дзевы Марыі, у храмах Навагрудку, Мазыра, Пінску, Рэчыцы, Полацку, па ўсім абшары былога Вялікага Княства Літоўскага.

Ствараліся цэлыя вандроўныя групы жанчын-запявалаў, якія пасьля набажэнстваў распачыналі сапраўдныя канцэрты з забароненых песьняў. Вядома,

што за гэтае „злачынства“ былі пакараныя сьпявачкі Вітольда Гувальт з Алінай Белавескай з Гомельскага павету і дзясяткі іхніх аднадумніц. Грашовую кару за патрыятычныя песьні атрымала сястра нарачонай Кастуся Каліноўскага Марыі Ямант — Людвіка, высланая пазьней у Разанскую губэрню.

На знак салідарнасьці з паўстанцамі і жалобы па палеглых шляхцянкі насілі вопратку, капялюшыкі і парасоны чорнага, белага і фіялетавага колераў. Разьятраныя расейскія ўлады забаранілі любыя жалобныя знакі і абкладалі парушальніц вялікімі штрафамі.

Шляхцянку Амалію Лашкевіч абвінавацілі ў тым, што яна пашыла сабе нацыянальны ўбор і фіранкі непажаданых белага і чырвонага колераў. Марыю Ульянаўскую судзілі за „крамольныя“ песьні і за частаваньне ў дзень свайго нараджэньня сялян — таемных уніятаў, што адмаўляліся прымаць праваслаўную веру.

Царскім служкам не падабалася ўжо тое, што дзяўчаты і кабеты „асаблівым чынам падстрыгалі сабе валасы“. У Кацярыны Шалюты адабралі ўсю маёмасьць за распаўсюд антыўрадавых вершаў і ўлётак. Шляхцянка Ванда Беліковіч родам зь Віцебскай губэрні паклала ў труну мужу-паўстанцу сваё фота і была за гэта пакараная 300-рублёвым штрафам (столькі плацілі за год турэмнаму наглядчыку).

Жанчыны былі кур’еркамі, выведніцамі, захоўвалі зброю і порах, забясьпечвалі ваяроў правіянтам. За такую дзейнасьць Ізабэлу Цеханавецкую суд у Магілёве адправіў на высылку пад Варонеж. Турма чакала Алімпіяду Каплінскую з Барысаўскага павету, Юльляну Алендзкую зь Сеньненскага.

На Сеньненшчыне знаходзіўся і маёнтак Канстантова, што стаў адным з апорных пунктаў падрыхтоўкі паўстаньня ў Магілёўскай губэрні. Уладальніцамі маёнтку былі Алімпія Сьвентарэцкая і яе дачка Юзэфа. Арыштаваных жандарамі патрыётак выслалі ў Пермскую губэрню. Там Юзэфа выйшла замуж за ссыльнага Яўхіма Абазерскага, а пазьней напісала пра той час успаміны „Пакутніцкія гады“.

Надзейнай сувязной стала ў 1863-м пляменьніца мастака Напалеона Орды і сама таленавітая мастачка Алена Скірмунт. Расейскія судзьдзі пастанавілі разлучыць яе з мужам і дзецьмі, выслаўшы ў далёкі глухі Тамбоў.

Наогул, паводле няпоўных зьвестак, сярод асуджаных на высылку за ўдзел у паўстаньні або за ягоную падтрымку кожнаю дзясятаю была жанчына.

Нашы мужныя жанчыны былі сёстрамі міласэрнасьці ў нелегальных шпіталях, давалі прытулак параненым. Яны наймаліся на працу ў турмы, дзе разносілі ежу і пошту, мылі зьняволеным паўстанцам бялізну, падтрымлівалі іхні дух размовамі.

Будучая слынная пісьменьніца Эліза Ажэшка хавала ў сябе генэрала Рамуальда Траўгута, якога пад выглядам сваяка вынаходліва пераправіла ў Варшаву.

Гераізмам, ахвярнасьцю, самаадданасьцю вызначыліся ў той час дачка пісьменьніка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — Каміла Марцінкевіч, жонка Зыгмунта Серакоўскага — Апалёнія з роду Далеўскіх, нарачоная Кастуся Каліноўскага — Марыя Ямант. Пра кожную зь іх вы прачытаеце ў кнізе асобны аповед.

Вечная слава нашым гераіням!

*P.S. Дадатковыя зьвесткі пра ўдзел жанчын у змаганьні можна знайсьці ў кнізе: А. Фарыновіч. Паўстаньне 1863–1864 гг. Вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў. Мн., Беларуская навука. 2013 , а таксама ў артыкуле: Алена Фарыновіч. Роля жанчын у паўстаньні 1863–1864 гадоў на тэрыторыі Беларусі. Часопіс „Arche“, № 12 (111), 2011 г.*

## „Ані літоўцы, ані беларусы ня кралі ў Польшчы ніякіх герояў“, — польская тэлевядоўца

5 сьнежня 2019

На сайце Польскай тэлевізіі апублікаваны артыкул „Ані літоўцы, ані беларусы нічога ў палякаў ня кралі“. Яго аўтарка, журналістка Мар'я Пшэломец, адказвае на артыкул, які зьявіўся на сайце TVP 22 лістапада.

У тэксьце пад назвай „Пахаваньне Арла і Пагоні. Як Літва і Беларусь забралі ў Польшчы герояў“ аўтар Кшыштаф Звалінскі, называючы Кастуся Каліноўскага перарobленым у беларуса палякам, пісаў:

„...былым малодшым братам спатрэбілася захады зь Серакаўскасамі і культам Каліноўскага, каб яны не адчувалі пагрозы сваёй ідэнтычнасьці. Малады нацыяналізм непісьменных да нядаўняга часу народаў мусіў змагацца з памяцьцю аб элітах, бо яны былі польскімі. Насуперак усяму, што было польскім, фармавалася нацыянальная сьвядомасьць у Літве, Беларусі і Ўкраіне“.

Паводле Мар’і Пшэломец, ужо толькі назва артыкулу сьведчыць, што аўтар „не разумее, чым была Рэч Паспалітая Абодвух Народаў“.

„Найперш ён не разумее, чым цяпер ёсьць для народаў, якія калісьці яе стваралі, спадчына дзяржавы, узьніклай дзякуючы добрай волі «вольных, роўных і шанаваных»: літоўцаў, прадстаўленых дынастыяй Ягайлавічаў, палякаў, чыя каралева Ядвіга хрысьціла Літву і якія прынялі літоўскіх баяраў пад свае гербы, адначасова пагадзіўшыся на асобнасьць Вялікага Княства (уласны бюджэт і войска), і нарэшце продкаў сёньняшніх беларусаў, мова якіх была афіцыйнай у Літве. Рэч Паспалітая — гэта ня Польшча, гэта зьвяз Літвы і Кароны“, — піша Пшэломец.

Аўтару артыкулу „Пахаваньне Арла і Пагоні“, які сьцьвярджаў, што шляхта ў ВКЛ лічыла сябе палякамі, тэлевядоўца тлумачыць, што сама шляхта заўсёды падкрэсьлівала сваю сувязь менавіта зь Літвой, а ня Польскай Каронай.

„Ані літоўцы, ані беларусы нікога ў палякаў ня скралі. Зыгмунт Серакоўскі і Кастусь Каліноўскі — нашыя супольныя героі. На іхных магільных табліцах трохмоўныя надпісы, і ўсе тры народы маюць права лічыць іх сваімі. Роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі...“

Аўтарка лічыць, што абодвум паўстанцкім лідэрам прасьцей было з зразумець сучасны літоўскі або беларускі наратыў, разам зь літоўскай формай прозьвішча Серакаўскас ці беларускай — Каліноўскі, чым крык „Рукі прэч, нацыяналістычныя «малодшыя браты», ад нашых польскіх герояў!“

Пшэломец піша, што 22 лістапада Вільня „патанала ў сьцягах Літвы і бел-чырвона-белых сьцягах

незалежнай Беларусі. Польскія сьцягі былі амаль ня бачныя“.

„У гэтым кантэксьце варта спытацца: хто хавае Арла і Пагоню?“, — гэтымі словамі тэлевядоўца Мар’я Пшэломец завяршае артыкул на сайце Польскай тэлевізіі.

Марыя Пшэломец — былая карэспандэнтка Бі-Бі-Сі ў Польшчы, цяпер журналістка TVP. Вучылася на факультэце гісторыі Ягелёнскага ўнівэрсытэту. Займаецца тэматыкай, зьвязанай з краінамі былога СССР. Ад 2007 году вядзе ўласную перадачу Studio Wschód.

## Беларускае „Слова 2019 году“ — Каліноўскі

5 сьнежня 2019
Вінцук Вячорка

Сьнежань — пара вызначаць беларускае „Слова 2019 году“. Але перш агледзімся на сьвет.

### Недзе трывога і хаос…

Рэдактары Оксфардзкіх слоўнікаў выбралі ангельскім „словам 2019 году“ выраз climate emergency — ‘кліматычная трывога’. Можна зразумець чаму: глябальную ангельскамоўную інфармацыйную прастору сёлета запоўнілі палымяныя прамовы швэдзкай дзяўчынкі Ґрэты, барацьбіткі з глябальным пацяпленьнем. І глябальны рэсурс Dictionary.com вызначыў словам году прыметнік existential — ‘экзыстэнцыйны’, зьвязаны з існаваньнем і пагрозамі яму.

А Таварыства нямецкай мовы (Вісбадэн) выбрала сапраўды новае слова: Respektrente, кампазыт назоўнікаў Respekt і Rente ‘пэнсія’: дыскусія пра годную чалавека пэнсію ішла ў Нямеччыне ўвесь год. На другім месцы рэйтынгу таксама нэалягізм — Rollerchaos, які ахапіў Нямеччыну, калі ўзаконілі электрасамакаты.

Выбар „словаў году“ для розных моваў сьвету працягваецца.

### ...А ў нас — Каліноўскі!

Сёлета ў кароткі сьпіс, укладзены журналістамі і скарочаны да пяці словаў галасаваньнем у спэцыялізаванай моўнай суполцы фэйсбуку „Толькі пра мову“, увайшлі аншлюс, Вільня, інтэграцыя, Каліноўскі, крыжалом.

За гэтую пяцёрку канчаткова і прагаласавалі чытачы свабодаўскіх каналаў і групаў у фэйсбуку, Укантакце, інстаграме, тэлеграме. Вынік амаль усюды падобны, а ў тэлеграме і Ўкантакце (дзе сумарна прагаласавалі 5999 чалавек) практычна ідэнтычны, таму карэктна аб’яднаць галасаваньне ў гэтых дзьвюх сетках:

Каліноўскі 3180 (54,7%)
Інтэграцыя 1569 (26,2%)
Крыжалом 473 (7,9%)
Аншлюс 449 (7,5%)
Вільня 328 (5,5%)

Абсалютна пераважала імя Каліноўскі і ў галасаваньні ўдзельнікаў інстаграму, і ў суполцы „Толькі пра мову“. У агульнай свабодаўскай суполцы ФБ, дзе галасавалі не ў табліцы, а ў камэнтарах, з 62 чалавек 25 выказаліся за слова незалежнасьць,

прапанаванае ўдзельнікамі. (Летась яно ўжо было ў пяцёрцы.)

### Чаму Каліноўскі

„Словам году“ мы дамовіліся выбіраць або зусім новае для беларускай мовы слова, або слова, якое істотна зьмяніла (дапоўніла) сваё значэньне і зьвязана з чымсьці вельмі важным сёлета.

Вось жа слова Каліноўскі сёлета і зрабілася вельмі важным для многіх беларусаў, і напоўнілася новым зьместам. Цяпер імя вялікага пратапляста новага беларускага нацыянальнага руху — ня толькі сымбаль. Цяпер мы ведаем, дзе Каліноўскі пасьля належнага зь ім разьвітаньня годна спачывае, і месца гэтае падпісана па-беларуску. І вяртаньне Каліноўскага адбылося на дзіва своечасова.

### Адкуль паходзіць

Прозьвішча Каліноўскі, ужытае без асабовага імя, для беларуса не вымагае ўдакладненьня. Гэта (а таксама сёлетнія падзеі) яшчэ ў 1970-я прадбачыў Алесь Разанаў у вершы „Арышт Кастуся Каліноўскага“:

*Заўжды — адзін адказ,*
*утойваньне... зьмяншэньне...*
*Але прыходзіць час*
*імя і ўваскрашэньня.*
*Усе ніты ў сувой,*
*у заклік пагалоскі*
*зьяднаць —*
*і стаць сабой!..*
*Як зваць вас?*
*Каліноўскі.*

Слова-імя Каліноўскі мае сваё словаўтваральнае гняздо. Паплечнікаў Каліноўскага і прадаўжальнікаў ягонае місіі пазьнейшай пары больш традыцыйна завём каліноўшчыкамі (так Караткевіч называў, напрыклад, паўстанца Міхала Цюндзявіцкага, а ў Другую сусьветную вайну ў складзе беларускага супраціву былі аддзелы „каліноўшчыкаў“). Зьявілася і слова каліноўцы, яго аўтарства прыпісваюць Рыгору Барадуліну („Лінія перамены дат“, 1965).

## Годнае месца ў мове

Бальшыня беларускіх (а таксама польскіх, украінскіх) прозьвішчаў з суфіксам -ск- утварыліся ад назваў паселішчаў. Ці то валодаў продак сядзібай, ці проста родам адтуль. Лічыцца, што Амбражэй, сын Самуэля, пачынальнік той галіны Каліноўскіх, да якой Вінцэнт Канстанты — Кастусь — належыць, купіў у XVII стагодзьдзі на Бельшчыне маёнтак Калінаў. Зрэшты, і герб радзінны — Калінова.

Тапонімаў з гэтым коранем і ў Беларусі, і ў Польшчы шмат. Так, у цяперашнім Сьвіслацкім раёне, дзе ёсьць вёска Якушоўка з падмуркамі ад колішняй палатнянай фабрыкі Сымона Каліноўскага, Кастусёвага бацькі, да нядаўна быў хутар Каліноўшчына.

Але тапонімы з коранем Калін- могуць мець рознае паходжаньне. Ад назвы куста каліны Viburnum opulus — першае, што прыходзіць у галаву. Але тапанімісты ведаюць, што назвы паселішчаў у сваю чаргу часта паходзяць ад імёнаў, напрыклад, першапасяленцаў. Імя Каленік/Калінік вядомае ў Беларусі з XVI стагодзьдзя, гістарычна мела варыянты Каліна, Калінка (Каленка, адкуль Каленкавічы) ды іншыя.

# Паказьнік асобаў

**А**

**Е**



**Ж**

**Л**

**М**

**Р**

**Я**

## Summary

Radio Svaboda has for the past two decades been returning Kastus Kalinouski (1838–1864) to the epicenter of civic thought, historical research and political discourse. Kalinouski was one of the leaders of an anti-Russian uprising in 1863, the creator of the first Belarusian government, and the founding father of political Belarus as a national idea and a country. Kalinouski was hanged by Tsarist authorities in Vilnius on 22 March 1864, his remains and those of 25 others buried in an unmarked grave. In 2001, Radio Svaboda began a quest to locate the grave of the insurgents; it maintained focus on the fate of Kalinouski until the culminating date of November 2019, when the remains of the insurgents were reinterred in a state ceremony in Vilnius, Lithuania. Among those present at the solemn rites were the presidents of Lithuania and Poland, representatives of the government of Belarus, cardinals and bishops from three countries, and thousands of national flag-bearing pilgrims from Belarus. "Kalinouski on Svaboda" is a compilation of reports, interviews, news items and research papers which reflect the complicated path of Belarusian independence in the 21st century. Writer and RFE/RL journalist Siarhiej Dubaviec, who started the Kalinouski conversation on Radio Svaboda in 2001, compiled and edited the book.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.




**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.* **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.



*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.